# Пачаткі
# Вялікага княства Літоўскага:
## ад стварэння да Крэўскай уніі



# ПАЧАТКІ
# ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА:
# АД СТВАРЭННЯ ДА КРЭЎСКАЙ УНІІ

***зборнік артыкулаў з дадаткамі***

**укладальнік:**
Алёхна Дайліда
*бакалаўр гуманітарных навук*

**рэцэнзент:**
Сяргей Тарасаў
*кандыдат гістарычных навук*

**Алёхна Дайліда**
**ПАЧАТКІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА:**
**АД СТВАРЭННЯ ДА КРЭЎСКАЙ УНІІ**
аўтарскае выданне
Менск, 2019

Кніга ёсць зборнікам артыкулаў мовазнаўцы Алёхны Дайліды, у якіх аўтар праз разгледжанне канкрэтных гістарычных фактаў і падзей рэканструе палітычную і рэлігійную гісторыю Вялікага княства Літоўскага 13–14 стагоддзяў.
На грунце чысленых гістарычных матэрыялаў паказана, што літоўская шляхта з этнічнага паходжання была не балцкаю, а ўсходнегерманскаю. Гэты германскі элемент утварыў разам з славянамі Панямоння канфесійную супольнасць "літвінаў" евангеліцкага характару, якая існавала да Крэўскай уніі 1385 году. Гэтыя працэсы спрычынілі само стварэнне Вялікага княства Літоўскага на землях старажытнае Беларусі і далейшае існаванне народу літвінаў у якасці славянамоўнага хрысціянскага народу.
У другой частцы кнігі змешчаны некаторыя помнікі сярэднявечнае літоўскае (беларускае) евангеліцкае літаратуры.
У дадатках змешчаны дакументы і летапісныя ўрыўкі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага 13–15 стагоддзяў.

# Змест



## Частка I

Артыкулы



## Частка II

Помнікі сярэднявечнае літоўскае (беларускае)
евангеліцкае літаратуры

## Дадаткі

1. Грамата князя Гердзеня, 1264 г.
2. Грамата полацкага князя Ізяслава, 1265 г.
3. Аповед літоўскага летапісу аб князю Лаўрышу-Рымунце (1282–1294 гг.).
4. Грамата рызскае рады да віцебскага князя Міхайлы Канстантынавіча, каля 1286 г.
5. Дарчая грамата галіцкага князя Льва літоўскім баярам Мантсеку і Тутэнію, да 1301 г.
6. Грамата полацкага біскупа Якава, між 1298 і 1307 гг.
7. Аповеды літоўскіх летапісаў аб бітве на Зяміле 1319 г.
8. Аповед літоўскага летапісу аб авалоданні вялікім князем Гедымінам Кіевам (1322 г.).
9. Грамата князя Дзмітрыя-Любарта, 1322 г.
10. З ліставання вялікага князя Гедыміна з заходнімі краямі, 1323 г. (урыўкі ў перакладзе).
11. Наваградскі ўкладны запіс, пасля 1329 г.
12. Дамова полацкага князя Глеба-Нарымонта з Рыгаю, 1338 г.
13. Літоўскі летапіс аб падзелах удзелаў Вялікага княства Літоўскага ў 1340 г.
14. Літоўскія летапісы аб пачатку княжання вялікага князя Альгерда (1342 г.).
15. Дамова літоўскіх князёў з польскім каралём Казімірам, 1352 г.
16. Грамата князёў Кейстута і Любарта, 1355 г.
17. Грамата вялікага князя Альгерда, 1359 г.
18. Вырак Канстантынопальскага патрыярха Каліста аб межах Літоўскае мітраполіі, 1361 г. (урывак у перакладзе).
19. Дамова вялікага князя Альгерда з польскім каралём Казімірам, 1366 г.
20. Аповеды літоўскіх летапісаў аб паходзе вялікага князя Альгерда на Маскву ў 1370 г.
21. Ліст вялікага князя Альгерда да Канстантынопальскага патрыярха Філафея, 1371 г. (у перакладзе).
22. Дамова вялікага князя Альгерда з маскоўскім вялікім князем Дзмітрыем, 1372 г.
23. Дарчы ліст князя Аляксандра Карыятавіча, 1375 г.
24. Аповед літоўскага летапісу аб закалоце князёў Ягайлы і Кейстута ў 1382 г.
25. Грамата князя Вітаўта, 1383 г.
26. Грамата князя Вітаўта троцкаму манастыру Ражства Прачыстае, 1384 г.
27. Аповед літоўскага летапісу аб Крэўскай уніі 1385 г.
28. Прывілей караля Валадыслава-Ягайлы, 20 лютага 1387 г. (урывак у перакладзе).
29. Грамата караля Валадыслава-Ягайлы князю Скіргайлу, 1387 г.
30. Прысяжная грамата князя Дзмітрыя Альгердавіча, 1388 г.
31. Граматы караля Валадыслава-Ягайлы аб упасажанні касцёлаў у Літве, 1389 г. (рэканструкцыя).
32. Грамата князя Вітаўта князю Свідрыгайлу, 1390 г.
33. Грамата вялікага князя Вітаўта аб хросце літвы, каля 1392 г. (рэканструкцыя).
34. Ярлык ордскага цара Тактамыша каралю Валадыславу-Ягайлу, 1393 г.
35. Грамата мсціслаўскага князя Сямёна-Лінгвена Альгердавіча, 1393 г.
36. Літоўскія гарады ў “Имена всем градом руским”, каля 1394 г.
37. Грамата вялікага князя Вітаўта віленскаму ваяводзе Манівіду, 1396 г.
38. Грамата вялікага князя Вітаўта віленскаму біскупу, 1398 г.
39. Грамата вялікага князя Вітаўта рызскаму бурмістру, 1399 г.
40. Прысяжная грамата князя Івана Гальшанскага, 1401 г.

**З замежных крыніц**

# Прадмова

На працягу колькіх стагоддзяў наш народ жыў у створаным ім гаспадарстве – Вялікім княстве Літоўскім – і называўся літвінамі. Назоў “беларусы” быў прыдуманы і штучна накінуты літвінам расейскімі ўладамі пасля захопу Вялікага княства Літоўскага з мэтаю асіміляваць наш народ і пазбыць яго гістарычнае памяці. У той час як нашаму народу мець уласныя гістарыяграфічныя погляды і наогул уласную літаратуру ў 19 стагоддзі было забаронена, пруская і расейская гістарычныя школы, а ўтроп за імі і польская, стварылі новую, мадэрнавую гістарыяграфію Літвы, збудаваную на адмаўленні народу літвінаў ВКЛ, і пачалі актыўна ўводзіць у паспалітую свядомасць уяўленні аб тым, што тытульнай нацыяй ВКЛ быў “этнічна балцкі народ”. Цвярозыя галасы шэрагу гісторыкаў (Ярашэвіч, Барычэўскі, Любаўскі, Леантовіч, Пузына і інш.), якія праўдзіва насвятлялі розныя бакі жыцця сярэднявечнага літоўскага народу – германскае паходжанне яго шляхты, шырокае існаванне сярод яго хрысціянства яшчэ да Крэўскай уніі, яго суцэльную славянізацыю ў ВКЛ, – былі заглушаны афіцыёзнай прапагандай, якая безапеляцыйна грунтавалася на формулах аб “балцкай этнічнасці” і “паганстве” тытульнага народу ВКЛ да Крэўскай уніі. Гісторыя Вялікага княства Літоўскага (асабліва яе пачатковы перыяд) была паддадзена ўсцяжнай міфалагізацыі з мэтаю цалкам сказіць ролю Вялікага княства і яго тытульнага народу ў еўрапейскай гісторыі. Ад часу ўрынення літвінам штучнага назову “беларусы” наш народ быў адрэзаны ад сваёй гаспадарстваае і арыстакратычнае спадчыны і лёс нашага народу стаўся нібыта падзеленым на два няроўныя вымярэнні: “літва” – традыцыйнае, сакральнае, гістарычнае; “беларусы” – мадэрнавае, прафаннае, антыгістарычнае. Для разумення сапраўднага месца нашага народу ў гісторыі няма іншых шляхоў апрача вяртання да нашай сапраўднай нацыянальнай гісторыі, да гістарычнай Літвы.

У гэтым зборніку, які складаецца з сямі артыкулаў і многіх дадаткаў, у якіх агулам больш за тысячу спасылак на гістарычныя першакрыніцы, на вялізным гістарычным матэрыяле выяўлена палітычнае, рэлігійнае і грамадскае жыццё народу літвінаў у 13–14 стагоддзях. Паказана, што літоўская шляхта з этнічнага паходжання была ўсходнегерманскаю і да балтаў не мела ніякага дачынення; гэты германскі элемент утварыў разам з славянскім жыхарствам Панямоння канфесійную супольнасць “літвінаў” і паступова цалкам славянізаваўся. На матэрыяле гістарычных крыніц аб рэлігійным жыцці Вялікага княства Літоўскага насветлены зносіны супольнасцей “літвінаў” і “русінаў” у Вялікім княстве: паказана, што ў 13–14 ст. гэта былі азначэнні не розных этнасаў (як у мадэрнавай гістарыяграфіі) – а розных канфесійных супольнасцей. Калі да Крэўскай уніі існавала розніца між літвінамі і русінамі ў рэлігійным, канфесійным плане – то па Крэўскай уніі назоў “літвіны” зрабіўся нацыянальным назовам усяго жыхарства (як каталіцкага, так і праваслаўнага) уласна Вялікага княства Літоўскага, а назоў “русіны” працягваў быць перадусім праваслаўным канфесіёнімам. Па Крэўскай уніі літвіны маглі быць і католікамі, і праваслаўнымі (“літвіны рускае веры”), і евангелікамі, галоўнае што яны заставаліся тытульным народам свайго гаспадарства – Вялікага княства Літоўскага. Насвятленне рэлігійнае гісторыі ранняга ВКЛ паказуе, што Вялікае княства Літоўскае належала да таго шэрагу еўрапейскіх гаспадарстваў (Баўгарыя, Боснія, Чэхія, Нямеччына, Францыя), у якіх яшчэ ў часы сярэднявечча былі моцнымі евангеліцкія (протапратэстанцкія) рухі, – дзеля чаго ВКЛ у 15 стагоддзі моцна падтрымала чэскіх гусітаў, а ў 16 стагоддзі натуральна далучылася да еўрапейскай Рэфармацыі. Шырокі і разнастайны матэрыял нашага зборніка, спадзяемся, будзе здольны паказаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага 13–14 стагоддзяў у сапраўднай гістарычнай перспектыве і пакласці канец знітаваным з ранняю гісторыяй ВКЛ спекуляцыям і містыфікацыям, якія заўсёды заснаваны на ігнараванні элементарнага гістарычнага матэрыялу.

Адраджэнне нацыянальна-палітычнае гісторыі народу заўсёды знітавана з разуменнем таго, што пытанне гістарычнасці народу – гэта пытанне аб нацыянальным гаспадарстве і аб нацыянальнай арыстакратычнай культуры. Можна заўважыць, што наймя ў гэтым пытанні палягае асноўны пафас сучаснае гістарыяграфіі, – бо яна цвердзіць, што Вялікае княства Літоўскае не было нацыянальным гаспадарствам беларусаў і што ў беларусаў у Вялікім княстве быццам не было нацыянальнае арыстакратыі і наогул нацыянальнае свядомасці, у той час як паноўнай тытульнай нацыяй ВКЛ, згодна з гэтай гістарыяграфіяй, быў “этнічна балцкі народ” летувісаў (“паганскі” да Крэўскай уніі), які быццам стварыў Вялікае княства Літоўскае як сваё нацыянальнае гаспадарства. Таму на старонках нашага зборніка нададзена шмат увагі насвятленню дзейнасці паноўных колаў, арыстакратыі Вялікага княства Літоўскага 13 – пачатку 15 стагоддзяў. На вялізным гістарычным матэрыяле паказана, што чыста ўся гісторыя і спадчына тытульнае нацыі ВКЛ – літвінаў – належыць нашаму народу, а сённяшнія летувісы (гістарычныя жамойты) не маюць аніякага дачынення да тытульнай нацыі Вялікага княства Літоўскага і павінны абмежаваць сваю нацыянальную гісторыю сціплымі прасторамі Жамойцкага староства.

Апошнім часам афіцыйная гістарыяграфія ўсё больш аддаляецца ад сапраўднае гісторыі Літвы, як сярэднявечнае, так і больш позняе, ад поўнага і асэнсаванага яе насвятлення. Гістарычныя факты, падзеі, старонкі жыцця народу і краю – падмяняюць фантастычнымі інтэрпрэтацыямі, сімулякрамі, фікцыямі, сурагатам гісторыі. Па-ранейшаму дапускаюцца самыя адвольныя напінанні, самыя фантастычныя перакручванні фактаў дзеля адной мэты – каб абгрунтаваць існаванне ў ВКЛ “балцкага народу летувісаў”. Фактычна, уся найбагацейшая гісторыя сярэднявечнае Літвы, яе велізарная роля для лёсаў усёй Усходняй Еўропы 13–15 стагоддзяў у мадэрнавай гістарыяграфіі прынесена ў ахвяру міфу аб “балцкім паганскім народзе” і цалкам захілена ім. Гістарычныя нарысы, ідучы ўтроп за найгоршымі ўзорамі замежнае прапаганды 19 стагоддзя, па-ранейшаму працягваюць сцвярджаць, што да Крэўскай уніі літвіны былі “паганскім” народам, – хаця ўсе гістарычныя матэрыялы паказуюць, што літоўскі народ яшчэ да Крэўскай уніі вызнаваў хрысціянства дый сам назоў “літвіны” да Крэўскай уніі быў канфесіёнімам. Працягваюць сцвярджаць, што сутнасцю ідэнтычнасці літоўскага народу нібыта была “балцкая этнічнасць”, – хаця сярод літоўскае шляхты не было ніводнага балцкага імя і няма ніводнага сведчання ўжывання ёю якое-кольвечы балцкае мовы. Працягваюць адмаўляць злучэнне літоўскае шляхты з славянскім жыхарствам ВКЛ у адзіны славянамоўны народ і насупраць кажуць аб быццам “арганічнай еднасці” літвінаў з жамойтамі. Усе гэтыя тэорыі не заснаваны ні на якім гістарычным матэрыяле і ёсць проста пладамі замежнае прапагандысцкае міфатворчасці 19 стагоддзя, якія цалкам узяла на ўзбраенне савецкая гістарыяграфія з мэтаю разбурэння гісторыі Вялікага княства Літоўскага і нацыянальнае гісторыі беларусаў-літвінаў.

За разбуялым лесам сімулякраў, абстрактных канструкцый сёдня ўжо мала відаць уласна гісторыю Вялікага княства, жывыя старонкі яго гістарычнага жыцця. Таму змешчаныя ў дадзеным зборніку артыкулы, якія складзены пераважна з цытат з гістарычных крыніц і спасылак на іх, а таксама чысленыя дадаткі мусяць вывесці чытача на ровень добрага ведання гістарычных крыніц і матэрыялаў па айчыннай гісторыі 13 – пачатку 15 стагоддзяў, многія з якіх дагэтуль або малавядомы, або чыста ігнаруюцца. Адраджэнне сапраўднае гісторыі Вялікага княства Літоўскага дазволіць нам выйсці з-за кратаў савецкае антыгістарычнае міфалогіі і вярнуць нацыянальную гістарычную спадчыну нашага народу, якая лучыць нашу цяпершчыну з Сярэднявеччам, з традыцыйнаю хрысціянскаю цывілізацыяй.



*Бітва готаў з франкамі ў 6 ст. (мініятура 14 ст.)*

## Германскі суперстрат у старажытнай Літве

Галоўнай ідэяй сённяшняе літуаністыкі ёсць пастулат аб балцкай этнічнасці сярэднявечнага народу ліцвінаў. Гэты пастулат можна назваць галоўнаю аксіёмаю мадэрнавае гістарыяграфіі Літвы: незалежна ад якіх-кольвечы праяў славянізацыі літоўскае шляхты, славянскага характару гаспадарства і права Вялікага княства Літоўскага – пастулат “балцкае этнічнасці” ліцвінаў застаецца ў якасці адзінага падмурка ўсіх рэканструкцый гісторыі Літвы (што выклікае справядлівыя пытанні наконт адэкватнасці ўжывання “балцкае” канцэпцыі для тлумачэння стварэння і развіцця ВКЛ [1]). Праўда, у грамадскім і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага цяжка знайсці нейкія праявы “этнічнае балцкасці” літоўскае шляхты – таму ейныя неславянскія імёны ёсць абсалютным аргументам сённяшняе гістарыяграфіі. “Балцкія” імёны літоўскае шляхты (дарма што любыя праявы славянізацыі) ёсць дастатковым сведчаннем “захавання каранёў” аўтахтоннага балцкага жыхарства, якое стварыла літоўскае гаспадарства з цэнтрам на сваёй “этнічна балцкай” тэрыторыі, – а значыць сведчаннем існавання балцкае нацыянальнае свядомасці, якая і была адзіным вырочным матывам стварэння і існавання гэтага гаспадарства. Прыблізна так разважае сённяшняя гістарыяграфія. Але – у мэтах навуковае грунтоўнасці – разгледзім імёны сярэднявечных літоўскіх князёў і шляхты, каб высветліць, ці сапраўды яны ёсць *балцкімі*. Аналіз гэтага пытання пакажа, якую сапраўдную вартасць мае тэорыя аб “этнічнай балцкасці” як першасным чынніку стварэння Вялікага княства Літоўскага.

Яшчэ ў 19 стагоддзі было адзначана: “Гістарычныя імёны літоўскіх князёў і частка прозвішчаў карэннае шляхты на Літве ўтвараюць цалкам апрычоную лінгвістычную групу, прыкметы і паходжанне якой не тлумачацца ўласна з летувіскае мовы. Рэзка вылучаючыся з масы звычайных сялянскіх прозвішчаў і сваім словаўтварэннем, і сваімі фармантамі і часткамі, яны збольшага самі праз сябе незразумелы” [2]. Як вядома, імёны сярэднявечных літоўскіх князёў і шляхты не тлумачацца з летувіскае (жамойцкае) мовы і наогул з балцкіх моў, што прызналі самі летувісы (гэтак, паводле энцыклапедыі “Літва” 1989 году, сэнс двохфармантных іменаў сярэднявечнае літоўскае шляхты “цяжка патлумачыць” [3]). Спробы прыдумаць балцкую этымалогію гэтых імёнаў ёсць яўна нятрапнымі. Яшчэ ў 19 стагоддзі летувіскія даследнікі спрабавалі тлумачыць імя Ягайла ад летувіскіх слоў з сэнсам “калі” і “шкада” або ад слоў “добры вершнік”, імя Кейстут – ад слоў “пераменлівы” або “той, хто разагравае”, імя Гедымін – ад слоў “той, хто топча сорам” або “дасканалы спявак” [4]. Згодна з сённяшнімі летувіскімі даследнікамі, імя Гедымін нібыта мусіць тлумачыцца ад слоў “журыцца” і “думка”, імя Даўспронг – ад слоў “шмат” і “душыцца”; шырока вядомае германскае імя Любарт летувіскія даследнікі тлумачаць ад балцкіх слоў з сэнсам “спыняць” і “лаяць”, імя Гедыгоўд – ад слоў “журыцца” і “лавіць”, імя Скіргайла –

ад слоў “вылучаць” і “шкадаваць”. Да таго ж, летувіскія даследнікі перакручваюць імёны для такіх тлумачэнняў. Гэтак, паводле іх, імя Ягайла мусіць тлумачыцца ад слоў joti (“ехаць конна”) і galia (“моц”); у такім разе імя князя мусіла б гучаць як “Ёгаля” – але яго імя Ягайла. Імя Явойша летувісы перарабляюць у “Ёвайша” – каб тлумачыць яго з сваіх слоў з сэнсам “ехаць конна” і “гасцінны”. Ніяк не вытлумачальнае з балцкіх моў імя Гольша яны мяняюць на “Алшыс”. Апрача тузіну няўдалых спроб, тлумачэнняў іншых чысленых імёнаў старажытнае літоўскае шляхты летувісы прапанаваць проста не здольны.

Гэтыя імёны не тлумачацца з балцкіх моў, бо яны не ёсць балцкімі. Яшчэ гісторыкі 19 стагоддзя пісалі аб германскім паходжанні сярэднявечнае літоўскае шляхты. Ейныя імёны паводле пашыраных у іх фармантаў (-віт-, -скір-, -гайл-, -мунт-, -таўт- і інш.) ёсць яўна ўсходнегерманскімі, а не балцкімі – у чым можна пераканацца, пагартаўшы любы даведнік па старажытных германскіх імёнах. Хаця аб германскім паходжанні літоўскае шляхты пісаў шэраг гісторыкаў [5], афіцыёзная мадэрнавая гістарыяграфія ігнаравала гэтае пытанне і збудавала сваю хісткую тэорыю на тэзе аб “этнічнай балцкасці” паноўнага элемента сярэднявечнае Літвы. Нежаданне мадэрнавае гістарыяграфіі разглядаць пытанне германскага паходжання літоўскае шляхты цалкам зразумела: калі літоўская шляхта не была аўтахтонным элементам у Панямонні, то яна не мела патрэбы збліжацца з мясцовымі балтамі (якія стаялі ў культурным і ваенным планах нашмат ніжэй за яе), пераймаць мову і культуру балтаў ды будаваць нейкую “балцкую свядомасць” і этнічнасць – яна магла пераймаць мову і культуру славянаў ды нарэшце злучыцца з славянамі ў адзін народ (што, відавочна, і адбылося). Такім парадкам, з разгледжаннем сапраўднага этнічнага паходжання літоўскае шляхты (якое было, як убачым ніжэй, усходнегерманскім) развальваецца “балцкая” тэорыя мадэрнавае гістарыяграфіі – а разам з ёю ўсе ўласцівыя для мадэрнавай гістарыяграфіі спробы ігнараваць сапраўдны нацыянальна-палітычны характар Вялікага княства Літоўскага.

Усходнегерманскія народы – готы, бургунды, гепіды, герулы і інш. – займалі ў першых стагоддзях нашае эры значныя тэрыторыі паўночна-ўсходняе Еўропы ля Балтыйскага мора (у часы сярэднявечча вядомага як Гоцкае мора – mare Gothicum) і былі вядомы сваімі паходамі амаль па ўсёй Еўропе. Найбольш вядомым з іх быў народ готаў, які ў 4–5 стагоддзях сваімі паходамі апанаваў вялікія абшары сярэдняе і паўднёвае Еўропы. Захопы Рыму готамі і вандаламі ў 410 і 455 гг. традыцыйна разглядаюцца ў гістарычнай навуцы як вяха, што аддзяляе антычны час ад сярэднявечча. Пасля 7 стагоддзя звесткі аб усходнегерманскіх народах амаль знікаюць; вядома, што частка іх вярнулася да сваіх былых тэрыторый ля Гоцкага мора. Вядома, што шляхта герулаў і вандалаў у 7–8 стагоддзях часткова інтэгравалася ў шляхту палабскіх і паморскіх славянаў і захоўвала сярод іх свае германскія імёны [6]. Да аднаго з такіх народаў мусіла належаць група, якая недзе ў 10 стагоддзі ўвайшла з мора ў Неман і пасялілася ля Немана і яго прыток, як аб гэтым паведамляюць летапісы Вялікага княства Літоўскага. Імёны літоўскае шляхты, яе летапісныя апавяданні аб сваім паходжанні, рэлікты мовы – усё паказуе на тое, што этнічнае паходжанне літоўскае шляхты было ўсходнегерманскім.

Разгледжанне імёнаў жыхарства сярэднявечнае ўласна Літвы (вобласці Нёманска-Вілейскага міжрэчча) паказуе, што тут існавалі тры выразлівыя этнічныя элементы: балцкі субстрат (балцкія імёны простага люду), славянскі суперстрат (славянскія імёны шляхты і простага люду) і германскі суперстрат (усходнегерманскія імёны збольшага шляхты, у меншай ступені простага люду). Звяртаюць на сябе ўвагу германскія імёны вядомых з летапісаў князёў Літвы 11–13 ст.: Нетымер, Монтвіл, Германт, Вікінт, Гердывіл, Скірмунт, Звінбуд, Маўкольд, Даўгерд. Гэта празрыста германскія двохфармантныя шляхецкія імёны. Сярод шляхты германцаў былі пашыраны двохфармантныя імёны, якія складаліся з фармантаў, што азначалі тыпова “барбарскія” якасці: бойка, перамога, слава, меч, войска, сонца і г.д. Гэтыя фарманты, спалучаючыся ў размаітых камбінацыях, утваралі чысленыя імёны, якія “былі паказнікам на пэўны грамадскі стан і служылі для азначэння прадстаўнікоў найвышшае ступені грамадскае іерархіі” [7]. Падобныя імёны былі пашыраны таксама сярод шляхты славянаў (Усяслаў, Ярамір і г.д.). Між тым, для балтаў такія імёны неўласцівы.

Першая згадка князя ў сувязі з Літвою ў пісьмовых крыніцах (пад 1009 г.) дае яўна ўсходнегерманскае імя Нетымер (Nethimer) [8]. Усе пазнейшыя імёны літоўскае шляхты (як

паказана ніжэй) таксама ёсць яўна ўсходнегерманскімі. Гэтыя імёны не маглі мець балцкае паходжанне, бо яны не маюць ніякіх тлумачэнняў у балцкіх мовах. Усе імёны – а пагатоў двохфармантныя шляхецкія – маюць нейкі сэнс. Напрыклад, кожнаму славяніну зразумелы сэнс імёнаў Святаслаў, Ярамір, Звеніслава, Балемысл або сэнс простанародных імёнаў Неруш, Воўчка, Пуцята, Круглец. Сэнс маюць і балцкія імёны, нават аднафармантныя; напрыклад, жамойцкія: Трумпа (“кароткі”), Жвірбліс (“верабей”), Мажуйтыс (“малы”). Але сярод жамойтаў і іншых балтаў мы не знаходзім аніякіх балцкіх імёнаў, падобных да імёнаў літоўскае шляхты, якія ёсць яўна германскімі. Толькі ва ўсходнегерманскіх мовах знаходзяць паралелі і толькі з іх тлумачацца імёны з адметнымі фармантамі -скір-, -войш-, -гайл-, -мунт-, такія рэдкія імёны, як Гвазэлют, Свальгед, Сунгайла, Айгуста. Увогуле незразумела, на якіх падставах летувіскія даследнікі ўпарта цвердзяць, што імёны накшталт Альгерд, Вітаўт, Ягайла, Даўмонт, Радзівіл, Гастольд або Вайдыла ёсць “этнічна балцкімі”, – насамрэч яны не маюць ані аналагаў сярод балцкіх імёнаў, ані тлумачэнняў з балцкіх моў і ў той жа час маюць наўпростыя адпаведнікі або аналагі з такімі ж фармантамі сярод усходнегерманскіх імёнаў.

Разгледзім сапраўды балцкія імёны. Вось імёны жамойтаў 14–15 стагоддзяў: Дамутыс, Навеніс, Дыкрыс, Мажуйтыс, Рамутыс, Пікелюс, Спутчус, Келпшыс, Міжык, Трумпа, Чулюна, Віскуліс, Пяполіс, Жыманіс, Дайкутыс, Дажуна, Піскульт, Геўдус, Стырбіс, Копчыс, Гігас, Шэкстыс, Лоўдзюс. Вось імёны латышоў 13–14 стагоддзяў: Вардэкэ, Варыбуле, Рамека, Мелюке, Вестард, Пайке, Утыле, Вездат, Варыдотэ, Муйжэль, Думпі, Кайрэ, Крэша. Вось прускія імёны 13–14 ст.: Мато, Піпін, Дорг, Пёпса, Паманда, Налуба, Гедун, Кандэйм, Тырско, Маўдэль, Склода, Гланда, Глап, Аўктум, Дыван, Тропа, Клекінэ, Лінка, Накейм, Сантырм, Самбанга, Някаркіс. Як бачым, ёсць некаторае падабенства форм і фанетычных асаблівасцей у імёнах латышоў, жамойтаў, прусаў (што зразумела, бо ўсе яны балцкія). Але нідзе сярод імёнаў балтаў мы не бачым фармантаў, якія ёсць у імёнах Бутаўт, Альгімунт, Монтрым, Скіргайла, Войшвід, Эйвільд. Ужо з форм і з гучання імёнаў літоўскае шляхты відаць, што яны істотна розняцца ад балцкіх імёнаў. Калі ў Жамойці бачым падобнае імя – то гэта заўсёды літоўскі баярын або ўраднік, прысланы з Вільні. Таксама значная лічба германскіх імёнаў існуе яшчэ ў 15 ст. у жамойцкіх местах ля Немана – месцах даўняе каланізацыі германскім элементам. Падобным чынам, сярод шляхты прускіх зямель каля Немана (Надровы, Яцвезі) бачым у 13–14 ст. некаторыя яўна германскія імёны (Скомунд, Гедыгаўд, Вісгаўд, Кантыгерд), што таксама тлумачыцца даўняй каланізацыяй Немана германцамі.

Падрабязна аб прыбыцці продкаў літоўскае шляхты ў Панямонне распавядае легенда пра Палямона, якая ўвайшла ў прыдворныя летапісы Вялікага княства Літоўскага. Хаця ейнае апавяданне не заўсёды ёсць ясным, яго галоўныя абрысы ёсць досыць выяўнымі. Вывад продкаў літоўскіх князёў з “рымскае шляхты” ёсць, відаць, згадкаю пра часы, калі готы і іншыя злучаныя з імі ўсходнегерманскія народы валодалі Рымам – як пра часы найвышшага ўздыму і гонару гэтых народаў. Летапісная “река Шума” (данскія пратокі), “королевство Дунское”, праз якія плылі вандроўнікі, відаць, ёсць паказнікам на сапраўднае месца, адкуль яны прыбылі, – нямецка-данскае морскае ўзбярэжжа, дзе ў 9–10 стагоддзях усходнегерманскія народы зазналі моцную экспансію каталіцкіх гаспадарстваў франкаў і саксаў.



*Палямон – продак Гедымінавічаў (урывак гравюры 17 ст.)*

Летапісы падрабязна выпісуюць асваенне прыбышамі Немана і яго прытокаў. Прыбышоў было даволі многа (“пятсот шляхты з жонами и з детми и з многыми людми”); будучую шляхту Літвы склалі не адно нашчадкі Палямона, але і

нашчадкі іншых шляхецкіх родаў, сярод якіх “чотыры были рожаи найвышшые, именем Китоврасы, Колюмны, Рожы, Урсы” (ад Кітаўрасаў летапісец выводзіў вялікага князя Тройдзеня, князёў Гедройцяў і Гальшанскіх, ад Калюмнаў – Гастоўтаў, ад Рожаў – Манівідаў, ад Урсаў – Давойнаў) [9]. Сынамі Палямона, паводле легенды, былі Борг, Кунас і Спэра, сынамі Кунаса – Кернус і Гінбут (усе імёны яўна германскія: Borca/Burgo, Cuno, Sperus, Kerne, Genobaud [10]). Усе іхнія нашчадкі таксама мелі германскія імёны: Монтвіл, Скірмунт, Мінгайла, Гінвіл, Ямант, Пісімонт, Альгімонт, Рынгольт. Першы горад, заснаваны прыбышамі, мае яўна германскі назоў – Юрбарк (ад гоцк. baurgs “горад” – горад на рацэ Юры). Далей прыбышы заснавалі Коўню, Кернаў, Вількамір і іншыя гарады ў Неманска-Вілейскім міжрэччы, а ў час, калі “повстав царь Батый и пошол на Рускую землю”, апанавалі Наваградак, Бярэсце, Полацк і Мазыр [11] – то бо стварылі Вялікае княства Літоўскае. Летапісныя апавяданні яўна паказуюць, што ўсе продкі літоўскіх князёў і шляхты захоўвалі германскія імёны, – такім парадкам, летапісы ВКЛ ясна кажуць аб неаўтахтонным, германскім паходжанні літоўскае шляхты. Калі летапісец прытрымваўся больш-менш рэалістычнага ліку пакаленняў (ад Кунаса да Рынгольта мінула дзевяць пакаленняў), то гэта мусіла б азначаць, што прыбышы аселі ў Панямонні недзе ў другой палове 10 стагоддзя (хроніка Ратунда сваім парадкам датуе пачатак літоўскае княскае дынастыі 980 годам). У гэты час усходнегерманскія народы нямецка-данскага ўзбярэжжа зазналі моцны ціск суседніх каталіцкіх гаспадарстваў, дзеля чаго сапраўды магло адбыцца перасяленне часткі іх у Панямонне. Раўданскі рукапіс (рукапісны твор пад назовам “Codex selectus”, укладзены ў 1488 г. Антоніем Корсакам для княжыча Аляксандра Казіміравіча) таксама падае германскія імёны продкаў Ягайлавічаў (Імін, Глапімін, Сутынк, Дармунімунд, Лютавор), апавядае пра іх бітвы “на моры” з шведамі ў 11 ст. і пра “морскага ваяра” князя Лютавора, а таксама тлумачыць імёны князёў Монтвіда, Нарымунта, Альгерда і Кейстута з германскае мовы (гл. ніжэй) [12].




*Вотчыны буйнейшых літоўскіх баяраў (адзначаны ♦) у канцы 14 ст.*
*(паводле Р. Пятроўскага)*

Выяўна, што летапісы апавядаюць толькі аб асваенні прыбышамі зямель каля Немана і яго буйнейшае прытокі Віліі: іншыя землі прыбышоў яўна не цікавілі. Гэта выяўнае сведчанне таго, што экспансія адбывалася па рэках, – як і ў іншых выпадках асваення германцамі новых зямель з мора. Па Немане, а таксама ў Неманска-Вілейскім міжрэччы літвіны засноўвалі гарады, прытым усе заснаваныя, паводле летапісаў, літвінамі гарады

маюць або германскія (Юрбарк, Трокі, Кернаў, Гальшаны), або славянскія (Вільня, Вількамір, Рай-горад, Пабойск) назовы. Раён Нёманска-Вілейскага міжрэчча, асабліва мястэчкі на Немане, Віліі ды іхніх прытоках – гэта якраз месцы, дзе знаходзіліся старажытныя вотчыны літоўскае шляхты і дзе яшчэ ў 15 ст. мы знаходзім многа германскіх імёнаў не толькі сярод шляхты, але і сярод дробнага баярства і простых людзей.

Разгледзім мапу размешчання айчызных сядзіб буйнейшых літоўскіх шляхецкіх родаў (Гастоўтаў, Радзівілаў, Манівідаў, Кясгайлаў, Бутрымаў, Сунгайлаў, Давойнаў і інш.) у канцы 14 стагоддзя, складзеную Р. Пятроўскім [13]. Гэтая мапа шмат кажа аб працэсах, якія адбываліся ў Панямонні ў 11–13 стагоддзях. Як бачым, амаль усе вотчыны буйнейшых літоўскіх баяраў размешчаны на кампактнай тэрыторыі ў міжрэччы сярэдняга Немана і Віліі. Колькі сядзіб яшчэ размешчаны па буйнейшай прытоцы Віліі – Свенце, а таксама па іншых прытоках Віліі і Немана. Адметнаю рысаю гэтага арэалу ёсць тое, што ён перацінае славяна-балцкую этнічную мяжу: вышняе Панямонне ў 10–11 ст. было апанавана славянамі, якія заснавалі Наваградак, Горадню, Турыйск і іншыя гарады і гарадзішчы (імаверна, і Вільню – аб чым сведчыць яе славянскі назоў), у 12 ст. складалі ладную частку жыхарства Вільні, Кернава, развівалі тут рамёствы і гандаль [14]. Такім парадкам, размешчанне на гэтай тэрыторыі ўсіх вотчын буйнейшае літоўскае шляхты выглядае досыць дзіўна ў святле тэорыі аб яе “балцкім этнічным” характару, які нібыта быў галоўным чыннікам яе палітычнае дзейнасці. Тым, хто разважае пра “балцкую этнічнасць” літоўскае шляхты, варта было б разважыць: чаму айчызныя сядзібы літоўскае эліты не месціліся ў глыбіні балцкага арэалу – дзесьці на поўнач ад Свенты або ў глыбіні Жамойці? чаму гэтыя айчызныя сядзібы месцяцца на мяжы з славянскім арэалам і нават унутры яго? Адказ у тым, што самі гэтыя шляхцічы мелі нябалцкія, германскія імёны і да аўтахтоннага балцкага жыхарства Панямоння не мелі ніякага дачынення. Увесь парадак асваення прыбышамі-германцамі Панямоння (як ён выступае ў летапісных крыніцах ды праз разгледжанне размешчання баярскіх вотчын) паказуе, што прыбышоў цікавіла толькі тэрыторыя ля Немана і яго буйнейшых прыток, а этнічнасць мясцовага жыхарства (балцкага або славянскага) не мела ў гэтым працэсе ніякага значэння.



*Віленскія замкі на малюнку 16 ст.*

Галоўнаю мэтаю прышлага германскага элемента як у пачатку каланізацыі, так і ў 14 стагоддзі было асваенне і кантроль Немана і Віліі, таму ён абраў тэрыторыю між вышнявінамі гэтых рэк у якасці сваёй сядзібы. Таму робіцца зразумелым выбар Наваградка і Вільні як сталіц Вялікага княства Літоўскага. Размешчаныя на пакручастых пагорках блізка, адпаведна, да Немана і Віліі, гэтыя месты найлепш гадзіліся для размешчання галоўнае сядзібы князя, які меў мэтаю кантраляваць Неман або Вілію. Калі падчас

стварэння ВКЛ першасную ролю граў Наваградак, то ў пачатку 14 ст. на першае месца выходзіць кантроль Віліі і вялікі князь Гедымін пераносіць сталіцу ў Вільню, якая, размешчаная на крутых пагорках непасрэдна ля Віліі, найлепш гадзілася для кантролю Вілейскага воднага шляху. Вось як аб ваенных выгодах Вільні ў захапленні пісаў Конрад Кібург, крыжацкі дыпламат, які наведаў Вільню ў 1397 г. [15]:

"З ваеннага гледзішча размешчанне гораду ёсць выдатным: у ім можна абараняцца, не маючы досыць умацаванняў, бо пагоркі, цясніны і глыбокія яры даюць выдатныя нагоды для нападу на непрыяцеля падчас аблогі. <...> З гэтага відаць, што не сон аб жалезным воўку і не гаданне чарнакніжніка надала Гедыміну думку аб збудаванні тут сталіцы гаспадарства, але веданне ваеннае справы і назіранне за мясцовасцю. Ён быў выбітным ваяводам свайго часу і варты таго, каб мы яго пераймалі, хаця ён і не быў хрысціянінам. Якое моцнае размешчанне замкаў!"

Гэтаксама Наваградак, размешчаны на пакручастых пагорках недалёка ад Немана, найлепш гадзіўся для кантроля сярэдняга Немана. Безумоўна, з узмацненнем гандлю па Немане знітаваны росквіт у 11–13 ст. панямонскіх гарадоў (Наваградка, Ваўкавыска, Горадні), знаходкі з якіх уражваюць нават спецыялістаў-археолагаў: у 11–13 ст. тут гандлявалі ўнікальнымі рэчамі, якія прывозілі сюды з далёкіх краёў ад Сірыі да нямецкіх рэйнскіх гарадоў [16]. Знаходкі многіх германскіх рэчаў (асабліва зброі) у Ваўкавыску і іншых гарадох кажуць аб значнай прысутнасці ў панямонскіх гарадох германскага этнічнага элемента [17]. Цікава, што з узмацненнем камунікацыі па Неманскім гандлёвым шляху ў 10–11 ст. даследнікі знітоўваюць вальную славянізацыю Панямоння [18].

Такім парадкам, у Нёманска-Вілейскім рэгіёне, які стаўся тэрыторыяй рассялення прышлага ўсходнегерманскага элемента, на працягу 11–13 стагоддзяў існавалі тры этнічныя элементы: балцкі, германскі і славянскі. Субстратны балцкі элемент Панямоння адыгрываў вылучна пасіўную ролю, не маючы ніякае палітычнае вагі ў рэгіёне, – гэтаксама як і на вялізных (некалі балцкіх) тэрыторыях між Прыпяццю і Дняпром, дзе балты былі выціснуты і цалкам апанаваны славянамі ў 7–8 стагоддзях. Сярэднявечныя балты стаялі на непараўнальна ніжэйшай ступені грамадскага развіцця, ніж германцы і славяне. Як паказалі даследванні, у жамойтаў да 14 ст. былі вельмі слаба развіты рамёствы, асабліва складаныя, жамойты не ведалі каменнага будавання, вырабу цэглы, шкла, не мелі гарадоў [19]; дасягненні жамойтаў у ваеннай справе, адпаведна, таксама былі вельмі слабымі.

Рысы вайсковага ладу літвінаў і яго вялікае адрозненне ад вайсковага ладу балтаў таксама яскрава сведчаць, што літвіны былі германцамі, а не балтамі. Усе крыніцы адзначаюць надзвычайную ваяўнічасць літвы. Між тым, каб мець такую ваяўнічасць і надзвычайныя поспехі ў бітвах літва мусіла мець прынамсі два галоўныя чыннікі: даўнюю традыцыю вайсковае навукі і выдатную зброю. Абодва гэтыя чыннікі мелі германцы і не мелі балты. Адзначаны летапісам у 13 ст. звычайны шыхт літвінаў: "седоша во три ряды за щиты по своему норову" [20] – ёсць вядомым сярод германцаў шыхтам з стуленымі шчытамі. Між тым, балты (у прыватнасці, жамойты), наколькі можна меркаваць, вайсковага шыхту наогул не ўжывалі, дый ён ім не патрабаваўся дзеля іхняга ладу жыцця. У сярэдзіне 12 стагоддзя маркграф Альбрэхт Брандэнбургскі (1100–1170) пісаў аб Жамойці, што ў ёй жывуць язычнікі, апранутыя ў звярыныя скуры і ўзброеныя каменнымі сякерамі, якія не маюць гарадоў і жывуць у земляных норах у лясных гушчарох, а калі на іх нападаюць, яны ўцякаюць у лясы і норы. Жамойты не зыскалі жаднае перамогі над крыжакамі без учасці літвы і заўсёды былі ахвярамі паходаў то крыжакоў, то літвінаў. Такія звесткі кажуць аб надзвычай прымітыўнай вайсковай арганізацыі жамойтаў; чыста немагчыма ўявіць, каб з такім ваенным ладам можна было б весці ў бой войска ў 30 тысяч вояроў (як чынілі літвіны ў 1244, 1259, 1263 гг.) ды перамагаць выдатна ўзброеныя войскі тэўтонскіх крыжакоў. У той жа час літвіны, "якія мелі гору над іншымі народамі сваёю спрытнасцю і бітнасцю" [21], ведалі спосабы шыхтавання, выдатна валодалі тактычнымі штукамі, ведалі такія штукі, як падманнае адступанне і заваблíванне (ужывалі яшчэ ў 1132 г.), выраблялі выдатную зброю, якую цанілі і русіны, і крыжакі, будавалі балісты, абложныя снасткі і вежы [22]. Такія звесткі яўна паказуюць, што ў плане вайсковага ладу літвіны не мелі нічога супольнага з балтамі.

Несумнеўна, з з'яўленнем германскага элемента звязаны рэзкі штуршок у рамёствах, будаванні, грамадскім ладзе ніжняга і сярэдняга Панямоння, які выразна адзначаецца

паводле дадзеных археалогіі ў 10–11 ст.: з'яўляюцца цалкам новыя тыпы гаспадарчых снастак і зброі, складаныя ювелірныя аздобы, рэчы яўна германскага паходжання, багатыя пахаванні коннікаў, цалкам новыя тыпы ўмацаваных гарадзішчаў і замкаў [23]. Чыста немагчыма памысліць, каб гэтыя масавыя вырабы цалкам новага тыпу маглі належаць суседнім балтам-жамойтам, якія ў той час, паводле дадзеных археалогіі, не ведалі нават ганчарнага кола і вырабу цэглы. Усе дадзеныя археалогіі ў супольнасці яўна кажуць аб пераходзе ніжняга і сярэдняга Панямоння ў 10–11 ст. ад родавага да феадальнага ладу. Імёны літоўскае шляхты 11–14 ст. выразна паказуюць, хто ўспраўляў гэты феадальны лад, – стваральнікам спачатнага феадальнага ладу Літвы быў, несумнеўна, германскі элемент Літвы, а не балцкі (аб чым кажуць і численыя ўрадавыя тэрміны ВКЛ усходнегерманскага паходжання – гл. ніжэй): чыста немагчыма даўнімаць, каб гэты феадальны лад маглі стварыць мясцовыя балты-жамойты, якія не мелі ўласнага феадальнага ладу і ў 13–14 стагоддзях.

У святле ўсіх гістарычных фактаў наогул выглядае фантастычнаю "балцкая" канцэпцыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, згодна з якой слаба развітыя балты, якія не мелі гарадского будавання і ўласнага феадальнага ладу, нібыта ў 13 стагоддзі выспелі (шляхам нутранае "эвалюцыі") для стварэння ўласнага нацыянальнага гаспадарства і стварылі такое гаспадарства пераважна на землях беларускіх княстваў, заразом надаўшы яму свой нацыянальны назоў (утвораны ад імя "балцкага паганскага этнасу"), пры тым што ва ўрадавым ладзе гэтага гаспадарства не было ніводнага балцкага з паходжання інстытуту і ў яго гаспадарствавым жыцці за пяць стагоддзяў яго існавання не прагучала ніводнага балцкага слова. Сярэднявечныя балты – "выключна кансерватыўнае, маларухомае грамадства" [24] – заўсёды былі пасіўнымі землеробамі, яны ніколі не праяўлялі ваеннае або палітычнае актыўнасці і не стваралі ніякіх гаспадарствавых утварэнняў. Іншая рэч – высакаразвітыя славяне і германцы. Сустрэўшыся ў Панямонні, германцы і славяне мусілі ўзаемадзейнічаць і – як паказуе гістарычны матэрыял – ўзаемадзейнічалі ў стварэнні новага гаспадарства. Таму не дзіўна, што ва ўрадавым ладзе Вялікага княства Літоўскага было нямала ўсходнегерманскіх тэрмінаў і інстытутаў (гл. ніжэй), а шляхту ВКЛ склалі носьбіты германскіх імёнаў, якія, аднак, прынялі старабеларускую мову ў якасці пабытовае.

Успраўленне станаў "князёў" і "баяраў" сярод літвінаў (вядомых яшчэ ў 13 ст.) было вынікам прыстасавання інстытутаў германскага элемента Літвы да інстытутаў суседніх рускіх княстваў – як і германска-варазскі элемент на Русі, германскі элемент Літвы цалкам прыстасаваўся да традыцыйных славянскіх палітычных інстытутаў яшчэ да стварэння Вялікага княства Літоўскага. Трэба заўважыць, што ў сярэднявечнай Еўропе княскі тытул быў ініцыяцыйным тытулам для свецкіх пасвячэнняў – да князёў як носьбітаў пасвячальных функцый прыкладалася азначэнне "асвячоны". Аб тым, што такі статус княскі тытул меў у Літве яшчэ да Крэўскай уніі, беспярэчна сведчыць прывілей вялікага князя Казіміра 1440 г., у якім ён згадваў вялікага князя Альгерда: "...от нашых што ж а были *первоосветченые* князи, деда нашого Олькгирда..." [25]. Такім парадкам, прызнанне княскіх тытулаў літоўскіх князёў і дачыненні рускіх князёў з імі як з роўнымі яшчэ ў 12–13 ст. (дамова 1219 г., слюбы літоўскіх князёў з полацка-менскімі княжнамі і інш.) кажуць аб тым, што літоўскія князі яшчэ да стварэння ВКЛ ужывалі княскія тытулы ў тым жа традыцыйным сэнсе, што і рускія князі, і гэтыя тытулы ў Літве не былі вынікам нейкае фантастычнае "эвалюцыі балцкага грамадства", а былі вынікам прыстасавання германскім элементам сваіх палітычных інстытутаў да інстытутаў старабеларускіх княстваў. Адбываўся і ўплыў звычаёвага права германскага элемента на ўрадавы лад Вялікага княства Літоўскага (гл. ніжэй).

Літоўскі летапісец далучыў да літоўскай княскай дынастыі полацкага князя Васіля-Рагвалода, бо, відавочна, заўважыў, што імя Рагвалод ёсць яўна германскім. Пасля Крэўскай уніі літоўскія князі ахвотна абіралі хроснае імя Жыгімонт, бо гэта старажытнае пашыранае германскае (гоцкае) імя Sigimunt, якое трапіла ў хрысціянскі іменаслоў. Пасля Крэўскай уніі літвіны почасту бралі германскія хросныя імёны (якія ўвайшлі ў каталіцкі іменаслоў): гэтак, Манівід узяў імя Альберт (як і пазней Гастольды і Кучукі), адзін з князёў Свірскіх – імя Эрык, ахвотна літвіны-католікі бралі хроснае імя Конрад. Гэта таксама сведчыць аб тым, што ў канцы 14 ст. літоўская шляхта добра памятала аб сваім германскім этнічным паходжанні.

Даўно было заўважана, што розныя германскія народы, апаноўваючы новыя краі, звычайна досыць хутка гублялі сваю мову і пераходзілі на мову падпарадкаванага народу, але заложна захоўвалі свае германскія імёны. Гэтыя імёны рабіліся прыкметаю арыстакратызму іх носьбітаў, бо заваёўнікі-германцы стаялі ля вытокаў шляхецкіх родаў падпарадкаваных краёў. Чыста тое самае адбывалася і ў Вялікім княстве Літоўскім. Князі-Гедымінавічы, прадстаўнікі іншых княскіх і баярскіх літоўскіх родаў ужо ў 14 стагоддзі, безумоўна, былі славянамі з гледзішча мовы і культуры (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"), але працягвалі гарліва захоўваць свае старажытныя германскія імёны ў якасці прыкметы прыналежнасці да паноўных колаў ВКЛ. У той жа час адбывалася славянізацыя гэтых германскіх імёнаў. Ужо ў летапісным паведамленні пад 1219 г. бачым літоўскіх князёў Рушковічаў і Булевічаў (іхнія імёны ёсць яўна ўсходнегерманскімі: Кінтыбут, Ванібут, Бутавіт, Вішымут, Гедывіл) [26]. Пазней славянскія прозвішчы на -віч у спалучэнні з собскімі германскімі імёнамі робяца звыклымі для літвінаў: на працягу 13–14 ст. бачым Сірвіда Рушковіча, Юрыя Вітаўтавіча, Нацка Чыжэвіча, Даўгвідавічаў, Даўнаровічаў, Радзівілавічаў, Данілу Вісавідавіча, Бутвіда Ракутовіча, Бутрыма Савічэвіча, Лелюша Герстаўтавіча, Дзерманта Савігінавіча, Братошу Гайлютовіча і інш. [27]. Літоўскія князі звычайна называліся імем і імем па бацьку паводле рускага звычаю, напрыклад, Юрый Нарымонтавіч і Юрый Карыятавіч у грамаце 1352 г. (гл. дад. №15).

Высвятленне германскага этнічнага паходжання літоўскае шляхты дазваляе адказаць на пытанне аб межах летапіснае ўласна "Літвы", "зямлі Літоўскае" – асяродку Вялікага княства, які абыймаў Вільню, Коўню, Наваградак і Горадню. Сучасная гістарыяграфія не здольна патлумачыць, чаму гэтая тэрыторыя (якая называлася ўласна "Літвою" ў вузкім сэнсе) абыймала землі як з балцкім з паходжання, так і з славянскім з паходжання жыхарствам, але ў той жа час адрознівалася як ад балцкай Жамойці, так і ад "рускіх" зямель ВКЛ (Полацкага, Друцкага, Пінскага ўдзельных княстваў). Як паказуе разгледжанне вотчын буйнейшае літоўскае шляхты (гл. вышэй), гэта была тэрыторыя адносна кампактнага рассялення ў Панямонні прышлага германскага элемента, што і спрычыніла яе асаблівы статус і адрозненне як ад Жамойці, так і ад "рускіх" удзельных княстваў ВКЛ. Гэта пацвярджаецца тым фактам, што адметны парадак землеўладання ("службы литовские") захоўваўся на гэтай тэрыторыі да 16 стагоддзя (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя").

Між тым, з стварэннем ВКЛ палітычны назоў "Літвы", "Літоўскага княства" пашырыўся на ўсю тэрыторыю ўласна Вялікага княства Літоўскага (без Жамойці). Як відаць з гістарычнага матэрыялу, германскі элемент актыўна ўзаемадзейнічаў і злучаўся з славянскім элементам (як з роўным), а не з балтамі. Гэтым тлумачыцца тое, што літоўскія князі імкнуліся заняць княскія стальцы ў Наваградку, Полацку, Дарагічыне і не клапаціліся аб улучэнні Жамойці ў склад Літвы. Уладная эліта ВКЛ злучыла пад імем уласна Літоўскага княства славянскія землі Віцебска, Мазыра, Пінска – у той час як Жамойць была толькі стараствам і не належала да ўласна Літоўскага княства, а жамойты былі далучаны да ліку "родичей и врожонцев" ВКЛ адно ў 1566 г.

Такім парадкам, разгледжанне сапраўднага (усходнегерманскага) этнічнага паходжання літоўскае шляхты дазваляе зразумець падставы стварэння і спачатнага развіцця Вялікага княства Літоўскага: не маючы дачынення да дзейнасці мясцовага балцкага субстрату, гэтае гаспадарства было створана германскім і славянскім этнічнымі элементамі, дзеля чаго яго тэрыторыя ахапіла зону германска-славянскага ўзаемадзеяння (Нёманска-Вілейскае міжрэчча і суседнія княствы Полацка, Друцка, Менска, Мазыра, Пінска), паноўная дынастыя і буйнейшая шляхта мелі германскія імёны, а ўсе атрыбуты гаспадарства (права, мова, герб і інш.) былі славянскімі. Можна з пэўнасцю цвердзіць, што сярод імёнаў князёў і баяраў, што займалі вышэйшыя гаспадарствавыя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім у 13–15 ст., няма ніводнага балцкага імя.

Аб германскім паходжанні літоўскае шляхты пісалі яшчэ старажытныя гісторыкі. Прускі біскуп Хрысціян (1231–1245) пісаў, што княская ўлада ў Прусах пачалася з перасялення туды жыхароў выспы Готлянд, два водцы якіх – Брутэн і Відавут (германскія імёны) – сталіся першымі князямі ў тых землях. Адзін з сыноў Відавута зваўся Літво, ад яго хроніка Хрысціяна выводзіла назоў Літвы [28]. Таксама хроніка Хрысціяна адзначыла, што Літва раней называлася "Венедыяй" (Wenedia olim, nunc Lithphania) [29]: у тагачасных лацінскіх крыніцах "Венедыяй" традыцыйна называлася ўяўная прарадзіма славянаў, размешчаная ля

Прыпяці, Немана і Дняпра – то бо ў дакладнасці на тых землях, на якіх было створана Вялікае княства Літоўскае. Польская хроніка каля 1025 г. атаесамляла літвінаў з “гетамі” (Gethas id est Letwanos) [30]. Аб тым, што старажытную шляхту літвінаў большаю часткаю складалі готы, венеды і герулы, пісалі ў 16 стагоддзі гісторыкі К. Гарткнах і Л. Давід [31]. На тое, што імёны літвінаў падобны да імёнаў гепідаў, меў увагу Мацей Стрыйкоўскі: ён пісаў аб паходжанні літвінаў ад германскіх народаў кімбраў, гепідаў і готаў [32]. Аб паходжанні літвінаў ад готаў і гепідаў пісалі ў 16 стагоддзі Э. Стэла і А. Гваніні [33]. З германскім паходжаннем літвінаў згаджаўся ў сваёй “Гісторыі Літвы” (1650 г.) Альберт Віюк-Каяловіч: ён пісаў, што імёны старажытных літвінаў сведчаць аб іх роднасці з герулямі і лангабардамі [34]. Гісторык 17 ст. Ф. Сафановіч, утроп за Стрыйкоўскім, выводзіў літву ад кімбраў і гепідаў (гл. ніжэй).

Яркім прыкладам усведамлення літоўскаю шляхтаю гістарычнае памяці аб сваім германскім паходжанні яшчэ ў 17 стагоддзі ёсць успаміны Яна Цадроўскага, шляхціча з Случчыны, які служыў князю Багуславу Радзівілу і ў 1637 г. спадарожнічаў яму ў вандроўцы ў Нямеччыну і іншыя еўрапейскія краі. Вось што Цадроўскі пісаў у сваім дзённіку пра нашчадкаў германскага народу герулаў, якіх сустрэў на паўночным узбярэжжы Нямеччыны: “...Мы ехалі на Любек і Гамбург і там каля Рытвегу мы напаткалі мужыкоў, якія размаўлялі на мяшаным нямецка-літоўскім дыялекце; сваё паходжанне яны вядуць ад герулаў, продкаў літвінаў” [35]. З гэтае кароткае зацемкі відаць наступнае: 1) германскае паходжанне літвінаў у сярэдзіне 17 ст. ёсць для літоўскай шляхты несумнеўным і агульнавядомым і падаецца як нешта не патрабуючае даводаў; 2) сваё паходжанне літоўская шляхта вядзе ад германскага народу герулаў, нашчадкі якіх яшчэ ў сярэдзіне 17 ст. жывуць на паўночным узбярэжжы Нямеччыны каля Даніі – то бо ў дакладнасці ў тым месцы, адкуль выводзяць літоўскую шляхту летапісы ВКЛ; 3) спачатнаю (старажытнаю) “літоўскаю” моваю Цадроўскі лічыць, відавочна, германскую мову (а не балцкую – на паўночным узбярэжжы Нямеччыны ніякія балты ніколі не жылі). Усё гэта паказуе на тое, што яшчэ ў сярэдзіне 17 стагоддзя (дарма што распачатая замежнымі езуітамі прапаганда пра балцкае паходжанне літвінаў) у асяроддзі літоўскае шляхты – прынамсі, у асяроддзі Радзівілаў – выдатна ўсведамлялі сваё германскае этнічнае паходжанне (у поўнай адпаведнасці з літоўскімі летапісамі 15–16 ст., якія празрыста кажуць аб германскім паходжанні літоўскае шляхты).

Падаўшы такія агульныя разважанні аб неаўтахтонным германскім паходжанні літоўскае шляхты, падамо цяпер аналіз яе імёнаў. Чыстая бальшыня фармантаў у імёнах літоўскае шляхты знаходзіць наўпростыя адпаведнікі ў германскіх (перадусім усходнегерманскіх) імёнах. Астатнія фарманты спрабуем рэканструяваць на грунце ўсходнегерманскіх моў. Разглядаем імёны літоўскіх князёў і баяраў да 15 стагоддзя, а таксама летапісных князёў (з летапісаў ВКЛ [36], Раўданскага рукапісу [37] і хронікі Ратунда [38]). Ужываем этымалагічныя даведнікі па германскіх імёнах [39] і слоўнікі гоцкае і іншых усходнегерманскіх моў [40] (гоцкая літара þ (thorn) азначае міжзубны гук, як англійскае ‘th’). Ніжэй ужываем наступныя скароты: бург. – бургунцкая мова; гоцк. – гоцкая мова, гоцкае імя; герм. – агульнагерманская або старажытнагерманская лексема, (агульна)германскае імя; усх.-герм. – усходнегерманскі; РР – Раўданскі рукапіс.

-альг- (-ольг-) (*Альгерд, Альгімунт*): ад гоцк. alhs “бажніца”, герм. helig “свяшчэнны”; былі герм. імёны Algart, Alhmunt;

-бар- (-бор-) (*Вісбар, Шадыбор, Баргайла*): былі герм. імёны Baroald, Barocho, Barfrid; ад гоцк. bara, baur “чалавек, дзіцё” (літаральна – “народжаны”);

-бой- (*Бойнар, Бойвід*): былі герм. імёны Boio, Boiko, Boiorix; мабыць, знітавана з швецкім boja “ланцуг, кайданы”;

-буд- (*Будывід, Будвойна*): былі герм. імёны Budelin, Teutobod, Argibudo; ад бург. buda “пасол, пасланнік” або герм. bodo “гаспадар”;

-бут- (*Бутаўт, Карыбут, Цвербут*): былі гоцк. імёны Butila, Sisebuto, Hosbut; відаць, ад усх.-герм. but- з значэннем “корань, камель” (гепіцкае butilo – “камель”);

-валд- (-вольт-) (*Ромвальт, Звінвальт, Валімунд*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Valdemarus, Arvaldus, Sigisvultus); ад гоцк. і герм. waldan "валодаць, гаспадарыць" або wulþus "слава, мажнасць";
-від- (*Гедывід, Будывід, Відымін*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Vidimer, Widericus, Widbod); ад гоцк. wida "сувязь, злучэнне, моцнасць", або ад гоцк. і герм. widus "дрэва";
-віг- (*Вігунт, Вігайла*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Wigand, Wigilo, Wigmunt); гоцк. і герм. wigs "вайна, бойка";
-віл- (*Вілгайла, Гінвіл, Таўтвіл*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Willirad, Willimeres, Badvila); гоцк. wilja "воля";
-вільд- (-вілт-) (*Войшвілт, Монствільд, Эйвільд*): фармант пашыраны ў гоцкіх імёнах (Arvildis, Savildi, Vivildus); гоцк. wilþeis "дзікі";
-він- (*Вінгальт, Лонгвін, Ментвін*): фармант пашыраны ў гоцкіх імёнах (Vinibal, Vinilderus, Odwin); гоцк. wins "сябр";
-віс- (-віш-): (*Вісігерд, Вісімонт, Вішымут*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Wisigard, Wizmunt, Wisagund); гоцк. wis "мудры, абазнаны";
-віт- (*Вітаўт, Віцень, Бутавіт*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Witolt, Witin, Witila, Witimirus); гоцк. wit "веда, розум, закон";
-войд- (*Войдат, Вайдыла*): былі герм. імёны Waide, Weidheri, Weidman; відаць, ад гоцк. waida "поле, паша";
-войн- (*Война, Давойна, Войнад*): відаць, знітавана з старагерм. wunna, гоцк. wunands "шчаснасць, задаволенасць", ісляндскім vænn "прыемны", нямецкім gewohnt "задаволены"; былі герм. імёны Wonnat, Vuuna, Vunnihad;
-войш- (*Войшалк, Войшвід, Войшнар*): гоцк. і бург. waiþs "паляванне", гоцк. waiþja "паляўнічы";
-гайл- (*Мінгайла, Ягайла, Скіргайла, Гайлігін, Сунгайла*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Gailo, Geilamir, Gailswindis, Ingeila, Sarahailo); ад гоцк. і бург. gails "жвавы, свавольны, ганарысты";
-гаст- (*Гасцейка, Гостык, Гастоўт*): гоцк. і герм. gasts "госць, вандроўнік"; былі герм. імёны Gasto, Gasticho, Gastald;
-гаўд- (-гоўд-) (*Гаўдымунда, Гедыгоўд, Даўгоўд*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Gaudemund, Gaudomar, Witogaud, Gaudila), але яго паходжанне не зусім яснае; магчыма, ад гоцк. goþs "добры, годны", godei "дабро, годнасць, цнота", або ад гоцк. і бург. auds "багацце, спор";
-гед- (*Гедывід, Гедымін, Гедыгоўд*): відаць, з значэннем "нораў, пыха"; старагерм. gidd- "пыхлівы, ганарысты", ісляндскае geð "нораў, тэмперамент"; былі герм. імёны Gaidoald, Hiddikin, Hidoin;
-гель- (*Гелігунт, Гелігуд*): былі герм. імёны Heligund, Heliger, Helmigaud; ад гоцк. і герм. helm "шалом";
-гер- (*Германт, Герстут, Гервід*): герм. heri "войска, загон" або heru "меч"; былі гоцк. імёны Herelieva, Erwih, герм. Germunt, Gervida;
-герд- (*Гердзень, Альгерд, Мантыгерд*): гоцк. gairdan "падпяразваць", перан. "ахоўваць"; garda "агароджа", перан. "ахова, бяспека"; былі герм. імёны Alagart, Herdwic, Hergerdr;
-гін- (-ген-) (*Гінтаўт, Даўген*): былі герм. імёны Ginheri, Ginand, Gimmund; відаць, ад гоцк. gin- "пачатак";
-гінд- (*Прэзгінд, Вісгінт*): былі герм. імёны Gento, Gendrad; ад гоцк. gands "посах", перан. "чары";
-гіс- (*Гісвін, Гісмен*): былі ўсх.-герм. імёны Gieswein, Gislamundus, Nitigis; гоцк. gisls "страла";
-гой- (*Гойтарт, Гоймант, Гойлют, Гоюл*): гоцк. і герм. hauhs "высокі"; фармант пашыраны ў герм. імёнах (Hohgaud, Hohman, Hohrat);
-гуд- (*Гудыгерд, Сургут, Гелігуд*): былі гоцк. імёны Gudeleub, Godemund, Guderith; ад гоцк. guþs "Бог";
-гунт- (*Вігунт, Гелігунт*): фармант пашыраны ў гоцкіх імёнах (Gunthigis, Gundemirus, Theodagunda); гоцк. gunþs "бойка, бітва";
-даў(г)- (*Даўгерд, Даўспронг, Даўмонт, Даўгайла*): мабыць, ад гоцк. daug "годна", бург. daugjis "здольны, годны"; або ад старагерм. dulg- "моцны, трывалы", dolg "дужанне"; былі гоцк. імёны Damundus, Osdulg, Valduigius, германскія Daumerus, Dulchard;
-дзер- (-дзір-) (*Дзірсун, Дзермант*): відаць, ад гоцк. dius, герм. tiur "звер"; былі герм. імёны Deorovald, Deorulf, Deurtrudis;

-жад- (-шад-) (*Каўдыжад, Шадвід, Шадыбор*): мабыць, ад гоцк. skadus “ахінуты, абаронены”; было герм. імя Scatto;
-жыг- (-зіг-) (*Жыгімонт, Зігебут*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Sigeberto, Sigisvultus, Sigismer); гоцк. і бург. sigus “перамога”;
-звін- (-жвін-) (*Звінвальт, Жывінбуд*): гл. -свін(т)-
-кар- (-кор-) (*Карыят, Карыбут, Карыгайла*): былі герм. імёны Cariatto, Chariobaud, Caramer; відаць, ад гоцк. kaurus “цяжкі, важкі”;
-кес- (*Кясгайла, Кестаўт*): мабыць, ад гоцк. gais “суліца, кап’ё”; фармант пашыраны ў гоцкіх імёнах (Gesiulf, Unigis, Gesimund);
-кінт- (*Кінтыбут, Вікінт*): відаць, ад гоцк. і герм. kinds “дзіцё, род”; было герм. імя Witikint, Witikind;
-кон- (*Коншалк, Контаўт, Канігайла*): ад гоцк. koni- “адважны”; былі герм. імёны Conrad, Conald;
-люб- (*Любарт, Любка*): фармант вядомы ў гоцкіх імёнах Liubita, Gudilub, Svinthiliuba; усх.-герм. фармант -люб- меў тое ж значэнне, што ў славянскіх мовах;
-лют- (*Лютавор, Гвазэлют, Гойлют*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Liutwert, Leuteris, Leudomarus); гоцк. і бург. liuþs, leuda “люд, людзі”;
-мер- (-мір-) (*Нетымер, Гайлімір*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Vidimer, Walamer, Witimirus); гоцк. і бург. meris “славуты, выбітны”;
-мін- (*Мінгайла, Гедымін, Таўтымін, Мінімунд*): былі герм. імёны Minegis, Minard, Minsuind; відаць, ад гоцк. minan “менаваць, памятаць, любіць”;
-монс- (*Монствід, Монстаўд*): мабыць, ад гоцк. muns “пэўнасць, умысел, імкненне”;
-мунт- (-мунд-, -монт-) (*Скірмунт, Даўмонт, Нарымунт, Монтвід*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Damundus, Gesimundus, Sidimundus, Mundila, Mondericus); ад гоцк. munds “моц розуму, імкненне”, mundrs “гарлівы, палкі”;
-мут- (-мот) (*Вішымут, Драўмут, Вінмот*): фармант пашыраны ў герм. імёнах (Vismuot, Willimot, Geilmot); гоцк. moþs “(баявы) дух, лютасць, адвага”;
-нар- (*Нарымунт, Нарбут, Войшнар*): фармант пашыраны ў гоцкіх імёнах (Narthildis, Nerigaud, Ragnaris, Asinarius); ад гоцк. nasjan “захоўваць, ратаваць”;
-нет- (*Нетымер, Гінет*): былі герм. імёны Nidmar, Nitigis, Gernid; ад гоцк. neiþa “злосць, варожасць”;
-прэз- (-прэй-) (*Прэзгінд, Прэйбут, Прэсмонт*): фармант пашыраны ў герм. імёнах (Prezzold, Prezila, Prehholf); ад старагерм. proz “каштоўнасць, шляхетнае каменне”;
-раг- (*Рагвалод, Свінтарог*): былі гоцк. імёны Ragnaris, Ragnahilda, Ragulf; ад гоцк. raginon “гаспадарыць, судзіць, выракоўваць”, ragin “вырак”;
-рад- (*Радзівіл, Ратаўт*): фармант пашыраны ў герм. імёнах (Radobod, Radmund, Ratgaud, Willirad); герм. rad- “рада”;
-рок- (-рук-) (*Рокуць, Рукля*): былі герм. імёны Roccula, Ruccko, Rucchart; ад гоцк. hrukjan “раўці, рыкаць”;
-ром- (*Ромвальт, Эйрам*): фармант пашыраны ў герм. імёнах (Romualt, Romard, Romoin); герм. hruom “слава, славутасць”;
-рым- (*Бутрым, Рымавід, Монтрым*): фармант пашыраны ў герм. імёнах (Rimbalt, Rimolt, Hrimerim, Striterim); гоцк. rimis “спакой, стрыманасць, непарухлівасць”;
-рынг- (*Рынгольт, Рынгала*): герм. hring “кольца”; былі герм. імёны Ringolt, Ringilio;
-сав- (*Савімонт, Саўгут, Савігін*): былі гоцк. імёны Savaricus, Savildi, герм. Savalo, Savientis; ад гоцк. і бург. sauil, старагерм. sowila “сонца”;
-сар- (*Сарвід, Сарман*): фармант пашыраны ў герм. імёнах (Saramund, Saregaud, Sarahailo); гоцк. і герм. sarwa “зброя”;
-сваль- (*Свальгед, Свальген*): герм. swal “полымя”; былі герм. імёны Swala, Swallehart;
-свін(т)- (*Звінвальт, Свімунт, Свінтарог*): гоцк. swinþs “моцны, магутны”; былі гоцк. імёны Svintericus, Svintila, Svinthiliuba;
-скалк- (-шалк-) (*Войшалк, Коншалк, Скамунт*): гоцк. skalks “слуга”; былі герм. імёны Walscalch, Scaleman, гоцк. імёны Ascalc, Gudescalcus; імя Готшалк было вядома яшчэ ў 11 ст.;
-скір- (*Скірмунт, Скіргайла, Скіртаўт, Скірбут*): гоцк. skeirs “ясны, чысты”; былі герм. імёны Scirbald, Scierhilt;
-стольд- (*Манстольд, Герстальт*): былі герм. імёны Heristalt, Winstalt; відаць, ад гоцк. stalds “які набывае, прагны”;

-сун- (*Дзірсун, Сунгайла*): фармант пашыраны ў гоцк. імёнах (Suniemirus, Sunierícus, Sunila); гоцк. sunja “праўда”, sunis “сапраўдны”;
-сур- (-сыр-) (*Сургайла (Сыргайла), Сурмін, Сурвіла*): мабыць, адмена ўсх.-герм. фарманту -syr-, ад гоцк. sisu “чароўны спеў, заклён”; былі ўсх.-герм. імёны Siriaud, Syrivald;
-сут- (*Сутарт, Сутка, Сутыла*): гоцк. suts “рахманы, лагодны, спакойны”; былі герм. імёны Suto, Sutterícus;
-тал- (*Талівойша, Тальят, Талмут*): гоцк. tals “дасціпны, руплівы”; былі герм. імёны Tallo, Talamot;
-таўт- (-таўд-) (*Таўтвіл, Таўтыгерд, Вітаўт, Монтаўт*): фармант пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах (Teutgerdis, Theudemir, Theudila, Witolt); гоцк. theuda “род, народ”;
-торт- (*Гойтарт, Сутарт, Вештарт*): відаць, ад гоцк. і герм. þruþs “мажнасць, веліч”; былі пашыраны ўсх.-герм. імёны з фармантам -труд- (Heilahtrud, Widrud, Swasthrud);
-цвер- (*Цвербут, Цвермунт*): гоцк. þwairhs “гнеўны, порсткі, ваяўнічы”;
-эй- (*Эйвільд, Эйгінт, Эйнар, Эйсмант*): былі герм. імёны Egind, Eumund, Einard; ад гоцк. agi “лязо, булат, меч”;
-я- (*Ягайла, Ямант*): гоцк. ja, jah “дыкжэ, сапраўды”; былі герм. імёны Jahheri, Joman;
-ят- (-ют-) (*Карыят, Тальят (Талют), Сур’ят, Ятаўт*): відаць, ад гоцк. iuþa, старагерм. joþ “дзіцё, народзінец, нашчадак”; былі герм. імёны Eutharic, Joduin, Jutrad.

Як бачым, усе імёны сярэднявечнае літоўскае шляхты натуральна тлумачацца з усходнегерманскіх моў і многія з іх маюць наўпростыя адпаведнікі сярод усходнегерманскіх імёнаў. Сярод германскіх рыс літоўскіх імёнаў яшчэ можна адзначыць захаванне спалучэнняў -ск- і -св- (Скірмунт, Свальгед), уласцівае для германскіх моў і неўласцівае для ўсходнебалцкіх, наяўнасць дыфтонгу -эй- (Эйвільд, Эйсмант), якога няма ў жамойцкай мове, а таксама ўласцівыя для германскіх імёнаў канчаткі -ен (Гердзень, Тройдзень, Віцень), -уд/-ут (Гердуд, Кейстут, Яўнут), -унд/-унт (Войшунд, Талунт) і -іла, -ула (Вайдыла, Віршула), якіх няма ў балцкіх імёнах.

Падамо тлумачэнні імёнаў сярэднявечнае літоўскае шляхты. Калі літоўскае імя мае наўпросты адпаведнік сярод германскіх імёнаў, падаем яго адразу. У іншых выпадках падаем прыклады германскіх імёнаў з такімі ж фармантамі, што і ў літоўскім імені. Ужываем наступныя скароты: б. – баярын; к. – князь; в.к.л. – вялікі князь літоўскі; л.к. – летапісны князь; ш.р. – шляхецкі род; тс. – таксама; С1398 – імя з Салінскае дамовы ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам 1398 г. [41]; ВР1401 – імя з акту Віленска-Радамскае уніі 1401 г. [42]; Гр1413 – імя з акту Гарадзельскае уніі 1413 г. [43]; Ч1431 – імя з Чартарыйскае дамовы ВКЛ з Польшчаю 1431 г. [44]; Х1432 – імя з Хрыстмемельскае дамовы ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам 1432 г. [45]; 3ЛМ – імя з 3-й кнігі запісаў Літоўскае метрыкі (1440 – каля 1466 гг.) [46].

Такім парадкам, маем наступныя тлумачэнні імёнаў літоўскіх князёў і баяраў:

Айгуст (к. у Пскове ў 1270 г.), Айгуста (дачка в.к.л. Гедыміна): герм. Aigo, Egusta, Eggusta; ад гоцк. agi “лязо, булат, меч”;
Айкша (Эйкша) (к. 1349 г.; тс. тапонім Эйшышкі (Эйкшышкі)): герм. Aiko, Aicus, Eccho, Eigio; ад гоцк. agi “лязо, булат, меч”;
Альгерд (в.к.л. 1342–1377 гг.): герм. Algart, Allegard, Alfgerd; альг + герд = “свяшчэнная ахова”; РР тлумачыць імя як “радасць Вольгі” (мабыць, ад -ольг- + герм. hord “скарб”);
Альгімунт (л.к.; тс. к. Гальшанскі † да 1385 г.): герм. Alhmund, Alhmunt; альг + мунт = “свяшчэнная гарлівасць”;
Альдона (дачка в.к.л. Гедыміна): герм. Altduoni, Aldoin, Aldewina; “старая сяброўка”;
Арвід (л.к.; тс. ш.р. Арвідаў на Віленшчыне), Гервід (3ЛМ): герм. Ervid, Gervida; гер + від = “меч моцы” або “моцнае войска”;
Баргайла (3ЛМ): бар + гайл = “народжаны жвавым”;
Барэйка (б. часу в.к.л. Гедыміна, пачынальнік ш.р. Хадкевічаў; тс. С1398, ВР1401): “дзіцё”; было герм. імя Barocho;
Бікша (к. 1219 г., 1260 г.): герм. Biccho, Bicchio; ад герм. bicken “сячы”;
Бірута (малжонка в.к. Кейстута, † 1416 г.): відаць, ад герм. bero “мядзведзь” + герм. суфікс -ут-; былі герм. імёны Birina, Birico; аб тым, што Бірута належала да германскага элемента

(хаця паходзіла з Жамойці), беспярэчна сведчыць чыста германскае імя яе дзядзькі Відымонта († 1382 г.);

Бойвід (стараста кернаўскі 1398 г.; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Буйвідаў на Віленшчыне): бой + від = "ланцуг моцы";

Бойнар (Гр1413): бой + нар = "ланцуг захавання";

Борза (мо' Броза) (брат в.к.л. Тройдзеня † да 1282 г.): герм. Brozo; гл. -прэз-;

Ботвіл (ЗЛМ), Бутвіл (ЗЛМ): бут + віл = "корань волі";

Бубета (л.к. Гедройцкі): былі герм. імёны Bube, Buobila; ад старагерм. bube "хлопчык, пахолак";

Будвойна (б. 1357 г.): буд + войн = "пасланнік шчасця";

Будывід (к. 1289 г.): буд + від = "пасланнік моцы";

Будыкід (мо' Будыгід) (к. 1289 г.): буд + гед = "пышны пасланнік"; былі герм. імёны Boutgis, Bothad;

Буна (б. 1260 г.): герм. Buno, Bunno; мабыць, ад гоцк. bundnan "звязваць";

Буска (Бушка) (С1398, продак Кясгайлаў): герм. Buske; гоцк. buska "цялеш";

Бутавіт (к. 1219 г.; тс. ЗЛМ): бут + віт = "корань мудрасці";

Бутаўт (сын к. Кейстута, к. дарагічынскі да 1365 г.), Бутаўд (ВР1401, Гр1413): бут + таўт = "камель роду";

Бутвід (б. каля 1388 г.; тс. к. Гедройцкі 1451 г.; тс. ЗЛМ): бут + від = "моцны корань" або "корань дрэва"; было швецкае імя Botwid;

Бутрым (Гр1413, маршалак дворны ад 1412 г.; тс. ш.р. Бутрымовічаў на Віленшчыне): бут + рым = "непарушны корань";

Вайдута (сын к. Бутаўта Кейстутавіча, 1381 г.); войд + герм. суфікс -ут = "палявы"; было герм. імя Waido;

Вайдыла (стараста лідскі 1377 г.; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Вайдылаў-Вайдылоўскіх на Віленшчыне): "палявы"; было гоцк. імя Wadila, герм. Waide, Waldila;

Валімонт (Валімунд) (С1398, ВР1401, бацька маршалка дворнага Кясгайлы; тс. ш.р. Вальмонтаў на Віленшчыне): герм. Walmund, Walamunt, Waltimunt; валд + мунт = "гарлівасць улады";

Вальбут (ш.р. Вяльбутаў на Віленшчыне): валд + бут = "корань улады"; было герм. імя Walbodo;

Вальгун (б. 1288 г.): герм. Walchuni, Walegundis, Walahun; герм. walah "вандроўнік" + гунт = "вандроўнік-ваяр";

Ванібут (к. 1219 г.; тс. ЗЛМ), Вонбут (ЗЛМ): войн + бут = "шчасны корань";

Вега (б. 1260 г.): герм. Wego; ад гоцк. wigs "бойка";

Вештарт (б. † каля 1441 г.): віс + торт = "мажнасць мудрасці";

Вігайла (стараста вількамірскі 1398 г., Ч1431): віг + гайл = "жвавы ў бойцы"; было герм. імя Wigilo;

Вігунт (сын в.к.л. Альгерда): герм. Wigunt, Wigant; віг + гунт = "бітны на вайне"; або ад герм. wigant "ваяр";

Від (л.к.): герм. Wido, Wida; "моц" або "дрэва";

Відыгайла (ЗЛМ): від + гайл = "моц жвавасці";

Відымін (брат Андрэя Гелігунта з Гр1413): від + мін = "моцны думкамі";

Відымонт (б. † 1382 г.; тс. ш.р. Відмонтаў на Віленшчыне): від + мунт = "моц гарлівасці"; было герм. імя Witmund;

Вікінт (л.к.; тс. к. 1219 г.): віг + кінт = "дзіцё бітвы", або віт + кінт = "дзіцё мудрасці"; было герм. імя Witikind, Witikint;

Вілгайла (к. 1219 г.; тс. ЗЛМ): віл + гайл = "жвавая воля";

Вілгейда (дачка в.к.л. Альгерда): герм. Williheid, Wilhada; віл + гед = "ганарыстая воляю", або віл + гоцк. haidus "від, вобраз" = "вобраз волі";

Вілявід (ЗЛМ): віл + від = "воля моцнасці"; было герм. імя Williswind;

Вінгальт (сын в.к.л. Альгерда): він + гаўд = "сябра цноты", або він + герм. gelt- "варты" = "варты сябр"; было гоцк. імя Winigild, герм. Winhold;

Вінмот (ЗЛМ): він + мот = "сябр адвагі";

Віркаль (Гр1413): былі герм. імёны Werhher, Wirchilleoza; ад герм. werc "праца";

Віршула (к. 1359 г.; тс. прыдомак Остыкаў): былі герм. імёны Werzo, Wirdilo; ад гоцк. wairþs "годны, дастойны"; суфікс -ула пашыраны ва ўсх.-герм. імёнах;

Вісавід (б. † каля 1388 г.): віс + від = "моцнасць мудрасці";

Вісбар (брат кашталяна віленскага Мінгайлы з Гр1413): віс + бар = "народжаны мудрым";

Вісгайла (б. 1260 г.; тс. ЗЛМ): віс + гайл = "жвавая мудрасць";

Вісгаўд (ЗЛМ): віс + гаўд = “мудрасць цноты”; былі герм. імёны Witogaud, Wisogoz;
Вісгінт (ЗЛМ): віс + гінд = “чары мудрасці”;
Вісігін (Гр1413), Вісагін (ЗЛМ): герм. Wizikin; віс + гін = “пачатак мудрасці”;
Вісігерд (Гр1413), Візгерд (ЗЛМ, тс. ш.р. Візгірдаў на Віленшчыне): герм. Wisigard; віс + герд = “ахова мудрасці”;
Вісімонт (ЗЛМ; тс. ш.р. Вісмонтаў на Віленшчыне): герм. Wizmunt; віс + мунт = “палкасць мудрасці”;
Віскоnт (ш.р. Віскоnтаў на Віленшчыне): герм. Wisagund; віс + гунт = “мудрасць бітвы”;
Вітарт (ЗЛМ; тс. ш.р. Вітартаў на Віленшчыне): віт + торт = “мажнасць мудрасці”;
Вітаўт (к. 1266 г., тс. к. † каля 1342 г.; тс. в.к.л. 1392–1430 гг.; тс. ЗЛМ): пашыранае герм. імя Witolt, Witold; віт + таўт = “мудрасць роду”;
Віцень (в.к.л. 1294–1315 гг.): герм. Witin, Wittenus; “мудры”;
Вішымут (Вісімот) (к. 1219 г.): герм. Vismuot; віс + мут = “дух мудрасці”;
Войдат (сын к. Кейстута; тс. ВР1401; тс. ш.р. Войдатаў на Віленшчыне): войд + ят = “дзіця поля”;
Война (брат в.к.л. Гедыміна † да 1335 г., тс. ВР1401; тс. к. Гедройцкі 1433 г.; тс. ш.р. Войнаў, Вайновічаў, Войнюшаў на Віленшчыне): герм. Vuuna; “шчасны”;
Войнад (б. 1324 г.; тс. ВР1401): герм. Wonnat; войн + ят = “шчаснае дзіця”;
Войшалк (в.к.л. 1264–1267 гг.): войш + шалк = “адданы паляванню”;
Войшвід (ВР1401): войш + від = “моцны на паляванні”;
Войшвіл (сын к. Кейстута, 1359 г.; тс. ш.р. Вайшвілаў на Віленшчыне): войш + віл = “воля палявання”;
Войшвілт (б. 1387 г.): войш + вілт = “дзікае паляванне”;
Войшнар (Гр1413; тс. ЗЛМ): войш + нар = “захаваны на паляванні”;
Войштаўт (б. каля 1388 г.; тс. ЗЛМ): войш + таўт = “род паляўнічых”;
Войшунд (Вайшымунд, роднае імя Хрыстына Остыка): войш + мунд = “гарлівы паляўнічы”;
Войшуць (б. 1456 г.): “паляўнічы”;
Войшым (Гр1413; тс. ш.р. Войшымаў-Антаневічаў, Войшымаў-Жылінскіх на Віленшчыне): “паляўнічы”;
Гайлігін (л.к.; тс. ВР1401, бацька ваяводы віленскага Манівіда): гайл + гін = “жвавы зачатак”;
Гайлімін (стараста вяленскі, 1432 г.): гайл + мін = “жвавы думкамі”;
Гайлімір (б. 1432 г): было вандальскае імя Geilamir; гайл + мір = “славуты свавольствам”;
Гастоўт (Гастольд) (ваявода в.к.л. Гедыміна; тс. стараста віленскі ў 1387 г., пачынальнік ш.р. з сядзібаю ў Геранёнах): герм. Gastald; гаст + таўт = “род вандроўнікаў”, або ад гоцк. gastalds “прагавіты”; у лангабардаў быў назоў пасады gastaldus, які азначаў “памочнік, дарадца”;
Гаўдрым (ЗЛМ): гаўд + рым = “непарушная цнота”; былі герм. імёны Audram, Gauderich;
Гаўдымунда (дачка в.к.л. Тройдзеня, 1279 г.): гоцк. Gaudemund; гаўд + мунд = “гарлівасць цноты”;
Гвазэлют (сын в.к.л. Віценя): гоцк. hwaz “востры, пранiклiвы, чулы” + лют = “чулы да людзей”; былі герм. імёны Hwazmot, Kerhwas, Wichwas;
Гедрус (л.к., пачынальнік княскага роду Гедройцяў): герм. Gaideris, Gayderis, Keidrih; “гаспадар дзіды”;
Гедывід (пляменнік в.к.л. Міндоўга): гед + від = “пыхлівы моцаю”; былі герм. імёны Hadwid, Gaudovid;
Гедывіл (ЗЛМ; тс. ш.р. Гедвілаў на Віленшчыне): гед + віл = “пыхлівая воля”; было вандальскае імя Годгевіл;
Гедыгоўд (маршалак дворны ад 1401 г., пачынальнік ш.р. з сядзібаю ў Вішневе): гед + гаўд = “пышнасць цноты”; былі герм. імёны Hadegaud, Godelgaud;
Гедымін (в.к.л. 1316–1341 гг.), Гедмін (ЗЛМ; тс. ш.р. Гедымінаў на Віленшчыне): гед + мін = “пыхлівы думкамі”; былі герм. імёны Hideman, Hiddikin;
Гелігуд (ЗЛМ; тс. ш.р. Гелгудаў на Віленшчыне): гель + гуд = “Боскі шалом”;
Гелігунт (Гр1413): герм. Heligund; гель + гунт = “шалом бітвы”;
Гердзень (стрыечны брат в.к.л. Міндоўга, к. Полацка ў 1264 г.; тс. б. каля 1370 г.): герм. Gardin, Gerting; “ахоўнік”;
Гердуд (Гр1413), Гердуць (б. 1388 г.): герм. Kerdut; “ахоўнік”;
Гердывід (б. 1388 г., Х1432), Гірдвід (ЗЛМ): герд + від = “моцнасць аховы”; было гоцк. імя Herdwic;

Гердывіл (л.к.; тс. к. 1219 г.): герд + віл = "ахова волі";
Гердымонт (ЗЛМ): герд + мунт = "ахова гарлівасці";
Германт (л.к.): герм. Girmund, Germunt, Herimont; гер + мунт = "гарлівасць войска";
Герстаўт (б. 1384 г.): гер + таўт = "ваярскі род";
Герстальт (ЗЛМ): герм. Heristalt; гер + стольд = "які набывае войска";
Герстут (сын в.к.л. Міндоўга): гер + гоцк. stutja "апора" = "апора войска"; былі герм. імёны Stutzias, Stotzas;
Гетаўд (Гр1413): гед + таўт = "ганарысты род";
Гінбут (л.к.; тс. ш.р. Гімбутаў на Віленшчыне), Гінібут (ЗЛМ): гін + бут = "зачатак корня"; было герм. імя Genobaud;
Гінвіл (л.к. Наваградка; тс. намеснік троцкі 1398 г.): гін + віл = "пачатак волі"; было гоцк. імя Hunvil;
Гінет, Гінейт (ВР1401, Гр1413): гін + нет = "пачатак злосці";
Гінівойш (ЗЛМ): гін + войш = "пачатак палявання";
Гінтаўт (С1398, ВР1401; ЗЛМ; тс. ш.р. Гінтаўтаў на Віленшчыне): гін + таўт = "зачатак роду";
Гіркант (ш.р. Гіркантаў на Віленшчыне): герм. Herigund; гер + гунт = "бітнасць войска";
Гісвін (ЗЛМ): герм. Gisoin, Gieswein; гіс + він = "сябра стралы";
Гісмен (ЗЛМ): гіс + мін = "страла памяці";
Гойка (б. † каля 1433 г., пачынальнік ш.р. Гойцавічаў на Наваградчыне): герм. Hoico; "высокі";
Гойлют (Койлют) (б. † каля 1388 г.): гой + лют = "высокі над народам";
Гоймант (ЗЛМ): герм. Goismund, Haimund; гой + мунт = "высокі гарлівасцю";
Гойтарт (к. † 1266 г.): гой + торт = "высокі мажнасцю"; было герм. імя Goltrut;
Гольша (л.к., пачынальнік княскага роду Гальшанскіх): гоцк. gulþa, golþa "золата";
Гоюл (к. Гедройцкі 1431 г.), Гогул (ЗЛМ): "высокі"; былі герм. імёны Hohilo, Hohold;
Гродвіл (б. 1359 г.): гоцк. hroþ "слава, перамога" + віл = "воля да перамогі"; фармант -грод- пашыраны ў герм. імёнах (Hrodwig, Hrodowin, Hrodger, Hrodmund);
Гудыгерд (С1398, Х1432): герм. Gudahard; гуд + герд = "Боская ахова";
Давіл (л.к. Вільні), Давіла (б. 1359 г.): герм. Davila, Dauwila; даў + віл = "воля здольнасці";
Давойна (ВР1401, Ч1431; тс. ш.р. Давойнаў на Віленшчыне): даў + войн = "годны да шчасця";
Данміла (дачка в.к.л. Гедыміна): былі гоцк. імёны Dumilda, Dunila; сэнс фарманту -дан- няясны;
Данута (дачка к. Кейстута): было герм. імя Danna;
Даўбор (ш.р. Даўбораў на Віленшчыне): даў + бор = "годнае нараджэнне";
Даўгайла (б. 1413 г.): даў + гайл = "здольны да жвавасці";
Даўгвід (б. 1347 г.): даўг + від = "здольны да моцнасці";
Даўгвіл (ш.р. Даўгвілаў на Віленшчыне): даўг + віл = "здольная воля";
Даўген (Гр1413): даў + гін = "пачатак здольнасці";
Даўгерд (к. † 1213 г.; тс. ВР1401, Х1432, ваявода віленскі ад 1433 г.; тс. к. Свірскі 1449 г.): даў + герд = "здольны да аховы"; было герм. імя Dotgerdis;
Даўгоўд (к. 1401 г.; тс. ЗЛМ): герм. Dagaud; даў + гаўд = "годны да спору";
Даўконт (Гр1413): даў + гунт = "годны да бітвы";
Даўмонт (Даўмунт) (князь на Ўцене да 1265 г. (у лісце 1292 г. Dovmundus); тс. Х1432 (Dewmunt); тс. Даўгімонт, ЗЛМ; тс. ш.р. Даўмонтаў-Сясіцкіх на Віленшчыне); было гоцк. імя Damundus; даў + мунт = "здольны да гарлівасці";
Даўспронг (Даўспрунк) (л.к.; тс. брат в.к.л. Міндоўга): -спронг-, відаць, знітавана з данскім, швецкім і нарвезскім sprang-, sprung- "пукацца, прарастаць", швецкім språng "крыніца"; даў + спронг = "годны парастак"; было герм. імя Spranco;
Даўторт (ш.р. Даўтортаў на Віленшчыне): даў + торт = "годны мажнасцю";
Даўят (к. 1219 г.; тс. ш.р. Даўятаў на Віленшчыне): даў + ят = "здольны нашчадак";
Дзермант (б. каля 1388 г.; тс. ш.р. Дырмонтавых на Віленшчыне): дзер + мунт = "гарлівы звер";
Дзірсун (стараста віленскі ў 1365 г.): дзер + сун = "сапраўдны звер"; былі герм. імёны Drasuno, Drusun;
Дорг (ВР1401; тс. ЗЛМ): было пашырана герм. імя Drogo, Druogo; бург. drogo "ваяр";
Доўнар (б. 1347 г.; тс. ш.р. Даўнаровічаў на Віленшчыне): даў + нар = "захаваная здольнасць";
Есбут (б. 1290 г.): відаць, ад герм. is "лёд" + бут = "лядзяны корань"; было гоцк. імя Hosbut;
Жадвід (Жэдывід) (сын в.к.л. Альгерда), Шадвід (ЗЛМ): шад + від = "моц абароны";
Жадвойна (ш.р. Жадвойнаў на Віленшчыне): шад + войн = "абарона шчаснасці";
Жывінбуд (мо' Звінбуд) (к. 1219 г.): звін + буд = "магутны пасланнік";

Жыгімонт (в.к.л. 1432–1440 гг.; тс. сын к. Карыбута Альгердавіча), Жыгімунд (Х1432; тс. ш.р. Зыгмунтовічаў на Віленшчыне): пашыранае ўсх.-герм. імя Sigimunt; жыг + мунт = “перамога гарлівасці”;
Застаўд (ВР1401; тс. ш.р. Заштаўтаў на Віленшчыне): відаць, ад герм. zeiz- “прыгожы, прыемны” + таўд = “прыгожы род”; былі герм. імёны Zeizmunt, Zeiztomo;
Звінвальт (ВР1401): звін + валд = “магутны ўладаю”; было герульскае імя Sintvalt;
Зігебут (б. 1416 г.): зіг + бут = “камель перамогі”; былі герм. імёны Sigibodo, Sigibaud;
Імін (л.к.): герм. Imino, Immina; сэнс фарманту няясны;
Канігайла (ЗЛМ): кон + гайл = “адважны свавольствам”;
Карыбут (сын в.к.л. Альгерда, пачынальнік княскіх родаў Збаразскіх і Вішнявецкіх; тс. ш.р. Корбутаў на Віленшчыне): кар + бут = “цяжкі корань”;
Карыгайла (сын в.к.л. Альгерда): кар + гайл = “важкі свавольствам”;
Карыят (сын в.к.л. Гедыміна, пачынальнік княскага роду Чартарыйскіх): герм. Cariatto; кар + ят = “цяжкі народзінец”;
Каўдыжад (мо’ Гаўдышад) (б. 1256 г.): гаўд + шад = “ахінуты спорам”;
Кейстут (в.к.л. 1381–1382 гг.): відаць, ад прагерманскага і праславянскага keist-, ад якога слав. ‘кисть’, дыялектнае расейскае ‘кистать’ “неахайна рабіць нешта”, данскае keite “левая рука”, keitet “ляўшун”, тс. “няспрытны, неахайны”; у нашай мове, відаць, наадварот азначала “спрытны, увішны”; РР тлумачыць імя як “спрытнюга” (fortelnik);
Кернус (л.к.; тс. тапонім Кернаў): герм. Kerne; ад герм. kern “зерне”;
Кестаўт (сын кашталяна віленскага Мінгайлы): кес + таўт = “кап’ё роду”;
Кібарт (сын Мінімунда з Гр1413; тс. ш.р. Кібартаў на Віленшчыне): герм. Geboart; “падарунак рады”;
Кімунд (С1398; тс. ш.р. Кімантаў на Віленшчыне): герм. Kemmunt, Gimmund; гін + мунт = “пачатак гарлівасці”;
Кінтыбут (к. 1219 г.), Кінбут (ЗЛМ): кінт + бут = “корань роду”;
Конна (або Кенна) (дачка в.к.л. Альгерда): герм. Cunnia “новы род”;
Контаўт (б. 1440 г.; тс. ш.р. Контаўтаў на Віленшчыне): кон + таўт = “адважны род”;
Коншалк (Х1432): кон + шалк = “слуга адвагі”;
Корвін (ш.р. Корвінаў-Саковічаў, Корвінаў-Кулешаў на Віленшчыне): кор + він = “важкі сябр”;
Кукавойт (л.к.): гоцк. kuk- “пацалунак” + войд = “пацалунак поля”; былі герм. імёны Coco, Cucufates;
Кунас (л.к.): герм. Cuno; ад гоцк. kuni “род”;
Кясгайла (маршалак дворны ад 1413 г., пачынальнік ш.р. з сядзібаю ў Дзявілтаве): кес + гайл = “жвавае кап’ё”;
Лелюш (Гр1413, ваявода троцкі ад 1433 г.): герм. Lello, Lullus; ад старагерм. lola “павольнасць”;
Лесій (брат в.к.л. Тройдзеня † да 1282 г.; тс. Lesse, б. 1326 г.): герм. Lezzio, Leczio; ад гоцк. lisan “збіраць”;
Ліздзейка (л.к., продак Радзівілаў, тс. згаданы ў грамаце 1359 г.): жамойцкае lizdas “гняздо” ёсць яўным германізмам – ад усх.-герм. leizda “ліштва, планка, рэйка”; такім чынам, летапіснае апавяданне аб наданні гэтага імя дзеля знаходжання хлопчыка ў гняздзе (у святле таксама іншых матэрыялаў) паказуе на германскае моўнае асяроддзе; нашчадкамі Ліздзейкі былі носьбіты германскіх імёнаў Віршула, Сірпуць, Гостык і Радзівіл;
Лонгвін (сястрэнец в.к.л. Міндоўга); Лынгвен, Лугвеній (сын в.к.л. Альгерда, пачынальнік княскага роду Мсціслаўскіх); Лонгвін (ЗЛМ): мабыць, ад старагерм. lung- “хуткі” + він = “хуткі сябр”; былі герм. імёны Lungan, Lungwinda, Langwich;
Любарт (сын в.к.л. Гедыміна): пашыранае герм. імя Lubert, Leubrad, Liubarat; люб + рад = “рада міласці”;
Любка (сын к. Войны † 1341 г.): “любы, мілы”; было гоцк. імя Liubita, германскае Lubo;
Лютавор (бацька в.к.л. Віценя), Літавор (Храбтовіч, падскарбі дворны ад 1485 г.): пашыранае герм. імя Liutward, Liutwert; лют + герм. ward “ахоўнік” = “ахоўнік народу”;
Майшагайла (б. 1388 г.): гоцк. maiþms “падарунак” + гайл = “падарунак жвавасці”;
Манівід (Монтвід) (стараста віленскі ад 1396 г., пачынальнік ш.р. з сядзібамі ў Жупранах і Вішневе): герм. man “чалавек” + від = “чалавек моцы”, або мунт + від = “моц гарлівасці”; было герм. імя Monvindis;
Мантыгайла (ВР1401): мунт + гайл = “жвавая гарлівасць”;

Мантыгерд (ВР1401, намеснік полацкі ў 1398 г., пачынальнік ш.р. з сядзібамі ля Салечнікаў): мунт + герд = “гарлівасць аховы”;
Маргер (б. 1336 г.): герм. Margger; гоцк. marh “конь” + гер = “конь войска”;
Матвік (б. 1372 г.): герм. Medovicus; гоцк. maþa “добры, пачэсны” + віг = “пачэсная бойка”;
Маўкольд (л.к. Вільні, бацька в.к.л. Міндоўга): герм. malsks “шалёны, пыхлівы” + валд = “пыхлівы ўладаю”; былі герм. імёны Malchenolf, Malchard, Mahdold;
Ментвін (б. † каля 1387 г.): гоцк. minþs “памяць” + він = “памяць сябра”;
Міклоўса (дачка к. Кейстута): гоцк. mikils “вялікі, дужы” + гоцк. lausa “воля” = “дужая воля”;
Мікус, Міцусь (Гр1413; тс. ш.р. Мікашаў на Віленшчыне): герм. Micca; ад гоцк. mikils “вялікі, дужы”;
Мілус (ВР1401): герм. Milis, Melus; “мяккі, прыязны”;
Мінгайла (л.к. Наваградка; тс. стараста віленскі ад 1393 г., ВР1401, Гр1413; тс. ш.р. Мінгайлаў на Віленшчыне): мін + гайл = “жвавы думкамі”; было герм. імя Minigo;
Міндоўг (в.к.л. 1238–1263 гг.): мін + даўг = “здольны мысленнем”;
Мінімунд (Гр1413), Мінмонт (б. 1442 г.): мін + мунд = “гарлівы думкамі”; было герм. імя Munimund;
Монстаўд (Манстольд) (Гр1413): монс + таўд = “імкненне роду”, або монс + стольд = “які набывае імкненне”;
Монствід (Гр1413): монс + від = “моц імкнення”;
Монтаўт (стараста салечніцкі ад 1422 г.; тс. ш.р. Монтаўтаў на Віленшчыне): мунт + таўт = “гарлівасць роду”; было герм. імя Teutmunt;
Монтвід (сын в.к.л. Гедыміна; тс. б. каля 1388 г.): мунт + від = “моц гарлівасці”; РР тлумачыць імя як “святло Віды” – мабыць, “палкасць Віды”;
Монтвіл (л.к.; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Монтвілаў на Віленшчыне), Мантывіл (б. 1388 г.): мунт + віл = “гарлівая воля”; былі герм. імёны Mantuvin, Willmant;
Монтрым (Гр1413; тс. ш.р. Мантрымовічаў на Віленшчыне): мунт + рым = “непарушная гарлівасць”;
Надоба (б. 1413 г.): гоцк. naudaba “патрэбна, канечна”;
Нарбут (б. 1440 г., пачынальнік ш.р. з сядзібамі ля Няменчына і Лынгменаў): нар + бут = “захаваны корань”;
Нарвід (ш.р. Нарвідаў-Рачкевічаў на Віленшчыне): нар + від = “захаванне моцы”;
Нарвіла (ш.р. Нарвілаў на Віленшчыне): нар + віл = “захаванне волі”;
Нарвойна (ш.р. Нарвойнаў на Віленшчыне): нар + войн = “захаванне шчаснасці”;
Нарвойша (ш.р. Нарвойшаў на Віленшчыне): нар + войш = “захаваны на паляванні”;
Нартаўт (б. 15 ст., пачынальнік ш.р. Нартаўтавічаў): нар + таўт = “захаванне роду”;
Нарымунт (сын в.к.л. Гедыміна, пачынальнік княскіх родаў Патрыкеевых, Хаванскіх, Булгакавых і інш.; тс. ш.р. Нармонтаў на Віленшчыне): нар + мунт = “захаванне палкасці”; РР тлумачыць імя як “канец святла”; было герм. імя Nordmund;
Наць, Нацко (б. 1347 г.; тс. ш.р. Нацэвічаў, Нацкевічаў на Віленшчыне), Начко (Гр1413; кашталян троцкі ад 1452 г.): герм. Natto, Naze; ад старагерм. naþ “міласць”;
Нетымер (к. 1009 г.): герм. Nidmar; нет + мер = “славуты злосцю”;
Ніхна (к. 1359 г.): былі герм. імёны Neccho, Nichar; ад герм. nichus “дробязь”;
Нода (б. 1290 г.): герм. Noto; ад гоцк. nauds “патрэба”;
Нявойст (б. 1393 г.): герм. Neosta; ад гоцк. niujis “новы”;
Остык (Гостык, Гастык) (С1398, Гр1413, кашталян віленскі ад 1418 г.): герм. Gasticho; “вандроўнік”;
Прэзгінд (Прыжгінт) (ВР1401, намеснік полацкі ў 1439 г.; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Прыжгінтаў на Віленшчыне): прэз + гінд = “каштоўныя чары”;
Прэйбут (ЗЛМ): прэз + бут = “каштоўны корань”;
Прэсмонт (ш.р. Прышмонтаў на Віленшчыне): прэз + мунт = “каштоўны палкасцю”;
Рагвалод (л.к.): раг + валд = “вырак улады”;
Радзівіл (ВР1401; тс. маршалак дворны ў 1420 г., пачынальнік ш.р. з сядзібамі ў Упніках і Мусніках; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Радзівіловічаў на Віленшчыне): рад + віл = “рада волі”; былі герм. імёны Radvich, Radowin, тс. было пашырана імя Willirad;
Ратаўт (ЗЛМ; тс. ш.р. Ратаўтаў на Віленшчыне): герм. Rattolt, Ratholt; рад + таўт = “рада роду”;
Рокуць (б. † каля 1388 г.; тс. Гр1413): герм. Rocco, Rochus, Roccula; “рык”;
Ромвальт (Румбальд) (маршалак земскі ад 1412 г.): герм. Romualt, Rumbold; ром + валд = “слаўны ўладаю”; або ром + bald “смелы, адважны” = “слаўны адвагаю”;

Рукля (сын в.к.л. Міндоўга): герм. Roecila, Ruccko; "які рыкае";
Рымавід (Гр1413, пачынальнік шляхецкіх родаў Забярэзінскіх, Аляхновічаў, Дарагастайскіх; тс. стараста берасцейскі 1459 г.; тс. ш.р. Рымвідаў-Міцкевічаў на Віленшчыне): рым + від = "непарушная моцнасць";
Рымгайла (ЗЛМ; тс. ш.р. Рымгайлаў на Віленшчыне): рым + гайл = "непарушная ганарыстасць"; было герм. імя Rihheil;
Рымтаўт (б. † каля 1449 г.): рым + таўт = "непарушны род";
Рымунт (сын в.к.л. Тройдзеня), Рымант (б. 1389 г.): рым + мунт = "непарушная гарлівасць"; было герм. імя Rihmund;
Рынгала (дачка к. Кейстута): "кольца"; было гоцк. імя Ringilio;
Рынгольт (л.к. Навагрfavouradka): герм. Ringolt; рынг + валд = "кольца ўлады";
Савігайла (б. † каля 1440 г.): сав + гайл = "жвавае сонца";
Савігін (б. † каля 1388 г.; тс. ЗЛМ): сав + гін = "зачатак сонца";
Савімонт (ЗЛМ): сав + мунт = "гарлівасць сонца"; было герм. імя Semund;
Савірым (ЗЛМ; тс. ш.р. Саўрымовічаў на Віленшчыне): сав + рым = "непарушнае сонца";
Саймунт, Саймонт (б. 1379 г.; тс. ЗЛМ): герм. Seimund, Seymund; відаць, ад гоцк. saio "вястун" + мунт = "вястун гарлівасці";
Сак, Сака (Гр1413, пачынальнік ш.р. Саковічаў з Няменчына): герм. Sacco, Sack; ад гоцк. sakjo "спрэчка";
Сангаў (Гр1413), Сангушка (сын к. Фёдара Альгердавіча, тс. род Сангушкаў ад яго), Сонгаў (ЗЛМ; тс. ш.р. Сонгінаў, Санговічаў на Віленшчыне): ад герм. sangwa, гоцк. saggws "спеў"; былі герм. імёны Sanchard, Sancho, Sancke;
Сарвід (ЗЛМ; тс. імаверна 'Сиръвидъ' пад 1256 г.): герм. Sarvidis; сар + від = "зброя моцы";
Сарман (цівун Жыжмарскі, ЗЛМ): герм. Saraman; сар + герм. man "чалавек" = "чалавек зброі";
Саўгут (б. 1386 г.): сав + гуд = "Боскае сонца";
Свалегед (л.к.; тс., відаць, Swelgate пад 1205–1221 гг. з хронікі Генрыка Латвійскага): сваль + гед = "пышнае полымя"; было герм. імя Swallehart;
Свальген (Свялкеній) (брат в.к.л. Тройдзеня † да 1282 г.; тс. ш.р. Свалькеняў на Віленшчыне), Жваліген (ЗЛМ): сваль + гін = "пачатак полымя";
Свівіл (ВР1401, брат кашталяна віленскага Мінгайлы): свін + віл = "магутная воля"; было герм. імя Williswind;
Свігайла (ВР1401): свін + гайл = "магутны жвавасцю"; было герм. імя Gailswindis;
Свідрыгайла (в.к.л. 1430–1432 гг.): герм. імя Swidirih "магутны гаспадар" + гайл = "гаспадар, магутны свавольствам";
Свімунт (б. 1394 г.): свін + мунт = "гарлівасць моцы"; было герм. імя Swidmuot;
Свінтарог (л.к., тс. б. 15 ст.): свінт + раг = "магутны вырак";
Сірпуць (брат в.к.л. Тройдзеня † да 1282 г.; тс. б. каля 1380 г.; тс. ЗЛМ): былі герм. імёны Serpwin, Scerpholt; ад старагерм. sarph, scearp "востры, жорсткі";
Скамунт (С1398), Скуманд, Скаламунд (яцвяскі к. † 1284 г.): скалк + мунт = "слуга гарлівасці";
Скіргайла (л.к.; тс. сын в.к.л. Альгерда; тс. ш.р. Скіргайлаў на Віленшчыне): скір + гайл = "чыстая жвавасць";
Скірмунт (л.к.; тс. ш.р. Скірмунтаў на Піншчыне): скір + мунт = "чыстая гарлівасць" або "ясны розум"; было герм. імя Scaramunt;
Скіртаўт (б. 15 ст.): скір + таўт = "чысты род";
Спрудэйка (к. 1219 г.): відаць, ад герм. sprutan "шунаць, пукацца", нямецкага sprudeln "віраваць, крынічыць"; былі герм. імёны Sprutho, Sprozwart;
Спэра (л.к.): герм. Sperus; ад герм. sper "кол, дзіда";
Стэг (сын л.к. Альгімунта, † 1212 г.): мабыць, ад гоцк. steig- "уздым";
Стэйгівіл (ВР1401): гоцк. steig- "уздым" + віл = "уздым волі"; было герм. імя Steigunt;
Судымунт (к. † 1394 г.; тс. чашнік дворны 1409 г.): мабыць, ад гоцк. sauþa "вобраз" + мунт = "вобраз гарлівасці"; былі герм. імёны Sudo, Sodilmunt;
Сунгайла (С1398, Гр1413, кашталян троцкі ад 1413 г.; тс. ш.р. Сангайлаў на Віленшчыне): сун + гайл = "сапраўдная жвавасць"; было герм. імя Sunichilo;
Сурвіла (к. 1336 г.; тс. брат кашталяна віленскага Мінгайлы, ВР1401; тс. ш.р. Сурвілаў-Сурвіловічаў на Віленшчыне): сур + віл = "заклён волі";
Сургайла (ВР1401; тс. ЗЛМ), Сыргайла (б. 1291 г.): сур + гайл = "заклён жвавасці"; было герм. імя Sarahailo;
Сургаўд (б. † каля 1431 г.): сур + гаўд = "заклён цноты"; былі герм. імёны Siriaud, Saregaud;

Сургут (Гр1413): сур + гуд = “Боскі заклён”;
Сурконт (б. 1379 г.; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Сурконтаў на Віленшчыне): сур + гунт = “заклён бітвы”;
Сурмін (староста Вялены ў 1372 г.): сур + мін = “заклён кахання”;
Сурмонт (ЗЛМ): сур + мунт = “заклён гарлівасці”;
Сур’ят (б. 1388 г.): сур + ят = “заклятае дзіця”;
Сутарт (ЗЛМ): сут + торт = “мажнасць спакою”;
Сутынк (л.к.), Сутка (сын Андрэя Гелігунта з Гр1413), Сутыла (ЗЛМ): герм. Suto; “рахманы”;
Таль (ш.р. Таляў на Віленшчыне): герм. Tallo; “дасціпны”;
Талівойша (сын Андрэя Гастоўта, ВР1401; тс. ш.р. Тальвашаў-Тальвашэвічаў ад Талівойшы, сына Мінгайлы, старасты ашмянскага): тал + войш = “дасціпны паляўнічы”;
Талімунт (к. Свірскі 1449 г.; тс. род Тальмонтаў ад яго): тал + мунт = “гарлівая дасціпнасць”;
Талмут (ЗЛМ): герм. Talamot; тал + мут = “дух дасціпнасці”;
Талунт (к. † каля 1398 г.): “дасціпны”;
Тальят (Ч1431; тс. ш.р. Талятаў на Віленшчыне), Талют (к. Гедройцкі 1451 г.): тал + ят = “дасціпнае дзіця”;
Таўбут (б. † каля 1413 г.): таўт + бут = “камель роду”; было герм. імя Teutobod;
Таўтвід (б. 1440 г.): герм. Teudoidis, Teudwit; таўт + від = “дрэва роду” або “моц роду”;
Таўтвіл (пляменнік в.к.л. Міндоўга, к. Полацка да 1263 г.; тс. сын к. Кейстута; тс. ЗЛМ): таўт + віл = “воля роду”; былі гоцк. імёны Theudila, Totila, герм. Teodwal, Deowilh, Theodowin;
Таўтвойша (ш.р. Таўтвойшаў на Віленшчыне): таўт + войш = “род паляўнічых”;
Таўтыгерд (Гр1413, староста майшагольскі ў 1434 г.): герм. Teutgerdis; таўт + герд = “ахова роду”;
Таўтыгінд (С1398, ВР1401): таўт + гінд = “чары роду”;
Таўтымін (б. 1444 г.; тс., відаць, ‘Тюдиямин’ пад 1262 г.): таўт + мін = “памяць роду”;
Трабус (л.к.; тс. тапонім Трабы): былі герм. імёны Trabini, Trapold; ад гоцк. draban “сячы”;
Трайнята (Тройнат) (в.к.л. 1263–1264 гг.): былі герм. імёны Throant, Truantdo, Troannus; ад герм. thrau “помста”;
Тройдзень (в.к.л. 1270–1282 гг.): відаць, ад старагерм. treud- “цяжар”;
Трыд (ваявода в.к.л. Тройдзеня, 1275 г.): гоцк. þridja “трэці”; былі герм. імёны Tridmund, Tridlindis;
Цвербут (староста берасцейскі 1413 г.; тс. ЗЛМ): цвер + бут = “корань ваяўнічасці”;
Цвермунт (ЗЛМ): цвер + мунт = “гарлівая ваяўнічасць”;
Чупа (Гр1413): гоцк. skuppa “чуб”;
Шадыбор (брат маршалка дворнага Кясгайлы): шад + бар = “абарона нараджэння”;
Эйвід (ЗЛМ): эй + від = “лязо моцы”; было герм. імя Einswid;
Эйвільд (Гр1413; тс. ЗЛМ): эй + вільд = “дзікае лязо”; было гоцк. імя Vivildus;
Эйгайла (б. 1303 г.): эй + гайл = “жвавае лязо”;
Эйгінт (б. 1360 г.), Эгінт (ЗЛМ): герм. Egind; эй + гінт = “чароўнае лязо”;
Эйгірд (ш.р. Эйгірдаў-Залескіх, Эйгірдаў-Адынцоў на Віленшчыне): герм. Eichert, Eichhardt; эй + герд = “лязо аховы”;
Эйнар (б. 1390 г.): герм. Einar; эй + нар = “захаванае лязо”;
Эйрам (ЗЛМ): эй + ром = “лязо славы”;
Эймант (Эйсмант) (ш.р. Эймантаў, Эйсмантаў на Гарадзеншчыне і Віленшчыне): герм. Eemund, Eumund; эй + мунт = “гарлівае лязо”;
Эрык (к. Свірскі 1432 г.): герм. Erich, Eeric, Eriko; ад герм. era “чэсць”;
Юндыл (ш.р. Юндылаў на Ваўкавышчыне): ад гоцк. junda “маладосць”; было гоцк. імя Iudila;
Явойша (ш.р. Явойшаў на Віленшчыне): я + войш = “сапраўдны паляўнічы”;
Ягайла (в.к.л. 1377–1386 гг.; тс. к. Гедройцкі 1431 г.; тс. ЗЛМ; тс. ш.р. Ягелавічаў на Віленшчыне): я + гайл = “сапраўды жвавы”;
Ягаўд (ш.р. Ягаўдаў на Віленшчыне): я + гаўд = “сапраўды годны”;
Ягінт (староста лідскі ў 1433 г.): я + гінд = “сапраўды чароўны”;
Ядат (Гр1413), Ядут (б. 1379 г.; тс. ЗЛМ): “нашчадак”;
Ямант (л.к.; тс. к. Клецка ў 1398 г.; тс. ш.р. Ямантаў-Ямантавых на Віленшчыне): я + мунт = “сапраўды гарлівы”;
Ятаўт (ЗЛМ; тс. ш.р. Ятаўтаў на Віленшчыне): ят + таўт = “нашчадак роду”;
Ятвід (б. 14 ст.): ят + від = “дзіцё моцы”;

Як бачым, патлумачаныя з усходнегерманскіх моў фарманты ў імёнах літоўскае шляхты добра стасуюцца паводле сэнсу ды наогул выяўляюць яўную прыналежнасць да ўсходнегерманскіх імёнаў. З 289 вышпісаных імёнаў літвінаў 11–15 стагоддзяў 65 маюць дакладныя адпаведнікі сярод германскіх імёнаў (Альгімунт – Alhmunt, Віцень – Wittenus, Таўтыгерд – Teutgerdis, і г.д.). Тлумачэнні Раўданскага рукапісу (імёнаў Монтвіда, Нарымунта, Альгерда і Кейстута) трохі розняцца ад нашых тлумачэнняў, што можна патлумачыць адрозненнем зыходнае мовы ад матэрыялу, якім мы карысталіся (пераважна на грунце гоцкае мовы); між тым, у выпадках тлумачэнняў імёнаў Монтвіда, Нарымунта і Кейстута маем выяўную блізкасць сэнсу. Наогул, у святле ўсяго разгледжанага матэрыялу ўсходнегерманскае паходжанне літоўскае шляхты не можа выклікаць сумневаў.

Адсюль робіцца зразумела, што тэорыя аб аўтахтонным балцкім паходжанні літоўскае шляхты і яе роднасці з жамойтамі, якая была створана і актыўна пашырана езуітамі ў 16–17 ст. і ўжываецца ў якасці адзінае тэорыі этнічнага паходжання літвінаў і сёдня, ёсць проста фікцыяй, кабінетнай выдумкай езуіцкае антыгістарычнае прапаганды, скіраванай на разбурэнне сапраўднае гісторыі Вялікага княства Літоўскага. “Балцкая” тэорыя не пацверджана нічым наогул (у тым ліку і імёнамі). “Балцкая” тэорыя не адлюстроўвае ніякія гістарычныя рэаліі, яна была проста снасткаю палітычнага змагання езуітаў проці літоўскай Рэфармацыі і нацыянальнага адзінства тытульнага народу літоўскага гаспадарства. Разам з разбуральнай праграмай Контррэфармацыі, распачатай пасля выбуху евангеліцкага адраджэння ў Літве, езуіты распачалі таксама цэлую ідэалагічную праграму па скажэнні гісторыі Літвы: замест сапраўднае гісторыі славянізацыі германскае шляхты Літвы (выкладзенае ў літоўскіх летапісах і добра вядомае езуітам) езуіцкая тэорыя мусіла распавядаць аб паходжанні літоўскае шляхты і створанага ёю гаспадарства ад мясцовых паўдзікіх балцкіх плямёнаў, што рабіла адзіным “цывілізацыйным” чыннікам гісторыі Літвы вылучна каталіцкі касцёл (з той жа мэтай езуіцкая прапаганда пачала пашыраць гратэскныя, чыста фантастычныя плёткі аб “балцкім паганстве” Літвы, якое быццам было галоўнай рэлігіяй ВКЛ да Крэўскай уніі). Калі за часоў ВКЛ гэтая тэорыя ніяк не была прынята літоўскаю шляхтаю і мела выгляд маргінальных калянавуковых практыкаванняў, то пасля падзелаў Рэчы Паспалітае гэтая езуіцкая прапагандысцкая схема сталася ў 19 стагоддзі адзінаю “навуковаю” версіяй гісторыі Літвы.

Як бачым, літоўская шляхта да 14 стагоддзя сапраўды захоўвала ў нейкай меры сваю этнічную адметнасць і свядомасць. Але гэтая этнічная адметнасць была не балцкая, а германская. Літоўская шляхта гарліва захоўвала свае старажытныя германскія імёны, апавяданні аб сваім паходжанні (якія ўвайшлі ў летапісы Вялікага княства Літоўскага), недзе да 13 стагоддзя, як можна меркаваць, захоўвалася ва ўжытку спачатная германская мова літвы. Але з стварэннем Вялікага княства Літоўскага германскі элемент стаў на шлях няўхільнае славянізацыі і яго этнічная адметнасць стала захоўвацца адно ў імёнах – з гледзішча мовы і культуры ўжо ў 14 стагоддзі літоўская шляхта, безумоўна, была славянскаю. Як і германцы-франкі ў раннесярэднявечнай Францыі і германцы-русы ў раннесярэднявечнай Русі, германцы-літвіны за стагоддзе пражывання ў створаным імі гаспадарстве цалкам асіміляваліся з яго народам і прынялі яго мову, прытым надаўшы народу гэтага гаспадарства свой назоў.

Германскі элемент Літвы імкнуўся злучыцца з славянскім элементам і апаноўваць славянскія ўдзельныя княствы ў складзе Вялікага княства Літоўскага: яшчэ за першага вялікага князя літоўскага Міндоўга яго сваякі селі на княжанні ў Навагradку, Крэве, Полацку, Друцку. Ля Віліі і вышняга Немана мелі свае старажытныя вотчыны князі Гедройці, Гальшанскія, Свірскія, Талунтовічы. У 14 стагоддзі князі-Гедымінавічы займалі княскія стальцы ў Полацку, Віцебску, Горадні, Бярэсці, Пінску, Заслаўі, Слуцку, Мсціславе і распачалі княскія дынастыі Заслаўскіх, Сангушкаў, Чартарыйскіх, Алелькавічаў і інш. На ўсіх землях Вялікага княства Літоўскага сяліліся і літоўскія баяры, якія распачалі шляхецкія роды Радзівіловічаў, Бутрымовічаў, Аляхновічаў, Дарагастайскіх, Забярэзінскіх, Завішаў, Шэметаў і інш. Германскі элемент літоўскае шляхты цалкам славянізаваўся і злучыўся з славянскім народам ВКЛ, захаваўшы адно памяць аб сваім адметным этнічным паходжанні (адрозным як ад славянаў, так і ад балтаў) праз захоўванне германскіх імёнаў і летапісных апавяданняў аб сваім паходжанні. Як паказуюць прыдворныя летапісы ВКЛ ды вышпісанае сведчанне Яна Цадроўскага, яшчэ ў 16–17 ст. літоўская шляхта працягвала (насуперак

езуіцкай прапагандзе аб роднасці літвінаў з жамойтамі) памятаць аб сваім германскім этнічным паходжанні і адрознасці ад балтаў – пры гэтым цалкам злучыўшыся ў нацыянальным плане з славянскім народам ВКЛ і надаўшы яму свой назоў “літвінаў”. Як дробныя баяры, так і буйнейшыя паны Гастоўты, Манівіды, Мантыгерды, Давойны, Радзівілы і іншыя ўжо за часу вялікага князя Вітаўта называліся Івашкамі, Пятрашкамі, Алёхнамі, Андрушкамі, Станькамі, Міцькамі і г.д., менавалі беларускую мову “народнаю” (гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”). Тое, што германскі элемент Літвы рассяліўся па ўсім уласна Літоўскім княстве і чыста асіміляваўся з яго славянскім жыхарствам, ясна відаць з чысленых запісаў Літоўскае метрыкі, попісаў войска ВКЛ і іншых чысленых матэрыялаў.

У той жа час, германскі элемент Літвы, за выняткамураднікаў і дзяржаўцаў, мала сяліўся ў Жамойці і амаль не змешваўся з яе балцкім жыхарствам. Адно ў панямонскіх местах Жамойці (Вялене, Эйраголе і інш.), дзе здаўна адбывалася германская каланізацыя, яшчэ ў 15 ст. знаходзім многа ўсходнегерманскіх імёнаў шляхты і нават простага люду (такіх жа, як у Літве): Гайлімін, Гінівіл, Торвід, Даўгерд, Эйтвілт, Сутарт, Відыгайла, Гедывід, Тальят, Ятаўт, Даўгоўд, Талівойша і інш. [47]. Шмат такіх германскіх імёнаў шляхты ў панямонскіх местах бачым у попісе войска ВКЛ 1528 г. (намнога менш – на поўначы Жамойці). Тут, відаць, здаўна адбывалася частковае змяшанне германскага элемента з мясцовым балцкім. Але зусім не выпадае казаць аб поўным распушчэнні германскага элемента ў балцкім асяроддзі Жамойці: германскі элемент у Жамойці, як і ў Літве, складаў пераважна шляхту, якая (гэтак жа, як і ў Літве) чыста славянізавалася ўжо ў 14 стагоддзі і, безумоўна, адрознівала сябе ад мясцовых балтаў-жамойтаў. З попісу войска ВКЛ 1528 г. ясна відаць, што шляхту паўднёвай (панямонскай) часткі Жамойці амаль цалкам складаў славянізаваны германскі і чыста славянскі элемент, балты складалі толькі мізэрную яе частку (большую частку шляхты складалі балты на поўначы Жамойці). Гэтая шляхта, безумоўна, адносіла сябе да народу літвінаў, а не да жамойтаў. Адсюль паўставалі скаргі жамойтаў на тое, што ўрады ў Жамойці дзяржалі “литва” і “русь” [48]. Калі ў 16 стагоддзі вялікі князь дазваляў жамойтам выбіраць і мецьураднікаў з мясцовага жамойцкага жыхарства на ўмовах “за прычыною [т.б. пад наглядам] шляхты”, то мелася на ўвазе якраз гэтая нябалцкая шляхта літвінаў у Жамойці. На адрозненне ад балтаў Літвы, якія славянізаваліся і ўвайшлі ў народ літвінаў, жамойты былі мала закрануты славянізацыяй і захавалі сваю балцкую ідэнтычнасць і мову. Жамойты адрознівалі сябе ад літвінаў на працягу ўсёй гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У земскім прывілеі Жамойці 1441 г. вялікі князь Казімір адрозніваў Жамойць ад Літвы (“А з Литвы не маем до них през Невяжу жадного тивуна зсылать”) [49]. У земскім прывілеі 1492 г. жамойты выступаюць як апрычоны ад літвы народ, аб якім гаспадар пісаў, што яны “з доброю волею пристали” да Літвы [50]. Да 1566 г. жамойты не далучаліся да “родичей и врожонцев” Вялікага княства Літоўскага, якімі паводле Статутаў былі толькі “литва” і “русь”. У соймавых зваротах 1542 і 1554 гг. жамойцкія паслы прасілі вялікага князя літоўскага, “абы вряды в земли Жомойтской не были даваны ни Литве, а ни Руси и неоселым, одно Жомойти”. У гэтых жа зваротах разглядаліся пытанні “границы Литовское” з Жамойцю [51].

Такім чынам, сярэднявечныя літоўскія шляхцічы з этнічнага паходжання не былі балтамі – яны былі германцамі, нашчадкамі ўсходнегерманскага народу, блізкага да готаў. Гэта тлумачыць поўную абыякавасць літвінаў да балтаў і балцкай мовы. Жамойць заўсёды заставалася апрычоным ад Літвы краем, што было падчыркнута таксама ў земскіх прывілеях Жамойці вялікіх князёў літоўскіх. Няма ніякіх наогул сведчанняў аб ужыванні літоўскімі князямі і баярамі якое-кольвечы балцкае мовы. “Літоўскаю”, народнаю, гутарковаю літоўскія князі і шляхцічы 14–15 ст. наўсцяж называлі беларускую мову, а ацалелыя ў крыніцах рэлікты спачатнае мовы літвінаў ёсць (як убачым ніжэй) усходнегерманскімі, а не балцкімі. Першымі пашыраць балцкую (жамойцкую) мову ў Літве ды называць яе “літоўскаю” пачалі замежныя езуіты ў канцы 16 стагоддзя. Нават калі жамойцкая мова сталася пісьмоваю і яе актыўна пашыралі ў Літве езуіты і іншыя замежныя дзеячы, літоўская шляхта не пазнала ў ёй сваёй (нібыта “роднай”) мовы ды працягвала называць “літоўскаю” беларускую мову.

Робіцца зразумелым, чаму такі магутны народ, як літвіны, не пакінуў амаль ніякіх сведчанняў сваёй спачатнае мовы, – бо ён цалкам славянізаваўся (захоўваючы адно свае імёны) ужо ў 14 стагоддзі. Між тым, калі б літоўскі народ быў балцкім з паходжання і быццам наўсцяж захоўваў сваю "балцкую свядомасць" і мову аж да 16–17 ст. (калі езуіты пачалі пашыраць жамойцкую мову пад імем "літоўскае") – то было б чыста немагчыма, каб у створаных ім пісьмовых помніках не засталося зусім ніякіх сведчанняў аб балцкай мове літвінаў. А такіх сведчанняў няма. У многіх народаў, мовы якіх не былі пісьмовымі, засталіся ясныя сведчанні аб іхніх мовах у пісьмовых крыніцах. Напрыклад, хаця польская мова не была пісьмоваю да 16 стагоддзя, ёсць запісы ў сярэднявечных лацінамоўных крыніцах, якія падаюць прыклады польскае мовы і адназначна сведчаць аб тым, што палякі размаўлялі на польскай мове. Нават аб эстонскай мове ёсць запіс у хроніцы Генрыка Латвійскага пад 1214 г.: "лаўла, лаўла, паппі" ("спявай, спявай, поп") [52], які ясна сведчыць аб эстонскай мове эстаў. Між тым, сведчанняў аб балцкай мове літвінаў няма ніводнага. Літоўскія князі і баяры, падаўшы ў 14–15 ст. у сваіх перакладных лацінскіх і нямецкіх граматах тузіны гутарковых беларускіх слоў і выразаў, не падалі ў іх ніводнага балцкага слова (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Гэта было б немагчыма, калі б народ літвінаў быў балцкім з паходжання.

Няшмат святла на мову літвінаў пралівае паведамленне Галіцка-Валынскага летапісу, паводле якога ў 1256 г. літвіны, убачыўшы спалены горад Звягель (на Валыні), "тоужахоу же и плевахоу, по своискы рекоуще "янда", взывающе богы своя, Андая и Дивирикса" [53]. Тут "Янда" і "Андай" найбольш праўдападобна могуць быць патлумачаны гоцкім andjo "дашчэнту". "Дывірыкс" гэта Deiwas riks, Deiwe rikijs – "Госпад Бог" па-пруску; прытым riks тут ёсць яўным германізмам (ад гоцк. reiks "гаспадар, валадар"), а Deiwe – старажытным індаеўрапейскім словам, тоесным з старагерманскім Teiwa (імя бога вайны) [54]. Такім чынам, спачатнае выслоўе магло гучаць "andjo, Teiwa reiks" і быць усходнегерманскім; гэтая цьмяная звестка летапісу можа казаць або аб германізаванай прускай, або аб германскай мове літвы. Можна дадаць, што ўсе згаданыя Галіцка-Валынскім летапісам імёны літвінаў ёсць яўна ўсходнегерманскімі.

Можна прыблізна вызначыць час, калі спачатная мова літвінаў выйшла з ужытку. Калі Раўдансі рукапіс сведчыць, што ў канцу 13 ст. князь Гедымін надаваў імёны сыном з пэўным сэнсам, а Хроніка Літоўская сведчыць аб германскім паходжанні назову Трокаў (гл. ніжэй), значыць, спачатная (германская) мова літвінаў у канцу 13 – пачатку 14 стагоддзя яшчэ ўжывалася. З іншага боку, калі ў 1488 г. Раўдансі рукапіс мусіў падаваць тлумачэнні імёнаў сыноў Гедыміна – гэта яўна паказуе, што тады гэтая мова ўжо не ўжывалася. Паводле Конрада Кібурга, у 1397 г. яму ў Вільні паказвалі нейкія запісы на літоўскай мове, якія ніхто ўжо не мог зразумець [55]. Такім парадкам, 14 стагоддзе ёсць тым часам, калі спачатная (германская) літоўская мова цалкам выйшла з ужытку. У канцы 14 – пачатку 15 стагоддзя "літоўскаю" моваю ўжо паўсюды называецца беларуская мова, што адлюстроўвае поўнае злучэнне германскага элемента Літвы з яе славянскім элементам у адзін народ.

Між тым, рэлікты ўсходнегерманскае мовы літвінаў засталіся ў пісьмовых крыніцах і ва ўрадавай тэрміналогіі Вялікага княства Літоўскага. Усходнегерманскае паходжанне мае слова *господар* – ад гоцк. gastbaudes "пан госця" (ад гэтага слова паходзіць таксама царкоўнаславянскае "господь"). Усходнегерманскае паходжанне гэтага тытулу магло б патлумачыць яго прыйманне і шырокае ўжыванне вялікімі князямі літоўскімі. Як вядома, тытул "гаспадар" спярша паўстаў у Вялікім княстве Літоўскім, адсюль у 14 ст. пашырыўся ў Валахію, а пазней у Масковію, дзе займеў форму "государь" [56]. Слова *господа* ў сэнсе жытла шырока ўжывалася ў разнастайных літоўскіх крыніцах. Яркім прыкладам усходнегерманскага запазычання ва ўрадавай лексіцы ВКЛ ёсць тэрміны *сок*, *сочыть* – ад гоцк. sokjan "шукаць, дапытваць", sokja "следчы (той, хто шукае, дапытвае)". Тэрміны *сок* і *просока* ўжываліся ў Судзебніку вялікага князя Казіміра 1468 г. як азначэнні старых праўных з'яў ("а просока по-старому") [57]. Назоў галоўнага падатку ў ВКЛ – *дякла* (натуральнага падатку за дзяльніцу зямлі) – несумнеўна паходзіць ад корня -дзяк- ('дзякаваць'), які сваім парадкам паходзіць ад усходнегерманскага þagk-. Усходнегерманскім ёсць назоў адной з галоўных літоўскіх гаспадарствавых устаноў – *скарбу* – ад гоцк. і бург. skarpa "аснашчанне, запас, прыправа". "Скарбам" у ВКЛ у 14 ст. называлася сховішча гаспадарствавых даходаў і рэгалій; грамата вялікага князя Вітаўта

гарадзенцам 1389 г. згадвала “повинности”, якія трэба было плаціць “до скарбу нашого” [58]. Германскага паходжання ёсць і тэрмін *скарга* (ад герм. schergen). У ВКЛ слова *скарга* ўжо ў 14 ст. было праўным тэрмінам: прывілей вялікага князя Вітаўта 1388 г. згадваў аб запазванні ў суд “через скаргу” [59]. Усходнегерманскімі з паходжання ёсць тэрміны *лихва* і *свар*, ужытыя ў прывілеі 1388 г. Усходнегерманскага паходжання ёсць праўны тэрмін *шкода* (ад гоцк. skaþis): ён быў ужыты ў Судзебніку 1468 г. і іншых праўных лістох. Усходнегерманскага паходжання ёсць і слова *хоругва* – ад гоцк. hrugga “кій”. У Вялікім княстве Літоўскім харугваю называўся сцяг з выяваю белегу павета, а харужым – павятовы кіраўнік баярства. *Хоружыи* былі згаданы ў грамаце вялікага князя Альгерда 1359 г. (гл. дад. №17), аб іхніх абавязках згадвалі і Статуты ВКЛ. Усходнегерманскага паходжання ёсць і тэрмін *скрыня* (гоцк. scrinia), які ўжо ў 15 стагоддзі азначаў месца захоўвання ключоў, дакументаў і іншых важных рэчаў розных урадавых устаноў ВКЛ [60]. Германскага паходжання ёсць шырока вядомы ў літоўскіх лістох ад 14 ст. тэрмін *кгрунт* (гоцк. grundus). Яўна ўсходнегерманскага паходжання ёсць шырока ўжываны тэрмін *рум* (гоцк. rum ‘вольнае месца’). Імаверна, усходнегерманскім з паходжання ёсць шырока вядомы літоўскі тэрмін *копа*, які азначаў пэўную колькасць любога тавару аднаго кошту (ад гоцк. kaupa “купля”). Усе гэтыя словы маглі трапіць ва ўрадавую лексіку адно з жывой усходнегерманскай мовы – такім парадкам, гэтыя праўныя і пабытовыя тэрміны ёсць яркім сведчаннем аб ужыванні яшчэ ў 13–14 ст. літоўскаю шляхтаю ўсходнегерманскае мовы.

Шэраг неславянскіх праўных тэрмінаў ВКЛ (лейці, бонда, борг, коймінцы і інш.), якія сёдня беспадстаўна лічаць “балцкімі”, ёсць яўна германскага паходжання. Гэтак, яўна германскаю з паходжання ёсць літоўская катэгорыя лейцяў, асноўныя рысы якой тоесны германскай катэгорыі летаў (літаў), вядомай яшчэ ў германскіх “барбарскіх” праўдах 6–8 ст. Германскія леты характарызаваліся наступнымі рысамі: 1) леты былі слугамі, якія пры жаданні маглі выкупіцца з служэбнага стану; 2) леты былі паўсвабоднымі: яны знаходзіліся ў залежнасці ад гаспадара, але мелі частковую праваздольнасць; 3) леты былі дзяржаўцамі зямлі гаспадара, за якую плацілі грашовы падатак [61]. Чыста такія ж рысы мелі літоўскія лейці – служкі гаспадарскіх двароў і гаспадарскія зямельныя дзяржаўцы на чыншу [62]. Назоў гэтага старажытнага стану, відаць, паходзіць ад гоцкага leits “дазволены, адпушчаны”. З. Зінкевіч заўважыў, што інстытут лейцяў не мог быць летувіскага паходжання дзеля нястачы ў летувіскай мове дыфтонгу -ей-, і лічыў гэты інстытут у ВКЛ запазычаным [63].

Тэрмін *борг* ‘пазыка’ ёсць яўна ўсходнегерманскага паходжання – ад гоцк. baurgs “пабор, плата”. Шырока вядомы ў літоўскім праве (у тым ліку ў Статутах) тэрмін *бонда* (пабочны набытак прыгоннага селяніна з дзяльніцы гаспадара, таксама рухомая маёмасць прыгоннага) ёсць несумнеўна германскага паходжання: корань -bond- у розных германскіх мовах быў зніташаны з станам нявольніка, прыгоннага (па-гоцку bandja). Яўна германскага паходжання ёсць тэрмін *койминцы* (залежныя сяляне, якія жылі не ў двару гаспадара, а асобнай хатай) – ён яўна паходзіць ад усх.-герм. haims, старагерманскага koimo “хата”. Няма ніякіх падстаў казаць аб балцкім паходжанні катэгорыі “райтынікаў” – слуг, якія пераганялі гаспадарскіх коней [64]: паходжанне гэтага тэрміна ёсць яўна германскім (гоцк. raidjan “ехаць конна”). Назоў падатку *мезлева* можа паходзіць ад гоцк. mimz “мяса” і lewa “нагода, прычына, загад”; такім парадкам, гэтае слова ва ўсходнегерманскай мове магло азначаць падатак мясною страваю – што яно і азначала ў літоўскім праве [65].

Як бачым, ва ўрадавай тэрміналогіі Вялікага княства Літоўскага былі некаторыя праўныя тэрміны і рэаліі ўсходнегерманскага паходжання, якія дапаўнялі звычаёвае права беларускіх зямель, на якім быў збудаваны ўрадавы лад ВКЛ. Германскі элемент, будуючы гаспадарства, знайшоў у беларускіх княствах ужо гатовы ўрадавы лад, які быў напоўніцу ўзяты для ўспраўлення гаспадарставае сістэмы Вялікага княства Літоўскага. У тых месцах, дзе ў беларускім праве не было адпаведнікаў інстытутам, вядомым германцам, былі ўзяты, як бачым, старажытныя рэаліі з звычаёвага права германскага элемента. Такім чынам, заміж таго каб казаць аб нейкім фантастычным “сінтэзе балцкага і рускага права”, насамрэч трэба казаць аб сінтэзе ўсходнегерманскага і рускага права пры ўспраўленні ўрадавага ладу Вялікага княства Літоўскага.

У пісьмовых крыніцах захаваліся рэлікты ўсходнегерманскае мовы літвінаў. Гэтак, у мове літоўскіх князёў яшчэ ў 14 ст. ужываўся стары германізм “горазд” – ад гоцк. garazd

“разумна, узважана, прыязна”. У славянскіх мовах гэтае слова набыла сэнс “добра, моцна”. Але ў яго першасным германскім сэнсе (“разумна, прыязна”) гэтае слова ўжывалі князі Кейстут і Вітаўт у сваіх размовах, запісаных у прыдворных літоўскіх летапісах: “Якгайло жыветь со мною горазд”, “ты с ним гораздо жывеш” [66]. Няма сумневаў, што ў летапісах была запісана жывая мова Кейстута і Вітаўта. Такім чынам, маем рэлікт усходнегерманскае мовы ў вуснах вялікіх князёў літоўскіх. Цікавы рэлікт мовы літвінаў падаюць літоўскія летапісы. Паводле іх, літвіны на працягу доўгага часу захоўвалі прывітальны спеў з воклічам “лада, лада”. Гэтак, у 1264 г. у Кернаве “вси панове, бояре и все посполство” сустракалі вялікага князя Войшалка, “ладо, ладо взываючы”; у 1322 г. вялікі князь Гедымін “вернулся до Литвы з великим звитязством и был от всих з великою радостю и з великим поклоны, “лада, лада” спеванем и труб долгих гученем прынятый”. Вялікі князь Альгерд у 1370 г. “ехал до Вилня, где вышло против ему все посполство, плещучы руками, спевали “ладо, ладо”, ведлуг обычаю поганского, оказуючы радость с повороту князя своего” [67]. Вокліч “лада, лада” вядомы ў спевах розных славянскіх народаў, якія знітаваны з абрадамі запрашэння. Паходжанне гэтага слова дагэтуль не высветлена, хаця дапускалі яго ўсходнегерманскае паходжанне. Хутчэй за ўсё, гэты вокліч паходзіць ад гоцк. laþon “клічам, запрашаем” і ўзыходзіць да часоў насычэння славянскіх моў усходнегерманскаю лексікаю. Такім чынам, вышпісаныя звесткі летапісаў кажуць або аб усходнегерманскай, або аб славянскай мове літвінаў.

Усходнегерманскімі з паходжання ёсць вельмі прадуктыўныя ў старабеларускай мове суфіксы -ар (валадар, святар) і -зна (айчызна, даравізна). Варта адзначыць, што ва ўсходнегерманскіх мовах быў пашыраны суфікс -isk-: такім чынам, так менаваная “лінія Сафарэвіча” (мяжа перавагі паселішчаў з назовамі на -ішкі ў Панямонні) не абавязкова знітавана з балтамі.

У беларускай мове захаваліся наступныя словы ўсходнегерманскага паходжання: вагацца (wagjan), вараваць (waron), гартаваць (hardjan), гаспода, гаспадар (gastbaudes), лаяць (laian), лек (lekeis), ліхва (leihwa), наўда (nauds), рабаваць (raubon), свара, сварыцца (swara, swaran), скарб (skarpa), скрыня (scrinia), таймаваць (tamjan), хвіля (hweila), шкода (skaþis) і іншыя. Гэтыя ўсходнегерманскія запазычанні ў беларускай мове і ўрадавай лексіцы ВКЛ яскрава сведчаць аб значным уплыве на беларускую мову ўсходнегерманскага элемента, прытым на самым высокім роўні. Вялікая доля германізмаў у базавай лексіцы беларускае мовы (такіх як *буда, дах, грунт, рада, дзякуй, бульба, боты, гмах, кошт, струмень, гвалт, варта, мусіць, трапіць, рахаваць*) можа тлумачыцца не толькі актыўнымі кантактамі ВКЛ з германскімі краямі, але і германскім этнічным паходжаннем літоўскае шляхты.

Усходнегерманскі ўплыў можна прасачыць і ў тапаніміі і гідраніміі Літвы. Гэтак, з усходнегерманскіх моў лёгка тлумачацца назовы рэк Сваротва, Ізва, Лахазва, Дзітва ў сярэднім Панямонні. Назоў буйнейшае прытокі Віліі – Свенты – можна патлумачыць ад гоцк. swinþs “моцны, магутны”. Яўна ўсходнегерманскімі ёсць назовы Кернава і Трокаў. Корань kern у германскіх мовах азначае “ядро” або “асяродак” – што выдатна тлумачыць, чаму наймя так была названа першая сталіца Літвы, што знаходзілася ў самым асяродку арэала літвінаў (гл. рысунак на с. 11). Паходжанне назову Трокаў (ад гоцк. þroc “імклівасць, спрытнасць”) гэткім чынам тлумачыць Хроніка Літоўская: “Гедымин <...> ехал в глубокие пущы для утехи и головнейшых ловов <...>; там уподобался ему пляц, и зараз, обославшы волости Керновские, збудовал замок <...> и назвал его Троки, для того, же що *жыво так* дворане, яко осочницы и мысливцы <...> зверу теж великого, лосей, еленей, сарн, полны возы многие наклали” [68]. Такім парадкам, Хроніка Літоўская (як і Раўданскі рукапіс, які тлумачыць сэнс імёнаў сыноў Гедыміна) сведчыць аб ужыванні літвінамі сваёй спачатнай усходнегерманскай мовы ў пачатку 14 стагоддзя. Назоў Эйраголы, якой шмат надаюць увагі летапісы ВКЛ, можа быць патлумачаны ад гоцк. airus “пасланнік” і goljan “вітаць”. Эйрагола на рацэ Дубісе была адным з першых гарадоў, заснаваных літвінамі: Раўданскі рукапіс называе яе “старажытным” местам, а легенда пра Палямона кажа, што прыбышы спярша “над Дубисою и над Немном, и над Юрою, там ся поселили и почали розмножыватися” [69]. Паводле Раўданскага рукапісу, князь Лютавор (бацька вялікага князя Віценя) адбудаваў “старажытную” Эйраголу ў 1262 г. У Эйраголе нарадзіўся ў 1232 г. і жыў Віцень, тут жа да апанавання вялікакняскага стальца жыў Гедымін [70]. Гэтыя звесткі пацвярджаюць і прыдворныя літоўскія летапісы, якія кажуць, што Віцень “был з рожаю, а с

поколенья с Колюмнов, з ыменя держачого в Жомойти, реченого Аиракгола” [71]. Такім чынам, з Эйраголаю – местам з яўна германскім назовам – была знітавана гісторыя літоўскае вялікакняскае дынастыі. Германскім, як мы бачылі, ёсць і назоў Юрбарку. У Неманска-Вілейскім міжрэччы таксама многа тапонімаў, утвораных ад германскіх імёнаў (Мантвілішкі, Сунгайлы, Гальшаны, Мантыгерды, Віршулішкі, Дарсунішкі, Сурвілішкі, Гедройці, Эйсманты і інш.), якія да мясцовага балцкага субстрату не маюць ніякага дачынення. Відавочна, уплывам усходнегерманскага (а не балцкага) элемента можа быць патлумачана культура элітарных каменных магіл, якая ў 12–15 ст. была пашырана ў вышнім Панямонні, Менскай і Барысаўскай валасцях, мела рысы хрысціянскіх пахаванняў і змяшчала рэчы, уласцівыя для германцаў [72].

Аб германскім паходжанні літоўскае шляхты сведчыць рунічная сымболіка на яе гербах. Як вядома, руны ў паўночнай Еўропе існавалі толькі ў германцаў – у балтаў ніякіх рун ніколі не было. Цалкам імаверна, што рунічнае паходжанне мае так менаваны “крэст Ярылы”, які пачасту ўжываўся на выяве гербу “Пагоня”. Рунічныя знакі ёсць на многіх пячатках і гербах літоўскае шляхты [73]. Аб тым, што літоўскія шляхцічы да Гарадзельскай уніі 1413 г. ужывалі ўласныя гербы, сведчаць літоўскія летапісы [74]. Такім парадкам, рунічная сымболіка, што ацалела на некаторых літоўскіх гербах, паходзіла ад старажытных літоўскіх геральдычных знакаў – якія, такім чынам, былі германскага паходжання. Аб ужыванні ў старажытнасці літвінамі рун пісаў Т. Нарбут [75]. На ўсходнегерманскія традыцыі паказуюць і такія звычаі літвінаў, як спадкаванне вотчыны братамі, а не дзецьмі, паднясенне (у наўпростым сэнсе, на руках) гаспадара на сталец, абрад ахвяры праз адцінанне галавы быку ды звычай удоў загінулых ваяроў сканчаць жыццё самагубствам праз абвешванне (вядомы ў герулаў).



*Троцкі замак*



*Званіца касцёла ў Сурвілішках*

Нарэшце, сведчаннем аб рассяленні ў гістарычнай Літве ўсходнегерманскага народу ды яго злучэнні з славянамі ёсць назоў “гуды”, якім на працягу стагоддзяў жамойты менавалі літвінаў-беларусаў. Гэтае жамойцкае азначэнне вядома прынамсі ад 16 стагоддзя і яго паходжанне ад саманазову готаў – guti – не выклікае ў даследнікаў сумневаў. Даследнікі прыйшлі да высновы, што гэты назоў готаў з’явіўся сярод жамойтаў у раннім сярэднявеччы (калі готы панавалі ў Прусах) і пазней быў перанесены на беларусаў таксама ў якасці азначэння блізкіх, добра вядомых “чужынцаў” з поўдня [76]. Але, між тым, не быў патлумачаны механізм такога пераносу і яго нутраны сэнс. Вядома, што вялікая лічба паселішчаў з назовамі, вытворнымі ад корня -гуд- (Гуды, Гудзелі, Гудышкі, Гудакі і г.д.), размешчана на Ковеншчыне і нават у Жамойці. Прызнана, што гэтыя паселішчы пазначалі месцы досыць вальнага пранікнення нябалцкага элемента на балцкія землі. Пры гэтым даследнікі прызналі, што час і акалічнасці паўстання гэтых назоваў незразумелы. Між тым, некаторая лічба паселішчаў з падобнымі назовамі ёсць і на Гарадзеншчыне, а таксама на Меншчыне і Віцебшчыне. Значыць, гэтыя назовы не азначалі славянскі элемент.

Супярэчнасць будзе развязана, калі прызнаць, што “гудамі” мясцовае балцкае жыхарства ў познім сярэднявеччы менавала ўсходнегерманскі элемент – гэтаксама, як і ў раннім сярэднявеччы. У часы каланізацыі літоўскім германскім элементам Панямоння (10–11 стагоддзі) ён рассяляўся па ўсіх землях Панямоння – ад паўднёвай Жамойці да Меншчыны – і мясцовае балцкае жыхарства менавала яго “гудамі” ад назову здаўна вядомых яму готаў; адсюль такая шырокая геаграфія паселішчаў з назовамі на -гуд- – уздоўж усяго Немана. Пазней, калі гэты германскі элемент славянізаваўся, жамойты перанеслі яго назоў на новую супольнасць – народ літвінаў (беларусаў). Вядома, што яшчэ ў 18 стагоддзі жамойты менавалі “гудамі” жыхароў Ковеншчыны і Віленшчыны, якія не размаўлялі балцкаю моваю. Я. Лелявель пісаў, што паселішчы з назовамі на -гуд- у гэтым рэгіёне атрымалі свае назовы ў часы пашырэння жамойцкае мовы ў 18 ст. дзеля таго, што іхнія жыхары не разумелі балцкае мовы [77].

* * *

Такім парадкам, падсумаваўшы ўвесь вышпісаны матэрыял, можна цвердзіць, што этнічнае паходжанне элемента, вядомага ў 10–13 ст. пад імем літвінаў, было не балцкім, а ўсходнегерманскім. Гэты германскі элемент прыбыў у Панямонне недзе ў сярэдзіне 10 стагоддзя, пасяліўся пераважна ў Неманска-Вілейскім міжрэччы і адразу ўступіў у шчыльныя зносіны з мясцовым славянскім жыхарствам (найперш праз ужыванне Неманскага гандлёвага шляху). Выклікае пытанні паходжанне ўласна назоваў “літва”, “літвіны” (у сярэднявечных крыніцах: литвины, Litwini, Letwanos). Даследнікі звярталі ўвагу на пашыранасць у ранніх крыніцах таксама варыянтаў Lutovia, Lutwani і на гэтай падставе казалі аб славянскім паходжанні назову літва/лютва [78] і нават аб яго паходжанні ад назову палабскіх люцічаў [79]. З улікам шэрагу яўна ўсходнегерманскіх імёнаў і тапонімаў люцічаў і летапіснага апавядання аб прыбыцці літоўскае шляхты з нямецка-данскага ўзбярэжжа сувязь гэтых назоваў можа быць імавернаю. Больш імаверным, аднак, ёсць утварэнне назову “літва” (або “лютва”) ад усх.-герм. liþus “чалец, удзельнік” або liuþs “чалавек” – у якасці азначэння ўсіх перасяленцаў з нямецка-данскага ўзбярэжжа ў Панямонне ў 10 ст. – і далейшая яго змена ў “літвіны” (або “лютвіны”) праз усходнегерманскія суфіксы -þwa і -in (liþwa, такім парадкам, мусіла б азначаць “суполка, дружына”, а liþwin – чальца такое суполкі). Наймя ў такой форме (Litua – чытаецца “Літва”) назоў краю вядомы пад 1009 г. у найстаражытнейшай ацалелай гістарычнай крыніцы – Кведлінбургскіх рочніках. Форма “літвіны”, відаць, існавала ўжо ў пачатку 11 стагоддзя (каля 1025 г. палякі ваявалі проці Letwanos і іншых “вераадступных” [80]).

Канфесійны характар назову “літвіны”, які яўна выступае ў крыніцах 13–14 стагоддзяў (гл. артыкул “Літоўскі народ 14 стагоддзя”), а таксама звесткі кардынала Пятра д’Альі (гл. дадаткі) паказуюць на тое, што ідэнтычнасць “літвы” ўжо ад 11 стагоддзя мела пэўны канфесійны сэнс. Трэба адзначыць, што ўсе ўсходнегерманскія народы ад 5 стагоддзя вызнавалі так менаванае амійства, то бо данікейскую навуку аб субардынацыянізме асоб Тройцы (часам няслушна менаваную “арыянствам”), якая сцвярджала абсалютную самаўладнасць Бога-Айца (з поўнаю падпарадкаванасцю Сына Айцу ў міласці) і нават Святому Духу адмаўляла ў самастойнай прычыннай моцы [81]. Гэтая данікейская трыадалогія захавалася і ў пазнейшым (10–15 ст.) богумільстве (катарстве), якое таксама мовіла аб субардынацыянізме асоб Тройцы, абсалютным суверэнітэце Бога-Айца ў збавенні чалавека праз самаўладную міласць абрання і немені свабоды волі ў чалавека [82]. Германцы-амійцы на працягу 5–8 ст. былі вядомы зацятым ахоўваннем сваёй веры ад захадаў рымскае царквы, а пазней, відавочна, спрычыніліся да пашырэння катарства ў тых краёх, дзе яны гістарычна складалі шляхту. Пісьменнікі 11–13 ст. нярэдка менавалі богумілаў і катараў “арыянамі”. Вядома, што ў Францыі і Італіі катарства вызнавала перадусім шляхта германскага паходжання. Тое самае мусіла адбывацца ў Літве 10–11 ст.: амійскае хрысціянства прышлага германскага элемента мусіла злучыцца ў Панямонні з мясцовым рускім богумільствам і ўтварыць “літоўскую” канфесійную супольнасць, аб паўстанні якой у 11 стагоддзі пісаў кардынал Пётр д’Альі.

У літвінаў неканоннае хрысціянства, відаць, спалучалася з народнымі абрадамі. І літоўскія летапісы, і замежныя крыніцы кажуць аб шанаванні літвінамі сонца і агня [83], а

таксама аб паленні цел нябожчыкаў. Варта заўважыць, што шанаванне агня і паленне нябожчыкаў было ўласціва не для балтаў, а якраз для германцаў, – і гісторыкі ўжо зніtoўвалі з'яўленне абраду трупапалення ў Панямонні з з'яўленнем тут германскага элемента [84]. Варта дадаць, што свяшчэнны агонь літвінаў, які гарэў да 1387 г. у іхняй галоўнай бажніцы ў Вільні, называўся славянскім паводле формы словам "зніч" [85] (можа паходзіць ад гоцк. sniwan "нарынуць, ахапіць"). Між тым, дарма што літоўскія летапісы выпісуюць язычніцкія абрады літвінаў, яны кажуць, што дакрэўская рэлігія літвінаў была вельмі падобнай да хрысціянства: "...в бога одного верыли, иж судный день мел быти, и верыли из мертвых востаня и одного бога, который маеть судити жывых и мертвых" [86].

Аб злучэнні рускага богумільства з літоўскімі народнымі абрадамі і ўтварэнні "літоўскага маніхейства" (Manicheismus Lithuanicus) пісаў кардынал Пётр д'Альі ў 1418 г. Гэты кардынал граў адну з галоўных ролей на Канстанцкім збору каталіцкае царквы 1414–1418 гг., на якім была аблічнаю вялікая літоўская дэлегацыя, ад якой д'Альі меў магчымасць атрымаць звесткі аб рэлігійнай гісторыі Літвы. У сваёй працы "Аб прыхільніках маніхейства на Русі і Літве і аб стыканні іхняе навукі з язычніцтвам", напісанай у 1418 г., кардынал д'Альі выпісаў, як у першай палове 11 стагоддзя "рускія маніхеі" (т.б. богумілы) прынеслі сваю навуку ў дамы літоўскае шляхты, якая "наўсцяж гарнулася да гэтага хрысціянства і стварыла нібыта новую сэкту літоўскага маніхейства". Паводле д'Альі, гэтае "літоўскае маніхейства" было гаспадарстваваю рэлігіяй Вялікага княства Літоўскага аж да Крэўскай уніі 1385 г. (гл. дадаткі).

Аб наяўнасці на ўсход ад Польшчы вялікае суполкі "герэтыкоў"-русінаў, не злучаных ані з рымскаю, ані з грэцкаю царквою, пісаў у сярэдзіне 12 стагоддзя (між 1143 і 1165 гг.) кракаўскі біскуп Мацей. У сваім пасланні да Бернара з Клэрво кракаўскі біскуп пісаў, што гэтыя русіны "Хрыста адно з імя вызнаюць, а ў ісце ў глыбіні душы адмаўляюць; <...> не жадае згаданы народ ані з грэцкаю, ані з каталіцкаю царквою быць адзіным, але, апрычоны ад той і ад другой, тайн жаднае з іх не падзяляе". Таксама пасланне выпісвала гэтых русінаў як "працятых аблудамі рознымі і заганнасцю герэтычнаю ад парогу іхняга наварачэння" і менавала іхнія звычаі і абрады "герэтычнымі" [87]. Такім парадкам, гэты ліст засведчыў існаванне ў 12 стагоддзі на памежных Польшчы рускіх землях неканоннае хрысціянскае супольнасці (імаверна, богумільскага характару). Гэтыя "герэтыкі"-русіны і маглі быць тымі богумілами, якія прынеслі сваю навуку ў Літву, паводле кардынала д'Альі.

Крыніцы сведчаць аб святкаванні дакрэўскімі літвінамі свята Івана Купалы (якое, насуперак канструкцыям сённяшніх міфатворцаў аб ягоным "паганскім" характару, было мясцоваю адменаю вядомага па ўсім хрысціянскім свеце свята Івана Хрысціцеля). Гэтак, крыжацкі дыпламат Конрад Кібург, які наведваў Вільню ў 1397 г. (гл. дадаткі), у сваім дзённіку пісаў: "У дзень святога Івана літвіны з даўніх часоў святкуюць разам з русінамі свята, менаванае сярод першых "Раса" (Rossa), а сярод другіх "Купала" (Kupala)" [88] ("Раса" – народны назоў Купалля [89]). У грамаце літоўскіх князёў, укладзенай ад імя вялікага князя Альгерда ў 1352 г., рокі былі азначаны хрысціянскімі святамі, у тым ліку святам Купалы: "А мир от Покрова Богородице до Ивана дне до Купале, а от Ивана дне за 2 лет" [90]. Грамата вялікага князя Вітаўта 1396 г. датавана "во вторник перед Купалы светого Ивана, месяца июня 20 дня" [91]. Азначэнне свята Купалы як дня *святога* Івана беспярэчна кажа аб хрысціянскім характару гэтага свята, аб тым, што гэта было (як і па ўсёй Еўропе) свята Івана Хрысціцеля. Варта адзначыць, што святкаванні містэрыяльнага характару ў дзень Івана Хрысціцеля былі ўласцівы для богумілаў, – напрыклад, іх як адну з прыкмет богумільства ганіў баўгарскі Барылаў сінодык 1211 году. Заўвага Кібурга аб святкаванні Купалля ля Вільні ў 1397 г. ("тут трывае адно забава, без забабонных абрадаў – нам сказалі, што цяпер нічога непрыстойнага не адбываецца") кажа аб тым, што да Крэўскай уніі літоўскія святкаванні Купалля мелі містэрыяльны характар, то бо адпавядалі богумільскай практыцы.

Археалагічныя даследванні выявілі на замкавай гары ў Вільні астачы хрысціянскае бажніцы 11 стагоддзя [92]. У Кернаве і Вільні (у тым ліку на Вышнім замку) археалагічныя даследванні выявілі багатыя пласты 12–13 ст., пакінутыя хрысціянскім жыхарствам з культурай усходнеславянскага тыпу [93]. Пашырэнне хрысціянства ў летапіснай Літве ў 11–13 ст. учыніла вялікі ўплыў на мову балтаў Літвы і нават Жамойці. Мовазнаўца К. Буга (разумеючы пад літвінамі балтаў) пісаў: "У сваёй мове мы маем багата паказнікаў на тое,

хто былі першыя пашыральнікі хрысціянскае рэлігіі ў Літве <...>. Моўныя з'явы прымусілі мяне прызнаць, што для літвінаў хрысціянства не было чыста чужым яшчэ да хросту Ягайлы. Назовы хрысціянскіх паняткаў паказуюць, што літвіны вучыліся веры ад усходу, уласна, ад беларусаў. Аб тым, што беларусы былі настаўнікамі рэлігіі, сведчаць наступныя словы: 1) назовы днёў: nedėlia (нядзеля), utarnikas (аўторак), sereda (серада) і інш.; 2) назовы святаў: kučia (куцця), velykos (Вялікдзень), verbų nedėlia (Вербная нядзеля), bloviešcios (Благавешчанне); 3) krikštas (хрост), kumas (кум), gavėnia (гавенне, пост); 4) хрысціянскія ўласныя імёны: Alena, Ulijona, Povilas, Algenia <...>. Жамойцкі дыялект захаваў для нас cirkva – вельмі стары назоў беларускае царквы. Гэтае слова ёсць найлепшым сведкам таго, што беларусы мелі свае цэрквы на жамойцкай зямлі ў 11 і першай палове 12 стагоддзя" [94]. Напрыклад, вялікі князь Ягайла ў сваім прывілеі 1389 г. менаваў касцёлы словам "божница" [95].

З. Зінкевіч на грунце свайго даследвання антрапаніміі і хрысціянскае тэрміналогіі адзначыў: "Відаць, хрысціянская царква ўсходняга абраду пачала ўплываць на Літву яшчэ ў 11 стагоддзі, але асабліва моцным уплыў быў ад другое паловы 12 стагоддзя. Бальшыня хрысціянскіх (царкоўных) тэрмінаў, у тым ліку і нейкая частка ўласных імёнаў, у літоўскую мову прыйшла ад усходнеславянскіх суседзяў яшчэ да пачатку 14 стагоддзя" [96]. З. Зінкевіч прыйшоў да высновы, што ўсходнехрысціянская хваля ў Літве 11–13 ст. "была надзвычай напружанаю і пакінула глыбокія сляды ўва ўсёй гісторыі літоўскага народу": "Да Літвы яна дайшла нашмат раней за заходнюю хвалю хрысціянства. <...> Усходняе хрысціянства дужа паўплывала на будову светапогляду і культуру літоўскага народу задоўга да афіцыйнага хросту Літвы". З усходнехрысціянскім уплывам быў знітаваны пераход балтаў Літвы на славянскую мову. З. Зінкевіч прыйшоў да высновы, што ў выніку азначаных працэсаў этнічныя балты Літвы яшчэ да стварэння Вялікага княства Літоўскага "называлі сябе літвінамі" і "размаўлялі іншаю [славянскаю] моваю ды перайшлі з язычніцтва ў хрысціянства ўсходняга абраду". Каталіцкі хрост літвінаў у канцу 14 стагоддзя З. Зінкевіч называе "у прынцыпе, ужо наваратным" [97].

Такім парадкам, гістарычныя крыніцы даюць досыць сведчанняў аб хрысціянстве Літвы яшчэ да стварэння Вялікага княства Літоўскага. Напрыклад, лацінскі аўтар, які быў аблічны на каранацыі вялікага князя Міндоўга, у сваім твору, напісаным каля 1255 г., адзначаў, што літвіны добра знаёмы з хрысціянствам, бо іх ад маленства выхоўваюць хрысціянскія мамкі [98]. Увесь вышпісаны матэрыял, разам з яўна канфесійным характарам назову "літвіны" ў крыніцах 13–14 ст., кажа аб тым, што германскі элемент Літвы ўжо ў 11 стагоддзі пад уплывам рускіх багумілаў стварыў апрычоную "літоўскую" богумільскую дэнамінацыю, надаўшы ідэнтычнасці "літвы" пэўны канфесійны сэнс, і пачаў пашыраць сваю "літоўскую" веру ў суседніх рускіх княствах, дзеля чаго сам пачаў паддавацца паступовай моўнай і культурнай славянізацыі. З гэтага робяцца зразумелымі шчыльныя зносіны Літвы 11 – першае паловы 13 стагоддзя з полацка-менскімі князямі.

Даследнікі казалі аб звязе полацкага князя Ўсяслава Брачыславіча з літвой. Аб гэтым звязе сведчыць знойдзеная ў Вялікім Ноўгарадзе берасцяная грамата, датаваная прыблізна 1060-мі гадамі, з тэкстам "литва въстала на корелу". У 1069 г., як вядома, адбыўся вялікі паход Усяслава Полацкага на Вялікі Ноўгарад. В. Янін зазначыў: "Наяўнасць літвінаў у войску полацкага князя ёсць чыста натуральнаю, бо да паўстання Літвы як самастойнага гаспадарства яе тэрыторыя належала да кола полацкага ўплыву" [99]. Літва была ў звязе з полацка-менскімі князямі і падчас вайны кіеўскіх князёў проці Полацкага княства ў 1128–1132 гг., калі кіеўскія войскі хадзілі "во Литву ко Изяславу" і біліся з літвою на полацка-менскіх землях ("...а Киянъ тогда много побиша Литва") [100].

Выклікае цікаўнасць паведамленне Васкрасенскага летапісу, якое знітоўвае з высылкаю кіеўскімі князямі полацкіх Рагвалажычаў у Канстантынопаль у 1129 г. стварэнне полацкімі князямі віленскага княскага ўдзелу [101]. Паводле Васкрасенскага летапісу, сынам полацкага князя Расціслава Рагвалодавіча быў Маўкольд, бацька вялікага князя літоўскага Міндоўга. Імаверна, гэтае паведамленне адлюстроўвае нейкі новы этап звязу полацка-менскіх князёў з князямі Літвы: падчас паходу кіеўскіх князёў 1129 г. частка полацкіх князёў сапраўды магла знайсці прытулак у Літве (пагатоў што летапісы сведчаць, што кіянаў разбіла літва). Звесткі аб сваяцтве літоўскіх князёў з полацкімі маглі застацца ў летапісе дзеля слюбу нейкае полацкае князёўны (мабыць, сястры або дачкі Расціслава

Рагвалодавіча) з літоўскім князем. Калі такія слюбы адбываліся ў першай палове 13 стагоддзя, яны маглі адбывацца і раней.



*Напад кіеўскіх князёў на Заслаўе ў 1128 г.*
*(мініятура з Радзівілаўскага летапісу, 15 ст.)*

Звяртае на сябе ўвагу тоеснасць выпісанага ў літоўскіх летапісах паходу наваградскага князя Мінгайлы на Полацк і бітвы пад Гарадцом (у выніку якой Мінгайла заваяваў Полацк) [102] з сапраўдным паходам на Полацк менскага князя Валадара Глебавіча "с Литьвою" і яго бітвы пад Гарадцом 1162 г., у выніку якое ён неўзабаве заняў полацкі няскі сталец [103]. Князь Валадар яшчэ ў 1159 г. разам з літвою хадзіў паходам на Польшчу ("ходяше под Литвою въ Лясехъ") [104]. Атаесамленне яго паходу на Полацк у літоўскіх летапісах з заваяваннем літоўскім князем Мінгайлам Полацка мусіць казаць аб тым, што ў сапраўднасці Мінгайла быў у звязе з Валадарам і, відаць, сапраўды княжыў у Наваградку (дзе ён памёр у 1192 г., паводле хронікі Ратунда). Пасля апанавання Валадарам Полацка сын Мінгайлы Гінвіл сапраўды мог прыняць праваслаўе і атрымаць нейкія ўладанні на Полаччыне, як аб гэтым кажуць літоўскія летапісы. Паводле хронікі Ратунда, князь Гінвіл-Юрый памёр у 1199 г. у Оршы [105]. Паводле літоўскіх летапісаў, князь Гінвіл-Юрый "з псковяны и з смоляны воевал ся долго о границы прылеглые" [106].

Рускія летапісы сапраўды адзначаюць нямала паходаў "полочян съ литвою" [107] на пскоўскія, навагародскія і смаленскія землі ў канцы 12 – першай трэціне 13 ст. У 1180 г. літва памагала полацка-менскім князём у вайне проці смалянаў і хадзіла на Друцк [108], а ў 1198 г. разам з палачанамі хадзіла на Вялікія Лукі, пасля чаго навагародцы пасадзілі ў Луках князя Ізяслава – "от Литвы оплечье Новугороду" [109]. Літвіны ў гэтых звестках выступаюць як супольнікі полацкіх князёў, што жывуць на полацкіх землях: напрыклад, летапісныя звесткі пад 1223 і 1225 гг. паказуюць, што навагародцы не гналіся за літвой далей за Ўсвяты – крайняе валоданне Полацка на памежжы з пскоўскімі і смаленскімі землямі [110].

Летапісы паведамляюць, што на літву ў 1204 і 1220 гг. ваявалі чарнігаўскія князі, а літва нападала на Чарнігаўшчыну. На літву ў 1207 г. ваявалі і смаленскія князі [111]. Літва нападала на Валынь у 1205 г. і пазней [112]. Такім парадкам, літва ў канцы 12 – пачатку 13 ст. варагавала з пскоўскімі, смаленскімі, чарнігаўскімі, валынскімі князямі – але ніколі з полацка-менскімі. Гэта выяўна сведчыць аб трывалым ваенна-палітычным звязе Літвы з полацка-менскімі княствамі Рагваложычаў. А. Краўцэвіч адзначыў: "Летапісы <...> апісалі дакладныя накірункі, ход і вынікі паходаў. Яны адзначылі факты полацка-літоўскага супрацоўніцтва, калі атрады літоўцаў выступалі ў якасці саюзнікаў некаторых полацкіх князёў. Дзякуючы такой падрабязнай фіксацыі можна заўважыць, што літоўцы ніколі не нападалі на ўсходнеславянскія гарады Панямоння, гэтаксама як і на Полацкую зямлю. Гэтая акалічнасць надзвычай важная для сутнаснай ацэнкі генезы ВКЛ" [113].

Такім чынам, гісторыя Літвы 12 стагоддзя была шчыльна знітавана з полацка-менскімі княствамі: на ўсім працягу 12 стагоддзя Літва выступае як уставічны ваенны супольнік

полацка-менскіх князёў. Звяз літоўскіх князёў з полацка-менскімі мог адбыцца тым снадней, што і полацкая княская дынастыя Рагваложычаў была германскага паходжання і захоўвала свае германскія імёны (Рагвалод, Глеб, Валадар), дзеля чаго, як мы бачылі, полацкі князь Васіль-Рагвалод у літоўскіх летапісах быў далучаны да літвінаў.

Полацкі князь Валадзімер (імаверна, сын Валадара Глебавіча) на працягу свайго 30-гадовага княжання (1186–1216 гг.) быў у звязе з літвой і разам з літвой ваяваў проці ліфлянцкіх крыжакоў. Першыя паходы палачанаў на ліфлянцкіх крыжакоў у 1200–1203 гг. адбыліся разам з літвой [114]. Паводле сучаснае падзеям хронікі Генрыка Латвійскага, у 1216 г. Валадзімер "паслаў у Русь і Літву і склікаў вялікае войска з русінаў і літвінаў", каб пайсці ў паход на Рыгу [115]. Іншая ліфлянцкая хроніка пад 1223 г. адзначала, што поспехам ліфлянцкае царквы выпіраліся літвіны разам з русінамі (т.б. з палачанамі), а "вялікае літоўскае войска" для паходу на крыжакоў збіралі разам літвіны і русіны [116].

Супольнікамі літвы былі і полацкія княжычы-намеснікі ў цвержах па Дзвіне – Усевалад і Вячаслаў (Вячка). Князь на Куканосе Вячка ў 1208 г. пасцінаў у сваім замку загон рызскіх рыцараў і дружыну біскупа, дасланыя яму мечаносцамі з прапановаю вайны на літву [117]. Князь на Гарадзішчы (Gercike) Усевалад быў зяцем літоўскага князя Даўгерда, "аднаго з сама магутных літвінаў", паводле хронікі Генрыка Латвійскага. Гэтая хроніка сведчыць: "Князь Усевалад з Гарадзішча заўжды быў ворагам хрысціянскага роду, а передусім лацінянаў. Ён быў жанаты з дачкою аднаго з сама магутных літвінаў і, будучы як ягоны зяць для іх амаль сваім, злітаваны з імі звыш таго і дружбаю, почасту ачольваў іхнія войскі, чыніў ім пераправу праз Дзвіну і даваў ім страву, калі ішлі яны на Русь, Ліфлянты або Эстонію" [118]. Паводле хронікі, Усевалад "заўжды памагаў літвінам і радаю, і справаю", а калі крыжакі напалі на ўдзел Усевалада, князю ў помачы сталі літвіны, якія разбілі крыжацкае войска [119]. У 1214 г. палачане і літвіны на некаторы час адваявалі захопленае мечаносцамі Гарадзішча. Хроніка Генрыка таксама кажа, што Ўсевалад почасту "разам з літвінамі разбураў землі рускіх хрысціянаў" [120]. Такім чынам, князь Усевалад браў учасць у выправах літвы на навагародскія, пскоўскія і смаленскія землі, якія почасту адбываліся між 1198 і 1225 гг. Толькі звязам Літвы з полацка-менскімі князямі можа тлумачыцца чысленасць і магутнасць літоўскага войска ў нападах на гэтыя землі. Гэтак, паводле летапісу, у 1225 г. "воеваша Литва Новгородьскую волость <...> бе бо рать велика, ака же не была от начала миру" [121]; навагародскі летапіс называе дакладную лічбу літоўскага войска ў гэтым паходзе: "семъ тысящь" [122]. Такое вялікае войска літоўскія князі маглі скупіць толькі разам з полацка-менскімі князямі (чысленыя прыклады чаго даюць летапісы).

З звестак летапісаў можна зразумець, што Полацк з помаччу літвы імкнуўся пашырыць свой уплыў у суседніх рускіх княствах. Гэтак, пад 1213 г. пскоўскі летапіс мянуе "літоўскім" князем Валадзімера Таропецкага, які сеў на княжанні ў Пскове: "изгнаша от себя псковичи князя Литовскаго Володимера Торопецкаго, и Литва пришедше въ Петрово говенье, и пожгоша Плесковъ, и отъидоша поплененивъ" [123]. Трэба адзначыць, што Валадзімер Таропецкі пасля выгнання з Пскова ўцёк да полацкага князя [124]: такім чынам, "літвою", якая напала на Пскоў, каб адпомсціць за выгнанне Валадзімера, у летапісе былі менаваны злучаныя літоўска-полацкія войскі (як і ў іншых падобных прыкладах). Варта дадаць, што Валадзімер Таропецкі быў братам навагародскага князя Мсціслава Ўдатнага, які ў 1213 г. уклаў дамову з старэйшым літоўскім князем Даўгердам і выпраўляўся на крыжацкія цвержы ў Ліфлянтах разам з пасілкамі літвінаў; у 1221 г. загон літвы лічбаю ў шэсцьсот чалавек пасля выправы на крыжакоў цэлы месяц заставаўся ў Пскове [125].

Каталіцкія місіянеры і крыжакі ў прыбалтыйскіх землях абгрунтоўвалі свае паходы на літву перадусім рэлігійнымі матывамі. Яшчэ ў 1188 г. першыя нямецкія місіянеры ў Ліфлянтах скардзіліся, што "магутная літва" закажае пашырэнню тут каталіцтва [126]. Першыя выправы ліфлянцкіх крыжакоў на палачанаў і літвінаў у 1203–1209 гг. матываваны ў крыжацкага хранікара як выправы на "ворагаў хрысціянства". У 1209 г. паход мечаносцаў на Гарадзішча з мэтаю "вызваліць маладую царкву ад падкопаў літвінаў і русінаў" быў спрычынены тым, што "князь Гарадзішча разам з літвінамі чыніў шмат ліха Рызе" [127]. У 1225 г. адбыўся паход ліфлянцкіх крыжакоў на Літву, у якім загінуў архібіскуп з Кёльну Авігенус [128]. Падчас крыжовае выправы ліфлянцкіх мечаносцаў на Літву ў 1236 г. папская курыя заклікала крыжакоў ваяваць проці "няверных літвінаў" (infidelium

Letvinorum) і іхняга “вераадступніцтва” (perfidia) [129]. Пасля ўтварэння Вялікага княства Літоўскага крыжакі няспынна абвяшчалі крыжовыя выправы проці “ворагаў веры”, “вераадступных” літвінаў.

Розныя звесткі гістарычных крыніц паказуюць на тое, што з утварэннем Вялікага княства Літоўскага канфесійная супольнасць літвінаў значна пашырылася, да яе далучылася новае славянскае жыхарства полацка-менскіх княстваў. Гэтак, рускі летапіс пад 1242 г. кажа, што “в то же лето умножишася языка Литовьскаго” [130], – што, зразумела, не можа азначаць рэзкае павелічэнне этнасу, а можа казаць адно аб шыбкім павелічэнні канфесійнае дэнамінацыі. Літоўскі летапіс кажа, што ў часе стварэння Вялікага княства літвіны аселі ў рускіх землях ВКЛ, “покумавшыся и побратимившыся з русью хрыстианами” [131]. Паводле папскага ліста 1257 г. польскі Лукаў (у Люблінскай зямлі, недалёка ад Бярэсця) месціўся “in confinio Letwanorum” (“ля мяжы з літвінамі”) [132] – то бо мяжа пражывання літвінаў праходзіла недзе ля Бугу. Як можна зразумець з звестак летапісаў, у першай палове 13 ст. “літва” стала жыла і на Полаччыне.

Такім парадкам, Вялікае княства Літоўскае падчас стварэння атрымала свой назоў не ад міфічнага “балцкага язычніцкага народу”, а ад канфесійнай супольнасці літвінаў – мясцовай богумільскай дэнамінацыі, якая ў першай палове 13 стагоддзя была пашырана на землях Віленшчыны, Полаччыны, Меншчыны, Берасцейшчыны. На тэрыторыі гэтае канфесіі і *для* гэтай канфесіі і было створана Вялікае княства. Гэта дазваляе зразумець, чаму з стварэннем Вялікага Княства назоў летапіснае Літвы пашырыўся на ўсё гаспадарства, якое стала называцца “Літвой”, “Вялікім княствам Літоўскім”, – бо гаспадарства было створана для вольнага вызнання ў яго межах “літоўскае” веры і пражывання канфесіі літвінаў. Гэта пацвярджае і пазнейшае атаесамленне Літвы, “Літоўскае зямлі” з тэрыторыяй Літоўскае мітраполіі 14 стагоддзя. На чале тытульнага элемента ВКЛ (канфесіі “літвінаў”) стаяла шляхта ўсходнегерманскага этнічнага паходжання, якая, аднак, імкліва славянізавалася і паслугоўвалася старабеларускаю моваю і правам як у прыватным, так і ў гаспадарствавым жыцці, што відаць з граматы князя Гердзеня 1264 г., звестак летапісаў і іншых гістарычных крыніц. Як і германцы-русы на Русі 10–11 ст., якія асімляваліся з яе славянскім жыхарствам праз стварэнне Рускае мітраполіі і пашырэнне свайго назову “русіны” ў якасці канфесіёніму, – гэтаксама і германцы-літвіны кансалідавалі жыхарства свайго гаспадарства праз канфесійную ідэнтычнасць “літвінаў”, якая дала свой назоў Вялікаму княству Літоўскаму і Літоўскай мітраполіі.

Звесткі крыніц ускосна сведчаць аб вызнанні першым вялікім князем літоўскім Міндоўгам хрысціянства яшчэ да яго каталіцкага хросту ў 1252 г. Міндоўг, дарма што яго імя можа здавацца падобным да балцкага, належаў да таго ж германскага элемента, які панаваў у Літве, аб чым кажуць імёны яго брата Даўспронга, яго сыноў Войшалка, Руклі і Герстута, і яго пляменнікаў Таўтвіла і Гедывіда. Свой народ Міндоўг менаваў “літвінамі” (rex Litwinorum) [133]. Звесткі сучасных яму лістоў папскае курыі сведчаць аб прыналежнасці Міндоўга і наогул народу літвінаў да хрысціянскай канфесіі, якую курыя лічыла герэтычнаю. Гэтак, у шэрагу лістоў да літоўскага гаспадара, да ліфлянцкіх і прускіх біскупаў і да ўлад Тэўтонскага ордэну ў 1251 г. папеж Інацэнт IV пісаў, што Міндоўг абвясціў аб гатоўнасці прыняць каталіцтва, пакінуўшы былыя “аблуды”.



*Хрост вялікага князя Міндоўга каталіцкімі святарамі (урывак малюнка “Блаславёны Віт” 17 ст.)*

Былая вера літоўскага гаспадара ў лістох нідзе не названа наўпрост, датычна яе папеж ужывае розныя цьмяные азначэнні – “абмылы”, “аблуды” (erroris) ды “цемра” (tenebris), у якой знаходзяцца “няверныя” (infidelium). І адно ліст з 26 ліпеня 1251 г. удакладняе, што гэта за “цемра”, – гэта цемра “*вераадступніцтва*”, у якой “знаходзіцца велізарная лічба няверных”, то бо падданых Міндоўга (Mindowe, rex Lithowie, olim cum grandiosa infidelium multitudine existens in *perfidie* tenebris...). У лісце з 7 сакавіка 1255 г. папеж Аляксандр IV зноў адзначаў, што Міндоўг прыняў каталіцтва, пакінуўшы “*вераадступніцтва*” (...ad fidei katholice pervenisti titulum, relicta *perfidia*) [134]. Азначэнне “вераадступніцтва” (perfidia) – гэта наўпростае паказанне на хрысціянскую герэзію (напрыклад, вядома азначэнне каталіцкімі крыніцамі гэтым тэрмінам французскіх катараў: “perfidiae … haeretici Albigensis” пад 1223 г. [135]).

Ва ўсіх лістох датычна пераходу вялікага князя Міндоўга на каталіцтва нідзе няма цверджання, што Міндоўг прыняў “хрысціянства”, – усе яны кажуць, што Міндоўг прыняў “каталіцкую веру”. Напрыклад, сам Міндоўг у сваіх лістох не піша, што з каталіцкім хростам ён прыняў “хрысціянскую веру”, – а піша, што прыняў “каталіцкую веру” (...post suscepcionem fidei katholice) [136]. Папеж таксама вызнаваў, што Міндоўг прыняў не “хрысціянства”, а “каталіцкую веру”, пакінуўшы былое “вераадступніцтва” (...ad fidei katholice pervenisti titulum, relicta perfidia), – што таксама выяўляе гэтае “вераадступніцтва” як некаталіцкую адмену хрысціянства. Дый сваю былую веру Міндоўг не мянуе “паганствам”, а выпісуе ўмоўным азначэннем “цемра простанароднае веры” (tenebris gentium) або “аблуды нявер’я” (errores pristinum infidelitatis), як і папская курыя [137] (прыр. фразеалогію курыі часу вялікага князя Гедыміна (гл. артыкул “Літоўскі народ 14 стагоддзя”), а таксама часу Крэўскае рэлігійнае рэформы (гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”)). Ліфлянцкі ляндмайстар Андрых Стырлянд у 1249 г. дасылаў Міндоўгу ліст з патрабаваннем прыняць “*агульную* хрысціянскую веру” [138]. Гэтаксама, рускі летапіс пра праваслаўны хрост князя Войшалка кажа, што Войшалк “позна *истинную* веру крестиянскую” [139] (прыр.: літоўскі летапіс кажа, што Войшалк “окрестился в рускую веру” [140]). Такія азначэнні літоўскае веры ў каталіцкіх крыніцах, як “аблуды нявер’я” (errores infidelitatis) або “цемра вераадступніцтва” (perfidie tenebris), былі такімі ж тыповымі азначэннямі хрысціянскага адшчапенства, як і эпітэты курыі што да праваслаўя: гэта відаць, напрыклад, з ліста папежа Аляксандра IV да Данілы Галіцкага з 1257 г., у якім папеж пісаў, што Даніла раней быў адгорнуты “ад цемры нявер’я (de infidelitatis tenebris) да святла каталіцкае веры і прыслухання рымскай царкве” [141]. Пазнейшыя каталіцкія крыніцы кажуць, што Міндоўг “адступіўся ад веры і вернуўся да былой аблуды” (apostarunt a fide et in huiusmodi errore persistunt (errores pristinos reassumpsit)) [142]. Усе гэтыя звесткі кажуць аб тым, што Міндоўг і іншыя літвіны яшчэ да каталіцкага хросту 1252 г. былі хрысціянамі.

* * *

Такім парадкам, як паказуюць усе гістарычныя матэрыялы, супольнасць літвінаў 10–13 стагоддзяў не была супольнасцю балтаў-язычнікаў Панямоння. Этнічнае паходжанне шляхты гэтае супольнасці было ўсходнегерманскім. Спачатна яна, відаць, вызнавала амійства (пашыранае сярод усходніх германцаў) – якое ў Панямонні злучылася з рускім богумільствам і ўтварыла канфесію літоўскага богумільства (“літоўскага маніхейства”, аб якім пісаў кардынал Пётр д’Альі). Канфесійны характар гэтае супольнасці і яе паступовае пашырэнне ў старабеларускіх княствах спрыялі яе ўзросту і паступовай славянізацыі. Яшчэ да стварэння ВКЛ гэтая канфесійная супольнасць была пашырана на Берасцейшчыне, Меншчыне, Полаччыне, чым тлумачыцца ўлучэнне гэтых зямель у Вялікае княства Літоўскае пры яго стварэнні. Гэтая канфесійная супольнасць дала назоў Вялікаму княству Літоўскаму, а ў 14 стагоддзі – Літоўскай мітраполіі.

* * *

“Летапісец ВКЛ” аб паходжанні літоўскае шляхты (15 ст.) [143]:

**Летописец Великого князьства Литовского и Жомоицьского**

Где ж одно княже рымское именем Полемон, который же цесару Нерону был кровный, забрался з жоною и з детми, и з скарбы своими, и подданными своими, с которым жо княжетем собралося пятсот шляхты з жонами и з детми и з многыми людми. И вземшы с собою одного остронома, и пошли в кораблех морем по заходу слонца, хотечы собе знаити на земли месцо слушное, игде бысь мели поселити а мешкати с покоем. А с тыми шляхты чотыры были рожаи наивышшые, именем Китоврасы, Колюмны, Рожы, Урсы. А так они не малый час по морю ходечы, прышли Межыземского моря и дошли до реки до Шума и тою рекою Шумою в море окиян, и морем окияном дошли до устья, игде река Немон впадываеть в море окиян.

Потом пошли Немном у верх, ажь в море зовемое Малое, которое называется море Немновое, а с тое прычыны тое море Немновое называется, ижь в тое море впадаеть Немон дванадцатми устьи и кождое зовется своим именем, Скиля. И пошли тым устьем уверх, и дошли целого Немна, где вжо он сам во одном месцы течеть весь, а у верх Немном пошли до реки Дубисы, где ж вшедшы в тую реку Дубису, и над нею нашли горы высокие, и на оных горах ровнины великие, и дубровы роскошные и розмаитое офитости наполненых розного рожаю зверей, то есть напервей туров, зубрей, лосей, еленей, серн, рысей, куниц, лисиц, белок, горнастаев, ласиц и иных розмаитых рожаев. И ту теж в реках великую обфитось рыб непосполитых, иж не толко тые рыбы, которые в тых ся реках плодять, але множьство рыб розмаитых а дивных з моря прыходять, а то за тою прычыною, иже недалеко устье Немновое, где Немон в море впадываеть. Над которыми ж реками, над Дубисою и над Немном, и над Юрою, там ся поселили и почали розмножыватися, и оно мешканье их над тыми реками велми им подобалося, и назвали тую землю словеньским языком – Побережная земля, а литовским языком назвали Жемоитская земля.

А потом вышереченое княже Палемон вродил трех сынов: старшый Боркг, другый Кунас, третий Спера. Старшый же сын, Боркг, вчынил город на Юре реце, и зложено имя того княжати посполе з рекою, иж имя реце Юра, а княжати Борг, и назвал тот город Юрборк. А середний сын, Кунас, прышол на устье реки Неважы, игде она впадаеть в Немон, и вчынил тут город и назвал его именем своим, Кунасов город. А третий сын, Спера, пошол далей в пущы к восходу слонца и, перешодшы реку Невяжу и реку Святую, и третию реку Шырвенту, и нашол озеро, луками и розмаитым деревом окрашено, где ж то полюбившы над тым озером поселился, и тое озеро именем своим назвал, Спера. И пановал много лет, а потом змер без плоду.

<...>

По малых часех брат его Боркг, который мешкал на Юрборку, вмер не маючы детей, ино брат его Кунас возметь и тую часть брата своего Борка и город Юрборк, и тою частю его будеть и город Юрборк пановати. Оное княжа Кунас мел двух сынов, одного Кернуса, а другого Кгинбунта. Пануючы ему в земли в Жомоитьской, почал ся множити и розшыряти и выходити за реку Велью, в землю Завелскую. И прошод реку Святую вышей и нашол место велми хорошо, и сподобалося ему тое местцо велми, и он там поселился и назвал тое местце именем сына своего Кернуса, Керново, и дал тому сыну своему Кернусу, а потом умре. И почнеть сын его пановати Кернус на всеи земли Завелской по границу Латыгалскую и по Завелейский Бряславль, аж по реку Двину. А брат его Кгинбунт на Юрборку а на Кунасове, и на всей земли Жомоитьской. <...>

Князь великый Кернус пановал на Литве, а князь Кгинбунт на Жомойти, и не малый час пановали а жыли межи собою во-в покои. Князь пак Кернус не мел сынов, толко одну дочку, именем Пояту. А будучы он в старости своей а не хотечы панства своего от дочки своее отдалити, и прынял до нее зятем собе с Китаврасу именем Кгируса, а сам умре. А по нем нача княжыти на земли Литовской тот зять его с Китаврасу именем Кгирус, а Кгинбут на Жомоитской земли. И пануючы Кгинбуту на Жомоити, умре, а сына своего Монтвила зоставить на Жомоитьском князьстве. И Монтвил много княжыл на Жомойти а мел двух сынов, одного Немоноса, а другого Скирмонта.

И часу панованья Кунасова повстав царь Батый и пошол на Рускую землю, и всю землю Рускую звоевал, и князеи руских многых постинал, а иных в полон повел <...>. А в тот час доведался князь великий Монтивил жомоитский, иж Руская земля спустела и князи рускии розогнаны, и он, давшы войско сыну своему Скирмонту, и послал с ним панов своих радных, напервей с Колюмнов именем Кгрумпа, а другого со Врсином именем Екшыс, а третего з Рож именем Кгровжыс. И зашли за реку Велю, и потом перешли реку Немон и нашли в четырех милях от реки Немна гору красную, и сподобалася им, и вчынили на ней город и назвали его Новгородок.
И вчынил собе князь великий в нем столец, и назвался князем великим новгородским. А пошодшы з Навагородка и зарубил Городен город, и потом пошол до Берестя и нашол Берестей и Дорогичын, и Мелник от Батыя спустошоны и скажены, и он тые городы зарубил и почал на них княжити. <...>

* * *

“Хроніка аб пачатку і назве Літвы” Ф. Сафановіча (17 ст.) [144]:

### Кроиника о початку и називиску Литвы, и о князех Литовских

Литва мает свои почaток и рожай от Иафета, сына Ноевого, и от сына Иафетового старшого Гомора, от которого звалися гоморы, з грецка звано их кимеры албо цымеры, потом цымбрыи* названныи. Звано их Аиепидами**. По розделении языков в столпотворени тыи сыны Гамеровы, внуки Иафетовы, розмножившися, пошли на полноч и, пришовши, осели в полях подле Чорного и Мертвого моря. Потом, гды и там, розмножившися, зместитися не могли, розне розышлися своими вождами. Единыи отсели там, где Чорное море до Елиспонту выподает, и иншии осели в Фракии, где теперь перекопскии татарове, Кафа и Крым. Тыи от половеня и полону людей названныи половцами. Иншии осели там, где теперь Волохи, и иншии над Богом осели.

Тыи все народы были потом готами и епидами, ядвежами, печенигами и половцами названыи. И иншии засели там, где теперь Литва, и над морем Пруским. А все были военныи и битныи тыи гоморове, камирове албо цымрове. Потом за часом, гды в полночных краях, где теперь Литва есть и шведове, и прусы, тые обыватели розмножилися для неплодности земли и для часто розливаня ся вод морских, затопляючих местечка и села, цымброве с краев полночных, литовских и пруских, личбою триста тысячей, ведлуг Стрыйковского, кроме жон и детей, пошли перше до Францыи и Испании, потом отголь до Вулох.

Там же, гды им римляне не хотели у себе земли для мешканя указати, они з римлянами моцно билися, и, звитяживши цынброве рымлын по килко крот значне, там местца были осели и мешкали***. Силаня и Моилия, гетманов, збили. Цепий, гетман рымский, имел осмъдесять тысячей войска рымского. Цимброве все тое воиско збили, ледве сам гетман Цепий з десятма жолнерами до Риму утекл и в Риме от римлян за утрату войска убитый зостал. Потом, нерыхлыми часами от Мария, гетмана римского, штукою роспестившися в обфитых краях, цимброве до конца порожены зостали, где разом их Марий побил сто и сорок тысячей. Которую поражкою знищены, знову на полноч вернулися з земли Волоской року от Рождества Христова 573 и осели на тых же местьцах, з которых пошли были до Волох, то есть где теперь прусове, шведове и литва.

Поведают, же тыи цимброве, где тепер есть Литва, от Литоляна албо Литвона, своего сына, з которым з Волох пришли, суть названныи литвою. Наиболей зась есть тых историков, которыи поведают, иж от Палемона, князя рымского, литва названныи и прославилися. <...>

Литва первых часов была знищеная и в силах ослабелая. Также и киевскии князи Литвою владели, и для их знищеня, не маючи чого лепшого за дань брати, от Литвы веники и лыка князи рускии брали. Потом, уросши в силу болшую, гды през Батея, царя татарского, спустошена была земля Руская, выбилася Литва с Руского панства. <...>

* * *

* кімбры – германскі народ, паходзіў з Ютляндыі, шмат ваяваў з рымлянамі
** гепіды – усходнегерманскі народ, жыў на ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора
*** войны готаў і іншых прыязных ім германцаў з рымлянамі за права пасяліцца на рымскіх тэрыторыях адбываліся ў канцы 4 ст.

Спасылкі:


1. А. Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Беласток, 2008. с. 159-160.
2. Ю.П. Кузнецов. Древние двуосновные личные имена у литовцев, их состав и происхождение // Живая старина. 1896, вып. 1. с. 32.
3. Литва: Краткая энциклопедия. Вильна, 1989. с. 121; В. Чаропка. Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх. // Беларускі гістарычны часопіс. 2001, №6. с. 42.
4. Л. Галяк. Аб паходжаньні вялікіх князёў літоўскіх // Спадчына. 1993, №6. с. 56-57.
5. J. Kraszewski. Wilno od początków jego do roku 1750. T. I. Wilno, 1840. s. 8-10; T. Narbutt. Dzieje narodu litewskiego w krótkości zebrane. Wilno, 1847. s. 14-15, 22-23; A. Kosiński. Przewodnik Heraldyczny. Kraków, 1877. s. 500; J. Puzyna. Sukceserowie Trojdena // Ateneum Wileńskie. R. XIII, zesz. 1. Wilno, 1938. s. 14-15; *прыр.:* П.Д. Брянцев. История Литовского государства с древнейших времен. Вильна, 1889. с. 77.
6. В. Меркулов. Откуда родом варяжские гости? (генеалогическая реконструкция по немецким источникам). Москва, 2005. с. 94, 107-114; *прыр.:* T. Narbutt. Dzieje narodu litewskiego w krótkości zebrane. Wilno, 1847. s. 14-15.
7. Т. Топорова. Культура в зеркале языка: древнегерманские двучленные имена собственные. Москва, 1996. с. 3.
8. А. Дзярновіч. "Генеалогія Літвы": Да праблемы эвалюцыі этнічных і сацыяльных супольнасцяў у познім Сярэднявечы і раннім Новым часе // Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі. Працоўныя матэрыялы. Т. 1. Kaunas, 2012. с. 30; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства. М., 1959. с. 87.
9. ПСРЛ, т. 35. Москва, 1980. с. 128-129; *прыр.:* T. Narbutt. Dzieje narodu litewskiego w krótkości zebrane. Wilno, 1847. s. 22-23.
10. Altdeutsches Namenbuch / von Dr. Ernst Förstemann. Bd. I. Nordhausen, 1856.
11. ПСРЛ, т. 35. с. 129-131.
12. T. Narbutt. Dzieje starożytne… t. I. s. 157-160.
13. Р. Пятраўскас. Літоўская знаць у канцы XIV – XV ст. Склад – структура – улада. Смаленск, 2014. с. 99.
14. Я. Зверуго. Верхнее Понеманье в XI–XIII вв. Минск, 1989. с. 63-74; А. Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага… с. 79-80, 94; Э. Зайкоўскі. Этнічная і канфесійная сітуацыя ў гістарычнай Літве на рубяжы XIV–XV стст. // Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV стст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі. Мінск, 2011.
15. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856. s. 144-145.
16. Я. Зверуго. Верхнее Понеманье… с. 152-159; А. Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага… с. 86.
17. С. Белецкий, Ю. Лесман. Новые публикации материалов раскопок средневековых городов Белоруссии // Советская археология. 1979, №1. с. 312.
18. А. Кибинь. Верхнее Понеманье в политической, социокультурной и этнической истории славян и балтов VIII – XIII вв. / автореф. на соиск. уч. ст. канд. ист. наук. Санкт-Петербург, 2009. с. 18-19.
19. История Литовской ССР. Вильна, 1978. с. 21.
20. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1908. стб. 856; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства, с. 361.
21. Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. Москва-Ленинград, 1938. с. 224.
22. В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства, с. 255-256, 360.
23. П. Куликаускас. Исследование археологических памятников Литвы // Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. т. XLII. Москва, 1952. с. 106; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства, с. 255-257.
24. С.П. Віцязь. Прусы і яцвягі ранняга сярэднявечча. Мінск, 2012. с. 163.
25. Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковна, Трок. ч. I. Вильно, 1843. №6.
26. ПСРЛ, т. 2. стб. 735-736.
27. ПСРЛ, т. 2. стб. 840; ПСРЛ, т. 5, вып. 2. Москва, 1955. с. 24; Грамоти XIV ст. / упорядкування М.М. Пещак. – Київ: Наукова думка, 1974. №9, 10, 11, 54; O. Halecki. Z Jana Zamoyskiego inwentarza Archiwum Koronnego // Archiwum Komisji Historycznej. T. 12. Cz. 1. Kraków, 1919. s. 166.
28. M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. t. I. Warszawa, 1846. s. 43-46; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны: мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць. Мінск, 2001. с. 5-6.
29. Y. Voigt. Geschichte Preußens. Bd. IV. Königsberg, 1830. S. 621; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 6.
30. Monumenta Poloniae Historica. t. III. Lwów, 1878. s. 618; Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem. t. I. Varsaviae, 1930. №13.
31. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. III, Wilno, 1838. s. 34.
32. M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska... s. 21, 26-29, 32-37, 47; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны… с. 16.
33. M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska... s. 43, 47; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны… с. 18.

34. В. Короткий. Русь, Литва, Москва между Рюриковичами и Палемоновичами в «Литовской истории» Альберта Виюка-Кояловича // Senoji Lietuvos literatūra. № 27, 2011. с. 278-279.
35. Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мінск, 1983. с. 124.
36. ПСРЛ, т. 32. Москва, 1975; ПСРЛ, т. 35. Москва, 1980.
37. T. Narbutt. Dzieje starożytne… t. I. s. 157-160.
38. В. Чаропка. Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх. // Беларускі гістарычны часопіс. 2001, №5. с. 59-60.
39. Altdeutsches Namenbuch / von Dr. Ernst Förstemann. Bd. I. Nordhausen, 1856; G. Köbler. Gotisches Wörterbuch. Brill, 2014. Anhang 3; Т. Топорова. Культура в зеркале языка: древнегерманские двучленные имена собственные. Москва, 1996.
40. G. Köbler. Gotisches Wörterbuch. Brill, 2014; Glossarium der Gothischen Sprache / von H.C. Gabelentz und Dr. J. Loebe. Leipzig, 1843; A Comparative Glossary of the Gothic Language / by G.H. Balg. Mayville, New York, London, Halle, 1887–1889.
41. Liv-, Est-, und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten. / ed. F.G. Bunge. Abt. I. Bd. IV. Reval, 1859. №1479.
42. Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. Cracoviae, 1882. №234.
43. Akty Horodelskie z 1413 roku. Kraków, 2013. s. 29; Помнікі права Беларусі XIV–XVI стст. Мінск, 2015. с. 27; W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413. // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia historica. t. III. Poznan, 1989. s. 14-139.
44. Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. Санкт-Петербург, 1848. №118.
45. Русско-ливонские акты. / собр. К.Е. Напьерским. – Санкт-Петербург, 1868. №231.
46. Литовская метрика. Отд. I, ч. I, т. I. / Русская историческая библиотека. т. XXVII. Санкт-Петербург, 1910. стб. 1-123; Документы Московского архива Министерства юстиции. т. I. Москва, 1897. с. 1-62.
47. Документы Московского архива Министерства юстиции, с. 27, 37-40 і інш.
48. Акты, относящиеся к истории Западной России. т. III. Санкт-Петербург, 1848. №13, с. 62.
49. Praeitis. Kaunas, 1933. T. 2. p. 424.
50. Акты, относящиеся к истории Западной России. т. I. Санкт-Петербург, 1846. №103.
51. Акты, относящиеся к истории Западной России. т. II. Санкт-Петербург, 1848. №221, с. 387-388; т. III. №13, с. 62; *прыр.:* т. III, №59, с. 179.
52. Генрих Латвийский, с. 262.
53. ПСРЛ, т. 2. стб. 839.
54. Прусский язык. Словарь. т. I. A-D. Москва, 1975. с. 321-323.
55. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne… s. 153.
56. Я. Станкевіч. Язык і языкаведа. Вільня, 2007, с. 662.
57. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. III. Мінск, 2010. с. 429-430.
58. Грамоти XIV ст., №49.
59. Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I. №9.
60. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. 2. Мінск: БелЭН, 2006. с. 328.
61. А.И. Неусыхин. Проблемы европейского феодализма. Москва, 1974. с. 157-166; М.С. Куторга. Политическое устройство германцев до шестого столетия. Москва, 2014. с. 49-50.
62. М. Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. Москва, 1892. с. 328-330; А. Дубоніс. Лейці вялікага князя літоўскага. Смаленск, 2015. с. 26-39.
63. А. Дубоніс. Лейці вялікага князя літоўскага… с. 11.
64. М. Любавский. Областное деление… с. 330; Н. Горбачевский. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. Вильна, 1874. с. 317-318.
65. М. Доўнар-Запольскі. Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах. Мінск, 2009. с. 148-151.
66. ПСРЛ, т. 35. с. 133.
67. ПСРЛ, т. 32. с. 29, 39, 62; *прыр.:* Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 2006. с. 275-276.
68. ПСРЛ, т. 32. с. 39.
69. ПСРЛ, т. 35. с. 145.
70. T. Narbutt. Dzieje starożytne…, t. I. s. 158-159.
71. ПСРЛ, т. 35. с. 151.
72. А. Кібінь. Ад Ятвязі да Літвы. Arche, №5 (150), 2016. с. 149-154.
73. Л. Галяк. Аб паходжаньні… с. 61-62.
74. ПСРЛ, т. 32. с. 151-153.
75. T. Narbutt. Dzieje starożytne…, t. I. s. 404, 407 і інш.; *прыр.:* J. Jaroszewicz. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Cz. I. Wilno, 1844. s. 172-173.
76. А. Дзярновіч. “Гуды” як гістарычны назоў беларусаў па-літоўску: “готы” ці “варвары”? // Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі. Варшава, 2013.

77. И. Козловский. Судьбы русского языка в Литве и на Жмуди. // Вестник Западной России. 1869, т. IV. кн. 12, отд. II, с. 105.
78. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі. Менск, 2005. с. 102-108.
79. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны… с. 61-62.
80. Monumenta Poloniae Historica, t. III. s. 618; Regesta Lithuaniae, №13.
81. G. Berndt, R. Steinacher. Arianism: Roman Heresy and Barbarian Creed. Farnham; Burlington, VT: Ashgate, 2014. p. 105-108.
82. А. Борст. Катарская вера // Р. Нелли. Катары. Святые еретики. Москва, 2005. с. 346, 363; H. Söderberg. La Religion des cathares. Upsal, 1949. p. 257.
83. Памятники древнерусского канонического права / Русская историческая библиотека, т. 6. СПб., 1880. прил., №20, 21, №33 (стб. 198); Nicephori Gregorae Historiae Byzantinae. Vol. III. Bonnae, 1855. p. 517.
84. Р. Куликаускене. Погребальные памятники Литвы конца I – начала II тысячелетия нашей эры // Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института истории материальной культуры. т. XLII. Москва, 1952. с. 121.
85. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 3. Kraków, 1868. s. 438-439; Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – Мн., 2006. с. 191.
86. ПСРЛ, т. 35. с. 132; *прыр.:* Г.М. Міхальчук. Пратахрысціянскія матывы ў беларуска-літоўскім летапісанні XVI ст. // Беларускае літаратуразнаўства. Вып. 8. Мінск, 2010.
87. Н.И. Щавелева. Послание епископа краковского Матвея Бернарду Клервосскому об «Обращении русских». // Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования 1975 г. – Москва: Наука, 1976. с. 114-115.
88. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856. s. 143.
89. Беларуская міфалогія, с. 424-425; *прыр.:* Г. Алисейчик. Мистерии древних славян и генезис театра. Минск, 2010. с. 121 і наст.
90. Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I. №1.
91. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. – т. I. СПб., 1863. №4.
92. В. Голубович, Е. Голубович. Кривой Город – Вильно. // Краткие сообщения Института истории материальной культуры. Вып. 11. Москва, 1945.
93. Э.М. Зайкоўскі. Этнічная і канфесійная сітуацыя ў гістарычнай Літве... с. 20-25; Ю. Заяц. История белорусских земель X – первой половины XIII в. в отображении летописей и хроник Великого княжества Литовского. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Вып. 12. Мн., 1997. с. 88; *прыр.:* T. Śliwa. Kościoł prawosławny w państwie litewskim w XIII–XIV wieku. // Chrzest Litwy. Geneza, przebieg, konsekwencje. – pod red. ks. M.T. Zahajkiewicza. – Lublin, 1990. s. 18-19.
94. З. Зинкявичус. К истории литовских личных имён восточнославянского происхождения. // Балто-славянские этноязыковые контакты. Москва, 1980. с. 151-152.
95. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. I, zesz. 1. / wyd. ks. J. Fijałek, W. Semkowicz. Kraków, 1932. №16.
96. З. Зинкявичус. К истории литовской христианской терминологии восточнославянского происхождения. // Балто-славянские исследования, 1980 г. – Москва, 1981. с. 139.
97. Z. Zinkėvičius. Krikščionybės ištakos Lietuvoje: Rytų krikščionybė vardyno duomenimis. Vilna, 2005. c. 76-77, 85-86.
98. Л. Чекин. «Описание земель». Анонимный географический трактат второй половины XIII в. // Средние века. вып. 56, 1993. с. 218.
99. В.Л. Янин. Берестяная грамота №590. // Историческая археология: Традиции и перспективы. Москва, 1998. с. 387-388.
100. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1908. стб. 294; ПСРЛ, т. 40. СПб., 2003. с. 77.
101. ПСРЛ, т. 7. Москва, 2001. с. 253; ПСРЛ, т. 17. СПб., 1907. стб. 601-602.
102. ПСРЛ, т. 35. с. 130; ПСРЛ, т. 32. с. 21; *прыр.:* Ю. Заяц. История белорусских земель X – первой половины XIII в.... с. 89.
103. ПСРЛ, т. 2. стб. 519, 526.
104. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1843. с. 83.
105. T. Narbutt. Dzieje starożytne… t. III, Tablica Genealogiczna; В. Чаропка. Паходжанне і радавод… №5. с. 59.
106. ПСРЛ, т. 32. с. 21.
107. ПСРЛ, т. 3. М.-Л., 1950. с. 44.
108. ПСРЛ, т. 2. стб. 620.
109. ПСРЛ, т. 3. с. 44.
110. ПСРЛ, т. 3. с. 61, 64, 263, 269.
111. ПСРЛ, т. 3. с. 45, 246; ПСРЛ, т. 25. М.-Л., 1949. с. 101, 117-118; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства, с. 17.
112. ПСРЛ, т. 2. стб. 721; *прыр.:* стб. 735-736.
113. А. Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага, с. 20.

114. Я. Новікаў. Ваенная гісторыя беларускіх земляў (да канца XII ст.). т. 2. Мінск, 2008. с. 186-187; Генрих Латвийский, с. 205-206.
115. Генрих Латвийский, с. 269.
116. Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. т. 3. Рига, 1880. с. 379.
117. Генрих Латвийский, с. 232.
118. там жа, с. 234.
119. там жа, с. 258; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства, с. 373.
120. Генрих Латвийский, с. 235.
121. ПСРЛ, т. 1. Ленинград, 1926. с. 310.
122. ПСРЛ, т. 3. с. 269.
123. ПСРЛ, т. 5. вып. 2. с. 77.
124. Генрих Латвийский, с. 251.
125. Генрих Латвийский, с. 258; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства, с. 373.
126. Regesta Lithuaniae, №44, 45; Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. 2, с. 203.
127. Генрих Латвийский, с. 210, 225, 234.
128. Regesta Lithuaniae, №151; M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska..., t. I. s. 282.
129. Scriptores rerum Prussicarum. / her. von Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. – Bd. II. Leipzig, 1863. S. 33; T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. IV, Wilno, 1838. s. 77-83.
130. ПСРЛ, т. 7. с. 151; ПСРЛ, т. 25. с. 136.
131. ПСРЛ, т. 32. с. 19.
132. Preußisches Urkundenbuch. Bd. I, H. 2. Königsberg, 1909. №4.
133. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі... ч. I, №10b.
134. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі... ч. II, №6, 18.
135. В. Левицкий. Богомильство – болгарская ересь X–XIV вв. (исторический очерк). // Христианское чтение. 1870, ч. I. с. 675.
136. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі... ч. I, №10b.
137. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі... ч. I, №2, 5, 10b.
138. Н.Н. Улащик. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. Москва: Наука, 1985. с. 98-99; M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska..., t. I. s. 288.
139. ПСРЛ, т. 3. Москва-Ленинград, 1950. с. 313.
140. ПСРЛ, т. 32. с. 26.
141. Monumenta Poloniae Vaticana. t. III. Cracoviae, 1914. №85.
142. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі... ч. III, №5.
143. ПСРЛ, т. 35. с.128-129.
144. Ф. Софонович. Хроніка з літописців стародавніх. Київ, 1992. с. 170.

# Літоўскі народ 14 стагоддзя

“Балцкая” канцэпцыя стварэння і развіцця Вялікага княства Літоўскага не мае нічога супольнага з гістарычнаю сапраўднасцю, бо этнічнае паходжанне літоўскае шляхты было ўсходнегерманскім і ідэнтычнасць “літвы” не мела ніякага дачынення да балцкай этнічнасці (гл. артыкул “Германскі суперстрат у старажытнай Літве”). А. Краўцэвіч, разгледзеўшы пастулат аб “балцкай заваёве” беларускіх княстваў як пачатку Вялікага княства Літоўскага (на якім дагэтуль грунтуюцца рэканструкцыі гісторыі ВКЛ), учыніў высновы: “Абвяржэнне галоўнага пастулата змушае да перагляду ўсёй канцэпцыі генезісу ВКЛ і прывядзення яе ў адпаведнасць сучаснаму ўзроўню гістарычных ведаў. <...> Урэшце даводзіцца прызнаць, што супярэчнасці між балцкай канцэпцыяй генезісу ВКЛ і шэрагам важных гістарычных фактаў, непасрэдна звязаных з працэсам дзяржаваўтварэння, у межах названай канцэпцыі вырашыць немагчыма. Таму адмова ад гэтай канцэпцыі ўяўляецца непазбежнай” [1].

Сучасная гістарыяграфія ўсё ж прызнае, што прынамсі ў 15–16 стагоддзях Вялікае княства Літоўскае было беларускім паводле нацыянальнага характару гаспадарствам ды што назоў “літвіны” ў 16 стагоддзі быў азначэннем (“у якасці палітоніму”) беларускага народу. Між тым, для сучаснай гістарыяграфіі застаюцца цалкам незразумелымі механізмы ўтварэння такога палітоніму, бо датычна перыяду да Крэўскай уніі 1385 г. сучасная гістарыяграфія ўпарта цвердзіць, што літвіны былі этнічна балцкім і, да таго ж, “язычніцкім” народам, таму пасля Крэўскай уніі стрыжнем ідэнтычнасці літоўскага народу нібыта павінна была заставацца “балцкая этнічнасць”. Этнічнае паходжанне літоўскае шляхты было разгледжана ў папярэднім артыкуле. У гэтым артыкуле разгледзім звесткі рэлігійнага, моўнага і культурнага характару, якія праясняюць змест ідэнтычнасці народу “літвінаў” (Литъвины, Litwini сярэднявечных крыніц), як яна выступае ў гістарычных крыніцах другое паловы 13 і 14 стагоддзяў.

**1. Назоў “літвіны” – канфесіёнім.**

Супольнасць літвінаў 13–14 стагоддзяў абыймала элементы рознага этнічнага паходжання. Амаль уся шляхта літвінаў мела ўсходнегерманскае этнічнае паходжанне (гл. папярэдні артыкул). Да супольнасці літвінаў належалі таксама асобы чыста славянскага паходжання (беспярэчнае сведчанне таго – віленскія пакутнікі 1347 г. Кумец, Круглец і Няжыла “родомъ Литвы”, а таксама некаторыя іншыя чыста славянскія імёны літвінаў 14-га стагоддзя (гл. ніжэй)). Кансалідацыя тытульнага народу ВКЛ вакол яго германскай шляхты пашырыла ідэнтычнасць “літвінаў” на ўсе іншыя этнічныя складнікі (славянаў і балтаў) уласна Літвы. Між тым, дзеля таго што супольнасць літвінаў была тытульным элементам Вялікага княства Літоўскага і гэтае гаспадарства было названа яе імем, зразумела, што кансалідацыя гэтае супольнасці адбывалася на нейкім канкрэтным грунце, то бо прыналежнасць да супольнасці “літвы” мусіла мець нейкі нутраны сэнс. Грунт гэтае кансалідацыі не быў этнічным. Тыя даследнікі, якія проціпастаўляюць назовы “літвіны” і “русіны” ў 13–14 ст. як этнонімы, не маюць бачання на тое, што этнічны (нацыянальны) сэнс назову “русіны” ў той час яшчэ не ўсправіўся: у сярэднявеччы назоў “русіны” быў перадусім канфесіёнімам, азначэннем праваслаўных вернікаў Кіеўскае (“Рускае”) мітраполіі. З улікам гэтага можна разгледзець і канфесійны характар назову “літвіны”.

Вельмі пашыранымі ў сярэднявечных крыніцах ёсць азначэнні або эпітэты рэлігійнага характару датычна літвінаў. Тэрміналогія ў дачыненні да літвінаў у замежных (лацінскіх або маскоўскіх) крыніцах ёсць наўсцяж рэлігійнага характару: “няверныя” (infideles), “вераадступныя” (perfidos), “няверныя Хрысту”, “ворагі каталіцкай веры” (fidei catholice inimicis), “бязбожныя”, “праклятыя”, “нехрышчоныя”, “беззаконныя” літвіны. Сярод гэтых тэрмінаў выяўным ёсць тэрмін “вераадступныя” (perfidos або apostatas у лаціне) – які, безумоўна, ёсць азначэннем не “язычнікаў”, “паганцаў” (нехрысціянаў), а хрысціянаў іншае, непрызнанае (“герэтычнае”) галіны. Напрыклад, вядома, што каталіцкія крыніцы азначалі гэтымі тэрмінамі французскіх катараў (“perfidiae … haeretici Albigensis” у 1223 г.) ды баўгарскіх богумілаў (“gens apostatrix” у 13 ст.) [2]. Гэтыя азначэнні (як і азначэнне infideles) ёсць звычайнымі лацінскімі азначэннямі хрысціянскіх “адшчапенцаў”, “герэтыкоў” (а не язычнікаў): напрыклад, у 1481 г. папская курыя загадвала прыймаць у каталіцтва ў Літве і Русі “схізматыкаў, герэтыкоў, вераадступнікаў і наогул няверных” (scismaticos, hereticos et apostatas aliosque infideles), сярод якіх былі пералічаны грэкі, русіны і армяне [3].

Азначэнне “paganis” (“паганцы”, “язычнікі”) часам сустракаецца ў замежных крыніцах датычна літвінаў, але трэба зацеміць, па-першае, што ў 13–14 ст. ва ўмовах буйных ваенных закалотаў, якія адбываліся перадусім на рэлігійнай глебе, мянушка “паганцы” часам ужывалася хрысціянамі ў дачыненні да варожых хрысціянаў іншае канфесіі. Гэтак, вядомы прыклады, калі крыжакі менавалі “паганцамі” русінаў з Вялікага Ноўгарада ды Пскова або нават грэкаў. Вядома таксама, як пскоўскія ды навагародскія летапісы лаялі “поганую латину”. Вядома, што і богумілаў часам менавалі “безбожны еретици, погански еретици”. Па-другое, тэрмін “паганцы” (paganis) ужываецца да літвінаў рэдчас, галоўнымі ж і наўсцяж ужыванымі да іх мянушкамі ў замежных крыніцах ёсць такія мянушкі, як “няверныя” (infideles), “ворагі веры” (inimicos fidei) ды той жа выяўны тэрмін “вераадступныя” (perfidos або apostatas). Да таго ж, у некаторых выпадках крыніцы яўна адмяжоўваюць літвінаў ад язычнікаў (гл. ніжэй).

Аб канфесійным змесце сярэднявечнага назову “літвіны” могуць казаць паралелі з назовамі “баўгары” ды “баснякі”, якія ў сярэднявеччы нярэдка выконвалі ролю канфесіёнімаў, бо ў Баўгарыі і Босніі ў 12–14 ст. фактычна афіцыйнаю рэлігіяй было богумільства. Гэтак, у 13–14 ст. назоў “баўгары” па ўсёй Еўропе, ад Русі да Францыі, быў вядомы як азначэнне баўгарскае школы богумілаў, якая была шырока вядома ды дасылала сваіх казнадзеяў далёка за межы Баўгарыі. Яшчэ ў 15 ст. рускі царкоўнік пісаў, што астачы богумільства існуюць на Русі пад уплывам кніг “проклятых болгар”. Прыраўнайма гэты прыклад да слоў навагародскага біскупа Генадзія ў яго пасланні маскоўскаму мітрапаліту ў 1490 г. аб тым, што тагачасная навагародска-маскоўская (антыклерыкальнага характару) герэзія – гэта “литовские окаянные дела” [4]. Відавочна, што пад “літоўскім” меўся на ўвазе не этнічны ўплыў, а рэлігійны. Падобным чынам, падчас гусіцкіх войн само імя чэхаў (Bemak) сталася ў каталіцкім асяроддзі азначэннем гусіцкае “герэзіі” – бо гусіцкі рух меў адначасна і нацыянальны, і рэлігійны характар. Яшчэ адзін прыклад – Боснія, дзе ад 12 стагоддзя існавала ўласная богумільская “Црква Босанска”, якая, маючы ўласную богумільскую дагматыку і некаторыя адрозненні ў абрадах, у іншым амаль нічым не рознілася ад звычайнае праваслаўнае царквы. Можна прыраўнаць гэтую нацыянальную царкву да Літоўскай мітраполіі ВКЛ 14 стагоддзя – якая, вядома, была створана і існавала не дзеля нейкага “паганскага балцкага этнасу”, а дзеля хрысціянаў-літвінаў Вялікага княства Літоўскага.

Сярэднявечны евангеліцкі (протапратэстанцкі) рух быў вядомы пад назовам богумільства ва Ўсходняй Еўропе і катарства ў Заходняй. Як і ранейшыя рухі евангеліцка-гнастычнага характару, богумілы цалкам адхілялі старазапаветную этыку ды прызнавалі ў якасці крыніцы веры адно Новы Запавет. Богумілы казалі: “не живемъ по закону Мойсіину, но по Апостольску, ни Давида и Пророкъ послушаемъ, но самаго Евангелія”. Паводле богумілаў, жыдоўскі закон быў дадзены не Богам, а спалым ангелам, які да ўчалавечання Хрыста быў кіраўніком зямнога свету, “князем свету гэтага”. Хрыстос аказаў недасканаласць закону і навучыў сваіх абраных вучняў веры, то бо адзінству з Божай воляй праз дасканалае паслушэнства Айцу у дасканалай міласці (Лк. 6:35-38; Рым. 8:28-33, 3:20-28, 10:4; Гал. 2:16-21, 3:11-14, 5:18, 5:23; Флп. 3:9). Богумілы чыста адмаўлялі ролю закону ў справе апраўдання і казалі, што хрысціяне апраўдваюцца адно вераю ў абранне самаўладнаю міласцю Хрыста, што вылучае якія-кольвечы справы закону. Богумілы выконвалі хрост у дарослым веку праз старажытны абрад накладання рук (адпавядаў абраду высвячэння святара ў грэцкай і рымскай царкве); усе хрышчаныя вернікі лічыліся “дасканалымі” ў Хрысце і маглі выконваць абавязкі святароў (хрысціць і навучаць аб веры). Навука богумілаў была дужа пашырана па ўсёй Еўропе ў 11–14 стагоддзях: яе вызнаўцы ў Босніі, Баўгарыі, Італіі (патарэны), Францыі (катары) і іншых краёх падтрымвалі ўставічныя зносіны міжсобку і лічылі сябе чальцамі адзінае царквы. З навукаю богумілаў і катараў былі знітаваны царкоўныя і каляцаркоўныя рухі францысканаў-спірытуалаў, вальдэнсаў, лолардаў, гусітаў. Галоўныя ўставы богумільскае навукі – аб дакананні закону Хрыстом, апраўданні па веры, самаўладным абранні і аказіяналізме Боскае волі – ляглі ў аснову еўрапейскае евангеліцкае Рэфармацыі 16 стагоддзя.

Звесткі розных гістарычных крыніц сведчаць аб тым, што назоў “літвіны” да Крэўскай уніі 1385 г. быў не этнонімам, а канфесіёнімам – азначэннем мясцовае богумільскае дэнамінацыі. На грунце гэтае канфесійнае супольнасці ўласна і было створана ў сярэдзіне 13 стагоддзя Вялікае княства Літоўскае, а ад пачатку 14 стагоддзя гэтае жыхарства было

задзіночана ў межах Літоўскае мітраполіі – гаспадарстваваe царквы Вялікага княства Літоўскага, створанае ўласна дзеля ўвацаркаўлення гэтае дэнамінацыі.

Як вынікае з галоўнае крыніцы па стварэнні Літоўскае мітраполіі – роспісу епархій бізантыйскага цэсара Андроніка II – Літоўская мітраполія была створана ў 6808 г. ад стварэння свету, то бо ў 1299 або 1300 годзе. Прытым роспіс епархій кажа аб Літве як аб дыяцэзіі (ενορια), то бо біскупстве, яшчэ да 1300 г.: у роспісе сказана, што “τα Λιτβαδα ενορια οντα της μεγαλης ‘Ρωσίας” (Літва, дыяцэзія Вялікае Русі) была паднесена на ровень мітраполіі ў 6808 г. [5]. Пазнейшы ліст Канстантынопальскага патрыярхату таксама сведчыў аб тым, што літоўская епархія (“найсвяцейшае біскупства Літоўскае”) “спачатна” прыслухала Кіеўскаму мітрапаліту, прытым “складала нямалую частку яго епархіі” [6]. У бізантыйскіх крыніцах адзначана, што Літоўская мітраполія была створана праз жаданне цэсара Андроніка II, які ахвотна падвышаў біскупствы да роўню мітраполій [7].

Першы вядомы мітрапаліт Літоўскі Феафіл тройчы браў учасць у паседзінах канстантынопальскага сіноду: у 1317, 1327 і 1329 гг. Тытул мітрапаліта быў “μητροπολίτης Λιτβων” – “мітрапаліт Літвы”. Сядзіба мітрапаліта месцілася ў Наваградку (ад 1416 г. – у Вільні), мітраполія ўлучала Наваградскае, Полацкае і Тураўскае біскупствы [8]. Мітрапаліт меў сваіх намеснікаў у Горадні і Вільні – “из старины”, як адзначана ў лісце з 1451 г. [9].



*Зборная царква св. Барыса і Глеба ў Наваградку (13–16 ст.).*
*У 14 стагоддзі тут адбываліся зборы Літоўскае мітраполіі.*

Сведчанні аб тым, што станавіў сабой народ літвінаў у сярэдзіне 14 стагоддзя, даюць бізантыйскія крыніцы аб высвячэнні ў 1354 г. мітрапаліта Літоўскага Рамана. Ліст 1380 г. сведчыць, што літоўскі народ выказваў жаданне мець уласнага мітрапаліта: “...яго [Альгерда] *народ* не жадаў мець мітрапалітам Алексія” (маскоўскага), а жадаў, каб высвячаны быў на мітрапаліта Раман [10]. У 1364 г. Канстантынопальскі патрыярх Філафей пісаў аб падзеях 1354 г.: “...магутны князь Літоўскае зямлі <...> гатовы быў на ўсё, каб <...> яго край быў самастойным і быў паднесены на ровень мітраполіі, кіраванае ўласным мітрапалітам, аб чым і прасіў свяшчэнны і высокі збор; і гэты збор, занепакоены магчымымі турботамі, якія маглі б паддаць той шматлюдны народ духоўнай небяспецы і зусім адрынуць яго ад святога цела царквы, паставіў пасланага адтуль і прызнанага дастойным кандыдата на мітрапаліта таго краю, згодна з жаданнем *яго народу*, з мясцовымі патрэбамі і жаданнем згаданага князя” [11].

Выяўныя сведчанні аб істасці дакрэўскае “літвы” даюць звесткі гістарычных крыніц пра віленскіх пакутнікаў 1347 г., дваранаў вялікага князя Альгерда – літвінаў Кумца, Кругляца і Няжылу. Жывоты кажуць, што яны былі “родомъ Литвы”, “Литовския ж им имена

Кроуглець, Коумець, Нежило" [12], – што, вядома, не кажа аб іхняй неславянскай этнічнасці. Што азначала прыналежнасць да "літвы", з'ясняюць далейшыя звесткі жывотаў, якія кажуць, што вялікакняскі пасцельнічы Кумец да свайго наварачэння на праваслаўе "*единславен* тем [літвінам] бе и вероподобен" [13]. Гэтая звестка адзначыла не адно, што назоў "літва" быў канфесіёнімам, але і што праваслаўныя разглядалі літвінаў як проста іншаслаўную хрысціянскую канфесію. Гэтаксама сучаснік тых падзей Нікіфар Грыгара не казаў аб нехрысціянстве літвы, а пісаў адно аб "прымхах" літоўскага народу ды аб яго жаданні прыняць "адзінаслаўную (ὁμόδοξος) з намі веру" [14]. Выяўна і тое, што бізантыйскія крыніцы мянуюць віленскіх пакутнікаў да наварачэння на праваслаўе літвінамі (λιτβοι), а пасля наварачэння ўжо русінамі (ρωσοι) [15], – гэта ясна кажа аб тым, што назовы "літвіны" і "русіны" былі канфесіёнімамі.

Аб канфесійным сэнсе назову "літвіны" сведчыць і здарэнне, якое адбылося ў чэрвеню 1378 году ў Маскве, калі маскоўскі князь адмовіўся прыймаць у сябе мітрапаліта Літоўскага, Кіеўскага і ўсяе Русі Кіпрыяна. Прытым Канстантынопальскага патрыярха Макарыя (які спрыяў Літве ды спрычыніўся да пастаўлення Кіпрыяна мітрапалітам усяе Русі) служба маскоўскага князя назвала "літвінам", гэтаксама як і бізантыйскага цэсара. Сам Кіпрыян пісаў аб гэтым у сваім лісце з 23 чэрвеня 1378 г.: "...Что же ли створиша патриаршим послом, хуляше на патриарха, и на царя, и на сбор великий! Патриарха *литвином* назвали, царя тако же, и всечестный сбор вселеньский" [16]. Вядома, найменне "літвін" у дачыненні да Канстантынопальскага патрыярха не было этнічным найменнем. Абразаю было не далучэнне патрыярха Макарыя да нейкага этнасу, а звінавачванне яго (як і ўсяго збору) у схільнасці да літоўскага хрысціянства (богумільства) – таму яго і назвалі "літвінам".

Канфесійны характар дакрэўскага назову "літвіны" захаваўся і ў рускім фальклёру: гэтак, у рускіх былінах, якія распавядаюць пра "паганую" ды "праклятую" літву (т.б. пра дакрэўскую Літву), трапляецца выраз "князь веры литовския" [17]. Варта заўважыць, што выява "литвы" ў шэрагу іншых канфесій ёсць на старых рускіх іконах.

Звесткі каталіцкіх крыніц таксама скразна сведчаць аб канфесійным характару назову "літвіны" да Крэўскай уніі. У 1236 г., падчас крыжовае выправы ліфлянцкіх мечаносцаў на Літву, папская курыя заклікала крыжакоў ваяваць проці "няверных літвінаў" (infidelium Letvinorum) і іхняга "вераадступніцтва" (perfidia) [18]. Папеж Інацэнт IV у 1245 г. загадваў прускім крыжаком рушыць проці "*вераадступных хрысціянаў* літвінаў" (*perfidos christianos* Letoinos) [19]. Пра першага каталіцкага біскупа Літвы (у 1253–1255 гг.) Віта, які быў наастатку паранены і выгнаны літвінамі, каталіцкія крыніцы паведамлялі, што Віт "атрымаў раны за абарону святое веры ад вераадступных" (a perfidis) [20].

У пачатку 1257 г. папеж Аляксандр IV загадаў стварыць новае біскупства ў Лукаве (у Люблінскай зямлі Польшчы, непадалёк ад Бярэсця), "на мяжы з літвінамі і іншымі нявернымі" (да "няверных" тут, як бачым, былі залічаны і русіны Галіцка-Валынскага княства). Біскупам у Лукаве быў прызначаны францыскан Барталамей з Чэхіі, аб якім папеж адзначыў, што ён "у тых землях дбайна рупіцца аб абароне веры проці згаданых няверных". У красавіку 1257 г. папеж даручыў гэтаму Барталамею абвясціць крыжовую выправу "проці літвінаў, яцвягаў, русінаў і іншых паганцаў і схізматыкаў" (contra Litwanos, Jatuenzones et Ruthenos ac alios paganos et schismaticos) [21]. Відаць, гэта быў той самы Барталамей, нямецкі францыскан, якому папеж у тым жа красавіку 1257 г. даручыў кіраванне інквізіцыяй проці катараў у Чэхіі і Польшчы [22]. Адсюль робяцца зразумелымі словы папскага ліста аб намаганнях Барталамея для "абароны веры" ў Польшчы проці "няверных" – літвінаў і русінаў.

Між 1255 і 1257 гг. папская курыя падбухторвала рушыць у крыжовы паход на Літву куяўскага князя Казіміра. Аднак Казімір Куяўскі шукаў пагаднення з Літвою і ўрэшце ўклаў дамову з вялікім князем Міндоўгам. У адказ на гэта ў 1259 г. прускія крыжакі распачалі судовы працэс проці Казіміра, на якім дакаралі яго за чыненне "шкоды хрысціянству і царкве" (ecclesie detrimentium) праз дамову з "ворагамі хрысціянскай веры" (hostibus fidei christiane) літвінамі, ды ў сваім выраку ганілі Казіміра за тое, што ён уклаў мір з "паганскімі літвінамі, то бо вераадступнікамі" (cum paganis Letwinis sive apostatis) [23].

У лісце папежа Урбана IV з 1264 г. вызнаўцам "артадаксальнае веры" (orthodoxe fidei), т.б. католікам, былі проціпастаўлены "рускія схізматыкі і літвіны (Rutheni scismatici et Lituani), якія не сцяць Бога, але ганьбяць імя Ягонае..." [24]. Гэта ясна кажа аб канфесійным

сэнсе назову “літвіны” і аб іхняй блізкасці ў рэлігійным плане да русінаў. Папеж Клімент IV у сваім лісце з 1268 г. пісаў аб паходах крыжакоў проці “літвінаў і іншых няверных” (Lituanorum et aliorum infidelium) [25].

“Ворагамі хрысціянства” і “ненавіснікамі хрысціянаў” менаваў літвінаў (Lettones, Litowini) Генрык Латвійскі ў сваёй хроніцы, складзенай каля 1227 г. Прытым, Генрык менаваў “ворагамі роду хрысціянскага” разам літвінаў і палачанаў, якія разам “чынілі падкопы” маладой ліфлянцкай царкве. Хроніка Генрыка нідзе не мянуе літвінаў язычнікамі (pagani) – на адрозненне ад сапраўды паганскіх земгалаў, ліваў ды эстаў. Заміж гэтага яна мянуе літвінаў “ненавіснікамі хрысціянаў”, “ворагамі Хрыста” і “ворагамі хрысціянства” (больш ніводны народ гэтак у хроніцы Генрыка не выпісаны) [26]. Пазнейшыя ліфлянцкія хронікі таксама размяжоўвалі літвінаў і язычнікаў [27]. Адмяжоўвалі літвінаў ад паганцаў польскія і прускія крыніцы: гэтак, у 1281 г. на Польшчу ўчынілі напад “літвіны з паганцамі” (Lithuani cum paganis), а ў 1293 г. прускія крыжакі ваявалі “проці паганцаў і літвінаў” (contra paganos et Lithwanos) [28].

Чэскі кароль Пржэмысл II у 1267 г., згодна з дамоваю з Тэўтонскім ордэнам аб вайне на Літву, забавязаўся “вынішчыць барбарскую пастку для хрысціянскай веры” (exterminationes gentilium insidiantium fidei christiane) “у краёх адступнікаў ад веры” (in partibus terrarum a fidei apostatarum) – у Літве і землях “іншых ворагаў крыжа Хрыстова” (Lutowiam et alios inimicis crucis Christi...) [29]. Няма патрэбы падчырківаць, што “пасткаю для хрысціянскай веры” (якая існавала сярод “вераадступнікаў”) магло быць менавана не нейкае балцкае язычніцтва, а адно хрысціянская герэзія. Заўважым, што на заклікі Ордэну ды чэскага караля не паўплываў нават той факт, што вялікім князем Літвы ў гэты час быў праваслаўны гаспадар, – як вядома, вялікім князем літоўскім у 1264–1267 гг. быў праваслаўны Васіль-Войшалк, а ў 1267–1270 гг. Шварна Данілавіч. Гэта кажа аб тым, што “вераадступнікаў”-літвінаў каталікі разглядалі нароўні з праваслаўнымі-русінамі, то бо разглядалі літвінаў таксама як хрысціянаў-адшчапенцаў.

Каталіцкія крыніцы почасту менавалі літвінаў “ворагамі веры” (inimicos fidei): напрыклад, польскія хронікі пад 1273 г., крыжацкая хроніка пад 1277 г. [30]. Пад 1294 г. крыжацкая хроніка сведчыла, што мазоўскі князь Баляслаў почасту даваў прытулак “ворагам веры” літвінам (hostes fidei Lethowinos) у замку Візны; паводле меркавання крыжацкага хранікара, побыт літвінаў у Візне гразіў небяспекай “для веры” палякаў і крыжакоў (fidei et fidelibus iterum nova pericula suboriri) [31]. У 1307 г. прускія крыжакі заклікалі да крыжовай выправы “дзеля помсты за знявагу Хрыста, проці народу літвінаў” [32].

Каталіцкія крыніцы нярэдка выяўляюць літвінаў як галоўных ворагаў каталіцкай рэлігіі і кажуць аб пагрозе літоўскае веры для каталіцтва. Гэтак, у 1323 г. вармійскі біскуп пісаў, што “няверныя Хрысту літвіны” (infideles Christi litwini) “імкнуцца скрышыць хрысціянскую каталіцкую веру” [33]. У 1319 г. архібіскуп гнезненскі пісаў папежу Яну XXII, што паходы літвы на польскія землі маюць на мэце прымусіць палякаў “пакінуць святло праўдзівае веры, праз хлусню на Збаўцу” [34]. Аб тым, што ў той час сапраўды адбываўся рэлігійны ўплыў на ўсходнія землі Польшчы і што гэты ўплыў папская курыя лічыла “герэтычным”, сведчаць лісты папежа Яна XXII да біскупа кракаўскага, польскіх князёў і манаскіх ордэнаў з 1318 г., з якіх вядома, што ў кракаўскай дыяцэзіі было нямала “герэтыкоў” (hereticos), чые “герэтычныя аблуды нявер’я” (heretice infidelitatis error) пагражалі “артадаксальнай” каталіцкай веры; у лістох было адзначана, што гэтаму спрыяла тое, што кракаўская дыяцэзія межавала з краямі “іншаверцаў, язычнікаў” (gentilibus et paganis), варожых каталіцкай веры [35]. У 1319 г. польскі кароль Валадыслаў таксама пісаў у папскую курыю, што Польшчы пагражалі суседнія “язычнікі, схізматыкі і іншыя няверныя, ворагі каталіцкай веры” (paganorum aut scismaticorum vel aliorum infidelium, aut hostium Catholice fidei) [36]. У 1325 г. папеж Ян XXII заклікаў польскага караля і біскупаў натхніцца дзеля абароны каталіцкае веры ад суседніх Польшчы “схізматыкаў і няверных” (scismaticos et infideles) [37].

У 1331 г. вялікі майстар Тэўтонскага ордэну Лютэр фон Броншвік вінаваціў польскага караля Валадыслава ў тым, што той прывёў у Польшчу многіх літвінаў, “ворагаў крыжа Хрыстова” (Litwini ... crucis Christi inimicis), каб “шкодзіць хрысціянам” [38]. У 1337 г. у лісце да ўлад Тэўтонскага ордэну было адзначана, што ордэн ваюе проці “няверных літвінаў” (infidelium Lytwinorum), каб прывесці іх да “артадаксальнай веры” (orthodoxe

fidei), “каталіцкай веры” (fide catholica) [39]. У 1343 г. папеж Клімент VI далучаў літвінаў, разам з русінамі і татарамі, да ліку “паганцаў і няверных, ворагаў хрысціянскай веры” (pagani et infideles, videlicet Tartari, Rutheni et Litfani, hostes fidei christiane) [40]. У лісце папежа Клімента VI да польскага караля Казіміра з 1345 г. літвіны былі менаваны “схізматыкамі” (Latwinis scismaticis), то бо хрысціянскімі адшчапенцамі; у сувязі з дамоваю Казіміра з літвінамі і з нямецкім цэсарам Людвікам (дзейным прыхільнікам францысканаў-спірытуалаў) папеж нагадваў, што “герэзіі і расколы” (heresibus et scismatibus) пагражаюць адзінству хрысціянства [41].



*Вайна тэўтонскіх крыжакоў з “няверными”*
*(мініятура з Біблії Тэўтонскага ордэну, 14 ст.)*

Пад 1352 г. каталіцкі хранікар пісаў, што вялікі князь Альгерд “зацінаўся ў ранейшым вераадступніцтве” (in pristina perfidia perseverans) [42]. У 1356 г. папеж Інацэнт VI нагадваў польскім біскупам, што літвіны ёсць “ворагамі каталіцкай веры” (Lituanis, fidei catholice inimicis) і заклікаў да “абароны верных і змагання проці няверных” [43]. У 1357 г. папеж пісаў польскаму каралю Казіміру, што літвіны ёсць “*галоўнымі ворагамі* каталіцкай веры” (catholice fidei *capitalibus inimicis*) [44]. У тым жа годзе Казімір пісаў папежу аб сваіх высілках дзеля пераводу “ворагаў хрысціянскай веры” літвінаў (Lethwani, hostes fidei christiane) “да вызнання артадаксальнай веры” (ad fidei ortodoxe cultum) [45]. У 1363 г. кароль Казімір пісаў папежу, што ў войнах проці “няверных” суседзяў Польшчы – літвінаў і татараў – ён бароніць каталіцкую веру [46]. Калі кароль Казімір у 1360 г. ажаніў свайго ўнука Казіміра, князя шчэцінскага, з дачкою вялікага князя Альгерда Янаю, то пісаў папежу, што праз каталіцкі хрост Яна была адгорнута ад “аблуд нявер’я” (errore infidelitatis), дзеля чаго ў будучыні адчыняюцца магчымасці цалкам навярнуць на каталіцтва “вераадступны народ літвінаў” (perfide gentis Lithuanorum) [47].

Крыжацкі хранікар Віганд з Марбургу пад 1360 г. менаваў літвінаў “ворагамі веры” (inimicos fidei), а пад 1362 г. “ганьбавальнікамі веры і крыжа” (proscriptores fidei et crucis). Пад 1376 і 1379 гг. Віганд менаваў літвінаў “ворагамі Хрыста” [48]. Папеж Урбан V у лісце да архібіскупа гнезненскага з 1369 г. менаваў літвінаў “нявернымі вераадступнікамі” (perfidos infideles) [49]. Падобную тэрміналогію пачалі ўжываць у другой палове 14 ст. і бізантыйскія царкоўныя ўлады: калі ў 1370 г. адбыўся жорсткі закалот Літвы з Маскоўскім княствам і цверскі ды смаленскі князі ваявалі на баку Літвы, Канстантынопальскі патрыярх Філафей закідаў ім падтрымку “ворагаў нашае веры і крэста” і “грэх проці сваёй веры і свайго хрысціянства” [50]. Папеж Грыгор XI у 1373 г. менаваў веру літвінаў “д’ябальскаю аблудаю няверных” (infidelibus diabolica fraude deceptis...) ды заклікаў вызваліць літвінаў з “моцы шатана, які трымае іх аблудамі нявер’я” (de potencia Sathane, qui per infidelitatis errorem...) [51]. Прускія крыжакі ў 1412 г. пісалі пра сваю колішнюю (каля 1372 г.) выправу

на “няверных, ворагаў нашай святой веры літвінаў” (von den vngeloubigen vnd vinden vnszn heligen geloubens Littowen) [52]. Нарэшце, падрабязна выпісаў паноўную ролю богумільства ў Літве кардынал Пётр д’Алы ў 1418 г. (гл. дадаткі). Шмат наўпростых і ўскосных сведчанняў аб хрысціянстве літвы да Крэўскай уніі ёсць у розных лістох канца 14 стагоддзя (гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”).

Выясненне канфесійнага характару назову “літвіны” дазваляе надаць сапраўдны сэнс размежаванню літвінаў і русінаў у Вялікім княстве Літоўскім да Крэўскай уніі. Робіцца зразумелым, што гэтае размежаванне мела не этнічны, а канфесійны сэнс. Больш таго, калі ў крыніцах назоў “Русь” выступаў не ў строга канфесійным, а ў звышэтнічным сэнсе (у якасці азначэння культурнага арэалу былое Кіеўскае Русі), то Літва 13–14 стагоддзяў выступала як частка гэтае Русі (то бо як хрысціянскі славянамоўны край).

Звесткі аб гэтым ёсць ужо ў вышменаваным бізантыйскім роспісе епархій, дзе Літва да 1300 г. названа “дыяцэзіяй Вялікае Русі”. На працягу 14 стагоддзя бізантыйскія крыніцы почасту адзначаюць, што Літва ёсць часткаю Русі. Бізантыйскі гісторык Нікіфар Грыгара ў 1359 г. пісаў, што народ “Русі” падзяляецца на чатыры “русі”: кіеўскую, навагародскую, маскоўскую і Літву, прытым Літва “амаль непераможная” і не плаціць даніну Ордзе [53]. Міхаіл Вальсамон у 1374 г. пісаў пра віленскіх пакутнікаў, што яны былі русінамі, але не з тых русінаў, што жывуць бліжэй да Бізантыі, а з тых, што жывуць далей на поўнач і завуцца літвінамі [54]. Канстантынопальскі патрыярх Філафей у сваім лісце 1371 г. пісаў пра Літву як пра адну з частак Русі, нароўні з Кіеўскаю і Маскоўскаю Руссю [55]. Канстантынопальскі патрыярх Антоній у 1389 г. менаваў вобласць Літоўскае мітраполіі “зямлёю Літоўскаю” і таксама казаў аб ёй як аб частцы Русі [56].

У ладнай меры блізкімі ў канфесійным плане часам разглядаюць літвінаў ды русінаў і заходнія крыніцы 13–14 стагоддзяў. У 1264 г. папеж Урбан IV заклікаў навярнуць землі русінаў і літвінаў (terre Ruthenorum et Lituanorum) да “хрысціянскай веры” (ad christianam fidem) і проціпастаўляў “рускіх схізматыкаў і літвінаў” вызнаўцам “артадаксальнае веры” [57]. Каталіцкія крыніцы нярэдка менавалі рускую веру тымі ж эпітэтамі, што і літоўскую: напрыклад, у 1227 г. папеж Ганорый III у пасланні князём Русі заклікаў іх адмовіцца ад “аблуд” (errores) і “спазнаць ісціну каталіцкае веры” [58], а ў 1257 г. папеж Аляксандр IV у сваім лісце да Данілы Галіцкага менаваў яго праваслаўную веру “цемраю нявер’я” (infidelitatis tenebris) – звычайным азначэннем літоўскае веры ў каталіцкіх крыніцах [59]. У крыжацкім лісце з 1298 г. “няверныя” літвіны былі далучаны да рэлігійных “аблуднікаў”, нароўні з “схізматыкамі русінамі” (...in medio nationum perversarum positi videlicet Lethwinorum infidelium et schismaticorum Ruthenorum) [60]. У лісце папежа Баніфацыя VIII з 1301 г. сярод вызнаўцаў “аблуд” (errores), якіх трэба было пазбыцца падчас пераходу на каталіцкую веру, былі пералічаны як русіны (Ruthenos), так і літвіны (Lethevinos) [61]. У 1304 г. Тэўтонскі ордэн уклаў дамову з біскупамі і капітуламі Ліфлянтаў і Эстоніі для змагання проці “русінаў, літвінаў ды іншых ворагаў хрысціянскай веры” [62]. У ліставанні польскага караля Валадыслава з папежам Янам XXII у 1319 г. літвіны і русіны разам выступалі як “няверныя”, “ворагі хрысціянства” [63]. У лісце папежа Клімента VI да польскага караля Казіміра з 1343 г. русіны і літвіны былі разам азначаны як “няверныя”, “ворагі хрысціянскай веры” (infideles ... hostes fidei christiane) [64]. У лістох папежа Інацэнта VI з 1353 г. “няверныя літвіны” (infideles Litwanos) і “схізматыкі русіны” (Ruthenos scismaticos) былі выяўлены як ворагі “хрысціянаў” (christianos), а іхняя падтрымка была атаесамлена з шкодаю для “хрысціянскай веры” [65]. У папскім лісце з 1351 г. русіны былі менаваны “ворагамі хрысціянскай веры” (fidei inimici) [66], а ў 1356 г. літвіны і русіны былі разам менаваны “нявернымі” [67]. З фразеалогіі папскае курыі відаць, што яна магла выпісваць як “аблуды”, “цемру нявер’я” і да т.п. і праваслаўную рускую, і літоўскую веру, а звычайна ўжыванае да літоўскай веры азначэнне “аблуды нявер’я” (infidelitatis error) было (як відаць, напрыклад, з вышпісаных папскіх лістоў 1318 г.) звычайным азначэннем хрысціянскае герэзіі.

У хроніцы Віганда з Марбургу пад 1330 і 1331 гг. войска вялікага князя Гедыміна было азначана як войска “русінаў” (Reussen). С. Борнбах, які карыстаўся арыгіналам хронікі Віганда, пісаў, што ў 1331 г. Лютар фон Броншвік “меў шмат войн з русінамі, а ўласна з літвінамі” (hatte viele Kriege mit den Reussen d.h. Littauern) [68]. Хроніка Альберта з Страсбургу 14 стагоддзя называе выправу вялікага князя Альгерда разам з пасілкамі Орды ў сакавіку 1352 году на Кракаў выправаю “гаспадара Літвы з пасілкамі татараў” (rex Litoviae

cum auxilio Tartarorum) [69]. Хроніка Генрыка з Рэбдарфа называе гэтую выправу 1352 г. на Кракаў выправаю “татараў і паганскіх русінаў” (Tartari et Ruteni pagani) [70]. Такім парадкам, літвінаў у заходніх крыніцах часам маглі менаваць “паганскімі русінамі”. Крыжацкая хроніка пад 1367, 1372 і 1391 гг. менавала Трокі і Коўню землямі Русі (in Rusiam) [71]. Гэтаксама рускі геаграфічны помнік “Имена всем градом рускым”, складзены каля 1394 г., залучаў да “рускіх” гарадоў усе літоўскія гарады, улучна з Коўняй і Вількамірам.

Але калі назовы “літвіны” і “русіны” браліся ў сваім строгім канфесійным сэнсе, пераход з “літвінаў” у “русіны” быў магчымы адно пры змене веры, то бо пры пераходзе ў праваслаўе (“рускую” веру). Напрыклад, як было адзначана вышэй, бізантыйскія крыніцы мянуюць віленскіх пакутнікаў 1347 году да наварачэння на праваслаўе літвінамі, а пасля наварачэння ўжо русінамі. Падобныя прыклады адзначаны летапісамі: гэтак, літоўскія летапісы кажуць пра князя Гінвіла (памёр у 1199 г.), што ён пасля хросту ў “рускую веру” стаўся “русином” [72]. Гэтаксама крыжацкая хроніка мянуе князя Войшалка па пераходзе на праваслаўе не літвінам, а “русінам” (Rutenus) [73] (літоўскі летапіс кажа, што Войшалк “окрестился в рускую веру”) [74]. Літоўскія летапісы кажуць, што вялікі князь Вітаўт, хрысціўшыся ў праваслаўі ў 1384 г., “русином зостал” [75]. Гэтыя паведамленні ясна падчырківаюць рэлігійны грунт змены ідэнтычнасці, то бо што назовы “літвіны” і “русіны” былі канфесіёнімамі.

Такім парадкам, разнастайныя звесткі гістарычных крыніц сведчаць аб тым, што да Крэўскай уніі назоў “літвіны” (як і назоў “русіны”) быў канфесіёнімам. Падамо цяпер агульны нарыс Літвы 14 стагоддзя з гледзішча яе тэрыторыі, жыхарства, мовы, рэлігійнага жыцця і культуры.

**2. Тэрыторыя Літвы.**

Даследнікі адзначалі, што ў Вялікім княстве Літоўскім 13–15 ст. уласна “Літвою” (у вузкім сэнсе) называліся не адно Віленшчына ды Ковеншчына, але і землі ля Крэва, Наваградка, Слоніма ды Горадні: такім парадкам, гэтая асяродкавая вобласць гаспадарства, уласна “Літва”, не была монаэтнічнаю вобласцю і яе назоў не меў этнічны характар [76]. У святле нашых высноў аб канфесійным характару “літоўскае” ідэнтычнасці ў 13–14 ст. відавочна, што гэтая ўласна “Літва” (у вузкім, правінцыйным сэнсе) была тоесна вотчыне вялікіх князёў літоўскіх, дзе існаваў адметны “літоўскі” парадак землеўладання (гл. ніжэй) і панавала “літоўская” вера.

У шырэйшым, палітычным сэнсе назоў Літвы пашыраўся на ўсё Літоўскае княства – уласна Вялікае княства Літоўскае (без Жамойці) – якое абыймала ўдзельныя княствы Наваградка, Полацка, Друцка, Менска, Слуцка, Мазыра, Пінска. Падчас стварэння Вялікага княства Літоўскага (за часу першага вялікага князя літоўскага Міндоўга) у яго склад увайшлі ўсе тэрыторыі, якія пазней былі вядомы пад назовам уласна “Літоўскага княства” – летапісная ўласна Літва з Коўняй, Горадняй, Уценай і Крэвам, сталечнае места і галоўная сядзіба Міндоўга Наваградак, паўночнае Падляшша з Бранскам і Суражам, Полацк, Друцк і Мазыр; вялікі князь Войшалк далучыў да ВКЛ турава-пінскія землі. Полацк і Віцебск былі ўлучаны ў склад ВКЛ яшчэ Міндоўгам – яшчэ да 1249 г. у Полацку княжыў Міндоўгаў пляменнік Таўтвіл [77]. У 1265 г. полацкі князь Ізяслаў у сваёй грамаце пацвярджаў, што “Полотеск и Видбеск одно есть, а в воли есми божии и в Войшелгове” [78] (гл. дад. №2). Каля 1282 г., падчас вайны з Даўмонтам Пскоўскім, літоўскі князь Лаўр-Рымунт адваяваў захоплены Даўмонтам Полацк, “Полоцкое князство до Литовского прывернул, а сам до Витебска поехал” [79]. Каля 1286 г., як вядома з тагачаснае граматы, літва ахоўвала дарогі Віцебскага княства [80] (гл. дад. №4). Падняпроўскія княствы з Друцкам, Оршаю і Рагачовам ды Мазыр таксама ўвайшлі ў склад ВКЛ яшчэ за Міндоўга, аб чым сведчаць літоўскія крыніцы [81]. Аб знаходжанні падняпроўскіх княстваў у складзе ВКЛ кажуць і летапісныя звесткі пад 1258 г. аб паходзе “литвы с полочаны” на Смаленск і пад 1263 г. аб паходзе войска ВКЛ на Бранскае княства [82]. Літоўскі летапіс, апавядаючы аб сойме баяраў усіх зямель Вялікага княства Літоўскага ў 1264 г., называе прадстаўнікоў гэтых зямель: “Гды таковыи <...> внутрныи незгоды <...> славному панству Великого князства Литовского грозили, обачылися панове, в которых належал порадок <...>, зъехалися до Кернова и радили о выбраню пана и князя собе <...>, а *полочане, новгорожане, городняне, подляшане и мозыране* згожалися еднostайными голосами...” [83].

Турава-Пінскае княства было мэтаю спрэчак літоўскіх і галіцка-валынскіх гаспадароў у 1260-х – 1270-х гадох. Да 1263 г. Пінскам і Туравам, відаць, валодаў Шварна – князь берасцейскі і супольнік Міндоўга і Войшалка. У 1263–1264 гг. у Пінску жыў князь Войшалк; пасля абрання на літоўскі вялікакняскі сталец Войшалк рушыў у Літву наймя "с Пиняны" [84]. У тым жа 1264 г. Войшалк "противко Льву Даниловичу <...> *о границы литовские* воевал", "по смерти Данила кроля руского <...> *килка замков руских опановал*, а <...> тягнул на Волынь, хотячы выдрать Володимер з рук Льва Даниловича; <...> Войселко всего Волыня упорне ся домагал" [85]. Гэтымі "замкамі рускімі", беспярэчна, былі гарады Турава-Пінскага княства – і гэтыя летапісныя звесткі аб "границах литовских" пераканаўча сведчаць аб тым, што Войшалк улучыў Турава-Пінскае княства ў склад ВКЛ (без чаго ён не здолеў бы нагабаць на Валынь). Гэта пацвярджаецца звесткаю Васкрасенскага летапісу, якая кажа, што Міндоўгаў наступнік на літоўскім стальцу "прибавилъ Деревьскіе земли много" [86]. Відавочна, наймя далучэнне турава-пінскіх зямель да ВКЛ спрычыніла злосць князя Льва Данілавіча да Войшалка і забойства Войшалка Львом. І гэта тлумачыць паход вялікага князя Тройдзеня ў 1274 г. на Палессе і далей на Валынь – Тройдзень зноў забраў пад літоўскую ўладу Пінск і Тураў, які ў ВКЛ улучыў яшчэ Войшалк. Таму Галіцка-Валынскі летапіс кажа, што Тройдзень "забывь любви Лвовы" [87] (то бо, відаць, занядбаў нейкую ўгоду аб межах з Львом). Гэтае апавяданне летапісу таксама выяўна абрысоўвае тэрытарыяльны склад ВКЛ у 1275 г.: ордскі цар Менгу-Тымер даслаў у помач галіцка-валынскім князём "Заднепрескыи князи все" – князёў Бранскага і Смаленскага княстваў (якія былі "вси князи в воли в Тотарьской"). Гэта выяўна абрысоўвае тагачасныя межы Вялікага княства Літоўскага і сведчыць аб тым, што падняпроўскія землі з Друцкам і Рагачовам, а таксама палескія землі з Мазыром і Пінскам у 1275 г. былі ў складзе ВКЛ. Галіцка-татарскія паходы на ВКЛ 1275 і 1277 гг., як вядома, не скончыліся перамогаю і Турава-Пінскае княства, відавочна, засталося ў складзе Вялікага княства Літоўскага – аб чым яскрава сведчыць поўнае знікненне звестак аб ім у Галіцка-Валынскім летапісе пасля гэтых падзей. Перамога Літвы ў закалотах 1275–1277 гг., відаць, адбілася ў пазнейшых апавяданнях літоўскіх летапісаў аб перамозе войскаў ВКЛ над лігаю "рускіх князёў" Льва луцкага, Валадзімера валадзімерскага і Рамана бранскага [88]. Падрабязныя летапісныя апавяданні аб заваёве вялікім князем Гедымінам Валыні ў 1321–1322 гг. (гл. дад. №8) кажуць аб літоўскіх паходах толькі на ўласна Валынь (на Валадзімер, Луцк, Оўруч, Жытомір) – такім чынам сведчучы, што турава-пінскія землі і да гэтага былі ў складзе ВКЛ.

Усе землі Вялікага княства Літоўскага ад часу яго стварэння называліся ў палітычным сэнсе Літвою. У 1249 г. валыняне ішлі выправаю "на Литву на Новгородок" [89]. У 1267 г. псковічы, ідучы ў паход на Крэва, ішлі "на Литву" [90]. Выяўнае сведчанне аб мяжы з "літвінамі", то бо з літоўскім народам, ёсць у папскім лісце 1257 г. да біскупа кракаўскага: у ім адзначана, што польскае места Лукаў (блізу 80 км на захад ад Бярэсця) было размешчана "ля мяжы з літвінамі" (in confinio Letwanorum) [91]. Паводле летапісу, князь Даніла Раманавіч, едучы ў 1260 г. "по Литовьскои земле", наведваў Ваўкавыск, Зэльву і Горадню [92]. У 1275 і 1277 гг. валыняне ішлі ваяваць "на Литву" – на Слуцк і Копыль; цягнуўшы ў межы Вялікага княства, валынскія войскі ішлі "от Копыля воюя по Полесью" [93]. Між 1283 і 1324 гг. прускія крыжакі, ідучы "ў зямлю Літоўскую", шматкроць нападалі на Горадню [94]. У 1286 г., паводле крыжацкае хронікі, рака Буг месцілася ў Літве [95].

У 1326 г. у складзе пасольства "из Литвы" ў Вялікі Ноўгарад былі полацкі князь Война, менскі князь Васіль і дарагабужскі князь Фёдар [96]. У 1331 г. шлях навагародскага архібіскупа з Луцка да Чарнігава быў названы ў летапісе шляхам "межи Литвы и Киева" [97]: то бо летапіс пасведчыў, што прыпяцка-палескія землі з Пінскам, Туравам і Мазыром тады называліся Літвою. Выразна палітычнае азначэнне Літвы паўстае ў грамаце літоўскіх князёў 1352 г., у якой у якасці падпарадкаванае Літве краіны выступае "Русь, што Литвы слушаеть" [98]. З тэксту граматы вынікае, што гэтая "Русь" – гэта валадзімерская, луцкая, бэлзская, холмская ды берасцейская землі Валыні; землі ўласна Вялікага княства Літоўскага выступаюць у грамаце як Літва. Папскі ліст 1351 г. таксама адзначаў, што народ літвінаў (Lithwanis) межаваў (confinant) з Валынскім княствам [99]. Вугорская хроніка пад 1351 г. называла польскі Люблін "горадам ля мяжы з літвінамі" (in confinibus Lithwanorum) [100].

На працягу 14 стагоддзя назоў “Літвы” або “зямлі Літоўскае” шматкроць атаесамляецца з вобласцю Літоўскае мітраполіі, якая абыймала Наваградскае, Полацкае і Тураўскае біскупствы. У 1354 г. мітрапаліт Раман быў пастаўлены “на Литовскую землю” [101]. У 1361 г. Канстантынопальскі патрыярх Каліст у сваім лісце менаваў Полацкае, Тураўскае і Наваградскае біскупствы “літоўскімі” (τον Λιτβον) біскупствамі [102] (гл. дад. №18). У 1389 г. патрыярх Антоній менаваў вобласць Літоўскае мітраполіі – Полацкае, Тураўскае і Наваградскае біскупствы – “зямлёю Літоўскаю” [103].

### Вялікае княства Літоўскае ў сярэдзіне 14 стагоддзя

Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае складалася з Літвы (уласна Літоўскага княства), Русі (кіеўска-валынска-падольскіх зямель) і Жамойці

☦ асяродкі біскупстваў Літоўскае мітраполіі

⌘ “грады Литовьскыи” паводле “Имена всем градом рускым”, каля 1394 г.

· · · · тэрыторыя “вышняе Літвы” (Ober-Littauen), паводле “Littauische Wegeberichte”, каля 1401 г.




У той жа час, унутры Літоўскага княства існаваў правінцыйны падзел на ўласна Літву (у вузкім сэнсе) і ўсходнюю частку, якая часам называлася “Руская сторона” або “Руские волости”. Гэтак, вялікі князь Ягайла пісаў у сваёй грамаце 1387 г., што Менск, Бабруйск і Рэчыца знаходзяцца “на руской стороне ... Литовского жъ княженья” [104] (гл. дад. №29). Полацкае ўдзельнае княства было названа “Руская земля” ў граматах полацкіх князёў 1264 і 1338 гг. [105]. Каля 1392 г. вялікі князь Вітаўт ва ўстаўной грамаце Віцебску пісаў: “...нам з

Литвы децкого не слати" [106], – такім чынам, адрозніваючы Віцебскае ўдзельнае княства ад уласна Літвы. Вылучэнне ў ВКЛ уласна "Літвы" ў вузкім сэнсе (яе ўсходняя мяжа ў 14–16 ст. праходзіла прыблізна каля Браслава, Менска і Клецка) адлюстроўвала, відавочна, межы адносна кампактнага рассялення германскага элемента Літвы яшчэ ў 13 стагоддзі і звязаны з гэтым асаблівы парадак землеўладання і павіннасцей ("службы литовские", якія існавалі на гэтай тэрыторыі яшчэ ў 16 стагоддзі). Хаця паводле парадку землеўладання і ў правінцыйным сэнсе гэтая ўласна "Літва" адрознівалася ад суседніх "руских волостей" ВКЛ, ва ўрадава-палітычным сэнсе ўсё Вялікае княства Літоўскае (з Полацкам, Друцкам, Мазыром і Пінскам) як у 14-ым, так і ў 16-ым стагоддзі называлася "Літоўскім княствам", "Літвою" [107].

У грамаце вялікага князя Ягайлы 1387 г. для касцёла ў Абольцах (ля Оршы) было адзначана, што гэты касцёл быў адным з першых, заснаваных "у Літоўскай зямлі" (in terra Litvaniae), у "нашым Літоўскім княстве" (nostras Litwaniae duximus) [108]. Таксама ў прывілеях Ягайлы 1387 і 1389 гг. была мова аб касцёлах, якія ён заснаваў (або меў заснаваць) "по всей земле Литовской" [109], – між тым, як вядома, да 1389 г. былі заснаваны касцёлы не толькі на Віленшчыне, але таксама ў Гайне і Крэве, а неўзабаве былі заснаваны таксама каталіцкія касцёлы ў Менску, Навагрaдку, Бягомлю, Ваўкавыску і іншых гарадох ВКЛ, а тэрыторыя створанага ў 1388 г. Віленскага каталіцкага біскупства ахапіла амаль усю тэрыторыю ўласна ВКЛ з Полацкам і Мазыром (гл. артыкул "Крэўская рэлігійная рэформа..."). Вялікі князь Вітаўт у лісце з 1388 г., якім ён дараваў віленскай катэдры сёлы на Берасцейшчыне, Дарагічыншчыне і Ваўкавышчыне, пісаў, што Дубненская воласць (ля Ваўкавыску) ляжыць у Літоўскай зямлі (in terris nostris Lythuanie...) [110]. Навагрaдак вядомы як "Навагрaдак-Літоўскі" ў лістох вялікага князя Вітаўта 1415 г. (Littawischen Nowogrotko) [111] і ў пасланні праваслаўнага духавенства ВКЛ 1415 г. ("в Новъм-граду Литовском") [112]; прыналежнасць Навагрaдка да ўласна "Літвы" ў вузкім сэнсе вынікае і з іншых дакументаў 15 стагоддзя [113]. У твору пра цуды святога Ніколы, складзеным у Лукомлю між 1402 і 1415 гг., "Літоўскаю зямлёю" названа ўся тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага разам: адзначана, што цуды "в Лукомли створися в Литовской земли" [114]. Таксама ў дамовах ВКЛ з Цвер'ю 1427 г. і з Вялікім Ноўгарадам і Псковам 1440 г. "Литовскою землею", "Литвою" была менавана ўся тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага, разам з Полацкам і Віцебскам [115].

"Зямля Літоўская" ў вузкім сэнсе выступае ў крыжацкіх крыніцах як "вышняя Літва" (Ober-Littauen). Крыжацкі помнік "Littauische Wegeberichte" ("Паведамленні аб літоўскіх дарогах") быў складзены між 1384 і 1401 гг. У ім першая частка прысвечана Жамойці, другая ж частка прысвечана "вышняй Літве" (Ober-Littauen) [116]. У гэтай "вышняй Літве" бальшыня дарог звязана з Вільняй, Трокамі і Горадняй, у тым ліку згаданы такія дарогі: №62 – праз Візну (у Мазоўшы) у Горадню; №66 – дарога ад ракі Нявяжы да Вільні; №68 – дарога ля ракі Віліі да Кернава і Майшаголы; №73 – дарога з Коўні да Меднікаў; №79 – розныя дарогі між Мераччу, Трокамі і Горадняй; №83 – дарога з Горадні ў Салечнікі; №84 – дарога з Салечнікаў у Ваўкавыск, праз Дубічы і Васілішкі; №89 – дарога ў Астрына праз Горадню і Азёры (Азёры і Астрына пазначаны як "гаспадарскія двары"); №91 – дарога з Горадні ў Крэва, праз Астрына, Васілішкі, Ліду, Ліпнішкі, Гальшаны; №93 – дарога ў Горадню, згаданы Дубна, Дзярэчын, Слонім, Васілішкі, Астрына, Ваўкавыск; №94 – дарога з Візны ў Навагрaдак; №96 – дарога ў Ліду, згаданы Навагрaдак, Астрына, Васілішкі; №97 – дарога з Ваўкавыска ў Навагрaдак, згаданы Слонім; згаданы яшчэ дарогі праз Крэва, Гальшаны, Ашмяну, Дудзішкі, Меднікі; №98, 99 – дарогі з Горадні ў Навагрaдак; №100 – дарога з Трабаў у Навагрaдак, згаданы Крэва, Валожын, Бакшты, Любча.

Варта дадаць, што тэрмін вялікакняскае канцылярыі "Завілейская старана" азначаў паўночную частку Літвы (на поўнач ад Вяллі) [117], – такім парадкам, і гэты факт ёсць пацверджаннем таго, што асяродак гістарычнае Літвы знаходзіўся на поўдзень ад Вяллі, то бо ля Ліды і Гальшанаў.

Грунтоўным геаграфічным помнікам, які выпісуе Літву 14 стагоддзя, ёсць вядомы твор "Имена всем градом рускым". Ён быў складзены пасля 1375 г. (каля 1394 г.), імаверна, у канцылярыі мітрапаліта Маскоўскага (былога мітрапаліта Літоўскага) Кіпрыяна. Помнік пералічае "Литовскии грады" ў спісе "руских" гарадоў, такім чынам, разглядаючы Літву як славянскі і хрысціянскі край; пры гэтым ніводны горад або мястэчка Жамойці ў гэтым спісе не далучаны да "літоўскіх гарадоў". Між "літоўскіх гарадоў" пералічаны: Вільня, Трокі,

Вількамір, Коўня, Горадня, Наваградак, Клецк, Слуцк, Менск, Лагойск, Гальшаны, Крэва, Барысаў, Полацк, Віцебск, Друцк, Лукомль, Орша, Крычаў і іншыя (гл. дад. №36). Улічваючы тое, што навукоўцамі высветлена, што гарады ў спісе "Имена всем градом рускым" былі асяродкамі царкоўных прыходаў [118], трэба казаць аб існаванні ў 14 стагоддзі прыходаў Літоўскае мітраполіі ў наступных гарадох паўночнае Літвы: Вільня, Мерач, Меднікі, Вількамір, Старыя Трокі, Новыя Трокі, Кернаў, Майшагола, Коўня, Пуня і Пералая.

У сваім галоўным, палітычным сэнсе назоў "Літвы", "Літоўскага княства" ад часу стварэння ВКЛ заўсёды быў тоесны ўласна Вялікаму княству Літоўскаму (без Жамойці і ўкраінскіх зямель) і не пашыраўся на Жамойць. Напрыклад, у акце размежавання ВКЛ з Ліфлянтамі 1506 г. "граница Жомойтской земли з Лифляндскою землею" была разгледжана апрычона ад літоўскае мяжы, у той час як "Литовская граница" ішла "до Дрысвета и до Браславля, аж и до Псковского рубежа", то бо абыймала Полаччыну [119]. Пытанні "границы Литовское" з Жамойцю разглядаліся і на соймах 1542 і 1554 гг. [120].

**3. Жыхарства.**

Як адзначана вышэй, супольнасць "літвінаў" 13–14 стагоддзяў складалі элементы рознага этнічнага паходжання. Паноўны ўсходнегерманскі элемент Літвы паступова славянізаваўся і асіміляваўся з яе славянскім жыхарствам, якое пры вызнанні літоўскае веры далучалася да супольнасці літвінаў. Субстратнае балцкае жыхарства Літвы адыгрывала пасіўную палітычную ролю і таксама паступова славянізавалася.

Звесткі гістарычных крыніц сведчаць аб імклівай славянізацыі германскае шляхты Літвы, а таксама аб прыналежнасці славянскага элемента да супольнасці "літвінаў" у 13–14 стагоддзях. Яшчэ за часу вялікага князя Міндоўга сустракаем літвінаў Рушковічаў, Булевічаў, Хвала, Луку Літвіна [121]. У 14 ст. сустракаем сярод літвінаў такія імёны, як Юрый Вітаўтавіч, Нацко Чыжэвіч, Васіль Будвойна, Даніла Вісавідавіч, Бутвід Ракутовіч, Бутрым Савічэвіч. Германская шляхта літвінаў, мабыць, яшчэ захоўвала сваю выразную этнічную (германскую) адметнасць і свядомасць у сярэдзіне 13 стагоддзя падчас стварэння ВКЛ, калі ў 1264 г. на сойме ўсіх зямель ВКЛ "литовские панове" адмаўлялі Данілу Галіцкаму і яго сыном у праве на літоўскі вялікакняскі сталец і згаджаліся пасадзіць на яго толькі Войшалка "боронячы в том и перестерегаючы вольности своей и всего народу своего литовского" [122], – але самі ўмовы стварэння ВКЛ даўнімалі існаванне ідэнтычнасці "літвінаў" у якасці канфесійнае і няўхільную поўную славянізацыю ўсяго жыхарства Літвы, дзеля чаго ўжо ў сярэдзіне 14 стагоддзя самі літоўскія князі менавалі "літоўскаю" беларускую мову (гл. ніжэй).

Праз пераход значнай часткі жыхарства Вялікага княства (яшчэ ў часе яго стварэння) да літоўскай веры адбылося пашырэнне гэтае канфесійнае ідэнтычнасці і кансалідацыя пад імем "літвінаў" жыхарства ВКЛ незалежна ад яго этнічнага паходжання. Напрыклад, для крыжацкіх крыніц канца 13 – пачатку 14 стагоддзя, жыхарства Горадні і Гарадзенскага княства – гэта безумоўна "літвіны" (Lethowini), "няверныя" (infideles) [123]. Гэтаксама, папскія лісты 1257, 1351, 1355 гг. казалі аб пражыванні літвінаў на Падляшшы, Берасцейшчыне, Піншчыне: народ літвінаў (Lithwanis) межаваў з Валынню, Люблінскаю зямлёю, Мазоўшам (гл. вышэй). У 1324 г. прускі клерык пісаў, што літоўскую веру вызнавала "ўсё гаспадарства" (toto regno) Гедыміна (гл. ніжэй): з чаго можна вывесці, што літвіны складалі большыню жыхарства Вялікага княства або, прынамсі, у вялікіх лічбах жылі на ўсіх яго землях. Гэта і была тая "літва", дзеля якой была створана Літоўская мітраполія на чале з "мітрапалітам літвы" (μητροπολίτης Λιτβων).

У хроніцы М. Стрыйкоўскага, які карыстаўся літоўскімі летапісамі, пад 1316 г. згаданы літвіны Ходзька, Іван, Алізар і Юрый, якія ратавалі сына вялікага князя Гедыміна ў бітве [124]. Камплект грамат 1347 г. аб куплі зямлі, пацверджанай вялікім князем Альгердам, мае сумнеўнае паходжанне, але матэрыял гэтых грамат, магчыма, мае дачыненне да гістарычных рэалій часоў Альгерда. У гэтых граматах згаданы баяры і жыхары Эйшышскага і Радуньскага паветаў: дваранін Грыгор Патрыкеевіч Тункель і яго малжонка Катарына Пецькаўна, намеснік эйшышскі пан Юшко Яковіч, намеснік радуньскі пан Януш Касцевіч, пан Пётр Аляхновіч, пан Рымко Якубовіч, падкаморы пан Пётр, Алёхна Рамашковіч, Енюль Радзівілавіч, Юшко Кітовіч і яго сыны Войтка ды Аўлік, Янель

Дашковіч, Бартко Міцэвіч, Нацко Чыжэвіч з сынам Пятрашкам, Мікалай і Пашко Яцковічы ды іншыя [125].

Віленскія пакутнікі з 1347 г. Кумец, Круглец і Няжыла (як адзначана вышэй) былі "родомъ Литвы" ("Литовския ж им имена Кроуглець, Коумець, Нежило"). У 1357 г. полацкі князь Андрэй Альгердавіч выправіў у Пскоў у якасці намесніка літвіна Васіля Будвойну [126]. Яшчэ ў 1342 г. Пскоў абараняў літоўскі князь Юрый Вітаўтавіч [127]. Пры падпісанні дамовы аб мяжы між Мазоўшам і Вялікім княствам Літоўскім у Горадні 13 жніўня 1358 г. з літоўскага боку ў перамовах бралі ўчасць баяры Алізар і Васко Кірдзеевічы [128]. Імаверна, той жа Алізар быў прызначаны вялікім князем Альгердам суддзёй з літоўскага боку па памежных пярэчках з Польшчаю паводле дамовы 1366 г. (гл. дад. №19). У грамаце вялікага князя Альгерда 1359 г. згаданы князі Кейстут, Войшвіл, Карыят, Ніхна, Віршул і баяры Давіла, Ленуш, Крак і Гродвіл (апрача германскіх імёнаў літвінаў бачым тут яўна славянскія імёны Крак і Ленуш) [129]. Атакар Остыкавіч, чашнік вялікага князя Вітаўта, апавядаючы свой радавод крыжацкаму дыпламату Конраду Кібургу ў 1397 г., распавядаў пра свайго бацьку Грыгора Остыка, які займаў высокія пасады ў 1370-х гадох [130].

Сведкамі дамовы Ягайлы і Кейстута з Тэўтонскім ордэнам 1379 г. былі князі Юрый Кажушна і Іван Альгімунтавіч Гальшанскі, стараста лідскі Вайдыла і баяры Буска (продак Кясгайлаў), Саймунт Гірдутавіч і Ядут Сурконтавіч [131]. Паводле сведчанняў летапісаў, у 1382 г. каморнікамі вялікага князя Ягайлы былі Прокша, Крэўлянін, Кучук і Лісіца [132]. Падчас смерці князя Кейстута пры ім у вязні быў ягоны каморнік Грыгор Амуліч (ён быў родам з-пад Трокаў, ягоная жонка звалася Аленаю) [133]. Пры двару Ягайлы ў 1390 г. служыў літвін (Lythuano) Барыс, лоўчыя літвін Кузьма і літвін Цімуш [134]. Ягайлаў сакольнічы зваўся Фёдар Вясна [135].

У паручных граматах літоўскае шляхты вялікаму князю Скіргайлу 1387–1389 гг. поруч з чыста славянскімі імёнамі баяраў бачым славянізаваныя германскія імёны літвінаў: Братошы Гайлютовіча, Бутвіда Ракутовіча, Бутрыма Савічэвіча, Лелюша Герстаўтавіча, Дзерманта Савігінавіча, Данілы Вісавідавіча, Манівіда Гайлігінавіча [136]. Між 1395 і 1411 г. маршалкам гаспадарскага двара (ад 1407 г. маршалкам земскім) быў Чапурна Радзімавіч, які ўжываў пячатку "ЧОПУРНА РОДИМОВИЧ" [137].

Сведкамі Салінскае дамовы вялікага князя Вітаўта з Тэўтонскім ордэнам 1398 г. выступілі: князі Валадзімер Альгердавіч, Жыгімонт Кейстутавіч, Юрый Нарымонтавіч, Міхайла Яўнуцевіч, Аляксандр Патрыкеевіч, Іван Гальшанскі, Іван Друцкі, наместнік клецкі Васіль-Ямунт Талунтовіч, стараста ашмянскі Мінгайла, стараста віленскі Манівід, маршалак дворны Чапурна Радзімавіч, стараста крэўскі Гастоўт, стараста медніцкі Карэйка, баяры Братоша, Васіль Барэйкавіч, Гірд Скомундавіч, Гінтаўт Вігайлавіч і іншыя [138].

Літоўскі летапіс пералічае імёны "літоўскіх" князёў, якія загінулі ў бітве на Ворскле ў 1399 г.: "А которых збитого воиска имена суть князей литовских: князь Ондрей Олкгирдович полоцкий, брат его князь Дмитрей брянский, князь Иван Дмитрьевич, князь Андрей пасынок князя Дмитров, князь Иван Борысович киевский, князь Глеб Светославович смоленский, князь Глеб Корятович, брат его князь Семен, князь Михайло Подберезский а брат его князь Дмитрей, князь Федор Патрыкеевич волоский, князь Иван Юрьевич Белский..." [139]. Рускі летапіс таксама пералічае пад 1399 г. гэтых "літоўскіх" князёў: "А се имена убитыхъ князей Литовскихъ: князь великий Андрей Олгердовичь Полотцкий, князь велики Дмитрей Олгердовичь Брянский, братъ ихъ изъ двоюродныхъ князь Михайло Евнутьевичь, внукъ Гедиманов, князь Иван Дмитриевич Киндырь, <...> князь Левъ Кориадовичь, князь Михайло Васильевичь, да братъ его князь Семенъ Васильевичь, князь Михайло Подберезский, да братъ его князь Александръ, <...> князь Андрей Дрютский, князь Монт Толунтович, князь Иван Юрьевич Бельский, князь Дмитрей Кориадович, князь Ямонтъ Смоленский наместникъ" [140].

Акт Віленска-Радамскае уніі 1401 г. прысведчылі: князь Іван Гальшанскі з сынамі Андрэем і Сямёнам, князь Сямён Ямунтавіч, баяры Мінгайла Гедыгоўдавіч, Манівід, Гедыгоўд, Станіслаў Чапурна, Братоша і яго сын Зіновій, Гастоўт, Остык, Войнад Русіловіч (Woynad Rusilowiczh), Воўчка Вялютовіч (Wolczhko Welutewicz), Воўчка Тансаўтовіч (Wolczhko Tonsowtowicz), Няміра з братамі, Раман Мілейкавіч з братам Воўчкам, Юрый Шэліўровіч ды іншыя [141].

Сярод сведкаў актаў Гарадзельскае уніі 1413 г. былі літвіны-католікі: Іван-Яўнут Валімунтавіч (Wolimuntowicz), Ян Рымавідавіч (Rymovydovicz), Воўчка Кульва, Гінет Канчэвіч (Conczevicz), Станіслаў Бутаўтавіч (Buthowthowicz), Міцусь Вільчковіч (Vilczcovicz), Качан, Чупа, Вайдыла Кушаловіч (Cussolowicz), Качан Суковіч (Sukowicz), Воўчка Ракутовіч (Rocuthowicz) ды іншыя [142].

У грамаце вялікага князя Вітаўта баярам Пуні і Бірштанаў з 1420 г. згаданы мясцовыя баяры Мацей Янковіч, Аловец Янковіч, Якуб Станкевіч, Дарота Станкевіч, яе бацька Мікалай Ятвідавіч ды князь Матфей Мікіціціч [143] (гл. дад. №43). У пацвярджальнай грамаце вялікага князя Вітаўта для віленскай катэдры з 1423 г. згаданы сем'і літвінаў-католікаў: Львовічаў (Lwowiczy), Небутовічаў (Nebutowiczy) і Цярэнцевічаў (Terentiewiczy) [144]. У літоўскіх летапісах баярын Андрэй Няміра пад 1406 г. ды князь Міхайла Баба пад 1431 г. азначаны як "літвіны" [145]. У граматах наданняў каталіцкім касцёлам і кляштаром Віленшчыны першае паловы 15 стагоддзя згаданы такія імёны, як Алёхна Воўчкавіч, Андрэй Мацеевіч, Лаўрын Андрэевіч, Міхайла Раковіч, Івашка Свірбловіч, Міхайла Петрашовіч, Яцко Гасковіч, і іншыя славянскія імёны літвінаў-католікаў (гл. артыкул "Крэўская рэлігійная рэформа...").

Для богумілаў розных краёў Еўропы было ўласціва ўжыванне народных (нецаркоўных) імёнаў. Таму зразумела шырокае ўжыванне не толькі германскім элементам, але і славянскім элементам літвы народных імёнаў або народных форм царкоўных імёнаў. Гэтак, у 14-ым і пачатку 15-га стагоддзя былі такія імёны літвінаў, як Ходзька, Войтка, Кумец, Круглец, Няжыла, Воўчка, Некраш, Рачко, Лугіна, Качан, Радзім, Чапурна і інш. Царкоўныя імёны ўжывалі ў народных формах: Іван – Івашка, Дзмітрый – Міцько, Мацвей – Матысь або Мацко, Аляксей – Алёхна, Юрый – Юшко. Шырока ўжывалі народныя славянскія імёны і прадстаўнікі германскага з паходжання элемента літвы: гэтак, у канцы 14 – пачатку 15 ст. былі такія імёны, як Братоша Гайлютовіч, Мантыгайла Жукевіч, Воўчка Эйдатавіч, Алёхна Гердывідавіч, Юндыл Рачковіч, Даўмонт Воўкавіч і інш. (гл. артыкул "Крэўская рэлігійная рэформа...").

**4. Мова.**

Пашыраць жамойцкую мову пад імем "літоўскае" ўпершыню пачалі езуіты ў другой палове 16 стагоддзя. Рэлікты спачатнае ўсходнегерманскае мовы літвы засталіся ў пісьмовых крыніцах і ва ўрадавай тэрміналогіі Вялікага княства Літоўскага (гл. артыкул "Германскі суперстрат у старажытнай Літве"). Прынамсі ад сярэдзіны 14 стагоддзя "літоўскаю" моваю ва ўсіх крыніцах называлася старабеларуская мова. Гэтая мова была роднаю, пабытоваю для вялікіх князёў, літоўскіх баяраў, простага люду Літвы, яна была моваю ўрадаў, судоў, ад канца 14 стагоддзя моваю літоўскага касцёла і касцёльнае адукацыі, адным словам, моваю літоўскага народу ды гаспадарстваваю моваю Вялікага княства Літоўскага. Старабеларуская мова ад пачатку існавання ВКЛ ужывалася таксама для дыпламатычнага ліставання і міжнародных угод: гэтак, у ёй складзена дамова князя Гердзеня (стрыечнага брата вялікага князя Міндоўга) з Ліфлянцкім ордэнам з 28 снежня 1264 г. (гл. дад. №1).

У Вялікім Ноўгарадзе знойдзена пячатка вялікага князя Міндоўга з выяваю расцвітага крэста і надпісам "Мънгдовь" [146]. Вядома, што ў 1262 г. папеж даручаў кракаўскаму біскупу даслаць да Міндоўга каталіцкіх святароў з ведаю славянскае мовы [147]. Паводле паведамлення літоўскіх летапісаў, вялікі князь Тройдзень каля 1270 г. збудаваў на рацэ Бобр (на мяжы Літвы з Прусамі) горад, які назваў Райгорадам ("И князь великии Троидень наидеть гору красную над рекою Бебрею, и сподобалося ему там вельми, и зарубил город, и назоветь его Раигород") [148], – гэты славянскі назоў заснаванага гораду таксама ёсць сведчаннем аб мове вялікага князя. Гэты прыклад, як і прыклады надання назову Вількаміру (у першай чвэрці 13 ст.) [149] і Пабойску (у 1435 г.) [150], ёсць сведчаннем аб пабытовай мове тагачасных літвінаў.

Хаця ўласная (германская) мова літвы часткова захоўвалася ва ўжытку недзе да пачатку 14 стагоддзя, аповеды літоўскіх летапісаў аб жыцці літоўскіх князёў і вялікакняскага двара 13–14 ст. (гл. дад. №3, 7, 13) беспярэчна паказуюць, што пабытоваю моваю літоўскае шляхты тады была старабеларуская мова – якая ў другой палове 14 стагоддзя ўжо стала называецца "літоўскаю". Напрыклад, апавяданне літоўскіх летапісаў аб сойме баярства ВКЛ у 1294 г., на якім князь Рымунт мовіў аб паходжанні гербу "Пагоня", безумоўна,

перадае арыгінальную старабеларускую мову Рымунта [151]. Беларускую мову літоўскія князі ўжывалі не толькі для падавання грамат і прывілеяў "рускім" землям ВКЛ, але і ў нутраных справах уласна Літвы – аб гэтым беспярэчна сведчыць звестка Хронікі Літоўскае аб укладанні сынамі Гедыміна на сойме ў Вільні ў 1341 г. пісьмовых дамоў ("такое писанье дали собе") аб супольных дзеяннях (гл. дад. №14). У 1397 г. віленскі біскуп Андрэй Васіла сведчыў, што яшчэ ў сярэдзіне 13 стагоддзя літоўскія князі прынялі рускую мову як мову сваіх двароў [152].

У 1351 г. князь Кейстут з ваярамі з Трокаў, Горадні, Дарагічына і Бярэсця цягнуў у паход проці вугорскіх войскаў. Падчас замірэння з уграмі Кейстут забіў быка на знак міру, пасля чаго Кейстут і літвіны выгукнулі тое, што ў вугорскай хроніцы было запісана "rogachina roznenachy gospanany". У арыгінале выслоўе, відавочна, гучала: "Рагаціна – розні нашы. Госпад на ны!" – што пацвярджаецца яго перакладам у лаціну (Deus ad nos ... cornutum ... iuramentum per nos...). У хроніцы запісана, што Кейстут і літвіны выгукнулі гэта "па-літоўску" (lithwanice) [153]. Гэта першы ў гісторыі занатаваны прыклад "літоўскае" мовы.

У 1358 г. дзеля вызначэння дакладнае мяжы між Вялікім княствам Літоўскім і Мазоўшам быў скліканы адмысловы сойм з літоўскіх і мазоўскіх князёў і баяраў, які скупіўся ў Горадні. У лацінскім акце размежавання, выдадзеным у Горадні 13 жніўня 1358 г. князямі Кейстутам, Патрыкеем і Войшвілтам ды баярамі Айкшам, Алізарам і Васком Кірдзеевічамі, былі ўжыты транслітараваныя ў лаціну "гутарковыя" назовы памежных кропак "Каменны брод" (in vulgari a *Kamyoni brod*) і "вусце вялікай стругі" (*uscze welikey strugi*) [154]. Напрыклад, у грамаце князя Кейстута торуньскім купцом 1355 г. ёсць выраз "...абы вам не закажали, мы хочем рады то учынити" [155] (гл. дад. №16) – гэта чыста гутарковая беларуская мова. Гэтая народная мова прынамсі ад сярэдзіны 14 стагоддзя называецца "літоўскаю". У ёй літвіны 14 стагоддзя складалі ўрадавыя лісты, летапісы, міжнародныя ўгоды (гл. дад. №13–33), называлі яе "гутарковаю", "народнаю" ў чысленых сведчаннях. Вялікі князь Вітаўт выдаваў беларускаю моваю граматы ваяводзе віленскаму Манівіду на валоданне яго вотчыннымі ўладаннямі Геранёнамі і Жупранамі (гл. дад. №37), маршалку гаспадарскаму Кясгайлу на валоданне Дзявілтавам ("стародавная его отчызна") [156], судовыя выракі віленскім біскупам, князём Гедройцкім і іншым паном (гл. дад. №38, 43, 47). У пазнейшых лістох захаваліся сведчанні аб тым, што вялікі князь Вітаўт выдаваў у беларускай мове пацвярджальныя граматы на шляхецтва літоўскім баярам (гл. артыкул "Літоўскае права..."). Ваявода віленскі Альберт Манівід (1396–1423) выдаваў віленцам граматы ў беларускай мове (гл. дад. №55).



*Грамата караля Валадыслава-Ягайлы князю Скіргайлу 1387 г. (гл. дад. №29)*

Вялікі князь Ягайла пад літоўскаю моваю разумеў беларускую: у сваім прывілеі з 20 лютага 1387 г. Ягайла пісаў аб старажытным звычаі "гнання ворагаў з нашае Літоўскае

зямлі” (terrae nostrae Lithuanicae), які “па-народнаму” (vulgo dicitur) называўся “пагоня” (*pogonia*) [157] (гл. дад. №28). Родную, пабытовую мову Ягайлы, як і іншых літвінаў, добра відаць у перакладных лацінскіх і нямецкіх граматах, у якіх засталіся транслітараваныя лацінкаю беларускія словы і выразы. У граматах Ягайлы і Вітаўта бачым транслітараваныя лацінскімі літарамі словы “боры”, “гаі”, “прысёлкі”, “сем’і”, “сябрычы”, “дзецкія”, “серабшчызна”, “палюддзе”, “лукно шасціпяднае” і інш.; прытым адзначана, што гэта простанародныя (vulgariter) словы мовы літвінаў (“ministerialibus vulgariter *dzeckiye*”, “contributionibus, vulgo *srzebrzyzna*”, “familiae vulgariter *siemie*”, “stacionis *poludze* apellato”) [158]. У 1371 г. у грэцкім лісце вялікага князя Альгерда быў транслітараваны назоў пасады “нагубнік” [159].

У “Скарзе Вітаўта”, складзенай па-нямецку паводле слоў Вітаўта ў Тэўтонскім ордэне ў 1390 г., былі ўжыты транслітараваныя лацінскімі літарамі словы “ваяводы” (woywoden), “баяры” (baiorn), “цямніцы” (temenitczen) ды “язы” (jsen) (загароджы ў рацэ на рыбу) [160]. У сваёй лацінскай грамаце для віленскай катэдры з 1423 г. вялікі князь Вітаўт пісаў, што “лукно шасціпяднае” (lukno szescipedne) гэта “простанародны” (vulgariter) назоў меры мёду [161]. Яго брат Жыгімонт Кейстутавіч у лацінскай грамаце для касцёла ў Геранёнах у 1411 г. пісаў аб мерах, што “па-народнаму” называюцца “шасціпяднае пудла” (vulgariter dicitur *szesczipanthne pudlo*) ды “пуд воску” (vulgariter dicitur *pud vosku*) [162]. У іншых літоўскіх лістах 14 і 15 стагоддзяў, перакладзеных у лаціну або нямецкую мову, былі ўжыты транслітараваныя лацінскімі літарамі словы “гараднічы”, “дзяржаўцы”, “цівуны”, “устаўная бочка”, “смерды”, “конюхі” ды іншыя [163].

Першы віленскі біскуп Андрэй Васіла (памёр у 1398 г.) у сваім лацінскім тэстаменце пакінуў словы “нашыць” (naszycsz, нашыўка на святочную сукню) ды “лысы жрэбеч” (lyssy szrzebyecz), запісаўшы, што гэта словы “простанароднае” (vulgariter) мовы віленцаў [164]. Аб славянскай мове тагачасных віленцаў кажа і тапаніміка Вільні – такія назовы частак гораду, як Крывы горад (згаданы ў 1390 г.), Лукішкі (1397 г.), Свята-Юр’еўская слабада (1397 г.), Балотна, Крынічын (сярэдзіна 15 ст.). Дыпламат Тэўтонскага ордэну Конрад Кібург, які наведаў Вільню ўлетку 1397 г., пісаў у сваім дзённіку, што літвіны разам з русінамі святкуюць свята Івана Купалы, якое літвіны мянуюць “Раса” (Rossa) [165] (“Раса” – іншы беларускі назоў Купалля [166]).



*Старонкі “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” – прыдворнага летапісу Вялікага княства Літоўскага 15 стагоддзя*

Пад 1406 г. літоўскія летапісы апавядаюць, як баярын “Андрей литвин” адмаўляў вялікага князя Вітаўта ад замірэння, выгукнуўшы: “Не миры, Витовте, не миры”. Дзеля

гэтага Вітаўт празваў гэтага баярына Нямірам і ад яго пайшоў баярскі род Няміраў [167]. Такім чынам, літоўскія летапісы сведчаць, што гутарка між баярынам-літвінам і вялікім князем адбывалася ў славянскай мове.

Багата прыкладаў гутарковае мовы літвінаў 15 стагоддзя падаюць перакладныя граматы паноў Кязгайлаў, Радзівілаў, Гедыгоўдавічаў і іншых (разгледжаны П. Урбанам за 1411–1491 гг.). У лацінскіх тэкстах гэтых грамат ужыты транслітараваныя лацінкаю словы: “устаўнае лукно”, “пашня”, “сенажаці”, “сябрычы”, “дзяльніца”, “чэлядзь”, “конюхі”, “ушаткі”, “ялавіцы” і інш. Ёсць і цэлыя выслоўі: “на дзесяць пудоў мёду”, “на чатыры сохі”, “на тры сцірты”, “першароднае жэрабя”, “кулі ліпцу”, “з пашняй”, “подле дарогі міма касцёла нашага” і інш. У многіх выпадках адзначана, што гэта простамоўныя, гутарковыя (vulgariter) словы мовы літвінаў [168]. У 1473 г. ваявода троцкі Радзівіл Остыкавіч (Radiwil Oscikowitcz), стараста жамойцкі Ян Кясгайлавіч (Johannes Kenszgailowitcz), стараста браслаўскі Багдан Саковіч і стараста лідскі Ян Кучук уклалі на ліфлянцкай мяжы з дастойнікамі Ліфлянцкага ордэну акт аб размежаванні “нашых літоўскіх” (nostram Lythphanorum) зямель з Ліфлянтамі; у акце былі згаданы межы, менаваныя “граніцы” (*granicies*), і ўзгорак, менаваны “*копец*” (colliculum alias *kopecz*) (копец – межавы знак у выглядзе насыпу з стаўпом) [169].

Старабеларуская мова называлася “літоўскаю” і ў касцёле Вялікага княства Літоўскага. Народная мова ўжывалася ў літоўскім касцёле не адно ў казанях, але і ў школьнай адукацыі і набажэнстве (гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”). Каталіцкі місіянер Ян Еранім Празскі (спавядальнік караля Валадыслава-Ягайлы), які пасля 1394 г. наведаў Літву, казаў веру да літвінаў у славянскай мове ды паведамляў аб літвінах як аб славянскім народзе [170]. Звесткамі Яна Ераніма карыстаўся Энэй Сільвій Пікаламіні для сваёй “Maximi Historia Rerum”, складзенай у 1440-х гадох: “Літва месціцца на ўсход ад Польшчы. <...> Мова народу – славянская” (Lituania et ipsa late patents regio Polonis ad orientem connexa est. <...> Sermo gentis Sclavonicus est) [171].

У Я. Длугаша пад 1440 г. адзначана, што літоўскія вяльможы ў Вільні вучылі каралевіча Казіміра “літоўскім звычаям і мове”. У тым жа месцы ў Длугаша гэтыя літоўскія вяльможы, што апякалі ды вучылі Казіміра, пералічаны пайменна: гэта князі Алелька Валадзімеравіч, Юрый Гальшанскі, Васіль Пуцята ды баяры Івашка Манівідавіч, Пятрашка Мантыгердавіч ды іншыя [172]. Невядомы аўтар, які каля 1464 г. зрабіў для Я. Длугаша гістарычную кампіляцыю пра польскае Памор’е, далучыў літоўскую мову да славянскіх моў, адзначыўшы, што мову польскіх памаранаў аднолькава могуць разумець палякі, русіны і літвіны [173].

Такія еўрапейскія навукоўцы, як Энэй Сільвій (у 1440-х гадох), Гартман Шэдэль (1493 г.), Ян Коклес (1511 г.), Ян Багемскі (1538 г.), Філіп Мелянхтон (1566 г.), ды іншыя залічалі літоўскую мову да славянскіх моў ды раднілі літоўскую мову з польскаю ды рускаю, як гэта чынілі і рускія крыніцы [174]. У той час як “рускаю” ў Вялікім княстве Літоўскім называлася высокая кніжная мова, супольная для Беларусі (Літвы) і Русі-Украіны, гутарковая беларуская мова ад часу першых яе згадак у 14 ст. і аж да канца 19 ст. была вядома як “літоўская”. Дый сама беларуская мова (пад назовам “літоўскае”) сфармавалася на сваім арэале ў якасці самастойнае літаратурнае мовы акурат у дзяржаўных межах Вялікага княства Літоўскага – што даўно прызнана навукоўцамі [175].

**5. Рэлігійнае жыццё.**

Выпісаўшы вышэй канфесійны характар назову “літвіны” да Крэўскай уніі, падамо цяпер звесткі аб рэлігійным жыцці Літвы другое паловы 13 і 14 стагоддзя.

Выяўнымі сведчаннямі хрысціянства літвінаў ёсць вядомыя звесткі аб слюбах літоўскіх князёў і вялікіх князёў з хрысціянскімі (праваслаўнымі ды каталіцкімі) княжнамі. Гэтак, малжонкаю князя Гердзеня (стрыечнага брата вялікага князя Міндоўга), які спярша княжыў у Крэве, а ў 1263–1264 гг. у Полацку, была полацкая княжна Аўпраксія [176]. Зрэшты, аб хрысціянстве Гердзеня кажа і датаванне ім ягонае граматы 1264 г.: “Сию грамоту тогды написана в Рызе коли Бог был 1000 лет и 200 лет и 60 лет и 4 лета по Роженьи Божьи дни за тры дни” [177]. Сын князя Гердзеня Андрэй ад 1289 г. быў біскупам у Цверы (“сий Андрей бяше родом литвин, сын Ерденев, литовского князя”) [178]. Сястра княжны Аўпраксіі (невядомая з імя) была маці князя Даўмонта (гэта вынікае з паведамлення летапісу, які мянуе Аўпраксію “цёткаю” Даўмонта) [179]. Такім чынам, гэта яшчэ адно сведчанне аб

слюбе літоўскага князя (невядомага бацькі Даўмонта) з полацкаю княжною ў першай палове 13 стагоддзя.

Паводле некаторых даследнікаў, малжонкаю сястрычыча Міндоўга князя Трайняты была (ад 1239 г.) дачка мазоўскага князя Конрада – Людміла [180]. Сынам Трайняты быў мясцовы наваградскі святы – вялебны Елісей Лаўрышаўскі, як гэта вядома з яго жывата [181]. Вялікі князь Тройдзень быў жанаты з мазоўскаю княжною Ганнаю, дачкою князя Земавіта. Літоўскія летапісы называюць князя Лаўра-Рымунта сынам гэтае мазоўскае княжны: “Тройдень пак поимет дочку во княжати мазовецкого, и мел с нею сына, реченого Рымонта” [182]. Гэтыя звесткі пацвярджаюць польскія крыніцы [183]. Як вядома з Раўданскага рукапісу, ад 1295 г. малжонкаю Гедыміна была смаленская княжна Вольга Ўсеваладаўна, а ад 1298 г. полацкая княжна Еўна Іванаўна [184]. Вялікая княгіня Еўна (маці Любарта, Яўнута і Карыята) згадана таксама ў Хроніцы Быхаўца [185].

Малжонкаю Альгерда ад 1318 г., як вядома, была віцебская княжна Марыя Яраслаўна. “Родословье князей витебских” паведамляе: “Ярослав Васильевич, последний князь витебский, умре 1320 року. Марья Ярославна выйде замуж за Олкгерда, князя Кревского, Гедыминича 1318 року, умре в Вилни 1346 року” [186]. Ад 1350 г. малжонкаю Альгерда была цвярская княжна Юльянія Аляксандраўна. Калі Юльянія згадзілася выйсці замуж за Альгерда, мітрапаліт Кіеўскі Феагност дабраславіў іхні слюб [187]. Згодна з радаводам князёў Радзівілаў 18 ст. іхні продак Войшунд Остык да 1366 г. ажаніўся з віцебскаю княжною Яўхіміяй (гл. ніжэй). Князь Вітаўт яшчэ за жыцця вялікага князя Альгерда (то бо да свайго каталіцкага хросту ў 1383 г. і праваслаўнага ў 1384 г.) быў спярша жанаты з княжною Марыяй Лукомскаю, а потым з смаленскаю княжною Ганнаю Святаслаўнаю [188]. Відымонт, дзядзька маці вялікага князя Вітаўта, да 1382 г. быў жанаты з праваслаўнаю княжною Ульянаю [189]. Гэтыя факты слюбаў літоўскіх князёў з хрысціянскімі княжнамі ёсць яркім сведчаннем хрысціянства літвінаў 13–14 стагоддзяў, аб якім былі добра сведамыя суседнія краіны. Падобным чынам, за богумільскіх князёў Босніі 13–15 ст. выдавалі сваіх дачок суседнія праваслаўныя і каталіцкія гаспадары, бо лічылі баснякоў хоць і “герэтычнымі”, але хрысціянамі.



*Мініятура з Лаўрышаўскае Евангеліі (другая палова 13 ст.)*

Вялікі князь літоўскі Войшалк (1264–1267 гг.), у праваслаўі Васіль, у 1255 г. прыняў манаскі чын і ўчыніў падарожжа да Святой гары Афон у Грэцыі [190], а пасля заснаваў пад Наваградкам Лаўрышаўскі манастыр, дзе жыў некаторы час. Паводле літоўскіх летапісаў, у Лаўрышаўскім манастыру жыў сын вялікага князя Тройдзеня (1270–1282 гг.) Лаўрыш-

Рымунт; ён жа правёў сойм літоўскага баярства, на якім вялікім князем абралі Віценя [191] (гл. дад. №3).

У 1278 г. рызскі архібіскуп пісаў, што палачане і віцьбічы захапляюць нямецкія караблі на Дзвіне, а захопленае дабро перадаюць у скарб вялікага князя літоўскага, што памагае літвінам (Littwini) "змагацца проці хрысціянскай [т.б. каталіцкай] веры" (fidem Christianam impugnant) [192]. Напрыклад, вядома, што падчас аблогі вялікім князем Тройдзенем Дынабургу ў 1277 г. вылучыліся "рускія стральцы" (russen Schutzen), якія перабілі многіх крыжакоў [193]. Вялікі князь Тройдзень не хаваў непрыязні да каталіцтва, апаведаўшы ў 1281 г. пасольству рызскага архібіскупа, што крыжакі заміж пашырэння хрысціянскае веры прынеслі кайданы няволі ў прымежныя Літве краі [194]. Паводле сведчання летапісу, чатыры браты вялікага князя Тройдзеня – Сірпуць, Борза, Лесій і Свялкеній – былі пабожнымі хрысціянамі; яны "...живоуще во святемь крещении. Сии же живяхоуть в любви, во кротости и во смиреньи, держаще правоую вероу крестьяньскоую, преизлиха любяще вероу и нищая" [195]. Галіцкі князь Леў Данілавіч сваёю граматаю (між 1264 і 1301 гг.) запісаў сяло ў Перамыскай воласці двом літоўскім баярам Тутэнію і Мантсеку; запіс быў змацаваны звычайнаю клятваю з зваротам да Бога ("...а кто ся уступит, тот уведаеться со мною перед Богом") (гл. дад. №5) – што, вядома, было б немагчыма, калі б Тутэній і Мантсек былі нехрысціянамі.

Звяртае на сябе ўвагу выпісанне ў летапісах войн пскоўскага князя Даўмонта на ВКЛ. Даўмонт хадзіў на Літву ў 1267 і каля 1282 г. (пасля смерці вялікага князя Тройдзеня), прытым у апошнім выпадку, паводле літоўскіх летапісаў, Даўмонт нагабаў на тытул вялікага князя літоўскага і часова захапіў Полацк і Віцебск, якія былі вернуты ў склад ВКЛ князем Лаўрам-Рымунтам. Адметна, што з аднаго боку пскоўскія, а з іншага боку літоўскія летапісы апраўдваюць дзеянні, адпаведна, Даўмонта і Лаўра матывамі хрысціянскае пабожнасці. Паводле рускіх крыніц, выправы князя Даўмонта былі выправамі "на поганую Литву": Даўмонт (які сам надовечы "возбнувъ от прелести идолослужения") ваюе на "безбожных" літвінаў, каб "отмьстити кровь христьяньскую", "за святыя церкви" [196]. Але і літоўскія летапісы абгрунтоўваюць вайну князя Лаўра-Рымунта проці Даўмонта хрысціянскімі матывамі, малюючы Лаўра пабожным хрысціянінам, якому "бог помогл" у вайне: "То услышавшы, Лаврентий чернец, сын Тройденов, великою жалостию и гневом порушоный, зскинул з себе габит чернечый и, взявшы зброю и шаблю, <...> тягнул против Довмонта, стрыя своего, хотячы над ним помститися <...>. И была битва великая межы ними от поранку аж до вечера, а наостаток бог помогл Лаврентию, иж все войско псковское и полоцкое наголову поразил...". Па перамозе князь Лаўр-Рымунт мовіў на сойме прамову да літоўскіх баяраў, падчырківаючы хрысціянскія матывы сваёй перамогі: "Иж ми права дал господь бог помститися крови и окрутной смерти отца моего над незбожным стрыем, в чом мене бог сам дивною и моцною ласкою своею ратовал, и его со всею силою его потлумил..." [197] (гл. дад. №3). Гэтыя звесткі летапісаў паказуюць, што змаганне між Лаўрам-Рымунтам і Даўмонтам было ў сапраўднасці спрычынена спіраннем між дзвюма рознымі хрысціянскімі плынямі (а не змаганнем праваслаўя проці "паганства", як выпісуюць пазнейшыя рускія крыніцы).

Выясненне канфесійнага характару назову "літвіны" можа патлумачыць не толькі слюбы літвінаў з хрысціянкамі, але і такія, здавалася б, незразумелыя з'явы, як факты супрацоўніцтва і звязаў каталіцкага духавенства з літвінамі. Гэтак, у 1273 і 1283 гг. кракаўскія ўлады вінавацілі кракаўскага біскупа Паўла, што ён "злучыўся звязам ды сваяцтвам з ворагамі веры літвінамі", "чэрыў нязбожнасць сярод клеру" ды праз лісты і пасольствы да Літвы справіў напады літвы на Польшчу. Дзеля гэтых закідаў біскупа Паўла двойчы замыкалі ў вязніцы [198]. Рызскія мяшчане на чале з архібіскупам Рыгі, як вядома, у 1298 г. уклалі з вялікім князем літоўскім Віценем звяз проці рыцараў Ліфляндцкага ордэну ды запрасілі ў Рыгу літоўскую залогу, для якой збудавалі ў Рызе "замак літвінаў" (Castrum Letwinorum), дзе літвіны заставаліся да 1313 г. Пазней рыжане на просьбу вялікага князя Гедыміна падрабязна паведамлялі яму аб справах свайго архібіскупа і, клічучы Гедыміна ў помач проці крыжакоў, зычылі яму ў сваім лісце "здароўя ў Госпадзе" [199]. Клерыка Бертольда за супрацоўніцтва з літвінамі крыжакі нават забілі ў яго ўласным доме ў Рызе [200].

Полацкі біскуп Якаў у сваёй грамаце (між 1298 і 1307 гг.) менаваў вялікага князя літоўскага Віценя сваім сынам: "А ныне есмь уведал любовь ваша правая с сыном моим с

Витенем” [201] (гл. дад. №6). За княжання вялікага князя Віценя, у 1299 або 1300 г., была створана Літоўская мітраполія – гаспадарствавая царква Вялікага княства Літоўскага (гл. вышэй). У той жа час, крыжацкія крыніцы мянуюць Віценя не інакш як “няверным” ды “абразнікам імені Ісуса Хрыста” (blasphemus nominis Jesu Cristi) [202] (прыр. эпітэты папскае курыі што да баўгарскіх богумілаў 13 ст.: “gens apostatrix, populus blasphemans, haeretici et schismatici” [203]). Вядома, што ў 1311 г. падчас паходу літоўскага войска ў Прусы Віцень перад палоннымі католікамі патаптаў каталіцкі аплатак ды намаўляў палонных католікаў “перайсці на яго веру” [204].

У 1312 г. вялікі князь Віцень запрасіў у Літву францысканскую місію, для якой збудаваў касцёл у Наваградку [205]. Размешчанне гэтае місіі ў Наваградку ёсць сведчаннем аб тым, дзе месцілася тая літва, якая была мэтаю місіянерскае дзейнасці каталіцкага касцёла. Зрэшты, яшчэ размешчанне каталіцкага Літоўскага біскупства за часу вялікага князя Міндоўга (у 1253 г.) у Любчы пад Наваградкам [206] ёсць сведчаннем аб тым, дзе месціўся асяродак тое літвы, да якой папская курыя скіроўвала свае місіі.

Першую спробу ўплыву Літвы на справы агульнарускае мітраполіі можна ўгледзець ужо ў 1310 г. Тады цверскі біскуп Андрэй (сын князя Гердзеня) скупіў збор, на якім вінаваціў мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Пятра ў герэзе святакупства (сіманіі). З крыніц вынікае, што мэтаю біскупа Андрэя і цверскага князя Міхайлы было паднесці цверскага біскупа на мітрапалічы сталец [207]. Можна меркаваць, што пазіцыя біскупа Андрэя адпавядала жорсткай пазіцыі недапушчэння сіманіі, уласцівай для Літоўскай мітраполіі (яна праяўлялася, напрыклад, у 1356 і 1415 гг. [208]). Навука біскупа Андрэя аб “рае мысленном” [209] мае яўна богумільскае паходжанне і, несумнеўна, была прынесена з Літвы. З рэаліямі літоўскага гаспадарства і Літоўскае мітраполіі, відаць, была знітавана і ідэя біскупа Андрэя (зусім не ўласцівая для сярэднявечнай Русі) аб уладзе князя над духавенствам і падпарадкаванні царквы гаспадарству [210]. Ад гэтага часу распачаліся асабліва шчыльныя сувязі Цверскага княства з Літвою: у 1320 г. цверскі князь Дзмітрый Міхайлавіч паслюбіў дачку Гедыміна Марыю; яго брат Аляксандр Міхайлавіч у 1327 г. з’ехаў на паўтары гады ў Літву, а пасля быў пасаджаны на княжанне ў Пскове “изъ литовъскыя рукы”.



*Віленская Пятніцкая царква, збудаваная ў 1330-х гадох*

Выяўнаю ёсць розніца, якая часам праяўляецца ў стаўленні рускіх і крыжацкіх крыніц да літвінаў. Гэтак, для крыжацкіх хранікараў князь Давыд Гарадзенскі – “нязбожны” (unreine), “няверны” (infidelis) літвін (Lituanus), які на чале літоўскага войска лупежыць касцёлы [211]; але для пскоўскага летапісца прыбыццё войска літвінаў на чале з “літоўскім

князем Давыдкам” у лютым 1323 г. у Пскоў – гэта справа, натхнёная Богам: “богови тако оустроившю, приспе князь Давыдъ из Литвы с моужы своими” [212].

Падчас ліставання з папскай курыяй і нямецкімі гарадамі ў 1323 г. вялікі князь літоўскі Гедымін пісаў: “...усе гаспадарствы, у тым ліку і нашае, падпарадкаваны ўладзе нябеснага гаспадара Ісуса Хрыста” [213]. У сваім лісце папежу Яну XXII Гедымін пісаў, што “вызнае адзінага Бога Айца, Сына і Святога Духа” [214]. Папеж жа патрабаваў ад Гедыміна “адхіліцца ад аблуд схізматыкаў” (derelictis omnino schismaticorum erroribus) ды прыняць “артадаксальную веру” (fidem recipere orthodoxam) [215]. Яшчэ перш ліст папежа Яна XXII да Гедыміна з 3 лютага 1317 г. змяшчаў досыць складаныя разважанні аб дагматычным баку каталіцтва і заклікаў Гедыміна адмовіцца ад “цемры аблуд” (cecitatis errore) ды прыняць “ісціну каталіцкае веры” (catholice fidei veritatem) [216]. Варта адзначыць, што ў той жа дзень (3 лютага 1317 г.) папеж даслаў ліст такога ж зместу да галіцка-валынскіх князёў, у якім заклікаў іх “пакінуць аблуды схізматыкаў” (derelictis scismaticorum erroribus), “цемру” (tenebris) ды далучыцца да “артадаксальнай веры” [217]: усе гэтыя выразы беспярэчна сведчаць, што папская курыя разглядала літоўскую веру, гэтаксама як і рускую, у якасці хрысціянскага адшчапенства. У 1324 г. у інструкцыі папежа да легатаў аб наварачэнні Гедыміна і іншых літвінаў не было мовы аб прыйманні літвою хрысціянства: мова была пра пераход літвы ад “цемры аблуд” (errorum tenebris) да “*адзінства* хрысціянскай веры” (*unitatem* fidei christiane), “артадаксальнай веры” (fidem recipere orthodoxam), пра “*вяртанне* да святла праўдзівае веры” (*redeuntibus* ad fidei vere lumen) [218].

Папеж дакараў літоўскага гаспадара за тое, што Гедымін працягваў вызнаваць тыя ж “аблуды” (errore) або “аблуды нявер’я” (errore infidelitatis), што вызнаваў некалі вялікі князь Міндоўг, адмовіўшыся ад каталіцтва [219]. Між тым, з папскіх лістоў, адрасаваных некалі Міндоўгу (у 1251–1255 гг.) вядома, што азначэнні папскаю курыяй собскае веры Міндоўга як “аблуд” (erroris) ды “цемры” (tenebris) з’ясняліся нарэшце скразнаю характырыстыкаю гэтае веры як “вераадступніцтва” (perfidie), то бо хрысціянскага адшчапенства (падрабязней гл. у артыкуле “Германскі суперстрат у старажытнай Літве”). Наогул, у лістох папскае курыі і крыжакоў 13–14 стагоддзяў няма мовы ўласна аб нехрысціянстве літвы ды аб патрэбнасці прыймання літвою “хрысціянства”: мова ідзе аб патрэбнасці адмовы літвы ад сваіх “аблуд” або “вераадступніцтва” і г.д. ды прыйманні “каталіцкае веры”, “артадаксальнае веры” або “агульнае хрысціянскае веры” – што паказуе на тое, што ішло аб наварачэнні іншае хрысціянскае дэнамінацыі на каталіцтва. Напрыклад, у лісце Гедыміну з 1 чэрвеня 1324 г. папеж Ян XXII пісаў, што як Гедымін, згодна з яго заяваю, “вызнае адзінага Бога Айца, Сына і Святога Духа”, то ён павінен “адхіліцца ад аблуд схізматыкаў” і спазнаць “ісціну артадаксальнае веры, то бо каталіцкае і апостальскае рымскае царквы” [220]. У лісце з 31 жніўня 1324 г., якім папеж Ян XXII зацвярджаў мірную дамову Літвы і Ліфлянтаў, папеж пісаў аб патрэбнасці пераходу літвы “з цемры нявер’я да артадаксальнай веры” (...gentes, infidelitatis tenebris involutas, ad fidem pertrahere orthodoxam) [221] (прыр. такія ж выразы падчас рэлігійнае рэформы ў Літве 1386–1387 гг. – гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”).

Калі ж папскае пасольства ў лістападзе 1324 г. прыбыла ў Вільню, выявілася, што Гедымін адмаўляецца ад прапаноў папскіх легатаў аб пераходзе ў каталіцтва. Гедымін (паводле паведамлення папскіх паслоў) мовіў: “Калі ў мяне калісьці было такое жаданне, то няхай д’ябал мяне пахрысціць. <...> Няхай хрысціяне моляцца Богу паводле звычаю іхняе веры, русіны паводле іхняга абраду, палякі паводле іхняга звычаю; самі ж мы будзем маліцца Богу паводле нашага абраду. *Дыкжэ ўсе мы сцім аднаго Бога*” (...et nos colimus deum secundum ritum nostrum, et *omnes habemus unum deum*) [222]. Гэтыя словы літоўскага гаспадара, напэўна, ясна сведчаць аб тым, што Гедымін і ўсе літвіны былі хрысціянамі. Словы пра “наш абрад” (ritum nostrum), зразумела, азначалі асобную адмену хрысціянства. На тое ж паказуюць азначэнні каталіцкіх крыніц, якія закідаюць літвінам наяўнасць нейкіх “забабонных абрадаў” (ritus superstitiosos), “таемстваў” (archana) (1298 г.) [223], “народнага абраду” (ritum gentilitatis) (1323 г.) [224]. Сведчаннем аб гэтым адметным абрадзе ёсць цікавы дакумент 1469 году – ліст маршалка гаспадарскага Станька Судзівоевіча папежу, у якім пан Станько пісаў, што надовечы перайшоў у каталіцтва з “татарскага язычніцкага абраду” (ritum antea Tartarorum et paganorum) [225] (гл. артыкул “Літва і Орда...”). Вышпісаная заява вялікага князя Гедыміна папскім паслом мае наўпростую паралель з заяваю баснійскага князя Стэпана II Катраманіча таму ж папежу Яну XXII у 1325 г.:

богумільскі гаспадар Босніі пагадзіўся з тым, што хрысціянам трэба змагацца проці герэтыкоў, але заявіў, што лічыць сваіх падданых-богумілаў шчыравернымі хрысціянамі [226].

Паводле ліста прускага клерыка з 1324 г., веру Гедыміна вызнавала "ўсё гаспадарства" (toto regno) Гедыміна [227]. Нагадаем, што ў 1324 г. ужо доўгі час дзейнічала Літоўская мітраполія – гаспадарствавая царква Вялікага княства Літоўскага, якая абыймала Наваградскае, Полацкае і Тураўскае біскупствы (то бо ўсе землі ўласна Вялікага княства Літоўскага) і мітрапаліт якой браў учасць у паседзінах Канстантынопальскага сіноду, падтрымваў сувязі з Смаленскам, Галічам, Ордаю [228].

Літоўскія летапісы паведамляюць, што перад паходам на Кіеў у 1322 г. Гедымін дачакаўся Вялікдня і рушыў у паход адно на наступным тыдні па Вялікдні (то бо летапісы ўскосна сведчаць, што Гедымін святкаваў Вялікдзень) [229]. У 1322 г. Гедыміна ў Кіеве сустракала мясцовае духавенства з крэстамі і царкоўнымі харугвамі ды ўкланялася яму: "И так против Гедимина вышли напрод митрополит, епископы, архимандриты зо всем духовенством з крестами, корогвами, а за ними панове, бояре и все посполство киевское вышло кланяючыся и подаючыся в ласку и в державу Гедиминови, там же ему и прысягу выполнили" [230]. Распавядаючы пра бітвы Гедыміна (як і пазней Альгерда) з крыжакамі ды рускімі князямі, літоўскія летапісы надаюць рэлігійную афарбоўку перамогам літвы, ужываючы выразы "*поможе Бог* великому князю Гедымину" [231].

Хрысціянства Гедыміна прызнавалі і каталікі, у прыватнасці рызскія месцічы і клерыкі, якія ўклалі звяз з Гедымінам. У 1323 г. рызскія месцічы ў сваім лісце звярталіся да Гедыміна як да "божаю міласцю (dei gratia) гаспадара літвінаў і русінаў" ды зычылі яму "здароўя ў Госпадзе" [232]. Як паведамляе крыжацкая хроніка, у 1330 г. Гедымін прапаноўваў свайму супольніку польскаму каралю Валадыславу злучыць войскі на дзень Нараджэння Прачыстае [233].

Паводле попісу 1330 г., падзелам маёмасці Літоўскае мітраполіі займаўся "Гедымінаў брат" (кіеўскі князь Фёдар) [234]. Пасля таго як катэдра Літоўскае мітраполіі ў 1330 г. засталася вакантнаю, Гедымін і яго сын валынскі князь Любарт дапнулі ў 1337 г. аднаўлення Галіцкае мітраполіі, якой часова прыслухалі літоўскія біскупствы [235]. У 1331 г. Гедымін і "все князи литовьскыи" прапаноўвалі мітрапаліту Феагносту свайго кандыдата Арсенія на пасаду біскупа ў Пскове [236]. Пскоўскім князем у гэты час быў Аляксандр Міхайлавіч, пасаджаны ў Пскове "изъ литовъскыя рукы" (гл. артыкул "Літоўскі герб "Пагоня"..."). Выяўна, што калі Гедымін затрымаў у Літве навагародцаў і запатрабаваў перадаць князю Нарымонту прыгарады Вялікага Ноўгарада, навагародцы прысягнулі літвінам аб гэтым ("слово право дали") [237], – гэтая звестка летапісу выяўна сведчыць аб тым, што навагародцы выдатна ведалі, што Гедымін і ўсе літвіны былі хрысціянамі, бо прысяга русіна-хрысціяніна паганцу не мела б моцы дый проста была немагчымаю. У гэты час супольнікам вялікага князя Гедыміна быў і смаленскі князь Іван Фёдаравіч – у сваёй грамаце 1339 г. ён менаваў літоўскага гаспадара старэйшым братам: "...по старым грамотам докончал есмь по тому доконча́нью, како то брат мой старейший Кгедимин докончал и его дети Глеб и Алкгерд" [238].

Вядома, што ў 1338 г. князь Альгерд цалаваў крэст на знак укладання дамовы з ліфлянцкімі крыжакамі [239]. Калі псковічы ў 1342 г. звалі Альгерда да сябе на княжанне і прапаноўвалі яму хрысціцца ў праваслаўі, Альгерд адказваў: "уже крещенъ есмь, и христианинъ есмь, второе креститися не хощу я, и на княжении у васъ сести не хощу" [240]. У 1345 г. Альгерд заснаваў у віленскім Вышнім замку царкву Архістратыга Міхаіла, а ў 1346 г. Альгерд заснаваў у Вільні збор Прачыстае, які пазней стаўся катэдральным зборам Літоўскае мітраполіі [241].

У грамаце 1347 г. Альгерд падаваў сваю тытулатуру: "Олкгерд *Божью милостью* Великий Князь Литовский, Руский, Жомойтский и иных" [242]. У грамаце літоўскіх князёў, укладзенай ад імя вялікага князя Альгерда ў 1352 г., рокі былі азначаны хрысціянскімі святамі: "от Покрова Богородицы до Иваня дне до Купале" і "по сошествии Святога Духа за 2 недели" [243] (гл. дад. №15). Лацінская дамова князя Кейстута і літоўскіх баяраў з Мазоўшам 1358 г. была датавана "Datum et actum in Grodno feria tercia proxima infra octauas Beati Laurencii Martiris gloriosi sub anno incarnacionis domini 1358" ("дадзена ў Горадні ў аўторак па актаве св. Лаўра пакутніка ў год уцелаўлення Госпада 1358"). Як сведчыў Т. Чацкі, падобнае датаванне па хрысціянскай традыцыі было і ў дамове Альгерда і

Кейстута з Англіяй 1342 году [244]. У дамоўнай грамаце з польскім каралём Казімірам 1366 г. вялікі князь Альгерд ужываў выраз "*А коли дасть Бог...*" [245] (гл. дад. №19). Пры літоўскіх княскіх канцылярыях існавала тыповая для хрысціянскіх гаспадарстваў пасада дзяка. Гэтак, грамату вялікага князя Альгерда 1359 г. "...писал дьяк Клим Новгородец" [246] (гл. дад. №17). Сведкам граматы намесніка навааградскага Петраша Мантыгердавіча ў 1424 г. быў "дьяк князя великого Аленко" [247] (гл. дад. №46).

У 1352 г. вялікі князь Альгерд даслаў у Канстантынопаль свайго кандыдата Феадарыта дзеля пастаўлення мітрапалітам. Феадарыта падтрымвалі вяльможы Орды, але ў Канстантынопалю яму адмовілі ў высвячэнні. Тады Феадарыт скіраваўся ў Баўгарыю і атрымаў пасвячэнне на дастойнасць мітрапаліта Літоўскага і Кіеўскага ад патрыярха Тырнаўскага. Феадарыт заняў мітрапалічую сядзібу ў Кіеве і справаваўся на гэтай пасадзе два гады (да 1354 г.). У чэрвеню 1354 г. законную ўладу Феадарыта прызнаваў навагародскі архібіскуп Майсей [248]. Магчыма, што высвячэнне літоўскага мітрапаліта ў Баўгарыі ад старшыні баўгарскае царквы магло быць часткаю планаў Альгерда па стварэнні аўтакефальнае літоўскае царквы і складанні незалежнае ад Канстантынопаля царкоўнае ўстановы ў складзе Літвы, Баўгарыі і, імаверна, Сербіі [249].



*Віленскі мітрапалічы збор Прачыстае,*
*збудаваны вялікім князем Альгердам у 1346 г.*
*Сядзіба мітрапалітаў Літоўскіх, Кіеўскіх і ўсяе Русі ў 15–16 ст.*

У канцу 1354 г. у выніку дамовы вялікага князя Альгерда з Канстантынопальскім патрыярхатам у Літву быў высвячаны мітрапаліт Раман (сваяк малжонкі Альгерда Юльяніі): патрыярх зацвердзіў за Раманам літоўскія біскупствы – Наваградскае, Полацкае ды Тураўскае, а за два гады – яшчэ пяць праваслаўных валынскіх і галіцкіх біскупстваў, што раней належалі да Галіцкай мітраполіі. Раман па звароце з Канстантынопаля памясціў сваю сядзібу ў Кіеве і пісаўся "мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі". Пазней Раман пашырыў сваю ўладу на яшчэ адно біскупства – Бранскае. Прызначэнне Рамана супала з паляпшэннем зносін Літвы і Баўгарыі з Канстантынопалем: 17 жніўня 1355 г. Раман у якасці сведкі падпісаў дамову між бізантыйскім цэсарам Іванам V Палеалогам і баўгарскім царом Іванам-Аляксандрам аб слюбе іхніх дзяцей [250].

Па смерці Рамана (у 1362 г.) пачаўся новы этап змагання Літвы і Масквы за Кіеўскую мітраполію. У 1371 г., пасля некалькіх ваенных сутыкненняў з Масквою, вялікі князь Альгерд пісаў Канстантынопальскаму патрыярху Філафею: "Мы клічам мітрапаліта [Алексія] да сябе, але ён не ідзе да нас: дыкжэ дай нам іншага мітрапаліта на Кіеў,

Смаленск, Малую Русь, Навасіль і Ніжні Ноўгарад” [251]. У гэтым лісце Альгерд тытулаваўся “царом Літвы” (βασιλεα Λητβων), у якасці гаспадара, які стаяў на чале самастойнае царквы (у той час тытул цара – як першасвятара – прыўлашчалі гаспадары, якія былі галавамі аўтакефальных цэркваў сваіх гаспадарстваў: напрыклад, тытул цара прыўлашчыў у 1346 г. сербскі кароль Стэфан Ураш па стварэнні Сербскага патрыярхату). Альгерд быў тытулаваны “царом Літвы” (Βασιλεύς των Λιτβων) і ў рэестру Канстантынопальскага патрыярхату [252]. “Литовское царство” ведаюць і рускія быліны.

У 1373 г. у Літву з Канстантынопаля ў якасці пасланніка патрыярха быў выпраўлены баўгарскі манах Кіпрыян. У Літве Кіпрыян зблізіўся з вяльможамі з рады Альгерда і “ўклаў з імі звяз” [253]. У выніку дыпламатычных высілкаў Альгерда Кіпрыян 2 снежня 1375 г. быў высвячаны ў Канстантынопалю на дастойнасць “мітрапаліта Кіеўскага, Рускага і Літоўскага”. Кіпрыян атрымаў права пераходу да яго дастойнасці мітрапаліта “ўсяе Русі” па смерці састарэлага маскоўскага мітрапаліта Алексія: акт выбрання абумовіў, што па смерці Алексія Кіпрыян павінен быў узяць на сябе кіраванне цэлаю Руссю. Кіпрыян ужыў гэтае права па смерці Алексія (12 лютага 1378 г.) і быў зацверджаны бізантыйскім цэсарам і патрыяршым сінодам як мітрапаліт Літоўскі, Кіеўскі і ўсяе Русі. Мітрапаліт Літоўскі Кіпрыян афіцыйна быў мітрапалітам усяе Русі ад 1378 г. да сярэдзіны 1380 г. і ў такой якасці браў учасць у паседзінах патрыяршага сіноду. Напрыклад, у выраку Канстантынопальскага патрыярхату з 6 кастрычніка 1379 г. стаіць подпіс Кіпрыяна, “мітрапаліта ўсяе Русі” (Ὁ ταπεινός μπτροπολίτης πάσης ‘Ρωσίας Κυπριανός) [254].

Паводле апавяданняў літоўскіх летапісаў, вялікі князь Альгерд, рушыўшы ў выправу на Маскву ў 1370 г., прывез маскоўскаму князю чырвонае велікоднае яйцо, а ў вусны Альгерда літоўскі летапісец укладае надзею на Божую помач: “А я *дасть Бог* в него буду на Велик день, а поцалую его красным яйцом через шчыт сулицою, а *з Божьюю помочью* к городу его Москве копье свое прыслоню…”. Падчас замірэння з маскоўскім князем Альгерду была патрэбна прысяга мітрапаліта [255]. У 1371 г. Канстантынопальскі патрыярх Філафей пісаў маскоўскаму мітрапаліту, што Альгерд сціць мітрапаліта паводле старога звычаю: “...я напісаў і вялікаму князю літоўскаму, каб ён, паводле старога звычаю, любіў і сціў цябе, як і іншыя рускія князі...” [256].



*Вялікі князь Альгерд пад Масквой у 1370 г.*
*(урывак мініятуры з Аблічнага зводу,*
*сяр. 16 ст.)*




*Вялікія князі Альгерд і Ягайла*
*(з гравюры з радаводам*
*Ягайлавічаў, 1521 г.)*

Маскоўскія летапісы, паведамляючы аб смерці вялікага князя Альгерда, мянуюць яго “зловерный, безбожный, нечестивый” [257]. У чэрвеню 1370 г. маскоўскі мітрапаліт адлучыў ад царквы смаленскага і цверскага князёў за тое, што яны злучыліся з “чужымі нашай веры”, “ворагамі крэста” – войскамі “нязбожнага” Альгерда – і разам з літвою ваявалі проці Масквы [258]. Але вядома, што калі Альгерд у 1371 г. скардзіўся Канстантынопальскаму патрыярху на дзеянні маскоўскага князя і мітрапаліта, ён вінаваціў іх у парушэнні цалавання крэста: “...яны спярша пачалі нападаць, і цалавання крэста, што

мелі да мяне, не склалі і прысяжных грамат не адаслалі. <...> І хто пацалуе крэст да мяне і ўцячэ да іх, мітрапаліт здымае з яго цалаванне крэста. Ці бывае такая рэч на свеце, каб здымаць цалаванне крэста?" [259] (гл. дад. №21). Мірная дамова Альгерда і Кейстута з Масквою 1372 г. зноў была змацавана цалаваннем крэста з абодвух бакоў ("...от великого князя от Ольгерда, и ото князя от Кестутья, и ото князя от великого от Святъслава целовали крест...") [260] (гл. дад. №22).

Нікіфар Грыгара паведамляў, што Альгерд без цяжкасцей цытаваў урыўкі з кніг прарокаў і пасланняў апосталаў. У аповедзе Грыгары аб намеру Альгерда прыняць праваслаўе няма мовы аб тым, што Альгерд імкнуўся прыняць "хрысціянства"; Грыгара пісаў, што Альгерд важыўся адкінуць ранейшыя "прымхі" і прыняць "адзінаслаўную (ὁμόδοξος) з намі веру" [261]. М. Стрыйкоўскі пісаў, што ў 1573 г. бачыў у віцебскай замкавай царкве ікону з выяваю Альгерда: "Там жа, у вышнім замку, у царкве, бачыў я на свае вочы абраз Альгерда і яго малжонкі ў царкве на алтару, у доўгіх шатах, маляваны грэцкім звычаем" [262].

Летапісы сведчаць, што ў канцу жыцця вялікі князь Альгерд перад аблічнасцю сваіх сыноў прыняў манаскую схіму, а пасля смерці быў пахаваны ў віленскім збору Прачыстае: "Княгиня Иулиания видя мужа своего Олгерда, последнее дышуща, и зело печаловашеся о его спасении и созва сыны своя и отца своего духовнаго призва Давида архимандрита Печерскаго и увеща своего мужа и Божиим поспешениемъ <...> святою скимою того украсивше <...>, и по малехъ днехъ преставися и положиша его въ церкви Пресвятыя Богородицы въ Вильне юже сам созда" [263].

Ускосна аб богумільстве Альгерда, Ягайлы і Вітаўта сведчаць звесткі летапісаў, якія кажуць, што гэтыя князі ніколі не пілі хмяльнога (як вядома, богумілы не ўжывалі хмяльнога наогул). Пра Альгерда летапіс кажа: "Во всей же братьи своей Ольгерд превзыде властью и саном, понеже пива и меду не пьяше, ни вина, ни кваса кисла, и великоумство и воздержанье себе приобрете, крепку думу от сего и мног промысл притяжав..." [264]. Пра вялікага князя Вітаўта літоўскі летапіс кажа: "Витолт <...> пан то был чулый, довсципу и розуму великого, мерный в еденью и питью, ничого не пивал тылько воду" [265]. Вялікі князь Ягайла таксама ніколі не кранаў хмяльнога, піў адно чыстую ваду [266].

Грамата, выдадзеная Ягайлам і Кейстутам Тэўтонскаму ордэну ў 1379 г., была датавана "у год Госпада нашага [in den iaren unsirs herren] 1379, у дзень святога Міхайлы [an dem tage Sendte Michahelis]" [267]. Літоўскія летапісы ў падрабязных аповедах аб закалоце Ягайлы і Кейстута ў 1381 г. не даюць аніякіх звестак аб нейкім паганстве Кейстута, затое ўкладаюць у вусны Кейстута адрасаваныя Вітаўту словы "в том нас Бог остерег" [268]. Паводле аднаго летапісу, Ягайла цалаваў крэст Кейстуту на тым, што дасць яму чыстую дарогу [269]. І Ягайла, і Вітаўт пасля пераходу на каталіцтва працягвалі шчыльна зношвацца з маскоўскім мітрапалітам Кіпрыянам (былым мітрапалітам Літоўскім) і шматкроць з ім сустракаліся; Канстантынопальскі патрыярх Антоній у сваім лісце 1387 г. менаваў Ягайлу "сябрам" Кіпрыяна [270].

Выясненне канфесійнага зместу дакрэўскае ідэнтычнасці "літвінаў" дазваляе цалкам зразумець гісторыю крыжовых паходаў Тэўтонскага ордэну і заходнееўрапейскіх крыжакоў проці Літвы, якія адбываліся з пачатку 13-га па канец 14-га стагоддзя: робіцца зразумелым, чаму гэтыя амаль няспынныя паходы мелі рэлігійную матывацыю. Мэтаю гэтых выправаў было змаганне не з нейкім "паганствам" (сапраўдныя паганцы паўночнае Еўропы не выклікалі ніякае ўвагі крыжакоў, а падчас доўгага валодання паганскаю Жамойцю крыжакі не стварылі ў ёй жаднае парафіі), а змаганне з "герэтычным" хрысціянствам Літвы, чаму ёсць шмат сведчанняў у крыніцах.

Ужо першыя выправы ліфлянцкіх крыжакоў на літвінаў і палачанаў у 1203–1209 гг. матываваны ў крыжацкага хранікара як выправы на "ворагаў хрысціянства". У 1225 г. адбылася выправа крыжакоў на Літву, у якой загінуў архібіскуп з Кёльну Авігенус [271] (наяўнасць сярод учаснікаў выправы архібіскупа дакладна паказуе, што выправа мела рэлігійны характар). У 1236 г. папская курыя загадала ліфлянцкім крыжаком узняць крыж проці "няверных літвінаў" (infidelium Letvinorum) і іхняга "вераадступніцтва" (perfidia), "для абароны хрысціянства" ў Ліфлянтах [272]. Ад часу стварэння Вялікага княства Літоўскага пачаўся ўставічны шэраг выправаў заходнееўрапейскіх крыжакоў проці "ворагаў

веры” літвінаў: крыжовыя выправы проці Літвы былі абвешчаны ў 1255, 1257, 1260, 1261, 1265 гг.

На працягу другое паловы 13-га і ўсяго 14-га стагоддзя каталіцкія клерыкі няспынна заклікалі да крыжовых паходаў проці “няверных літвінаў”. У лютым 1268 г. у крыжовым паходзе на літву загінуў дэрпцкі біскуп Аляксандр разам з ліфлянцкім ляндмайстарам Оттам фон Родэнштэйнам [273]. У 1271 г., па смерці колішняга каталіцкага літоўскага біскупа Хрысціяна, крыжакі высвяцілі для Літвы новага біскупа Яна, чальца Тэўтонскага ордэну, які заставаўся тытулярным біскупам. У 1275 г. гэты Ян вандраваў ад касцёла да касцёла ў Нямеччыне, паўсюль заклікаў да крыжовай выправы проці літвінаў і раздаваў ахвотным крыжыкі [274]. У 1277 г. кракаўскі князь Лешка Чорны заклікаў рушыць на “ворагаў веры” літвінаў, каб “адпомсціць за знявагу Распятага” [275]. У 1283 г. Прускі ордэн, цалкам падпарадкаваўшы Прусы, пачаў уставічную вайну на Літву: паводле крыжацкае хронікі, “скончылася пруская вайна, распачалася літоўская вайна”; адным з першых паходаў прускага ляндмайстра Конрада фон Тырберга быў паход на “няверных літвінаў” (infidelium Lethowinorum) Горадні [276]. У 1287 г. кракаўскі князь Лешка Чорны атрымаў ад папежа чарговы загад рушыць у крыжовую выправу проці літвінаў [277]. Тэўтонскія крыжакі прыраўноўвалі сваю вайну на літвінаў да крыжовых паходаў проці мусульманаў: гэтак, у 1303 г. крыжакі пісалі, што ваюючь проці “літвінаў-сарацынаў” (cum Lituinis Sarracenis) [278]. У 1309 г., калі Тэўтонскі ордэн перанес сваё сталечнае места ў Мальбарк у Прусах, вайна на Вялікае княства Літоўскае зрабілася галоўнаю мэтаю Ордэну. Прускія крыжакі нават мелі адмысловую павіннасць – “старожу ад літвінаў” (custodia Litwinorum, згадана ў 1333 г.) [279].

У 1322 г., пасля апанавання Літвою Кіева і Валыні, папеж Ян XXII абвясціў па ўсёй Еўропе крыжовую выправу проці Літвы, а Тэўтонскі ордэн абвясціў штогадовыя выправы на Літву двойчы на год – на Грамніцы і Ўшэсце, да ўчасці ў якіх заклікаў усіх каталіцкіх гаспадароў [280]. Крыжацкая прапаганда менавала вялікага князя Гедыміна “лютай пачварай, прадвеснікам антыхрыста” (monstrum biceps, antichristi praecursorem); прытым у тых жа лістох літоўскі гаспадар быў менаваны “зневажальнікам паспалітага права і натуральнага закону” (violatorem juris gentium et legum naturalium) [281] – што яўна сведчыць аб вызнанні Гедымінам антынамісцкае веры, то бо богумільства. Калі ў 1323 г. праз пасланні Гедыміна з’явілася магчымасць замірэння між Літвой і папскай курыяй, прускія крыжакі ганілі Гедыміна перад папежам як “герэтыка і разбуральніка каталіцкіх краін”, імкнуліся самі цягнуць у крыжовую выправу на Літву без згоды папежа, пераймалі паслоў, закажаючы ўкладанню міру між Літвой і Ліфлянтамі (а калі ён быў укладзены, абвясцілі яго “справаю д’ябла” і заклікалі ліфлянцкіх біскупаў не трымаць яго), і нават забілі пасла Гедыміна [282]. За гэтыя ўчынкі, а таксама за знішчэнне вялікакняскае пячаткі на лісце, літоўскі гаспадар сваім парадкам назваў крыжакоў “разбуральнікамі веры” і “герэтыкамі” (гл. дад. №10).

Усе гэтыя і іншыя звесткі паказуюць, што крыжовыя выправы Тэўтонскага ордэну і заходнееўрапейскіх крыжакоў на Літву 13–14 стагоддзяў былі скіраваны не проці “язычнікаў”, а проці хрысціянаў-адшчапенцаў, абвешчаных герэтычнымі папскаю курыяй. Адпаведна, робіцца зразумела, што славянскае жыхарства Вялікага княства Літоўскага ды суседніх прыязных яму рускіх княстваў падтрымвала Літву ды на працягу палутара стагоддзяў білася на яе баку з крыжакамі ў численых бітвах (як, напрыклад, у бітве на Стрэве 1348 г., на якую прыйшло 40-тысячнае войска літвінаў і русінаў (Letwinis et Rutenis), у тым ліку з Смаленска, Віцебска, Бярэсця, Валадзімера-Валынскага [283]) не за нейкае “балцкае паганства”, а за богумільскую веру Літвы ды за ўладу вялікіх князёў літоўскіх, якія рабілі магчымым вольнае яе вызнанне.

У адказ на заклікі папскае курыі і Тэўтонскага ордэну на працягу амаль двох стагоддзяў нямецкія, данскія, англійскія, французскія, італійскія, вугорскія, чэскія і польскія рыцары рушылі ў крыжовыя выправы на Літву, якія абрынаціся на Горадню, Вільню, Трокі, Полацк, Наваградак, Бярэсце і іншыя гарады Вялікага княства [284]. На працягу двох стагоддзяў літвіны разбівалі крыжацкія навалы і зысківалі слаўныя перамогі над крыжакамі. За вялікую бітнасць крыжакі празвалі вялікага князя Тройдзеня “Хіжым” [285], а вялікага князя Віценя “Жахлівым” [286]. Літвіны разбівалі крыжакоў у бітвах ля Дурбы ў 1260 г. (забіты 150 рыцараў-братоў Ордэну, майстар і маршалак), ля Карузы ў 1270 г. (забіты 52 рыцары і майстар), ля Дзвіны ў 1270 г. (забіты 20 рыцараў і майстар), пад Ашэрадэнам у 1279 г.

(забіты 71 рыцар і майстар), пад Грозэ ў 1287 г. (забіты 35 рыцараў і майстар), ля Трэйдэры ў 1297 г. (забіты 22 рыцары і майстар), ля Гаўі ў 1298 г. (забіты 60 рыцараў і майстар), ля Дубны ў 1305 г., на Зяміле ў 1319 г., ля Меднікаў у 1320 г. (забіты 40 рыцараў і маршалак), пад Плоўцамі ў 1331 г., пад Ашэрадэнам у 1345 г. (забіта 15 рыцараў), пад Рудаваю ў 1370 г. (забіта 26 рыцараў і маршалак), ля Калайны ў 1376 г. (забіты 21 рыцар) і ў іншых бітвах. Вялікае княства Літоўскае ў 13 і 14 стагоддзях бараніла ад крыжацкае навалы не адно Літву, але і землі ўсёй Русі. Вялікі князь Альгерд у 1371 г. пісаў да Канстантынопальскага патрыярха: "Мітрапаліт [маскоўскі] мусіў бы дабраслаўляць маскавітаў, каб памагалі нам, бо мы за іх ваюем з немцамі" [287].

Варта таксама згадаць наступны выпадак. У 1365 г. князь дарагічынскі Бутаўт (сын князя Кейстута) уцёк з намовы крыжакоў да Тэўтонскага ордэну, прыняў каталіцтва і ад 1368 г. знаходзіўся пры цэсарскім двару Караля IV у Празе. У 1369 г. Бутаўт быў сведкам падпісання "залатое булы" Караля IV, якая ўвязвала новыя захады змагання проці катарства [288]. З гледзішча звыклае сённяшняе гістарыяграфіі немагчыма зразумець, навошта гэтага князя з быццам "паганскае" Літвы (які сам надовечы быў хрышчаны ў каталіцтве ды, здавалася б, не знаўся яшчэ як след на хрысціянскай навуцы, а пагатоў на нутраных праблемах каталіцкага свету) дапусцілі да падпісання булы з выракам проці катарства. Але ў святле сапраўднае гісторыі Літвы акурат зразумела, дзеля чаго быў ужыты ў гэтай справе Бутаўт: ён мусіў, як былы "герэтык", надовечы наварачоны на каталіцтва, быць жывым прыкладам паспяховага змагання каталіцтва з катарствам ды з'явіць цэсарскаму двару асуджэнне сваёй старое "герэтычнае" веры.

Вядома, што ў 1390 г. падчас аблогі войскам нямецкіх, французскіх і англійскіх крыжакоў віленскага замку (дзе зачыніўся князь Скіргайла з літоўскаю залогаю), адзін крыжак залез на сцяну ды закрычаў да абложаных: "Kather er Kather!" ("Катары, гэй, катары!"). Вядома таксама, што падчас гэтае аблогі крыжакі менавалі абложаных у віленскіх замках "няверньмі", што выпіраліся "верным хрысціянам" [289]. Пад 1394 г. Я. Длугаш паведамляў аб існаванні ў Літве сэкты "прымхлівых русінаў-манахаў", якія "ў іх мове завуцца калоерамі (Kaloyri)" (грэцкі назоў манахаў-старцаў; "калоерамі" або "калугерамі" ў 14 стагоддзі на Балканах таксама называлі богумілаў). Длугаш зацеміў, што князь Свідрыгайла быў прыязны да гэтай "рускай сэкты" калоераў [290].

"Катарамі" менаваў літоўскіх хрысціянаў і вялікі майстар Тэўтонскага ордэну Конрад Юнгінген, прытым адрозніваючы іх ад "рускіх схізматыкаў", то бо праваслаўных. У 1403 г. Юнгінген пісаў, што Ягайла памагае зброяй і іншымі рэчамі літоўскім "няверным", "увесь час памагаў і памагае і мацуе дагэтуль". Далей Юнгінген пісаў: "У яго [Ягайлы] істым хрысціянстве мы маем з гэтае прычыны дужыя сумневы, бо ён спамагае рускіх схізматыкаў і катараў (die Russen Schismatiker und Ketzer) і патурае іхняй непаслухмянасці рымскай царкве" [291].

Граф Конрад Кібург, дыпламат Тэўтонскага ордэну, які наведваў Вільню ў 1397 г., менаваў некаталіцкіх хрысціянаў Літвы "маніхеямі" (звычайная каталіцкая мянушка на богумілаў і наогул антынамісцкія хрысціянскія плыні). Кібург запісаў у сваім дзённіку: "Чаму русіны [т.б. праваслаўныя], падпарадкаваныя Літве, не ёсць сапраўднымі хрысціянамі? <...> Іхняя вера гэта маніхейства, старое кацэрства" [292]. Польскія царкоўныя крыніцы таксама згадвалі, што мэтаю выправаў дамініканаў у Літву ў 13 стагоддзі было змаганне з "маніхейскімі прымхамі" мясцовага духавенства [293].

Дзейнае пашырэнне засцярог крыжакоў і папскае курыі проці веры літвінаў робіцца зразумелым, калі ўлічыць, што вядомы выпадкі, калі палякі дый нават крыжакі ўцякалі ў Літву ды пераходзілі ў літоўскую веру. Гэтак, яшчэ ў 1260 г. "пакінуўшы хрысціянскую веру, далучыліся да літвінаў" колькі рыцараў Тэўтонскага ордэну, якія былі пры двару вялікага князя Міндоўга [294]. Чэскі кароль і Тэўтонскі ордэн у сваёй дамове 1267 г. аб вайне на Літву, вядома, невыпадкова абвяшчалі, што вера літвінаў ёсць "пасткаю для хрысціянскай веры" (гл. вышэй). Уплывам літоўскага хрысціянства на каталіцтва, відавочна, быў спрычынены і вышменаваны звяз кракаўскага біскупа Паўла з літвою (відавочна, наймя дзеля гэтага звязу чэскі біскуп Бруна пісаў у 1273 г. папежу Грыгору X, што польская царква цалкам знішчана літвінамі (Lethuani … episcopatus Poloniae jam penitus deleverunt) [295]). Аб "пагрозе для веры" палякаў з боку літвінаў пісалі крыжакі і ў 1294 г. (гл. вышэй). У 1319 годзе (як адзначана вышэй) архібіскуп гнезненскі пісаў аб пагрозе таго, што літоўскія паходы на Польшчу прымусяць палякаў "пакінуць святло праўдзівае веры,

праз хлусню на Збаўцу”, – відавочна, маючы на ўвазе ўплыў літоўскае веры на польскае каталіцтва і звязаныя з гэтым уцёкі палякаў у Літву. Вядома, што падчас літоўскіх паходаў на Польшчу польскі люд (часам і святары) нярэдка сыходзіў разам з літвінамі ў Літву ў вялікіх лічбах [296]. У 1374 г., як паведамляе крыжацкая хроніка, “два рыцары, Ян Ланцберг і Фрыдрык Місэнскі з усёй зброяй, добрамі <...> уцяклі да літвінаў, стаўшыся вераадступнікамі” (profugerunt ad Letwinos apostate facti) [297].



*Збіццё францысканаў у Вільні ў 1369 г.*
*(рысунак 19 ст. паводле старажытнага вобразу*
*з віленскага бернардынскага касцёла)*

Між іншым, наўпростыя паралелі з вобразам дакрэўскае Літвы ў каталіцкіх крыніцах мае богумільская Боснія: як адзначыў даследнік баснійскага богумільства В. Лявіцкі, з вялізнага комплексу заходніх крыніц, пераважна царкоўных (папскія булы і лісты, апаведанні папскіх легатаў, лісты вугорскіх каралёў, хронікі і г.д.), вынікае, быццам у Босніі ад канца 12 стагоддзя і да сярэдзіны 15 стагоддзя (то бо да афіцыйнага пераходу ў каталіцтва апошняга богумільскага караля Босніі) увогуле не было ані хрысціянскіх цэркваў, ані святароў, ані ніякае хрысціянскае навукі, адным словам, не было хрысціянства наогул, а былі адно “народныя аблуды” і да таго падобнае. Між тым, мясцовыя баснійскія помнікі ведаюць сваю “басанскую веру”, “Басанскую царкву”, лічачы яе сапраўднаю хрысціянскаю. В. Лявіцкі прызнае гэтую нацыянальную “царкву Басанскую” фактычна праваслаўнаю паводле яе фармальнага ўкладу, але дужа паўплываную богумільствам, асабліва ў ейным нутраным укладзе і абрадах. Будучы богумільскаю паводле свайго зместу, у сваіх урадавых формах гэтая царква заставалася, фармальна, звычайнаю праваслаўнаю царквою [298]. Гэты прыклад мае наўпростыя паралелі з Літвою, з гісторыяй дакрэўскае літоўскае веры і Літоўскае мітраполіі. Гэта ў свой час зразумеў Т. Нарбут, калі ён згаджаўся з гістарычнымі сведчаннямі аб існаванні ў Літве богумільства і пісаў: “У той час хрысціяне заходняе царквы, пэўна, паводле апавяданняў крыжакоў як найбліжшых суседзяў, грэцкую веру Літвы ды Літоўскае Русі ўважалі за аднолькавую з язычніцтвам, асабліва дзеля нейкае сэкты, якую менавалі маніхейскаю” [299].

Крыніцы паказуюць, што старая літоўская вера часткова захоўвалася ў Літве на працягу доўгага часу пасля Крэўскае уніі. Аб літвінах-богумілах у розных гарадох ВКЛ, у тым ліку ў Віцебску, сведчыў Еранім Празскі ў 1413 г. (гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”). У 1469 г. маршалак гаспадарскі Станько Судзівоевіч сведчыў аб наяўнасці ля

Дзявілтава літвінаў, якія трымаліся сваёй старое дакрэўскае веры (гл. артыкул "Літва і Орда..."). У пачатку 16 ст. гвардыян віленскага аддзялення бернардынаў Ян Камароўскі (займаў гэтую пасаду ад 1511 г.) пісаў, што бернардыны на Полаччыне навярнулі на каталіцтва "тысячы літвінаў з тых, што дагэнуль заставаліся няверными"; паводле зацемкі Камароўскага, у той час літоўскія францысканы мелі ад папежа паўнамоцтвы "прыводзіць да адзінства з царквою герэтыкоў і няверных" [300] – гэта паказуе на тое, што на Полаччыне яшчэ ў пачатку 16 ст. было шмат літвінаў-богумілаў. З дакументаў вынікае, што яшчэ ў 1554 г. літоўскі каталіцкі касцёл меў прычыны хаваць наваратнае хрышчэнне ў каталіцтве вернікаў нейкае "рускае сэкты", якую выпісвалі як чыстае паганства [301]. Як сведчыў сучаснік, каля 1564 г. у Літве мелі шырокі абег творы папа Ерэміі (баўгарскага богумільскага пісьменніка 10 стагоддзя) у надпісанні святых айцоў, якія літоўскія евангелікі ўжывалі дзеля абароны сваёй веры [302]. Адзін віленскі каталіцкі клерык у 1581 г. пісаў, што "герэтыкі" (kacerzy) у Вільні мелі багата старых кніг [303].

У розных лістох 16–18 ст., у тым ліку лістох літоўскага касцёла, сустракаецца азначэнне "старалітва", "старалітвіны" (Staralitva, Stara Litwa, starolitwin). З лістоў вынікае, што гэтым найменнем азначалі літвінаў (у прыватнасці, на Слонімшчыне, Лідчыне, Случчыне), якія трымаліся не каталіцкіх, а нейкіх собскіх старажытных абрадаў. Святы і пасты яны абходзілі "паводле рускага абраду", не выконвалі вызначаныя касцёлам правілы, але станаўко трымаліся нейкіх "уласных, успадкаваных ад дзядоў законаў" – дзеля чаго каталіцкія ўлады не ўважалі іх за католікаў [304]. У адной справе кансісторскага суда ў 1721 г. была мова пра прымусовае наварачэнне ваўкавыскім лоўчым К. Калусоўскім сялянаў сваіх вёсак (на Лідчыне) на каталіцтва. Падчас вопыту ў судзе сялянаў аб іхняй былой веры шэсць сялянаў назвалі сваю веру "старалітва" (аднаго такога селяніна назвалі "старалітвін") [305]. Такім парадкам, відаць, што адметны канфесійны сэнс назову "літвін" працягваў існаваць яшчэ ў першай палове 18 стагоддзя. Вобраз "літвіна" захоўваў выразныя адметныя рэлігійныя рысы (герэтыка, чараўніка) у літаратуры і фальклёру суседніх народаў яшчэ ў 18–19 ст. [306]. Такія прыказкі, як "З літвіна не будзе хрысціяніна" ды "Літвін – то чортаў сын", а таксама абыйгрыванне выразаў "літвінку Божы" і "літвінку чортаў" – выразна сведчаць аб тым, што яшчэ ў 18–19 ст. у фальклёру суседніх народаў вобраз літвіна захоўваўся як вобраз хрысціянскага герэтыка (а не "балцкага паганца"). Наш фальклёр 18–19 стагоддзяў (як ён выступае ў запісах Я. Баршчэўскага, Е. Раманава, М. Федароўскага) таксама паказуе даўнія трывалыя традыцыі богумільскіх матываў у народнай вусновай творчасці (як і ў іншых народаў, сярод якіх было пашырана богумільства – баснякоў, баўгараў, чэхаў).

**6. Пісьменства, мастацтва, культура.**

Вядомыя з'явы з культурнага жыцця Літвы 13–14 стагоддзяў таксама кажуць аб хрысціянстве літоўскага народу ў гэты час. Напрыклад, добра вядома прыхільнасць вялікага князя Ягайлы да праваслаўна-бізантыйскага малярства. У той жа час вядома, што такія ж фрэскі бізантыйска-рускага стылю былі і ў Троцкім замку, які ад пачатку 14 ст. быў адной з сядзіб вялікіх князёў літоўскіх [307]. У княжай вежы Крэўскага замку, збудаванага ў канцу 13 – пачатку 14 ст., таксама былі фрэскі бізантыйска-рускага стылю [308].

Лаўрышаўскі манастыр ля Наваградка, заснаваны вялікім князем Войшалкам у 1258 г., граў значную ролю ў рэлігійным і культурным жыцці Літвы. У ім у другой палове 13 стагоддзя была створана знакамітая Лаўрышаўская Евангелія. На яе старонках захаваліся ўкладныя запісы князёў Міхайлы-Карыята Гедымінавіча, Дзмітрыя Альгердавіча, Аляксандра-Алелькі Валадзімеравіча. Ад 13 і 14 стагоддзяў ацалелі помнікі кніжнага мастацтва з розных бажніц ды манастыроў Вялікага княства Літоўскага, сярод іх Псалтыр з віленскае Мікольскае царквы, урывак з зборніка дванаццаці месяцаў з Трокаў, гутаркі св. Грыгора з Супрасльскага манастыра [309]. У віленскай Мікольскай царкве, заснаванай каля 1350 г., некалі захоўвалі шытую золатам плашчаніцу 12 стагоддзя з выяваю пакут Хрыста [310]. У Евангеліі 14 стагоддзя з віленскага збору Прачыстае захаваўся запіс аб смерці вялікага князя Альгерда: "Великий Князь Ондрей Гедыминович, во святой схиме Алексий, усопше на память Святых Мучеников Платона и Романа" [311].

Пры літоўскім вялікакняскім двару існавала не адно хрысціянская кніжная, але і высокая мастацкая культура. Яшчэ ў 1251 г. вялікі князь Міндоўг дасылаў ліфлянцкаму ляндмайстру ў якасці падарункаў "злата много и сребра и сосоудъ серебреныи и златыи и красныи" [312].

У рызскай доўжнай кнізе пад 1292 г. згаданы Якуб, прыдворны залатар вялікага князя літоўскага (Jacobo aurifabro regis Lettowie) [313]. Літоўскіх музыкаў прывезла з сабой у Польшчу дачка вялікага князя Гедыміна Альдона, выдадзеная замуж за польскага каралевіча Казіміра ў 1325 г.: вядома, што ў падарожжах па Польшчы Альдоне звычайна спадарожнічаў ейны прыдворны аркестр з арфамі, скрыпкамі, бубнамі, а граную для яе музыку палякі нават лічылі часткаю нейкага літоўскага народнага абраду [314].





*Апостал Іван; Хрыстос уваскрашае дачку Яіра (мініятуры з Лаўрышаўскае Евангеліі, 13 ст.)*





*Шытая золатам плашчаніца 12 стагоддзя, якую захоўвалі ў віленскай Мікольскай царкве*

*Фрэскавы роспіс пакояў старога замку ў Троках (14 ст.)*

Паводле К. Нясецкага, за яго часу ў польскім каронным архіве захоўвалі пячатку вялікага князя Гедыміна з выяваю ангела [315]. Гэтыя звесткі пацвярджаў М. Карамзін [316]. Выяўна, што калі адзін адбітак пячаткі Гедыміна крыжакі ў пачатку 1323 г. спалілі, то Гедымін у сваім наступным лісце ганіў іх як “паклёпнікаў, супольнікаў д’ябла, разбуральнікаў веры і нязбожных герэтыкоў”. Гедымін пісаў: “Тых, хто зневажае гэтую пячатку, мы ў гэтым лісце адхіляем як зласлівых *разбуральнікаў веры*, хлуслівых і нязбожных *герэтыкоў*” [317]. Застаецца мала сумневаў, што мова была пра пячатку з

хрысціянскаю сымболікаю. Вядомая лацінская пячатка Гедыміна месціць тытулатуру “Dei gracia Gedemini Lethvinorvm et Rvthenor. reg.” (“Божаю міласцю Гедымін гаспадар літвінаў і русінаў”) і выяўляе Гедыміна ў тыпова рускай княскай чапцы, падобнай да мітры [318] (гл. дад. №10). Тытулатуру з словамі “божаю міласцю” падавалі таксама Альгерд у грамаце 1347 г. (“Божью милостью Великий Князь Литовский”) [319], Вітаўт у дамове 1384 г. (“von Gotis gnaden herczoge czu Tracken”) [320], Ягайла ў Дубіскай дамове 1382 г. і ў прэлімінарным акце Крэўскае уніі 1385 г. (“virtute Dei dux magnus Litwanorum”) [321].

Вядома пячатка Альгерда з надпісам “ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ВЕЛИКОГО ОЛГЕРДА”. Кірылічны надпіс стаяў вакол гербу “Пагоня” і на вялікакняскай пячатцы Альгерда, якою ён змацаваў дамову з польскім каралём Казімірам у 1366 г. Гэтая дамова таксама была змацавана пячаткаю князя Кейстута з надпісам “СЕ ПЕЧАТЬ КИИСТУТИЯ КНЯЗЯ ТРОЦКОГО” [322]. Кірылічны надпіс стаяў на вялікакняскай пячатцы Ягайлы на дамове з Тэўтонскім ордэнам 1379 г. [323]. Вядомы таксама пячаткі з кірылічнымі надпісамі старасты лідскага Вайдылы (“ПЕЧАТЬ ВОИДИЛОВА”, 1380 г.), князя Івана Гальшанскага (“ПЕЧАТЬ ИВАНА ОЛГИМОНТОВИЧА”, 1390 г.), намесніка полацкага Мантыгерда (1396 г.), князя Жыгімонта Кейстутавіча (“ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ЖИКГИМОНТА”, 1398 г.), маршалка дворнага Станіслава-Чапурны Радзімавіча (“ЧОПУРНА РОДИМОВИЧ”, 1398 г.), намесніка ковенскага Сунігайлы (“ПЕЧАТЬ СУНЬГАИЛОВА”, 1410 г.) [324]. Першыя літоўскія манеты, вядомыя ад 1360-х гадоў, мелі кірылічныя надпісы, а таксама выяву гербу “Пагоня”. Паводле высноў даследнікаў, фактура першых літоўскіх манет запазычана з Бізантыі, а сама літоўская грашовая сістэма 14 ст. была адменаю агульнарускае [325].



*Адбітак пячаткі*
*вялікага князя літоўскага Альгерда*
*(1372 г.)*



*Манета*
*князя Кейстута (1370-я гг.):*
*надпіс “ПЕЧАТ” і крэст*

Аб пісьмовай культуры тагачаснае Літвы сведчаць таксама звесткі аб неацалелых лістох у пазнейшых крыніцах. Гэтак, як адзначалі даследнікі земскіх грамат вялікіх князёў літоўскіх 15–16 ст., найстаражытнейшыя артыкулы гэтых грамат узыходзяць да першай паловы 14 стагоддзя [326]. У прыватнасці, да часоў Гедыміна ўзыходзяць найстаражытнейшыя артыкулы ўстаўных прывілеяў Кіеўскай зямлі [327]: “...А Киянина, как и Литвина, во чти держати и во всех врадех ни в чом не понизити. А волости Киевские Кияном держати, а иному никому. А городки Киевские в нашой воли: Кияном будем давати, кому ся будет годити” [328]. Літоўскія летапісы паведамляюць, што ў 1341 г., па смерці вялікага князя Гедыміна, яго сыны справілі сойм у Вільні, на якім уклалі пісьмовую дамову (“такое писанье дали собе”) аб захаванні меж удзелаў і супольных дзеяннях [329]. Полацкі князь Андрэй Альгердавіч у 1385 г. пісаў, што ягонае права княжыць у Полацку было дадзена яму бацькам і засведчана братамі ў дамоўных граматах [330]. Аб тым, што вялікі князь Альгерд выдаваў віленцам граматы, вядома з прывілея вялікага князя Казіміра 1440 г., які спасылаўся на адну з такіх грамат: “А подлуг старого обычая от нашых штож а были первоосветченые князи деда нашого Олькгирда <...> им было то позычено и дано на веки” [331]. На адвароце лацінскае граматы Альгерда, Кейстута і Валадзімера Альгердавіча з ліфлянцкім ляндмайстрам з 7 лістапада 1367 г. застаўся запіс пісара таго часу: “Задвинскии ратныи грамоты со Володимером” [332].

Наогул, гістарычныя сведчанні паказуюць, што дакумент быў у шырокім абегу ў Літве 13–14 стагоддзяў. Яшчэ вялікі князь Міндоўг выпраўляў да суседніх краёў “послы с грамоты”, пры двару Міндоўга ўспраўлялі дарчыя граматы на зямлю [333]. У пазнейшым

дыпламатычным ліставанні Літвы і Орды былі згаданы ордскія ярлыкі, “которые ж с початку от первых царей выписаны к Великому князьжству” (гл. артыкул “Літва і Орда...”). У 1273 г. кракаўскі біскуп Павал абменьваўся лістамі з літвінамі дзеля складання лігі проці кракаўскага князя Баляслава [334]. У 1362 г. Альгерд і Кейстут прасілі майстра Тэўтонскага ордэну пакласці імёны літоўскіх палонных на паперы [335]. У “Скарзе Вітаўта” (1390 г.) і іншых тагачасных літоўскіх крыніцах згаданы граматы і лісты, якімі абменьваліся Кейстут, Вітаўт і іншыя літоўскія князі [336]. Вядома, што ўласныя архівы дакументаў мелі Ягайла ў 1381 г., Скіргайла ў 1385 г. [337]. Конрад Кібург у 1397 г. апавядаў, што падданыя вялікага князя Вітаўта падчас наведвання яго сядзібы звычайна пакладалі гаспадару пісьмовыя выклады сваіх просьб [338]. Як відаць з ацалелых літоўскіх грамат 14 стагоддзя, асноўныя выразы і формы лістоў княскіх канцылярый склаліся ў ВКЛ задоўга да Крэўскай уніі.

У якім культурным асяроддзі быў выхаваны вялікі князь Ягайла, відаць па яго захапленні праваслаўна-бізантыйскім малярствам, якое ён захаваў праз усё жыццё. Я. Длугаш пісаў: “...Ягайла ад маленства меў грэцкае рэлігійнае выхаванне і густы і заўжды захоўваў любасць да ўсяго, што патыхала грэчызнаю” [339]. У 1392–1394 гг. Ягайла загадаў размаляваць фрэскамі ў бізантыйска-рускім стылю сваю лажніцу ў Вавельскім каралеўскім замку. Потым Ягайла заказаў такія роспісы ў Марыінскай капліцы і ў капліцы Святой Тройцы ў катэдры на Вавелю, у калегіятах Судаміра і Вісліцы ды ў катэдры ў Гнезне. Гэтыя роспісы выконвалі рускія мастакі (pictores Ruthenicos), адмыслова прывезеныя Ягайлам для гэтай мэты ў Польшчу [340]. Ягайла, заняўшы польскі сталец, прывез у Кракаў амаль увесь свой віленскі двор, у складзе якога былі літвіны і русіны – лоўчыя, музыкі, мастакі. Сярод прыдворных музыкаў кракаўскага двара Ягайлы былі арфісты Гапанас, лютністыя Андрэйка, Ходзька, Кацька, Падалян, Сцечка, Шудліч і флейтысты Ківала [341].





*Фрэскавы роспіс у капліцы замкавага касцёла св. Тройцы ў Любліне і ўрывак фрэскі з сведчаннем аб аўтарстве мастака Андрэя з Перамышлю (1418 г.)*

У 1390 г. Ягайла заснаваў у Кракаве першы ў Польшчы кляштар славянскага абраду, дзе ўсе службы адбываліся ў царкоўнаславянскай мове і пры якім восемдзесят гадоў дзейнічала школа па вывучэнні глагалічнага пісьма [342]. У 1420 г. гусіцкія паслы, прапануючы Ягайлу чэскую карону, звярталіся да яго як да гаспадара, “ад нараджэння прыхільнага” да славянскай мовы [343].

Дакрэўская рэлігійная і свецкая культура Літвы ўчыніла вялікі ўплыў на рэлігійнае і культурнае жыццё Літвы пасля Крэўскае уніі. Напрыклад, яшчэ ў 1685 г. віленскі каталіцкі збор адзначаў, што літоўскія каталіцкія святары да таго часу насілі бароды, не стрыглі валасы на галаве ды насілі хутровыя баярскія чапкі (паводле рускага звычаю) [344]. Для Літвы быў традыцыйным культ святога Георгія (Юрыя): гэтак, вядома, што ад старажытнасці і да падзелаў Рэчы Паспалітае літоўскія католікі лічылі святым заступнікам вялікіх князёў літоўскіх святога Георгія (святы Казімір упершыню быў абвешчаны святым заступнікам Літвы адно ў 1604 г.) [345]. На Грунвальцкім полі ў 1410 г. літоўскае войска мела на чале харугву з выяваю святога Юрыя [346].

Як адзначаюць літоўскія летапісы, партрэт вялікага князя Вітаўта ў віленскім замку быў маляваны паводле грэцкага звычаю: "Есть его образ и тепер в Вильню обычаем грецким на коню по старосвецку малеваный" [347]. Альбом з партрэтамі князёў Радзівілаў, выдадзены ў нясвіжскай друкарні Радзівілаў у 1770-х гадох, як вядома, быў укладзены на грунце партрэтаў і малюнкаў з збораў Радзівілаў, створаных пачынаючы ад пачатку 15 стагоддзя (найстарэйшым ёсць партрэт Войшунда-Хрыстына Остыка (1346–1442)) [348].

Азначэнне "літоўскі" пашыралася ў 14–15 стагоддзях на ўсе вобласці жыцця літоўскага народу і гаспадарства. Гэтак, "літоўскае права" (адметная юрыдычная сістэма літоўскага народу, якая ўсправілася ўжо ў 14 стагоддзі на грунце звычаёвага права Літоўскае зямлі) паступова набывала ў 15 стагоддзі агульнагаспадарстваы характар і было кадыфікавана ў прывілеях, судзебніках і Літоўскіх Статутах (гл. артыкул "Літоўскае права..."). Яшчэ ў 14–15 ст. у ВКЛ склалася ўласная "літоўская" мерная сістэма, якая ўлучала літоўскі рубль, літоўскі грош, літоўскі локаць, літоўскі гарнец, літоўскую копу (або "копу Литовское личбы"). Назоў "літоўскага" ваеннага звычаю таксама азначаў старабеларускі вайсковы звычай: у 1387 г. кароль і вялікі князь Ягайла ў прывілеі літоўскаму баярству пісаў аб старажытным звычаі паспалітага рушэння проці ворагаў Літоўскае зямлі, які "ў народнай мове называецца пагоняю (pogonia)" (гл. дад. №28). Напрыклад, у 1432 г. ваенны звычай друцкага князя Івана Бабы быў вядомы ў Масковіі як "літоўскі" ("изрядивъ свой полк с копьи по литовски") [349].



*Войшунд-Хрыстын Остык (1346–1442),*
*княгіня віцебская Яўхімія, яго малжонка,*
*і іхні сын Мікалай Радзівіл*
*(копіі з партрэтаў у Радзівілаўскім альбоме 18 ст.)*

* * *

Такім парадкам, уся супольнасць гістарычных звестак аб жыцці літоўскага народу 14 стагоддзя сведчыць аб тым, што назоў "літвіны" ніколі не быў назовам нейкага "балцкага

язычніцкага народу” ды наогул у ВКЛ 13–14 ст. не быў этнонімам; “літвінамі” да Крэўскай уніі называлася мясцовая канфесійная супольнасць богумільскага характару, якая была тытульным элементам у Вялікім княстве Літоўскім, ад пачатку 14 стагоддзя мела сваю царкоўную ўстанову ў паставе Літоўскае мітраполіі, а ў выніку рэлігійнае рэформы, знітаванае з Крэўскаю уніяй 1385 г., падзялілася на католікаў і праваслаўных, захаваўшы назоў “літвіны” ў якасці супольнага назову тытульнага народу Вялікага княства Літоўскага.

*     *     *

Мікалай Гусоўскі ў “*Песні пра зубра*” (1523 г.) стварыў вобраз вялікага князя Вітаўта як ідэальнага гаспадара, “айца Айчыны” (patrem patriae). Княжанне Вітаўта паўстае ў паэме як час гераічных спаборніцтваў, дзе кожны меў поле для ўчынаў [31]:

Вітаўт і знаць не хацеў сабе большага шчасця,
Чым гартаваныя ў бітвах бясстрашныя раці.
Доблесць пры ім афіцыйна лічылася першай
Якасцю воіна, і на вайсковых аглядах
Ён, як аптэкар на вагах, уважваў, хто лепшы,
Лепшаму там жа за доблесць і дзякаваў шчодра.
<...>
Я пяю яму славу. Густа ён справамі век насяліў свой,
І водгук спраў тых вячыстых патрапіў і ў гэтую песню.

Шэраг эпічных патрыятычных твораў выклікалі падзеі Ліфлянцкае вайны 1558–1582 гг. Францыск Градоўскі выдаў у 1582 г. у Вільні лацінамоўную паэму “*Выпісанне маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла*”, насычаную матывамі літоўскага патрыятызму [32]. Славуты паэта Андрэй Рымша выдаў у 1585 г. у Вільні ў польскай мове прысвечаную каралю Стэфану Батуру паэму “*Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла*” [33]. Рымша таксама склаў шэраг эпіграм-прысвячэнняў у народнай мове на чэсць літоўскіх вяльможаў – Валовічаў, Радзівілаў, Сапегаў, Скумінаў і іншых – якіх услаўляў як патрыётаў Літвы. Падпісваўся паэта як “Андрэй Рымша Літвін” [34].

Ян Радван выдаў у 1592 г. у лацінскай мове паэму “*Радзівіліяда ... або пра жыццё і справы ... князя Мікалая Радзівіла*”, прысвечаную бацьку гетмана Крыштафа Радзівіла – Мікалаю Радзівілу Рудому, пераможцу маскавітаў на Уле (1564 г.) [35]. Твор услаўляе Літву [36]:

Свой твор я магутнай Літве прысвячаю.
Непераможны і велічны край, добра ў свеце вядомы –
Гэта Літва, што шырока раскінула плодныя нівы <...>

Сярод ваяводаў літоўскага войска твор пералічае Філона Кміту-Чарнобыльскага, братоў Хадкевічаў, Сапегу, Саламярэцкага, Глябовіча, Зяновіча, Сангушку [37]. У шырокай геаграфічнай панараме пералічаны ўсе вялікія гарады Вялікага княства Літоўскага [38]:

Хутка пяхота ідзе ды напорыста конніца мчыцца,
Войска вялікае: віленцы, з імі й сыны твае, Кунас,
Тыя яшчэ, хто жывуць на ўзбярэжжы, дзе Нерыс магутны
Нізкай далінай цячэ ды хаваецца ў Хронавых водах;
Месцічы Трокаў яшчэ ды магутнага Віцебска, з імі
Тыя, якіх гадавалі прасторы цудоўнае Оршы;
Хтосьці між пушчаў жыве, між прывабных лугоў і палеткаў –
Гожа Бярэзіна там берагі пакрывае чаротам;
Волаты з старага Полацка крочаць, магутныя сэрцам,
Слаўнага Менска сыны, жыхары старавечнай Гародні,
Тыя, хто з Ліды паходзяць, хто бачаць празрыстую Ваку,
Іншыя – Марсаў народ – Гердзівілавы нівы абходзяць,
Землі твае, Магілёў, ды суседняга краю прасторы.
Там на адных пазіраюць аршанскія дахі, на іншых
З вежаў сваіх сарака вельмі годна глядзіць Азярышча.
Я не забуду сказаць пра муры і гасцінцы старыя
Даўняга Берасця, з ім і маленькую Рэчыцу ўспомню.
Гомельцы ў войску, мазырцы, ды іншыя ратнікі разам.
<...>
Тых гадавалі прасторы Мсціслаўля, тых – Ула, якая
Поўніла хуткія воды крывёю маскоўцаў, а гэтых –

Землі Івана, збялелыя скрозь ад касцей чалавечых;
Крэва яшчэ – напамін пра забітага Кейстута. Побач
Слонімскіх волатаў раць, жыхары Ваўкавыска і русы. <...>

У 1597 г. выйшаў зборнік вершаў у лацінскай і польскай мовах "*Патрыёт Айчыны да сенату і народу літоўскага*" Гальяша Пельгрымоўскага, галоўнымі персанажамі якога ёсць Патрыёт і Маці-Літва. Літва прамаўляе да сваіх дзяцей – гарадоў і зямель Вялікага княства Літоўскага, якія адказуюць ёй. Віцебск згадуе "Альгерда нашчадкаў ухвалёных", Наваградак-Літоўскі запэўнівае, што не пакіне ў бядзе сваю "найсвяцейшую маці" Літву [39].

*   *   *

Такім парадкам, хаця сёдня мы яшчэ далёкія ад рэканструкцыі ўсяго сярэднявечнага літоўскага эпасу, асабліва ў плане народных песень і былін, можна цвердзіць, што вядомы сёдня літаратурны і народна-спеўны эпас літвінаў 13–16 ст. выступае прыроднаю часткаю агульнае славянскае літаратурна-фальклёрнае традыцыі народу літвінаў. Новы лацінамоўны эпас Літвы 16 стагоддзя, разлічаны на еўрапейскую аўдыторыю, грунтаваўся на традыцыях сярэднявечнага літоўскага эпасу (у тым ліку згадваў асобы Альгерда, Кейстута, Вітаўта) і быў яго натуральным працягам, у якім Вялікае княства Літоўскае па-ранейшаму выступае як славянскі край, што абыймае Вільню, Полацк, Мазыр і Бярэсце.

*   *   *

Спасылкі:


1. С. Валянтас. Реконструкция эпоса балтов: неудачи и перспективы. // Балты и Великое княжество Литовское: историко-лингвистический взгляд. Москва, 2007. с. 13.
2. З. Сасноўскі. Музычная культура рыцарскага саслоўя Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Мінск, 2010. с. 81.
3. С. Кавалёў. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мінск, 1993. с. 30.
4. ПСРЛ, т. 32. М., 1975. с. 26.
5. ПСРЛ, т. 32, с. 133.
6. ПСРЛ, т. 32. с. 60-62, 140.
7. ПСРЛ, т. 15. Москва, 2000. стб. 88.
8. І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII стст.). Магілёў, 2003. с. 221-222.
9. З. Сасноўскі. Музычная культура... с. 67-68.
10. там жа, с. 67-68; Ж. Некрашэвіч-Кароткая. Беларуская лацінамоўная паэзія. Ранні Рэнесанс. Мінск: БДУ, 2009. с. 76.
11. W. Last. Pieršaja čytanka. Wilnia, 1916. с. 59-60.
12. В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства. М., 1959. с. 367.
13. Свод русского фольклора. т. 4. Былины Мезени. СПб.-М., 2004. №126, 127, 131.
14. Свод русского фольклора. т. 2. Былины Печоры. СПб.-М., 2001. с. 7-9; т. 4. Былины Мезени. СПб.-М., 2004. с. 212-213, 216-217; Былины. / подг. и комм. В.Я. Проппа и Б.Н. Путилова. ч. 1. М., 1958. с. 286-287, 298.
15. В.Н. Топоров. “Севернорусская” Литва и её мифологизированный образ. // Балты в древности и средневековье: языки, история, культура. – отв. ред. М.В. Завьялова. – М., 2000. с. 64, 77.
16. ПСРЛ, т. 5. вып. 1. Москва, 1941. с. 19; вып. 2. Москва, 1955. с. 95-96.
17. Н. Петров. О словесных науках и литературных занятиях в Киевской академии от начала ея до преобразования в 1819 году. // Труды Киевской духовной академии. 1866, т. 4, ноябрь. с. 384; Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. / укл. А.Ф. Коршунаў; пад рэд. І.П. Яроміна, В.В. Барысенкі. Мінск, 1959. с. 375-379.
18. С. Дубавец, Г. Сагановіч. Старажытная Літва і сучасная Летува. // З гісторыяй на “Вы”. вып. 2. Мн., 1994. с. 232-233; Н.И. Костомаров. Русские инородцы. // Русское слово. 1860, №5. с. 9; А. Дзермант. Паганскае адраджэньне на Беларусі. // Дзеяслоў. 2007, №1 (26). с. 272.
19. Э. Зайкоўскі. Беларусы ведалі сваіх герояў // Спадчына, 1995, №2. с. 195-196; Ю. Мікульскі. Беларускія граматы 1460–1544 гг. са сховішчаў Вільні і Варшавы // Беларуская даўніна. вып. 3. Мінск, 2016. с. 136.
20. З. Скварчэўскі. Вобраз князя Вітаўта ў міфалагічнай свядомасці беларусаў // Druvis. 2011, №3.
21. Беларускі фальклор Гродзеншчыны. Гродна, 2007. с. 69, 88.
22. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856. s. 144.
23. З. Сасноўскі. Музычная культура... с. 79.
24. С. Кавалёў. Героіка-эпічная паэзія... с. 31-32.
25. А.С. Котлярчук. Самосознание белорусов в литературных памятниках XVI–XVIII в. // Русь – Литва – Беларусь. Проблемы национального самосознания в историографии и культурологии. М., 1997. с. 86.
26. ПСРЛ, т. 35. М., 1980. с. 125-127.
27. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. I, Wilno, 1835. s. 156-160.
28. С. Кавалёў. Героіка-эпічная паэзія... с. 34.
29. Літаратура XI – XVI стагоддзяў. / нав. рэд. В.А. Чамярыцкі. Мн., 2012. с. 207.
30. там жа, с. 211-213.
31. Мікола Гусоўскі. Песня пра зубра. / пер. Я. Семяжон. – Мн., 2006. с. 48-54; Ж. Некрашэвіч-Кароткая. Беларуская лацінамоўная паэзія... с. 157-158; З. Сасноўскі. Музычная культура... с. 68.
32. С. Кавалёў. Героіка-эпічная паэзія... с. 42, 47.
33. там жа, с. 48-49, 50, 71.
34. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. / укл. А.Ф. Коршунаў; пад рэд. І.П. Яроміна, В.В. Барысенкі. Мінск, 1959. с. 329-330.
35. С. Кавалёў. Героіка-эпічная паэзія... с. 57-58.
36. С. Кавалёў. Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу: жанры, творы, асобы. Мінск, 2005. с. 163-164.
37. С. Кавалёў. Героіка-эпічная паэзія... с. 64.
38. Ж. Некрашэвіч-Кароткая. Культурны космас беларускай мінуўшчыны ў эпапеі “Радзівіліяда” (Вільня, 1592) Яна Радвана. // Беларуская пісьмовая спадчына ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу XI – XIX стагоддзяў: вытокі, традыцыі, уплывы. Мінск, 2010. с. 69-70.
39. С. Кавалёў. Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу... с. 30-34, 165.

## Літва і Орда ў 13–15 стагоддзях

*"Как жо из века бывало, Великое княжство Литовское с Перекопскою ордою, а Перекопская орда з Великим княжством Литовским завжды заодно были против всякому непрыятелю".*

вялікі князь літоўскі Аляксандр, 1492 г.

Важным чыннікам палітычнага жыцця Вялікага княства Літоўскага ў 13–15 стагоддзях былі яго шчыльныя зносіны з Ордаю, якія нярэдка мелі форму ваенна-палітычнага звязу. У гістарыяграфіі нядаўніх часоў гэтае пытанне было, фактычна, цалкам ігнаравана [1]. У гэтым артыкуле мы падамо першарадныя звесткі разнастайных гістарычных крыніц аб зносінах Вялікага княства Літоўскага ў першыя стагоддзі яго існавання з Ордаю – створаным цюркскімі ваяводамі ў 1240-х гадох гаспадарствам з асяродкам у Крыму, гаспадары якога мелі тытул "цароў", вызнавалі іслам суфійскае адмены [2] і выступалі ў якасці сюзэрэнаў княстваў Русі.



*Аблога татарамі польскага замку ў 1241 г.*
*(польская мініятура 14 ст.)*

Орда мела трывалыя сувязі з Літвою ўжо за часу першага вялікага князя літоўскага Міндоўга. Узімку 1259–1260 гг. войскі Орды, разам з літоўскімі і галіцка-валынскімі пасілкамі, рушылі ў другі паход на Польшчу. Падчас гэтага паходу літвіны (Lithwanis) бралі ўчасць у аблозе ордскім войскам Судаміра, а войскі Міндоўга адначасна плюндравалі Мазоўшу і Прусы [3]. Наконт адыходу Міндоўга ад каталіцтва крыжацкія хронікі кажуць, што Міндоўг стаўся не адно "вераадступнікам", але і "мамелюком" (Mameluk), – такім чынам сведчучы аб звязе Міндоўга з Ордаю [4]. У верасні 1260 г. папеж Аляксандр IV пісаў, што прускія крыжакі напалоханы наўпростым суседствам татараў, якія цалкам захапілі Літву, і абвясціў крыжовы паход проці татараў (Tartaris), якія пагражалі Ліфлянтам, Прусам і Польшчы [5]. Заходнія крыніцы мянуюць літвінаў супольнікамі татараў, а часам нават атаесамляюць з татарамі. Гэтак, адна заходняя крыніца, апавядаючы аб знакамітай бітве ля ракі Дурбы 13 ліпеня 1260 г., мянуе ворагаў крыжакоў у гэтай бітве "татарамі" (Tartari) [6]. Між тым, летапісы ВКЛ выпісуюць гэтую бітву як перамогу над крыжакамі літоўскага войска вялікага князя Міндоўга [7]. У ліпені 1262 г. літоўскае войска захапіла княскую сядзібу Яздава ў Мазоўшы і забіла мазоўскага князя Земавіта ("Литва ... Сомовита князя убиша"; "Dux Semowitus a Lithuanis occiditur") [8]. Я. Длугаш пісаў, што Земавіта

“забілі татары” [9]. У 1263 г. архібіскуп гнезненскі паведамляў у папскую курыю, што на Польшчу адбываліся частыя спусташальныя напады татараў і літвінаў [10].

Супольныя дзеянні Орды і Літвы за часу вялікага князя Міндоўга прывялі да таго, што каталіцкія сучаснікі тых падзей казалі аб “злучу” Орды і Літвы. Папеж Урбан IV у сваім лісце з 4 чэрвеня 1264 г. пісаў, што “рускія схізматыкі і літвіны, як і іншыя суседнія ім жыхары, не сцяць Бога, але ганьбяць імя Ягонае, разам з іхнімі супольнікамі татарамі, з якімі яны задзіночаны праклятым злучам” [11]. Папеж Клімент IV у сваім лісце з 20 студзеня 1268 г. згадваў аб ранейшых паходах крыжакоў проці “літвінаў і іншых няверных, што задзіночаны, як кажуць, праклятым злучам з татарамі і іншымі ворагамі хрысціянскага імя” [12].

Такім парадкам, і звесткі аб ваенных дзеяннях, і іншыя сведчанні сучаснікаў кажуць аб існаванні ўжо за часу вялікага князя Міндоўга ваенна-палітычнага звязу між Літвою і Ордаю. Памяць аб звязе Літвы і Орды ўжо за часу легендарнага цэсара Батыя захавалася ў дыпламатычным ліставанні гаспадароў Літвы і Орды – у 1497 і 1498 гг. ордскі цар Шыг-Ахмат у сваіх лістох да вялікага князя літоўскага Аляксандра пісаў: “Мы с вами еще от великого цара Батыя в братстве и прыязни жывем”; “еще от великого цара Батыя з вашыми предки и з отцом вашым наш отец в братстве и прыязни бывали” [13].

Вялікі князь літоўскі Трайнята ў 1264 г. з ордскімі пасілкамі хадзіў паходам на Мазоўшу і Прусы [14]. У 1266 г. берасцейскі князь Шварна Данілавіч (будучы вялікі князь літоўскі) “со множеством татар” хадзіў паходам на Польшчу [15]. Выяўны вобраз выпірання каталіцтва ўсходнееўрапейскім “герэтыком” і “схізматыкам”, падпарадкаваным “татарам”, можа быць знойдзены ў напісаным у 1273 г. пасланні оламуцкага біскупа Бруны (аднаго з найбліжшых дарадцаў чэскага караля) да папежа Грыгора X. Пасланне даводзіла, што адно Чэскае каралеўства паўстае ў тых краёх як абароннік каталіцкае веры, у той час як дзейнасць біскупстваў Польшчы чыста парушана літвінамі, а ў Вугоршчыне знаходзяць прытулак “герэтыкі” і “схізматыкі”-русіны, якія ёсць слугамі татараў [16].

У даследваннях почасту адзначаюць паходы войскаў Орды, разам з галіцка-валынскімі войскамі князя Льва Данілавіча, на Вялікае княства Літоўскае ў 1275 і 1277 гг. Але звычайна не разглядаюць прычыны гэтых паходаў. А прычыны былі ў тым, што ў 1274 г. вялікі князь Тройдзень захапіў ладную частку Галіцка-Валынскага княства: гэта былі, імаверна, не адно Дарагічын на Падляшшы і частка Валынскае зямлі (як кажа Галіцка-Валынскі летапіс), а ладна большыя землі, мабыць, нават уся Валынь, як паведамляе Густынскі летапіс [17]. Пасля скаргі Льва Данілавіча ордскаму цару Менгу-Тымеру той даслаў Льву пасілкі для паходу на Літву: ордска-галіцкія войскі дайшлі да Слуцка і Наваградка, але былі вымушаны вернуцца назад ні з чым. Ордскія войскі не ставілі ніякіх заваёўных мэт, межы Вялікага княства Літоўскага пасля гэтага паходу не змяніліся – гэта паказуе на тое, што адзінаю мэтаю паходу ордскіх войскаў было ўстаўленне замірэння між княствамі і захаванне старых меж, то бо захаванне старога парадку, устаўленага Ордаю яшчэ ў часы стварэння ВКЛ. Падобным чынам, у 1277 г., пасля захопу войскамі вялікага князя Тройдзеня Турыйска на Валыні, адбыўся падобны паход ордска-галіцкіх войскаў на ВКЛ, які таксама скончыўся нічым, – Галіцка-Валынскае княства і Вялікае княства Літоўскае засталіся ў сваіх былых межах [18]. Гэта паказуе на тое, што Орда проста імкнулася захаваць былую палітычную сістэму ды былыя межы княстваў і не ставіла мэтаю заваёўваць землі ВКЛ, – дарма што галіцка-валынскія князі почасту скардзіліся ордскім гаспадаром на напады Літвы (ордскі ваявода Нагай пісаў Льву Данілавічу: “всегда ми жалоуете на Литвоу” [19]). Гэтае нейтральнае стаўленне Орды да Літвы ў гэтых закалотах і далейшыя яе актыўныя і прыязныя зносіны з Літвою кажуць аб тым, што Вялікае княства Літоўскае, як і Галіцка-Валынскае княства, было часткаю палітычнае сістэмы, створанае Ордаю на землях Русі ў сярэдзіне 13 стагоддзя.

Узімку 1279–1280 гг. літвіны разам з ордскімі войскамі бралі ўчасць у выправе князя Льва Данілавіча на кракаўскую і судамірскую землі Польшчы [20]. У верасні і кастрычніку 1282 г., падчас паходу ордскага ваяводы Тэлябугі на Польшчу, літоўскае войска разбурала Люблінскую і Судамірскую зямлю [21]. У кастрычніку 1283 г. літоўскія загоны бралі ўчасць у аблозе ордскім войскам Судаміра [22]. Адным з буйнейшых стаўся паход ордскага цара Тэлябугі, разам з рускімі і літоўскімі войскамі, на Польшчу ў снежні 1287 г. Злучаныя ордска-руска-літоўскія войскі цягнулі ў Польшчу з Літвы (праз Мазоўшу) і Валыні (праз

Люблінскую зямлю) ды палупілі судамірскую, кракаўскую і сярадзкую землі да Татраў; кракаўскі князь Лешка Чорны быў вымушаны ўцячы ў Вугоршчыну [23].

Каталіцкія крыніцы часам менавалі "татарамі" не войскі Орды, а іншыя войскі, якія выступалі проці каталіцкіх гаспадароў і крыжакоў. Гэтак, пад 1286 г. торуньскія рочнікі мянуюць "татарамі" (Tartari) загоны прусаў, якія на чале з паморскім князем Віцлавам паўсталі проці крыжакоў [24]. Яшчэ пад 1260 г., як мы бачылі, заходнееўрапейская крыніца атаесамляла літвінаў з "татарамі". Чэская паэма "Александрэіда", складзеная між 1283 і 1305 гг. пры празскім каралеўскім двару, таксама кажа, што "татары" – гэта іншы назоў літвы: "Leč bud' Litva, leč Tateři, kakž su menovani kteři" ("Ці Літва то, ці Татары, як жа іх мянуюць парай") [25]. Аўтар паэмы зычыць, каб літва і татары прынялі каталіцкую веру і "адмовіліся ад сваіх малітв", – што выразна выяўляе літву і татараў як рэлігійных сэктантаў (з гледзішча каталіцкага аўтара). На працягу 14 стагоддзя вядомы і іншыя прыклады збліжэння ды нават атаесамлення літвінаў з "татарамі" (гл. ніжэй).

Гуго фон Лангенштэйн, комтур Тэўтонскага ордэну, у сваёй паэме, прысвечанай падзеям 1293 г., сведкам якіх ён быў, выпісваў супольныя паходы "русінаў, літвінаў, татараў" (Russe, Littowe, Tarter) на землі Прускага ордэну як нешта звычайнае. У прыватнасці, ён згадваў, як аб набліжэнні вялікага войска "русінаў, татараў, літвінаў" паведамлялі прускаму ляндмайстру [26]. У студзені 1294 г., падчас паходу войскаў Орды на судамірскую зямлю Польшчы, вялікі князь Віцень з 1800 коннікамі палупіў суседнюю лянчыцкую зямлю і ў бітве пад Траянавам забіў лянчыцкага князя Казіміра [27]. Пад 1295 г. польскія крыніцы зноў адзначалі, што літва і татары почасту наязджаюць на Польшчу [28]. У 1300 г. рускія, літоўскія і ордскія войскі ("Русь ... и с Татары и Литвою") зноў нападалі на Польшчу [29]. У 1302 г. літвіны разам з русінамі і ордскімі загонамі некаторы час дзяржалі Люблін; калі палякі пайшлі на захоп Любліна, яны знайшлі ў замку "русь, літву, татараў" [30]. У 1318 г. літоўскія паслы былі ў Ордзе падчас суда, учыненага ордскім царом Азбякам над цверскім князем Міхайлам Яраславічам [31].



*Нямецкі рыцар гоніць ордскага стральца (мініятура з Codex Manesse, пач. 14 ст.)*

Паводле літоўскіх летапісаў, у бітве войска ВКЛ з крыжакамі на Зяміле ў 1319 г. бралі ўчасць ордскія войскі ("татары"). Паводле М. Стрыйкоўскага, які карыстаўся многімі неацалелымі літоўскімі летапісамі, ордскі полк месціўся на чале літоўскага войска, а кіраваў ордскімі ваярамі ў бітве сам Гедымін. Па перамозе ў бітве літоўска-ордскія войскі Гедыміна ўваліліся ў Прусы і захапілі шмат крыжацкіх замкаў, у тым ліку Тыльзыт і Рагнету [32]. У 1319 г. гнезненскі архібіскуп пісаў папежу Яну XXII, што супольныя паходы Орды і Літвы на Польшчу маюць на мэце прымусіць палякаў "пакінуць святло праўдзівае веры, праз хлусню на Збаўцу" [33], – такім чынам, відавочна, знітоўваючы літоўска-ордскія паходы на Польшчу з пагрозаю літоўскае веры для польскага каталіцтва.

Згодна з рускімі крыніцамі, у пачатку 14 стагоддзя на Валыні гаспадарыў ордскі царэвіч Бердыч (сын ордскага цара Азбяка), які жыў у заснаваным ім замку Бердычаве, славіўся гасціннасцю, быў прыязны да хрысціянства, меў пры сваім двару і хрысціянскіх манахаў, і суфійскіх дэрвішаў. Бердыч жыў у згодзе з Гедымінам, пасылаў яму шчодрыя даравізны, а Гедымін дасылаў Бердычу прыгожых кабцоў для ловаў, а таксама палоненых дзяўчын, вывезеных з Польшчы і Мазоўшы; за адну такую харашуню Бердыч даслаў Гедыміну ў помач цэлы ордскі полк [34].

Калі ў лістападзе 1324 г. Вільню наведвалі легаты папежа Яна XXII, ім аднойчы было адмоўлена ў сустрэчы з Гедымінам, бо ён быў заняты з пасламі Орды (nam cum tartaris erat impeditus) [35]. Ордскія войскі цара Азбяка разам з войскамі вялікага князя Гедыміна ваявалі проці польска-вугорскіх войскаў у 1325 г., дзякуючы чаму Гедымін замацаваў сваю ўладу над Валынню [36]. У 1325 г. папеж Ян XXII заклікаў польскага караля "дзеля абароны каталіцкае веры" змагацца проці "няверных" татараў і схізматыкаў, якія нападалі на Польшчу [37]. Разгледжанне падзей 1322–1325 гг., калі пад уладу Літвы перайшлі Валынскае і Кіеўскае княствы, паказуе, што гэта магло адбыцца адно за згодаю ўлад Орды. Таму ў Кіеве пачалі гаспадарыць разам літоўскі князь і ордскі баскак (гл. ніжэй). Пад 1325 г. літоўскія летапісы апавядалі аб пасольстве ордскага цара да Гедыміна для абмеркавання даніны з рускіх зямель; падчас гэтага пасольства ў Вільні адбылося спаборніцтва ў дужанні між ордскімі і літоўскімі асілкамі: перамог літоўскі асілак Барэйка, якому Гедымін за гэта надаў Слонім з сёламі [38].



*Замак у Лідзе, збудаваны вялікім князем Гедымінам у 1320-х гадох.*
*У Лідскім замку жыў ордскі цар Тактамыш (у 1396 г.), цар Ачжы-Гірэй (у 1433 г.).*

Гіём дэ Машо, сакратар чэскага караля Яна Люксембургскага, які спадарожнічаў Яну ў яго крыжовай выправе на Літву ў 1329 г., у сваіх нататках запісаў, што Літва падпарадкавана Ордзе ("…de Tartarie a qui Letoe est tributaire") [39]. У 1330 г. польскі кароль Валадыслаў скардзіўся папежу Яну XXII на ўставічныя супольныя напады татараў і літвінаў ды прасіў папежа абвясціць крыжовую выправу проці Орды і Літвы; папеж загадаў уставіць два новыя святы ў Кракаве, увесну і ўвосень, падаткі з якіх мусілі ісці на абарону Польшчы ад татараў і літвінаў [40].

У 1331 г. у Кіеве гаспадарылі разам літоўскі праваслаўны князь Фёдар (брат вялікага князя Гедыміна) і ордскі баскак. Калі навагародскі архібіскуп Васіль адмовіўся ад прапановы Гедыміна паставіць біскупам у Пскове літоўскага кандыдата Арсенія, Гедымін загадаў захапіць Васіля і пусціў у пагоню за ім загон у "300 литвы"; пад Чарнігавам Васіля схапіў загон на чале з кіеўскім князем Фёдарам і ордскім баскаком ("со баскаком") [41].

У 1337 г. адбыўся чарговы паход Орды разам з рускімі войскамі на Люблінскую зямлю Польшчы [42]. У 1339 г. папеж Бенедыкт XII даручыў польскаму каралю Казіміру і польскім біскупам абвясціць крыжовы паход проці "татараў" і "іншых няверных" суседзяў Польшчы [43]. Улетку 1340 г. войскі вялікага князя Гедыміна разам з войскамі ордскага цара Азбяка і рускіх князёў уваліліся ў Польшчу, Прусы і Ліфлянты, што вымусіла вялікага

майстра Тэўтонскага ордэну паехаць па заходнееўрапейскіх дварох з скаргамі на супольны напад Орды і Літвы [44].



*Ордскі цар Азбяк на стальцу (Аблічны звод 16 ст.)*

У 1342 г., пасля закалоту ў Вільні, у Орду з'ехаў князь Нарымонт (паводле рускіх крыніц, ён ажаніўся з ордскаю царэўнаю, дачкою цара Такты і бізантыйскае царэўны Марыі, дачкі цэсара Андроніка II) [45]. У 1343 г., пасля ордска-руска-літоўскага паходу на Польшчу, маркграф Брандэнбурскагі Людвік заклікаў Тэўтонскі ордэн рушыць проці "няверных крэсту" (infideles Crucifixi) сарацынаў і русінаў (infideles, Sarracenes videlicet et Rutheni) [46]. У 1349 г. вялікі князь Альгерд выправіў да цара Орды Чанібека пасольства на чале з наваградскім князем Міхайлам-Карыятам: "просил рати у царя себе в помочь" [47]. Паводле польскіх крыніц, у 1349 г. татары, дасланыя Альгердам, ваявалі польскія землі [48]. Паводле літоўскага татарына 16 ст., аўтара твору "Рысале татары лех" ("Гісторыя польскіх татараў"), у часы цара Чанібека (1342–1357 гг.) некаторыя татары, што бралі ўчасць у паходах на Польшчу, засталіся жыць у Літве [49].

У 1351 і 1352 гг. ордскія загоны, закліканыя ў помач Альгердам, ваявалі разам з літвою проці палякаў [50]. У 1351 г. польскі кароль Казімір пісаў папежу, што татары ўклалі звяз з літвінамі, каб ваяваць проці Польшчы [51]. У 1352 г. папеж Клімент VI на просьбу польскага караля абвясціў у Польшчы, Чэхіі і Вуграх крыжовы паход дзеля абароны Польшчы ад літвінаў і татараў [52]. Я. Длугаш пад 1352 г. пісаў, што татары, пабухтораныя Альгердам, рушылі проці палякаў, жадаючы заваяваць Львоўскую зямлю [53]. У сакавіку 1352 г. адбылася выправа вялікага князя Альгерда разам з ордскімі пасілкамі на Кракаў [54]. У дамове з польскім каралём Казімірам 1352 г. князі Яўнут, Кейстут і Любарт ад імя вялікага князя Альгерда пацвярджалі, што знаходзяцца ў ваенным звязе з Ордаю проці Польшчы: "А поидеть ли царь на ляхи, а любо князи темнии, князем литовьскым помагати" (гл. дад. №15).

У 1354 г. польскі кароль пісаў папежу Інацэнту VI, што літвіны і татары на працягу трох гадоў злучанымі сіламі ваююць на Польскае каралеўства, жадаючы знішчыць "прававерных хрысціянаў"; папеж даручыў польскім біскупам абвясціць крыжовы паход проці літвінаў і татараў [55]. У 1355 г. польскі кароль Казімір пісаў папежу, што "няверныя татары і літвіны" (infidelium Tartarorum et Lutwanorum gentes), "ворагі хрысціянскае веры" (hostes fidei christiane) шмат гадоў разбураюць Польскае каралеўства [56]. Неўзабаве польскі кароль быў вымушаны згадзіцца плаціць даніну Ордзе, дзеля чаго яго дакараў папеж [57]. У 1359 г. кракаўскі біскуп Бадзанта пісаў, што ўсходнія землі Польшчы былі разбураны супольнымі паходамі літвінаў і татараў [58].

У 1362 г. войскі вялікага князя Альгерда разбілі войскі трох ордскіх салтанаў (князёў) на Падоллі – Кутлубука, Качыбея і Дзмітрыя – і авалодалі іхнімі землямі [59]. Гэты паход быў знітаваны з нутраным змаганнем розных кааліцый унутры Орды, у якім Альгерд выступіў у якасці супольніка будучага фактычнага гаспадара Орды Мамая [60]. Рускія крыніцы называюць Альгерда "прысяжнікам" (т.б. супольнікам па дамове) Мамая [61].

У заходніх крыніцах "Татарыяй" у 14 стагоддзі часам называліся землі Літвы і Русі. Гэтак, для вуграў у 1354 г. "Татарыя" пачыналася адразу за Бугам, на ўсход ад вугорскае мяжы (in Tatariam ultra Bogum) [62]. Англійскі паэта Джон Гаўэр у канцу 14 ст. пісаў, што сапраўдны англійскі рыцар мусіў выпраўляцца ў паходы "...часам у Прусы, ... часам у Татарыю" (Sometime in Prus … And sometime into Tartarie) [63]. Як вядома, англійскія рыцары на працягу 13–14 ст. у сваіх паходах не дасягалі зямель Орды, затое бралі ўчасць у паходах на Вялікае княства Літоўскае: у 1329 г. (на Жамойць), у 1362 г. (на Коўню), у

1390 г. (на Вільню), у 1391 г. (на Горадню і Наваградак) [64]. Такім парадкам, “Татарыяй” (у якасці краю “няверных”, падпарадкаваных Ордзе) у заходніх крыніцах у 14 стагоддзі маглі называцца землі Літвы і Русі.

У закліках папскае курыі да крыжовых паходаў літвіны і татары почасту пералічаны побач як “ворагі веры”. У 1343 г. папеж Клімент VI заклікаў польскага караля Казіміра змагацца процi “язычнікаў і няверных: татараў, русінаў і літвінаў, ворагаў хрысціянскай веры” (pagani et infideles, videlicet Tartari, Rutheni et Litfani, hostes fidei christiane) [65]. У 1363 г. папеж Урбан V патрабаваў ад польскага караля ваяваць “процi літвінаў, татараў і іншых няверных і схізматыкаў” (contra Litwanos, Tartaros et alios infideles ac scismaticos) [66].

Вядома, што ордскія паслы часам ехалі ў паўночна-ўсходнюю Русь праз Літву і, сваім парадкам, усходнерускія князі часам ехалі праз Літву ў Орду. Гэтак, у 1365 г. з Літвы ў Цвер прыехаў Ільяс-бей, сын крымскага намесніка Кутлубугі: “Тое же зимы еда из Литвы к весне Ильяс Коутлубузин сын был во Тфери” [67]. У 1358 г. “князь Феодор Александрович Холмский … поиде во Орду из Литвы” [68]. У тым жа годзе “князь Всеволод поиде в Орду из Литвы” [69]. У 1370 г. цверскі князь Міхайла Аляксандравіч выправіўся з Літвы ў Орду за ярлыком на вялікае княжанне, папярэдне параіўшыся з вялікім князем Альгердам (“...из Литвы поиде в Орду, прииде к Мамаю” [70].



*Манеты князя Валадзімера Альгердавіча і вялікага князя Ягайлы з ордскім арнаментам-пляцёнкаю*

Ордскія пасілкі былі ў войску Вялікага княства Літоўскага і ў знакамітай бітве ля Рудавы ў 1370 г. падчас выправы войска ВКЛ на Кёнігсберг [71]. У мірнай дамове з маскоўскім вялікім князем у 1372 г. вялікі князь Альгерд і князь Кейстут пацвярджалі, што літоўскія князі, як і маскоўскія, прыслухаюць найвышшай уладзе цара Орды: “А что пошли в Орду ко царю люди <...>, а то есмы в божьи воли и во цареве, как повелить, так ны деяти, а то от нас не в измену” [72] (гл. дад. №22). “Татары” (паводле аповеду каталіцкіх крыніц) знішчылі ў траўні 1374 г. кляштар польскіх францысканаў у Вільні і выгналі манахаў; прытым, падбухторылі “татараў” на гэта, паводле аповеду крыніцы, самі віленскія месцічы [73]. Калі ў 1380 г. сталец Вялікае Орды заняў Тактамыш, ён і вялікі князь Ягайла абмяняліся пасольствамі [74].

У 1500 г. вялікі князь літоўскі Аляксандр пісаў ордскаму цару Мяндлі-Гірэю, згадуючы аб звязе Літвы і Орды за часу вялікага князя Альгерда: “...Господине царю, царь вольный! Ведаеш твоя милость сам, штож предкове твои, первыи цари, з давних часов были с предки господаря нашого, з великими князи Литовскими, почон от великого царя Тактамыша и от великого князя Олкгирда, в братстве и в прыязни и в правде твердой, и как теж были отец твой Ачжы-Кгирей царь з отцом господаря нашого, с королем его милостью, в каком братстве и в прыязни; а предкове твои, первыи цари, ни с ким иным братства и прыязни не мели, только з великими князи Литовскими” [75].

Ухіленне расейскае гістарыяграфіі ад разгледжання гістарычнага матэрыялу, які кажа аб шчыльным ваенна-палітычным звязе Літвы і Орды на працягу 13–14 ст., будзе зразумелым, калі ўлічыць, што ёсць нямала звестак аб супольных дзеяннях Літвы і Орды процi ўсходнерускіх княстваў. Мы не будзем зараз разглядаць усе такія звесткі (у тым ліку мы адмыслова не закраналі такую тэму, як Кулікоўская бітва – хаця і рускія крыніцы, і замежныя хронікі наўпрост сведчаць аб удзеле літоўскага войска вялікага князя Ягайлы на баку татараў у гэтай бітве). Згадаем тут для прыкладу адно супольны ордска-літоўскі паход на Кашын (на Цвершчыне) увосень 1375 г., які быў спрычынены змаганнем між Масквою і Літвою за ўплыў у Цверскім княстве. Цверычы чакалі падмогі ад Літвы і Орды (“надеялися

помочи от литвы и от татар” [76]), якая неўзабаве падыйшла: вялікі князь Альгерд з вялікім войскам “всю землю Смоленскую повоева и поплени, а люди в полон поведе”, а ордскія войскі разрабавалі Кашын і адыйшлі праз Навасіль. І літвіны, і ордскія войскі закідалі жыхаром Смаленшчыны і Навасіля ваенныя дзеянні проці Цверы [77]. Учасць літоўскіх войскаў у захопе Кашыну падчас гэтага паходу пацвярджаецца звесткамі з ліста мітрапаліта Кіпрыяна да Сергія Раданежскага з 23 чэрвеня 1378 г., у якім Кіпрыян пісаў пра сваё наведванне Наваградка ды іншых літоўскіх гарадоў і, між іншым, адзначыў: “...Кашинцев нашел есмь в Литви два года в погребе седящих и княгини деля великой вынял есмь их како мога, клячи под них подал есмь и отпустил их есмь зятю ея, князю кашиньскому” [78]. Такім чынам, гэтыя звесткі пацвярджаюць, што тыя кашынцы, пра якіх пісаў Кіпрыян, былі палонены літоўскім войскам увосень 1375 г., то бо ў часе вышменаванага ордска-літоўскага паходу на Кашын.



*Ордскі напад на Кашын у 1375 г. (мініятура з Аблічнага зводу 16 ст.)*

Ва ўсходнерускім фальклёру захавалася нямала звестак, якія не толькі кажуць аб супольных дзеяннях Літвы і Орды, але і атаесамляюць “літву” і “татараў”. Усходнерускія быліны пачасту выпісуюць літоўскі наезд гэтак: “...И наехала проклята погана литва, одолели тут поганые татарове” [79]. Пляменнікі “літоўскага караля”, якія цягнуць у выправу на Маскву, названы ў былінах татарамі: “Два тыих любимыих племянничка, два тыих поганых татарина”. Падыйшоўшы пад Маскву, пляменнікі літоўскага караля “...стали тут татара опочив держать <...>: а поедем-ка мы братцы в каменну Москву <...>; розорили тут они да каменну Москву”. У шэрагу былін пра “праклятую літву” герой б’ецца з татарамі: калі герой напаў на літву, “испугались татары все поганые” [80]. Паводле былін, войска “поганого царя”, які ваяваў валадзімера-суздальскія гарады, складала “поганая литва” або “литва поганая собаки царя Калины” [81]. Таксама “поганый царь” ідзе на валадзімера-суздальскія гарады з “земли Литовской”; у войску цара – “пановья-улановья” ды “мурзы-татаровья”; войска цара названа “проклятой литвой” ды “татарами погаными” [82]. Некаторыя быліны мянуюць ордскага цара “царь в Орде, король в Литве” [83].

У заходнееўрапейскіх крыніцах атаесамленне літвінаў з татарамі мае месца і ў 15 стагоддзі. Энэй Сільвій Пікаламіні (пазней папеж рымскі Пій II), які склаў сваю працу аб Літве (“De Lituania”) у 1440-х гадох, менаваў “татарынам” самаго вялікага князя Ягайлу да яго каталіцкага хросту ў 1386 г.: “…natione Tartarus infidelis, nam gentilis erat” (“...ён быў нацыі татарскае, няверны, дыкжэ ён быў нам іншаверцам”) [84]. Такім чынам, відаць, што ў часы Ягайлы, як і раней, лацінскі тэрмін “tartari” ў каталіцкіх крыніцах выступаў у якасці мянушкі рэлігійнага характару, пад якой былі задзіночаны і літвіны, і жыхары Орды, – то бо гэта была грэблівая мянушка, ужываная папскай курыяй для проціпастаўлення католікам іхніх рэлігійных праціўнікаў паводле нейкае адметнае прыкметы. Напрыклад, у 1303 г. ліфлянцкія крыжакі пісалі, што яны ваююць проці “літвінаў-сарацынаў” (cum Lituinis Sarracenis) [85]. “Сарацынамі” (т.б. мусульманамі) менавалі літвінаў розныя крыжацкія дзеячы канца 14 – пачатку 15 стагоддзя [86]. Наўпростае пацверджанне блізкасці рэлігійных дагматаў літвінаў і татараў ёсць у лісце маршалка гаспадарскага Станька Судзівоевіча да папежа з 1469 г., у якім пан Станько вызнаваў, што надовечы перайшоў у каталіцкую веру з “татарскага язычніцкага абраду” (ritum antea Tartarorum et paganorum), які працягвалі вызнаваць некаторыя жыхары ў ваколіцах Дзявілтава [87]. Супольным пунктам, які задзіночваў богумільства і мусульманскую метафізіку, быў аказіяналізм (навука, якая абвяшчала адзінаю дзейнаю прычынаю ў створаным свеце Боскую незаслужаную міласць і

адмаўляла сапраўднасць натуральных прычынна-выніковых сувязей). Гэты супольны для богумілаў і мусульманаў рэлігійны дагмат (чыста процілеглы тамісцкаму натуралізму) і мог спрычыніць менаванне католікамі разам літвінаў і жыхароў Орды мянушкамі "татараў" і "сарацынаў". Гэты рэлігійны дагмат мог таксама спрычыніць збліжэнне літвы з францысканамі (гл. артыкул "Крэўская рэлігійная рэформа...") і чэскімі гусітамі (гл. ніжэй).

* * *

Вялікія князі Ягайла і Вітаўт і пасля наваранчэння на каталіцтва працягвалі падтрымваць звыклыя прыязныя зносіны з Ордаю. Ордскі цар Тактамыш у сваім ярлыку Ягайлу ў 1393 г. пісаў: "А и еще што было межи нас как здавна, гостем путь чист, и вашим и нашим торговцем, без приим без пакости, всякому человеку, и чорным людем промъсл, на то все послали есмо, сий наш ярлык, и с нашею печатью золотою, абы то крепко было. <...> Как отец наш как отцы ваши были за одно, послы сылали межи собою, а мы такоже хочем с вами быти. Аже будеть вам надобе помочь на кого на ворога вашего, яз сам есмь готов за того тобе на помочь всею моею силою, а толко весть нам дайте. А коли пак потом коли нам бы надобе, вы нам таковы же будете" [88] (гл. дад. №34).



*Аблога царом Тактамышам Масквы ў 1382 г.*
*(Аблічны звод 16 ст.)*

Калі ў 1395 г. цар Тактамыш пакінуў сталец Орды, ён прыехаў да двара вялікага князя Вітаўта, які пасяліў яго ў Лідзе [89]. У 1397 г. Вітаўт правёў паход на Орду, каб падтрымаць Тактамыша. Падчас гэтага паходу многія татары сыйшлі ў Літву разам з Вітаўтам, які пасяліў іх на рацэ Вацы ля Трокаў, раздаўшы ім вёскі, вызваліўшы ад падаткаў і забавязаўшы служыць адно ваеннай службай. У 16 стагоддзі нашчадкі гэтых служылых татараў сведчылі, што іхнія продкі самахотна прыйшлі ў помач Вітаўту проці прускіх крыжакоў [90]. Як вядома, літоўскія князі Глінскія вялі свой радавод ад княжыча Лексы, сына ордскага князя Мансур-Кіята, які пасяліўся ў Літве каля 1380 г. [91]. У 1405 г. каталіцкія клерыкі вінавацілі тураўскага біскупа Антонія ў тым, што ён быццам пісаў пасланні да ордскага цара Шадыбека, клічучы яго прыйсці на Кіеў і Валынь [92].

І. Галоніфонтыбус каля 1404 г. пісаў: "Некаторыя часткі Русі раней вымушаны былі даваць даніну і ваяроў вялікаму цэсару татараў. Цяпер яны чыняць гэта гаспадару Вітаўту або каралю Польшчы" [93]. У 1506 г. ордскі цар Мяндлі-Гірэй нагадваў вялікаму князю літоўскаму Аляксандру аб звязах Орды і Літвы за часу Вітаўта: "Цара Менди-Кгиреево слово то ест брату моему Литовского князства князю бискупу и паном. Наши отцы цари, предок наш царь Токтамыш с великим князем Витовтом присяжные братья и приятели были великии. Царь Токтамыш дал великому князю Витовту Киев и Смольнеск и иншые городы. И предок наш царь Токтамыш на все то дал ярлыки свои" [94].

У 1399 г. вялікі князь Вітаўт спрабаваў пасадзіць Тактамыша на сталец Орды, але пацярпеў буйную паразу ад войскаў эміра Эдыгея ў бітве на Ворскле. У 1409 г. да Вітаўта з сваім войскам прыбыў старэйшы сын Тактамыша царэвіч Джэлаладдын. Вітаўт запрасіў яго да супольных дзеянняў проці Тэўтонскага ордэну, а яго вояроў рассяліў ля Горадні [95]. Шматтысячны загон Джэлаладдына біўся на літоўскім баку на Грунвальцкім полі ў 1410 г.: ён першым рушыў у бітву.

Паводле нарысаў літоўскіх летапісаў, Вітаўт прыйшоў на Грунвальцкую бітву з "двома ордами заволскими, которых рок целый коштом своим ховал"; у бітве проці Ордэну рушыла "литва з татарами" або "татаре з литвою" – татары выяўлены як найважнейшыя ўчаснікі бітвы, нароўні з літвою [96]. У нарысе Энэя Сільвія (1440-я гады) Грунвальцкая

бітва таксама выпісана як бітва “татараў і літвінаў” (Tartaris ac Lituanis) з Тэўтонскім ордэнам, прычым татары выяўлены як галоўныя яе ўчаснікі [97]. Паводле некаторых звестак, самаго вялікага майстра Тэўтонскага ордэну Ульрыка фон Юнгінгена ў бітве забіў татарын.



*Вырочны момант Грунвальцкае бітвы:*
*атака літвы і татараў на левы фланг крыжакоў*
*(нямецкая мініятура 15 ст.)*

У Грунвальцкай бітве на баку Літвы біліся чэскія гусіты на чале з славутым ваяводам Янам Жыжкам. Калі ў Чэхіі распачаліся гусіцкія войны (1418 г.), Жыжка стаў на чале гусітаў. Гусітаў адразу падтрымала Літва: у 1418 г. у Чэхію паехалі князі Жыгімонт Карыбутавіч і Фёдар Астрозскі. У 1420 г. гусіты прапаноўвалі карону Чэскага каралеўства Ягайлу, а ў 1421 г. – Вітаўту, які зноў даслаў у Чэхію князя Жыгімонта Карыбутавіча з 5-тысячным войскам, якое разам з гусітамі разбіла чатыры крыжовых паходы цэсарскіх войскаў.

У 1410 г. заходнееўрапейскія гаспадары адразу ўжылі для менавання небяспечнага для іх звязу Літвы, Орды і гусітаў стары тэрмін “tartari”: зараз па Грунвальцкай бітве збянтэжаны літоўскаю перамогаю чэскі кароль Вацлаў заклікаў чэхаў гатавацца да адпору ад “татараў” і “іхніх супольнікаў”, “няверных”, якія маглі ўваліцца ў Чэхію па перамозе над Тэўтонскім ордэнам [98] (тэрміналогія, як бачым, у пачатку 15 стагоддзя ўжывалася ў дакладнасці такая ж, як у 13 стагоддзі). Калі ўвесну 1422 г. у Прагу, занятую гусітамі, прыехаў князь Жыгімонт Карыбутавіч з літоўскім войскам, нямецкаму цэсару Жыгімонту паведамлялі аб уваленні ў Чэхію “татараў” [99]. Нават кароль Валадыслаў-Ягайла, калі вёў у 1424 г. з Тэўтонскім ордэнам і нямецкім цэсарам перамовы аб лёсе гусіцкага руху ў Чэхіі, менаваў князя Жыгімонта Карыбутавіча “татарынам” [100]. Гэта пацвярджае нашыя вышпісаныя заўвагі аб тым, што ў пачатку 15 ст. (як і ў 13–14 ст.) лацінскі тэрмін “tartari” быў абразлівай мянушкай, якой каталікі менавалі вызнаўцаў аказіяналізму – сваіх галоўных рэлігійных праціўнікаў, да ліку якіх належалі мусульмане і богумілы.

Можна прасачыць сувязь тэалагічных ідэй гусітаў і богумільства. Ідэі Яна Гуса былі натхнёны працамі англійскага тэолага-аўгустынца Джона Вікліфа, які заложна абараняў традыцыйныя аўгустынісцкія дагматы суверэнітэту і аказіяналізму Боскае волі (якія гралі галоўную ролю ў богумільскай метафізіцы, а пазней сталіся цэнтральнымі ў пратэстанцкім

богаслоўі 16 стагоддзя). У сваіх творах Вікліф таксама даводзіў ідэі атамізму і ілюзійнасці пачуццёвага ўспрымання руху – то бо тыя пункты, якія былі галоўнымі як для хрысціянскіх, так і для мусульманскіх аказіяналістых [101]. Ян Гус таксама стаяў на пазіцыях аказіяналізму: пасля яго выгнання з Празскага ўніверсітэту царкоўныя ўлады забаранілі ў школьнай адукацыі шэраг аказіяналісцкіх пунктаў Вікліфа і Гуса [102]. Дарэчы, гусітаў папская курыя менавала гэтаксама, як раней літвінаў: “ворагамі каталіцкай веры” і “ворагамі справы Хрыстовай” [103].



*Уезд князя Жыгімонта Карыбутавіча ў Прагу (мініятура з “Гісторыі гусіцкіх войн”, 1443 г.)*

Аб прыязні гусітаў да старой (дакрэўскай) літоўскай веры сведчаць звесткі аб вандроўцы ў Літву найбліжшага паплечніка Гуса – Ераніма Празскага, які ўвесну 1413 г. у почце вялікага князя Вітаўта наведаў Полацк, Віцебск, Вільню і Горадню. Сам Еранім пазней казаў, што Ягайла і Вітаўт запрасілі яго ў Літву, каб параіцца аб некаторых рэлігійных пытаннях [104]. З пратаколаў допытаў Ераніма на Канстанцкім збору вядома, што ў 1413 г. Еранім у Віцебску ды іншых гарадох ВКЛ зносіўся не адно з “рускімі схізматыкамі” (Rutheni schismatici, Rutheni), але і з “нявернымі схізматыкамі” або “нявернымі” (infideli schismatici, infidelium gentium, infidelium populorum). Еранім ухваляў веру гэтых “няверных”, называў яе сапраўдным хрысціянствам ды пераконваў вялікага князя Вітаўта трымацца яе [105] (падрабязней гл. у артыкуле “Крэўская рэлігійная рэформа...”).

Многія чэскія паны-гусіты служылі ў войску Ягайлы і Вітаўта яшчэ з часу Грунвальцкае бітвы 1410 г. Гэтак, чэхі змагаліся ў польска-літоўскім войску падчас вайны з Тэўтонскім ордэнам у 1414 г. [106]. Сам Ян Гус ліставаўся з Ягайлам, абмяркоўваў з ім праблемы сіманіі. Польскія паслы на Канстанцкім збору ў 1415 г. учыняліся за Гуса, наведвалі яго ў вязніцы [107]. У войску гусітаў змагаліся польскія загоны на чале з канцлерам каралеўства Янам, падкаморым кракаўскім Пятром і іншымі шляхцічамі. Дзеля абароны гусітаў немцы самаго Ягайлу менавалі гусітам [108]. Вялікі князь Вітаўт пасылаў да гусітаў свайго пасла Вышка Рачынскага, князёў Фёдара і Вячаслава Астрозскіх, іншых баяраў [109]. Вядома, што ў 1417 г. у Горадні адзін чэскі шляхціч-гусіт перад аблічнасцю дваранаў Вітаўта менаваў Гуса святым і ганіў Канстанцкі збор [110].

У 1420 г. гусіцкія паслы, прапануючы Ягайлу чэскую карону, звярталіся да яго як да гаспадара, “ад нараджэння прыхільнага” да славянскай мовы [111]. Пасля таго як у верасні 1421 г. гусіты абралі сваім каралём Вітаўта, князь Жыгімонт Карыбутавіч прыбыў у Прагу ў якасці намесніка Вітаўта і заявіў паслом нямецкага цэсара, што Ягайла і Вітаўт будуць абараняць чэхаў як “сваіх падданых і свой народ” [112]. Жыгімонт Карыбутавіч сябраваў з водцам гусітаў Янам Жыжкам – менаваў яго бацькам, а Жыжка менаваў Жыгімонта Карыбутавіча сваім сынам [113]. Дасланыя вялікім князем Вітаўтам літоўскія войскі памаглі гусітам адбіць крыжовыя паходы проці іх, а Жыгімонт Карыбутавіч па смерці Яна Жыжкі (1424 г.) стаўся галоўным ваяводам гусіцкага войска і выбраным каралём гусітаў. Пазней гусітаў падтрымвалі кароль Казімір Ягайлавіч і караліца Соф’я Гальшанская. Гусіты вольна дзейнічалі ў Вялікім княстве Літоўскім на працягу ўсяго 15 стагоддзя. Зносіны з гусітамі паўплывалі на развіццё права і літаратуры Літвы: у літоўскім праве былі запазычаны некаторыя чэскія нормы (гл. артыкул “Літоўскае права...”), дзякуючы гусітам у

15 ст. з’явіліся літоўскія пераклады такіх літаратурных твораў, як “Люцыдар”, “Песнь Песень”, “Сказанье о Смерти некоего мистра великого” (гл. ч. II).

*   *   *

У 1412 г. царэвіч Джэлаладдын праз помач войскаў вялікага князя Вітаўта апанаваў сталец Орды. Калі эмір Эдыгей забіў Джэлаладдына і пасадзіў на сталец свайго пастаўленіка Керым-берды, Вітаўт у 1413 г. каранаваў у Вільні царом Орды сына Тактамыша Бетсуб-улана, які разам з войскамі Вітаўта ваяваў на прускіх крыжакоў, а ў 1414 г. спрабаваў захапіць ордскі сталец. У 1416 г. Вітаўт каранаваў у Вільні яшчэ аднаго сына Тактамыша Ерэмфердэка, які здолеў апанаваць сталец Орды [114]. Літоўскі летапіс апавядае пра гэтыя падзеі:

“Витолт своею делностю и мензством всему свету славным был и цары татарские его слухали и без его воли орд нигде не ордыновали, а гды царь Зеледин заволский умер, с которым Витолт братерство мел, и з ордами своими на Прусы ходил, Керембердек, сын его, осел, а столец отцевский, хотячы шаблею от Витолта отбити, чого Витолт не стерпел, почал готоватися з войском, хотячы Керембердека з панства зсадити, Токтамыша Бедзбула в Вилни короновал, яко заволских татар звычай потребовал, убравшы его в злотоглав, шлык на него зложыл перловый, мовячы, иж Тактомыш царь заволский новый. <...> Наостаток Керембердек Токтомыша звитяжыл. А гды то учув Витолт, зараз Еремфердека, рожоного брата Токтомышовага, котрый утекл з той битвы, знову короновал в Вилни на царство, убравшы в золотоглав, и шапку перловую взложыл на него, и дал ему в руки шаблю. И так з мурзами и уланами и маршалка своего литовского Радивила з ним до орды послал з войском. <...> И так Еремфердек выиграл и царство опановал, а самого Керембердека, поимавшы, замордовал, а Витолтови през Радивила прысягл завше на потребу его зо всеми татарами служыти, и послал ему дары великие. Того ж року и Едыга, царь перекопский, славный, Витолтови прысяг верность, и помочь давати на непрыятеля его, быле бы толко от Литвы з своим царством был безпечный” [115].

Калі французскі дыпламат Гільбер дэ Лануа ў 1421 г. наведваў вялікага князя Вітаўта ў Камянцу, Вітаўт падарыў яму татарскі лук і калчан, баяры Вітаўта падарылі татарскія нажы, а вялікая княгіня Юльянія падарыла яму “вялікі татарскі фларын” (залатую манету), “каб насіць, – піша дэ Лануа, – на шыі як знак яе двара” [116] (гл. дадаткі).

За часу Вітаўта існавалі пасяленні служылых татараў ля Трокаў, Горадні, Менска. Вядома, што ў 1428 г. татары з ваколіцаў Менска віншавалі Вітаўта і дарылі яму коні і зброю [117]. Каля 1420 году ордскія вяльможы ад’язджалі на службу ў Літву ў такіх лічбах, што цар Эдыгей прасіў вялікага князя Вітаўта не прыймаць да сябе мурз-князёў з Орды [118]. У 1424 г. будучы цар Орды Улу-Мухамед атрымаў помач Вітаўта падчас змагання за ордскі сталец. Дзякуючы падтрымцы Вітаўта Улу-Мухамед задзіночыў пад сваёй уладай землі між Волгай і Дняпром, Астрахань і Крым. У пачатку 1420-х гадоў на ўзбярэжжы Чорнага мора з’явіліся літоўскія цвержы [119].



*Цар Джэлаладдын на стальцу (Аблічны звод 16 ст.)*

“Похвала о великом князи Витовте” гэтак апавядае аб зносінах вялікага князя Вітаўта з Ордаю: “Царь Ордынский и князи Ордынские прыежчали к великому князю на службу, и просячы собе царя на царство; много было Ордынских царей и князей, што в дворе его служыли. И напервей дал им царя до Орды, царя Солтана. Тот царь был на царстве и не смел николи противитися сильному господару,

и оставившы царство, и князи Ордынские послали послы свои до славного господаря, просячы собе иного царя. Он дал им иного царя, малого Солтана. Тот малый Солтан сел на царство и не смел николи ослухатися сильного господаря, где коли ему князь великий Витовт велить кочовати, там кочуеть. По малом часу великие князи Ордынские, не смеючы розгневати славного господаря великого князя Витовта, и не полюбился им тот царь, и они иншого царя просили собе у славного господаря, и он им дасть царя Давлад-Бердея. Тому ж Давлад-Бердею немного царьствовавшы на царстве и умреть, а князь великий Витовт в тот час был в Киеве. И прышли к нему цары Ордынские со многими дары многоценными, просили собе иного царя; он им дал иного царя именем Махмета" [120].

Мусульмане Вялікага княства Літоўскага і Орды доўгі час шанавалі вялікага князя Вітаўта за яго прыязнь да ісламу: у 1558 г. адзін літоўскі мусульманін пісаў турэцкаму салтану Сулейману, што Вітаўт "быў нібыта стаўпом, што падтрымваў іслам у тых землях <...>; памяць аб ім мы захоўваем дагэтуль і штогод адзін дзень прысвячаем памяці гэтага князя; у гэты дзень мусульмане збіраюцца ў мячэтах і імя яго памінаюць з вялікаю пашанаю" [121].

Сын ордскага цара Тактамыша Дулатберды "жил в Литве у Витофта", а сын Дулатберды Ачжы-Гірэй (цар Перакопскае Орды ад 1434 г.) нарадзіўся ля Трокаў. У 1433 г., у часе закалоту ў Крыму, Ачжы-Гірэй прыехаў у Літву да вялікага князя Жыгімонта, і "князь велики Жыгимонт дал ему Лиду", а потым памог яму апанаваць крымскі сталец. Аб гэтым сведчыў пазней вялікі князь Жыгімонт Стары ў сваім лісце ордскаму цару Саадэт-Гірэю: "Яко ж было то в недавных часех за дяди нашого, великого князя Жыкгимонта, иж Ачжы-Кгирей царь Орды Перекопское также в нещастливую прыгоду свою прыехал к великому князству Литовскому, дядя наш ховал его в почтивости, и коли Бог похотел, а час фортуны его прышол, он его в Орде Перекопской вспоможеньем своим, накладом и выправою на царство посадил" [122].

Вялікі князь літоўскі Свідрыгайла ўжываў войскі Орды падчас вайны проці Польшчы, якая распачалася ў 1431 г. дзеля спрэчкі за падольскія землі. Яшчэ ў снежні 1431 г. Свідрыгайла пакладаў перад польскімі панамі выдадзены яму ордскім царом Улу-Мухамедам ярлык на Падолле. Войскі Орды змагаліся на баку Свідрыгайлы ў бітве пад Ашмянай у 1432 г., у ваенных дзеяннях на Падоллі. У снежні 1432 г. цар Улу-Мухамед даслаў у помач вялікаму князю Свідрыгайлу 12-тысячнае войска, а ўвесну наступнага году яшчэ пасілкі на чале з найвышшымі ваяводамі Орды [123]. Свідрыгайла пісаў аб гэтым вялікаму майстру Тэўтонскага ордэну Русдарфу [124] (гл. дад. №50):

"...Послали есьмо Боярына нашего, на име Михайла Арбанаса, ко Царю Махметю к Орде а после опять перед Великою ночю послали есьмо к Орде ж Пана Ивашка Монивидовича, прося Царя, штобы нам також от себе помогл. <...> Прыказал с тым Михайлом к нам Царь Махмет Ордский, мовя: как есьми взял братерство за одно стояти с тобою с своим братом с Великим Князем Швитрыкгайлом, то так держу полно свое слово, свое докончанье. А послал был есьми сее зимы к тобе брату на помоч своих людей дванатцать тысяч, а с ними многих в головах Уланов Князей <...> а нынечы шлю к своему брату, к тобе к Великому Князю Швитрыкгайлу на помоч сына своего большого Мамутяка Царевича, а правую руку зятя, Князя Ойдара, а другого зятя Князя Елбердея со многими людми; одно брат мой прышлет ко мне человека доброго кому бых тыи свои люди дал на руки, ижбы их довел до моего брата до Великого Князя Швитрыкгайла. <...> А и то прыказал нам с тым Михайлом, и на ярлыце писал на своем: будет тых людей моих мало, а будет самого мене надобе со всими моими людьми, готов есьми к тобе, к своему брату к Великому Князю Швитрыкгайлу, одно где ми увелиш. Так нам прыказал мовить: што его непрыятель, то и мой непрыятель".

На Падоллі дзейнічаў ваявода Свідрыгайлы – князь Федзька Нясвіжскі, аб якім Свідрыгайла пісаў: "татар с ним досыть есть". Улетку 1433 г. князь Федзька выправіўся з Падолля ў паход з 4-тысячным ордскім войскам [125]. Увосень 1432 г. у стане Свідрыгайлы ў Полацку знаходзіўся царэвіч Сэід-Ахмат – будучы цар Перакопскае Орды. Пазней Свідрыгайла пісаў аб Сэід-Ахмаце як аб "пасаджаным намі на сталец" [126]. Сэід-Ахмат пазней пісаў вялікаму князю Казіміру Ягайлавічу [127]:

"Королю брату от многа многа поклон. Ваши и наши предкове добрым делом межи себе радовалися, учасным делом гадывалися, такие братья были промежи себе. <...> А только по

первому братства усхочете, ино и мы вашему приятелю приятели есмо, а неприятелю вашему неприятели есмо”.

У 1448 г., калі з’ехаў у Орду і заявіў аб сваіх спадчынных правох князь Міхайла Жыгімонтавіч, цар Сэід-Ахмат падтрымаў яго і запатрабаваў ад вялікага князя Казіміра вярнуць князю Міхайлу яго вотчыны. У чэрвені 1449 г. Міхайла Жыгімонтавіч з вялікім ордскім войскам захапіў Старадуб і Ноўгарад-Северскі. Але ў тым жа 1449 г. вялікі князь Казімір пасадзіў на сталец Перакопскае Орды свайго пастаўленіка: у жніўні 1449 г. з Ліды ў Крым выехаў Ачжы-Гірэй, разам з маршалкам Радзівілам Остыкавічам, які пасадзіў Ачжы-Гірэя на ордскі сталец [128]. Хроніка Быхаўца гэтак апавядае пра гэтыя падзеі [129]:

“И того году прыедут князи и уланы, и вси мурзы Шырыновские и Багранывские, и от всее Орды Перекопское до великого князя Казимира, просячы и чолом бьючы, абы им цара дал на царство, Ач-Гирея, которы прыехал был з Орды до Литвы ешче за великого князя Жыгимонта, и князь велики Жыгимонт дал ему Лиду. И князь велики Казимир того цара Ач-Гирея з Лиды честовавшы и вдаровавшы и во великой его почестности до Орды Перекопское на царство послал, и послал с ним, садечы его на царство, маршалка земского Радивила. И Радивил отпровадил его в почестности аж до стольца его до Перекопа, и там его Радивил именем великого князя Казимира посадил на царстве Перекопском”.

У 1453 г. ліфлянцкі ляндмайстар пісаў, што літвіны даслалі маршалка Радзівіла ў Орду, каб укласці звяз з татарамі проці Польшчы [130]. У тым жа годзе на Парчаўскім сойме, калі палякі прапанавалі літоўскай дэлегацыі аддаць справу памежных спрэчак Літвы з Польшчай на суд нямецкаму цэсару, літвіны ў адказ запрапанавалі паставіць такім суддзёй цэсара Орды [131].

Цар Ачжы-Гірэй падтрымваў вялікага князя Казіміра ў яго палітычных планах, у прыватнасці, што да Вялікага Ноўгарада. У сваім ярлыку 1461 г. Ачжы-Гірэй пацвярджаў, што Вялікі Ноўгарад належыць да вобласці ўплыву Вялікага княства Літоўскага: “Ачжыкгирея цара слово то есть. <…> Што пред тым брат наш старшы на коню потным до Великого князя Витовта до Литвы в гостину прыезджал, и великую учтивость мел; найпервей Киев дали есмо зо всим, на всим, къ панству Литовскому, брату нашему Великому князеви Казимерови; <…> и Великий Новгород зо всими городы и всими их доходы и пожытками их, з ласки нашей, до панства Литовского подали, и тые замки, которые тут суть написаны; тых замков паны з боярами, как пред тым брату нашему князеви Витовтови, а зараз также брату нашему Жыкгимонтови, будуть служыть и брату нашему князеви Казимерови” [132] (гл. дад. №59).

У 1480 г. вялікі князь Казімір пісаў ордскаму цару Мяндлі-Гірэю: “…Какожо здавна бывало за предков нашых а потом и за нас, который коли Царь, або князи и уланове в прыгоду свою прыезджывали до нашое земли, за предков нашых и за нас, тут им в нашой земли отпочынок бывал, а предкове нашы и мы хлеба и соли и жалования не боронивали им до часу, покуль дело свое оправять, чого кому будет надобе. А Боже того не дай, хотя бы и тобе брату нашому которое неверемя прыгодилося, а прыехал бы еси в нашу землю, в Великое Княжство Литовское, а мы быхмо тебе держали во чти и в жаловании нашом, хлеба и соли не боронили и мешкания в нашой земли, покуль бы еси хотел а дела своего довел, какжо и здавна то бывало за предков нашых и за нас” [133].

Ордскі цар Мяндлі-Гірэй у сваёй прысяжнай грамаце каралю і вялікаму князю Казіміру пісаў: “...Я Мендлигирей Царь, Казимира Короля брата моего прыятелю прыятелем мне быть, а непрыятелю непрыятелем, а еще мне Мендлигирею Казимир Король брат коли на своей присязе стояти будет, потом я Мендлигирей Царь Казимира брата моего людем и землям его и водам, коли бы имело што статися, я и Царство покину, а лиха не дам учынить от мене и от братьи мое меньшое, и от сына моего лиха не будеть” [134].

Вялікі князь Казімір пісаў ордскаму князю Аміняку: “До Аминяка ярлык. Милостью Божою от Казимира короля прыятелю нашому, князю Аминяку. <...> А как дядя наш, великий князь Витовт, держал у прыязни и в ласце отца твоего, а мы також хочом тебе держати у прыязни и в ласце, как жо держали есмо и брата твоего, князя Мамака, у прыязни и в ласце. Писан у Вильни” [135].

Гэта было ў той час, калі, паводле літоўскага летапісу, маскоўскія князі былі “в неволе и в подданстве татарском <...>; кождый князь московский, иж гды посол або гонец татарский по трыбут албо в иншой якой справе прыйдет до Москвы, теды повинен сам князь московский пехотою против посла выходити <...>, сам з радными своими панами стоял, а

потом чолом бьючы и слухаючы листов на колена упадал, а ни з жадной ся послуги не вымовлял, хочбы против власным прыятелем и хрыстианом войну поднести казал” [136].

У 1506 г. цар Мяндлі-Гірэй нагадваў вялікаму князю літоўскаму Аляксандру аб зносінах вялікага князя Казіміра з Ордаю: “...до нашого отца до Ач-Кирия царя ваши великие послы, прыехав, о тых выписаных городех ярлык взяли. И потом, брат наш старший Мурдавлат, царь, царем стал, и он потому ж, прыехавши, пан Ян Кучокович а пан Ивашенцо ярлык взяли, и твердая присяга была. А до мене прыехал от брата нашого Казимира, короля, воевода Троцкий пан Богдан Андрушкович а с ним Ивашенцо, отца нашого ярлык взяли. И в том ярлыку нашом от короля, брата нашого, жадали о Резанские городы, о Одоев. И в нашом ярлыку вписали. Ино нашы тые ярлыки перед собою велете прочести: тых слов правды узнаете <...>. Отца моего Ачжы Кгиреевою прыязнью и братством Казимир, король, колькось земль и городов взял, великим королем стал. <...> Ино, коли всхочете ведати: нашы предки з вашыми предки в прысезе, и в братстве, и в прыязни бывали; коли один без одного бывал, ведали, што им не добро бывало; для того у прыязни и в братстве бывали...” [137].



*Тытульны ліст кнігі Літоўскае метрыкі, 1506 г.*

Некаторае пагаршэнне зносін Літвы і Орды адбылося ў 1480 г., калі кароль Казімір адмовіўся пайсці разам з ордскімі войскамі ў паход на Маскву. Пазней цар Шыг-Ахмат пісаў вялікаму князю літоўскаму Аляксандру, што ордскія вяльможы чакалі падтрымкі караля Казіміра ў выправе 1480 г., бо маскоўскі князь Іван быў “халопам” ордскага цара і караля Казіміра: “...на Ивана гневаючы ся, царь наш всел на конь, а ваш отец король на тот рок не пошол, ино нашы вланы и князи отцу нашому мовили: “Иван твой холоп и королев есть, ино король на тот рок не пошол с тобою и ты верни ся”, – и взяли отца моего за повод и вернули” [138]. Гэтыя падзеі пагоршылі зносіны Літвы з Ордаю: у 1482 г. ордскія войскі захапілі Кіеў і ўзялі ў палон кіеўскага ваяводу Івана Хадкевіча. Але і пры пагаршэнні зносін з ордскімі ўладамі літоўскія гаспадары працягвалі ў дыпламатычным ліставанні прыгадваць аб даўняй традыцыі прыязні між Вялікім княствам Літоўскім і Ордаю.

У 1492 г. вялікі князь літоўскі Аляксандр пісаў ордскаму цару Мяндлі-Гірэю: “И напоминаем тебе, абы еси впоменул давныи дела, как было из веков за предков нашых и твоих, и за отца нашого и за твоего отца часу прыгоду: коли которому цару або царевичу орды Перекопское прыгода прыгожывалася, нигде коня потного не розседлал, только у отчыне нашой, у Великом княжстве Литовском <...>. Также и тобе ведомо, иж и отец твой цар Ачжы Кгирей в отца нашого хлеб и соль ел и оттоль и стольца царского достал, Мурдовлят, Адар у отца нашого были, хлеб и соль ели и жалованье видели <...>. Как жо из века бывало, Великое княжство Литовское с Перекопскою ордою, а Перекопская орда з Великим княжством Литовским завжды заодно были против всякому непрыятелю. Про то напоминаем тебе, с прысяги отца твоего с нашым отцом, которую межы собою вчынили и на нас, на дети. Ино отец наш отцу твоему и тобе прысягу свою полну держал, аж и до жывота своего, а николи с нее не выступил; ино и мы памятуючы прысягу отца нашого то держым” [139].

Ордскія паслы традыцыйна мелі асаблівыя правы ў землях Вялікага княства Літоўскага і Рускага; напрыклад, ва ўстаўной грамаце Кіеву 1494 г. вялікі князь Аляксандр пацвярджаў даўні звычай вольнасці кіеўскіх мяшчан ад дачак для ўсіх паслоў, апрача літоўскіх і ордскіх: "Послов Лядских, и Московских, и Волоских, и Мультанских не надобе им поднимати ничым, только послов нашого великого князьства Литовского и Ордынского мають поднимати своими обычайми" [140].

У 1500 г. вялікі князь літоўскі Аляксандр пісаў заволзскаму цару Шыг-Ахмату: "Також всказал еси к нам через тыи свои послы, штож з давных часов и до сих мест, вашы предки з нашыми предки в братстве и в прыязни бывали, а потом отец ваш, царь Ахмат, с королем отцем нашым межы собою братство и дружбу полнили. И ты первые дела тыи памятуючы, хочеш с нами быти в братстве и в прыязни, против всякому нашому непрыятелю везде с нами за один чоловек, прыятелю нашому еси прыятель, а непрыятелю непрыятель. Ино за то тобе брату нашему дякуем и хочем с тобою братом нашым у прыязни быти, по тому, как и отец наш с твоим отцом, на вси стороны, против каждого непрыятеля везде были за-один, абы наши прыятели слышечи то радовалися, а непрыятели боялися" [141]. У 1505 г. вялікі князь Аляксандр прыймаў цара Шыг-Ахмата ля Бярэсця. У багата ўбраным будане літоўскі гаспадар і заволзскі цар правялі абрад пасвячэння ў рыцары многіх літвінаў, палякаў і татараў [142].

Ордскі цар Мяндлі-Гірэй у 1505 г. пацвярджаў, што літоўскія вяльможы "от предков" і "завжды" былі ў прыязні з царамі Орды: "Великое Орды от великого цара Мендли-Кгерея прыятелем моим, у головах князю бискупу и воеводе виленскому пану Миколаю Радивиловичу <...>. К нам прыслали есте лист, печати свои прыложыв, иж от предков вашых царей, которые прыеждчали до Литвы, тых есмо завжды в чсти мевали и прыятелю их прыятелем были, а непрыятелю их непрыятелем <...>" [143].

* * *

Спасылкі:


1. *прыр.:* Р.К. Батура. Борьба Литовского великого княжества против Золотой Орды. / автореферат диссертации на соискание уч. ст. канд. ист. наук. Вильна, 1972.
2. Л.З. Бородовская. Расширение сферы влияния суфизма в период Золотой Орды // Исламоведение. 2017, т. 8, №3; Г.Г. Галиахметова. Суфизм в Золотой Орде // Суфизм в Иране и Центральной Азии: материалы международной конференции. Алматы, 2006.
3. «Великая хроника» о Польше, Руси и их соседях XI–XIII вв. / под ред. В.Л. Янина. – Москва, 1987. гл. 133; J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 2. Kraków, 1868. s. 362-363; ПСРЛ, т. 32. Москва, 1975. с. 27.
4. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. IV. Wilno, 1838. s. 662; Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. т. 2. Рига, 1879. с. 209; т. 3. Рига, 1880. с. 388.
5. Liv-, Esth- und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten / hrsg. von F.G. von Bunge. – Bd. I. Reval, 1853. №355, 356, 357.
6. Scriptores rerum Prussicarum. / her. von Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. – Bd. I. Leipzig, 1861. S. 250; *прыр.:* S. 97.
7. ПСРЛ, т. 32. Москва, 1975. с. 27; M. Stryjkowski. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego. / oprac. J. Radziszewska. Warszawa, 1978. s. 198.
8. ПСРЛ, т. 2. стб. 855; Monumenta Poloniae Historica. t. III. Lwów, 1878. p. 170.
9. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 2. s. 506.
10. Monumenta Poloniae Vaticana. t. III. Cracoviae, 1914. №91.
11. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, gentiumque finitimarum historiam illustrantia. / ed. A. Theiner. – T. I. Romae, 1860. №149; Б.Н. Флоря. У истоков религиозного раскола славянского мира (XIII в.). СПб., 2004. с. 184.
12. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №151, 154; Б.Н. Флоря. У истоков... с. 190.
13. Литовская метрика. Книга записей 5. Вильна, 1993. №73.1, 81.1; Литовская метрика. Книга записей 6. Вильна, 2007. №55, 62.
14. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. IV. s. 225.
15. ПСРЛ, т. 40. Санкт-Петербург, 2003. с. 123; M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. t. I. Warszawa, 1846. s. 303.
16. Regesta diplomatica nec non epistolaria Bohemiae et Moraviae. P. 2, Vol. 3. Pragae, 1873. №845, p. 344; Б.Н. Флоря. У истоков... с. 191-192.
17. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1908. стб. 871-874; ПСРЛ, т. 40. с. 124.
18. ПСРЛ, т. 2. стб. 876-878.
19. ПСРЛ, т. 2. стб. 876.
20. Monumenta Poloniae Historica. t. III. s. 50, 181; ПСРЛ, т. 2. стб. 881-882; M. Stryjkowski. Kronika... t. I. s. 321.
21. ПСРЛ, т. 2. стб. 888-891; Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem. t. I. Varsaviae, 1930. №592, 593.
22. ПСРЛ, т. 2. стб. 892-895; M. Stryjkowski. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego. / oprac. J. Radziszewska. Warszawa, 1978. s. 219.
23. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 2. s. 472, 475-476; M. Stryjkowski. Kronika... t. I. s. 336.
24. Пётр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. М., 1997. ч. 3, гл. 227. с. 140, (прим.) с. 315.
25. Alexandreida. / vyd. Vaclav Važny. Praha, 1963. s. 117-118.
26. Ein schoen und anmuetig Gedicht, wie ein heidescher Küng, genannt der Littower, wunderbarlich bekert und in Prüssenland getoufft ward. Stuttgart, 1826. S. 16, 22.
27. Monumenta Poloniae Historica. t. III. s. 185; M. Stryjkowski. Kronika... t. I. s. 338-339; ПСРЛ, т. 32. М., 1975. с. 34-35.
28. M. Stryjkowski. Kronika... t. I. s. 340.
29. Monumenta Poloniae Historica. t. III. s. 186, 188; ПСРЛ, т. 40. с. 128.
30. Monumenta Poloniae Historica. t. II. Lwów, 1872. s. 853; M. Stryjkowski. O początkach... s. 228.
31. ПСРЛ, т. 10. М., 2000. с. 184.
32. ПСРЛ, т. 32. с. 136; M. Stryjkowski. O początkach... s. 230.
33. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 3. Kraków, 1868. s. 83.
34. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. IV. s. 490-491.
35. Послания Гедимина. / подг. В.Т. Пашуто, И.В. Шталь. – Вильна, 1966. №14, с. 136-137.
36. Ф.М. Шабульдо. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987. с. 31-33.
37. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №316.
38. M. Stryjkowski. O początkach... s. 239-242.
39. S. Zajączkowski. Wilhelm de Machaut i jego wiadomości do dziejów Polski i Litwy w XIV w. // Kwartalnik Historyczny. R. 43, 1929. s. 228.
40. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 3. s. 130.
41. В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства. М., 1959. с. 56-57.
42. Monumenta Poloniae Historica. t. III. s. 78.

43. Skarbiec diplomatów... / zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz. – T. I. Wilno, 1860. №358.
44. Ф.М. Шабульдо, с. 38; S.C. Rowell. Lithuania Ascending: a pagan empire within east-central Europe. Cambridge University Press, 1994. p. 263.
45. ПСРЛ, т. 10. с. 216; ПСРЛ, т. 3. М.-Л., 1950. с. 358; T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. V. Wilno, 1839. s. 30; K. Niesiecki. Herbarz Polski. T. VIII. Lipsk, 1841. s. 168.
46. Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. СПб., 1848. №107.
47. Троицкая летопись. Реконструкция текста. Изд. М.Д. Присёлков. М.-Л., 1950. с. 369.
48. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. V. s. 50.
49. С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993. с. 14-15.
50. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. V. s. 55-58, 62.
51. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №702.
52. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №713; Monumenta Poloniae Vaticana, t. III. №347.
53. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 3. s. 229.
54. Scriptores rerum Prussicarum. / her. von Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. – Bd. II. Leipzig, 1863. S. 737, 742.
55. Skarbiec diplomatów, t. I. №403.
56. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №742.
57. там жа, №776.
58. Skarbiec diplomatów, t. I. №418.
59. ПСРЛ, т. 32. с. 139.
60. Ф.М. Шабульдо. с. 61-62.
61. Сказание о Мамаевом побоище. / пред. С.К. Шамбинаго. СПб., 1907. с. 16.
62. Н.М. Карамзин. История государства Российского. Кн. I, т. I–IV. СПб., 1842. прим. к т. IV, стб. 140.
63. В.И. Матузова. Англичане в Пруссии, XIII–XIV вв. (прусские походы английской знати). // Балто-славянские исследования, 1997 г. – М., 1998. с. 296.
64. В.И. Матузова, с. 285, 287, 294.
65. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №604, 605.
66. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, t. I. №833; Monumenta Poloniae Vaticana, t. III. №432.
67. ПСРЛ, т. 15. ч. 1. М., 2000. стб. 79.
68. ПСРЛ, т. 10. с. 230.
69. ПСРЛ, т. 15, ч. 1. стб. 67.
70. там жа, стб. 93.
71. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. V. s. 181; M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. t. II. Warszawa, 1846. s. 43.
72. Грамоти XIV ст. / упорядкування М.М. Пещак. – Київ: Наукова думка, 1974. №23.
73. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. V. s. 207-208.
74. Грамоти XIV ст., №58.
75. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. СПб, 1846. №183.
76. ПСРЛ, т. 15. ч. 1. стб. 112.
77. ПСРЛ, т. 11. М., 1965. с. 21, 24.
78. И. Мейендорф. Византия и Московская Русь (очерк по истории церковных и культурных связей в XIV веке). – Paris: YMCA-PRESS, 1990. с. 352.
79. Песни, собранные П.Н. Рыбниковым. ч. 1. М., 1861. с. 46.
80. В.Н. Топоров. “Севернорусская” Литва и её мифологизированный образ. // Балты в древности и средневековье: языки, история, культура. – отв. ред. М.В. Завьялова. – М., 2000.
81. Илья-Муромец. / подг. и комм. А.М. Астаховой. М.-Л., 1958. с. 98.
82. Печорские былины. / подг. Н.Е. Ончуков. СПб., 1904. №71, 72.
83. Древние российские стихотворения, собранные Киршею Даниловым. М., 1977. с. 138.
84. Scriptores rerum Prussicarum. / her. von Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. – Bd. IV. Leipzig, 1870. S. 239.
85. Liv-, Est-, und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten. / ed. F.G. Bunge. – Bd. II. Reval, 1855. S. 19, Reg. 714; В.Т. Пашуто, с. 403.
86. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. 2. Мн.: БелЭН, 2006. с. 551; В.Т. Пашуто, с. 403.
87. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. I, zesz. 1. Kraków, 1932. №261, 262.
88. Грамоти XIV ст., №58; Е.Ф. Карский. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. Москва, 1962. с. 444.
89. С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. с. 8-9.
90. там жа, с. 16-18.
91. там жа, с. 15-16.
92. ПСРЛ, т. 11. с. 192.
93. А.В. Мартынюк. Русь и Литва в сочинении Иоанна де Галонифонтибуса // Studia Historica Europae Orientalis. вып. 4. Минск, 2011. с. 88.
94. Литовская метрика. Книга записей 8. Вильна, 1995. №24, с. 59.
95. С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. с. 10.
96. ПСРЛ, т. 32. с. 78-79.
97. Scriptores rerum Prussicarum. Bd. IV, S. 233-235.

98. И. Первольф. Славяне, их взаимные отношения и связи. т. III, ч. I. Варшава, 1890. с. 37.
99. там жа, с. 55.
100. там жа, с. 60.
101. В.П. Зубов. Развитие атомистических представлений до начала XIX века. М.: Наука, 1965. с. 104-105.
102. там жа, с. 111.
103. Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с нею владений (от 1387 до 1710 года). Вильно, 1858. №8.
104. И. Первольф. Славяне... т. III, ч. I. с. 40.
105. А. Будилович. Не был ли православным человеком Иероним Пражский? // Христианское чтение. 1870, ч. I. с. 690-697.
106. И. Первольф. Славяне... т. III, ч. I. с. 38.
107. там жа, с. 39-40.
108. там жа, с. 59, 52-53.
109. там жа, с. 62.
110. там жа, с. 44.
111. J. Krzyżaniakowa, J. Ochmański. Władysław II Jagiełło. Wrocław, 1990. s. 267.
112. И. Первольф. Славяне... т. III, ч. I. с. 52.
113. там жа, с. 55.
114. С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. с. 11.
115. ПСРЛ, т. 32. с. 80.
116. Путешествие Гилльбера де-Ланноа в восточные земли Европы в 1413–14 и 1421 годах. // Университетские известия. Киев, 1873, №8, отд. 2. гл. 84-85.
117. С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. с. 23.
118. там жа, с. 19.
119. Б.Н. Флоря. Орда и государства Восточной Европы в середине XV века (1430–1460). // Славяне и их соседи. вып. 10: Славяне и кочевой мир. М., 2001. с. 174; С.У. Думін, І.Б. Канапацкі. с. 12.
120. ПСРЛ, т. 35. М., 1980. с. 141.
121. С.У. Думін, І.Б. Канапацкі, с. 14-15.
122. L. Kolankowski. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiełłonów. Warszawa, 1930. s. 257-258; Б.Н. Флоря. Орда и государства Восточной Европы… с. 182-183.
123. Б.Н. Флоря. Орда и государства Восточной Европы… с. 176-177.
124. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. VII. Wilno, 1840. Dod. IV, s. 132-134.
125. Б.Н. Флоря. Орда и государства Восточной Европы… с. 177.
126. там жа, с. 183.
127. Литовская метрика. Отд. I, т. I. / Русская историческая библиотека, т. 27. СПб., 1910. стб. 353.
128. Б.Н. Флоря. Орда и государства Восточной Европы… с. 188.
129. ПСРЛ, т. 32. с. 160.
130. Liv-, Est-, und Curländisches Urkundenbuch. Abt. I, Bd. XI. Riga–Moskau , 1905. №296.
131. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 5. Kraków, 1870. s. 127; T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. VIII. Wilno, 1839. s. 127-128.
132. Ł. Gołębiowski. Dzeje Polski za panowania Jagiełłonów. T. III. Dzeje Polski za panowania Kaźmirza, Jana Olbrachta i Alexandra. Warszawa, 1848. s. 230-231.
133. Сборник Муханова. / сост. П.А. Муханов. Москва, 1836. №25, с. 31.
134. Сборник Муханова, №23, с. 26.
135. Литовская метрика. Отд. I, т. I. стб. 338.
136. ПСРЛ, т. 32. с. 92.
137. Литовская метрика. Книга записей 8. Вильна, 1995. №24, с. 59-60.
138. Литовская метрика. Книга записей 6. Вильна, 2007. №55.
139. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I, №102.
140. там жа, №120.
141. там жа, №184.
142. Ф. Леонтович. Правоспособность литовско-русской шляхты. // Журнал Министерства народного просвещения. 1908, №6. с. 269.
143. Литовская метрика. Книга записей 5. Вильна, 1993. №124.5.



## Літоўскі герб “Пагоня” ў 13–14 стагоддзях

Герб “Пагоня” вядомы ад першых часоў існавання Вялікага княства Літоўскага. Паводле літоўскіх летапісаў, “Пагоню” ў якасці гаспадарствавага гербу ўвёў князь Нарымунт, брат вялікага князя Тройдзеня (1270–1282): “Той Нарымунт мел герб, або клейнот, рыцерства своего таковый, и тым печатовался, Великому князству Литовскому зоставил его, а то такий: в гербе муж збройный, на коню белом, в полю червоном, меч голый, яко бы кого гонячы держал над головою, и есть оттоля названый Погоня” [1]. Густынскі летапіс кажа, што “Пагоню” ў якасці гербу Вялікага княства Літоўскага ўвёў вялікі князь Віцень у пачатку свайго княжання (то бо ў 1294 г.): “А Витен нача княжити над Литвою, измысли себе герб и всему князству Литовскому печать: рыцар збройный на коне з мечем, еже ныне наричут Погоня” [2]. М. Стрыйкоўскі, які ўжываў шмат неацалелых літоўскіх летапісаў, пісаў, што герб з выяваю ўзброенага вершніка з дваістым крэстом на шчыце надалі вялікаму князю літоўскаму Міндоўгу прускія крыжакі як белег свайго ордэну падчас каранацыі Міндоўга ў 1252 г. [3].

Летапісныя звесткі аб паходжанні “Пагоні” ад белегу літоўскага “рыцерства” могуць паказваць на паходжанне “Пагоні” ад старажытных гербаў усходніх германцаў. Конныя гербавыя выявы тыпу “Пагоня” былі пашыраны ў 12–13 стагоддзях сярод князёў Мекленбургу, Гольштайну і Памараніі. Такім парадкам, калі літоўская шляхта мела ўсходнегерманскае паходжанне і паходзіла з паўднёвага берагу Балтыйскага мора (гл. артыкул “Германскі суперстрат у старажытнай Літве”), то герб тыпу “Пагоня” мог быць адным з яе традыцыйных белегаў. У 13 стагоддзі пячаткі з коннымі выявамі тыпу “Пагоня” мелі мекленбургскія і гальштайнскія князі, паморскі князь Багуслаў I у 1214 г. і яго наступнік Казімір II, Барнім I Паморскі ў 1235 г., Валадыслаў Адоніч у 1223–1239 гг., Баляслаў Пудыка ў 1235–1250 гг., Казімір Куяўскі ў 1236 г., а таксама Святаполк Гданьскі – найбліжшы супольнік вялікага князя Міндоўга ў 1240-х гадох [4].

Таксама звяртае на сябе ўвагу амаль поўная тоеснасць “Пагоні” з гербам ордэну тэмпляроў. У першай палове 13 стагоддзя тэмплярскі ордэн меў шмат комтурстваў у Польшчы. Землямі і іншымі добрамі тэмпляроў абдорвалі князі Валадыслаў Адоніч, Барнім I Паморскі, Баляслаў Пабожны, Баляслаў II Лысы. Відаць, з гэтым знітавана пашырэнне на пячатках гэтых князёў сымболікі блізкай да тэмплярскай. Вядома, што за часу вялікага князя Міндоўга некаторыя рыцары заходнееўрапейскіх ордэнаў пераходзілі на бок Літвы і служылі Міндоўгу [5], таму звестка М. Стрыйкоўскага аб наданні “Пагоні” Міндоўгу прускімі крыжакамі можа мець пад сабой гістарычныя падставы. Такім парадкам, на паўстанне літоўскае “Пагоні” маглі паўплываць як усходнегерманскія геральдычныя традыцыі, так і геральдыка рыцарскіх ордэнаў 13 стагоддзя [6].



*Пячатка паморскага князя Багуслава I (1155–1187)*



*Пячатка мекленбурскага князя Мікалая I (1178–1200)*



*Пячатка гальштайнскага графа Яна I (1247–1259)*



*Пячатка Казіміра I Апольскага, 1226 г.*



*Пячатка Святаполка Гданьскага, 1231 г.*



*Белег Тэмплярскага ордэну, 12–13 ст.*



*Белег Тэмплярскага ордэну, 1232 г.*



*Белег Тэмплярскага ордэну, 13 ст.*

У 1294 г. князь Лаўрыш-Рымунт (сын вялікага князя Тройдзеня) на сойме літоўскага баярства мовіў аб сымбалізме гербу "Пагоня", што мусіць казаць аб сталай традыцыі гэтага гербу ў той час: "...дядька мой Нарымонт, коли сел на Великом князстве Литовском, герб свой Китавра зоставил братьи своей, а собе вделал герб – чоловека на кони з мечом, а то знаменуючы через тот герб пана дорослого лет, хто бы мог боронити мечом отчызны своей, а про то оберыте собе господара дорослого, хто бы мел боронити того панства, Великого князства Литовского" [7]. Імаверна, пад уплывам літоўскае "Пагоні" з'явіўся конны герб на пячатцы ўнука вялікага князя Тройдзеня – мазоўскага князя Тройдзеня Чэрскага (1310–1341) (на пячатках іншых мазоўскіх князёў такога гербу няма).



*Пячатка князя чэрскага Тройдзеня (1310–1341 гг.)*

Першыя вядомыя сёдня выявы літоўскае “Пагоні” паходзяць з часу вялікага князя Гедыміна (1316–1341). Вядома пячатка Гедыміна з варыянтам “Пагоні” з дзідаю [8].



*Пячатка вялікага князя Гедыміна*



*Пячатка князя Аляксандра Міхайлавіча, 1329–1337 гг.*

“Пагоня” выяўлена на пячатцы цверскага князя Аляксандра Міхайлавіча, які быў пасаджаны на княжанне ў Пскове ў 1329 г. “изъ литовъскыя рукы” і працягваў служыць вялікаму князю Гедыміну да 1337 г. У гэты час Аляксандр Міхайлавіч меў на сваіх пячатках “Пагоню”, на адрозненне ад іншых перыядаў, калі ён ставіў на сваёй пячатцы іншы белег [9]. Такім парадкам, гэтая пячатка ёсць сведчаннем таго, што ў тыя часы герб “Пагоня” быў гаспадарстваым гербам Вялікага княства Літоўскага, які надавалі залежным князём, якія служылі Літве. “Пагоня” змешчана на пячатцы полацкага князя Глеба-Нарымунта, якою ён змацаваў дамову з Ліфлянцкім ордэнам у 1338 г. [10].



*Адбітак пячаткі полацкага князя Глеба-Нарымунта, 1338 г.*

Герб “Пагоня” з кірылічным надпісам навакол стаяў і на пячатцы вялікага князя Альгерда, якою ён змацаваў сваю дамову з польскім каралём Казімірам ў 1366 г. (гл. дад. №19). Гэтая пячатка захоўвалася ў польскім каронным архіве, але ўжо напрыканцы 18 ст. яна была знішчана [11]. Выяву гербу “Пагоня” мелі першыя літоўскія манеты, вядомыя ад 1360-х гадоў [12]. Назоў літоўскага гербу паходзіў ад старажытнага звычаю “пагоні” – паспалітага рушэння і гнання ворага. Гэты звычай быў згаданы ў прывілеі караля Валадыслава-Ягайлы 1387 г. (гл. дад. №28).

Вядомы пячаткі з “Пагоняю” Ягайлы і Вітаўта, якія гэтыя князі ўжывалі яшчэ да Крэўскай уніі [13]. “Пагоню” ў якасці гербу ўжывалі таксама іншыя князі-Гедымінавічы: Дзмітрый-Карыбут, Сямён-Лінгвен, Жыгімонт Кейстутавіч і іншыя. Выява “Пагоні” была на харугвах Вялікага княства Літоўскага ў бітве пад Грунвальдам у 1410 г.



*Пячатка вялікага князя Ягайлы, 1377 г.*



*Пячатка князя Дзмітрыя-Карыбута, 1385–1388 гг.*



*Пячатка князя Вігунда Альгердавіча, 1388 г.*



*Пячатка князя Вітаўта, 1383–1385 гг.*



*Пячатка князя Сямёна-Лінгвена Альгердавіча, 1388–1389 гг.*



*Пячатка князя Жыгімонта Кейстутавіча, 1398 г.: "ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ЖИКГИМОНТА"*



*Пячатка князя Свідрыгайлы, 1420 г.*



*Пячатка князя Міхайлы Гальшанскага, 1422 г.*



*Вялікая маястатная пячатка вялікага князя Вітаўта*



*Герб вялікага князя Вітаўта (з нямецкае хронікі 1483 г.)*



*Герб вялікага князя літоўскага з Codex Bergshammar, каля 1435 г.*



*Пячатка князя Аляксандра Носа, 1433 г.*



*Герб Літвы з “Кнігі цэсара Жыгімонта”, 1443 г.*



*“Пагоня” ў прэзбітэрыі катэдры Судаміра, 14 ст.*



*“Пагоня” з магільні Ягайлы ў Кракаве*



*“Пагоня” на старонцы “Бібліі каралíцы Соф’і”, 1453 г.*



*Сустрэча караля Ягайлы з нямецкім цэсарам Жыгімонтам*
*(з “Кнігі цэсара Жыгімонта”, 1443 г.)*

Выяву “Пагоні” на сваіх гербах мелі князі Алелькавічы, Бельскія, Карэцкія, Сангушкі, Чартарыйскія і іншыя, а таксама многія маскоўскія княскія роды, якія паходзілі ад літоўскіх князёў [14]. Ужывалі “Пагоню” ў якасці ўласнага гербу і некаторыя баяры: напрыклад, Алёхна Судымонтавіч (ваявода віленскі і канцлер ВКЛ) [15]. Наогул, герб “Пагоня” меў гаспадарствавы характар: яго ўжывалі не адно князі-Гедымінавічы, але і іншыя літоўскія князі (у тым ліку славянскага паходжання). Напрыклад, да дамовы вялікага князя Вітаўта з крыжацкім вялікім майстрам Конрадам Цольнерам з 30 студзеня 1384 г. была прыкладзена пячатка князя Льва Друцкага, на якой быў герб “Пагоня”, гэтаксама як на пячатцы самаго Вітаўта [16]. Салінская дамова 1398 г. была змацавана пячаткаю князя Івана Друцкага з выяваю “Пагоні” [17]. “Пагоню” ў якасці родавага гербу ўжывалі таксама князі Астрозскія (з турава-пінскіх князёў), Сапегі (з полацкіх баяраў) ды іншыя роды чыста славянскага паходжання [18].

З падзелам у 16 стагоддзі Вялікага княства Літоўскага на ваяводствы, кожнаму ваяводству ўласна Літвы (уласна Вялікага княства Літоўскага, без Жамойці і ўкраінскіх зямель) быў нададзены герб з “Пагоняю” рознае афарбоўкі [19].




*Гербы ваяводстваў Вялікага княства Літоўскага,*
*Рускага, Жамойцкага ў 16 стагоддзі:*
*усе ваяводствы Літвы – Віленскае, Троцкае, Полацкае,*
*Віцебскае, Мсціслаўскае, Берасцейскае, Наваградскае, Менскае,*
*а таксама Падляшша – маюць гербам "Пагоню".*
*Жамойць мае свой апрычоны гістарычны герб "Мядзведзь".*

Спасылкі:


1. ПСРЛ, т. 32. Москва, 1975. с. 32; *прыр.:* ПСРЛ, т. 35. Москва, 1980. с. 151.
2. ПСРЛ, т. 40. СПб., 2003. с. 125.
3. M. Stryjkowski. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego / oprac. J. Radziszewska. Warszawa, 1978. s. 197.
4. А.Л. Хорошкевич. «Конные печати»Александра Невского и традиции средневековой сфрагистики. // Князь Александр Невский и его эпоха. Исследования и материалы. СПб., 1995. с. 143.
5. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1908. стб. 818; Monumenta Poloniae Historica. t. III. Lwów, 1878. p. 586; «Великая хроника» о Польше, Руси и их соседях XI–XIII вв. / под ред. В.Л. Янина. – М., 1987. гл. 132; *прыр.:* Пётр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. Москва, 1997. ч. 3, гл. 91, 104, 123, 167; В.Т. Пашуто. Борьба прусского народа за независимость (до конца XIII в.). // История СССР. 1958, №6. с. 75.
6. А.К. Цітоў. Наш сімвал – Пагоня. Мн., 1993. с. 5.
7. ПСРЛ, т. 35. с. 151.
8. М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь. // Маладосць. 1989, №8. с. 143.
9. С.В. Белецкий. Печати “княжа Олександрова”. // Советская археология. 1985, №1.
10. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. 2. Мн.: БелЭН, 2006. с. 350; А.Л. Хорошкевич. Печати полоцких грамот XIV–XV вв. // Вспомогательные исторические дисциплины. вып. 4. Ленинград: Наука, 1972. с. 134.
11. M. Gumowski. Pieczęcie Ksiązat Litewskich. // Ateneum Wileńskie. 1930, R. VII, zesz. 3-4. s. 709.
12. А.А. Ильин. Классификация русских удельных монет. Вып. 1. Ленинград, 1940. с. 15.
13. А.К. Цітоў. Наш сімвал – Пагоня. с. 16-17.
14. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. 2, с. 382.
15. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. т. 1. Мн.: БелЭН, 2006. с. 219.
16. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны: мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць. Мн., 2001. с. 79; С.В. Белецкий, с. 234.
17. П. Урбан. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін “Літва”. // Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Кн. 3. Мюнхэн, 1964. с. 76.
18. А.К. Цітоў. Наш сімвал – Пагоня. с. 16.
19. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. / рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш. – т. 5. Мн.: БелЭН, 1999. с. 366-367.

# Літоўскае права ў 13–15 стагоддзях

Ад ранніх часоў існавання Вялікага княства Літоўскага ў ім дзейнічала ***літоўскае права*** – адметная юрыдычная сістэма літоўскага народу, на якой быў збудаваны ўрад гаспадарства і грамадскае жыццё народу літвінаў. Пытанне літоўскага права ў мадэрнавай гістарыяграфіі было цалкам ігнаравана, дзеля тэз гэтае гістарыяграфіі аб “чужаземным заваяванні” славянскіх зямель як чынніку паўстання літоўскага гаспадарства, збудаваных на міфалагеме аб “этнічна балцкім язычніцкім народзе”. Высокі ровень развіцця юрыдычнае сістэмы Вялікага княства Літоўскага быў прыпісаны пабочным чыннікам і сярэднявечныя карані літоўскага права не разглядалі. Між тым, звесткі гістарычных крыніц досыць ясна выяўляюць развіццё “літоўскага права” як адметнае юрыдычнае сістэмы літоўскага народу, якая паўстала не пазней за 14 стагоддзе.

Дадзены артыкул не ставіць мэтаю даць падрабязны або ўсебаковы аналіз літоўскага права 13–15 стагоддзяў, ён адно дасць, у фармаце нарысаў, павярхоўнае выпісанне гэтае з’явы і ейных галоўных уласцівасцей. Будуць разгледжаны перадусім галоўныя гаспадарстваваыя ўстановы ВКЛ і асноўныя праўныя нормы, якія дзейнічалі ва ўласна Літоўскай зямлі. Умоўнаю мяжою нашага разгледжання мы кладзем час агульназемскага прывілея вялікага князя Казіміра 1447 году (які быў першаю спробаю кадыфікацыі агульнагаспадарстваваага права) і Судзебніка Казіміра 1468 году (які быў першаю спробаю кадыфікацыі крымінальнага і працэсуальнага права Літвы). Дадзены артыкул прысвечаны праўным помнікам Літвы 13 – першае паловы 15 стагоддзя, якія адлюстроўваюць развіццё літоўскага права да этапу кадыфікацыі.

У якасці крыніц літоўскага права разгледжаны лісты, граматы, прывілеі, судовыя выракі літоўскіх князёў, баяраў і ўраднікаў 13–15 стагоддзяў. Некаторыя найбольш важныя крыніцы выступаюць у тэксце пачасту, таму спасылкі на іх ускраўлены проста згадкаю з азначэннем году. Гэта:

1347 г.: камплект трох грамат на куплю і абмен зямлі ў Ашмянскім і Радуньскім паветах з пацверджаннем вялікага князя Альгерда; гэтыя граматы маюць сумнеўнае паходжанне, але іхні матэрыял, магчыма, адлюстроўвае гістарычныя рэаліі часоў Альгерда (Грамоти XIV ст. / упорядкування М.М. Пещак. – Київ: Наукова думка, 1974. №9, 10, 11)

1359 г.: грамата вялікага князя Альгерда аб харужых (Kwartalnik Historyczny. R. 18, 1904. s. 485-486) (гл. дад. №17)

1387 г.: грамата караля Валадыслава-Ягайлы князю Скіргайлу (Грамоти XIV ст. / упорядкування М.М. Пещак. – Київ: Наукова думка, 1974. №40) (гл. дад. №29)

1388 г.: прывілей вялікага князя Вітаўта жыдом у Вялікім княстве Літоўскім; гэты дакумент ёсць пазнейшым фальсіфікатам, але ў ім, відаць, адлюстраваны праўныя рэаліі ВКЛ часоў Вітаўта (Акты, относящиеся к истории Западной России. т. I. СПб., 1846. №9)

1389 г.: дзве граматы караля Валадыслава-Ягайлы аб упасажанні касцёлаў у Літве (Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. I, zesz. 1. / wyd. ks. J. Fijałek, W. Semkowicz. Kraków, 1932. №15, 16) (гл. дад. №31)

1420 г.: грамата вялікага князя Вітаўта аб рассудку баяраў Пуні і Бірштанаў (В.Ю. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. с. 149) (гл. дад. №43)

1432 г.: пацвярджальны прывілей вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча на майтборскае права Вільні (Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковна, Трок. ч. I. Вильно, 1843. №4) (гл. дад. №49)

1447 г.: агульназемскі прывілей вялікага князя Казіміра (Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 3. Дадатак. Мн.: БелЭН, 2010. с. 427-428) (гл. дад. №56)

1463 г.: пацвярджальны прывілей вялікага князя Казіміра на майтборскае права Коўні (И.И. Срезневский. Сведения и заметки о малоизвестных и неизвестных памятниках. №X // Записки Императорской Академии Наук. т. VII, 1865) (гл. дад. №60)

**1. Агульны погляд на літоўскае права 13–15 стагоддзяў. Крыніцы літоўскага права.**

"Літоўскае права" як адметная юрыдычная сістэма літоўскага народу згадана ў літоўскіх праўных лістох пачынаючы ад канца 14 стагоддзя. Згодна з земскім прывілеем вялікага князя Ягайлы з 20 лютага 1387 г., суд у Літоўскай зямлі павінен быў адбывацца "паводле вызначанага звычаю і права" (more et iure) [1]. Права Літоўскае зямлі згадваў прывілей вялікага князя Вітаўта 1388 г.: згодна з ім, суд павінен адбывацца "подлуг прав нашых", "подлуг права нашое земли". Паводле пацвярджальнага прывілея вялікага князя Вітаўта Бярэсцю на майтборскае права 1408 г., у Бярэсці скасоўвалася рускае, літоўскае і польскае права (de jure ruthenico, *lithuanico* et polonico) на карысць майтборскага [2]. Паводле агульназемскага прывілея вялікага князя Жыгімонта 1434 г. справы князёў і баяраў трэба было разглядаць у судзе, згодна з "правам Літоўскае зямлі" (iuris ordine terre Lithvanie) [3]. Пацвярджаючы майтборскае права Вільні ў 1432 г., вялікі князь Жыгімонт скасоўваў дзеянне літоўскага, рускага і польскага права, што раней дзейнічалі ў Вільні: "...отдаляючы от иных прав, што суть Польская, *Литовская*, Руская...". Звычайна, пры наданні майтборскага права літоўскім местам у іх касавалі літоўскае (або рускае) права, што дзейнічала раней. Гэтак, пры наданні майтборскага права Менску ў 1499 г. вялікі князь Аляксандр пісаў: "...тое место нашо Менск с *права Литовского* и Руского и которое коли будет там перво держано, в право Немецкое, которое зоветься Майтборское, переменяем на вечныи часы" [4]. Таксама літоўскае права было скасавана пры наданні майтборскага права Горадні ў 1496 г., Полацку ў 1498 г. ("...с *права Литовского* ... в право Немецкое Майдеборское переменяем...") і іншым местам [5]. Паводле земскага прывілея Жамойці 1492 г. у Жамойці мусіла дзейнічаць толькі літоўскае права: "…только наперед *правом Литовским* мает быти сужон" [6].

Дарма што выяўныя звесткі аб *літоўскім праве*, гэтую з'яву як праяву грамадскага жыцця народу літвінаў у навейшай гістарыяграфіі амаль не разглядалі. Тыя, хто заўважалі існаванне літоўскага права, не разглядалі яго як апрычоную з'яву, а атаесамлялі яго з рускім правам. Гэтак учыніў Ф. Леантовіч, які лічыў, што "пад літоўскім правам даўнімалі ўласна тое ж самае права рускае, якое дзейнічала ва ўласна літоўскіх землях" [7]. Гэтаксама М. Доўнар-Запольскі не знайшоў нічога лепшага, ніж сказаць, што літоўскае і рускае права "гэта бадай адное і тое ж" [8]. Немагчымасць прыпісваць народу літвінаў развітую праўную сістэму, збудаваную на славянскім звычаёвым праве, як лёгка зразумець, вынікае з міфалагемы аб "этнічна балцкім язычніцкім народзе", на якой збудавана мадэрнавая гістарыяграфія Вялікага княства Літоўскага. У сістэме гэтае міфалагемы немагчыма мовіць аб самастойным літоўскім праве і яна прыводзіць да ўсцяжнага ігнаравання звестак гістарычных крыніц (што наогул уласціва для гэтай гістарыяграфіі). Насамрэч, гістарычныя матэрыялы сведчаць аб існаванні развітага "літоўскага права" як адметнае юрыдычнае сістэмы народу літвінаў, паходжанне якога ад старабеларускага звычаёвага права ярка насвятляе палітычную і грамадскую гісторыю сярэднявечнага літоўскага народу.

Уласна панятак *право* або *правда* ў Літве (як і на Русі) азначаў агульную сістэму зносін улады з падданымі, у пэўным сэнсе вышэйшую за юрыдычную. Гэтак, падданы мог "правды жадать" не паводле пісанага права, а звяртаючыся да гаспадара як да свайго асабістага заступніка, функцыяй якога было "учынити право", "правду дать"; таксама "правдой" называліся асабістыя дамовы між князямі. Да этапу кадыфікацыі непісаныя земскія звычаі складалі звычаёвае права: гэтак, ужо ў лістох канца 14 – пачатку 15 стагоддзя знаходзім панятак "право нашое земли" як азначэнне юрыдычнае сістэмы народу Літвы. Наймя гэтае "право", "обычай нашое земли", "обычай земский", "обычай старый", "стародавние звычаи" – то бо старажытнае *звычаёвае* права Літвы – склала падмурак сістэмы літоўскага права. Сёння ў гісторыкаў няма сумневаў у тым, што літоўскае права ўсправілася на грунце мясцовага звычаёвага права летапіснае Літоўскае зямлі [9]. Аб наўпростай рэцэпцыі рускага права ў Літве казаць немагчыма – у літоўскім праве былі запазычаны адно элементы рускага права ("Рускае Праўды"), якія паўплывалі на яго, але не закранулі ягонага самастойнага характару [10].

Да этапу кадыфікацыі (то бо ўкладання пісьмовых зборнікаў законаў) галоўнаю формаю развіцця права ў старажытнай Літве быў звычай, "старына". Уласна юрыдычную норму ўстаўлялі праз абвяшчэнне ("сведецтво") на судзе або на ўрадзе паноўнага старажытнага звычаю. Юрыдычную норму вызначалі "подле давности обычая и права". Падобным чынам, устаўная функцыя гаспадара, вялікага князя, перадусім складалася ва ўзаконьванні

паноўнага звычаю [11]. Ужо ў прывілеі вялікага князя Альгерда 1359 г. сустракаем выраз: "...а одзыв по ваге речы и *обычаю давному* идеть до нас до Господаря". І далей *обычай, старына, пошлина* – ёсць галоўнымі юрыдычнымі формамі, да якіх апелююць літоўскія князі і баяры падчас падавання судовых выракаў, укладання новых юрыдычных норм. У 1440 г. вялікі князь Казімір у прывілеі жыхаром Вільні спасылаўся на "стары обычай", які быў зацверджаны яшчэ вялікім князем Альгердам: "А подлуг *старого обычая* от нашых што ж а были первоосветченные князи деда нашого Олькгирда неколи будущого великим князем Литовским <...> им было то позычено и дано на веки" [12]. Парадак абкладання "посощыною" (падаткам ад сахі) лічыўся "старыною" ўжо за вялікага князя Вітаўта ("то старына за Витовта была") [13]. У грамаце аб барысаўскай цівуншчыне (каля 1396 г.) вялікі князь Вітаўт загадваў: "...весити их человеку Борысовцу *по старыне* перед тивуном и перед мужми <...> и ничем *через пошлину* не обидети" [14].

Адметна, што сам панятак *обычай* мог атаесамляцца з *правом*, то бо з юрыдычнаю сістэмаю. Напрыклад, у прысяжнай грамаце каралю Валадыславу-Ягайлу ў 1388 г. князь Дзмітрый Альгердавіч абяцаў "верное послушенство держати, под прысягою и под честью, *подлуг обычая*, яко коли бывает пры голдованию" [15]. Цікавым юрыдычным помнікам ёсць прывілей вялікага князя Вітаўта жыдом 1388 году. Хаця гісторыкі высветлілі, што гэты ліст ёсць фальсіфікатам, ён можа быць ужыты ў якасці помніка літоўскага права, бо ён, відавочна, адлюстроўвае тагачасныя юрыдычная рэаліі. У гэтым прывілеі 1388 г. уласна панятак "обычай нашое земли" тоесны панятку "право нашое земли": суд павінен адбывацца "подлуг *обычая нашое земли, прав нашых*"; судзіць трэба "водлуг обычая земского", "подлуг права нашое земли".

У канцу 14 стагоддзя ў Вялікім княстве Літоўскім галоўнае месца заняў панятак *старыны* – комплекс звычаёвых юрыдычных норм і прынцыпаў, якія існавалі "здавна", "подлуг давного обычая" і якія разглядалася як праўны і грамадскі ідэал, асвячоныя часам і продкамі ідэальныя грамадскія зносіны і парадкі [16]. Юрыдычныя нормы Літвы 15 стагоддзя надавалі моц законаў "старыне", "стародавним звычаям", якія разумеліся як "правда", то бо як ідэальная праўная сістэма, проціпастаўленая "крывде", "новине" [17]. Звычаі "старые" адназначна разумеліся як "добрые" – прытым "новины" пачасту разглядаліся як "крывды" і "тяжкости" [18]. Прынцып "старыны не рухати" робіцца прынцыпам вялікакняскае ўлады. "...Штобы еси вси тые новины отложыл им конечно, а учынил бы еси по давному, как будеть было за дядю нашого, за великого князя Витовта и Жыкгимонта, – піша вялікі князь Казімір віцебскаму намесніку аб тамтэйшых баярах, – а дей все будеть по старому, как было за великого князя Витовта и Жыкгимонта, *бо мы старыны не рухаем, а новины не уводим*" [19].

Літоўскае права адзначалася казуістычнасцю праўных норм [20]. Кожны факт жыцця разглядаўся як магчымы прэцэдэнт у будучыні, які мог стварыць новы звычай. Тыповым для сярэднявечча было рытуальнае, сакральнае ўспрыманне любое дзейнасці, калі адзін учынак мог быць трактаваны як змена статусу асобы. Крыніцы паведамляюць аб цікавых прыкладах трактавання прэцэдэнтаў. Напрыклад, мяшчане Вільні на просьбу вялікага князя замасцілі "мост перед городом … всим местом", але "били нам челом, абы то им было напотом не в пошлину". Сяляне Радашковічаў на вяселле сыну пані Гастоўтавае падарылі свінню; пані палічыла гэта прэцэдэнтам і "на них завжды правила и брала за подачку" [21]. Таму абарона "старыны" і недапушчэнне прэцэдэнтаў набыла характар амаль рытуальнага падтрымання грамадскага парадку.

Адметнасцю прынцыпу "старыны" ў Вялікім княстве Літоўскім быў яго ўніверсальны агульнагаспадарствавы характар: ён пашыраўся на чыста ўсе бакі жыцця грамадства – землеўладанне, падаткі і павіннасці, мыты, вонкавую палітыку. Прынцып "старыны" меў пазастанавы характар, пашыраючыся на ўсе станы жыхарства Вялікага княства [22]. Чыста паўсюль – ад спрэчак чорных людзей з баярамі да міжнародных угод – бакі апелююць да "старыны" як да праўнага ідэалу. У мірнай угодзе вялікага князя Альгерда з польскім каралём Казімірам 1366 г. было абумоўлена: "Такоже и королевым людем не ловити на князя великого земли и на Кейстутовой и на Евнутьевой и на Любортовой <...>, но *как пошло издавна*" [23]. Гэтаксама ў 15 стагоддзі чорныя людзі, спрачаючыся з баярамі аб памеры "помочы" гаспадару, апелююць да таго, што так "здавна было" [24]. Гэта прыкмета глыбокае ўгрунтаванасці літоўскага права ў звычаёвым праве.

Падмуркам развіцця літоўскага права сталася звычаёвае права летапіснае Літоўскае зямлі, якая абыймала Наваградскае, Гарадзенскае, Віленскае і Троцкае княствы. На гэтай тэрыторыі адбывалася злучэнне праўных інстытутаў усходнегерманскага і славянскага этнічных элементаў Літвы, таму звычаёвае права Літоўскае зямлі станавіла сабой звычаёвае права старабеларускіх княстваў з дадаткамі ўсходнегерманскіх тэрмінаў і інстытутаў, такіх як *скарб, дякло, бонда, сок, лейти* і інш. (гл. артыкул "Германскі суперстрат у старажытнай Літве"). У ладнай меры крыніцаю літоўскага права было рускае права (Руская Праўда), якое, аднак, паўплывала пераважна на крымінальныя і спадчынныя нормы і не закранула самаістага характару літоўскага права [25].

Ёсць падставы казаць аб уплыве на літоўскае права ў пачатку 15 ст. чэскага права, з якога, відаць, былі запазычаны тэрміны *рок*, *земяне* і некаторыя праўныя нормы [26]. Знаёмства з чэскім правам адбывалася падчас дзейных зносін літвінаў з гусітамі ў пачатку 15 стагоддзя. Вядома, што кашталян холмскі Ванько Кірдзеевіч, які гатаваў выданне Варцка-Вісліцкіх Статутаў 1420–1423 гг., перакладаў чэскія праўныя зборнікі: "Ванько Кирдеевич <...> о тыи то книги праведные статочне стоял, абы ему могли из чески из латины выложены быть..." [27]. Аб існаванні ў Літве норм чэскага права кажуць і пазнейшыя крыніцы [28]. Літоўскае права як самастойная праўная сістэма канчаткова ўсправілася за радаў вялікага князя Вітаўта, які застаўся для наступных пакаленняў аўтарам літоўскага права і "обычая". Вядома, што ў 1492 г. падчас паднясення на літоўскі сталец вялікага князя Аляксандра маршалак дворны Івашка Храбтовіч зычыў гаспадару, "ажебы не влоским, ани ческим, албо немецким обычаем, але правдивым литовским и Витовтовым прыкладом радил и судил" [29].

Такім парадкам, крыніцамі літоўскага права былі: звычаёвае права старабеларускіх княстваў, звычаёвае права літоўскага германскага элемента, а таксама часткова рускае права і чэскае права. Літоўскае права развівалася ў 13–14 стагоддзях, усправілася як адметная праўная сістэма ў канцы 14 – пачатку 15 стагоддзя за радаў вялікага князя Вітаўта, а з агульназемскага прывілея 1447 г. і судзебніка 1468 г. пачалася яго кадыфікацыя.

**2. Урад гаспадарства. Вялікі князь. Удзельныя князі.**

На чале Вялікага княства Літоўскага стаяў манарх – вялікі князь. У старажытных славянаў і германцаў тытул князя даўнімаў выкананне разам з свецкімі таксама пасвячальных (рэлігійных) функцый. Хрысціянская царква часткова замацавала такі стан рэчаў (што відаць у наданні тытула "князя" біскупам) [30]. Да княскага тытулу, дзеля азначэння яго асаблівага статусу, почасту прыкладалася азначэнне "асвячоны" або "вялебны" (напрыклад, у грамаце вялікага князя Казіміра 1440 г.: "...от нашых што ж а были первоосветченые князи, деда нашого Олькгирда..." [31]).

Знакамі княскае дастойнасці былі ўборы, *княжые сукни, шаты*. Споверх княскіх шатаў князь насіў княскі насоў, звычайна барвіста-чырвонага колеру, на галаве – княскі вянец або чапку. У такой чапцы, падобнай да рускай княскай чапкі або мітры, бачым вялікага князя Гедыміна на яго пячатцы 1323 г. [32]. Аблічны звод выяўляе вялікага князя Гедыміна ў тыповым княскім уборы: барвістым насове, бармах і княскай чапцы. Гэтак жа ў Аблічным зводзе выяўлены і вялікі князь Альгерд.



*Пячатка вялікага князя Гедыміна, 1323 г.*

Сымбалямі ўлады вялікага князя былі княскі меч і посах. Паводле літоўскіх летапісаў, вялікіх князёў садзілі на сталец "убравшы их в шаты княжые и шапки, отдаючы им меч голый и посох отцевский в руки: посох для того, абы в дому подданных судили справедливе, а мечем границ Великого Князства Литовского и Жомойтскаго боронили" [33]. У 1377 г. Ягайлу паднеслі на вялікакняскі сталец "звыклыми церемониями, в шапку и в шаты княжые с мечем убраного"; у 1392 г. Вітаўт падчас паднясення на вялікакняскі сталец "был убраный в шапку княжую и шаты к тому належачые, там же ему меч голый и посох маршалок литовский великий и печать княжую отдавал ведлуг звычаю" [34]. Гаспадар ужываў княскі посах як сымбаль суда і ўлады над падданымі. Гэтак, у грамаце вялікага князя Вітаўта бачым сведчанне аб рытуале, які называўся "быть под

посохом". Вітаўт пісаў да свайго ўрадніка: "...ино чы не боишся ты, смерде, нас, да чы не бывал ты у нас под посохом, што его с того дела вернеш, што он на нас суды чынить?" [35].



*Вялікі князь Гедымін на стальцу (Аблічны звод, 16 ст.)*



*Вялікі князь Альгерд пад Масквой у 1368 г. (Аблічны звод, 16 ст.)*

Вялікі князь – гэта *господар* жыхароў Вялікага княства і *отчыч и дедич* яго зямель [36]. Да ўспраўлення ўраду паноў-рады ў першай палове 15 стагоддзя і выдання шляхецкіх прывілеяў 1434 і 1447 гг. вялікі князь літоўскі меў найвышшую абсалютную ўладу ў гаспадарстве. Для ранняга Вялікага княства Літоўскага была ўласціва ідэя поўнага суверэнітэту манархічнае ўлады, дзеля чаго можна казаць аб абсалютызме вялікакняскае ўлады ў ВКЛ 13–14 стагоддзяў. Грамата полацкага і віцебскага князя Ізяслава 1265 г. ілюструе тыпова сярэднявечнае ўяўленне аб пакоры волі гаспадара як Боскай, аб вялікім князю як цалкам суверэнным валадару, намесніку Бога ў краі: "Полотеск и Видьбеск одно есть, а *в воли есми божии и в Войшелгове*" [37] (гл. дад. №2). Гэтаксама каля 1387 г. намеснік Ягайлы ў Луцку прысягае "господареви нашему", абяцаючы: "чынити ми исправно земляном, *как Богу любо и господареви* моему", "а слушати ми господаря своего во всем <...> и бояти ми ся его как Бога" [38]. У 1442 г. пан Ян Кязгайлавіч, абгрунтоўваючы судовы вырак, піша: "а на то Бог волен и господар наш" [39]. У 16 стагоддзі гаспадарскія сяляне падняпроўскіх валасцей былі ўпэўнены, што жывуць "на Божьей да господарской земле" [40]. Жыхары ВКЛ свае праўныя ўчынкі грунтуюць на прыслуханні гаспадару. Гэтак, палачане ў 1405 г. укладаюць дамову з Рыгаю "...надеючысь на бога святого, Софея милость и князя великого Витовта здоровье" [41].

Пра абсалютысцкія ўяўленні літоўскіх гаспадароў аб манархічнай уладзе яўна сведчыць іх тытулатура з словамі "Божьей милостью", якая ўжывалася яшчэ да Крэўскай уніі (напрыклад, у лістох 1323, 1347, 1382, 1385 гг. – гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Гэты складнік тытулатуры паказуе, што вялікія князі літоўскія яшчэ да Крэўскай уніі кіраваліся тыповым для сярэднявечных хрысціянскіх манархій прынцыпам "боскага права манарха", то бо ўяўленнем аб падпарадкаванні манарха толькі Божай волі. Абсалютызм княскае ўлады вынікаў з самое сутнасці княскага тытулу, які ў сярэднявеччы даўнімаў выкананне ролі найвышшага суддзі з абсалютнай уладай над падданымі, у тым ліку абсалютнай уладай караць горлам [42] (адсюль звароты да князя: "міласцівы княжа", "ваша міласць"). У той жа час, абсалютызм улады вялікага князя літоўскага даўнімаў права ўсіх падданых на апеляцыю (*одзыв*) наўпрост да яго як найвышшага суддзі: у грамаце вялікага князя Альгерда 1359 г. гэтае права "одзыву до Господаря" названа даўнім звычаем. Лісты вялікіх князёў літоўскіх часам месцяць грозныя засцярогі, нагадуючы аб абсалютнай уладзе гаспадара над падданымі. Гэтак, у граматах 1389 г. Ягайла пісаў: "А который тивун того не учынит, а будет по тым нань скаржыть, будет каран без милости"; "Абы который тивун не учынил того, будет от нас у великим каранью без жалости" [43] (гл. дад. №31). У грамаце 1392 г., звернутай "къ моим воеводам и намесником и къ всим моим тивуном по всей моей державе", вялікі князь Вітаўт пісаў: "А не преступуйте моего слова, Князя Великого, а которы ся иначей учынит, своей шыей заплатит" [44] (гл. дад. №33). Відавочна, ад

абсалютысцкага права Літвы 13–14 ст. паходзяць такія строгія нормы, як каранне горлам за адмову прыслухаць загаду гаспадара, якія захаваліся ў Літоўскіх Статутах. Між іншым, гэтыя звесткі аб тыповым хрысціянскім абсалютызме вялікакняскае ўлады ў ВКЛ 13–14 ст. і выкананні вялікімі князямі літоўскімі ролі найвышшага суддзі над усімі падданымі (з правам усіх падданых адзывацца наўпрост да суда вялікага князя) беспярэчна адводзяць любыя домыслы аб "паганстве" (нехрысціянстве) літоўскіх князёў і наогул літвінаў да Крэўскай уніі. Багумільская рэлігія Літвы з яе навукаю аб дваістым передвызначэнні людзей тлумачыць абсалютысцкі і валюнтарысцкі характар літоўскага права 13–14 ст., тлумачыць, чаму асноваю грамадскага ладу была трансляцыя самаўладнае волі гаспадара, а ніжэйшы стан грамадства, нявольных, лічылі за нічога не вартых людзей, "псоў" (гл. храналогію пад 1276 г.).



*Вялікі князь літоўскі ў палацы (рысунак з літоўскае кнігі 15 стагоддзя)*

Звяртае на сябе ўвагу рытуал чалабіцця (*чоломбитье, битье чолом*), які быў пашыраны ў Вялікім княстве Літоўскім яшчэ да Крэўскай уніі. Гэта архаічны хрысціянскі абрад пазыскання міласці ў духоўнага айца. У багумілаў і катараў лічылася, што вечнае збавенне зыскуюць адно "дасканалыя" (асобы, што атрымалі хрост праз накладанне рук) і тыя, хто падаў ніцма (то бо біў чалом) перад імі [45]. У 15–16 ст. чалабіцці былі ў ВКЛ асобнаю праўнаю формаю выражэння прыслухання вялікакняскай уладзе і яе прадстаўніком для атрымання пасад і валоданняў, зацверджання розных дамоў і правоў ды іншых праўных учынкаў [46]. Звесткі крыніц 14 стагоддзя ("чоломбитье ти, княже, у Полочан прыймати", "били чолом великому князю Гедымину" і інш. [47]) паказуюць, што тое ж значэнне гэты абрад меў у Літве і да Крэўскай уніі, – то бо яўна сведчаць аб выкананні літоўскімі князямі ролі носьбітаў духоўнае ўлады для ўсіх грамадзян ВКЛ у дакрэўскім перыядзе.

У Вялікім княстве Літоўскім дакрэўскае эпохі, як і ва ўсіх раннесярэднявечных хрысціянскіх гаспадарствах, грамадскі праўны лад быў заснаваны не на фармальных пісьмовых законах і абавязках, а на асабістых зносінах і даверы між прадстаўнікамі ўлады на грунце асабістае вернасці гаспадару і трансляцыі самаўладнае волі гаспадара ўраднікамі (трыванне "в воли" гаспадара). Гэта была строга гіерархізаваная сістэма, якая не ведала ўзаемных абавязкаў, але была заснавана на сымбалічным абмене дарамі адпаведна становішчу кожнага: гаспадар "повиноват" падданым "обороной и справедливостью", у той час як падданыя чыняць *службу* свайму гаспадару, узычаюць яму *дары, честь, дачки* [48]. Суверэнітэт улады меў сваю крыніцу ў асобе вялікага князя, які "жалует" і "дарует" землі, маёнткі, пасады, правы і вольнасці з сваёй "ласки" або "особливой ласки", – яго дзеянні не спрычынены нічым апрача яго свабоднае волі і не звязваюць яго ніякімі забавязаннямі. Першым лістом, які, па сутнасці, меў характар дамовы гаспадара з баярствам, быў агульназемскі прывілей 1447 году. Да часоў Казіміра Ягайлавіча вялікі князь літоўскі паводле сваёй волі жалаваў гарады і ўдзелы ў дзяржанне князём, надаваў або забіраў землі ў баяраў. Да выдання шляхецкіх прывілеяў 1387, 1434 і 1447 гг. вялікі князь мог парушаць спадчынныя правы баяраў на зямлю, прыцягваць іх да адказнасці нават па тайным доказе, мог караць не адно вінаватага, але і яго сваякоў [49].

Сучасны княжанню вялікага князя Міндоўга летапіс мянуе яго не толькі "великий князь Литовьский", але і "самодержечь всей земли Литовьской" [50]. Вялікі князь Гедымін пісаў, што вольны распараджацца жыццём і смерцю сваіх падданых [51]. Погляды літоўскага гаспадара на манархічную ўладу ілюструе паведамленне ліфлянцкае хронікі пад 1345 г. Калі ў Ліфлянтах і Эстоніі распачалося паўстанне проці ўлады Тэўтонскага ордэну і лівы абралі сабе князёў з простых людзей, адзін такі выбраны князь прыехаў да абозу вялікага

князя Альгерда (які рушыў у напрамку Рыгі) і прапанаваў разам выступіць проці ліфлянцкіх крыжакоў. На пытанне Альгерда аб тым, што будзе з ліфлянцкім ляндмайстрам, ліў адказаў, што той будзе выгнаны разам з іншымі крыжакамі. На гэта Альгерд сказаў: “Мужык, табе не быць тут князем!” і загадаў сцяць ліву галаву [52].

Вялікі князь выступаў найвышшым суддзёю ва ўсіх справах сваіх падданых. Паводле сведчання крыжацкага дыпламата Конрада Кібурга, які наведваў вялікага князя Вітаўта ў Вільні ў 1397 г., “народ мае вольны прыступ да яго, але кожны, хто жадае сустрэцца з вялікім князем, спярша будзе апытаны адмыслова прызначаным дзеля гэтага дваранінам і тады атрымае пісьмовы скарочаны выклад сваёй просьбы, каб перадаць яе гаспадару, або разам з адмысловым урадвікам сам ідзе на вусновае паслуханне” [53] (гл. дадаткі). Вялікі князь падаваў судовыя выракі ў справах князёў і баяраў (напрыклад, гл. грамату вялікага князя Вітаўта князю Свідрыгайлу 1390 г. – дад. №32; яго ж грамату баярам Біржтанаў і Пуні 1420 г. – дад. №43), а таксама простых людзей.

Вялікі князь і ўдзельныя князі ахоўвалі правы царквы. Звычайным пунктам “радаў” (устаўных грамат) гарадоў з гаспадаром была ўмова аб недатыкальнасці царквы і ейных дабраў. Напрыклад, у радзе Полацка з князем пачатку 14 стагоддзя: “Што ж в церкви Божьи тобе не вступатися, в дом Божый Святой Софьи и в дом Божый Святого Спаса и в иные церкви не вступатися тобе” [54]. Ва ўстаўной грамаце вялікага князя Вітаўта Віцебску (між 1392 і 1399 гг.): “Што ж нам в церкви Божьи не вступатися, в дом Божый Святого Духа и в дом Божый Благовещенья Пречыстое и в иные церкви не вступатися” [55].

Вялікія і ўдзельныя князі засноўвалі і ўпасажвалі цэрквы, надавалі прывілеі царкоўным уладам. Царква св. Міколы ў Наваградку была заснавана ў 1329 г. “повеленьем благовернаго и христолюбиваго Князя Великого Михаила Кгедиминовича” [56] (гл. дад. №11). У 1355 г. пінскі князь Васіль Міхайлавіч заснаваў у Куранцу “церковь храм Богоматеры святое Пречыстое рожество, а фундацыи его милости пана Василия Михаловича Нарымунта князя Пинского” [57]. Вялікі князь Гедымін не толькі займаўся справамі Літоўскае мітраполіі, але і прапаноўваў (а разам з ім “все князи литовьскыи”) у 1331 г. мітрапаліту Феагносту свайго кандыдата Арсенія на пасаду біскупа ў Пскове [58]. У 1330 г. падзелам маёмасці Літоўскае мітраполіі займаліся брат Гедыміна кіеўскі князь Фёдар і валынскі князь Дзмітрый-Любарт Гедымінавіч [59]. У 1346 г. вялікі князь Альгерд заснаваў у Вільні зборную царкву Прачыстае, якае пазней сталася сядзібаю Літоўска-Кіеўскага мітрапаліта. Як сведчыць летапіс, Альгерд быў пахаваны “въ церкви Пресвятыя Богородицы въ Вильне юже сам созда” [60].



*Вялікі князь Вітаўт і вялікая княгіня Ганна*
*(малюнак пач. 16 ст.)*

Князь Вітаўт у 1384 г. упасажыў манастыр Ражства Прачыстае ў Троках: “А в тот монастыр и в тую луку, не маютсе вступовати, ни митрополит ани владыка ани воевода Троцки ани их наместники. <...> которые будуть игумены тот монастер наш держать, не знати ему никого одно нас Господара” (гл. дад. №26). У 1407–1427 гг. Вітаўт заснаваў колькі праваслаўных цэркваў у ВКЛ і ўпасажыў Тураўскае праваслаўнае біскупства (гл. артыкул “Крэўская рэлігійная рэформа...”). Але гаспадар мог і адняць царкоўнае наданне. Напрыклад, у запісах наданняў вялікага князя Казіміра чытаем: “...А поведал владыка, иж дей только семь человек, издавна тые Прощане церковные в старых записах записаны; а отнял был дей князь великий Витовт, розгневався на первого владыку, и дал был Нестеру Терпигореву” [61].

Вялікія князі выдавалі прывілеі ўсёй царкве гаспадарства: напрыклад, прывілеі літоўскаму касцёлу 1389 г. (гл. дад. №31), прывілей мітрапаліту Кіеўскаму 1451 г. (гл. дад. №57), прывілей 1499 г. усёй праваслаўнай царкве Вялікага княства Літоўскага [62].

**Удзельныя князі**, хаця валодалі досыць вялікаю самастойнасцю ў кіраванні сваімі ўдзеламі, выконвалі ролю, па сутнасці, намеснікаў вялікага князя, ягоных памочнікаў у кіраванні ўдзеламі гаспадарства [63]. Удзельныя князі забавязваліся “быти за один” з вялікім князем, “у послушаньи”, чыніць яму “голдованье, верность и послушенство, а также служба и хрестное целованье”. Патрабуючы ад удзельнага князя “быть в послушенстве и покоре”, вялікі князь сваім парадкам забавязваўся трымаць яго “во чсти и в жалованьи и в докончаньи” [64].

Князь Дзмітрый Альгердавіч у прысяжнай грамаце каралю Валадыславу-Ягайлу ў 1388 г. пісаў: “...слюбуем держати, целую правду и чыста вера, с нашыми детьми и с нашыми последки, пры нем и на век быть, <...> ото всих непрыятелий остерегати всею нашею силою, и на век помагати ми” [65] (гл. дад. №30). Князь Іван Гальшанскі ў сваёй прысяжнай грамаце каралю Ягайлу ў 1401 г. пісаў: “...слюбую и слюбил есмь, и целовал есмь крест: чего Бог не дай, што ся прыгодить нашему господарю, великому князю Витовту, по его жывоте, не имам искати иных господарев, мимо нашего господаря, великого короля Влодыслава, Польского, Литовского и Руского и иных...” [66] (гл. дад. №40). Удзельныя князі, апрача “покоры” гаспадару, маглі абвяшчаць яшчэ пакору “старыне” (то бо праўнаму ідэалу, увасобленаму ў старажытных юрыдычных нормах), забавязвацца радзіць “по давному”, “водлуг господарских данин и листов” [67].

Ужо за першага вялікага князя літоўскага Міндоўга яго сваякі селі на княжанне ў беларускіх гарадох: у Наваградку княжыў Войшалк, у Крэве – Гердзень, у Полацку – Таўтвіл. Вялікі князь Гедымін падзяліў удзелы Вялікага княства між сынамі, якія распачалі мясцовыя княскія дынастыі (гл. дад. №13): ад нашчадкаў Альгерда пайшлі князі Алелькавічы, Бельскія, Чартарыйскія, Сангушкі, ад Нарымонта – князі Пінскія, ад Яўнута – князі Заслаўскія. На Друцкім княстве, якое абыймала вялікія прасторы ўсходніх зямель Вялікага княства Літоўскага, працягвала княжыць мясцовая дынастыя князёў Друцкіх. У 1372 г. сярод “литовской рати” на чале з Альгердам і Кейстутам, якая рушыла ў выправу на Маскву, было і войска князя Дзмітрыя Друцкага [68]. Князі Друцкія карысталіся гербам “Пагоня”, нароўні з іншымі літоўскімі князямі: напрыклад, князь Леў Друцкі ў 1384 г., князь Іван Друцкі ў 1398 г. (гл. артыкул “Літоўскі герб “Пагоня”...”).

Апрача буйных князёў, якія валодалі вялікімі ўдзеламі, існавалі і драбнейшыя княскія дынастыі, вотчына якіх складалася з некалькіх мястэчак. Гэта князі Свірскія, Гедройцкія, Валожынскія, Даўгоўды. Князі Гальшанскія вялі свой радавод ад Гольшы, брата вялікага князя літоўскага Тройдзеня (1270–1282 гг.). У Гарадку на Піншчыне ў 14 стагоддзі княжыў прадстаўнік мясцовае дынастыі Давыд Дзмітрыевіч, які каля 1382 г. ажаніўся з дачкою вялікага князя Альгерда Марыяй: ад гэтага князя Гарадок пачаў называцца Давыд-Гарадком [69]. Дробныя князі, як і буйныя, гралі пэўную ролю ў палітычным жыцці гаспадарства, мелі асаблівыя прывілегіі. Гэтак, сведкам Салінскае дамовы вялікага князя Вітаўта з Тэўтонскім ордэнам у 1398 г. выступіў намеснік клецкі князь Васіль-Ямунт Талунтовіч [70]. Аднымі з першых акт Віленска-Радамскае уніі 1401 г. прысведчылі князь Іван Гальшанскі з сынамі Андрэем і Сямёнам і князь Сямён Ямунтавіч (сын Ямунта Талунтовіча) [71]. Вялікакняскія акты 1432–1434 гг. прысведчвалі князі Андрэй, Эрык і Раман Свірскія [72]. Князь Глеб Даўгоўдавіч належаў да паноў-рады вялікага князя Казіміра, быў сведкам прывілея Казіміра віленскім месцічам у 1441 г. [73]. Таксама як і

вялікія князі, удзельныя князі мелі сваю “верную раду”, выдавалі прывілеі, былі суддзямі ў межах свайго ўдзелу і выконвалі іншыя функцыі ўлады [74].

**3. Гаспадарская рада.**

Напачатку існавання Вялікага княства дарадцамі гаспадара ў кіраванні гаспадарствам былі яго сваякі-князі, удзельныя князі, некаторыя вяльможныя баяры. Утварэнне гаспадарскае рады як сталае ўстановы адбылося адно напрыканцы 14 стагоддзя. Функцыі рады пры гаспадару выконвалі таксама соймы князёў і баяраў з розных зямель Вялікага княства.

Літоўскія летапісы паведамляюць, што ў 1264 г. адбыўся супольны сойм баяраў усіх зямель Вялікага княства Літоўскага: “...обачылися панове, в которых належал порадок <...>, зъехалися до Кернова и радили о выбраню пана и князя собе. А так радили Войселка чернца сына Мендогова, котрый на той час мешкал в Пинску в монастыру, поднести на панство, а иные многих иншых хотели, а полочане, новгорожане, городняне, подляшане и мозыране згожалися единостайными голосами, на котрогоколвек з сынов Данила короля руского, люб Лва, любо теж Романа на панство просити Литовское, иншые теж на Сварна, Данилова сестренца, который на той час в Дорогичыне мел свою столицу, а з Мендогом, королем литовским, забитым, великое прыятелство меючым, на панство поднести его...” [75]. Летапісы ВКЛ паведамляюць, што сойм баяраў мог выбіраць новага вялікага князя. Гэтак, у 1270 г. “панове литовские и жомойцкие взяли великим князем Тройдена” [76]. Паводле паведамлення крыжацкае хронікі, у 1305 г. вялікі князь літоўскі Віцень меў сойм з сваімі баярамі, сярод якіх былі і русіны [77].

Да пачатку 15 стагоддзя княжыя радцы звычайна называюцца *бояры, думцы, светки* [78]. Яны выступалі не як носьбіты ўлады, а пераважна як сведкі княскіх пастаноў. Гэтак, у 1323 г. вялікі князь Гедымін уклаў дамову з Ліфлянтамі за згодаю сваіх найвышшых вяльможаў (consilio et consensu discretorum virorum nostrorum). Перамовы з папскімі легатамі ў 1324 г. Гедымін праводзіў таксама пры аблічнасці вяльможаў-радцаў (consiliarii). Дамову з Ліфлянтамі ў 1338 г. вялікі князь Гедымін уклаў ад імя сваіх сыноў, літоўскіх баяраў, біскупа полацкага і князёў Полацка і Віцебска [79]. Па смерці Гедыміна яго сыны “...зложыли сейм там же в Вилни зо всими паны и бояры литовскими и жомойтскими” [80].

Гаспадарскія радцы часта брали ўчасць ва ўкладанні міжнародных дамоў. У 1358 г. князь Кейстут у Горадні ўклаў з мазоўскімі князямі грамату аб размежаванні Вялікага княства Літоўскага і Мазоўшы разам з сваімі князямі і баярамі (duces et *bojaros* nostros) Патрыкеем, Войшвілтам, Айкшам, Алізарам і Васком Кірдзеевічамі [81]. Імаверна, той жа Алізар быў прызначаны суддзёй з літоўскага боку па памежных пярэчках з Польшчаю граматаю вялікага князя Альгерда 1366 г.: “Судьи на то: <...> а од князя од великого Елизар” [82].

У 1372 г., калі ў Літву прыбыў кандыдат на літоўскую мітраполію Кіпрыян, ён зблізіўся з радцамі вялікага князя Альгерда і, як кажа грэцкая крыніца, “уклаў з імі звяз” [83]. Літоўскія летапісы кажуць, што ў 1377 г., па смерці вялікага князя Альгерда, князь Кейстут “иметь прыезджати ко старым радам, как и ко брату старшему прыежджал” [84]. Ад 1380-х гадоў вядома азначэнне *паны-рада*. У лісце вялікага князя Вітаўта 1383 г.: “...то есмо учынили, с паны радами нашыми, за его верныи послуги” [85]. У прывілеі Вітаўта 1388 г.: “умыслили есмо с паны радами нашыми...”.

Паводле літоўскіх летапісаў, перад укладаннем Крэўскае уніі ў 1385 г. “...князь великый Якгайло раду собе учинил с своею матерю, великою княгинею Ульяною, и з братею своею, и со всими князи и бояры Литовское земли” [86]. У 1392 г. “князь великий Витовт, то слышавшы, учынить собе раду с князьми своими и с паны литовскими, с князем Юрьем Нарымонтовичом, с тыми порадившы и поиде в Литву и сяде на великом княженьи Литовском на Вильни” [87]. Да рады Вітаўта належалі многія праваслаўныя князі і баяры – Іван Гальшанскі, Васіль-Ямант Талунтовіч, Братоша Гайлютовіч, Зіновій Братошыч [88].

За часу вялікага князя Вітаўта гаспадарская рада мае пэўныя паўнамоцтвы ў кіраванні гаспадарствам, бярэ ўчасць у міжнародных справах. Гэтак, вядома, што ў 1398 г. польская каралíца Ядзвіга даслала Вітаўту ліст з патрабаваннем даніны ад Літвы. Вітаўт скупіў літоўскіх баяраў на раду і запытаў іх, ці лічаць яны сябе даннікамі кароны польскае. Баяры адказалі, што іхнія продкі не плацілі даніны Польшчы і яны не адчуваюць сябе абавязанымі плаціць даніну, аб чым быў пасланы адказ палякам [89].

Салінская дамова вялікага князя Вітаўта з Тэўтонскім ордэнам 1398 г. была ўкладзена разам з радаю вяльможаў (de illustrium et nobilium consilio). Сведкамі гэтае дамовы былі: князі Валадзімер Альгердавіч, Жыгімонт Кейстутавіч, Юрый Нарымонтавіч, Міхайла Яўнуцевіч, Аляксандр Патрыкеевіч, Іван Гальшанскі, Іван Друцкі, намеснік клецкі Васіль-Ямунт Талунтовіч, стараста ашмянскі Мінгайла, стараста віленскі Манівід, маршалак дворны Чупурна Радзімавіч, стараста крэўскі Гастоўт, стараста медніцкі Карэйка, баяры Братоша, Васіль Барэйкавіч, Гірд Скомундавіч, Гінтаўт Вігайлавіч і іншыя [90].

У 1401 г. у акце Віленска-Радамскае уніі рада або сойм літоўскіх князёў і баяраў выступае як праўная ўстанова з пэўнымі паўнамоцтвамі і кампетэнцыяй. З зместу акту вынікае, што і ў будучым рада або сойм князёў і баяраў будзе браць учасць у кіраванні гаспадарствам. Учаснікамі акту 1401 г. выступілі: князь Іван Гальшанскі з сынамі Андрэем і Сямёнам, князь Сямён Ямунтавіч, баяры Мінгайла Гедыгоўдавіч, Манівід, Гедыгоўд, Станіслаў Чупурна, Братоша і яго сын Зіновій, Гастоўт, Остык, Алізар Васілевіч, Войнад Русіловіч (Woynad Rusilowiczh), Воўчка Вялютовіч (Wolczhko Welutewicz), Воўчка Тансаўтовіч (Wolczhko Tonsowtowicz), Няміра з братамі, Раман Мілейкавіч з братам Воўчкам, Юрый Шэліўровіч ды іншыя [91].

Па Гарадзельскай уніі 1413 г. першыя месцы ў гаспадарскай радзе занялі радавітыя паны з валасцей вакол Вільні. Гэта паны Манівіды, Кязгайлы, Гастоўты, Остыкі, Радзівілы, Саковічы. Гэтак, ліст вялікага князя Вітаўта пану Іллі Вячкевічу (каля 1427 г.) быў засведчаны: “А пры том были светки, рада наша: воевода виленский пан Дидыкголд, пан Остык, пан Бутрым, пан Кгезкгал” [92]. Паны-радныя кіруюць вялікакняскай канцылярыяй, перадаюць для паспалітага абвяшчэння (“прыказу”) гаспадарскія лісты. Напрыклад, дарчы ліст вялікага князя Вітаўта 1420 г. “прыказал Пан Дедыкгольд, воевода виленски” [93].

Дамову вялікага князя Свідрыгайлы з Польшчаю з 8 верасня 1431 г. засведчылі паны-радныя: князі Жыгімонт Кейстутавіч, Алелька Валадзімеравіч, Юрый Лінгвенавіч, Сенька Іванавіч, Іван Сямёнавіч, Іван Пуцята, баяры Хрыстын Остык, Юрый Гедыгоўд, Кязгайла, Яшко Манівідавіч, Ходзька Юр’евіч, Пятраш Мантыгердавіч ды іншыя [94]. Пашыраюцца правы гаспадарскае рады, яна бярэ ўчасць у падгатове гаспадарскіх прывілеяў, праўных лістоў. Гэтак, пацвярджальны прывілей на майтборскае права Вільні 1432 г. быў выдадзены вялікім князем Жыгімонтам, бо гэтак “высокая княжата-рада уставила...”.



*Паны-рада Вялікага княства Літоўскага*
*(рысунак 16 ст.)*

У 1440 г. па смерці вялікага князя Жыгімонта гаспадарская рада пастанавіла пасадзіць на вялікакняскі сталец Казіміра Ягайлавіча: “Тогды рада Литовская, великаго княженья князи и панове и вся земля, дорадившыся, и взяли собе з Ляхов князем великим Казимира королевича и посадили его с честию на столечном городе на Вилни и на Троцех и на всей земли Литовской и на Руской” [95]. Хроніка Быхаўца распавядае аб сойме літоўскае рады ў

Гальшанах, на якім паны-радныя пастанавілі аб гэтым: “И едучы Яну Гаштолту до князя Жыгимонта, и заедет на учту до князей Воложынских, и князи Воложынскии учту великую ему вчынили. И будучы ему у Воложыне, и пryде им весть о смерти великого князя Жыгимонта. И Гаштолт вборзе поспешыся до Голшан до князя Юрья Семеновича Голшанского, и там ся зъехавшы посылают вборзде до пана виленского, старосты жомойтского Кезгайла и до Миколая Немировича, и до Радивила, маршалка земского. И тые панове вси зъехалися до Голшан до князя Юрья и умыслили и одностайную раду вчынили, взяти собе господарем на Великое княство королевича Казимира, сына Ягойлова, отчыча Литовское земли, и посылают послов в Лядцкую землю до королевича к Судомиру” [96].

За часоў Вітаўта, Свідрыгайлы і Жыгімонта вызначыліся найбольш вяльможныя роды, прадстаўнікі якіх далей звычайна займалі першыя месцы ў лавіцы гаспадарскае рады. Апрача князёў, гэта буйнейшыя паны пераважна з валасцей вакол Вільні – Манівіды і Гедыгоўдавічы з Вішнева і Жупранаў, Гастоўты з Геранёнаў, Кясгайлы з Дзявілтава, Радзівілы з Ушпалі, Саковічы з Няменчыны [97]. Месцы ў гаспадарскай радзе працягвалі займаць праваслаўныя вяльможы: Ходзька Юр’евіч (быў паслом Вітаўта да Ягайлы ў 1415 г., пазней быў сведкам лістоў вялікага князя Жыгімонта); Юрша Іванавіч, які служыў яшчэ вялікаму князю Вітаўту; Івашка Вяжэвіч – ад 1452 г. маршалак гаспадарскі, пасля ваявода троцкі; Іван Хадкевіч – ад 1459 г. намеснік менскі, пасля маршалак гаспадарскі [98].

За вялікага князя Казіміра гаспадарская рада ўхваляе найважнейшыя гаспадарскія пастановы і прывілеі. Гэтак, у 1441 г. пры пацверджанні прывілея віленскім месцічам сярод паноў-рады вялікага князя Казіміра былі: князі Глеб Даўгоўдавіч і Юрый Сямёнавіч Гальшанскі, ваявода віленскі Даўгерд, ваявода троцкі Івашка Гастоўт, маршалак земскі Пятраш Мантыгердавіч, намеснік ковенскі Судзівой Валімонтавіч, маршалак дворны Андрэй Неміровіч, намеснік смаленскі Андрэй Саковіч, намеснік наваградскі Івашка Гойцавіч і іншыя [99].

У 1452 г. склад паноў-рады быў такі: “А пры том были сведоки рада наша: отец наш князь Матей бискуп виленский, князь Ондрей Володимерович, князь Юрьи Семенович, воевода виленский пан Кгастовт, воевода троцкый пан Монивид, воевода новгородскый маршалок земскый пан Петр Монтыкгирдович, пан виленскый пан Судивой, пан троцкий пан Пац, пан Олехно Довойнович, пан Ивашко Гойцевич, пан Лялюшык и иныи нашы князи и панове” [100].



*Князь выправуе пасольства*
*(мініятура з Радзівілаўскага летапісу, 15 ст.)*

У 1472 г. грамату Якубу Неміровічу, паслу да майстра Тэўтонскага ордэну, прысведчылі паны-радныя: біскуп віленскі Ян Ласовіч, канцлер Радзівіл Остыкавіч (Rodiwil Ostikowitcz), стараста жамойцкі Ян Кязгайлавіч (Johanne Kensgaylowitcz), маршалак і стараста гарадзенскі Станько Судзівоевіч (Stenke Sudywogewitcz), стараста полацкі Алёхна

Судымонтавіч (Olechno Sudymonthowitcz), маршалак дворны Івашка Ходзькавіч (Iwaschko Chodkowitcz), маршалак Ян Кучук (Johann Kuczuk) і іншыя [101].

У гэты час гаспадарская рада, разам з вялікім князем і самастойна, чыніць суд над князямі і панамі, дае выракі ў маёмасных справах. Напрыклад, у 1463 г. гаспадарская рада прысудзіла: “Княгини Сонкгушковой Тростяница до жывота, аж иметь на добе, аж будеть на удовьим стольцы седети, а по жывоте ей детем в удел. А пры том был князь бискуп Николай [Дзяжковіч], а воеводы панове: Михайло [Кязгайлавіч], Андрей [Саковіч], Родивил [Остыкавіч], Николай [Неміровіч], Олехно Судимонтович” [102].

З судовае функцыі развіваецца і заканадаўчая функцыя паноў-рады (канчаткова замацаваная за ёю прывілеем 1492 г.). Рада брала ўчасць у складанні агульназемскага прывілея 1447 г. У адным спісе гэты прывілей менаваны: “Маистат великого короля Казимира Полскаго, великого князя Литовского и Руского, еже вложыл с паны радою своею, в земли Литовской и Руской...” [103]. Рада бярэ ўчасць і ва ўкладанні земскіх устаўных грамат. Гэтак, устаўная грамата вялікага князя Казіміра Полацку 1456 г. пачынаецца словамі: “Смотрели есмо с паны радою нашою…” [104]. Судзебнік 1468 году быў укладзены “с паны радою нашою великого князьства Литовского” і надаваў паном-радзе найвышшыя судовыя функцыі [105].

Гаспадарская рада ў некаторых пытаннях дзейнічае самастойна, без гаспадара. Рада надае зямлю і людзей, загадуе чыніць *увязанье* – працэдуру пацверджання зямельнага надання [106]. Паны-радныя выступаюць сведкамі дарчых лістоў буйнейшых вяльможаў. Напрыклад, у 1459 г. кашталян троцкі і намеснік наваградскі Алёхна Давойнавіч адпісаў сваёй малжонцы Васцы вяно “з радою брати своей панов рады великого княжства Литовского” [107].

Паслоў па найважнейшых даручэннях звычайна абіралі з ліку паноў-радных. Напрыклад, у 1416 г. паслом ад вялікага князя Вітаўта ў Орду ездзіў маршалак дворны Радзівіл; у 1431 г. паслом у Орду ездзіў пан Пётр Мантыгердавіч; у 1449 г. пан Сямён Гедыгоўдавіч узначальваў пасольства ў Маскву; у 1452 г. пан Радзівіл Остыкавіч ездзіў з пасольствам да цара Орды Сэід-Ахмета; у 1454 г. паны Андрэй Саковіч і Ян Неміровіч былі пасламі да караля чэскага і вугорскага дзеля перамоў аб выданні ягонае сястры за караля Казіміра; у 1459 г. пан Андрэй Саковіч быў паслом у Вялікі Ноўгарад; у 1467 г. пан Ян Кучук ездзіў да ордскага цара Нур-Даўлета дзеля аднаўлення ўгоды з Літвою [108].

Паўнамоцтвы паноў-рады як гаспадарствавага ўраду былі канчаткова юрыдычна ўспраўлены прывілеем вялікага князя Аляксандра 1492 году.

**4. Баяры. Мясцовыя ўрады.**

У Вялікім княстве Літоўскім існавалі станы князёў, баяраў, служэбных людзей, вольных сялянаў і нявольнае чэлядзі. *Бояры* як вяльможны стан, ваенная арыстакратыя, згаданы ў крыніцах ад пачатку існавання Вялікага княства Літоўскага. У 1264 г. князя Войшалка “вси панове, бояре и все посполство ... на стольцы Великого князства Литовского ... посадили” [109]. Літоўскіх баяраў (bajari, baioren) ведаюць замежныя крыніцы 13–14 стагоддзяў [110]. У 1341 г. удзельныя літоўскія князі “зложыли сейм там же в Вильни зо всими паны и бояры литовскими” [111]. У земскім прывілеі вялікага князя Ягайлы 1387 г. “баярын” азначае ваенна-служэбнага чалавека (armiger sive *boiarin*) [112]. Ягайла пісаў, што сеў на вялікакняскім стальцу ў 1377 г. за згодаю князёў і баяраў (ducum et boyarorum) [113]. Дамову з Тэўтонскім ордэнам у 1379 г. Ягайла ўклаў з сваімі набліжанымі баярамі (unsir lieben Baiaren) [114]. Паводле пагаднення з Тэўтонскім ордэнам 1398 г. вялікі князь Вітаўт укладаў дамову разам з сваімі “найлепшымі баярамі” (besten bajoren); паводле ліста 1406 г. – разам з “старэйшымі і найлепшымі баярамі” (dy eldesten und dy besten bayoren); паводле ліста 1427 г. – з “найвышшымі баярамі” (upersten boyaren) [115].

Вядома, што многія літоўскія баяры яшчэ да Крэўскай уніі мелі ўласныя геральдычныя белегі і пячаткі. Падчас прыймання гербаў польскае шляхты паводле ўмоў Гарадзельскага прывілея 1413 г. многія літоўскія баяры не прынялі польскіх гербаў, а працягвалі карыстацца сваімі старымі геральдычнымі выявамі, многія з якіх маюць яўна хрысціянскі характар (гл. рысунак). Аб тым, што літоўскія баяры да Крэўскай уніі мелі ўласныя гербы, наўпрост паведамляе Хроніка Быхаўца. Яна апавядае, што літоўскія баяры на сойме ў Луцку ў 1429 г. сведчылі: “...мы шляхта старая, рымская, которыи предки нашы з тыми гербы своими зашли до тых панств и их вжывали, а так мы тепер их маем и их вжываем яко

своих, а через них не потребуем жадных инных гербов новых, але ся держым старых своих, што нам предки нашы зоставили” [116].

Баяры валодалі землямі. Гаспадарскія прывілеі 15 стагоддзя пацвярджалі зямельныя ўладанні баяраў, “которыи съ стародавна … мели и держали, яко села и иншыи речы держали” [117]. Прывілеі 1387, 1413, 1434 гадоў надалі баярскаму стану дадатковыя правы. Ад часу Гарадзельскага прывілея 1413 г. баярскі стан пазначаецца яшчэ тэрмінам *шляхта* або *бояры-шляхта*. Баяры-шляхта падзялялася на дзве адмены: “кровная”, “прыродная шляхта” (“стародавние родичы”, “старожытная”, “правдивая”, “оселая шляхта”) – і “ровная”, “низшая”, “неоселая” (беззямельная) [118]. Баяры з старажытных родаў называліся баярамі “з роду”, “прырожоные отчычы”, “родовитые”, “звечные”. Радавітасць вызначалася гаспадарскім выракам і была падставаю для далучэння да новага стану шляхты. Напрыклад, у 1495 г. баяры Неманойцяў пакладалі старыя судовыя лісты, з якіх вынікала, “што ж они з века бояре-шляхта суть”. Вялікі князь даручыў мясцоваму дзяржаўцу высветліць, “з роду бояре ль суть”. Атрымаўшы станоўчы адказ, гаспадар прызнаў іх шляхтаю [119].




Асабістыя (дакрэўскія) белегі літоўскіх баяраў [120]:
1) Зіновія Братошыча, 1434 г.
2) Яўлашкі Даўмонтавіча, 1431 г.
3) Судымонта, старасты крэўскага, 1434 г.
4) Некраша, дзяржаўцы ў Васілішках, 1434 г.
5) Івашкі Гойцавіча, дзяржаўцы ў Наваградку, 1433 г.
6) Андрушкі Давойнавіча, 1434 г.
7) Монтрыма, дзяржаўцы маркаўскага, 1434 г.

Калі вялікі князь літоўскі падвышаў падданых у баярскі стан, ён вызваляў іх ад павіннасцей цяглых людзей, баяры былі вольны не “тягивать на потяги”. Прыкладам ёсць грамата вялікага князя Казіміра 1447 г. з пацверджаннем жалавання вялікага князя Вітаўта магілёўскім баярам Іллінічам [121]:

*у Бакштах, 11 сакавіка 1447 году*

т великого князя Казимера королевича наместником Могилевским и старцем, хто коли будет, и всим мужем Могилевцом. Жаловали нам Иллиничы, што ж пры дяди нашом, пры великом князи Витолте, Илья отец их и они не тягивали за волостью на всякии потяги, а на то была в них и великого князя Витолта грамота. Ино коли пры великом князи Витолте не тягивали з волостью, и мы их по тому ж пожаловали, ненадобе нам и ныне на всякии потяги з волостью тягнути, коли будет так было пры великом князи Витовте.

Писан у Бакштах, марта одиннадцатый день, индыкт десятый.

Вышэйшы ваенны стан складалі *бояры* або *паны хоруговные, рыцерство*. Часам увесь шляхецкі стан разумеўся як ваенна-службны. Напрыклад, "рыцерством" названы ўвесь шляхецкі стан у Літоўскіх Статутах. Ніжэйшы стан шляхты ("стан низшый") складалі *панцырные бояры* або *панцырные слуги*, *щытные слуги*, *служебники*, *кметы* якія служылі "под господарем, князьями або панами" [122].

Прыкладам ліста аб залічэнні да "хоруговной шляхты" ёсць грамата князя Свідрыгайлы 1438 г. [123]:

*у Луцку, 23 красавіка 1438 году*

Милостью Божою, мы великий князь Швидрыкгало Руский и иных, чыним знаменито сим нашым листом кождому, нынешним и напотом будучым, хто на него возрыт или чтучы его услышыт, кому ж то коли его будеть потребно:

Иж видев и знаменав службу нам верную николи неомешканую нашого верного слуги Богуша Оверкича Тимоха, который будучы з земли Сиверской от Новагородка, роду зацного, великого, человеком рыцерским, а хотечы тым болей рыцерства своего доказовати, до земли и панства нашого, великого князтва Литовского, значне и оказале выехал <...>. А так мы хотячы его в здешнем панстве нашом, пры дворе нашом заховати, оного прыймуемо и прыяли есмо, яко человека зацного, родовитого и рыцерского, которому, яко человеку рыцерскому, з ласки нашое надаемо волности вселякое в здешнем панстве нашом, великом князтве Литовском зажывати, такое как иншыи князи, паны и шляхта хоруговные зажывають и зажывати будуть, обецуючы ему, дасть Бог, и опатренье вшелякое якое значное дати, как иншой шляхте в здешнем панстве нашом даемо и опатруемо. И маеть он нам верным быти: а с ким мы будемо смирны, и он з нами, а с ким не смирны, ино и он противко тому маеть быти несмирен.

И вольно ему в здешнем панстве нашом жону пояти, и титулу вшелякого и вольности шляхецкое, яко властному шляхтичови, тубыльцови, зажывати. А он нам маеть, посполу з иншою шляхтою, князи, паны и земяны нашыми, службу военную отправовати, и сесь лист наш маеть трывати вечно и непорушно, на веки веком.

А пры том были сведоки, наша рада, князи и панове <...>.

Дробная шляхта, якая сядзела ў сваіх маёнтках, называлася *околичные бояры*. Яны ўтваралі цяглавыя адзінкі – *околицы*. *Околичные суседи* лічыліся годнымі веры сведкамі ў зямельных і іншых справах. У судовых выраках 15 стагоддзя сустракаюцца такія выразы, як "ведомо всей околицы, што то есть земля моих людей" або "подали светков многих бояр Жыжморских и иных околичных бояр и людей". У Судзебніку 1468 г. *околица* ды *околичные суседи* паўстаюць як урады агульныя для ўсіх зямель Вялікага княства Літоўскага. *Околичные бояры* сведчылі аб "зводе" шляхецтва і бралі ўчасць у іншых важных юрыдычных справах [124].

Паводле выраку вялікага князя Жыгімонта 1507 г. шляхецтва вызначалася праз сведчанне двох шляхцічаў або праз стары ліст вялікага князя або паноў-радных [125]:

...Пак ли ж бы тот кому нaганено не мог ни одного шляхтича на то собе мети а естли бы на то мел лист у себе старый великого князя Витовта и Жыкгимонта, або отца нашого Казимера короля его милости, або некоторых Панов Рад высоких, а в том бы листе писано его боярыном не подле его поведанья, нижли або у праве с ким будет стоял, або от кого до него лист будет писан шляхтичом, тым он листом мает шляхетство свое вывести.

Належнасць да баярскага стану даўнімала найперш службу гаспадару. "Галоўнай катэгорыяй дзяржаўнасці і прынцыпам грамадскага жыцця як у краінах Заходняй і Цэнтральнай, так і Ўсходняй Еўропы на пэўным этапе іх развіцця была служба падданых

гаспадару. У ВКЛ гэты прынцып ахопліваў усе станы грамадства: ад селяніна да Гедымінавіча. Не служыць гаспадару ці той асобе, якая служыла гаспадару, было раўназначна быць па-за грамадствам” [126]. “Служба” была прынцыпам, які забяспечваў адзінства волі гаспадара праз вертыкальную арганізацыю грамадства і трансляцыю волі гаспадара ў ім. Наймя гэтае “ярмо службы” (joci servitutum) мелася быць скасаваным у Літве паводле дэкларацыі шляхецкага прывілея 1387 г.: з увязаннем каталіцтва ў Літве мусілі пашырыцца прынцыпы рымскага права з яго аўтаномнасцю праўных суб’ектаў. Але насамрэч рэцэпцыя прынцыпаў рымскага права ў Літве 15 ст. была вельмі слабой і да 16 ст. Літва амаль цалкам захоўвала старажытны дакрэўскі характар свайго права, адпаведны духу традыцыйнага хрысціянскага персаналісцкага валюнтарызму.

Баяры чынілі ваенную *службу боярскую*, *службу земскую* з зямель, якія дзяржалі. У камплекце грамат 1347 г.: “Нехай он тыи вси вышеписаныи земли и сеножати и гай и пруд держыт подлуг того, как покупил и повыменял, а нам с того *службу земскую* заступует”. І пазней гаспадар надае баярам зямлю пад звычайнаю ўмоваю: “...мает *службу земьскую* с иншыми боярами нашыми Пинскими конем служыти” [127]. Няздольнасць выканання земскае службы з маёнтку можа быць прычынаю продажу зямлі. Напрыклад, у 1470 г. віленскі месціч Міхайла Яковіч прадаў свой маёнтак: “Я Михайло Якович знакомито чыню сим моим листом, <...> што ж <...> будучы пры старости своей и *не могучы службы господарское земское послужыти* <...> продал есми имене свое Воложынское никому ничым непенное пану Якубу Корыбановичу Гордыне...” [128].



*Літоўскія шляхціцы на пахаванні вялікага князя Вітаўта*
*(урывак малюнка з “Кнігі цэсара Жыгімонта”, 1443 г.)*

Ваенная служба ёсць галоўнаю павіннасцю баяраў. Яна называецца *служба доспешная, щытная, панцырная, боярская* [129]. Гэтая служба ёсць умоваю надання баярам зямлі. Напрыклад, у дарчай грамаце караля Валадыслава-Ягайлы 1399 г.: “...слуга наш верный пан Ходко Чемеревич послужыл нам верне. Мы возревшы на его верну службу, и хотяче по нем, аж бы нам верней послужыл, и нашым детем, его дети и его щаткове, дали есмо и даем наше село Надеево ис прыселком <...>. А ис того имають нам *служыть* и нашым наместком, он и его дети, и его щаткове *копьем, а шестью стрельцев*, где коли нам будеть надобно, к нашей потребе” [130]. У дарчай грамаце князя Сямёна-Лінгвена Альгердавіча 1393 г.: “...с которых кгрунтов ныне и на потом будучые потомкове жадное пошлины нам князю и державцом нашым давати не мают, опроч *службы военныя*, которую посполу из другими боярми нашыми Мстиславскими повинны будуть отправовать” (гл. дад. №35). У судовай грамаце вялікага князя Вітаўта баярам Пуні і Бірштанаў 1420 г.: “Тыи бояре биркштанскии мовили: тую землю держым за слушною прычыною, князь Мотфей Микитинич тую землю нам дал на особную *службу боярскую*. <...> врадник наш пунский

Ердей Шваб нам то поведил: иж тот Якуб Станкевич служыт *службою боярскою*...". Паводле агульназемскага прывілея 1447 г. літоўскім баярам быў дазволены выезд за межы ВКЛ пад умоваю "штобы службы нашы не были замешканы".

Дворныя баяры, згодна з рыцарскім этыкетам, абараняюць годнасць князя. Напрыклад, вядома аб такім выпадку ў 1403 г.: калі комтур брандэнбургскі аблаяў вялікага князя Вітаўта, шэсць літоўскіх баяраў выклікалі на двубой гэтага комтура і іншых нямецкіх рыцараў [131].

*Служба доспехом* і *служба конем* звычайна адбывалася за ўласны кошт баярына, "на своей страве". Паводле земскага прывілея вялікага князя Ягайлы 1387 г., такі парадак быў старажытным звычаем [132]. Паводле пастановы пана ўмовы службы маглі быць і іншымі. Напрыклад, у 1469 г. Якуб Неміровіч Шчыт надаў войтаўства ў Бельскім павеце свайму дзяку Фёдару, за што той забавязваўся "с нами або нашыми наследки на войну с кушею у панцерю з обсеичом и с прылбицою на нашей страве служыти <...> на своем коне добром" [133].

Кожны літоўскі вайсковы загон меў свой сцяг – *хоругву*. *Хоругвами* таксама называліся кавалерыйскія загоны – земскія і надворныя. Ад харугвы паходзіць назоў дастойнасці *хоружого* – павятовага кіраўніка баярства ў ВКЛ. Яны згаданы ў прывілеі 1359 г.: "хоружыи нашыи в хоружствах своих у Великом князьстве Литовском". Абавязкі харужых згадваў пазней Статут 1529 г.: "А станы свои вси поветники мают у одном месте пры хоружом мети".

Вайсковы лад, вядомы пад назовам "літоўскага", быў агульным для ўсіх зямель Вялікага княства Літоўскага. Напрыклад, у 1432 г. ваенны звычай князя Івана Бабы з Друцкіх быў вядомы ў Масковіі як "літоўскі" ("изрядивъ свой полк с копьи по литовски") [134]. Вайсковая тэрміналогія Вялікага княства Літоўскага была амаль цалкам старабеларускаю, у ёй захаваліся толькі рэдкія германізмы з старажытнае мовы літвы, такія як *хоругва, райтиники* (гл. артыкул "Германскі суперстрат у старажытнай Літве"). Таксама дзейна запазычвалі такія пашыраныя германізмы, як *рыцер, панцыр, шранки*.




*Выявы вершнікаў на літоўскіх пячатках канца 14 ст.*
*і ўзбраенне літоўскіх ваяроў канца 14 ст. (рэканструкцыя Ю. Бохана)* [135]

Баяры займалі мясцовыя ўрады, кіравалі валасцямі і паветамі. Мясцовыя ўрады на ўсіх землях Вялікага княства Літоўскага былі ўраджаны паводле старажытнарускіх узораў. Ніжэйшаю ўрадаваю адзінкаю была *волость*, якая ахапляла колькі мястэчак з сёламі. Да асяродку воласці – гораду або мястэчка – "тягнули" (спаўнялі павіннасці, *потяги*) навакольныя сёлы. Воласці маглі быць у наўпростым уладанні вялікага князя (*господарские волости*). У такім выпадку іхнім асяродкам быў *господарски двор*. Некалькі валасцей утваралі *повет*. На чале паветаў і гаспадарскіх двароў стаяў *тивун* або *наместник* – гэтыя пасады была таксама ўспадкаваны ад старажытнае Русі [136]. Грамата вялікага князя Вітаўта 1392 г. адрасавана "от Князя Великого Витовта къ моим воеводам и намесником и

къ всим моим тивуном по всей моей державе” [137]. Грамата Вітаўта жыхаром Барысава (між 1396 і 1413 гг.) загадвала: “...што же тивуном дохода их безменом не давати, но давати им тивуном доход у наш камень весячый у Меньский” [138]. У 1392 г. наместнік віленскі ГанулЬ у сваёй лацінскай дарчай грамаце віленскаму францысканскаму кляштару пісаўся як “*namestnik* Vilnensis” [139]. За часу вялікага князя Казіміра наместнікам у Майшагольскай воласці быў Юрый Мацковіч, у гаспадарскім двару Вількамір – Станько Юр’евіч, у гаспадарскім замку Меднікі – Мацко Страмілка, у гаспадарскіх дварох Неманойці і Аліта – Алёхна Няцевіч, у гаспадарскім двару Доўгі – Мікалай Доргевіч [140].

**Віленшчына і навакольныя воласці**
**ў канцу 14 стагоддзя**




■ асяродкі валасцей
● іншыя месты
✣ асяродкі прыходаў Літоўскае мітраполіі (паводле “Имена всем градом руским”)

Цівуны і наместнікі ў местах на Вяллі сачылі за праходам караблёў віленскіх купцоў, як вынікае з граматы вялікага князя Казіміра 1443 г. [141]:

*у Лідзе, 15 ліпеня 1443 году*

т великого князя Казимира королевича, наместником нашым, и тивуном, и бояром всим, по обе стороны Вельи, от Вилни и до Ковна. Которыи коли вилневцы пойдуть по Велье с торговлею судном, и вы бы их пропускали по нашым езом, и по боярским. Почыняйте ворота, куда судом ходити. Также и берег прыволили есмо им, со всею нашею радою, по обею сторонам Вельи судно тягнути, и въ верх, и на низ. И вы бы им и берега не боронили, занюж то есть наше доброе, и земское.

А писан у Лиде, под леты рожества Господа нашего Исус Хрыстова 1000 лет 443, месяца июля 15, индыкта 4.

Функцыі ўлады на месцах выконвалі таксама іншыя *урадники – старосты*, *державцы*, *войты, десятники* і інш. Прывілей вялікага князя Казіміра 1440 г. аб вызваленні жыхароў Вільні ад мытаў быў адрасаваны "княжатом, старостам, воеводам, наместником, заказцам, мытьником по мостом, по перевозом, и подорожным сторожом и всим врядьником", "во всем Великом княженьи в Литовском и у Руском" [142].

Ніжэйшымі ўраднікамі былі *децкия*, пасыльныя пры княскім двару, якія пазней выконвалі функцыі судовых выканаўцаў [143]. Гэтая пасада згадана ў віцебскай грамаце 1286 г. ("твой детьскый Плос") [144]. Ва ўстаўной грамаце вялікага князя Вітаўта Віцебску (каля 1392 г.): "...нам з Литвы децкого не слати, писати нам лист свой к наместнику нашому" [145]. У грамаце вялікага князя Жыгімонта 1435 г.: "А в децких дали есьмо той жомойте Якуба Довойновича" [146]. Гэты тэрмін трапіў у транслітараваным выглядзе і ў лацінскія граматы. Напрыклад, у прывілеі караля Ягайлы з 22 лютага 1387 г. былі згаданы "выканаўцы, па-народнаму дзецкія" (ministerialibus vulgariter *dzeckiye*) [147]. Паводле Судзебніка 1468 г. вялікі князь мог "дати децкого" ў выпадку немагчымасці развязання справы мясцоваю ўладаю.

Прывілеі вялікага князя Казіміра 1440 і 1447 гг. абумовілі, што мясцовыя ўрады маглі займаць толькі "свои земляне", "родичы" Вялікага княства Літоўскага, але не чужаземцы (гл. дад. №52 і №56). Прыкладам прысягі ўрадніка вялікаму князю ёсць прысяжная грамата намесніка луцкага Алізара Шыловіча каралю і вялікаму князю Казіміру з 1450 году [148]:

**Прысега пана Олизара Шыловича на верное служенье Королю его милости и на держанье замку Луцка къ Великому князству Литовскому, никому его не спускаючы**

Я пан Олизар Шылович прысегаю Богу и пречыстой Его Матеры и всим святым, и Королю его милости на том, иже ми его милости господару Королю служыти верно и Великому князству Литовскому прыяти, а што слышавшы о недобром его милости, то ми его милости поведать. А теж што ми его милость полецил и дал Лучоск держати, маю тот город Лучоск держати верно на Короля его милость къ Великому княжству Литовскому, не маю его никому спускати ани ко одной иншой стороне, толко господару Королю его милости и Великому княжству Литовскому. А Боже того не дай – господара Короля если бы не стало, тогды тот город Луческ маю спустить сыну его милости, который будеть на Великом княжстве Литовском, и Великому княжству Литовскому. Если то здержу, Боже помози ми; а если не здержу, побий ме Бог в душы и в теле.

Гаспадарскія граматы надавалі баярам права ўчасці ў кіраванні валасцямі і ў судзе [149]. Ураднікі ахоўвалі права і ў справах з замежнікамі. Каля 1413 г. намеснік полацкі Ян Няміра пісаў радцам Рыгі "што бы есте учынили право" і "штобы есте мене деля досмотрели правды" полацкім гандляром у Рызе [150]. У 1440 г. намеснік полацкі Сямён Гедыгоўдавіч пісаў рызскім радцам і суддзям паводле скаргі полацкага гандляра: "…ино просим вам, што бы есте ему тое заплатили, а учынили право, как мы вашым зде право чыним и платим" [151].

Прыкладам судовага выраку ўрадніка ёсць ліст ваяводы віленскага Міхайлы Кязгайлавіча намесніку медніцкаму з 1467 г. [152]:

Медники. Наместнику Медницкому Мацку Стромилку.
Искал перед нами Станько Мелейкович а Михайло Ивашкович, а Чыжевич Ян под Довцевыми сестрами, под Машкою а под Доротою, а под Васею, именья Сукневич. И мы о том досмотрели, а досмотревшы есмо и

прысудили есмо тое именье Довцевым сестрам. А Станько Мелейкович а Михайло Ивашкович, а Чыжевич Ян того именья не доискалися под ними. Ино штобы они в тое именье не вступалися.

Писан у Городне. Апрыля 19, индыкт 15.

Воевода Виленский, канцлер, пан Михайло Кезкгайлович.

Ураднікі сачылі за нормамі сямейнага права, клапаціліся аб правох дзяцей. Напрыклад, грамата ваяводы троцкага Радзівіла Остыкавіча (каля 1463 г.) загадвала Янку Табараву, які жаніўся з удавою, "детьми опекатисе и именьем, штобы розно не шло, докуль дети узростуть" [153].

**5. Землеўладанне, павіннасці.**

Стварэнне гаспадарства спрычыньвае з'яўленне апроч асноўнае адмены землеўладання – *отчыны* – яшчэ гаспадарскае *выслуги*, якую гаспадар надае падданаму за службу гаспадарству. Вялікі князь літоўскі надаваў або забіраў зямельныя наданні-выслугі, перамагаючы, калі трэба, вотчынныя правы ўладальнікаў, такім чынам, уставуючы перавагу гаспадарствавых пачаткаў над вотчыннымі. Паходжанне буйнога прыватнага землеўладання ў Вялікім княстве Літоўскім злучана з вялікакняскімі наданнямі-выслугамі і, такім парадкам, непарыўна знітавана з вялікакняскаю ўладаю, з гісторыяй Літвы як гаспадарства [154].

"Больш за тое, для гаспадара ВКЛ – гэта яго "вотчына" і "паньство", у якім ён "пануе". Сяляне, мяшчане, баяры і службовыя асобы ВКЛ – гэта мяшчане, баяры і службовыя асобы гаспадара. Такі погляд на ВКЛ не адмаўляе і самае блізкае кола памочнікаў вялікага князя – паны-рада. Ён выяўляецца ледзь не ў кожным выказванні і дзеянні вялікага князя. Вялікі князь не проста раздае маёнткі, пасады, розныя льготы і іншае – ён іх "жалует" і "дарует" і робіць гэта з "ласки" ці "особливой ласки". Да яго не проста звяртаюцца, а "бьють челом" [155].

Вялікі князь жалуе землі, грунтуючыся на сваім суверэнітэце ("з ласки нашое"), за добрую службу падданага гаспадарству: "...ино мы *з ласки нашое* на то дали ему сесь наш лист; <...> нехай он тыи вси вышеписаныи земли и сеножати и гай и пруд держыт <...>, а нам с того *службу земскую заступует*" (1347 г.); "дали есмо ему зо всими лесы и з дубровами, <...> и зо всими пожытки, <...> то есмо учынили, с паны радами нашыми, *за его верныи послуги*" (1383 г.); "*пожаловали* есмо пана Копача *за верные службы его...*" (1416 г.).

Вялікі князь, апрача таго што ёсць гаспадаром вялікага княства, ёсць яшчэ і вотчыннікам у сваёй асабістай "отчыне", якою ён наўпрост валодае, атрымаўшы ў спадчыну як "дедич". Гэтак, вотчыннае ўладанне вялікага князя Альгерда апрача Вільні складалі яшчэ Крэва, Віцебск і Полацк. У прывілеі 1359 г. Альгерд пісаўся: "Олькгерд великий князь Литовский, Руский, *дедич* Кревский, Витебский, Полоцкий и инных". Вітаўт у прывілеі 1388 г. пісаўся "великий князь Литовский, и *дедич* Городенский, Берестейский, Дорогицкий, Луцкий, Володимерский и иншых". Дваістасць характару ўлады вялікага князя літоўскага што да яго ўласнай вотчыны і да ўсяго гаспадарства спрычыніла падзел тэрыторыі Вялікага княства на гаспадарскую і земскую ды падзел на скарб гаспадарскі і земскі [156]. Ва ўласна Літве ў вузкім сэнсе да 16 стагоддзя захоўваўся адметны парадак землеўладання і службы з зямлі ("службы литовские"), знітаваны з прыналежнасцю гэтых земель да вотчыны вялікага князя (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя").

Вотчына – гэта старажытная адмена родавага землеўладання, якая ўвайшла ў літоўскае права. Земскім прывілеем 1387 г. літоўскім баярам было дадзена права адчужаць вотчыну; але (паводле "прав земских") перадаваць можна было адно трэць яе і за згодай усіх "близких", астатнюю частку можна было адно аддаваць у заклад [157].

Земскі прывілей 1440 г. замацаваў правы вотчын баяраў і месцічаў [158]:

А також которыи княжата, или панове, или бояре, или местичы отчыны свои, именья своя держат, а любо што будеть кому велики князь Витовт дал, то им держати, по тому, как у королевстве Польском княжата и панове,

местичы держат; усхочет ли хто свое именье продати ль, отдати ль, заменити ль с ким, можеть по нам, а любо нашым наместникам явив.

Выслуга – гэта адмена землеўладання, якая наўпрост знітавана з вялікакняскаю ўладаю і з службаю гаспадару. Значных аб'ёмаў наданняў зямель на ўмовах ваеннае службы патрабаваў вайсковы лад Вялікага княства Літоўскага, які складваўся ва ўмовах няспыннае вайны з крыжакамі. Гэтак, у 1276 г. вялікі князь Тройдзень "посади" ў Горадні і Слоніме прускіх перасяленцаў, якія выконвалі ўставічную ваенную службу [159]. Звычайную практыку надання зямлі на ўмовах службы адлюстроўвае абяцанне вялікага князя Гедыміна ў лісце да ганзейскіх гарадоў 1323 г. надаць зямлю рыцарам і іншым перасяленцам у Літву [160]. У 1325 г. вялікі князь Гедымін надаў баярыну Барэйку Слонім з сёламі [161].

Князь Андрэй Альгердавіч між 1370 і 1387 гг. надаў баярам Фёдару і Дзмітрыю Корсакам сяло Сямёнцава [162]. Князь Вітаўт у 1383 г. надаў Васілю Карачаўскаму "за его верныи послуги" сяло Княжую Луку "зо всими пожытки, ему и детем его и всим потомком, на веки вечные" (гл. дад. №25). Кароль Ягайла ў 1399 г. надаў пану Ходзьку Чамярэвічу, "возревшы на его верну службу", сяло Надзеева "...со всим ужытком, како к нему из веку прыслушало, старыми границами. А то даем тако, на веку веком, ему и его детем, и его щатку, не имаеть от них отойти никоторым веремянем" [163].

У 1416 г. вялікі князь Вітаўт надаў Дзярэчын (пад Слонімам) пану Копачу [164]:

*у Горадні, 10 кастрычніка 1416 году*

Сам Александер Витовт, велики князь Литовски и Жомойтски.
Пожаловали есмо пана Копача за верные службы его што он нам чынил у цесара и у папежа. Дали есмо ему Деречын зо всими селы и пущою, как держал Дремуть, вечно и непорушно у прок и его сщадком. А Дремутю там десять мужей казал ему дати.
Писан у Городьне, индыкта десятого, октебра десятого дня.

У 1415 г. вялікі князь Вітаўт надаў баярыну Самбору землі ў Жамойці на ўмовах коннае службы [165]:

*у Вільні, год 1415*

Витовт, великий князь Литовский, Руский, Жомойтский.
Бил нам господару чолом слуга наш Самбор, абыхмо ему дали тры пустовщызны в окрузе Ясвоньском. Ино мы ему дали Вейкутишку, Трумпишку и Витмонтишку, с которых он нам и потомком нашым конем служыти маеть.
Писан у Вилни, индыкта десятого, году тысеча чотыриста петнадцатого.

Выслуга, на адрозненне ад вотчыны, не была здабыткам роду, яна надавалася адно асобнаму падданаму і яго наўпростым нашчадкам. Напрыклад, умова "особно от братьи" была ў дарчым лісце вялікага князя Казіміра яго лоўчаму Мішку Вештартавічу з 1466 г. [166]. Выслугаю-наданнем можна было распараджацца без згоды родзічаў. Гэтак, княгіня Агаф'я Астрозская, надаючы ў 1461 г. сваёй дачцэ два сёлы, пісала: "Она вольна по моем жывоте кому отдати, продати, по душе отдати, бо то не есть вотчына мужа моего ани детей моих, бо то ми дал господарь мой князь великий Витовт" [167].

Гаспадар мог надаць або забраць частку выслугі. Напрыклад, у грамаце вялікага князя Казіміра ваяводзе віленскаму з 1457 г. [168]:

*у Дарагічыне, 28 лютага 1457 году*

Дали есмо воеводе Виленскому, пану Кгастовту село Жослы пана Евневское у Троцком повете со всим по тому, как небощык Евнюс держал пры великом князи Витовте. А што будеть прылучоно после

небощыка пана Евня, а любо што мы прыдали, а любо што небощык пан Нац прынял сам собою, того не даем, а и озеро Понемоньское на нас есмо повернули.

Писан у Дорогичыне, февраля 28, индыкт 5. Пан Михайло.

Князі маглі адняць наданне за “непадобныя” ўчынкі. Гэтак, князь Свідрыгайла пісаў у сваёй грамаце 1436 г. [169]:

<...> ино тот Радивил, который перед тым тое именье держал, стоя на своего господара, на сестренца нашого князя Митка Давыдовича <...> и выдал его князю Жыкгимонту неподобными речьми. У той то речы князь Жыкгимонт князя Митка инял и згубил, а сам тот истый Радивил у тых речох избег и именье поверг у Городку, тое истое, што есмо дали пану Федку Войниловичу. Тот Радивил у Подолью умер, а тыми учынки и тыми речьми своими неподобными именье стратил на веки и детем своим. <...>

Зямельнымі дзяльніцамі ў гарадох распараджаліся мясцовыя ўраднікі. Напрыклад, у 1445 г. ваявода віленскі Міхайла Кязгайлавіч адпісаў віленскаму мяшчаніну Максіму Блошычу сенажаць, якую той дзяржаў “еще пры великом князи Витовте” паводле ліста віленскага ваяводы Манівіда (гл. дад. №55).

У 1461 г. наместнік гарадзенскі Алёхна Судымонтавіч пацвердзіў куплю зямлі Станьком Дзяжковічам (братам віленскага біскупа) у ковенскага войта [170]:

*у Горадні, 6 траўня 1461 году*

Дали есмо сесь наш лист Станку Держковичу, князя Миколаеву брату бископову, на то, што он купил у войта у Ковенского, у Биляря, именье у Троцком повете, у Жыжморской волости. А тот дей войт у великого князя Витовта тое именье выслужыл. И мы ему прызволили тое именье вечно купити, а войту продати, а ему купити со всим с тым, с чым войт держал, а ему нам с того служыти.

Писан в Городне, мая 6, индыкт 9. Пан Олехно Судымонтович.

Зямлю з людзьмі маглі надаваць сваім слугам і баяры. Напрыклад, грамата дзедзіча Свіранаў Андрэя Даўгердавіча з 1454 г. [171]:

Мы Андрей Довкгирдович дедич Свиран. Явно будь нынешним и по том будучым в лист сий смотрячым. Обозревшы пильную службу нашого верного слуги Мишка дал и записал есми ему и его жоне и детем их тры земли на имя Даневу, Рачъютину и Релютову, Илью, дей осмь человеков на имя Рымша, Ейторта, Стальпутя, Худынусотя, Жемойка, Моня, Субоча, и з их сынми, и з их данью, и з их службами, я же есми тыи люди сам держал. И с тых земль и з людей он нам маеть служыть до нашого жывота, а по жывоте нашом с того именья вольно ему будеть служыти королю его милости або кому он усхочеть, а дети нашы и близки в то именье не мають ся уступати.

И на то дал есми ему сий наш лист с печатью нашею прывесистою.

А пры том были князь Иван Дмитрович а пан Ян Товтвил а пан Юшко Чыж а пан Кондрат. Дан лета Божьего Нароженья 1 чотырыста пятьдесят четвертого.

Баяры запісвалі землі і сёлы ў якасці вяна малжонкам. Напрыклад, у 1459 г. кашталян троцкі Алёхна Давойнавіч запісаў сваёй малжонцы двор Тарасовічы, выслужаны ў вялікага князя Жыгімонта [172]:

*у Вільні, 29 лістапада 1459 году*

Я пан Олехно Довойнович, пан троцкий, наместник новгородский, будучы у доброй памети и у добром здорови, никим не намолвлен але своею доброю волею и добрым умыслом, а з радою брати своей панов рады великого княжства Литовского дал есми жене своей Васце за вено ей двор Тарасовичы со всими доходы и з данми и со всими ужытки <...>. И с тым то даю и записую жене своей Васце за вено, а даю ей вечно ником непорушно выслужене великого князя Жыкгимонта. А дал есми так: вольна она тое имене продати, заменити и даровати и ближнему своему дати и даровати а любо на церковь дати, вольна куда хотя обернути. А мне ся у то ненадобно уступати, ани моим прырожоным, ани которому моему племени. Дал есми ей непорушно. <...>

А пры том был князь Венцлав бискуп луцкий, а пан Ондрей воевода троцкий, а пан Федко Олизаревич, а пан Рымовид Якгинтович наместник берестейский.

А на лепшую твердость печать есмо свою завесили.

А писан у Вилни, ноября 29, индыкта 8.

Кашталян віленскі Сямён Гедыгоўдавіч запісаў у 1451 г. сваю выслугу Мір сваёй падчарцы Ганне [173].

*у Смаленску, 27 сакавіка 1451 году*

Я пан Семен Кгедыкголдович, пан Виленский, намесник Смоленский, за памяти, ума доброго, у жывоте своем чыню светочно сим своим листом. Взял есми собе за дочку места жоны своее пани Милохнину братанну панну Анну Бутрымковну и с прызволеньем господарским короля его милости записал есми ей панне Анне выслугу свою, што есмь выслужыл на великом князи Жыкимонте: двор свой на имя Мир с пашными землями и з бортными и со всими людми, што к тому двору слушаеть, со всим тым, как есми сам держал, ничого не вымаючы собе, по тому а так вечно дал есми и записал дотце моей панне Анне Бутрымковне. С тым она маеть замуж пойти и або продати и заменяти, на церковь дать и ближнему своему отдать и куда хотя обернуть. И кому ль коли она, панна Анна Бутрымковна, отдасть, тому вечно и непорушно, а моим ближним в то не надобе ся уступати ани поискивать. А хто бы то хотел по моем жывоте рушыть, тому Бог мстить и судить.

А на то светки: владыка Смоленский Мисайло, околничый Смоленский князь Василей Ондреевич, Федор Плюсков, Ходыка тивун, Павел Полтев, Ян казначей, а капланы мои князь Якуб а князь Михайло.

Писан у Смоленску в лето 6959, марта 27, индыкт 14.

Архаічнаю рысаю землеўладання ў Вялікім княстве Літоўскім была повязь сплат і павіннасцей не з суб'ектам (уладаром зямлі), а з аб'ектам – з зямлёю [174]. Паводле розных службаў і павіннасцей існавалі розныя адмены зямель – *тяглые*, *дякольные*, *на боярскую службу*, *путницкие*, *ловецкие*, *соколничьи*, *конокормцевы* і іншыя. Адпаведна службам называліся залежныя людзі на адпаведнай зямлі: *путные* (якія выконвалі нейкі "пуць", напрыклад, развозілі лісты), *куничники* (якія давалі дань куніцамі) і іншыя. Напрыклад, у грамаце вялікага князя Жыгімонта 1435 г.: "...тым бы есте подавали по чоловеку, обыйскав таковские, штобы ся годили, штобы не путные, не данные, не куничники, а не такие, што на наше сено идуть" [175]. Вялікі князь мог памяняць прызначэнне зямлі. Напрыклад, у рээстру наданняў вялікага князя Казіміра (1440–1466 гг.) [176]:

Неменчынское волости пры пана Ганушове тивуньстве просил Медничанин Юшко Кгирвидович у Неменчыне земли пустое розбрано, на имя Дробовщины, а наследка дей нет; а были пять сынов, нет ведома, где ся

подели. И пан Ганус так королю поведал; ино будет ли так, и король великий князь дал на службу боярскую, а перво была ловецкая земля.

А писати прыказал пан Станко Судивоевич, маршалко.

Калі паўставалі пярэчкі аб купленай зямлі, былы ўладар павінен быў *очыщати* дзяльніцу, то бо сведчыць аб яе продажы. Напрыклад, у 1451 г. Ян-Карэйва Ядуговіч прадаў сваю зямлю ў Ваўкавыскай воласці віленскаму біскупу, "...ни одного права собе ани своим последком у тых землях не заховывая, але зо всим правом предреченому бискупу <...>. Будеть ли хто у тых землях бискупа и церковь нагабати, я хочу у то уступитися и боронити и очыстити тые земли" [177]. Віленскі месціч Міхайла Яковіч у сваім лісце з 1470 г. аб продажы зямлі пісаў: "А если бы хто хотел къ тому якою близкостью прыходити а того именья под ним поискивати, тогды маю их в том заступовати и тое именье им очыщати" [178].

Бальшыню сялянаў складалі *люди вольные, люди похожые*, якія былі асабіста вольнымі і маглі пераходзіць да іншых гаспадароў. Нявольныя сяляне, якія стала жылі пры адной гаспадарцы, называліся *челядь невольная* або *холопы*, а ў 15 стагоддзі таксама *отчызными* або *непохожыми людьми*. Нявольныя людзі не маглі быць сведкамі ў якіх-кольвечы справах ("холопу и робе веры не няти" – звычайны пункт літоўскіх устаўных грамат). У стан нявольнае чэлядзі траплялі засуджаныя злачынцы і ваеннапалонныя. Закупалі нявольных людзей таксама і з-за мяжы. Напрыклад, у 1325 г. рызскі архібіскуп вінаваціў ліфлянцкія ўлады, што яны прадавалі чэлядзь літвінам і "схізматыкам". Улады Тэўтонскага ордэну ў 1387 г. вінавацілі вялікага князя Ягайлу, што ён прадаваў нямецкіх палонных на Русі ў халопства [179]. Звычайным пакараннем за крымінальныя злачынствы, у тым ліку крадзяжы, быў перавод злачынцы ў халопы. Напрыклад, у рэестру наданняў вялікага князя Казіміра (1440–1466 гг.): "Нашку Сурвиловичу чоловек на имя Выдит, прокрался дей у семи копах" [180].



*Сяляне, што сымбалізуюць просты народ, пад тронам караля*
*(урывак мініятуры з рукапісу Вісліцкага статуту Валадыслава-Ягайлы, 15 ст.)*

У 1466 г. вялікі князь Казімір сваёю граматаю загадаў вызваліць усіх нямецкіх халопаў у паўночнай Літве і Жамойці [181]:

*у Перамышлю, 21 жніўня 1466 году*

Казимир Божью милостью король Польский и великий князь Литовский и Руский и Жомойтский и иных. Нашым наместникам Ковенскому, Вилкомирскому, Утенскому, Оникштенскому, Лынкгвенскому и Вешполскому, Вилкийскому, Ромикголскому, Упитьскому и теж Жомойтским нашым наместником и бояром нашым.

Даем вам ведать всим тым листом нашым, иж хто будет вас держать челядь немецкую: мужов ли, жонок ли, робят ли, бы есте пры нашей милости воли каждый хтонь коли буда собравшы всю тую челядь в Вешполи поставите на Святого Михаила день безизменно пред паном Радивилом Остиковичом.

> А хто немецкую челядь детка бы одного затаил, доведався тых будем казнить великими казньми, и именем и шыеми. То ведайте.
> А писан у Перемышли, августа 21.

Гаспадар сваім вcase выракам мог вызваліць цяглых людзей “од потяглей и дачок” і перавесці іх на ваенную службу. Напрыклад, судовы вырак ваяводы троцкага Івана Манівіда ў справе Круповічаў з 1444 г. згадуе аб вызваленні вялікім князем Вітаўтам ад “даней” і “дел” і перавядзенні на ваенную службу Крупаса ў Радуньскай воласці [182]:

> <...> Ино коли великий князь Витовт ходил в Немцы, тогды тых дед Крупос ходил с великим князем Витовтом и заслужыл великому князю; протож тогды великий князь отпустил их: деду тому Крупосу дани не давати ему, а никоторого дела им не тягнути с ними с посполитыми людьми, нижли служыти им великому князю доспехом, конем, как же то добрые слуги. Ино тые Круповичы, по тому жалованью великого князя Витовта, дани не давали пры Витовте, ани пры Швитрыкгайле, ни пры Жыкгимонте, ани пры сем, пры нашом господары, великом князи Казимеры. <...>

У судовым выраку 1496 г. ёсць згадка аб вызваленні ад цяглае службы і перавядзенні на даспешную і конную службу троцкіх людзей Яновічаў вялікім князем Вітаўтам [183]:

> <...> люди троцкие на имя Миколай Янович, а Миколай Медкеинович а Нацуй Ромейкович из своею братею и поведили нам, што ж дей дед их Янович служыл великому князю Витовту и был з ним на службе в Немцох и князь дей великий Витовт за его службу вызволил того Яновича со всих служеб и потяглей и дачок и лист дей был ему на то свой дал. <...> И пан дей воевода того межы них досмотрел и доведался, што ж великий князь Витовт того деда их Яновича за его службу вызволил и из потяглей, од дачок, нижли дей казал ему служыти доспехом а конем, и лист им пан воевода свой судовый на то дал.



*Князь збірае падаткі*
*(мініятура з Радзівілаўскага летапісу, 15 ст.)*

**Павіннасці** (*потяги*, *дани*, *дачки*) у Вялікім княстве Літоўскім спярша мелі характар павольных дароў (“чести”, “поклонов”) князю, што адлюстроўвае іх архаічнае грамадавае паходжанне. Ужо ў раннім часе існавання Вялікага княства Літоўскага ў ім былі вядомы ўставічныя павіннасці і мыты, як можна зразумець з абяцання вялікага князя Гедыміна ў яго лісце 1323 г. вызваліць перасяленцаў у Літву ад падаткаў, павіннасцей і таргових

мытаў [184]. Галіцкі князь Леў надаў (да 1301 г.) літоўскім баярам Мантсеку і Тутэнію зямлю ў Перамыскай воласці “со усими поборы, и с винами, и с головнитьством, и серпом, и с косою, и с млыном, со усими ужитки” [185] (гл. дад. №5) – відаць, гэтыя павіннасці, калі не існавалі ў тых жа паставах, то прынамсі былі вядомы ў Літве.

У дарчых лістох літоўскіх князёў і баяраў звычайнымі ёсць выразы аб наданні зямлі “зо всими пожытки” (1383 г.), “с данью и с землею и с людьми и со усеми доходы” (1387 г.), “зо всим, што к тому прыслушает” (1396 г.), “со всим правом <...> и со всими ужытки” (1407 г.), “со всими доходы и прыходы, з даньми, з мыты, <...> и со всими пожытки и податьми, што к тым селом слушало и тягло” (1427 г.) – такім парадкам, зямлю надавалі разам з усімі належнымі ёй павіннасцямі. Літва мела развітую сістэму зямельных павіннасцей. Напрыклад, літоўскія ўраднікі праявілі сябе добрымі юрыстамі ў пярэчцы з Тэўтонскім ордэнам у 1398–1401 гг., якая тычылася жамойцкіх сялянаў на чыншу і на дзесяціне: пярэчка цягнулася тры гады і скончылася юрыдычнаю перамогаю Літвы, што вымушаны быў прызнаць Ордэн [186].

Найстаражытнейшаю павіннасцю было *полюдье* – абавязак жыхарства воласці даваць князю дары і страву падчас асабістага аб’езду воласці князем. Палюддзе да 16 стагоддзя было абавязкам усіх наогул падданых вялікага князя літоўскага, што адлюстроўвае яго агульнагаспадарствавае паходжанне [187]. Назоў гэтае павіннасці трапіў у лацінскія лісты; напрыклад, у грамаце вялікага князя Вітаўта віленскаму біскупу з 1411 г.: “stacionis *poludze* apellato” [188].

Павіннасць пад назовам *подводы* або *повоз* даўнімала абавязак сялянаў адвозіць уласным коштам страву ў месцы захоўвання [189]. У дамоўнай грамаце палачанаў з князем пачатку 14 стагоддзя: “А в подводы ти, княже, коней в Полочан не брати, ни в посельских путников, ни в сябров городских” [190]. Ва ўстаўной грамаце вялікага князя Вітаўта Віцебску (каля 1392 г.): “А в подводы нам коней в Витблян не брати, ни в посельских путников, ни в сябров городских” [191]. Гэты тэрмін таксама трапіў у лацінскія граматы; напрыклад, “*podvodis*” былі згаданы ў прывілеі караля Ягайлы з 22 лютага 1387 г. [192].

У гэтым жа прывілеі былі згаданы старажытныя падаткі *серебщызна* (vulgariter *srzebrzczysna*) і *дякло* (*dakla*). *Серебщызна* была грашовым падаткам, а *дякло* было падаткам (пераважна збожжам) за дзяльніцу зямлі. Пра цяглых, простых людзей лісты звычайна кажуць, што яны “службою тяглою служать и дякло дають” [193]. Факт давання дзякла быў дастатковым, каб залічыць чалавека да “простых”, не баяраў. Напрыклад, у адным судовым выраку аб жыхарох Мерачы: “Мы, бачачы то, иж их в тых листех бояры их не менено, зася спытали есмо их, давали ль они дякла на господаря его милость. Они сами ся перед нами к тому прызнали, же дякла здавна дають...”, таму былі прызнаны “простымі” людзьмі [194]. І наадварот, факт недавання дзякла даводзіў прыналежнасць да баярскага стану. У 1488 г. вялікі князь Казімір гэтак пацвердзіў шляхецкую службу баяраў [195]:

*у Вільні, 30 сакавіка 1488 году*

Казимир, божъю милостью король Польский, великий князь Литовский, Руский, княже Пруское, Жомойтский и иных.

Наместнику эйшышскому пану Олехну Габарю и иным, хто потом будеть здеся. Били нам чолом Невоиновичы, а Виштортовичы, а Кгинцевичы, Эйдыкгиновичы, а поведили нам, што ж ещо дядя наш великий князь Витовт перезвал з Жомойти и подавал им именья тут в Литве. То пак некоторыи десятники прыискивали их перед нами, иж бы они дякла давали за дяди нашого за великого князя Витовта. И они бояре послалися на пана Радивила Остыковича и на пана Михайла Монтовтовича. И мы сами пытали пана Радивила и пана Михайла Монтовтовича. И они светчыли, што ж дед их пана Якуба Раловича деду рожоный брат. А дякол не даивали ни дедове их, ни отцы их за дяди нашого за великого князя Витовта и за великого князя Жыкгимонта.

И мы того досмотревшы с паны радою нашою великого князства Литовского, и врадили есмо так, што ж им ненадобе дякол давати, ани

> иншых которых служоб з селяны; служыти им по тому, как которыи шляхтичы служать, так и им служыти.
>
> Писан у Вильни, марца трыдцатый день, индыкт шостый.
>
> Пры том были: пан Михайло Кгезкгайло, воевода виленский, пан Радивил Остык, воевода троцки, пан Михайло Монтовтович, староста луцкий.

Мясцовыя ўраднікі паведамлялі гаспадару аб звычайных павіннасцях і падатках. Вялікі князь Казімір распытваў аб пошлінах часоў Альгерда і Вітаўта. Напрыклад, віцебскі баярын Васіль Мікулініч у 1444 г. гэтак пісаў вялікаму князю Казіміру аб павіннасцях Брушанаў [196]:

> Господину господару великому королю слуга твой Василей Микулинич твоее милости, господару своему, низко чолом бьеть.
> Што твоя милость пишеш, господар мой, до мене о тых людех о Брушанех, о пошлинах, ино я, господару, Олькгирда не помню, помню князя великого Витовта, дядю твоего; и то, господару, помню: давывали пятдесят куниц княгини великой Витовтовой, с дыма по куницы, а по тры грошы жытщыны, а в кухню по курети и по десети яец и по полгроша; а бобровник один с конем и со псом, а дохода ему грош; а къ жниву тры дни, и на яр тры ж дни, а сена четыры стырты ставять, и на Усоячы ез забивають старына ж, а в Арейнинах не бывало, то им, господару, новина ж; а под наместники у подводах не хожывали, хожывали под князем великим Витовтом дяди твоего от Вытебска до Смоленска, а от Смоленска до Полоцка; а о суды межа, головщына, о сокольее гнездо, о бобры, з еремя, а то сужывали на городе наместники твои.

Галоўнаю адзінкаю абкладання была *соха* – яна азначала памер дзяльніцы, якую ўраблялі адною сахою [197]. У грамаце караля Ягайлы 1389 г.: “И з нашего двора две сосе роли...”. Гэты тэрмін трапіў у лацінскія граматы. У 1482 г., упасажваючы касцёл у Упніках (на рацэ Свенце), дзедзіч гэтага мястэчка Мікалай Радзівілавіч запісаў касцёлу зямлю па-простаму менаваную “на чотыры сохі” (...terram super quatuor aratra vulgariter *na czothiri sochi*) [198]. Падатак з сахі называўся *посощына* і лічыўся “старыною” ўжо за вялікага князя Вітаўта (“То старына за Витовта была <...>; з отчын боярских не давана посощына <...> а што прыданье великого князя Витовта, или иных великих князей, и с того давана посощына”) [199]. Зямлю мералі і на *бочки* (гэтая мера азначала дзяльніцу зямлі, якую можна засеяць бочкаю жыта). У граматах 1347 г.: “поле на чотыры бочки”. Мера зямлі на *бочки* (*beczki*) почасту выступае ў дарчых граматах літоўскім касцёлам [200].

Сенажаці мералі на *стирты*. Напрыклад, у граматах 1347 г.: “сеножати на стирту сена”. Гэты тэрмін таксама трапіў у лацінскія граматы. Напрыклад, у наданні Міхайлы Галігінавіча касцёлу ў Вавёрцы ў 1413 г. (cum prato unius *stirtae*) [201]. У вышменаванай грамаце Мікалая Радзівілавіча касцёлу ў Упніках з 1482 г. былі згаданы сенажаці “па-простаму менаваныя на тры сціргы сена” (vulgariter *na trzy sthirthi syana*).

Страву – перадусім мёд – мералі на ўшаткі, устаў (або ўстаўнае лукно) і на чатырохпяднае, пяціпяднае або шасціпяднае лукно [202]. У грамаце караля Ягайлы 1389 г.: “И еще прыдали есмо кождой церкви уставное лукно”. Князь Дзмітрый Альгердавіч у 1386 г. запісаў Лаўрышаўскаму манастыру “лукно пятипядное” [203]. Віленскі месціч Міхайла Яковіч у 1470 г. прадаваў сваю маёмасць “з данью медовою: з Воложынское пушчы ушатков шесть, а з Яцковское пушчы ушатков тры и пудовня…” [204]. Гэтыя тэрміны трапілі і ў лацінскія граматы. Устаўнае лукно згадана ў грамаце караля Ягайлы віленскай катэдры 1387 г. (*stawne lukno*) [205], у грамаце вялікага князя Вітаўта віленскаму біскупу 1411 г. (*stawna lukna* mellis) [206]. Лукно пяціпяднае (*lukno petypedne*) і лукно шасціпяднае (*lukno szescipedne*) згаданы ў грамаце князя Жыгімонта Кейстутавіча касцёлу ў Геранёнах 1411 г. і ў грамаце віленскага ваяводы Альберта Манівіда віленскай катэдры 1422 г. [207]. Ушаткі былі згаданы ў грамаце каноніка віленскага князя Андрэя Свірскага касцёлу ў Малым Мядзеле з 1463 г. (mellis sex *uszadki*) [208].

Апрача данін ад удзельных князёў і судовых він даходы *скарбу* земскага і гаспадарскага складалі яшчэ падаткі з зямлі і з рамесніцкае дзейнасці. У грамаце вялікага князя Вітаўта гарадзенцам з 1389 г. згаданы “податки и повинности до скарбу Нашого”: “с копища”, “с набытых пляцов”, “плечковое”, “лоевое”, а таксама “кгрунты оромые и сеножатные”, якія можна было “зажывати”, “до скарбу Нашого платечы” [209]. Гаспадарскія даходы ад корчмаў згаданы ў прывілеі Вільні 1432 г.: “А также хочом: первореченыи местчане плат корчмный на каждый рок нам, и хто по нас будет, нашым наместком, имають платити как первей и здавна тот истый плат давали и платили”. Чыншы з прыватных гаспадарак згаданы ў прывілеі Коўні 1463 г.: “Предречоные теж мещаня повинны суть и мают давати нам и по нас будучым чынше и дани, дати и платити, ис предречонных их роль...”.



*Літоўская карчма (рысунак 16 стагоддзя)*

Даходы вялікага князя складалі яшчэ дарожныя і іншыя *мыты*. Сістэма мытаў існавала ўжо ў 14 стагоддзі, як відаць з прывілея 1388 г. (“…мает мыто платити через вси мыта положоные, как и иншые дають мыто”). У гэтым жа прывілеі згаданы ўраднік, які спаганяў мыты – *мытник*. Вялікі князь Жыгімонт сваім прывілеем 1432 г. пацвердзіў права віленскіх месцічаў “мыта не давати по всей нашой земли, как издавна не давали <...> в Луцку, в Киеве и по Подольской земли, у Смоленску и у Берестьи, в Новегородку, у Менску, в Ковне и по иным пак мытом, по рекам и по мостом, по ставом, где николи будуть мыта” [210].

**6. Суд.**

Да Крэўскай уніі 1385 г. ролю суддзяў у Вялікім княстве Літоўскім выконвалі князі. Функцыя князёў як найвышшых суддзяў з неабмежаванаю абсалютнаю ўладаю вынікала з самой сярэднявечнай хрысціянскай феадальнай сістэмы і ролі ў ёй князёў як чыста суверэнных гаспадароў (гл. вышэй). Найвышшым суддзёй у апеляцыйнай інстанцыі (“одзыв до господара”) быў вялікі князь. *Господарски суд* складаўся з гаспадара і паноў-радных, да яго спачатна маглі звяртацца ўсе жыхары ВКЛ, а ад канца 15 стагоддзя толькі буйнейшыя паны [211].

Граматы 13–14 стагоддзяў падаюць некаторыя тэрміны і нормы судовае сістэмы ВКЛ: “правити”, “суда искати”, “правда дати”, “вина” (1264 г.), “суд дати без перевода”, “суженого не посуживати” (1265 г.), “исправу дати” (1298 г.) [212]. Тэрмін *исправа* азначаў развязанне пярэчкі праз суд. Напрыклад, у дамове літоўскіх князёў з польскім каралём з 1352 г.: “учынити исправу” [213]. У грамаце караля Ягайлы князю Скіргайлу 1387 г.: “...а всякому ми делу исправа ему чынити”. Прывілей 1359 г. ведае тэрміны *росправа* і *одзыв* (апеляцыя). Аб праве *отзыву* да вялікага князя згадуе і прывілей Коўні 1463 г. (“...которые бы не хотели суда и права им данаго слухати, а до нас бы ся отзывали...”). Зварот у суд пазначаўся тэрмінам “вступить в право”. Плата суддзі за разбор справы, паводле старажытнага рускага звычаю, называлася *пересуд* [214] (тэрмін згаданы ў прывілеі 1388 г.).

Дамовы з замежнымі гаспадарствамі абумоўлівалі парадак судоў з замежнікамі. У 1265 г. вялікі князь Войшалк уклаў дамову з Ліфляндамі, у якой было абумоўлена права суду літвінаў і немцаў у абодвух краёх [215]. Права суду было абумоўлена ў і дамове вялікага князя Гедыміна з Ліфляндамі 1323 г. [216]. Дамова Літвы з Ліфляндамі 1338 г. абумоўлівала парадак суду літвінаў, русінаў і немцаў таксама "па старадаўніх справах" [217]. Паводле дамовы 1352 г. літоўскія князі павінны былі "тягатися" з вугорскім каралём у справе князя Любарта (гл. дад. №15). Паводле дамовы вялікага князя Альгерда з польскім каралём 1366 г. па міжнародных справах былі прызначаны суддзі ад вялікага князя Альгерда, ад князя Любарта і ад польскага караля (гл. дад. №19).

Земскі прывілей караля Ягайлы 1387 г. адзначыў стварэнне апрычонае судовае ўлады ў ВКЛ: ён загадваў мець у кожным гаспадарскім двару і воласці Літвы па адным суддзі, якія павінны былі судзіць "паводле вызначанага звычаю і права" [218]. Прывілей Вільні 1432 г. таксама згадваў "судей земли нашое Литовское". Прывілей вялікага князя Вітаўта 1388 г. сведчыць аб існаванні досыць развітае судовае сістэмы Вялікага княства Літоўскага. Прывілей згадуе аб сведках у судзе ("сведетство допущено мает быти", "досветчыл бы то на него"), звычаі прысягі ("за ся прысягшы"), парадку спагнання *пересуду* ("судья места нашого жадного пересуда на них не мает брати, але мы только"), пераходзе некаторых спраў пад суд вялікага князя ("тот суд мает быти на нас захован") і іншых праўных нормах. Суддзя меў права распачынаць справу толькі паводле скаргі ("судья <...> къ суду не мает перед себе прыводити, оли ж бы через скаргу был наведен").

Вялікі князь разглядаў перадусім зямельныя пярэчкі князёў і вяльможаў (гл. дад. №32, 38, 47), а таксама справы, якія тычыліся належнасці да баярскага стану. Напрыклад, у выраку ў справе баяраў Пуні і Бірштанаў з 1420 г. вялікі князь Вітаўт прызнаў за Даротаю Станкевіч належнасць да баярскага стану і права на вотчыну, "гды ж есть за боярыном, которого служба есть яко и з биркштанцов".

З камплекту грамат у справе Круповічаў у Радуньскай воласці, якая распачалася ў 1444 г., даведваемся, што бакі на судзе павінны былі "довести" сваю правасць, пры патрэбе "поставити светков", маглі таксама "узвести децкого". Суддзі на чале з ваяводам троцкім Іванам Манівідам "подлуг права, сих есмо Круповичов оправили, а тых Бастунцев обвинили" [219]. З судовага ліста між Алёхнам Судымонтавічам і Юрыем Зяноўевічам 1457 г. даведваемся, што прыналежнасць зямлі вызначалі паводле прысягі сведкаў ("...естли тые сведки вси тую землю заведуть и на том прысягнут, тогды пана Олехновым людям тая земля") [220]. З выраку ў справе між Янам Петрашэвічам Мантыгердавічам і Янам Забярэзінскім аб бабровых гонах ля Куранца з 1460 г. даведваемся, што бакі спасылаліся на пошліны "за великого князя Витовта" і "за великого князя Жыгимонта"; ад сведкаў патрабавалася прысяга "без душного уразу"; справа была развязана "по прысязе" [221]. У 1468 г. наместнік слонімскі Мішка Вештартавіч размежаваў землі ў Дзярэчыне "прыказанем господара нашого великого князя Казимира и панов их милости рады великого князтва Литовского". Наконт прыналежнасці зямлі наместнік "пытал, кому то сведомо". Пан Васіль Капачэвіч "поставил светки перед нами"; сведкі абвясцілі, што гатовы прысягнуць ("и на то прысягшы заведем"). У выніку суддзі "водле тых людников сведецтва присудили есмо тые новины пану Василю Копачевичу держати" [222].

Судовы вырак мог улічваць "давность данья"; напрыклад, вырак старасты жамойцкага Яна Кязгайлавіча 1442 г. [223]:

> Пан Ян Кезгайлович, староста Жомойтский.
> Узводили бояре на Минмонта, што бы он держал куничника, и довели на него. И мы, досмотрев з бояры, как давно Минмонт того куничника державить, ино што коли отец наш перво Жомойтскую землю держал, тогды дал того куничника Кловзгайлу, отцу Минтовтову, и дал ему подлуг повеленья великого князя Витовта, на имя Мижыка. Ино тот Мижык умер и остался сын его Трумпа у Минмонта, и досмотрев з бояры, таки не отняли есмо того Трумпы у Минмонта, занеж давное данье, а на то Бог волен и господар наш.

Апрача ўрадавых судоў працягвалі існаваць старажытныя *копныя суды*, заснаваныя на звычаёвым праве вясковае грамады [224]. Копныя суды разглядалі таксама справы

царкоўных зямель. Напрыклад, у 1460 г. стараста віленскі выправіў сваіхураднікаў “на копу къ реком смотрыть права межы своими людьми Докшычаны и з Несдиловичы з князя Матеевыми архидъяконовыми людьми” ў барысаўскім і вілейскім паветах [225].

Пацвярджальны прывілей вялікага князя Казіміра на майтборскае права Коўні 1463 г. абумовіў аблічнасць старасты або намесніка на судзе баярскіх падданых:

> ...право Немецкое Матьборское так быть пожывано, <...> трымано бывает и заховано, съ всеми члонки клявзулами, або законами, <...> так аж рада и войт, который на тот час будеть, буде могл и мает судити, межы сторонами мовити, отсудити и сказати, подлуг права истности, у книгах нареченаго права трыманого.
>
> Але староста за правду наш на тот час будучы у их право не мает ся уступати, ани наместник которым коли обычаем, або под вымышленою прычыною, къ мордованью, кораныо, обьтяженью давать, але кгды ся прыгоди, аж бы некоторыи з подданых бояров, або селян нашых, мел бы дело, свар або неправду подлуг права из мещанином того истого места, тогды староста або его наместник пры суди может быти, и мает быти, але судячы подлуг истности, у предреченом праве писаной.

Гэты прывілей абумовіў таксама падсуднасць баяраў земскаму праву і суду старасты ды права апеляцыі мяшчанаў да вялікакняскага суда:

> А если пак ся прыгоди, некоторому боярыну у месте што противку местьским обычаем, правом, або доброволенством, згрешыть, преступить, або избродить, а в той преступце, або греху, был бы зыман або уфицон, тогды не подлуг истности предреченаго права Немецкого мает быти осужен або сказан, але *подлуг захованья обычаев земль Великаго Княжства*, на суде маеть дан быти старосте, вынявшы из особноя нашего преизволенья, або веданья, але старосты сказанью и осуженью будет подан намененому.
>
> Але мещаня вси посполите, и кажный особне, ничыему суду, только своих рядских або войта мают быти послушны, вынявшы, нижли бы их, або некоторого с них, прыгодило бы ся, до обличности стольца вельможности нашее, през певные, явные листы нашы, быть отозванаго и позваного, або през их, або некоторого из них, которые бы не хотели суда и права им данаго слухати, а до нас бы ся отзывали и отволали, в которых речах головным судьею и навышшым мы хочем быти сами.

Крымінальнае і працэсуальнае права Вялікага княства Літоўскага было кадыфікавана ў Судзебніку 1468 году. Судзебнік змяшчае досыць развітую сістэму адметных тэрмінаў: *сок*, *просока*, *истец*, *довод*, *шкода*, *вина*, *удел*, *сутяжаи*, *лицо*, *рок положыть*, *дати право*, *ис права выступить*. Тэрміны і нормы Судзебніка грунтаваліся на старых юрыдычных нормах, што відаць з азначэнняў “по-старому”, “по давному” [226].

**7. Адметнасць Літоўскага права.**

Сярэднявечнае літоўскае права ўтварылася ад звычаёвага права летапіснае Літоўскае зямлі. Як паказуюць вышпісаныя матэрыялы, у 14–15 ст. у вобласці літоўскага права існавалі такія адметныя тэрміны, як *володенье*, *дедич*, *дедичцво*, *урад*, *урадник*, *сведки*, *сведецтво*, *скарга*, *рок*, *вызнанье*, *сок*, *просока*, *шкода*, *речы рухомые и нерухомые*, *мыты*, *околица*, *околичные бояры*, *пожытки*, *податки*, *спадчына*, *межа*, *прыдаток*, *личба*, *уставное лукно*, *сябрылы* і інш. [227].

Як відаць з зместу літоўскага права, амаль усе яго тэрміны – пачынаючы з галоўных урадавых тэрмінаў *велики князь*, *бояры*, *урад* і г.д. – былі славянскімі (старабеларускімі), што ёсць выяўнаю ілюстрацыяй палітычнага жыцця літоўскага народу ў 13–14 стагоддзях. У літоўскім праве таксама было нямала тэрмінаў усходнегерманскага паходжання (*скарб, дякло, бонда, сок, лейти, борг* і інш.), якія паходзілі ад звычаёвага права германскае шляхты Літвы (гл. артыкул “Германскі суперстрат у старажытнай Літве”). Балцкае жыхарства Літвы

не ўчыніла ніякага ўплыву на ўрадавыя інстытуты Вялікага княства Літоўскага. Як адзначыў А. Краўцэвіч, “невядома ніводнага дзяржаўнага інстытута ў ВКЛ, які б можна было лічыць летувіскім па паходжанню” [228].

Паўстаўшы на грунце права старажытнае Русі, літоўскае права мела пэўныя асаблівасці, злітаваныя з грамадска-палітычным жыццём старажытнае Літвы. Поўнае развіццё такое адмены землеўладання, як вотчына, давяло да існавання вялікае лічбы асабіста вольных сялянаў і малых памераў баярскага землеўладання (у раннім часе існавання гаспадарства), што спрычынілася да перавагі натуральнага падатку – дзякла (скасаванага на прыватных землях адно прывілеямі 1434 і 1447 гг.) [229]. Відаць, з традыцыйнаю перавагаю індывідуальных вольных гаспадарак злітаваны такія нормы літоўскага права, як вельмі строгія пакаранні за крадзяжы (адлюстраваныя яшчэ ў Судзебніку 1468 г.), а таксама перавага прысягі, а не судовага супарства, у якасці крытэру судовага даводу [230].

У той жа час, з стварэннем гаспадарства літоўскае права займела выразлівы гаспадарствавы характар, які гарманічна злучаўся з старажытнымі звычаёвымі нормамі. У ранніх літоўскіх праўных лістох непарыўна злучана гаспадарствавае, крымінальнае, грамадзянскае і працэсуальнае права [231]. Літоўскія гаспадарствавыя акты ўзаконьвалі такія старажытныя з’явы, як ганенне следу (адлюстраванае яшчэ ў Статуце 1588 г., “водле давного обычаю”), калектыўную адказнасць, якая паходзіла з грамадавае старыны. Усе тры Літоўскія Статуты згадвалі аб старажытных копных судох. Архаічныя звычаі, напрыклад, звычай дарыць пчолы і дзяліць мёд (“сябровство пчел”, “пчелы наполу”) ператвараліся ў феадальныя павіннасці і кадыфікаваліся, як і нормы, што тычыліся “бортей”, “бортников” і іншых старажытных з’яў [232].

Галоўнаю гістарычнаю адметнасцю літоўскага права 13–14 ст. была яго прынцыповая апазіцыя рымскаму праву ва ўсіх галоўных падставах арганізацыі грамадскага жыцця, якая вынікала з антынамісцкай богумільскай веры Літвы. Калі рымскае права ставіла ў сваю аснову гарызантальную арганізацыю грамадства паводле прынцыпу “справядлівасці” (роўнасці і аўтаномнасці праўных суб’ектаў на грунце “натуральнага права”) – то літоўскае права заложна захоўвала традыцыйны хрысціянскі феадальны прынцып вертыкальнай арганізацыі грамадства паводле прынцыпаў трансляцыі волі гаспадара і службы падданых гаспадару. Калі рымскае права было заснавана на панятку асабістых “заслуг” (які быў перанесены рымскаю царквою і ў вобласць тэалогіі), то літоўскае права, у духу традыцыйнае хрысціянскае валюнтарысцкае тэалогіі, захавала ўяўленні аб адопцыі і апецы гаспадаром падданага, увасобленыя ў прынцыпах *службы* і *дару*. Прынцып *дару*, абаронены ў ВКЛ 15–16 ст. афіцыйнымі ўстановамі, у тым ліку судом, палягаў у аснове грамадскага жыцця ВКЛ як да, так і пасля Крэўскай уніі: прынцып *дару* вызначаў зносіны між уладай і падданымі падчас размеркавання пасад, уладанняў, пацверджання прыватных дамоў і якіх-кольвечы правоў, зносіны між прыватнымі асобамі дзеля атрымання паслуг або вызвалення ад абавязкаў і іншыя грамадска-праўныя сітуацыі [233]. Пранікненне прынцыпаў рымскага права ў ВКЛ, злітаванае з Крэўскаю уніяй, было нязначным і да 16 ст. амаль не сказіла агульнага адметнага характару літоўскага права, якое, як і ў дакрэўскі перыяд, было заснавана на тыпова хрысціянскім персаналісцкім валюнтарызме.

* * *

Вышпісаныя матэрыялы далі нарыс галоўных тэрмінаў і норм літоўскага права 13–15 стагоддзяў. Усе галоўныя тэрміны і нормы сярэднявечнага літоўскага права пазней увайшлі ў Літоўскія Статуты. Славянскі характар літоўскага права і яго паходжанне ад мясцовага звычаёвага права ярка выяўляюць характар палітычнага і грамадскага жыцця народу літвінаў 13–15 стагоддзяў. Такім парадкам, пытанне літоўскага права задзіночвае гаспадарствавы і нацыянальны аспекты гісторыі Літвы: з высвятленнем гісторыі літоўскага права выяўляецца сапраўднае аблічча літоўскага народу і гаспадарства 13–15 стагоддзяў.

* * *

Спасылкі:

Скароты:

| | |
|---|---|
| АЗР I: | Акты, относящиеся к истории Западной России. – т. I. СПб., 1846. |
| АЛРГ: | Акты Литовско-Русского государства. / М. Довнар-Запольский. Москва, 1897. |
| АЮЗР I, II: | Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. – т. I. СПб., 1863; т. II. СПб., 1865. |
| Грамоти XIV ст.: | Грамоти XIV ст. / упорядкування М.М. Пещак. Київ: Наукова думка, 1974. |
| ДМА | Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. / подг. М. Довнар-Запольский. Москва, 1897. |
| ЛМ III | Литовская метрика. Отд. I, ч. I, т. I. СПб., 1910. стб. 1-123. |
| Полоцкие грамоты | Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. / сост. А.Л. Хорошкевич. – вып. 1. Москва, 1977. |
| Послания Гедимина | Послания Гедимина. / подг. В.Т. Пашуто, И.В. Шталь. – Вильна, 1966. |
| ПСРЛ, т. 32, т. 35: | Полное собрание русских летописей. – т. 32. М., 1975; т. 35. М., 1980. |
| СДГА I: | Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковна, Трок. – ч. I. Вильно, 1843. |
| ЭнцВКЛ I, II, III: | Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. I. Мн.: БелЭН, 2006; т. II. Мн.: БелЭН, 2006; т. III. Мн.: БелЭН, 2010. |
| AS I, III: | Archiwum książat Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie. – t. I. Lwów, 1887; t. III. Lwów, 1890. |
| KDKW: | Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. I, zesz. 1. Kraków, 1932. |

(спасылкі на лісты паводле году – гл. у пачатку артыкула)

1. Прывілей 1387 г. / ЭнцВКЛ III. с. 426-427.
2. АЛРГ, №3; М.В. Доўнар-Запольскі. Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах. Мінск: Беларуская навука, 2009. с. 87.
3. Акты Литовской Метрики. Т. 1, вып. 1. / собр. Ф.И. Леонтовичем. Варшава, 1896. №4.
4. АЗР I, №165.
5. Акты, издаваемые Виленскою археографическою коммиссиею. – т. VII. Акты Городненского гродского суда. Вильна, 1874. с. 59; АЗР I, №159.
6. АЗР I, №103.
7. Ф.И. Леонтович. Источники русско-литовского права. Варшава, 1894. с. 5.
8. М.В. Доўнар-Запольскі, с. 87.
9. Ф.И. Леонтович. Очерки истории Литовско-Русского права: образование территории Литовского государства. СПб., 1894. с. 17; А. Дзярновіч. “Старына” ў Вялікім Княстве Літоўскім: ад непарушнасці традыцый да сацыяльных трансфармацый. // А. Дзярновіч. Фрэскі гісторыі. Мінск, 2011. с. 79-80.
10. Д.П. Ващук. Рецепция норм Русской Правды в памятниках права Великого княжества Литовского. // Литва эпохи Миндаугаса и её соседи: исторические и культурные связи и параллели. Москва, 2003; А. Дзярновіч. “Старына”... с. 79.
11. Ф.И. Леонтович. Источники... с. 5-11; Ф.И. Леонтович. Очерки... с. 9, 69.
12. СДГА I, №6.
13. АЗР I, №55.
14. АЮЗР I, №4.
15. Грамоти XIV ст., №47; М. Кром. “Старина” как категория средневекового менталитета. // Mediaevalia Ucrainica: ментальність та історія ідей. том III. Київ, 1994. с. 71.
16. А. Дзярновіч. “Старына”... с. 78-80.
17. Ф.И. Леонтович. Источники... с. 15.
18. М. Кром, с. 73.
19. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. вып. 2. Витебск, 1871. с. 232-233.
20. Ф.И. Леонтович. Источники... с. 18.
21. М.В. Доўнар-Запольскі, с. 87; ДМА, с. 118-119.
22. А. Дзярновіч. “Старына”... с. 79-82.
23. Книга Посольская Метрики Великого Княжества Литовского. т. I. Москва, 1843. с. 468-469.
24. М. Кром, с. 77.
25. Н.А. Максимейко. Русская Правда и литовско-русское право. Киев, 1904.
26. С.В. Васильев. К вопросу о чешском правовом влиянии в ВКЛ. // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына. / мат. міжн. канф. Мн., 2007. с. 239-243.
27. В.Ю. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. с. 150.

28. С.В. Васильев. К вопросу о чешском правовом влиянии... с. 242.
29. T. Czacki. O Litewskich i Polskich prawach. t. I. Warszawa, 1861. s. 51; Ф. Леонтович. Правоспособность литовско-русской шляхты. // Журнал министерства народного просвещения. 1908, №3. с. 77.
30. *прыр.:* І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII стст.). Магілёў, 2003. с. 217-219.
31. СДГА І, №6.
32. M. Gumowski. Pieczęcie Książat Litewskich. // Ateneum Wileńskie. 1930, R. VII, zesz. 3-4. s. 696.
33. ПСРЛ, т. 32. с. 31.
34. ПСРЛ, т. 32. с. 63, 69.
35. Грамоти XIV ст., №50.
36. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. / В.Т. Пашуто, Б.Н. Флоря, А.Л. Хорошкевич. Москва: Наука, 1982. с. 116.
37. Полоцкие грамоты, №2.
38. Akta unji Polski z Litwą 1385–1791. / S. Kutrzeba, W. Semkowicz. Kraków, 1932. №15.
39. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северно-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. т. 3. Вильна, 1867. №1.
40. І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі... с. 223.
41. Полоцкие грамоты, №15.
42. С. Жильцов. Смертная казнь в праве Древней Руси и юрисдикция великого князя в ее применении // Правоведение. 1997. №4.
43. KDKW, №15, 16.
44. там жа, №23.
45. H. Söderberg. La Religion des cathares: étude sur le gnosticisme de la basse antiquité et du Moyen âge. Upsal, 1949. p. 258.
46. А. Груша. И вновь о взаимных дарах // Studia Slavica et Balcanica Petropolitana. 2015, №2. с. 175-176.
47. И. Якубовский. Земские привилеи Великого княжества Литовского. // Журнал министерства народного просвещения. 1903, июнь. с. 296; ПСРЛ, т. 35. с. 136-137.
48. А. Груша. Аб кнізе Гісторыка. // М.В. Доўнар-Запольскі, с. 52-54; А. Груша. И вновь о взаимных дарах, с. 173-176; А. Груша. Крытычныя нататкі з нагоды новай працы Э. Гудавічуса. // Беларускі гістарычны агляд. 2007, Т. 14, сш. 1–2. с. 294.
49. Ф.И. Леонтович. Источники... с. 23; В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства. М., 1959. с. 343.
50. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1843. стб. 858.
51. В.Т. Пашуто. Образование... с. 343.
52. И. Малиновский. Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой Древней России. ч. II. Рада Великого Княжества Литовского. вып. I. Томск, 1904. с. 78; В.Т. Пашуто. Образование... с. 330-331.
53. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856. s. 160-161.
54. И. Якубовский, с. 296.
55. там жа, с. 297-298.
56. А. Семянчук. Лаўрышаўскае Евангелле. // Silva rerum nova. Vol. IX. Вільня – Менск, 2009. с. 239-240.
57. Акты, издаваемые Виленскою археографическою коммиссиею. – т. XI. Акты Главнаго Литовскаго трибунала. Вильна, 1880. №18.
58. ПСРЛ, т. 3, с. 343.
59. М.Д. Приселков, М.Р. Фасмер. Отрывки В.Н. Бенешевича по истории русской церкви XIV века // Известия отделения русского языка и словесности. 1916, т. 21. кн. 1, с. 58, 63, 66.
60. Г. Киприанович. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве. Мн., 2006. с. 47; О. Щербицкий. Русский язык и православная вера в бывшем Литовском государстве. Вильна, 1906. с. 5.
61. М.Ф. Владимирский-Буданов. Очерки по истории Литовского-Русского права. ч. I. Поместья Литовского государства. Киев, 1889. с. 24.
62. АЗР І, №166.
63. М. Любавский. Литовско-Русский сейм. Москва, 1900. с. 317.
64. Ф. Леонтович. Правоспособность литовско-русской шляхты. // Журнал министерства народного просвещения. 1908, №5, с. 139-141.
65. Грамоти XIV ст., №47.
66. АЗР І, №18.
67. Ф. Леонтович. Правоспособность... №5. с. 149.
68. ПСРЛ, т. 43. Москва, 2004. с. 123-124.
69. ЭнцВКЛ I, с. 566.
70. А. Ліцкевіч. Да пытання пра рутэнізацыю балтаў ВКЛ у XIV – пачатку XV ст. // Arche. 2009, №11-12. с. 67.
71. Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. Cracoviae, 1882. №234; П. Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў. Мюнхэн, Нью-Ёрк. БІНІМ, 1972. с. 50-51.
72. ЭнцВКЛ II, с. 557.
73. М.К. Любавский. Литовско-русский сейм, с. 327.
74. Ф. Леонтович. Правоспособность... №5. с. 152.
75. ПСРЛ, т. 32, с. 28.
76. ПСРЛ, т. 32. с. 135-136; И. Малиновский, с. 94.
77. Scriptores rerum Prussicarum. / her. von Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. – Bd. I. Leipzig, 1861. s. 172; Пётр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. М., 1997. гл. 291.
78. Ф. Леонтович. Правоспособность... №6, с. 250-251.
79. В.Т. Пашуто. Образование... с. 345-346.
80. ПСРЛ, т. 32. с. 42.

81. Kodeks dyplomatyczny Księstwa Mazowieckiego. Warszawa, 1863. №80; T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. V. Wilno, 1839. s. 87-88.
82. A. Czuczyński. Traktat książat litewskich...
83. Памятники древнерусского канонического права / Русская историческая библиотека, т. 6. СПб., 1880. прил., №30, стб. 170.
84. ПСРЛ, т. 32. с. 141.
85. АЗР I, №6; Грамоти XIV ст., №31.
86. ПСРЛ, т. 35. с. 135, 157.
87. ПСРЛ, т. 35. с. 136-137, 158-159.
88. ЭнцВКЛ I, с. 491, 660; ЭнцВКЛ II, с. 779; И. Малиновский, с. 44.
89. И. Малиновский, с. 92.
90. И. Малиновский, с. 92; А. Ліцкевіч. Да пытання пра рутэнізацыю балтаў ВКЛ... с. 67.
91. М. Любавский. Литовско-Русский сейм, с. 28-29.
92. АЛРГ, №2.
93. AS I, №26.
94. Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. СПб., 1848. №118.
95. ПСРЛ, т. 35. с. 165; И. Малиновский, с. 100.
96. ПСРЛ, т. 32. с. 156.
97. L. Korczak. Litewska rada wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków, 1998. s. 80-101.
98. L. Korczak, s. 80-81, 86, 101.
99. М.К. Любавский. Литовско-Русский сейм, с. 327.
100. AS I, №50.
101. И. Малиновский, с. 105.
102. AS III, №15.
103. АЗР I, №61; И. Малиновский, с. 103.
104. АЗР I, №60.
105. ЭнцВКЛ III, с. 429-430.
106. ЛМ III, стб. 36, 38; М.Ф. Владимирский-Буданов, с. 19, 21.
107. AS I, №54.
108. ПСРЛ, т. 32. с. 80; И. Малиновский, с. 49-50, 105; L. Korczak, s. 87.
109. ПСРЛ, т. 32, с. 28-29, 133.
110. М.В. Доўнар-Запольскі, с. 76; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны: мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць. Мн., 2001. с. 38.
111. ПСРЛ, т. 32. с. 42.
112. Прывілей 1387 г. / ЭнцВКЛ III. с. 426-427.
113. Р. Пятраўскас. Літоўская знаць у канцы XIV – XV ст. Склад – структура – улада. Смаленск, 2014. с. 195.
114. Codex diplomaticus Lithuaniae / ed. E. Raczyński. Vratislaviae, 1845. Cap. III, №1.
115. Р. Пятраўскас. Літоўская знаць... с. 56.
116. ПСРЛ, т. 32. с. 151-153.
117. В.Т. Пашуто. Образование... с. 300-301.
118. Ф. Леонтович. Правоспособность... №5, с. 136-137.
119. Ф. Леонтович. Правоспособность... №6, с. 277.
120. W. Semkowicz. Braterstwo szlachty polskiej z bojarstwem litewskiem w unii Horodelskiej 1413 roku. // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. – Wł. Abraham, J. Fijałek, J. Rozwadowski et al. – Kraków etc.: Gebethner i Wolff, 1914. s. 406-408.
121. АЮЗР I, №26.
122. Ф. Леонтович. Правоспособность... №6, с. 250-252, 263-9, 271-272.
123. АЗР I №37.
124. Ф. Леонтович. Правоспособность... №6, с. 260-262.
125. Skarbiec diplomatów / zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz. – T. II. Wilno, 1862. №2192.
126. А. Груша. Крытычныя нататкі... с. 291-292.
127. Древнерусское наследие... с. 91.
128. АЮЗР II, №74; KDKW, №265.
129. Древнерусское наследие... с. 92.
130. Грамоти XIV ст., №79.
131. И. Малиновский, с. 91.
132. Прывілей 1387 г. / ЭнцВКЛ III. с. 426-427.
133. Ю.М. Бохан. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. Мінск, 2002. с. 244.
134. ПСРЛ, т. 12. М., 1965. с. 22; ПСРЛ, т. 25. М.-Л., 1949. с. 252.
135. Ю. Бохан. Узбраенне вершнікаў Вялікага княства Літоўскага ў канцы XIV – пачатку XV ст. (па матэрыялах княскіх пячатак) // З глыбі вякоў. Наш край. вып. 1. Мінск, 1996. с. 242.
136. Древнерусское наследие... с. 117.
137. KDKW, №23.
138. АЮЗР I, №4; Грамоти XIV ст., №69.
139. KDKW №22.
140. М. Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. Москва, 1892. с. 90-91, 95, 146-147.
141. СДГА I, №8.
142. СДГА I, №6.
143. Древнерусское наследие... с. 119; ЭнцВКЛ I, с. 585.
144. Русско-ливонские акты. / собр. К.Е. Напьерским. – Санкт-Петербург, 1868. №49.
145. И. Якубовский, с. 297-298.
146. Литовская метрика. 6-я кн. судных дел. Вильна, 1995. №398.
147. KDKW, №6.
148. АЗР I, №53; АЮЗР II, №76.
149. М.В. Доўнар-Запольскі, с. 113.
150. Полоцкие грамоты, №44, 45.
151. там жа, №57.
152. ЛМ III, №2.
153. ДМА, с. 7.
154. А. Груша. Крытычныя нататкі... с. 272.
155. там жа, с. 286. *прыр.:* Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі, с. 223-224.
156. М.В. Доўнар-Запольскі, с. 107.
157. А. Груша. Крытычныя нататкі... с. 269.
158. Привилей Новогрудской земле 1440 г. // Рукописные памятники: Публикации и исследования / сост. Г.П. Енин. Вып. 4. Санкт-Петербург, 1997. с. 221-225.
159. ПСРЛ, т. 2. стб. 874, 877.
160. Послания Гедимина, №3, с. 32-33.

161. M. Stryjkowski. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego. / oprac. J. Radziszewska. Warszawa, 1978. s. 241-242.
162. Полоцкие грамоты, №6.
163. Грамоти XIV ст., №79.
164. AS I, №24.
165. АЮЗР I, №12.
166. Литовская метрика. Кн. 10 записей. Вильна, 1997. №82.3.
167. AS I, №55.
168. ЛМ III, №9.
169. Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. т. 1. Вильна, 1867. с. 327-328.
170. ЛМ III, №5.
171. KDKW, №218.
172. AS I, №54.
173. А. Ліцкевіч. Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum głównego akt dawnych у Варшаве. // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. вып. 11. Мінск, 2009. №6.
174. А. Груша. Аб кнізе Гісторыка, с. 53.
175. Литовская метрика. 6-я кн. судных дел. Вильна, 1995. №398.
176. ЛМ III, стб. 20; М.Ф. Владимирский-Буданов, с. 7.
177. KDKW, №204.
178. АЮЗР II, №74.
179. В.Т. Пашуто. Образование... с. 283.
180. М.Ф. Владимирский-Буданов, с. 8.
181. А. Ліцкевіч. Старабеларускія граматы XV ст., №14.
182. АЮЗР I, №22.
183. АЛРГ, №35.
184. Послания Гедимина, №3, с. 32-33.
185. Грамоти XIV ст., №2.
186. В.Т. Пашуто. Образование... с. 310-311.
187. А. Груша. Аб кнізе Гісторыка, с. 52; Древнерусское наследие... с. 97.
188. KDKW, №55.
189. ЭнцВКЛ II, с. 383; Древнерусское наследие... с. 100.
190. И. Якубовский, с. 296.
191. там жа, с. 297-298.
192. KDKW, №6.
193. М.В. Доўнар-Запольскі, с. 228.
194. там жа, с. 229.
195. АЛРГ, №14.
196. АЮЗР I, №23.
197. Древнерусское наследие... с. 96.
198. KDKW, №324.
199. АЗР I, №55; ЭнцВКЛ II, с. 405.
200. KDKW, №149, 224, 247 і інш.
201. KDKW, №247.
202. Древнерусское наследие... с. 96.
203. Грамоти XIV ст., №35.
204. АЮЗР II, №74.
205. KDKW, №1.
206. KDKW, №55.
207. KDKW, №56; №82a, p. 743; №86, p. 745.
208. KDKW, №244.
209. Грамоти XIV ст., №49.
210. СДГА I, №2.
211. ЭнцВКЛ I, с. 516.
212. Полоцкие грамоты, №1, 2, 3.
213. АЗР I, №1.
214. Древнерусское наследие... с. 99.
215. В.Т. Пашуто. Образование... с. 277.
216. Послания Гедимина, №8.
217. Послания Гедимина, №18.
218. Прывілей 1387 г. / ЭнцВКЛ III. с. 426-427.
219. АЮЗР I, №22.
220. Акты Литовской Метрики. Т. 1, вып. 1. №15; АЮЗР I, №31.
221. Ю. Мікульскі. Беларускія граматы 1460–1544 гг. са сховішчаў Вільні і Варшавы // Беларуская даўніна. вып. 3. Мінск, 2016. с. 151-153.
222. AS III, №17.
223. Археографический сборник документов, т. 3. №1.
224. ЭнцВКЛ II, с. 132-133.
225. KDKW, №236.
226. ЭнцВКЛ II, с. 641-642; ЭнцВКЛ III, с. 429-430.
227. *прыр.:* А. Груша. Крытычныя нататкі..., с. 298; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны, с. 38-39.
228. А. Краўцэвіч, с. 119; *прыр.:* А. Груша. Крытычныя нататкі... с. 298.
229. В.Т. Пашуто. Образование... с. 324.
230. А. Дзярновіч. "Генеалогія Літвы": Да праблемы эвалюцыі этнічных і сацыяльных супольнасцяў у познім Сярэднявечы і раннім Новым часе. // Першы Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі. Працоўныя матэрыялы. Т. 1. Kaunas, 2012. с. 32-33.
231. С. Жемайтис. Привилей Новогрудской земле 1440 г. // Рукописные памятники: Публикации и исследования / сост. Г.П. Енин. вып. 4. Санкт-Петербург, 1997. с. 215-216.
232. В.Т. Пашуто. Образование... с. 286-287; J. Jaroszewicz. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Cz. I. Wilno, 1844. s. 158-159.
233. А. Груша. И вновь о взаимных дарах, с. 174-176.

# Крэўская рэлігійная рэформа і яе наступствы

**1. Перадумовы Крэўскае уніі.**

У 1377 г. па смерці вялікага князя літоўскага Альгерда вялікакняскі сталец заняў яго сын Ягайла. Калі ў 1376–1377 гг. Альгерд імкнуўся ўсправіць гаспадарствава-царкоўны звяз з Маскоўскім княствам – адбыліся перамовы з маскоўскім князем і мітрапалітам аб жаніцьбе Ягайлы з дачкою маскоўскага князя, пераходзе ўсёй Літвы ў праваслаўе і задзіночанні мітраполіі ўсяе Русі [1], – то па смерці Альгерда гэтыя праекты былі скасаваны. У ладнай меры гэтаму паспрыяла палітыка маскоўскіх князёў, якія не жадалі задзіночання мітраполіі ўсяе Русі на чале з літоўскім мітрапалітам [2].

У снежні 1375 г., паводле дамоўленасці Альгерда з Канстантынопальскім патрыярхатам, пастаўленік Альгерда баўгарскі манах Кіпрыян быў высвячаны ў Канстантынопалю на "мітрапаліта Кіеўскага, Рускага і Літоўскага" з правам пераходу да яго тытулу мітрапаліта "ўсяе Русі" па смерці састарэлага маскоўскага мітрапаліта Алексія. Па смерці Алексія (12 лютага 1378 г.) мітрапаліт Літоўскі Кіпрыян афіцыйна стаўся мітрапалітам "усяе Русі". Але маскоўскія ўлады адмовіліся ад магчымасці задзіночання мітраполіі на чале з літоўскім мітрапалітам і не прызналі Кіпрыяна. Падчас выправы Кіпрыяна ў Маскву ў чэрвеню 1378 г. адбылося надзвычайнае (Кіпрыян у сваім лісце сам пісаў, што "...елико створилося надо мною, еже не створилося ни над единым святителем, как Руская земля стала"): старожа маскоўскага князя забараніла мітрапаліту ўязджаць у горад, паланіла яго, не зважаючы на лісты патрыярха і бізантыйскага цэсара, кінула ў вязніцу ды, абрабаваўшы (забраўшы сорак коні, адзенне і іншыя рэчы), выгнала з гораду [3]. Гэтым учынкам Масква паказала Літве, што адмаўляецца ад колішняга Альгердава праекту задзіночання мітраполіі на чале з літоўскім мітрапалітам.

Зацверджанне ў бізантыйскай царкве (па грамадзянскай вайне 1341–1347 гг.) паламіцтва не спрыяла інтэграцыі ў яе Літвы. Выпіраючыся дыялогу з каталіцкаю царквою, антылацінская партыя ў Бізантыі шукала радыкальныя адрозненні свайго багаслоўя ад каталіцкага і знайшла іх у навуцы Грыгора Паламы, сутнасць якое складалася ў замене традыцыйнага хрысціянскага спірытуалізму метафізікаю "энергій", дыялектычнаю сумессю крэацыянізму і неаплатанічнае натурфіласофіі [4]. Новая партыя, што прыйшла да ўлады ў Бізантыі ў 1347 г., абвясціла (пасля доўгага і напружанага змагання з часткаю інтэлектуальнае і палітычнае эліты Бізантыі) навуку Паламы афіцыйнаю тэалогіяй бізантыйскае царквы. Гэтыя навіны ў бізантыйскай царкве не маглі спрыяць поўнай інтэграцыі ў яе Літвы дзеля радыкальна спірытуалісцкага характару літоўскага хрысціянства. Урэшце адмова паламіцтва ад традыцыйнага хрысціянскага спірытуалізму адгарнула Літву ад грэцкай царквы, у той час як аднначаснае падвышэнне ў каталіцкай царкве ролі аўгустынізму (прызнанне касцёлам навукі Грыгорыя Рымінійскага аб дваістым перадвызначэнні і аказіяналізме Боскае волі – якая, фактычна, даслоўна перамаўляла сатэрыялагічную догму богумільства (катарства)) азначала магчымасць снаднейшае інтэграцыі літоўскага хрысціянства ў каталіцкую царкоўную арганізацыю (гл. ніжэй).

Да падзей 1347 г. бізантыйскія ўлады вельмі прыязна ставіліся да Літвы і яе далучэння да бізантыйска-праваслаўнага свету: цэсар Андронік II у 1300 г. падвысіў Літоўскае біскупства на ровень Літоўскае мітраполіі; цэсар Андронік III у 1337 г. згадзіўся на аднаўленне Галіцкае мітраполіі, якой часова праслухалі літоўскія біскупствы. Цэсар Андронік III і патрыярх Калека таксама падтрымвалі антыпаламітых у іхнім змаганні проці паламіцкіх навін. Вядома, што літоўскія паслы ў Канстантынопалю падтрымвалі антыпаламітых, то бо старую бізантыйскую тэалагічную плынь [5]. Трэба адзначыць, што і руская царква адразу не прыняла паламіцкія навіны: мітрапаліт Кіеўскі Феагност (родам грэк і абазнаны багаслоў) даслаў у Канстантынопаль адмысловае адпрэчванне паламіцкіх ідэй і выкляў прыхільнікаў Паламы (як учыніў і патрыярх Баўгарскі Феадосій) [6]; адно маскоўскі мітрапаліт (ад 1354 г.) Алексій, блізкі да новых паламіцкіх улад Бізантыі, пачаў пашыраць у маскоўскай царкве паламіцкія ідэі.

Па перамозе паламітых у 1347 г. адбыліся значныя змены ў замежнай царкоўнай палітыцы Бізантыі. Адным з першых крокаў новага цэсара Івана Кантакузэна, які прыйшоў да ўлады ў пачатку 1347 г., было скасаванне Галіцкае мітраполіі. Прыход да ўлады паламітых адмоўна адбіўся і на стаўленні Літвы да бізантыйскай царквы: паводле сведчання Нікіфара Грыгары (прыхільніка антыпаламітых), калі раней вялікі князь Альгерд "абяцаў

прыняць адзінаслаўную з намі веру”, то пазней гэта ўжо было немагчыма “дзеля ўвязання ў нашай царкве герэзіі многабоства” (гэтак Грыгара менаваў паламіцтва) [7].

Ёсць падставы меркаваць, што вядомая справа віленскіх пакутнікаў 1347 г. была эпізодам змагання між новай партыяй паламітых і старой царкоўнай партыяй у Вільні: прычынаю жорсткага пакарання віленскіх пакутнікаў вялікім князем Альгердам магло быць не іхняе праваслаўе (на праваслаўе ў той час пераходзілі многія літвіны, а сам Альгерд у 1345–1346 гг. заснаваў дзве праваслаўныя царквы ў Вільні), а іхняя прыхільнасць да новай партыі паламітых, якая ў гэты час зацвердзілася ў Бізантыі. Жывоты і іншыя крыніцы аб пакутніках паведамляюць, што пасля іх у Вільні нікаго не ўціскалі за праваслаўе, а сам Альгерд дазволіў збудаваць царкву на чэсць пакутнікаў [8]. Тое, што віленскія пакутнікі пацярпелі не проста за праваслаўе, а за паламіцкія погляды, можа пацвярджацца тым, што іхні культ быў падтрыманы бізантыйскімі дзеячамі асабліва прыхільнымі да паламіцтва і быў проціпастаўлены палітыцы Літоўскае мітраполіі. У другой палове 14 стагоддзя паламіцкія ўлады Бізантыі спрыялі Маскве і былі непрыязнымі да Літвы. Калі для грэкаў першае паловы 14 ст. Літва ёсць прыроднаю часткаю Русі, а літвінаў заклікаюць адно адмовіцца ад “прымхаў” і далучыцца да “адзінаслаўнай” з грэкамі рэлігіі, то ў 1370 г., адлюстроўваючы новы курс бізантыйскае палітыкі, патрыярх Філафей ужо назваў (упершыню ў бізантыйскіх крыніцах) літвінаў “чужымі нашай веры”, “ворагамі крэста” і “няверуючымі ў Ісуса Хрыста” ды заклікаў маскоўскіх князёў да вайны на Літву [9]. У фразеалогіі бізантыйскае царквы з’явіўся добра вядомы літвінам (з крыжацкае прапаганды) падзел на “хрысціянаў” і “ворагаў хрысціянаў”. Афіцыйная кананізацыя віленскіх пакутнікаў у Канстантынопалю ў 1374 г. [10] магла быць адно ўмоваю пастаўлення Кіпрыяна мітрапалітам Літоўскім, але магла быць і праяваю ідэалагічнага ціску на ўлады Літвы. У выніку, ужо ў 1375 г. літоўскія князі пагражалі перайсці да каталіцкай царквы, калі Канстантынопаль не зьмяніў бы сваёй непрыязнай да Літвы палітыкі [11].



*Выява віленскіх пакутнікаў на саккасе мітрапаліта Фотыя, каля 1417 г.*

Наданне ў снежню 1375 г. новаму літоўскаму мітрапаліту Кіпрыяну тытула “мітрапаліта Кіеўскага, Рускага і Літоўскага” з забавязаннем патрыярхату ўчыніць яго мітрапалітам “усяе Русі” было вянцом царкоўнае палітыкі вялікага князя Альгерда. Па смерці Альгерда гэтым планам не наканавана было ўжыццявіцца: у чэрвеню 1378 г. (як было адзначана вышэй) маскоўскія ўлады пайшлі на жорсткі закалот з высвячаным у Канстантынопалю мітрапалітам Кіпрыянам. Палітыка дзейнага выпірання Масквы Ордзе, распачатая ў гэты час не без падтрымкі бізантыйскіх улад, давяла да першай спаважнай акцыі Масквы проці Орды – перамогі над ордскімі войскамі ў бітве на Вожы ў жніўні 1378 г.

Літоўскаму ўраду сталася зразумела, што Альгердаў праект літоўска-маскоўскага звязу ў такіх умовах немагчымы. Урад Ягайлы займеў бачанне на захад: у 1379 г. адбылося падарожжа князя Скіргайлы да караля Вугоршчыны і рымскага папежа, дзе Скіргайла абмяркоўваў магчымасць увязання ў Літве каталіцтва. У той жа час Масква працягвала курс на канфрантацыю з Літвою і Ордаю: узімку 1379–1380 гг. адбыўся паход маскоўскіх войскаў на Трубчаск і Старадуб. Улетку 1380 г. войскі маскоўскага вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча, разам з войскамі літоўскіх князёў Андрэя і Дзмітрыя Альгердавічаў разбілі ў Кулікоўскай бітве войскі Орды, якія падтрымваў Ягайла. Традыцыйны ваенна-палітычны звяз Орды і Літвы, на якім у ладнай меры была збудавана вонкавая палітыка Вялікага княства Літоўскага ў 13–14 ст. (гл. артыкул “Літва і Орда...”), быў пастаўлены пад сумнеў перамогаю Масквы ў гэтай бітве – нездарма яна была адразу ўслаўлена ў Бізантыі дый пазней падавалася як сымбаль паўстання Маскоўскага гаспадарства. Але ў той час гэтая перамога не займела ніякіх наступстваў: вялікі паход ордскага цара Тактамыша ў 1382 г. раздушыў ваенныя амбіцыі маскоўскіх князёў і скончыўся спаленнем Масквы. Масква не

здолела разбурыць літоўска-ордскі палітычны звяз і не змагла выступіць у ролі палітычна паноўнае моцы ў дачыненні да Літвы.

Улетку 1382 году Ягайла паланіў князёў Кейстута і Вітаўта і зрабіўся самаўладным валадаром Літвы. Увесну 1383 г. Ягайла распачаў перамовы з польскімі князямі аб магчымай уніі з Польшчаю. У 1384 г. польска-мазоўскія войскі спрабавалі заняць Дарагічын і Мельнік на Падляшшы, але Ягайла зладзіў ваенны паход на Польшчу, разрабаваўшы ўсходняпольскія землі да Віслы. У студзені 1385 г. адбылося пасольства польскіх паноў да Ягайлы з прапановаю заняць польскі сталец і ўвесці ў Літве каталіцтва. Гэтыя дамоўленасці атрымалі лістоўную форму ў жніўні 1385 г. у Крэве, дзе быў укладзены папярэдні акт уніі Літвы з Польшчаю (Крэўскае уніі).

Гэтак каротка выглядаюць перадумовы Крэўскае уніі і злучанае з ёю рэлігійнае рэформы ў Літве. 14 жніўня 1385 г. у Крэве між літоўскім і польскім урадамі быў укладзены папярэдні акт, паводле якога Ягайла мусіў стацца каралём Польшчы, далучыць Вялікае княства Літоўскае да польскай кароны і ўвесці ў Літве каталіцкую веру. У лютым 1386 г. Ягайла ў почце літоўскіх князёў і баяраў прыбыў у Кракаў, 14 лютага Ягайла быў хрышчаны ў каталіцтве з імем Валадыслава і ажаніўся з каралеўнаю Ядзвігаю, 17 лютага Ягайла быў каранаваны як кароль Польшчы. Праз год, у лютым 1387 г., адбыўся сойм у Вільні, на якім Ягайла выдаў граматы аб устаўленні і ўпасажанні ў Літве каталіцкае царквы.

У гэтым артыкуле мы не будзем разглядаць прычыны і палітычныя матывы абрання Літвою свайго курсу ў 1385 г. Мы адно разгледзім уласна падзеі і наступствы злучанае з Крэўскаю уніяй *рэлігійнае рэформы* ў Літве, мэтаю якое было перавядзенне літвінаў на каталіцтва, – рэформы, якая распачалася з хросту вялікага князя Ягайлы і некаторых літоўскіх князёў і баяраў у каталіцтве ў лютым 1386 г. і з заснавання першых каталіцкіх дыяцэзій у 1387 г. ды працягвалася з рознаю моцнасцю на працягу наступных гадоў. Умоўнаю мяжою канчатку гэтае рэформы мы кладзем час Гарадзельскага прывілея 1413 г. і заснавання аўтакефальнае праваслаўнае Літоўска-Кіеўскае мітраполіі ў 1415 г. Увесь комплекс звестак гістарычных крыніц аб гэтай рэлігійнай рэформе ў Літве (умоўна назавем яе “Крэўскаю рэлігійнаю рэформаю”) дазваляе, з аднаго боку, канчаткова пацвердзіць і праясніць вышпісаную тэзу аб канфесійным характару назову “літвіны” да Крэўскай уніі, а з другога боку, даць выяўны нарыс істасці самое гэтае рэлігійнае рэформы, то бо ўмоў і працэсу пераходу часткі літоўскага народу на каталіцтва ды наступстваў гэтага працэсу для нацыянальнай ідэнтычнасці тытульнае нацыі Вялікага княства Літоўскага.

**2. Агульныя звесткі.**

Некаторыя даследнікі ўжо адзначалі, што ёсць досыць сведчанняў аб хрысціянстве Літвы яшчэ да Крэўскай уніі. Важныя сведчанні аб гэтым выступаюць у моўных фактах: у факце панавання ў літоўскім касцёле беларускае мовы (гл. ніжэй), а таксама ў захаванні ў жамойцкай мове старажытнага пласту царкоўнае лексікі, які быў суцэльна беларускім.

Польская даследніца Н. Бароўская адзначала: “Беспярэчным даводам існавання хрысціянства ў Літве да часоў Ягайлы, у любым разе, ёсць склад літоўскае царкоўнае тэрміналогіі. Гэта было хрысціянства ўсходняга абраду з славянска-рускай царкоўнай тэрміналогіяй. Хрост Літвы, учынены Ягайлам, трэба разумець, відаць, гэтак, што ён замяніў усходні, праваслаўны абрад, што існаваў дагэнуль пры княскіх дварох, сярод некаторай часткі паноў, рыцарства і мяшчанства – каталіцкім...” [12].

Мовазнаўца А. Сенн пісаў: “Польскія місіянеры, якія прыйшлі да літвінаў, знайшлі ў іх ужо гатовую царкоўную тэрміналогію, якую яны прынялі без адмен. Гэтая тэрміналогія была беларускага паходжання. Літвіны ўзялі яе ад беларускіх місіянераў, значыць, ад праваслаўных. Гэтая праваслаўная місія, відаць, была паспяховаю. Яна была так паспяховаю, што частка гэтае беларускае тэрміналогіі захавалася аж да дваццатага стагоддзя” [13]. Цэлы пласт усходнеславянскае царкоўнае лексікі нават праз стагоддзі каталіцкага ўплыву захаваўся без адмен у жамойцкай мове (гл. артыкул “Германскі суперстрат у старажытнай Літве”). Мовазнаўца К. Буга аб беларускіх царкоўных тэрмінах у жамойцкай мове пісаў: “Усе гэтыя хрысціянскія тэрміны, без сумневу, ужо карысталіся правамі грамадзянства да 1386 г.; інакш на месцы рускіх тэрмінаў мы мелі б польскія” [14].

Канфесійны характар назову “літвіны” да Крэўскай уніі (то бо факт вызнання супольнасцю літвінаў некаталіцкае адмены хрысціянства) пацвярджаюць сведчанні разнастайных крыніц (як літоўскіх, так і замежных) аб уласна чынох пераходу на каталіцтва

вялікага князя Ягайлы і іншых літвінаў. Разгледжанне ўсіх крыніц па гэтым пытанні дазваляе цвердзіць, што няма жаднае гістарычнае звесткі, якая б сведчыла, што Ягайла і іншыя літвіны прыймалі "хрысціянства", пакінуўшы нейкае "паганства" (то бо быццам нехрысціянства): усе крыніцы па гэтым пытанні кажуць, што Ягайла ды іншыя літвіны прыймалі "каталіцкую веру" або "*артадаксальную* веру" (а не "хрысціянства"). Датычна ж былое веры Ягайлы і іншых літвінаў заходнія крыніцы ўжываюць звыклыя выпісальныя фразы няпушч "цемра простанароднае веры", "народныя аблуды" і да т.п., пераходзячы нарэшце да скразнае характырыстыкі яе як "вераадступніцтва" (perfidia), то бо да наўпростага прызнання яе хрысціянскаю герэзіяй.

У звестках літоўскіх летапісаў аб дакрэўскім рэлігійным жыцці Літвы засталіся некаторыя ўскосныя драбніцы, якія ў моц сваёй відавочнасці могуць быць выяўнымі сведчаннямі аб сапраўдным характару дакрэўскае рэлігіі Літвы. Літоўскія летапісы, як і іншыя крыніцы па гэтым пытанні, анідзе не кажуць аб прыйманні Ягайлам або Літвою "хрысціянства" – Ягайла і літвіны прыймаюць "рымскую" (або "лацінскую") веру. "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх" кажа, што Ягайла прыняў "крещенье старого Рыму", і "оттоль почала креститися литва *у лядъскую веру або рымскую*", "оттуль почали хрыстити литву *в латинскую веру*" [15]. Хроніка Быхаўца гэтак апавядае аб каталіцкім хросце Ягайлы ў Кракаве ў лютым 1386 г.: "...и там Ягойло вшедшы во церков и *прынял веру рымскую и охрестился*, и дали ему имя Владыслав". Гэта нічым не розніцца ад нарысу адначаснага (там жа, разам з Ягайлам) перахросту Вітаўта з праваслаўя (якое Вітаўт, як вядома, прыняў у 1384 г.) у каталіцтва: "И тогды ж князь велики Витолт *охрыстился и веру рымскую прынял*, и дали ему имя Александер..." [16]. Паводле летапісаў, Ягайла прыймае і пашырае ў Літве не "хрысціянства", а "іх веру", "лацінскую" або "рымскую" веру: "Ягойло на то прызволил ведлуг их воли, *веру их латинскую* прымати", "и почал розмножать *веру рымскую* в Литовском панстве" [17]. Бадай нельга даўнімаць неахайнасць у паведамленнях аб так важных падзеях: такім парадкам літоўскія летапісы, хай ускосна, але сведчаць аб хрысціянстве Ягайлы і наогул усёй Літвы да Крэўскай уніі. Чыста адрознымі ад гэтых звестак аб Літве выступаюць звесткі літоўскіх летапісаў аб Жамойці, якія паведамляюць, што Жамойць была "до веры хрыстианской прыведена", з "балвохвалства"; "Витовт ... всю жомойть казал хрыстити з веры поганское у веру хрыстианскую" [18], – у сапраўды язычніцкай Жамойці было папраўдзе ўвязана "хрысціянства", на адрозненне ад даўно хрысціянскае Літвы.

Звесткі аб каталіцкім хросце Ягайлы і ўвязанні каталіцтва ў Літве ў 1386–1387 гг. маюць наўпростыя паралелі з пытаннем каталіцкага хросту вялікага князя Міндоўга ў 1252 г. Як мы адзначалі раней (гл. артыкул "Германскі суперстрат у старажытнай Літве"), жадная крыніца не кажа аб тым, што Міндоўг прыняў "хрысціянства", – усе звесткі аб хросце Міндоўга кажуць, што ён прыняў "каталіцкую веру", а былую веру Міндоўга і іншых літвінаў выпісуюць як "аблуды" (erroris) ды "цемра простанароднае веры" (tenebris gentium), нарэшце азначаючы яе як "вераадступніцтва" (perfidia) (т.б. як хрысціянскую герэзію). Чыста гэтак жа заходнія крыніцы выпісуюць пераход Ягайлы і літвінаў на каталіцтва ў 1386–1387 гг.

Яшчэ ў 1384 г. крыжакі менавалі Ягайлу і іншых літоўскіх князёў "вераадступнымі": "…Litwanorum rex nomine Jagel adjunctis sibi regibus XI similis perfidie..." – "…князь літвінаў на імя Ягайла, далучыўшы да сябе адзінаццаць князёў, такіх жа вераадступных…" [19]. У прэлімінарным акце Крэўскае уніі з 14 жніўня 1385 г. Ягайла сведчыў, што ён сам, а таксама літоўскія князі, баяры і зямяне імкнуцца і жадаюць прыняць "каталіцкую веру" (fidem katholicam) (а не "хрысціянства") [20]. У прывілеі Ягайлы літоўскай каталіцкай шляхце з 20 лютага 1387 г. было абвешчана, што літоўскія баяры і зямяне прыймалі "праўдзівую, то бо каталіцкую веру", "каталіцкую веру або рэлігію", "каталіцкую веру" (ortodoxae ac catholicae fidei ... fidei atque religionis catholicae ... fidem catholicam) [21]. У прывілеі для літоўскага касцёла з 22 лютага 1387 г. Ягайла пісаў, што літоўскі народ пакінуў "многія абмылы і аблуды" (multis errorum et dubiorum), "язычніцкія аблуды" (errores paganorum) ды прыняў "каталіцкую веру" (fidem catholicam), перайшоў да каталіцкай веры і рымскай царквы (ad fidem catholicam et S. Romanae Ecclesiae); літвіны былі неафітамі не ў "хрысціянстве", а ў "каталіцкай веры" (Lituani in fide catholica neofiti) [22].

Досыць выяўным сведчаннем аб стаўленні самаго Ягайлы да прынятае ім веры ёсць словы з граматы Ягайлы князю Скіргайлу з 28 красавіка 1387 г.: "Аж ся нам то прылучыло

*тая вера* прыняти и держати...” (гл. дад. №29). Ягайла зноў не кажа аб прыйманні ім “хрысціянства”, а выпісуе каталіцтва проста як “тая вера” (то бо як адну з некалькіх хрысціянскіх канфесій), то бо не бачыць вялікіх адрозненняў між сваёй старой верай і каталіцтвам, такім чынам ускосна сведчучы аб сваім хрысціянстве да Крэўскай уніі.



*Віленская катэдра св. Станіслава за часу вялікага князя Вітаўта* [23]

У актах фундацый і ўпасажанняў першых літоўскіх касцёлаў і каталіцкіх дыяцэзій таксама няма нічога аб прыйманні літвінамі “хрысціянства” – усе яны кажуць аб прыйманні Літвою “каталіцкае веры” або “артадаксальнае веры”. Гэтак, у лісце караля і вялікага князя Ягайлы з 2 траўня 1387 г. аб упасажанні касцёла ў Лідзе мова была аб пераходзе літвы “да святой каталіцкай веры” (ad sacram fidem catholicam) [24]. У лісце Ягайлы аб заснаванні парафіяльнага касцёла ў Абольцах з 1 чэрвеня 1387 г. мова была аб пераходзе літвы з “аблуд” (erroreque) да “артадаксальнай веры” (orthodoxae fidei) [25]. Папеж Урбан VI у 1388 г. у лісце з зацверджаннем Віленскае архідыяцэзіі таксама не пісаў, што Ягайла і літвіны прынялі “хрысціянства”, – Ягайла і літвіны пакінулі былое “нявер’е” (infideles) ды прынялі “каталіцкую веру” (fidei catholice), “ісціну каталіцкае рэлігіі ды артадаксальнае веры” (verae catholicae et orthodoxae fidei) [26].

Такую ж фразеалогію папская курыя і крыжакі ўжывалі да літвінаў здаўна. Гэтак, яшчэ ў 1249 г. ліфлянцкі ляндмайстар Стырлянд патрабаваў ад вялікага князя Міндоўга прыняць “агульную хрысціянскую веру” [27]. Рызская капітула ў 1298 г. пісала аб патрэбнасці пераходу літвінаў ад “прымхлівых абрадаў” (ritus superstitiosos), “аблуднай сэкты” (erronee secte) да “артадаксальнай веры” (ortodoxe fidei) [28]. Папеж Ян XXII у 1317 г. заклікаў вялікага князя Гедыміна адмовіцца ад “цемры аблуд” (cecitatis errore) ды прыняць “ісціну каталіцкае веры” (catholice fidei veritatem) [29]. У 1324 г. папеж пісаў аб патрэбнасці пераходу літвы “з цемры нявер’я да артадаксальнай веры” (...gentes, infidelitatis tenebris involutas, ad fidem pertrahere orthodoxam), да “адзінства хрысціянскай веры” (unitatem fidei christiane), да “вяртання да святла праўдзівае веры” (redeuntibus ad fidei vere lumen) [30]. У 1349 г. папеж Клімент VI заклікаў літоўскіх князёў перайсці ад “улады д’ябла” і “цемры аблуд” да “нашай веры” (nostre fidei), “ісціны каталіцкае веры” (catholice fidei) [31]. У 1357 г. польскі кароль Казімір пісаў папежу аб сваіх высілках дзеля пераводу “няверных” (infideles) літвінаў “да артадаксальнай веры” (ad fidei ortodoxe cultum) [32]. У 1373 г. папеж Грыгор XI заклікаў літоўскіх князёў пакінуць “хлусню д’ябла” і “аблуды нявер’я” (infidelitatis errorem) ды далучыцца да “каталіцкай веры” (fidem catholicam) [33].

Чыста ў такіх жа азначэннях выпісвалі сучаснікі далучэнне Літвы да каталіцкага касцёла падчас Крэўскае рэформы. У лісце, выдадзеным каралём Ягайлам і вялікім князем Вітаўтам

у Лідзе 20 траўня 1397 г. з падзякаю першаму віленскаму біскупу Андрэю Васіле, зноў не было анічога аб прыйманні Літвою “хрысціянства” – Ягайла і Вітаўт пісалі, што літоўскі народ быў “прыведзены ад цемры народных аблуд да пазнання *каталіцкага адзінства*” (...gentem Lithuanicam, noviter de tenebris gentilitatis ad agnicionem *catholice unitatis* eductam...) [34]. У прывілеі караліцы Ядзвігі Кракаўскаму ўніверсітэту 1397 г., які разгалашаў, што ўніверсітэт павінен служыць мэце пашырэння каталіцкае навукі ў Літве, адзначалася, што Літва надовечы перайшла ад “*вераадступніцтва*” (perfidiae), “цемры аблуд” (tenebrescat erroribus) да адзінства з рымскаю, то бо агульнаю царквою (sacrosanctae Romanae ac universalis Ecclesiae unitatem). У такіх жа выразах выказваўся прывілей караля Ягайлы аб той жа рэчы: Літва перайшла ад “народных аблуд” (de gentilitatis erroribus) да прыймання “каталіцкае веры” (per assumptionem sacrae fidei catholicae). Кракаўскі біскуп Пётр Выш у сваёй грамаце Кракаўскаму ўніверсітэту ў 1401 г. перамаўляў словы вышменаванага прывілея Ягайлы, а таксама паставіў Літву ў адзін рад з Валахіяй і Руссю, якія дзеля руплівасці Ягайлы “пакінулі слепату старажытнага *нявер’я*” і “далучыліся да *артадаксальнай* веры” (... terras ipsas videlicet Lytwaniae, Walachiae et Russiae incolentium, quad vetusta *infidelitatis* coecitate deordinatas, iam senescentibus saeculis, ad sui nominis agnitionem et *orthodoxae* fidei integritatem...) [35].

У Гарадзельскім прывілеі 1413 г. зноў было адзначана, што Ягайла некалі прыняў “каталіцкую веру” (fidei catholicae). У гэтым жа прывілеі было адзначана, што сярод “вернікаў хрысціянскае рэлігіі” (cultores Christianae religionis) у Літве былі не адно “падданыя рымскай царквы”, але і “схізматыкі і іншыя няверныя” (scismatici vel alii infideles) [36]. У пасланні сіноду гнезненскае правінцыі да вялікага князя Вітаўта 1420 г. з падзякаю Вітаўту за клопат пра літоўскі касцёл зноў не было нічога аб прыйманні Літвою “хрысціянства”: у Літве была ўвязана і шырылася “каталіцкая вера” (fidem katholicam) [37]. Энэй Сільвій у 1440-х гадох пісаў, што Ягайла, хрысціўшыся ў каталіцтве, “распусціў сваю сэкту” (secta sua dimissa) [38]. Ян Длугаш пісаў, што Ягайла і яго браты, пакінуўшы “простанародную цемру” (tenebra gentium) і “народныя аблуды”, прынялі “святую артадаксальную веру” (fidem Sanctam orthodoxam gentili errore obiecto profitentar et suscipiunt) [39]. Ёсць і іншыя сведчанні, якія выпісуюць пераход на каталіцтва Ягайлы ды іншых літвінаў як пераход “з цемры аблуд да святла ісціны” і да таго падобнае [40]. У жадным з гэтых сведчанняў не сказана, што Ягайла пакінуў “язычніцтва” (т.б. нехрысціянскую веру): былая вера Ягайлы і іншых літвінаў называецца “аблудамі”, “простанароднаю цемраю” або “вераадступніцтвам” (то бо яўна называецца хрысціянскай герэзіяй). І ў жадным з усіх гэтых сведчанняў няма цверджання, што Ягайла і іншыя літвіны прынялі “хрысціянства”, – усе яны кажуць, што літвіны прыймалі “каталіцкую (або: лацінскую, рымскую) веру”.

Ускосна пацвярджаюць хрысціянства літвінаў да Крэўскай уніі і рускія звесткі: гэтак, паводле дамоўных грамат вялікага князя Альгерда з маскоўскім князем і мітрапалітам 1376–1377 гг. Ягайла мусіў не прыняць “хрысціянства”, а “креститися в православную веру” [41]. Рускія летапісы нідзе не кажуць аб прыйманні Ягайлам ды іншымі літвінамі “хрысціянства”: літвіны прыймаюць “латыньскую веру” або “немечскую веру”. Наадварот, “крестьянскую веру” вызнавалі “два Литвина большие”, якія адмовіліся пераходзіць на каталіцтва і былі дзеля гэтага пакараны смерцю ў Вільні [42].

Некалі да высноў аб хрысціянстве літоўскага народу да Крэўскай уніі прыйшоў славуты гісторык Літвы Тэадор Нарбут. У артыкуле аб прыйманні літоўскімі князямі каталіцтва ў 1386 г. ён пісаў: “Длугаш, які меў пад рукой усе крыніцы з часу хросту Ягайлы, выпісуючы мінуўшчыну гэтага гаспадара бесстароннім пяром, ёсць далёкі ад выяўлення яго чыстым балвахвальцам, бо выразна прыпісуе яму адно некаторыя забабоны, дзеля таго што ён з маленства быў выхаваны маткаю ў грэцкім абрадзе (…a matre Graecorum ritus, ea agore edoctus). Але ён мае на ўвазе не паганскія забабоны, а грэцкія. <...> Сам Длугаш кажа, што вялікі князь літоўскі, стаўшыся каралём польскім, пакінуў простанародную цемру (de tenebra gentium). Гэты выраз, не ўзмацнёны ясным тлумачэннем, даў прыклёп не аднаму гістарычнаму пісьменніку прамаўчаць аб гэтым хросце, альбо стварыць меркаванне паводле ўласнага бачання, без разбору крыніц, якія выкрылі б факт верагодна. <...> Аднак, каб унікнуць усякіх непаразуменняў, пагледзімо яшчэ раз у гісторыю Длугаша. Там напісана: “Вялікі князь літоўскі спярша сам, потым браты яго, князі літоўскія, баяры і дваране, <...> веру праўдзівую, адкінуўшы аблуды язычніцтва, вызналі і прынялі (fidem Sanctam

orthodoxam gentili errore obiecto profitentar et suscipiunt)”. <...> Зрэшты, error gentilis не ёсць уласна язычніцтвам. У той час хрысціяне заходняе царквы, пэўна, паводле апавяданняў крыжакоў як найбліжшых суседзяў, грэцкую веру Літвы ды Літоўскае Русі ўважалі за аднолькавую з язычніцтвам, асабліва дзеля нейкае сэкты, якую менавалі маніхейскаю” [43].

Такі ж погляд мае сучасны гісторык З. Зінкевіч, які прызнае хрысціянства літоўскага народу да Крэўскай уніі. На грунце сваіх даследванняў З. Зінкевіч прыйшоў да высновы, што да Крэўскай уніі вялікія князі Ягайла і Вітаўт вызнавалі хрысціянства ўсходняга абраду і што каталіцкі хрост літвы ў канцу 14 стагоддзя быў “у прынцыпе, ужо наваратным” [44].

**3. Хрост Ягайлы.**

Вышпісаныя сведчанні крыніц аб “вераадступніцтве” Ягайлы да Крэўскай уніі і пакіданні ім сваёй “сэкты” падчас каталіцкага хросту досыць выяўна кажуць аб тым, што да пераходу на каталіцтва Ягайла, як і іншыя літвіны, вызнаваў некаталіцкую адмену хрысціянства. Вядома, што выхаванне Ягайлы, як і ўсіх сыноў вялікага князя Альгерда, было хрысціянскім, аб чым сведчылі розныя крыніцы. Я. Длугаш пісаў: “Альгерд ... меў дванаццаць сыноў. <...> Усіх юнакоў маці ўзгадавала паводле грэцкага звычаю, на грунце грэцкага веравызнання” [45]. Аб тым жа сведчаць і рускія крыніцы [46]. Наконадні слюбу Ягайлы з Ядзвігаю прадстаўнікі крыжакоў пры польскім двару намагаліся зганіць літоўскага гаспадара, выяўляючы яго ледзьве не напаўзвярынаю істотаю, што нават вымусіла Ядзвігу выправіць да Ягайлы пасольства, каб даведацца, ці сапраўды ейны жаніх ёсць дзікім і жорсткім “язычнікам”. Аднак пасольства, вярнуўшыся ў Кракаў, запэўніла каралеўну: “Што датычыць веры хрысціянскае, то Ягайла, разам з іншымі братамі народжаны ад маткі хрысціянкі, ужо ад сама малых гадоў усмактаў хрысціянскую веру” [47].

Імаверна, што ў 1376–1377 гадох, калі вялікі князь Альгерд гатаваў праект гаспадарствава-царкоўнага звязу з Масквою, Ягайла быў абвешчаны ў праваслаўі і атрымаў малітоўнае імя Якаў. Т. Нарбут знайшоў у рукапісе з віленскага бернардынскага кляштара звесткі аб звоне, створаным у 1377 годзе, з надпісам “Се аз раб божы Яков Ондреевич с матерою своею Ульяною Александровою В.К.Л. дали есмо сей колокол улить в церков Св. Параскевы в Вильни во веки” [48]. Малітоўнае імя Ягайлы – Якаў – паведамляе і “Родословье великих князей Литовских” [49].

Аб выхаванні Ягайлы ў хрысціянскім асяроддзі і яго звыкласці да царкоўнага жыцця і хрысціянскай культуры сведчаць многія крыніцы, між іншым, ягоная грамата князю Скіргайлу з 28 красавіка 1387 г., у якой Ягайла пацвярджаў наданні лагойскай царкве св. Івана Прадцечы: “Також Логозкая дань и люди и весь доход, што Войшвилт держал, то есва по слову учынила и доспела есва монастырь, церков святаго Ивана, и прылучыла есва к церкви на веки, святому Иоанну Предтечы. <...> А хто прыобидитъ или отъиметъ от святого Ивана церкви, тот будет проклят у сий век и у будущый, а то есва учынила собе на память а святому Ивану в честь и у славу” [50].

У прывілеях літоўскім касцёлам 1389 г. Ягайла менаваў касцёлы “церков” ды старажытным беларускім словам “божница”, а каталіцкіх святароў менаваў “попы” [51] (гл. дад. №31). Сведчаннем аб хрысціянстве Ягайлы да Крэўскай уніі ёсць таксама ўжыванне ім (як раней Гедымінам і Альгердам) тытулатуры “Божаю міласцю вялікі князь літоўскі”. Гэтак Ягайла пісаўся ў Дубіскай дамове 1382 г. і ў акце Крэўскае уніі 1385 г. (Nos Jagalo, *virtute Dei* dux magnus Litwanorum) [52]. Гэтую тыталатуру прызнавалі і палякі: гэтак, “Божаю міласцю вялікім князем літвінаў” (principem Jagalonem *Dei gratia* summum ducem Litvanorum) менавалі Ягайлу польскія паслы ў Ваўкавыску ў студзені 1386 г., калі запрашалі яго на польскі сталец [53].

Па ўездзе ў Польшчу Ягайла спярша быў сустрэты польскімі панамі ў Любліне, разам з імі рушыў да Кракава, у вёсцы пад Кракавам быў абвешчаны і 12 лютага 1386 г. урачыста ўехаў у Кракаў. 14 лютага Ягайла і яго браты Вігунт, Карыгайла і Свідрыгайла ў катэдры св. Станіслава “адкінулі народныя аблуды і прынялі артадаксальную веру” [54]. Польскія гісторыкі прызнаюць, што Ягайла і яго браты былі абвешчаны і наўчаны ў веры па-беларуску [55].

На былое богумільства Ягайлы яўна паказуе лістоўна пасведчанае здарэнне, што адбылося ў 1386 г. у касцёле Познані падчас аб’езду надовечы каранаваным Ягайлам польскіх гарадоў. У касцёле стаяла скульптура Хрыста, а побач скульптура рагатага д’ябла.

Ягайла паставіў Хрысту свечку, а д’яблу два агаркі. Калі яго запыталі аб прычынах гэтага, Ягайла адказаў прымаўкай: “Служы Богу, а д’ябла не гняві!” [56] (прыр. такую ж прымаўку ў запісах М. Федароўскага [57]).



*Ягайла ўкленчыўшы перад Багародзіцай*
*(фрэска з Траецкае капліцы ў Любліне)*

Аб былым богумільстве Ягайлы ўскосна сведчыць яго цвярозасць – ён зусім не піў хмяльнога. Таксама Ягайла быў вядомы разнастайнымі прымхамі і забабонамі, якія Длугаш прыпісваў “грэцкаму” выхаванню яго маці, але якія насамрэч, відаць, таксама трэба прыпісаць уплыву богумільства. Ягайла быў вядомы тым, што меў звычку тройчы перакручвацца вакол сябе кожны раз перад выхадам надвор, кідаць за сабой запаленыя саломінкі (каб прагнаць нячысцікаў), вырываць валасы з барады, каб, уплёўшы іх між пальцамі, мыць рукі, і іншымі прымхамі, якімі ён уразіў палякаў. Таксама Ягайла станаўко забараняў іншым дакранацца да яго асабістых рэчаў: адзежы, посуду, келіху, сурвэткі, ложка, сядла, каня. Апрача гэтага Ягайла адмаўляўся патлумачыць каму-кольвечы мэты або сэнс гэтых прымхаў [58]. Гэтыя звычкі Ягайла захаваў да сама сваёй смерці. Яшчэ на корчынскім сойме ў 1434 г. (апошні год жыцця Ягайлы) кракаўскі біскуп упікаў караля за тое, што той яшчэ не адмовіўся ад усіх сваіх “нехрысціянскіх” звычак. Ягайла ў сваёй прамове на корчынскім сойме 4 лютага 1434 г. казаў: “Аб некаторых прымхах, ад даўняга яшчэ чартоўскага звычаю ў сябе зацятых і мне самому вядомых, мушу прамаўчаць” [59].

Насуперак крыжацкім плёткам пра “дзікуна-язычніка” (якія крыжакі пашыралі, каб заказіць літоўска-польскаму звязу), Ягайла выявіўся рахманым і ветлівым гаспадаром, добра абазнаным у хрысціянскай культуры: ён праславіўся надзвычайнаю гасціннасцю і ветласцю да незнаёмых людзей, ніколі не кранаў хмяльнога, піў адно чыстую ваду (яго нават падавалі як прыклад цвярозасці). Ягайла сціпла апранаўся і здзіўляў усіх сваёй любасцю да чысціні: ён галіўся і мыўся штодня [60].

Польскі гісторык М. Кучынскі піша: “Што да яго асабістай культуры, то, па-за якімі-кольвечы сумневамі, сваімі звычкамі і асабістаю ахайнасцю кароль быў на галаву вышэй усяго свайго польскага асяроддзя. Па-першае, ён не ўжываў нічога хмяльнога і таму меў цвярозую галаву і заўжды панаваў над сабой. Ён еў простую ежу і сціпла апранаўся. <...> Куды б ён ні ехаў, ён заўжды браў з сабой галяк, нажніцы, шорскі і грэбень з слановае косці. Ён галіўся штодня, ужываў ільняныя хусткі да носу і ўразіў палякаў сваёй звычкай штодня браць ванну. У часы, калі багатыя купцы ды магнаты спалі ў вопратцы і на палку, кароль спаў на аксамітных сянніках, мякка напханых ды накрытых прасцінёй. Адно пыхлівасць польскае шляхты 15 стагоддзя ды нацыянальны шавінізм і заходняя ментальнасць гісторыкаў 19 стагоддзя закажалі прызнаць, што ў сапраўднасці так менаваны “дзікі барбар” з усходу шмат у чым меў гору над “заходняй” польскай шляхтай” [61].

Сеўшы на польскі сталец, Ягайла прывез у Кракаў мала не ўвесь свой віленскі двор. З Вільні ў Кракаў разам з Ягайлам прыехалі лоўчыя, мастакі, музыкі. Сярод прыдворных музыкаў Ягайлы ў Кракаве былі арфісты Гапанас, лютністыя Андрэйка, Ходзька, Кацька, Падалян, Сцечка, Шудліч, флейтысты Ківала і каралеўскі бубеніта русін Білява [62]. Пры двару Ягайлы ў 1390 г. служылі лоўчыя літвін (Lythuano) Кузьма і літвін Цімуш [63].



*Фрэска з выяваю караля Валадыслава-Ягайлы ў капліцы замкавага касцёла св. Тройцы ў Любліне, размаляванай у бізантыйска-праваслаўным стылю на заказ Ягайлы.*

“Гаспадарствавая мова і мова літаратуры, дойлідства і малярства ў Літоўскім гаспадарстве – усё гэта для самой Польшчы на момант Крэўскае уніі, дый пасля яе, беспярэчна ўспрымалася як рускае. Выхаванне вялікіх князёў літоўскіх (у тым ліку і Ягайлы), знітаваных дынастычна з рускімі княствамі, мела той самы характар. Дыкжэ не выпадкова пры двару першага польскага караля з літоўскае дынастыі Ягайлавічаў – Валадыслава-Ягайлы – панавала беларуская культура, якая ў такім раннім часе свайго ўспраўлення, як мы ўжо казалі, у аснове сваёй была старажытнаруская. Як паказуюць каралеўскія лічбавыя кнігі, не адно лоўчыя, але і лютністыя, цымбалістыя, мастакі пры польскім каралеўскім двару былі “русіны”. <...> Адзін за адным паўстаюць на землях Польшчы “рускія” роспісы. Важна падчыркнуць, што яны аздаблялі не адно нутраныя каралеўскія пакоі, як гэта было ў Вавелю, а пашыраліся па цэлай Польшчы. “Рускія майстры” размалявалі сцены катэдры ў старажытнай сталіцы Польшчы Гнезне, у шырока вядомым праз сваю рэліквію Крыжа кляштару на Лысай Гары, у калегіятах найстаражытнейшых гарадоў і асяродкаў Польшчы – Вісліцы (1413–1416 гг.), Судаміра (1430-я гады) і ў касцёле св. Тройцы ў Любліне (1418 г.)” [64].

“Замілаванне ўсходнім малярствам Ягайла выявіў амаль ад сама пачатку свайго каралявання ў Польшчы, даручыўшы ў 1392–1394 гг. усходнім майстром работы ў бажніцы на Лысай гары і ў сваёй лажніцы. Потым ён заказаў роспісы ў Марыінскай капліцы і ў капліцы Святой Тройцы ў катэдры на Вавелю, у калегіятах у Судаміру і Вісліцы і ў катэдры ў Гнезне. Крыніцы таго часу не падаюць больш падрабязных звестак аб паходжанні майстроў, якіх мянуюць агулам як pictores Ruthenicos (“рускія мастакі”). <...> За пазнейшых

часоў Длугаш азначае малярства ўсходніх майстроў як sculptura або pictura graeca, graeco opere, што сведчыць адно аб яго бізантыйскай, а не каталіцкай прыналежнасці" [65]. Я. Длугаш таксама адзначаў: "...Ягайла ад маленства меў грэцкае рэлігійнае выхаванне і густы ды заўжды захоўваў любасць да ўсяго, што патыхала грэчызнаю" [66].



*Фрэскавы роспіс у капліцы замкавага касцёла св. Тройцы ў Любліне, выкананы ў бізантыйска-праваслаўным стылю на заказ Ягайлы.*

Ягайла да скону не авалодаў польскай мовай і размаўляў (як сведчылі самі польскія гісторыкі) вылучна "па-руску" ды іншых моў не ведаў [67]. Аб пабытовай мове Ягайлы сведчыць і занатаваная ў польскіх крыніцах звестка аб тым, што ўпершыню зайшоўшы ў кракаўскую катэдру і ўбачыўшы вялікі абраз Богародзіцы, Ягайла сказаў "Га што?" (Ha ssto) (перакладзена як "Quid est" – "Што гэта?") [68].

Аб уплыве ў той час старабеларускае мовы ў Польшчы сведчыць выданне Ягайлам Варцка-Вісліцкіх статутаў (зборнікаў крымінальных і цывільных законаў Польшчы) у 1420–1423 гг. па-беларуску кірыліцаю (гл. дад. №45). Перакладам гэтых статутаў з лаціны і чэскае мовы займаўся кашталян холмскі Ванько Кірдзеевіч: "Ванько Кирдеевич, пан земли Холмской, дворенин а рыцер удатный, из рады пана короля Володыслава <...> о то был стал, абы ты то книги прав Польских из латины были в часку ричь и в тых то сторонах на дальней земли рускии выложены; он о тыи то книги праведные статочне стоял, абы ему могли из чески из латины выложены быть, не бо латины чести невмевше, але литеру руску добре чтяше" [69].

За часу панавання Ягайлы польскія паны ўспраўлялі судовыя выракі па-руску кірыліцаю, напрыклад, у спрэчцы караля з пані Ядзвігаю Пілецкаю аб зямельных межах у Саноцкай зямлі ў 1404 г.: "Мы бискупы Мацей Премыски и Офанасей владыка Премыски, пан Ян дедич Тарновский, староста Руский, пан Кмита, воевода Сендомирский, пан Петр, воевода Мазовецкий, пан Миколай Войницкий, пан Творыян, подчяшый <...>. Како коль та реч межы нашым господарем кролем Владыславом Польским с одной стороны, межы панею Ядвигою Отиною Пилецкою и еи девкою Алжбетою с другое стороны, о волость о Залесье и о Тычын место, и о тыи села, што к тому месту прислушаеть в земли Саноцкой, на многих роцех пред нами водилась, тогды на роце на предреченым <...> осудили есмы и осужаем: аже господар наш кроль Влодыслав напред реченый ближшы есть к тому месту к Тычыну и к тым селов и вше волости Залесской, нижли тыи пани Ядвига и еи девка

Алжбета, заплатив им тыи пенязи пять сот грывен Польских, его ж места Тычына и тых сел и всей волости Залеское держанье вечное правым судом напред реченому господарю королю Влодыславу Польскому и его последком прысудили есмы и прысужаем тым нашым листом…” [70]. Па-руску прысведчваў каля 1390 г. паручную грамату Ягайлу і кусташ кракаўскі Ян Бутаўтавіч (сын уцеклага некалі з Літвы князя Бутаўта Кейстутавіча, стрыечны пляменнік Ягайлы): “Се поручылись у великого короля по Жедивуду князя Ходорове сыну: князь Олгимонт, князь Иван Городецкий, князь Глеб Дмитреевич, князь Ян Бутовтович кустош” [71].

*Кароль Валадыслаў-Ягайла даспануе з гусіцкімі богасловамі (урывак фрэскі 1418 г.)*



У 1390 г. Ягайла заснаваў у Кракаве першы ў Польшчы славянскі кляштар для бенедыктынаў славянскага абраду, запрошаных з Прагі. У гэтым кляштару ўсе службы адбываліся вылучна ў славянскай мове і ў ім восемдзесят гадоў дзейнічала школа па вывучэнні глагалічнага пісьма. Гэтыя ж чэскія бенедыктыны былі запрошаны Ягайлам і ў каралеўскі замак на Вавелю, дзе Ягайла збудаваў для іх капліцу. Жадаючы слухаць набажэнства ў звыклай славянскай мове, Ягайла наведваў для набажэнства гэтую славянскую капліцу бенедыктынаў, а не касцёл з лацінскаю імшою [72]. Вядома, што ў 1420 г. гусіцкія паслы, прапануючы Ягайлу чэскую карону, звярталіся да яго як да гаспадара, “ад нараджэння прыхільнага” да славянскай мовы [73].

Існуюць сведчанні аб тым, што сам каталіцкі хрост Ягайлы ў 1386 г. быў навaратным хростам. Гэтак, Т. Нарбут пісаў: “Старшыня суполкі аматараў навук у Варшаве Сташыц на паседзінах у 1823 г. паведаміў, што граф Язэп Курапатніцкі знайшоў надовечы ў касцёле Старыжа, у Сандэцкай акрузе, старавечны барэльеф, з выяваю хросту Ягайлы. <...> Над купеллю ў мур упушчаны кавалак мармуру; на ім у невялікіх памерах выяўлены пяць або шэсць асоб: з аднаго боку архібіскуп і біскуп, з другога вялікі князь Ягайла з непакрытаю галавою, побач трохі пазаду дзве асобы, праваруч – мужчына, леваруч – дзявіца. Князь, крыху нахіліўшы галаву, трымае ў правай руцэ грэцкі крэст, схілены долу, нібыта манячыся кінуць яго на прыступкі алтара, дзе стаяць пралаты, а левую руку прыкладае да грудзей. Архібіскуп лье ваду на галаву князя з кубку, а біскуп уздымае над ім крыж з выяваю ўкрыжаванага Хрыста. <...> Барэльеф вельмі старажытны, мала не сведка падзей” [74].

Звесткі аб богумільстве Літвы ў 11–14 ст. і аб рэлігійнай рэформе ў Літве, злучанай з Крэўскаю уніяй, пакінуў сучаснік вялікага князя Ягайлы – французскі кардынал Пётр д’Альі (1351–1420), які ў сваёй працы менаваў дакрэўскую рэлігію Літвы “літоўскім маніхействам” (Manicheismus Lithuanicus) (гл. дадаткі). Пётр д’Альі быў вучнем Ўільяма Окама, прыхільнікам францысканскае тэалогіі, радыкальнага аўгустынізму і аказіяналізму. Гэткія тэалагічныя погляды, відавочна, і спрычынілі цікаўнасць і прыязнь д’Альі да літоўскай веры, аб якой ён меў магчымасць даведацца на Канстанцкім збору каталіцкае царквы ад аблічнай там літоўскай дэлегацыі. Рэлігійная рэформа ў Літве, злучаная з Крэўскаю уніяй, выступае ў нарысе д’Альі як канчатак “літоўскага маніхейства”: “У 1387 годзе ўвесь народ прыйшоў да праўдзівай веры. <…> Бог абдарыў Літву мудрым і цнатлівым гаспадаром – каралём Валадыславам, каб цудоўным чынам навараціць гэты ўгрузлы ў паганстве і маніхейскіх аблудах край і ўвязаць у ім уставічна святло праўдзівае веры”. Апавядаючы аб прыйманні каталіцтва літоўскімі баярамі, д’Альі мовіў пра “ачышчэнне хрысціянства ад аблуд” [75]. Д’Альі пісаў таксама, што чын поўнага абраду каталіцкага хросту літвінаў азначаў наваратны хрост раней хрышчаных хрысціянаў, ганіў такую практыку і пісаў, што літвіны былі хоць аблуднымі, але хрысціянамі (гл. ніжэй).

**4. Віленскі сойм 1387 г.**

У лютым 1386 году ў Кракаве каталіцкую веру прынялі адно Ягайла, яго браты і колькі баяраў. Да пачатку 1387 году літоўскі люд яшчэ заставаўся ў сваёй старой веры. Для вальнага пераводу народу на каталіцтва Ягайла скупіў у другой палове лютага 1387 году сойм у Вільні, на які прыехалі літоўскія ўдзельныя князі, а таксама польскія паны і пралаты. На сойм прыбылі князі: Аляксандр-Вітаўт гарадзенскі, Іван-Скіргайла троцкі, Валадзімер кіеўскі, Дзмітрый-Карыбут наваградскі, Казімір-Карыгайла мсціслаўскі і Аляксандр-Вігунт кернаўскі. Разам з Ягайлам у Вільню прыехалі ягоная малжонка Ядзвіга, архібіскуп гнезненскі Бадзанта, біскуп кракаўскі Ян Радліца, дамініканы на чале з каралеўскім казнадзеем майстрам Мікалаем Вэнжыкам і многа польскіх князёў ды вяльможаў [76].



*Будучы біскуп віленскі Андрэй Васіла разам з каралём Ягайлам*
*і караліцаю Ядзвігаю ў Вільні ў лютым 1387 г.*
*(абраз з віленскага францысканскага кляштара)* [77]

У першы дзень сойму (20 лютага 1387 г.) Ягайла выдаў прывілей літоўскай каталіцкай шляхце. На трэці дзень сойму (22 лютага) быў выдадзены прывілей аб устаўленні каталіцкае царквы ў Літве і наданні ёй адпаведных правоў. У ім было загадана “усім з нараджэння літвінам абодвае плоці <...>, што жывуць у нашых дзяржавах Літве і Русі (omnes nacione Lithvanos utriusque sexus ... in nostris dominiis Lithvanie et Russie existentes), <...> перайсці на каталіцкую веру (ad fidem katholicam), <...> да якой бы сэкты яны не належалі (in quacunque secta fuerint)”. Было забаронена літвінам-католікам жаніцца з русінкамі (праваслаўнымі) і русінам з літвінкамі, а калі такі слюб адбываўся, то некаталіцкі бок падлягаў прымусоваму каталіцкаму хросту [78].

З зместу гэтага прывілея вынікае, што пад “нацыяй літвінаў” (nacione Lithvanos) разумелася канфесійная супольнасць, а не этнічная (“nacione” па лаціне азначае: 1) паходжанне; 2) племя, народ; 3) стан, каста, сэкта [79]). Калі ўважаць чыста канфесійны сэнс назову “літвіны” да Крэўскай уніі (гл. артыкул “Літоўскі народ 14 стагоддзя”), то робіцца зразумела, што гэтая грамата была звернута наймя да канфесіі “літвінаў” і што наймя паводле веры, а не паводле іншых чыннікаў можна было адрозніць літвіна ад русіна не адно ў Літве, але і на Русі (in nostris dominiis Lithvanie et Russie). Вядома азначэнне на Русі праваслаўных хрысціянаў – людзі “закона греческого, нации русской”. І “nacione Lithvanos” у прывілеі 22 лютага 1387 г. таксама мусіла азначаць літоўскую “нацыю”, “закон” у сэнсе канфесіёніму, то бо старую літоўскую, багумільскую дэнамінацыю Вялікага княства Літоўскага. Таму Энэй Сільвій пісаў, што Ягайла “распусціў сваю сэкту” (secta sua

dimissa), а на Канстанцкім збору ў 1416 г. дакрэўская літоўская дэнамінацыя была названа "сэктаю няверная люду" (secta infidelium populorum) (гл. ніжэй).

Пасля вышменаванага віленскага сойму на працягу наступных месяцаў адбывалася наварачэнне літоўскага люду на каталіцтва, спярша ў Вільні, потым у іншых літоўскіх местах, найперш там, дзе засноўвалі парафіяльныя касцёлы (у Вількаміру, Майшаголе, Няменчыне, Медніках, Крэве, Гайне, Абольцах, Лідзе). Каталіцкія пісьменнікі звычайна кажуць, што меў месца "хрост" літоўскага люду, хаця жадная крыніца не толькі не выпісуе, але і ўвогуле не згадуе ўласна *абраду хросту* ў дачыненні да літоўскага люду (за выняткам князёў і баяраў). Ацалелыя звесткі крыніц аб перавядзенні літоўскага люду на каталіцтва ў 1387 г. скразна сведчаць аб тым, што адбываўся не хрост і нават не перахрост, а ўмоўнае далучэнне хрысціянаў іншае дэнамінацыі да каталіцкага касцёла без абраду хросту.



*Літвіны да хросту*
*(гравюра 16 ст.)*

Выяўным сведчаннем аб істасці падзей, што адбываліся ў 1387 г., ёсць той факт, што далучэнне літоўскага люду да каталіцкага касцёла адбывалася праз *пакрапенне грамад* людзей, аб чым кажуць усе крыніцы (гэтыя звесткі былі настолькі непрыймальнымі для польскага царкоўнага гісторыка Я. Фіялка, што ён адхіліў іх на падставе адно свайго меркавання аб "немагчымасці апушчэння цэлага абраду хросту" [80], – з якой жа прычыны "цэлы абрад хросту" быў апушчаны (як кажуць усе крыніцы), ён нават не пажадаў разгледзець).

Паводле звестак Я. Длугаша, для хросту літвінаў у Вільні скупілі ля рэчкі Вяллі, па загадзе Ягайлы падзялілі на груды, архібіскуп Гнезненскі і польскія святары абвясцілі іх, згаварылі апостальскі сымбаль веры і малітвы, а пасля людзей крапілі ды надавалі людзям з кожнае грамады нейкае каталіцкае імя (Пётр, Ян, Якуб, Станіслаў і г.д.) [81]. М. Стрыйкоўскі грунтаваўся на тым жа Длугашу, а таксама на мясцовай літоўскай традыцыі, якая часткова пацвярджаецца лістамі польска-крыжацкага судовага працэсу 1416 г. [82]. Паводле Стрыйкоўскага, груды літвінаў пакраплялі вадою, а пасля давалі груду нейкае імя; асобны хрост чынілі адно баярам [83]. Лісты польска-крыжацкага працэсу 1416 г. згадуюць аб хросце людзей вялікімі грамадамі, але нічога не кажуць аб пакрапенні [84]. На падставе сваіх звестак М. Кромер у пачатку 16 стагоддзя пісаў, што ўласна абраду хросту над літвінамі ўчынена не было, адно ўмоўны рытуал пакрапення [85].

То бо, увесь абрад так менаванага "хросту" ўлучаў адно чытанне малітв перад грамадамі людзей, з пакрапеннем натоўпу або без, то бо ўмоўную працэдуру (няпушч пакрапення святаром народу ў касцёле ў святочны дзень), а не абрад каталіцкага хросту. Уласна *таемства хросту* над літвінамі не чынілі (поўны абрад хросту чынілі адно над князямі і некаторымі баярамі). Такім парадкам, літвінаў у 1387 г. прыймалі ў каталіцтва як герэтыкоў нават не першага, а другога чыну – для пераходу якіх на каталіцтва хрост не патрэбны, але дастатковым ёсць адно прамаўленне сымбалю веры ды малітв. Такім жа парадкам – праз простае маўленне сымбалю веры (або малітв) – наварачалі на каталіцтва праваслаўных на падуладных у тых часох Польшчы і Вугоршчыне землях. Як вядома, папства афіцыйна не ўхвальвала практыку наваратнага хросту і "папежы 14 і 15 стагоддзяў заўжды прыймалі

праваслаўных у каталіцтва праз простае вызнанне веры, уважаючы "дзейснасць" праваслаўнага хросту" [86]. Зацемім, што такім жа парадкам – праз чытанне адмысловых малітв (чыну) – пераводзілі ў праваслаўную царкву богумілаў у Маскоўскай Русі [87].

З гэтага зразумела, чаму гэты так менаваны "хрост" літвы (то бо перавядзенне літоўскае дэнамінацыі пад уладу каталіцкага касцёла праз умоўную працэдуру без абраду ўласна хросту) станаўко не прызналі крыжакі: тэўтонская прапаганда абвясціла яго выстаўным і несапраўдным. Вялікі майстар Ордэну Конрад Цольнер разаслаў нямецкім князём ліст, у якім цвердзіў, што ўчыненае далучэнне літвы да каталіцкага касцёла было не прыбыткам, але шкодаю для каталіцтва, было нядзейсным, аблудным і ўчыненым з парушэннем царкоўных правілаў [88]. Крыжакі таксама закідалі палякам, што тыя не чынілі аніякае катэхізацыі (то бо настаўлення ў веры) перад пераводам літвінаў на каталіцтва [89].

Крыжакі працягвалі зацята адмаўляць факт каталіцкага хросту літвы і пазней, закідаючы літвінам і самому каралю Ягайлу, што тыя засталіся ў былым "нявер'і". Гэтак, у 1388 г. крыжакі пісалі папежу Урбану VI, што Ягайла ахрысціўся адно пазорна, а сам апанаваў Польшчу, каб знішчыць паўсюль дзе магчыма хрысціянскую веру [90]. У 1403 г. вялікі майстар Тэўтонскага ордэну Конрад Юнгінген пісаў, што Ягайла памагае зброяй і іншымі рэчамі літоўскім "няверным" і "ўвесь час памагаў і памагае і мацуе дагэтуль", і дадаваў: "У яго [Ягайлы] істым хрысціянстве мы маем з гэтае прычыны дужыя сумневы, бо ён спамагае рускіх схізматыкаў і катараў (die Russen Schismatiker und Ketzer) і патурае іхняй непаслухмянасці рымскай царкве" [91]. Асабліва такія закіды разбуялі пасля разгрому крыжакоў у Грунвальцкай бітве, у сувязі з чым крыжацкая прапаганда абвясціла, што польскі кароль цалкам задзіночыўся з "няверными", якія пагражаюць хрысціянскаму свету. Адзін з найбольш вядомых цемрашалаў Ордэну дамінікан Фалькенберг даводзіў, што унія палякаў з Літвою была "апастазіяй" (т.б. адступніцтвам палякаў ад веры), а палякаў за задзіночанне з літвінамі менаваў герэтыкамі; Ягайлу і Вітаўта, дзеля ўжывання імі войскаў "няверных" (літвінаў, татараў і гусітаў) проці Тэўтонскага ордэну, Фалькенберг менаваў герэтыкамі і служкамі д'ябла [92]. Зразумела, што такія закіды маглі з'яўляцца, адно калі акалічнасці літоўскае рэлігійнае уніі, то бо пераводу літвы на каталіцтва, сапраўды не даўнімалі нейкую поўную капітуляцыю старое літоўскае веры перад каталіцтвам, а былі досыць умоўнымі (як для хрысціянаў іншае дэнамінацыі), дазваляючы ў ладнай меры ўлучэнне элементаў старое літоўскае веры ў літоўскі касцёл, – у тым ліку, як мы бачылі, дазваляючы пераход літвінаў да каталіцкага касцёла без уласна абраду хросту.

Тое, што так менаваны "хрост" літвінаў у 1387 г. быў умоўным актам задзіночання з каталіцкім касцёлам раней хрышчаных хрысціянаў, пацвярджаў і сучаснік падзей 1387 г. кардынал Пётр д'Альі. Ён, як афіцыйная асоба, не ўхвальваў практыкі наваратнага хросту, таму ў сваёй працы ён выступаў проці наваратнага хросту літвінаў:

"Няслушна чыняць тыя святары, якія хрысцяць наваратам, нават людзей маніхейскае сэкты, пашыранае ў Літве: *бо гэтыя людзі ўжо аднойчы прынялі хрост у імя Айца, Сына і Святога Духу*. Таму наваратны чын гэтае тайны забаронены. Але дастаткова прывесці іх да вырачэння ад аблуд і да падлегласці рымскаму касцёлу. Хоць змяшаная з язычніцтвам, аблудная і мыльная, *але ўсё ж гэта вера ў Госпада нашага Ісуса Хрыста, у Яго смерць і ўскрэсенне*" [93].

Пытанне наваратнага хросту літвінаў у 1387 г. таксама закранаў доктар Еранім Празскі (сябр Яна Гуса), як гэта вынікае з матэрыялаў Канстанцкага збору каталіцкае царквы, на якім у 1416 г. Еранім быў засуджаны. Еранім Празскі ў пачатку 1413 г. прыязджаў у Вялікае княства Літоўскае, дзе ў почце вялікага князя Вітаўта наведваў Полацк, Віцебск, Вільню ды Горадню. Сам Еранім казаў, што Ягайла і Вітаўт запрасілі яго ў Літву, каб параіцца аб некаторых царкоўных пытаннях [94].

Як вядома з пратаколаў допытаў Ераніма, у красавіку 1413 г. у Віцебску Еранім зносіўся з дзвюма групамі мясцовага жыхарства: "рускімі схізматыкамі" (Rutheni schismatici, Rutheni), пад якімі, відаць, трэба разумець праваслаўных, і "няверными схізматыкамі" або "няверным людам" (infideli schismatici, infidelium gentium, infidelium populorum), пад якімі, відаць, трэба разумець богумілаў. Ераніму закідалі ўхваленне веры гэтых "няверных":

"Еранім <...> заложна і станаўко цвердзіў, што гэтая сэкта русінаў і нявернага люду (infidelium populorum) ды іхняя вера ёсць і будуць дасканалымі (esse perfectam). Еранім заложна ўчыняўся да гаспадара вялікага князя [Вітаўта], намагаючыся адхіліць гаспадара вялікага князя і ўвесь яго хрысціянскі [т.б. каталіцкі] народ ад хрысціянскай веры, і

пераконваў застацца ў гэтай сэкце русінаў і няверных. <...> Калі спадар віленскі біскуп пачаў дакараць яго за ягоныя спакусы, то Еранім <...> станаўко прамовіў, што памянёныя схізматыкі і русіны (schismatici et Rutheni) ёсць добрымі хрысціянамі (boni Christiani)".

"Еранім <...> намагаўся вернуць да аблуд нявер'я (ad infidelitatem errorum) тых вернікаў, што былі навярнуліся на хрысціянскае [т.б. каталіцкае] вызнанне. Асабліва ў Літве і на Русі, наведваючы іхнія бажніцы, ён выказваў схільнасць да іхняй веры або вераадступніцтва (perfidiam), з пагардаю да агульнай хрысціянскай [т.б. каталіцкай] веры, за што і атрымваў багатыя дары. Аб гэтым пайшоў вялікі розгалас па Польшчы і Чэхіі" [95].



*Дэлегацыя Вялікага княства Літоўскага на Канстанцкім збору (нямецкая мініятура 1420 г.)*



*Еранім Празскі (гравюра 18 ст.)*

Еранім Празскі таксама адмаўляў патрэбнасць хросту літвінаў, якіх пераводзілі на каталіцтва. Падчас допыту 27 красавіка 1416 г. Ераніма запыталі: "Навошта пашыраў навуку Вікліфа ў Літве? Навошта схіляў да аблуд надовечы наварочаных ды хрышчаных католікаў?". На гэта Еранім адказаў, што "падчас сваёй выправы па Літве ён знайшоў між мясцовых жыхароў шмат людзей, прынятых да рымскага касцёла, якія раней былі хрышчаны *ў нейкай рускай веры*, пераходзячых з якой мелі звычай хрысціць наваратна. Аляксандр-Вітаўт і мясцовыя біскупы пыталі ягонай рады што да сваіх сумневаў, ці былі гэтыя людзі раней сапраўднымі хрысціянамі ці не; ён ім адказваў, што хрысціць наваратам не трэба, што дастаткова навучыць іх чыстай веры рымскага касцёла" [96].

У вышпісаных сведчаннях аб зносінах Ераніма з літоўскімі "няверным" не магло ісці адно аб праваслаўных ("русінах") – бо на каталіцтва ў Літве вальна перайшлі літвіны, а не русіны. Да таго ж, Вітаўт і каталіцкія біскупы не пыталі б аб "сапраўдным хрысціянстве" праваслаўных – бо пры ўсёй непрыязні каталіцкае царквы да праваслаўных яна ўсё ж не адмаўляла ім у імені хрысціянаў. Еранім і яго дазнаўцы злучалі разам літоўскіх "няверных схізматыкаў" і "русінаў-схізматыкаў" адно дзеля іх існавання ў адным гаспадарстве ды адрознасці ад каталіцтва – але пры гэтым выразна адрозніваючы дзве апрычоныя групы вернікаў у ВКЛ: літоўскіх "няверных" (багумілаў) і "русінаў" (праваслаўных). Такім парадкам, у гэтых звестках Еранім Празскі сведчыў аб літвінах – багумілах Вялікага княства Літоўскага – якія жылі ля Полацка, Віцебска, Вільні, Горадні ды пасля 1387 г. былі пераведзены на каталіцтва. Выяўным ёсць і сведчанне аб тым, што Еранім пераконваў вялікага князя Вітаўта "застацца" ў згаданай "сэкце няверных", – што скразна паказуе на тое, што спачатнаю вераю самаго Вітаўта была тая самая вера літвінаў, якую аўтар

пратаколу выпісваў як “вераадступніцтва” (perfidiam) ды “аблуды” (errorum) “няверных схізматыкаў” (infideli schismatici) – а Еранім як “дасканалую” веру “добрых хрысціянаў”. Такім чынам, сведчанні Ераніма Празскага пацвярджаюць іншыя звесткі аб тым, што ў Літве да Крэўскай уніі існавала афіцыйная богумільская царква, вернікі якой былі пераведзены ў каталіцтва на загад вялікага князя Ягайлы ў 1387 г.

**5. Заснаванне першых парафій.**

Пасля выдання прывілеяў каталіцкаму касцёлу Ягайла на працягу 1387 году з почтам літоўскіх і польскіх вяльможаў і святароў ездзіў па Літоўскай зямлі і фундаваў парафіяльныя касцёлы. У 1387 г. на землях Вялікага княства Літоўскага паўсталі, апроч катэдры ў Вільні, яшчэ каталіцкія парафіі: у Вількаміру, Майшаголе, Няменчыне, Медніках (на Віленшчыне), у Крэве (цяпер Смаргонскі раён Гарадзенскае вобласці), Гайне (Лагойскі раён Менскае вобласці) і Абольцах (Талачынскі раён Віцебскае вобласці) [97]. Да канца 1390-х гадоў каталіцкія касцёлы паўсталі яшчэ ў Лідзе, Ашмяне, Быстрыцы, Мерачы (да 1391 г.), Менску (1390 г.), Наваградку (1393 г.), Горадні, Бягомлю, Ваўкавыску, Бярэсці, Пінску (да 1396 г.) і іншых местах. Да канца княжання Вітаўта паўсталі яшчэ касцёлы ў Старых Троках (1400 г.), Новых Троках (1409 г.), Полацку (1409 г.), Салечніках (1410 г.), Ліпнішках, Геранёнах (1411 г.), Вавёрцы (1413 г.), Слуцку (1419 г.), Браславе (1423 г.), Вішневе (1424 г.), Ляцку (1424 г.), Коўні, Даўгах, Дубінках, Ганязі (на Падляшшы) і іншых местах [98]. Такім парадкам, літоўскі касцёл ужо ў першыя гады свайго існавання развіваўся на землях, жыхарства якіх было беспярэчна славянскім паводле мовы, культуры і самасвядомасці. Акты заснавання першых каталіцкіх касцёлаў і парафій у Літве (у тым ліку ў паўночнай яе частцы), імёны аўтараў і сведкаў гэтых грамат, ужытыя імі ў лацінскіх граматах выразы народнае (vulgariter) мовы літвінаў – досыць выяўна паказуюць, што станавіў сабой дакрэўскі літоўскі народ (“nacione Lithvanos”, “gens Lithuanica”, для якога, паводле слоў Ягайлы і Вітаўта, будаваліся касцёлы ў межах Віленскага біскупства), то бо для каго і ў якіх умовах быў устаўлены каталіцкі касцёл у Вялікім княстве Літоўскім.

Яшчэ ў першых прывілеях літоўскаму касцёлу 1387 г. вялікі князь Ягайла ўжываў у лацінскім тэксце гэтых прывілеяў народныя назовы падаткаў ды іншыя тэрміны: “устаўнае лукно” (stawne lukno), “падводы” (podvodis), “серабшчызна” (srzebrzczysna), “дзецкія” (dzeczskye) [99]. Такія ж словы народнае мовы, нават гутарковыя выразы, трапляюцца ў лацінскіх тэкстах іншых фундацыйных і дарчых грамат. У грамаце 1390 г., якою Ягайла ўпасажваў віленскую катэдру і капітулу, была згадана мера, менаваная “пуд” (*pud* dicta), а сярод наданняў былі згаданы “гаі” (*gaiis*) [100]. У грамаце касцёлу ў Медніках, выдадзенай Ягайлам у 1391 г., трапляецца выраз “пауустаўнае” (dictam *pulstawne*); падобны выраз (“поў уставы”) сустракаўся ў дарчай грамаце касцёлу ў Ашмяне віленскага ваяводы Альберта Манівіда з 1407 г. (vulgariter dictam *pol ustavy*) [101]. У лацінскай дарчай грамаце капліцы св. Міхайлы віленскага францысканскага кляштара з 1392 г. віленскі намеснік Гануль пісаўся як “намеснік” (*namestnik* Vilnensis) [102].

У лацінскай дарчай грамаце вялікага князя Вітаўта віленскай катэдры з 1410 г. было ўжыта “простанароднае” слова “прысёлкі” (*przysolky* vulgariter dictis) [103]. У дарчай грамаце маршалка дворнага Станіслава Чупурны віленскаму францысканскаму касцёлу ў 1410 г. быў ужыты тэрмін “устаўнае” (dictam *stawne*). Сведкамі гэтае граматы былі Монтрым Эйгірдавіч (Eyrdowicz), Ягінт з братам Рамейкавічы (Romeikowicz), Давыд Квачошавіч (Kwaczozowicz), месцічы і радцы віленскія Андрэй Мацеевіч (Andrea Matheiowicz), Лаўрын Андрэевіч (Lawrin Andreiowicz), Лугіна Мычновіч (Luhina Mycznowicz) і іншыя [104]. У дарчай грамаце вялікага князя Вітаўта віленскаму біскупу Мікалаю з 1411 г. былі ўжыты словы “ўстаўнае лукно” (*stawna lukna* mellis) і “палюддзе” (stacionis *poludze* appelato); ваявода віленскі Альберт Манівід прысведчыў гэтую грамату як “*voyevoda*” [105]. Князь Жыгімонт Кейстутавіч выдаў у 1411 г. грамату аб упасажанні фундаванага ім касцёла ў Геранёнах, якая была змацавана яго пячаткаю з надпісам “ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ЖИКГИМОНТА”. У лацінскім тэксце граматы былі згаданы “менаваныя ў народнай мове” (vulgariter dicitur) меры “шасціпяднае пудла” (*szesczipanthne pudlo*) і “пуд воску” (*pud vosku*) [106].

У дарчай грамаце віленскага мяшчаніна Мацея Волаха і яго жонкі Дароты віленскаму кляштару францысканаў з 1422 г. лацінскі выраз “situm circa fluvium Niemesz” (“размешчаны ля ракі Нямежы”) быў патлумачаны гутарковым выразам “на Нямежы” (in

vulgari comuniter dicendo *na Nemeszi*) [107]. У 1423 г. вялікі князь Вітаўт зацвердзіў дарчую грамату віленскага ваяводы Альберта Манівіда капліцы пры віленскай катэдры св. Станіслава, якою было загадана тром "сем'ям" (familiae vulgariter *siemie*) Цярэнцевічаў (Terentiewiczy) даваць "лукно пяціпяднае" (*lukno petypedne*) мёду, а братом Львовічам (Lwowiczy) і Небутовічам (Nebutowiczy) – "лукно шасціпяднае" (vulgariter *lukno szescipedne*) мёду на карысць тое капліцы [108]. У грамаце, якою вількамірскі баярын Міхайла Раковіч (Michael Rakowicz) фундаваў капліцу пры парафіяльным касцёле ў Вількаміру ў 1425 г., быў згаданы прэзбітар Мікалай Сасноўскі (Nicolao Sosnowski), служэбныя людзі Андрэй Гайдзюн, Фомка Дайліда, Мікола Цвікла, Пётр Міхна, Багдан і Марка Ляняцеі, Стануль Буртнік, Ян Буяк і іншыя. Сведкамі граматы былі: Івашка Бутрымавіч (Iwaszko Butrymowicz), Аляксандр Гельтульдовіч (Alexandro Gieltuldowicz), Войтка Даўмонтавіч (Woitko Dolmontowicz), Каспар Дайкловіч (Gasparo Daiklowicz), Янушка Яцковіч (Januszko Jaczkowicz) і іншыя [109].



*Касцёл Панны Марыі ў Троках (збудаваны ў 1409 г.)*

У дарчай грамаце, якою маршалак дворны Ян Гастоўт запісаў віленскай капітуле сваё сяло Рэшнікі ў 1433 г., конюх віленскі Візгайла быў згаданы як "*coniucho* Vilnensi" [110]. У 1434 г. у дарчай грамаце, якою Андрэй Саковіч, дзедзіч Няменчына, надаваў віленскай катэдры дзесяціну з свайго двара ў Свянцянах, былі згаданы мясцовыя жыхары Войтка, два Мікіты, Кузьма Сямашыч (Cusma Semaszicz), Кастусь Пуршка (Costhus alius Purschka) і іншыя. Некаторыя з іх былі ўчаснікамі суполак бортнікаў, якія па-народнаму называліся "сябрылы" (alias *sabrili*); учаснік такое сябрылы называўся "сябрыч" (alias *sabricz*) [111]. У дарчай грамаце 1434 г., якою вялікі князь Жыгімонт запісаў віленскай катэдры наданні ў медніцкай, дубінскай, лынгменскай і няменчынскай валасцях, былі згаданы гаспадары зямлі Івашка і Федзька Карэвічы (Iwaszko et Fedko germani Koreviczy), кмет Андрусь (Ondrusch). Таксама былі згаданы загароджы на рацэ, якія па-народнаму называліся "язы" (vulgariter *jazi*). Сведкамі граматы выступілі паны: кашталян віленскі Остык, ваявода віленскі Даўгерд, ваявода троцкі Лелюш, Пятрашка Мантыгердавіч, Ходзька Юр'евіч, Івашка Гастоўтавіч, Алёхна Давойнавіч і іншыя [112]. У грамаце 1436 г., якою Конрад Кучук (Cunradus alias Kuczuc), дзедзіч Жырмуноў, чыніў наданне віленскаму касцёлу францысканаў, была згадана мера мёду, якая па-народнаму называлася "шацец" (vulgariter dictam *szathec*) [113]. У грамаце 1437 г. Станіслаў Даўгайла, харужы віленскі, надаваў віленскай катэдры сваю зямлю Навіны (Nowiny) на дзесяць "бочак" (ad decem tunnas alias *beczki*) [114].

У грамаце 1439 г., якою Юрый і Станіслаў Радзівілы чынілі наданне віленскаму кляштару францысканаў з свайго двара Памушы ля Вільні, была абумоўлена дзесяціна "грычкаю" (et precipue *grycki*) [115]. Дачкі грычкаю былі абумоўлены і ў дарчай грамаце віленскаму францысканскаму кляштару князя Яна Свірскага і яго жонкі Дароты ў 1443 г. (et precipue *gryczky*). Сведкамі гэтае граматы выступілі паны Юрый Гастоўтавіч (Georgio Gottoltowicz), Аляксандр Ядаговіч (Alexandro Yadogowycz), Юшко Радзівілавіч (Yusko Radywylowycz) ды іншыя [116]. У 1440 г. пан Аляксандр-Монтаўт, разам з жонкаю Геленаю і сынамі Міхайлам, Янам-Таўтвілам, Барталамеем і Кандратам, адпісаў віленскаму францысканскаму касцёлу 20 бочак жыта з свайго сяла Арлоўцішкі, змацаваўшы грамату пячаткаю з надпісам "ПЕЧАТЬ МОНТОВТОВА". Сведкамі граматы выступілі баяры Нарко Савігайлавіч (Narkone Sowigalowicz), Нарыбут Ятаўтавіч (Naributh Yatoltowicz), Станіслаў Радзівілавіч (Stanislao Radwilowicz) і іншыя [117]. У дарчай грамаце, якою вялікі князь Жыгімонт у 1440 г. упасажваў рэктара касцёла ў Малым Мядзеле Мартына Дабрылоўскага з сёлаў князёў Свірскіх, была абумоўлена дачка з "мыта або торговага" (*mitha* alias *targowego*) і была згадана рака "з язам" (alias *z jazem*) [118]. У 1441 г. віленскі мяшчанін Мартын Мацеевіч (Martinus Maczeyowicz), які меў пячатку з надпісам "ПЕЧАТЬ МАРТЫНОВА", разам з сваёю жонкаю Маргарытаю або Машкаю (Margaretha alias Maszka) адпісаў віленскім францысканам дзесяціну з свайго двара Рачкішкі. Сведкамі граматы выступілі баяры Пётр і Яцко Гасковічы (Petro Gosschowicz cum fratre suo domino Jaczcone), Ян Тыльковіч (Johanne Tilcowicz) ды іншыя [119].



*Касцёл св. Тройцы ў Менску, заснаваны ў 1390 г. вялікім князем Ягайлам (перанесены на іншае месца і нанова збудаваны ў 1864 г.)*

У 1444 г. віленскі мяшчанін Базыль або Васько Саковіч (Basilius alias Waschko Sackowycz) з жонкаю Мілохнаю (Mylochna) запісаў наданне віленскім францысканам з свайго сяла Мінькова. Сведкамі граматы былі баяры Багдан Бутрымавіч (Bohdan Butrymowycz), Юрый Радзівілавіч (Georgio Radwylowycz), Яцко Гойцавіч (Jaczko Goyschewicz), Сухі Ян (Suchy Jan) і іншыя [120]. У 1446 г. віленскі мяшчанін Ян Конюх (Johannes alias Conyuch) запісаў віленскім францысканам наданні з сваіх сёлаў Шастава (Schastowo) і Маркава Сяло (Markowo Scholo) ля Мерачы. Сведкамі граматы выступілі Пётр Гаскевіч (Petro Goschewycz), Яцко Гаскевіч (Jaczko Goschewycz), Мартын канюшы (Martino Conyuchsso) і іншыя [121]. У дарчай грамаце касцёлу ў Дубінках з 1449 г. вялікі князь Казімір адпісаў гэтаму касцёлу "дварэц" (allodium alias *dworecz*) ля возера Вільнага. Сведкамі граматы былі паны Івашка Гастоўт (Ivaschkone Gastold), Пётр Мантыгердавіч

(Petro Mongyrdowicz), Ян Неміровіч (Joanne Nyemirowicz) і іншыя [122]. Княгіня Дарота або Сонька (Dorothea alias Sonyka) Свірская змацавала сваю грамату аб наданні дзесяціны з мястэчка Мядзел віленскім францысканам у 1449 г. пячаткаю з кірылічным надпісам (“КНЯЗЯ ... ПЕЧАТЬ”). Умоваю надання былі службы за душы Яна князя Свірскага і яго сыноў Васька (Vaszko), Некраша (Nyechrasz), Юрыя (Georgius) і Даўгерда (Daugyr). Сведкамі граматы былі Андрэй князь Свірскі, баярын Гасцейка Рымтаўтавіч (Hostheyko Rymtholthovycz) ды іншыя [123].

У 1451 г. кашталян віленскі Сямён Гедыгоўдавіч упасажыў касцёл у сваёй вотчыне Вішневе (ля Ашмяны) і надаў яму зямлю “з пашняй” (cum agro alias *z pasznia*) і лугі, па-народнаму менаваныя “сенажаці” (prata alias *sianozaczy*) [124]. У 1452 г. Магдалена, удава старасты лідскага Ягінта, надала віленскаму кляштару францысканаў “пашню” (agrum alias *pasznia*) з людзьмі ў Тракелях [125]. У 1459 г. пан Андрэй Даўгердавіч надаў касцёлу ў Лынтупах (ля Ашмяны) людзей, якія павінны былі даваць “бязмен” мёду (*bezmien* mellis) або “пуд” мёду (*pud* mellis), а таксама пэўную меру “грэчыхі” (*hreczychy*) і тры “бочкі” ячменя (tres *beczkas* hordei) [126]. У 1476 г. канцлер Вялікага княства Літоўскага Міхайла Кясгайлавіч у наданні капліцы віленскае катэдры згадваў “пуды” (*pvdy*), “устаў” (*vstaw*), “ушатцы” (*vszaczcze*) і чатыры “кулі ліпцу” (*kule lipczv*) (збаны ліпавага мёду), а ў наданні касцёлу ў сваёй вотчыне Дзявілтаве згадваў меру “грычыхі” (*griczychi*), “конюхаў” (*conyvchi*) і “пуды” (*pvdy*) мёду [127].

Літоўскія князі і баяры выдавалі граматы касцёлам не толькі ў лаціне, але і ў народнай мове. Гэтак, у 1399 г. вялікі князь Вітаўт адпісаў віленскім канонікам зямлю ля Стрэшына ў Рагачоўскай воласці [128]:

*у Троках, 3 красавіка 1399 году*

Мы великий князь Витовт, даем веданье всим, кто на сей лист узозрыть, или слышыть, дали есмо землю, кановником Виленским на имя Березинская, к Стрешыну, што были есмо дали князю Юръю Толочку от Рогачева, от Тоимя, а в ту землю первописаную не уступатися никому, ани Рогачевцем, ани иному кому, ниж держать кановником Виленским, к Стрешыну, вечно, непорушно никим же.

А на то все дали есмо на крепость сей лист и печать свою велели прывесити. А писан у Троцех у четверг по Велице дни, под леты по Рожстве Господни 1 и 3 ста, и девять десять и девять.

Монивид.

У 1444 г. кіеўскі князь Аляксандр Валадзімеравіч надаў касцёлу ў Слуцку “...село, што Одынец держал с пасеками и з бортными землями и з водами <...>. А еще прыдали есмо з нашого двора из Старыцы десетины од каждого жыта, а з нашого торгу Слуцкого з мясников грошовники брати” [129]. У 1460 г. Барталамей, дзедзіч Раготнае (у Слонімскай воласці), выдаў грамату на ўпасажанне касцёла ў гэтым сяле з дазволу і пры аблічнасці біскупа віленскага Мікалая Дзяжковіча [130]:

Въ имя Тройцы святой стань се. Для того иж память чоловечая не можеть быть прыровнана вечности а прото слушно, абы оные речы, которые залежать потребам людским были бы доведены къ умоцненью вечности през сведомье люди добрых и през твердость печати их. Для того я Бартоломей дедич в Роготной, жадаючы збавенья слушного душе моей и теж моих продков и намесников, и теж од Пана Бога Всемогущого осягаючы заплату вечную, церковь в селе моем або дворе моим зовомом Рогатная, надал есми и поднесл есми през велебного отца в пане Хрыстусе князя Миколая з Божей ласки бискупа Виленского на честь и на хвалу Бога Всемогущого и Бартломея святого апостола, святой Ельжбеты, всих святых. Потым теж олтарь, уходячы до костела по правой руце на честь и на хвалу святых Войцеха, Юрыя возвать олтарь и посвятить умыслил есми посполу з речоным костелом.

Хотячы теж я Бартоломей костел преречоны был надан а с таковых надатков справцы альбо теж плебаны того костела на час будучности могли меть вечное пожывенье, которых пожываючы могли бы тым набольш а налепей прыставать Боским службам, хвалячы Бога Всемогущого, тым набожней и слушней будучы в покою тому костелу и справцы на час будучому <…>. Еще теж записую землю бортную зо всими податки в Рогачухах, а на потребу свеч костельных записую камень воску с пивницы на кажды год дать и заплатить. А еще тому ж костелови и плебанови будучому записую десятеро челяди невольной. <…>

Дано в Рогатной, четвертого дня по с. Мартыне наближшым лета Божему Нароженью тысячного и четырехсот шесть. Пры той речы будучым велебному отцу Миколаю бискупу Виленскому, и князю доктору Андрею прав духовных каноникови виленскому, Матьясови алтарысте Годевича виленского, Миколаеви негды будучому плебанови в Солечниках, Якубу дворному капланови князя бискупему, Ячыне наместникови в Дятеле, и инным многим людям которым маеть быть верено на тую реч возваную.

Захаваліся граматы фундацый і наданняў касцёлам у народнай мове, якія ўспраўлялі князі Гальшанскія, паны Неміровічы і іншыя літвіны (гл. ніжэй).



*Фрэска ў падзямеллі віленскае катэдры (14 ст.): распяты Хрыстос, Багародзіца і Іван Багаслоў.*

Імаверна, у некаторых выпадках каталіцкія касцёлы засноўвалі на месцы ранейшых перабудаваных або зруйнаваных богумільскіх бажніц. Гэтак, вядома, што віленская катэдра св. Станіслава была збудавана на месцы былое бажніцы: паводле сведчання крыжацкага дыпламата Конрада Кібурга, які наведваў Вільню ў 1397 г., сцены старое "язычніцкае бажніцы" былі ўлучаны ў будынак новае катэдры [131]. Аб тым жа пісаў Я. Длугаш. Святы агонь, які, паводле Я. Длугаша, гарэў у гэтай галоўнай бажніцы літвінаў у Вільні, называўся славянскім словам "зніч" (znicz) [132]. Археалагічныя даследванні паказалі, што на месцы катэдры да 1387 году існавала ранейшая царква [133]: падчас раскопак падзямелляў катэдры знойдзены кавалкі сцен і сходаў старое царквы, а таксама фрэска 14 стагоддзя бізантыйскага стылю з выяваю распяцця. Паводле падання, фарны касцёл у Наваградку (збудаваны ў 1393 г.) таксама паўстаў на месцы ранейшае "паганскае бажніцы" [134]. Аб тым, што касцёл Панны Марыі ў Троках (збудаваны ў 1409 г.) можа быць перабудоваю ранейшае царквы, сведчаць адчыненыя падчас рэстаўрацыі фрэскі на сценах касцёла з надпісамі кірыліцаю. Вядома, што да 1400 г. у Старых Троках заснавалі сваю місію бенедыктыны славянскага абраду; у 1405 г. вялікі князь Вітаўт заснаваў для гэтых бенедыктынаў кляштар у Старых Троках [135]. У 1469 г. кароль Казімір Ягайлавіч зноў запрасіў бенедыктынаў славянскага абраду з паўднёва-славянскіх зямель у Трокі [136].

Геаграфія паўстання першых каталіцкіх касцёлаў у Вялікім княстве Літоўскім, натуральна, не мае нічога супольнага з гіпатэтычнай тэрыторыяй пражывання нейкага "этнічна балцкага паганскага народу" (як у канструкцыях мадэрнавае гістарыяграфіі) – а адлюстроўвае тэрыторыю пражывання гістарычнага народу літвінаў, то бо дакрэўскае богумільскае дэнамінацыі ВКЛ. Нязбітным даводам гэтага ёсць грамата караля Ягайлы 1389 году, у якой Ягайла пісаў: "Дали есмо Князю Бискупу *по всей земле Литовской*, где ся ему полюбит, поставить церков" [137] (гл. дад. №31). "Зямлёю Літоўскаю" называлася тэрыторыя ўласна Вялікага княства Літоўскага, без Жамойці і ўкраінскіх зямель, якая адпавядала тэрыторыі Літоўскае мітраполіі (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). На ўсіх яе прасторах (праўда, у розных лічбах) жылі літвіны, то бо вернікі літоўскае богумільскае царквы (да 1387 г.). Гэта тлумачыць, чаму ў склад Віленскага каталіцкага біскупства ўвайшла амаль уся тэрыторыя ўласна Вялікага княства Літоўскага, то бо амаль уся тэрыторыя былое Літоўскае мітраполіі. Геаграфія паўстання самых першых касцёлаў, заснаваных Ягайлам у 1387 г. – у Вільні, Вількаміру, Майшаголе, Няменчыне, Медніках, Крэве, Гайне, Абольцах, – адлюстроўвае проста тэрыторыю айчызных валоданняў Ягайлы (Віленскае, Крэўскае і Віцебскае княствы), над якімі ён меў рэальную ўладу на той час. Ад 1392 г. (ад часу займання вялікакняскага стальца Вітаўтам) пачынаецца заснаванне каталіцкіх касцёлаў у Наваградку, Горадні, Бягомлю, Ваўкавыску, Бярэсці, Пінску і іншых гарадох па ўсёй тэрыторыі ўласна Вялікага княства Літоўскага, якая склала тэрыторыю Віленскага каталіцкага біскупства. Натуральна, гэтыя працэсы не мелі ніякае сувязі з быццам пражываннем у гэтых месцах нейкага гіпатэтычнага "этнічна балцкага народу" (канструкцыі аб чым дагэтуль спрабуюць высоўваць прыхільнікі "балцкае" тэорыі), а адлюстроўвалі геаграфію пражывання літвінаў – былое богумільскае дэнамінацыі ВКЛ. Напрыклад, як мы бачылі з сведчанняў Ераніма Празскага, яшчэ ў 1413 г. існавала богумільская грамада ў Віцебску. Аб літвінах, якія перайшлі на праваслаўе ў Віцебску, згадуюць пазнейшыя звесткі (гл. ніжэй).

Аб тым, што працэс пераводу літвы на каталіцтва не меў ніякага дачынення да быццам "хрысціянізацыі" нейкага "этнічна балцкага народу", сведчыць і той факт, што ўвязанне каталіцтва ў Літве ішло апрычона ад хрысціянізацыі Жамойці, дзе каталіцкая царкоўная арганізацыя была створана адно за 30 гадоў пазней – у 1417 годзе. Прытым, заснаванне Ягайлам і Вітаўтам шэрагу касцёлаў у Жамойці і стварэнне Жамойцкага каталіцкага біскупства ў 1417 г. выклікала жорсткі супраціў жамойцкага жыхарства: у наступным 1418 г. жамойты ўзбунтаваліся, выгналі біскупа і ксяндзоў, разбурылі касцёлы і дамы баяраў-католікаў, дзеля чаго вялікі князь Вітаўт быў вымушаны выправіць у Жамойць літоўскае войска, каб задушыць гэтае паўстанне [138]. Жамойць не мела адзінае царкоўнае арганізацыі з Літвою, а мела апрычонае Жамойцкае біскупства, межы якога амаль у дакладнасці супадалі з межамі Жамойці. Віленскае ж біскупства абыймала амаль усю тэрыторыю ўласна Вялікага княства Літоўскага з Полацкам, Оршаю і Мазыром (парафіі Бярэсця і Пінска ўвайшлі ў склад Валадзімерскага, пазней Луцкага каталіцкага біскупства). Яшчэ ў 1395 г. вялікі князь Вітаўт надаў віленскай капітуле сёлы Корань, Ганевічы і Воўчу ля Барысава; у 1399 г. Вітаўт адпісаў віленскай капітуле зямлю ля Стрэшына ў Рагачоўскай воласці (гл. вышэй) [139]. Віленскія канонікі і ўраднікі віленскага біскупа судзілі суды аб маёмасці капітулы на ўсіх землях Віленскага біскупства, у тым ліку ў мазырскім павеце (гл. ніжэй). Моваю навучання народу ў межах Жамойцкага біскупства была "жамойцкая гаворка" (ydioma Samagitica), у той час як у Віленскім біскупстве моваю набажэнства, казаней і касцёльнае навукі была "літоўская", то бо беларуская мова (lingua Lithuanica) (гл. ніжэй). Усё гэта яшчэ раз падчырківае гістарычную апрычонасць Літвы і Жамойці ды паказуе сапраўдны шлях рэлігійнае гісторыі Літвы.

Богумільская вера Літвы, відаць, не знікла чыста адразу па рэлігійнай рэформе 1387 году. Па-першае, у святле вышпісаных звестак, трэба казаць аб улучэнні ў ладнай меры элементаў старое літоўскае веры ў літоўскі касцёл, што адбывалася найперш праз учасць у літоўскім царкоўным жыцці францысканаў. Францысканскі ордэн, асабліва тая яго галіна, якая была вядома пад імем спірытуалаў, а пазней абсэрвантаў (бернардынаў), займаў адметнае месца ў каталіцкай царкоўнай арганізацыі, шырачы скрайнія аўгустынісцкія і аказіяналісцкія погляды, што дазваляла яму знаходзіцца ў шчыльным кантакце з евангеліцкімі (богумільскімі і калябогумільскімі) рухамі ў розных краёх Еўропы. Гэтак, на працягу 14 стагоддзя францысканскія місіі досыць паспяхова наварачалі на каталіцтва

богумілаў у Босніі і Баўгарыі. Тое самае адбывалася і ў Літве: не здзіўляе, што ў будаванні каталіцкага касцёла ў Літве вёў рэй наймя францысканскі ордэн, які знаходзіў шмат спагады сярод літвінаў. Гэтак, яшчэ ў 1360 г. польскі кароль Казімір паведамляў папежу Інацэнту VI, што літоўскія "няверныя заўсёды выяўляюць вялізную прыхільнасць да казаней францысканаў" (ad Minorum predicationem infideles eis contigui maiorem devotionem habere videntur) [140]. Мова была, відавочна, пра дзейнасць францысканаў у Літве, знітаваную з выправай пасольства пражскага архібіскупа Эрнэста да Літвы ў 1358 г.: мабыць, невыпадкова гэтая выправа адбылася адразу пасля таго, як Грыгор Рымінійскі быў прызначаны генералам аўгустынскага ордэна, а яго навука аб дваістым перадвызначэнні (па сутнасці, тоесная сатэрыялагічнай догме богумільства) сталася афіцыйна прызнанаю каталіцкім касцёлам.

Да 1374 г. старшынёй францысканскае місіі ў Літве быў польскі францыскан Андрэй Васіла. Вядома, што ён ведаў мову літвінаў і вялікі князь Альгерд часам клікаў яго да сябе на раду [141]. У часе Крэўскае рэлігійнае рэформы фактычна ўсю працу па наварачэнні літоўскага люду і заснаванні касцёлаў рабілі мясцовыя францысканы на чале з Андрэем Васілам, які быў прызначаны на пасаду віленскага біскупа. Францысканская місія ў Лідзе, заснаваная яшчэ ў 1366 г., імаверна, была падчас рэформы адным з яе асяродкаў: у Лідзе Ягайла выдаў у студзеню 1389 г. прывілеі літоўскаму касцёлу (гл. дад. №31). Падчас стварэння літоўскага касцёла францысканы занялі ў ім паноўнае становішча: двума першымі віленскімі біскупамі (і прытым, як адзначаюць крыніцы, гарлівымі казнадзеямі) былі францысканы – паляк Андрэй Васіла (1388–1398) і літвін Якуб Пліхта (1398–1407) [142].



*Кляштар францысканаў у Вільні*
*(збудаваны ў канцу 14 ст.)*

Францысканы прамаўлялі казані і шырылі каталіцкую навуку ў Літве ў народнай мове. Гэтак, у 1410 г. адзін з літоўскіх францысканаў паляк Ян Малы пісаў у папскую курыю, што ён дасканала ведае мову "зямель літвінаў і русінаў", якою карыстаўся пры прамаўленні казаней і наварачэнні народу (...in partibus Lithuanorum et Ruthenorum fidem catholicam praedicaveris <...> et idioma, quod ipsi loquuntur, perfecte loquaris et intelligas...) [143]. У школе пры віленскай катэдры, заснаванай у 1387 г., выкладчыкамі былі таксама францысканы [144]. Ужо за радаў першых біскупаў паўсталі францысканскія кляштары ў Быстрыцы (1390 г.), Медніках (1391 г.), Ашмяне (да 1397 г.), Пінску (1396 г.), Дарагічыне (1407 г.), Віцебску (да 1413 г.), Вавёрцы (1413 г.) [145]. Францысканская місія ў Наваградку існавала яшчэ ад 1312 г., у Вільні – ад 1323 г., у Лідзе – ад 1366 г. Поруч з кляштарамі францысканаў літоўскія князі засноўвалі кляштары блізкага ім ордэну аўгустынцаў – у

Быстрыцы (1390 г.), Бярэсці (1412 г.). Захаванне ў ладнай меры спадчыны дакрэўскае рэлігіі літвы і ўлучэнне ейных элементаў у літоўскі касцёл відаць у пашырэнні ў касцёле народнае мовы і ў адметным характару літоўскае рэлігійнае літаратуры таго часу (гл. ніжэй).

Мела месца і захаванне старое літоўскае веры па-за межамі касцёла: як мы бачылі з сведчанняў Конрада Юнгінгена (1403 г.) і Ераніма Празскага (1413 г.), па ўсёй Літве было нямала літвінаў, якія не перайшлі на каталіцтва, а трымаліся старое літоўскае веры. Гарадзельскі прывілей 1413 г. сведчыў (гл. вышэй), што сярод хрысціянаў Літвы былі не адно "падданыя рымскай царквы", але і "схізматыкі і іншыя няверныя" – пад "нявернымі" тут, безумоўна, разумеліся літвіны-богумілы, якія яшчэ не перайшлі ані на каталіцтва, ані на праваслаўе. З пазнейшых сведчанняў таксама відаць, што значная лічба літвінаў, што трымаліся сваёй старой веры, працягвала існаваць у розных землях Вялікага княства. Аб "тысячах" такіх літвінаў на Полаччыне сведчыў гвардыян віленскага аддзялення бернардынаў Ян Камароўскі (займаў гэтую пасаду ад 1511 г.) [146]. Аб літвінах ля Дзявілтава, што заставаліся ў сваёй старой веры, сведчыў ліст маршалка гаспадарскага Станька Судзівоевіча да папежа рымскага з 1469 г. (падрабязней гл. у артыкуле "Літва і Орда..."). Вядомая ў дакументах літоўскага касцёла мянушка "старалітвы", безумоўна, была азначэннем тых літвінаў, што трымаліся, часткова або цалкам, сваёй старое дакрэўскае веры (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Можна меркаваць, што літвіны добра памяталі пра сваю старую дакрэўскую веру аж да часу Рэфармацыі 16 стагоддзя – відаць, невыпадкова з тэрыторыяй старое Літоўскае мітраполіі супадае геаграфія вальнага паўстання ў ВКЛ евангеліцкіх збораў і школ (Нясвіж, Клецк, Наваградак, Бярэсце, Вільня, Смаргонь, Менск, Віцебск, Глыбокае, Магілёў, Орша, Шклоў, Слуцк і інш.).

**6. Мова літоўскага касцёла.**

Наварачэнне літоўскага люду на каталіцтва ў 1387 г. і пазней адбывалася ў славянскай мове, чаму ёсць шмат сведчанняў. Падчас першых крокаў па пераводзе літвы на каталіцтва Ягайлу спамагалі ў гэтым польскія святары, а таксама чэскія [147]. Чэскі місіянер Ян Еранім Празскі (не гусіт Еранім Празскі, а іншы Еранім, спавядальнік Ягайлы), які пасля 1394 г. наведваў Літву, казаў веру літвінам у славянскай мове і выпісваў літвінаў як славянскі народ [148]. Абвяшчэнне і наўчанне Ягайлы ды іншых літоўскіх князёў адбывалася таксама ў славянскай мове [149]. Ягайла, жадаючы слухаць настаўленні ў веры і набажэнства на звыклай славянскай мове, заснаваў на каралеўскім замку ў Кракаве капліцу для чэскіх бенедыктынаў славянскага абраду, бо ў Польшчы тады не было польскае мовы ў касцёле (гл. вышэй). Вядома, што Ягайла дзякаваў чэхам за навуку: "Я сам сведчу вам, што ўспрыняў пачаткі веры як новы хрысціянін ад многіх чэхаў (a plerisque Bohemis), дактароў, дасведчаных у Боскім і людскім праве" [150]. Тыя ж бенедыктыны славянскага абраду да 1400 г. былі запрошаны і ў Трокі.

Прынамсі ад сярэдзіны 14 стагоддзя пад назовам "літоўскае" ў розных крыніцах вядома беларуская мова і толькі адна гэтая "літоўская" мова вядома ў часе Ягайлы і Вітаўта. У гэтую мову яшчэ за часу Ягайлы былі перакладзены для католікаў-літвінаў асноўныя каталіцкія тэксты – сымбаль веры, малітвы, катэхізм (у "літоўскай" мове пад уласнаручнай рэдакцыяй Ягайлы) і іншыя рэлігійныя творы (гл. р. 10). Ад 1387 году гэтая літоўская мова (lingua Lithuana) была моваю казаней і адукацыі ў літоўскім касцёле. Першы каталіцкі віленскі біскуп Андрэй Васіла (1388–1398) у сваім лацінскім тэстаменце пакінуў гутарковыя словы "нашыць" (naszycsz) ды "лысы жрэбеч" (lyssy szrzebyecz), запісаўшы, што гэта словы "простанароднае" (vulgariter) мовы віленцаў [151]. Аб народнай мове літвінаў сведчылі ў сваіх наданнях касцёлам вялікі князь Вітаўт ("vulgariter *lukno szescipedne*" – "па-народнаму "лукно шасціпяднае" – у грамаце для віленскай катэдры 1423 г.) і князь Жыгімонт Кейстутавіч ("vulgariter dicitur *pud vosku*" – "што па-народнаму называецца "пуд воску" – у грамаце для касцёла ў Геранёнах 1411 г.) (гл. вышэй).

На працягу 15 стагоддзя віленскімі каталіцкімі біскупамі, апрача двох палякаў – Мікалая Баркоўскага (1407–1414) ды Пятра з Кустыня (1415–1421), былі літвіны. Другі віленскі біскуп Якуб Янавіч Пліхта (1398–1407), абраны на сваю пасаду віленскаю капітулаю, паходзіў "з народу і мовы" Літвы (Jacobum … natum quodam Joannis dicti Plychta … vicarium Lythuanie, eiusdemque nacionis et lingue) [152]. Прыроднымі літвінамі былі і віленскія біскупы: Мацей з Трокаў (1422–1453) (Mathiam origine Lytwanum), Мікалай Дзяжковіч з Салечнікаў (1453–1467) (Nicolaus Dzierzgowicz dictus, natione Lituanus), Ян Ласовіч з Вільні

(1468–1481) (Johannes Lossowicz civilis Vilnensis Lithuanus), Андрэй Пятровіч Гасковіч з Вільні (1481–1491) (Andreas Petri Goschovicz de Vilna, natione Lituanus, Vilnensis) ды Альберт Табар з Мерачы (Albertus Tabor de Merecz, Lythwanus) (1492–1507) (яго брат Барташ заўсёды быў менаваны ў лістох "Табаровіч" (Taborowicz)) [153].

Усе гэтыя біскупы падтрымвалі ўстаўлены ад пачатку афіцыйны статус народнае мовы ў літоўскім касцёле. Інакш і быць не магло, бо прывілей вялікага князя Казіміра 1447 г. пацвярджаў існы звычай прызначаць святарамі адно прыродных літвінаў: "Которая ж то церква головная, зборная, кляштырная, иж бы пуста была, а пастыря не держала, <...> не иного, а любо не иных, пастыря, а любо пастырев давати маем, нижли Великого Князьства Литовского *прыроженого*, аж достойными обычаи найден будеть..." (гл. дад. №56).



*Віленскі біскуп Якуб Пліхта*
*(1398–1407 гг.)*
*(малюнак 17 ст.)*




*Віленскі біскуп Мацей*
*(1422–1453 гг.)*
*(малюнак 17 ст.)*

У 1397 г. віленская капітула ў акце абрання біскупа Якуба Пліхты (славянскае прозвішча) адзначыла, што ён паходзіў не толькі "з народу", але і "*з мовы*" Літвы (vicarium Lythuanie, eiusdemque nacionis et lingue) – і, як паказуюць розныя дакументы, гэтая "літоўская" (беларуская) мова была не толькі моваю казаней і адукацыі, але і часткова моваю касцёльнага набажэнства і таемстваў у Віленскім біскупстве. У той жа час, Мацея з Трокаў, пробашча віленскага і прыроднага літвіна (origine Lithuanum), вялікі князь Вітаўт у 1417 г. прызначыў біскупам жамойцкім, бо Мацей "быў дастаткова навучаны жамойцкай гаворцы" (de ydiomate Samagitico sufficientissime institutum) [154]. Жамойцкая мова ў крыніцах ніколі не згадуецца ў сувязі з касцёльнай адукацыяй ды пагатоў з набажэнствам – веданне жамойцкае мовы патрабавалася ад святароў у Жамойцкім біскупстве адно для тлумачэння народу падстаў веры ды наўчання сама простым асновам касцёльнага жыцця. А школьная адукацыя ў Жамойцкім біскупстве адбывалася, безумоўна, у беларускай мове (тагачаснай "літоўскай") – адсюль і беларуская лексіка ў жамойцкай царкоўнай тэрміналогіі. Што ж тычыцца тагачаснае "літоўскае" (беларускае) мовы (lingua Lithuanica), то яна згадана ў розных крыніцах дый у саміх лістох літоўскага касцёла як мова школьнае адукацыі, мова казаней, навучання народу ды нават як мова набажэнства і таемстваў у межах усяго Віленскага біскупства (то бо ў межах уласна Вялікага княства Літоўскага). Дый іншае "літоўскае" мовы ў 14–15 стагоддзях, апрача беларускае, увогуле не існавала (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя").

Польская мова ў 15 стагоддзі ў набажэнстве літоўскага касцёла не ўжывалася, бо польская мова ў той час не была моваю набажэнства ў самой Польшчы [155]. Для польскіх

святароў, што прыязджалі ў Літву, было абавязковым веданне літоўскае (беларускае) мовы. Напрыклад, вядома, што ў 1453 г., калі кароль Казімір прапаноўваў на пасаду віленскага біскупа выдатнага багаслова паляка Судзівоя з Чэхла, той адмовіўся дзеля таго, што не ведаў літоўскае мовы (“Generose mi Rex, Lithwanicum ydioma ignoro...”) [156].

Як паказуюць дакументы Віленскае архідыяцэзіі, літоўская (беларуская) мова ўжывалася тады ў касцёле не адно пры дадатковым набажэнстве і навучанні народу, але і пры чыненні таемстваў. Аб гэтым сведчыць статут Віленскае дыяцэзіі 1528 году, які загадваў скасаваць стары звычай прамаўлення сакральных формул пры таемствах па-літоўску і загадваў прамаўляць такія формулы адно ў лаціне: “Дзе літоўская мова (lingua Lithuana) ёсць мясцоваю ды паспалітаю і дзе не патрэбна большае істотнасці і дзейнасці таемства, там могуць дапускацца прыкрыя памылкі ў выказе слоў, калі прыймаюць хрост немаўляты, слоў, якія прамаўляць пры хросце. Няхай вышменаванае мовяць не *літоўскаю гаворкаю* (*Lithuano idyomate*) <...>, а ў лацінскай мове” [157]. “Літоўскаю” тут магла быць менавана адно беларуская мова. Жамойцкую мову пад імем “літоўскае” замежныя прапагандысты тады пашыраць яшчэ не пачалі, дый ужыванне нейкае балцкае мовы ў такой якасці было чыста немагчымым: жамойцкая мова не мела ніякае багаслоўскае літаратуры ды лексікону нават для пачатковае царкоўнае адукацыі, не кажучы ўжо аб ужытку яе для касцёльнага набажэнства або таемстваў. Першыя рэлігійныя творы ў жамойцкай мове, якія з’явіліся ўпершыню ў другой палове 16 стагоддзя, мелі надзвычай прымітыўны характар. Дый сама царкоўная лексіка жамойцкае мовы была суцэльна славянскаю (гл. вышэй): яшчэ Даўкша, стваральнік літаратурнае жамойцкае мовы, пакінуў у ёй увесь пласт славянскае царкоўнае лексікі [158].

Такім парадкам, статут 1528 г. засведчыў ужыванне тагачаснае “літоўскае” (беларускае) мовы ў касцёле пры чыненні таемстваў. Той жа статут зацвярджаў старую практыку выкладання ў парафіяльных школах Евангеліі і лістоў апостала Паўла ў літоўскай і польскай мовах: “Уставуем і даручаем <...> каб рэктары касцёлаў <...> дакладна тлумачылі тутэйшым вучням у *літоўскай* і польскай мовах (pariter utroque *Lithuano* et Polono idiomate) Святыя Евангеліі і Лісты апостала Паўла” [159].

Аб тым, што ўжываная ў літоўскім касцёле “літоўская” мова была беларускаю, сведчыць і грамата вялікага князя Аляксандра 1501 г., якая загадвала стала прамаўляць казані ў літоўскай мове (Lythuanici idiomatis) прэзбітарам у 28 парафіяльных касцёлах Літвы, у тым ліку ў касцёлах: Вільні, Ліды, Дубінак, Свянцянаў, Быстрыцы, Беліцы, Дубічаў, Слоніма, Краснага Сяла, Валожына, Маладэчна, Радашковічаў, Койданава, а таксама Трысцянкі, Далістава і Ганязі на Падляшшы [160]. Відавочна, у гэтых парафіях меў месца вялікі наплыў ксяндзоў і казнадзеяў з Польшчы, якія прамаўлялі да народа па-польску, таму і спатрэбіўся адмысловы загад гаспадара аб казанях у народнай мове. Такія ж акалічнасці і тую ж “літоўскую” мову выяўляе дамова, укладзеная ў 1521 г. магістратам і мескай радай Вільні з плябанам віленскага Свята-Янскага касцёла немцам Леанардам Радыянам: у ёй была, між іншым, умова аб утрыманні плябанам пры касцёле “літоўскага казнадзея” (praedicatores vero plebanus Lithvanum), то бо казнадзея, які мусіў мовіць казані ў літоўскай мове (поруч з “польскім казнадзеем”, якога таксама ўтрымваў Свята-Янскі касцёл). Сярод чальцоў мескае рады, якія ўклалі гэтую ўгоду з гэткім патрабаваннем, не было ніводнага неславянскага імя – сведкамі гэтае ўгоды былі: Бабіч, Мікалаевіч, Адзвернік, Янушка Чорны, два Міхавічы, Сырамятнік, Воўк, Лаўрын (сваяк віленскага войта Юхны Лаўрыновіча) і Мішусь. Гэтая ўгода змяшчала таксама ўмову аб пасцівым абхаджэнні плябана з парафіянамі “паводле старажытнага звычаю” [161].

У народнай мове літвінаў былі выдадзены найважнейшыя граматы, што тычыліся ўвязання каталіцтва ў Літве: прывілеі літоўскаму касцёлу караля Ягайлы 1389 году (гл. дад. №31), грамата вялікага князя Вітаўта аб хросце літвы 1392 г. (гл. дад. №33). У гэтай мове ліставаліся міжсобку біскупы, касцёльныя ўраднікі і князі (гл. дад. №32, 38, 47), у ёй пісалі свае нутраныя дакументы віленскія біскупы і капітула. Гэтую мову менавалі народнаю самі літоўскія князі і баяры ў сваіх граматах касцёлам (гл. вышэй). У гэтай мове выдавалі граматы аб фундацыі і ўпасажанні літоўскіх касцёлаў, у гэтай народнай мове складалі першыя каталіцкія літаратурныя помнікі Літвы 15 стагоддзя (гл. ніжэй). Аб ужыванні народнае мовы літвінаў у касцёле сведчаць і ацалелыя граматы ў народнай мове, якія выдавалі ад імя і ў адрас віленскае капітулы.

У 1451 г. Ян-Карэйва Ядуговіч прадаў сваю зямлю ў Ваўкавыскай воласці біскупу віленскаму Мацею і катэдры св. Станіслава: “Се я Ян, иначей Корейва Ядукгович, продал есми добровольно и с ведомом осподаря короля Казимира землю свою питомую у волости Волковыской, которую ж то землю купил есми был у Бартоша прозвищом Козего Мистра и с тою землицею, которую купил есми у Мацка Вовковлянина, ксеньзю Матею бискупу Виленьскому и церкви Виленьской святого Станислава. <...> Будеть ли хто у тых землях бискупа и церковь нагабати, я хочу у то уступитися и боронити и очистити тые земли”. Склаў і запісаў грамату “Матысь кановник Виленский” [162].



*Касцёл у Ішкальдзі, збудаваны ў 1449 г.*

У 1471 г. пан Мікалай Немiровiч, дзедзіч Усялюбу, упасажыў сваёю граматаю касцёл у Ішкальдзі [163]:

Въ имя Боже амен. Поневаж нынейшего веку слабы, благи и яко лед слиски и нетрывалы стан все людские справы в запаметанья пропасть многокроть погражать звыкл, естли бы которая дельная а памети годная реч выраженьем письма и сведченьем хрыстьянства верного увекуищона або къ вечности утвержона не была.

Мы теды Миколай Немирович з Уселюба дедич, поспол з Ельжбетою жоною мою власною, того света стан уважаючы несталы быть и нетрывалы, теды хотячы часныи и пременныи а страте и згубе подданыи добра переменить за векуистыи, небесныи, певныи а незгубныи, сподеваючыся се по того жывота убогого заходе до жывота прыйти векуистого, теды мы то до ведомости так ныне жывущых люди, особливо которым то ведать належыть, яко и до инных потомных, прыводимы через тое письмо: <...> теды мы костелови нашему в Ишкульти през мя ново фундованому и на честь и на хвалу Бога в Тройцы единого на памятку Звестованья Панны Марыи и святого Миколая бискупа през бискуплю достойность посвячоному и его урднику плебанови нынейшему и иншым по ним напотым будучым, двор мой Зуховичы речоны зо всей землей, ролями и пашнями и потым прыпахаными и с сеножатями по той стороне реки Ушей лежачыми и прылеглыми, <...> яко есмь сам той же дворец зо всими дотуль трымал и держал и мел. <...>

Абы того намененого именья, добра, доходов, подданых и дани и робот их тым способом тому ж костелови легованего той и кожды инны плебан в покою и в тихой беспечности без габанья всякого ужывать мел, держал, мел и

в державу костельную оборотил. Взглядом которого дарованья и прыданья преречоных добр и доходов плебанови до костела будеть повинен кожды плебан под сумненьем своим Пану Богу за то служыть а власне в костеле великим, то есть Тройце святой у фары, на кождую неделю и на кождое свято мшу за грехи и за умерлыи меть. <...>

У 1473 г. князь Аляксандр Гальшанскі адпісаў віленскай катэдры частку сваёй маёмасці ў Свіранах пад апеку біскупа віленскага Яна Ласовіча [164]:

Въ имя Боже амен. Я Александр князя Юръя сын Семеновича Гольшански, будучы здоровы на своей мысли, на своем теле, непрыпужоны але с доброго моего розмышленья, чыню сведомо всим посполито и каждому з особна нынейшым и потом будучым, иж для збавенья и памяти душы моей, естли Бог што на мя препустить на дорозе службы королевской и земской, которую ныне с прыказанья Короля его милости и панов радных чыню до Ляхов, яко ж ми Король его милость ис иншою братьею моею прыказал, поручаю и даю Богу и святому Станиславу костела виленского часть именья моего у Свиранах, дельницу отчызны моей, в котором костеле у святого Станислава погреб выбрал есми, если ми ся у далеких землях смерть не прыгодить, с которых же не может быть тело мое прыпроважено. А того именья пирвей выписаного князь Ян з Божей ласки бискуп Виленски нынейшы и его наместник потым будучы мають быть опекуны и державцы и моей душы вечную память делать. <...>

А на тых всих речах для лепшего сведомья и потверженья печать моя тому листу есть завешона. А пры тым были князь Ян с Божей милости бискуп Виленски а пан Михайло Кесгайлович воевода Виленски, канцлер земски Княства Великого Литовского, а пан Иван Ходкевич маршалок Короля его милости, а пан Ивашко Александрович подскарбий, а князь Ян каноник и официал костела Виленского. Писан и дан у Вильне, у понедельник перед святой Марыей Магдалиной лета Божего тысяча чотырыста семьдесят о третем.

У 1474 г. віленскія канонікі ўставілі межы зямель віленскага біскупа і капітулы ў мазырскім павеце [165]:

Во имя святое нераздельное Троицы станься. На вечную память нынешним и потом будучым усим посполите знаменито чыним, которым будеть потребизна огледати.
Мы князь Войтко, пробощ Миколай, каноницы Виленского костела святого Станислава, пан Миколай Дубровеньский, пан Юрьи маршалек, пан Войтко и Якуб князья з Божей ласки бискупа Виленского урядники, под леты Божьими тысяча 400 семьдесят 4 год, месяца сентября 20 и 1 день, спросили есмо стороны от князя бискупа его милости пана Балакира урядника князя Михаила Васильевича, и пана Богдана Васильевича короля его милости боярына, Ивана, Данила Левковича, а от капитулы Виленского костела святого Станислава пана Митька Петровича и пана Митька Бардыча и пана Федора Бардыча, Олександра Максимовича и Данила Белотьского, Микулу Ильвея и иншых мужов к тому облично собраных, урядили, утвердили есмо вечно и границу уделали рекою на имя Локницею, и продали к Солоному Бабий Остров князя бискуповым людем з усим правом земли и в бортях <...>.

Писан на корчме капитульнее стороны подле Плотницы реки граничное, дня и месяца первописаных.

У літоўскім касцёле таксама ўжывалася царкоўнаславянская мова: у гэтай мове мясцовага зводу складалі каталіцкія літаратурныя творы 15 стагоддзя (гл. ніжэй), рабілі роспісы ў касцёлах (як вядома, фрэскі з надпісамі царкоўнаславянскаю моваю былі

адчынены падчас рэстаўрацыі касцёла Панны Марыі ў Троках). У віленскім музэю некалі захоўвалі царкоўны звон 1420 году з надпісам аб стварэнні яго на загад пана Шадыбора Валімунтавіча (брата маршалка дворнага Кязгайлы Валімунтавіча): "В лето 6000 9 сот 28 создан бысть сей святой Троицы повелением раба Божего пана Шедибора Валимонтовича, а мастер Устьек" [166].

Звесткі аб складзе віленскае капітулы таксама даюць пэўнае ўяўленне аб нацыянальным характару тагачаснага літоўскага касцёла. У 1397 г. да складу віленскае капітулы належалі: дэкан Якуб, кусташ Мартын, скарбнік Якуб, Пётр з Кустыня (пазней пробашч і біскуп віленскі), Міхайла з Коўні, Мікалай, Ян Чэх, Бервальд і Гінча. За выняткам паляка Пятра з Кустыня, немца Бервальда ды чэхаў Яна і Гінчы, усе астатнія асобы былі літвінамі [167]. Пазней да складу віленскае капітулы належалі, між іншым, пралаты і канонікі: Пётр, пробашч (1413 г.) Мацей з Вільні, пробашч (1417 г.), Пракоп (1422 г.), Мікалай сын Лаўрыша, дэкан (1427 г.), Мартын, пробашч (1435 г.), Юрый з Дворышча (de Dworzyszcze) (1442 г.), Мацей або Матысь, кусташ (1447 г.), Ян Янавіч Ласовіч з Вільні, канонік, пазней біскуп віленскі (1449 г.), майстар Андрэй сын Лаўрыша з Вільні (1456 г.), Вячаслаў Пятровіч Рачковіч з Вавёркі, дэкан (1459 г.), Андрэй Пятровіч Гасковіч з Вільні, канонік, пазней біскуп віленскі (1464 г.), Барталамей Свіранковіч, кусташ (1468 г.), Ян Паўлавіч Кучыковіч з Вільні (1471 г.), Войтка, пробашч (1474 г.), Станіслаў сын Войцэха з Няменчына (1475 г.), Лаўрыш Воўчкавіч з Салечнікаў (1477 г.), Юрый сын Якуба з Валожына (1484 г.), Ян Мікалаевіч Андрышэвіч па мянушцы Пудэлка з Вільні (1486 г.), князь Андрэй Свірскі (1494 г.), Барталамей Рачко з Мельніка (1495 г.), Ян Філіповіч з Вільні (1497 г.) ды іншыя літвіны [168].

У фундушавых запісах для віленскіх францысканаў, пісаных ад 1397 г. на працягу ўсяго 15 стагоддзя, пералічаны імёны літвінаў-католікаў: Міхайла Петрашовіч, Алёхна Воўчкавіч, Івашка Свірбловіч, Яцко Яновіч, Багдан Вітаўтавіч, Матысь Вільняровіч, Васіль Васьковіч, Мартын Мацеевіч, Яшко Міцьковіч, Мацей Андрушкавіч (баярын з Меднікаў), Мікалай Некраш з братам Багданам, Ян Вайшнаровіч, Грыгор Якейлавіч, Станіслаў Машковіч з жонкай Катарынай Яглеўскай, Станіслаў Мацеевіч, Івашка Свярпковіч, Ян Станевіч, Юшко Міцьковіч ды іншыя [169]. У розных лістох (у тым ліку ў лістох каталіцкага касцёла) першае паловы 15 стагоддзя былі згаданы літвіны з народнымі імёнамі Рачко, Некраш, Неруш, Воўчка, Войтка, Грыцко, Лугіна, Багдан, Фомка, Андрусь, Машка, Мілохна і інш.

Такім чынам, як відаць з усіх гістарычных матэрыялаў аб перавядзенні літоўскага народу на каталіцтва, народ літвінаў канца 14 стагоддзя складалі славянізаваны ўсходнегерманскі, славянскі і толькі ў малой ступені балцкі этнічны элементы (што відаць у імёнах), прытым пад імем "літвінаў" адбылася кансалідацыя гэтых некалі розных этнічных элементаў у адзіны славянамоўны народ (што відаць з усіх іншых гістарычных звестак). Мова літоўскага касцёла, каталіцкая адукацыя, рэлігійная літаратура – усё гэта развівалася на грунце мовы і культуры дакрэўскага літоўскага народу, які быў паводле гэтых чыннікаў цалкам славянскім яшчэ да Крэўскай уніі (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя").

Адным з першых месцаў навучання будучых каталіцкіх святароў з ліку літвінаў стаўся Празскі ўніверсітэт. У 1397 г. тут быў заснаваны калегіюм для студэнтаў-літвінаў. У 1399–1409 гг. у Празе навучаліся Хрыстафор з Літвы, Грыгор з Літвы; іспыты на ступень майстра самому Яну Гусу здаў у 1408 г. Мацей з Вільні, будучы біскуп віленскі [170]. Па аднаўленні прывілеямі караля Ягайлы 1397 і 1400 гг. Кракаўскага ўніверсітэту ён стаўся галоўнаю вучэльняю для літоўскіх клерыкаў. Адмысловая школа для літоўскіх святароў была адчынена ў Кракаве яшчэ ў 1390 г., а на працягу 15 стагоддзя Кракаўскі ўніверсітэт быў асяродкам багаслоўскае адукацыі для літвінаў з розных зямель Вялікага княства, якія па сканчэнні навук рабіліся прэзбітарамі, канонікамі, пралатамі і біскупамі ў Віленскім біскупстве. Усе студэнты з зямель уласна Вялікага княства Літоўскага (то бо без Жамойці і ўкраінскіх зямель) запісаны ў актавых кнігах Кракаўскага ўніверсітэту як "літвіны". У актах да пачатку 16 ст. сустракаецца толькі адзін студэнт з Жамойці і ён не запісаны як "літвін" [171].

Ад 1412 г. у Кракаўскім універсітэце навучаўся Мікалай Неміровіч, будучы маршалак гаспадарскі. У 1413 г. у Кракаўскі ўніверсітэт запісаліся Мартын сын Грыгора з Вільні, Мікалай сын Міхайлы з Вільні, Міхайла з Трокаў. У 1420 г. запісаліся на навукі Павал сын Яна, Багдан сын Грыгора, Мікалай сын Яна (усе з Вільні). У 1426 г. ступень бакалаўра (што давала магчымасць навучаць і займаць пасаду рэктара ў парафіяльнай школе) атрымаў

Багдан з Вільні. Ад 1442 г. у Кракаўскім універсітэце навучаўся Ян Янавіч Ласовіч з Вільні, пазней біскуп віленскі, ды Лаўрыш сын Мікалая з Вільні. У 1444 г. запісаўся на навукі Вячаслаў Пятровіч Рачковіч з Вавёркі, літвін (Venceslaus Petri de Wawerka, Lithwanus), пазней дэкан віленскі. Ад 1443 г. у Кракаўскім універсітэце навучаўся Андрэй Пятровіч Гасковіч з Вільні, пазней канонік і біскуп віленскі. У 1449 г. запісаўся Барталамей Свіранковіч, сын Мікалая з Вільні, літвін (Litwanus), будучы кусташ і дэкан віленскі. У 1461 г. запісаўся на навукі Ян Нарбутавіч (Jaen Narbotowicz) з Няменчына; яго брат Альберт Нарбутавіч (Albertus Narbuthowicz) быў ад 1473 г. каталіцкім біскупам кіеўскім. У 1464 г. запісаліся Ян Паўлавіч Кучыковіч з Вільні, Міхайла сын Мацея з Пінска, у 1473 г. Пётр з Менска. У 1470 г. запісаўся Ян Мікалаевіч Андрышэвіч па мянушцы Пудэлка з Вільні, пазней канонік і архід'якан віленскі. У 1474 г. запісаліся Пётр сын Міхайлы з Вільні, будучы канонік віленскі, ды Войтка, пробашч віленскі. У 1475 г. у Кракаве вучыўся "шляхціч Сенька Гарынскі, літвін" (nobilis Szenko Horinsky, Lithwanus), які сябраваў з Альбертам Табарам, будучым біскупам віленскім. У 1476–1478 гг. у Кракаўскім універсітэце вучыўся князь Андрэй Пятровіч Свірскі (Andreas Petri de Swyr, dux Litwanie), які пазней быў канонікам і кусташам віленскім. У 1477 г. скончыў навукі ў Кракаве Лаўрыш Воўчкавіч з Салечнікаў, пазней канонік віленскі. У 1480-х гадох у Кракаўскім універсітэце навучаліся Юрый сын Мартына з Наваградка, Бернард з Вільні (сын віленскага войта Юхны Лаўрыновіча), пазней канонік віленскі, Ян Філіповіч з Вільні (Johannis Philipovecz de Vilna), пазней канонік і кусташ віленскі, ды іншыя літвіны. У той час каля студэнцкае бурсы ў Кракаве дзяржаў карчму Мікола Літвін, жонка якога Агнэшка часам пазычала грошы літоўскім студэнтам [172].



*Кароль Ягайла і караліца Ядзвіга фундуюць Кракаўскі ўніверсітэт (малюнак 16 ст.)*

Ва ўласнай кнізе будучага каноніка віленскага літвіна Адама Якубовіча з Вільні (Adam Jakubowicz de Wilno, Lithuanus), які навучаўся ў Кракаве ў 1478–1488 гг., стаіць запіс: "Книга Адамова Якубовича с Котры с Литвы з волости Городенское Зброшкова брата, ему ж накладался на науку до Кракова болей десять лет, из детинства ест пры школе виленской ласкаво ховался, небожчык князь Иондрый, негды каноник и кустош костола виленского святого Станислава" [173]. Як відаць з гэтага запісу, накладаўся на навукі для Адама Якубовіча князь Андрэй Свірскі, канонік і кусташ віленскае капітулы, адзін з старшыняў віленскае катэдральнае школы.

Школа пры віленскай катэдры св. Станіслава была адчынена ў 1452 г. і была прызначана передусім для выхавання літоўскага каталіцкага духавенства. Вялікі князь Казімір выдаў у 1452 г. гэтай школе прывілей у народнай мове, якім запісваў "...мистру школьному у Вильне церкви светого Станислава осмъ коп грошей с корчом виленских на кожды год" [174] (гл. дад. №58). Ад часу яе заснавання навукі ў гэтай катэдральнай школе выкладалі ў лаціне і ў народнай славянскай мове [175].

**7. Гарадзельская унія.**

Разгледжанне падзей Крэўскае рэлігійнае рэформы вымагае разгледзець таксама яе наступствы нацыянальна-палітычнага характару, у тым ліку падзеі Гарадзельскае уніі 1413 г. і яе ўплыў на нацыянальнае і палітычнае жыццё народу літвінаў. Імёны ўчаснікаў гэтае уніі (47 літоўскіх шляхецкіх родаў) мадэрнавая гістарыяграфія, у духу сваёй "балцкай" канцэпцыі, дагэтуль падае як быццам беспярэчнае сведчанне "этнічна балцкага" характару літоўскага гаспадарства, а сам факт гэтае уніі як быццам перавагу нейкага "балцкага нацыяналізму" над тэндэнцыямі славянізацыі літоўскае шляхты. Між тым, сярод гэтых імёнаў няма ніводнага балцкага імя: бальшыня імёнаў ёсць усходнегерманскімі (гл. артыкул "Германскі суперстрат у старажытнай Літве"), а некаторыя чыста славянскімі. Гарадзельская унія ніякім чынам не спыніла поўную славянізацыю літоўскае шляхты, а была толькі натуральным этапам успраўлення шляхецкага стану ВКЛ.

Імёны літоўскіх баяраў з актаў Гарадзельскае уніі [176] можна падзяліць паводле крытэру этнічнасці на тры групы: 1) германскія імёны без прыкмет славянізацыі; 2) германскія імёны з прыкметамі славянізацыі або германска-славянскія імёны; 3) славянскія імёны. Да першай групы належаць 29 імёнаў: Манівід, Яўнут, Мінгайла (двойчы), Сунгайла, Гостык, Бутрым, Гелігунт, Байлімін, Карэйва, Вісігерд, Мантыгерд, Таўтыгерд, Гастоўт, Ядат, Даўкша, Бойнар, Гетаўт, Даўген, Сангаў, Сака, Цвербут, Монствільд, Вісігін, Монстаўд, Радзівіл, Гердуд, Чупа, Эйвільд, Сургут. Да другой групы належаць 13 імёнаў: Ян Рымавідавіч (Rimovidovicz), Бутаўт Мантыгайлавіч (Montigalowicz), Гінет Канчэвіч (Konczevicz), Воўчка Ракутовіч (Rokutowicz), Войшнар Віркалевіч (Vircolevicz), Начко (Naczko), Войшын Данейкавіч (Daneycovicz), Воўчка Кульва, Андрэй Даўконтавіч (Dewknetovicz), Мінімунд Сашніковіч (Sessnicovicz), Міцусь Вільчковіч (Vilczcovicz), Вайдыла Кушаловіч (Kussolovicz), Станіслаў Бутаўтавіч (Butowtowicz). Наастатку, да чыста славянскіх трэба аднесці 4 імёны: Няміра, Качан, Рала і Качан Суковіч (Sukovicz).

Такім парадкам, учаснікам Гарадзельскае уніі была не міфічная "этнічна балцкая летувіская шляхта", а германска-славянская шляхта Літвы, якая знаходзілася на апошнім этапе сваёй поўнай славянізацыі. У часы Гарадзельскае уніі славянізацыя германскае з паходжання шляхты Літвы не спынялася і прывяла нарэшце да поўнага злучэння германскага элемента Літвы з яе славянскім народам: літоўскія князі і баяры (у тым ліку буйнейшыя паны – учаснікі Гарадзельскае уніі) бралі народныя славянскія імёны, называліся імем і імем па бацьку паводле рускага звычаю, менавалі беларускую мову "літоўскаю", "народнаю". Напрыклад, сыны старасты віленскага Андрэя Гастоўта зваліся Івашка, Андрушка, Войтка і Юшко. Івашка Гастоўтавіч, маршалак дворны ад 1426 г., у лацінскіх лістох пісаўся Iwaschko Gastoltowicz. Сын ваяводы віленскага Гедыгоўда зваўся Сенькам: ад 1429 г. ён займаў пасаду маршалка дворнага, ад 1451 г. кашталяна віленскага; Сенькам (Senko) менаваў яго ў лацінскіх лістох вялікі князь Вітаўт. Брат Гедыгоўда Рымавід меў сыноў Алёхну і Юшку: ад Алёхны (быў намеснікам гарадзенскім, пазней маршалкам дворным) пайшлі шляхецкія роды Аляхновічаў і Дарагастайскіх, а ад Юшкі Рымавідавіча – род Забярэзінскіх. Сыны намесніка полацкага Мантыгерда зваліся Алёхна і Пятрашка. Алёхна Мантыгердавіч у 1410 г. быў падчашым дворным і вялікі князь Вітаўт менаваў яго ў лістох Olechno. Пятрашка Мантыгердавіч ад 1422 г. быў маршалкам дворным і змацоўваў лісты пячаткаю з надпісам "П. ПЕТРАШОВА МОНДКІРДВІЧА". Баярын Валімунт меў сыноў Яўнута (ваявода троцкі ад 1412 г., пісаўся Yownis Wolimonthowicz), Кясгайлу, Ромвальта, Шадыбора (меў пячатку "ПЕЧАТЬ ШЕДИБОРОВА ВОЛИМОНТОВИЧА"), Судывоя і Гудыгерда. Ад Кясгайлы пайшоў шляхецкі род Кясгайлаў, ад Станька Судывоевіча – Станьковічы, а ад Кандрата Гудыгердавіча – Кандратовічы. Кашталян віленскі Остык меў сыноў Радзівіла, Міцька, Станька і Бартка. Ад Радзівіла пайшоў шляхецкі (пасля княскі) род Радзівілаў, а ад Станька род Остыкавічаў.

Пляменнік Остыка Судымонт меў сыноў Алёхну (ад 1477 г. ваявода віленскі, ад 1478 г. канцлер ВКЛ) і Міхайлу. Сунгайла, у 1410 г. намеснік ковенскі, а ад 1413 г. кашталян троцкі, ужываў пячатку "ПЕЧАТЬ СУНЬГАИЛОВА" і меў сыноў Федзьку і Івашку. Баярын Сака з акту Гарадзельскае уніі ўжываў пячатку з надпісам "peczeth sakowycz" і меў сыноў Андрушку і Івашку. Андрушка Саковіч ужываў пячатку "ПЕЧАТЬ АНДРИЯ САКОВИЧА" і быў ад 1458 г. ваяводам троцкім, а яго сын Багдан Андрушкавіч быў маршалкам земскім і ваяводам троцкім. Пан Даўгерд (ад 1424 г. маршалак дворны, ад 1433 г. ваявода віленскі) меў сына Андрушку, які пісаўся Andruszko Dowgyrdowycz. Баярын Давойна (сын Вісігерда з акту Гарадзельскае уніі) меў сыноў Алёхну, Андрушку і Івашку. Алёхна Давойнавіч ад 1434 г. быў старастам лідскім, а ад 1459 г. кашталянам троцкім і ўжываў пячатку "s. olechno dowonowicz". Андрушка Давойнавіч ад 1440 г. быў старастам гарадзенскім і ўжываў пячатку "ПЕЧАТЬ ПАНА ОНЪДРЮШКА ДОВОИНОВИЧА". Сваякамі ваяводы троцкага Пятра Лелюша былі Станіслаў (Станько) Касцевіч, стараста ковенскі, і яго брат Алёхна. Баярын Гайлігін з акту Гарадзельскае уніі меў сыноў Алёхну і Андрушку Гайлігінавічаў, якія гэтак пісаліся ў лістох (Олехно Кголикгинович, Olechno Goliginovicz; Andruszko Golgynovicz). Сыны баярына Вештарта зваліся Мішка (дзяржаўца слонімскі ў 1441 г.) і Яцко Вештартавічы [177]. Як адзначана вышэй, буйнейшыя літоўскія паны – Радзівілы, Кясгайлы, Гедыгоўды і іншыя – у сваіх лацінскіх лістох 15 ст. шматкроць падавалі лацінкаю словы і цэлыя выслоўі ў беларускай мове, называючы гэтую мову "народнаю" (vulgariter). Гэтыя прыклады можна множыць і множыць.

У святле ўсіх гістарычных фактаў не даводзіцца казаць аб тым, што Гарадзельская унія нібыта спыніла славянізацыю літоўскае шляхты (не кажучы ўжо аб тым, што яна быццам ёсць даводам нейкае "балцкае" этнічнасці літоўскае шляхты). Насамрэч, галоўнаю мэтаю Гарадзельскае уніі было палепшыць міжнароднае становішча ВКЛ пасля паразы Тэўтонскага ордэну ў Грунвальцкай бітве, а ейныя абмежавальныя пастановы, як даўно было заўважана, мелі неюрыдычны, прапагандысцкі характар [178], не выконваліся на практыцы і неўзабаве былі амаль цалкам скасаваны ў выніку прывілеяў Гарадзенска-Троцкае уніі 1432–1433 гг.

**8. Пераход літвінаў на праваслаўе.**

Вялікі князь Ягайла, прыймаючы ўмовы Крэўскае уніі, забавязаўся перавесці ў каталіцтва "ўвесь народ літвінаў" (omnes nacione Lithwanos). Але гэтага па выніках Крэўскае рэлігійнае рэформы не адбылося, перадусім, дзеля самастойнае палітыкі вялікага князя Вітаўта па займанні ім вялікакняскага стальца ў 1392 г. Палітыка Вітаўта, скіраваная на падтрымку вольнасці веравызнання, спрычыніла вальны пераход у канцы 14 – пачатку 15 стагоддзя літвінаў у праваслаўе – пераход, які на стагоддзі абумовіў дваістую канфесійную прыналежнасць літоўскага народу.

Вядома, што ў часе Крэўскае уніі палова жыхарства Вільні ўжо была праваслаўнаю: Ягайла "крести Литву в немецкую веру, половину своего города Вильна", бо другая палова гораду была праваслаўнаю [179] (Конрад Кібург у 1397 г. сведчыў, што сярэдняя вуліца Вільні дзяліла горад на дзве паловы – літоўскую і рускую [180]). Аб уплыве на літвінаў праваслаўя паведамлялі літоўскія францысканы папежу Грыгору XII у 1410 г.: яны пісалі, што некаторыя з літоўскіх неафітаў-католікаў "памыляліся ў веры ды пераймалі веру грэкаў" (aliqui ex hujusmodi conversis errant in fide et fidem Graecorum imitantur) [181]. Наконадні Крэўскае уніі, ва ўмовах патрэбнасці пераходу літвы ў адну з канонных канфесій (праваслаўе або каталіцтва), праваслаўе складала сапраўдную альтэрнатыву каталіцтву праз сваю даўнюю традыцыю ў ВКЛ.

Яшчэ да Крэўскай уніі, ва ўмовах існавання чыста канфесійнага адрознення між "літвінамі" і "русінамі", тыя літвіны, якія пераходзілі на праваслаўе, захоўвалі свой назоў "літвы" і гэты назоў пакрысе набываў агульнанародны характар у якасці азначэння ўсяго жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага. На гэта паказуюць прыклады гарадзенскага намесніка (1299–1323) праваслаўнага князя Давыда, якога крыніцы мянуюць "літвінам" [182], або князя Сямёна Свіслацкага, якога ў 1349 г. летапіс назваў, разам з іншымі літвінамі, "дружина его, литва" [183]. З мірнае дамовы вялікага князя Гедыміна з Ліфлянтамі 1338 г. вынікае, што для літоўскага войска "сваімі" былі як літвіны, так і русіны ВКЛ [184]. У грамаце, укладзенай у 1352 г. літоўскімі князямі з польскім каралём Казімірам, "Літвою" названа тэрыторыя і жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага, у

той час як “Руссю” названа Валынь (“Русь, што Литвы слушаеть”) [185]. Пад 1372 г. сярод “літоўскіх князёў” летапіс пералічыў полацкага князя Андрэя Альгердавіча і Дзмітрыя Друцкага, ваяры якіх былі часткаю “литовской рати” [186]. Пад 1399 г. літоўскія і рускія летапісы пералічаюць многіх “літоўскіх князёў” – учаснікаў бітвы пад Ворсклаю, сярод якіх князі як германскага, так і славянскага этнічнага паходжання з усяго Вялікага княства Літоўскага [187]. Як мы бачылі з розных сведчанняў (гл. артыкул “Літоўскі народ 14 стагоддзя”), для замежнікаў 14 стагоддзя “межы літвінаў” (confinibus Lithwanorum) пачыналіся ля Бярэсця, а пад назовам “літоўскае” мовы была наўсцяж вядома беларуская мова.

Такія прыклады паказуюць, што нацыянальны сэнс “літоўскае” ідэнтычнасці будаваўся ўжо ў той час. Але да Крэўскай уніі пабудова ідэнтычнасці “літвы” ў якасці агульнанароднае была немагчымаю, бо першасным сэнсам “літоўскае” ідэнтычнасці была богумільская канфесійная прыналежнасць (якая вылучала праваслаўных “русінаў”). Пасля ж Крэўскае уніі праекту “літоўскае” ідэнтычнасці, збудаванае на адзінай канфесійнай (каталіцкай) прыналежнасці, не наканавана было ўжыццявіцца. Гэтаму праекту (распачатаму Ягайлам і польскай клерыкальнай партыяй) вялікі князь Вітаўт проціпаставіў свой праект, які даўнімаў вольнасць выбару літвінаў што да пераходу ў каталіцтва або праваслаўе. Уважаючы даўнія традыцыі праваслаўнае царквы ў Літве, Вітаўт заклаў мадэль больш вольнае нацыянальнае канфесійнае палітыкі, якая ў будучым абумовіла адметны характар нацыянальна-канфесійнага жыцця літоўскага народу.

Сам Вітаўт у 1384 г. прыняў праваслаўе з імем Аляксандра (гэтае імя ён захаваў у каталіцкім хросце), на чэсць чаго ўпасажыў манастыр Ражства Прачыстае ў Троках (гл. дад. №26). У 1386 г. Вітаўт разам з Ягайлам і некаторымі яго братамі прыняў у Кракаве каталіцтва. Дарма што, у 1387 г., падчас пачатку ўласна рэлігійнае рэформы ў Літве, літоўскія князі-каталікі (Вітаўт, Карыгайла, Вігунт і Свідрыгайла) гралі не першыя ролі ў гэтым працэсе: на першых месцах пасля Ягайлы прывілей 1387 г. аб устаўленні каталіцкае царквы ў Літве падпісалі праваслаўныя князі Іван-Скіргайла, Валадзімер Кіеўскі ды Дзмітрый-Карыбут [188]. Сваім намеснікам у ВКЛ Ягайла паставіў праваслаўнага Івана-Скіргайлу. І Вітаўт, і Ягайла пасля пераходу на каталіцтва працягвалі шчыльна зношвацца з маскоўскім мітрапалітам (былым мітрапалітам Літоўскім) Кіпрыянам і шматкроць з ім сустракаліся. У 1390 г. Кіпрыян пасярэднічаў у перамовах дзеля ўкладання слюбу дачкі Вітаўта Соф’і з маскоўскім княжычам Васіліем Дзмітрыевічам [189]. Праваслаўная традыцыя, якая ўвесь час існавала ў Вялікім княстве Літоўскім нароўні з літоўскай верай і да якой да 1385 г. перайшла ўжо значная частка літвінаў (у тым ліку многія князі-Гедымінавічы), адыграла сваю вялікую ролю падчас Крэўскае рэлігійнае рэформы, прыцягнуўшы да сябе вялікую частку літоўскага народу.

Неўзабаве па займанні ў 1392 г. віленскага вялікакняскага стальца Вітаўт выдаў грамату-загад аб тым, як трэба хрысціць “Литву, которые ся не крестили”. Грамата загадвала: “А которы Русин будет а усхочет по своей воли ся крестить, той ся нехай крестит; а который не хочет, он будет у своей вере” [190] (гл. дад. №33). Гэтая грамата была, па сутнасці, загадам не прымушаць да пераходу на каталіцтва тых літвінаў, якія пераходзілі на праваслаўе. Гэтая грамата была адрасавана “къ моим воеводам и намесником и къ всим моим тивуном *по всей моей державе*” – гэта паказуе на тое, што нехрышчонае яшчэ (у каталіцтве або праваслаўі) літвы ў пачатку княжання Вітаўта (у 1392 г.) было шмат і яна ў тых ці іншых лічбах жыла “па ўсёй дзяржаве” Вітаўта, то бо *на ўсіх наўсцяж землях* Літоўскага княства



*Вялікі князь Вітаўт уставуе сваю ўладу ў Літве (мініятура Аблічнага зводу, сяр. 16 ст.)*

(таксама і Ягайлаў прывілей 1387 г. вызнаваў, што літвіны жылі не адно ва ўласна Літве, але і на Русі (in nostris dominiis Lithvanie et Russie), а з грамат Ягайлы 1389 г. (гл. дад. №31) відаць, што нехрышчоная літва жыла “по всей земле Литовской”). Дзякуючы далейшай палітыцы вялікага князя Вітаўта гэтая літва была збольшага пераведзена ў праваслаўе, а не ў каталіцтва. На адрозненне ад Ягайлы (які імкнуўся перавесці на каталіцтва ўвесь літоўскі народ цалкам і нават у 1387 г. усказаў на смерць двох вяльможаў-літвінаў, якія прынялі праваслаўе і адмовіліся пераходзіць на каталіцтва), Вітаўт абраў палітыку шматканфесійнасці і не закажаў літве пераходзіць на праваслаўе. Адстараніцца ад бізантыйскага паламіцтва Вітаўт імкнуўся праз устаўленне (яшчэ ў 1406 г.) аўтакефальнае праваслаўнае царквы. Устаўленне ў 1415 г. аўтакефальнае мітраполіі на чале з мітрапалітам-баўгарынам Цамблакам дэманстравала пэўную апрычонасць літоўскага праваслаўя ад бізантыйскага паламіцтва (што выклікала адмоўную рэакцыю бізантыйскіх паламіцкіх колаў, а таксама маскоўскага мітрапаліта) і дазволіла прыцягнуць шмат літвы да праваслаўнай царквы.

Перавядзенне літвы на каталіцтва паводле ўмоў Крэўскае уніі ў першыя гады прасоўвалася марудна і зусім не адпавядала пастаўленым мэтам перавесці ў каталіцтва “omnes nacione Lithwanos”. Напрыклад, з ліста літоўскіх францысканаў да папежа Грыгора XII з 1410 г. вядома, што да каталіцтва ў землях Літвы і Русі на той час было прыведзена каля дваццаці тысяч чалавек [191]. Паводле іншых звестак, у першыя гады рэлігійнае рэформы гэтая лічба складала каля трыццаці тысяч [192] (што занадта мала, з улікам агульнае лічбы жыхарства Вялікага княства). У тым жа лісце папежу ў 1410 г. літоўскія францысканы вызнавалі, што пасля спачатнага “вальнага” Ягайлавага хросту справа наварачэння літвы на каталіцтва прыпынілася ды сутыкнулася з цяжкасцямі. У той жа час, дзякуючы палітыцы вялікага князя Вітаўта, большыня літвінаў усяго Вялікага княства была да таго ж 1410 г. пераведзена ў праваслаўе, дзеля чаго крыжакі ў 1409 г. пісалі, што сярод літвінаў сталася “ў сто разоў больш” праваслаўных, ніж католікаў.



*Дэлегацыя Вялікага княства Літоўскага на Канстанцкім збору і набажэнства мітрапаліта Цамблака (нямецкія мініятуры 1420 г.)*







*Мітрапаліт Цамблак на супольным набажэнстве на Канстанцкім збору; мітрапаліт Цамблак прычашчае вернікаў (нямецкія мініятуры 1483 г.)*

Вядома, што ў 1405 г. тураўскі праваслаўны біскуп Антоній за згодаю Вітаўта пераводзіў літву ў межах Тураўскага біскупства на праваслаўе (гэтаму выпіраліся каталіцкія клерыкі) [193]. У 1406 г. праваслаўнымі біскупствамі былое Літоўскае мітраполіі кіраваў архібіскуп Феадосій з тытулам архібіскупа Полацка-Літоўскага [194]. Тады ж, у 1406 г., вялікі князь Вітаўт запрапанаваў канстантынопальскім уладам кандыдатуру Феадосія на пасаду мітрапаліта Літоўска-Кіеўскага. Бізантыйскія ўлады прапанавалі Вітаўту прызнаць уладу над праваслаўнымі епархіямі сваіх зямель маскоўскага мітрапаліта Фотыя. Пасля доўгіх перамоў з бізантыйскімі ўладамі Вітаўт у 1415 г. наважыўся самастойна ўсправіць

праваслаўную царкву ў сваім гаспадарстве: на загад Вітаўта праваслаўныя біскупы ВКЛ на збору ў Наваградку паставілі самастойна зборам, паводле царкоўных правілаў, Літоўска-Кіеўскім мітрапалітам баўгарскага манаха Грыгора Цамблака (пляменніка былога мітрапаліта Літоўскага Кіпрыяна). Гэта азначала, фактычна, стварэнне аўтакефальнае Літоўска-Кіеўскае мітраполіі. У гэтай справе вялікі князь Вітаўт кіраваўся прыкладамі Баўгарыі і Сербіі, якія мелі свае аўтакефальныя цэрквы: у сувязі з гэтым на просьбу Вітаўта для яго склалі гісторыю Баўгарскага і Сербскага патрыярхатаў. Вітаўт напісаў адмысловы ліст да Канстантынопальскага патрыярха Каліста, у якім выклаў свае скаргі проці маскоўскіх мітрапалітаў і прасіў дабраславіць пастаўленне Грыгора Цамблака. Патрыярх дабраславіў пастаўленне Цамблака на Кіеўскую мітраполію [195].

У лістападзе 1415 г. Вітаўт на збору літоўскага праваслаўнага духавенства ў Наваградку абвясціў аўтакефалію праваслаўнае Літоўска-Кіеўскае мітраполіі (гл. дад. №42). У сваім зборным пасланні архібіскуп полацкі і біскупы тураўскі, чарнігаўскі, луцкі, валадзімерскі, перамыскі, смаленскі, холмскі менавалі вялікага князя Вітаўта “праведным” і называлі ягоную ўладу над землямі Русі дадзенай Богам: “...подвиже милостивый Бог сердце великого князя Александра, зовомого Витовта, Литовскаго и многых Русских земль господаря; <...> Он же с нами съветовася, истинно и праведно, яко правый истинный великий князь; и събра вси князи Литовских и Русскых земль и иных стран, елико суть ему покорены Богом, нашеа церкве, и бояр и вельмож, архимандриты же и игумены и благоговейныа инокы, и попы. И сих всех съветом и волею, и нашим избранием и хотением, сшедшеся в Новъм-граду Литовском, въ святой церкви пречистыя Богородица, по благодати данней нам от святаго Духа, поставихом митрополитом святей нашей церкви Киевской и всеи Руси, именем Григориа, по преданию святых Апостол...” [196]. Пры аднаўленні Літоўска-Кіеўскае мітраполіі ў 1415 г. вялікі князь Вітаўт таксама пацвердзіў правы праваслаўнае царквы, выкладзеныя ў старажытным “Яраслававым скрутку”, пакладзеным літоўскімі праваслаўнымі біскупамі [197].

Вялікі князь Вітаўт і іншыя літоўскія князі і паны будавалі і ўпасажвалі праваслаўныя цэрквы: гэтак, каля 1423 г. у Браславе віленскі ваявода Альберт Манівід апрача парафіяльнага касцёла заснаваў праваслаўную царкву і манастыр пры ёй; у канцу 14 ст. была збудавана праваслаўная царква ў Крэве; другая малжонка Вітаўта Ганна Святаслаўна заснавала царкву Ўзвіжання Крэста ў Бярэсці, а трэцяя малжонка Вітаўта Юльянія Гальшанская каля 1418 г. заснавала царкву св. Юрыя ў Троках; каля 1407 г. вялікі князь Вітаўт заснаваў царкву Архангела Міхайлы ў Сынковічах, а ў 1427 г. Малецкую царкву ля Пружанаў [198]. У 1424 г. Вітаўт “добре позволившы и збудовать росказати рачыл” царкву Ражства Хрыстова ў Троках [199]. Таксама вялікі князь Вітаўт упасажыў Тураўскае праваслаўнае біскупства (гэтае наданне было пазней пацверджана і вялікім князем Казімірам): “...всех добр Туровских трейтюю часть <...> в моц и владность, в держане и вжыване вечное ку владычеству Туровскому и Пинскому от великого господаря князя Витолта и от великого короля Казимира надано есть...” [200]. У 1407 г. была заснавана праваслаўная царква ў Мала-Мажэйкаве “фундушу его милости пана Шымка Мацкевича Шкленского, подконюшого Виленского, державцы Ушпольского, Пенянского и Радунского <...> року 1407, мая 10 дня” [201]. Вялікія князі і гаспадарскія ўраднікі рупіліся аб царкоўных і манастырскіх добрах (напрыклад, гл. дад. №46). Вялікі князь Вітаўт рупіўся і аб праваслаўнай асвеце: напрыклад, вядома, што ў 1428 г. у Смаленску на загад Вітаўта былі перапісаны творы Ісаака Сірына “волею и хотением великого князя Александра, зовомого Витовт” [202].

Яшчэ ў пачатку свайго гаспадарання вялікі князь Вітаўт выдаў прывілей Лаўрашаўскаму манастыру, пацвярджаючы, што ён застаецца ў вялікакняскай уласнасці [203]:

*у Берштах, 1 красавіка 1394 году*

т великого князя Витовта наместнику митрополичему Новгородскому, хто коли будеть от митрополита.

Узведали есмо, што ж манастыр Лаврашовски перво сего не бывал ни за одным митрополитом и владыкою, ниж наш есть. И вы бы не вступалися в тот манастыр, нехай его заведает тот кому мы укажом.

Писан у Берштох у середу пятое недели Великого посту, индыкт 2.

Нават такі прыхільнік каталіцтва, як вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч, пацвердзіў у 1435 г. наданне праваслаўнаму манастыру Прачыстае ў Троках [204]:

*у Троках, 8 лютага 1435 году*

> Мы великий князь Жыкгимонт, дали есмо сю нашу грамоту Афанасью игумену Святыя Богородице монастыря Троцкого. Жаловали есмо его по-давному, как перво сего пры нашом брате пры великом князи Витовте, не уступался в него ни митрополит, ани митрополскии наместники, ани владыки, ни владычни наместники. А мы его по тому ж жаловали: не надобе уступатися у него ни митрополиту, ни владыще, ани их наместником, знати ему нас. Писан у Троцох во второк Февраля 8 день, индыкт 13.

Аб пераходзе вялікіх лічб літвінаў у праваслаўе падчас Крэўскае рэформы сведчаць і пазнейшыя звесткі, якія згадуюць літвінаў, якія "крещены были в Рускую веру" ў Віцебску ды ў іншых землях ВКЛ (гл. ніжэй). Дзейная падтрымка літоўскімі князямі справы аднаўлення Літоўска-Кіеўскае мітраполіі сведчыць аб тым, што вельмі вялікая лічба літвінаў па ўсім Вялікім княстве Літоўскім на той час перайшла да праваслаўнай царквы і прыслухала праваслаўнаму Літоўска-Кіеўскаму мітрапаліту.

Гэта праясняе замежныя звесткі аб вальным пераходзе літвінаў на праваслаўе падчас Крэўскае рэформы, з чаго вельмі абураліся крыжакі. Гэтак, яшчэ ў 1398 г. вялікі майстар Тэўтонскага ордэну Конрад Юнгінген сведчыў перад еўрапейскімі дварамі, што ў Літве не відаць спору каталіцтва, бо літвіны больш пераходзяць на праваслаўную веру [205]. У 1409 г. улады Тэўтонскага ордэну пашыралі між каталіцкіх гаспадароў ліст, у якім закідалі Вітаўту ды Ягайлу "крывадушнасць" у намерах пахрысціць літву ў каталіцкай веры, бо гэтыя князі, маўляў, патуралі "русінам" (т.б. праваслаўным). Крыжакі пісалі: "Таксама вядома, што за дваццаць тры гады гаспадарання караля Польшчы ў землях Літвы і Русі надта мала пашырылася навука Хрыстова [т.б. каталіцтва], а гэта дзеля таго, што ў адной царкве там два біскупы, з якіх адзін, як ёсць хрысціянін [т.б. католік], жыве бедна і мізэрна, а іншы, русін [т.б. праваслаўны], багата і мажна. І дзе з літвінаў адзін ахрышчаны паводле хрысціянскага [т.б. каталіцкага] закону, *там мабыць добрая сотня наўмысна ахрышчана паводле рускага* [праваслаўнага] *закону*, і дагэтуль у Літве многія сярод шляхты русіны [т.б. праваслаўныя]" [206]. У гэтым дакуменце ў выразе "de Litauwica ligva" мыльна напісанае слова ligva ёсць яўнаю пераробкаю спачатнага слова fida ("вера") – бо пераводзілі ў каталіцтва, вядома, з літоўскае веры (а не "з мовы"). Выраз "добрая сотня" тут ёсць, мабыць, перабольшваннем, але, ва ўсякім разе, калі ён не адлюстроўвае сапраўдныя лічбы, то прынамсі малюе выяўны вобраз чыстае перавагі праваслаўных літвінаў над католікамі-літвінамі па 23 гадох рэлігійнае рэформы ў Літве.

Між іншым, звесткі разнастайных крыніц аб вельмі вялікай лічбе літвінаў, пераведзеных у канцы 14 – пачатку 15 стагоддзя на праваслаўе (на парадкі вышэй, ніж лічба літвінаў, пераведзеных на каталіцтва), пацвярджаюць, што літвіны (багумілы) да Крэўскай уніі складалі значную долю жыхарства Вялікага княства Літоўскага – да паловы, а імаверна і больш. Як бачым, пераважная частка гэтае канфесійнае супольнасці падчас Крэўскае рэформы была пераведзена (пераважна на паўднёвых і ўсходніх землях ВКЛ) на праваслаўе. Адсюль зразумела ўжыванне ў ВКЛ 15–16 стагоддзяў такіх азначэнняў, як "литвины руское веры", "литвины кгреческого закону", якія азначалі літвінаў у нацыянальным сэнсе, але праваслаўных у канфесійным сэнсе (гл. ніжэй).

У 1440-х гадох Энэй Сільвій Пікаламіні ў сваёй працы "Maximi Historia Rerum" пісаў: "Літва <...> мяжуе з Польшчай з усходу. <...> Мова народу – славянская. <...> Некаторыя [з славянскіх народаў] трымаюцца веры грэкаў, як баўгары, русіны і *многія з літвінаў*". Падобныя звесткі падаваў у 1538 г. Ян Багемскі ў сваёй "Omnium Gentium Mores": "Літва месціцца на ўсход ад Польшчы. <...> Мова народу – як і палякаў, славянская. <...> Іншыя ж застаюцца ў грэцкім абрадзе, напрыклад, баўгары, русіны і *многія з літвінаў*" [207].

Такім парадкам, усе гістарычныя звесткі паказуюць на тое, што ладна большая частка *літвінаў* (гістарычнага літоўскага народу, то бо дакрэўскае "літоўскае" (багумільскае)

дэнамінацыі ВКЛ) у канцу 14 – пачатку 15 ст. была пераведзена ў праваслаўе, у ладнай меры праз канфесійную палітыку вялікага князя Вітаўта. Як бачым, пашыранае дагэтуль меркаванне аб тым, што ўсе або амаль усе літвіны падчас Крэўскае рэформы былі пераведзены ў каталіцтва, ёсць яшчэ адной фікцыяй, то бо элементам антыгістарычнае прапаганды (які вынікае з падмены разгледжання гісторыі сапраўднага народу літвінаў разгледжаннем фіктыўнае канструкцыі "этнічна балцкага народу летувісаў").



*Царква архангела Міхайлы ў Сынковічах,*
*заснаваная каля 1407 г. вялікім князем Вітаўтам*

Падчас Крэўскае рэлігійнае рэформы праваслаўе прынялі многія літоўскія княскія і баярскія роды. Напрыклад, распачынальнікам роду праваслаўных князёў Ямантавічаў быў Ямант Талунтовіч, у праваслаўі Васіль, які меў сыноў Сямёна (Сеньку) і Міхайлу. Пасля 1396 г. князь Васіль-Ямант атрымаў ад вялікага князя Вітаўта ў дзяржанне Клецк, у 1398 г. быў сярод сведкаў Салінскае дамовы Літвы з Тэўтонскім ордэнам [208].

Князі Гальшанскія вялі свой род ад сваякоў вялікага князя літоўскага Тройдзеня. Падчас Крэўскае рэформы яны перайшлі ў праваслаўе. Князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі ажаніўся з смаленскаю княжною Агрыпінаю (сястрою малжонкі вялікага князя Вітаўта Ганны). Андрэй Іванавіч Гальшанскі быў жанаты з Аляксандраю з князёў Друцкіх. Іх дачка Соф'я ў 1422 г. была выдадзена замуж за караля Валадыслава-Ягайлу і сталася караліцаю Польшчы. Пахавана Соф'я была ў капліцы Вавельскае катэдры ў Кракаве, распісанае на яе загад бізантыйска-праваслаўнымі фрэскамі.

На праваслаўе падчас Крэўскае рэформы перайшлі князі Даўгоўды. Князь Юрый Даўгоўд у 1401 г. выдаў прысяжную грамату каралю Валадыславу-Ягайлу: "Мы князь Юрьи Довкговд слюбуем и слюбил есмо <...> по смерти господаря своего, не имаю иного господаря искати, ниж короля Полского Володыслава..." [209]. Князь Глеб Даўгоўдавіч належаў да паноў-рады вялікага князя Казіміра, быў сведкам прывілея Казіміра віленскім месцічам у 1441 г. [210]. Князь Даўгоўд Даўгоўдавіч у 1427 г. зрабіў наданне Мікольскаму манастыру ў Кіеве: "...што есми выслужыл у Бога и у великого князя Витовта господаря своего, даю от своее выслуги верное по своей душы, ис своею княгинею, святому Николе Пустыньскому Ионину манастырю" [211].

Праваслаўныя князі-Гедымінавічы і іншыя праваслаўныя літвіны працягвалі ўсцяж падтрымваць і ўпасажваць праваслаўныя цэрквы і манастыры. Князь Аляксандр-Алелька Валадзімеравіч у 1392 г. упасажыў Міхайлаўскую царкву ў Слуцку, а яго дачка княгіня Анастасія Алелькаўна – збор Прачыстае ў Слуцку ў 1404 г. [212]. У 1407 г. мсціслаўскі князь Сямён-Лінгвен Альгердавіч "поставил церковь во имя святого Онофрея на реце Напоте и монастырь устроил общежительный" [213]. Князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі

да 1402 г. надаў "светой Богородицы Печерской, люди на имя Иванищевичы, и с землею, и с данью, у Глуской волости, давати им мера меду, а рубль грошей Литовских..." [214]. Працягвалі ўпасажваць праваслаўныя цэрквы і манастыры і яго нашчадкі – князі Гальшанскія і Трабскія (гл. ніжэй). Каля 1420 г. князь Алелька Валадзімеравіч "дал есмь десятину святей Богородицы у Лаврошев монастырь" [215]. Каля 1455 г. слуцкі князь Міхайла Алелькавіч загадаў "дворец Ивашка Грыдковича на Локнеи ... прыдати Святей Троицы у Слуцку" [216]. Падскарбі літоўскі Алёхна Судымонтавіч у 1431 г. заснаваў праваслаўную царкву ў Сямятычах (гл. ніжэй).

Праваслаўныя Гедымінавічы і іншыя праваслаўныя літоўскія князі, хаця ўжывалі канфесійную ідэнтычнасць "русі", працягвалі менаваць сябе ў нацыянальным сэнсе "літвінамі", "літоўскімі князямі": напрыклад, яшчэ ў 1375 г. праваслаўны Аляксандр Карыятавіч у сваёй грамаце пісаўся як "князь Литовьский" (гл. дад. №23); князь Аляксандр Гальшанскі і яго праваслаўны почт былі пад 1405 г. азначаны як "литва" [217]; праваслаўны князь Міхайла Баба быў пад 1431 г. азначаны як "литвин" [218]. Можна даўнімаць, што наймя пераход многіх літоўскіх князёў і іхняга атачэння на праваслаўе да і падчас Крэўскае рэформы спрычыніў вальны пераход літвінаў на праваслаўе ў канцы 14 – пачатку 15 стагоддзя. У асяроддзі гэтае праваслаўнае літвы захоўваліся некаторыя рысы дакрэўскае літоўскае веры, гэтаксама як і ў літоўскім каталіцкім касцёле, што відаць з рэлігійнае літаратуры і іншых праяў тагачаснага рэлігійнага жыцця (гл. апошні раздзел). Відаць, якраз захаванне памяці аб сваёй старой канфесійнай адметнасці спрычыніла захаванне праваслаўнымі літвінамі ідэнтычнасці "літвы" і адметнае рэлігійнае культуры, якая ў сярэдзіне 16 ст. спрычынілася да пашырэння на ўсіх землях ВКЛ евангеліцкае навукі.

У гістарычнай уласна "Літоўскай зямлі" працягвалі існаваць праваслаўныя грамады, цэрквы і манастыры, у тым ліку ў Вільні, Троках, Мерачы, Пуні, Коўні [219]. Напрыклад, да праваслаўнай грамады Пуні адрасаваў сваё павучэнне прэтэндэнт на Кіеўскую мітраполію Спірыдон-Савва, які ў 1476 г. жыў у Пуні і пісаў "Пунского града жителем" і "пастырем" [220].

У 1432 і 1433 гг. кароль Валадыслаў-Ягайла і вялікі князь Жыгімонт выдалі прывілеі, якія амаль цалкам ураўноўвалі ў правох каталіцкую і праваслаўную шляхту Вялікага княства Літоўскага (выняткам было адно права праваслаўных царкоўных гіерархаў сядзець у лавіцы паноў-рады) [221]. Праваслаўнай шляхце былі нададзены тыя ж вольнасці і прывілеі, што існавалі ў каталіцкай шляхты. Праваслаўныя баяры далучаліся да польскіх шляхецкіх гербаў, як раней баяры-католікі. Гэтак, у 1432 г. права ўжываць герб "Ястраб" (нароўні з католікамі Нямірамі) атрымалі полацкія праваслаўныя баяры Корсакі. У 1434 г. права ўжываць герб "Ліс" атрымалі баяры Сапегі, права ўжывання гербу "Ляліва" – праваслаўныя баяры Вяжэвічы. Праваслаўныя баяры Хадкевічы былі прыняты да гербу "Касцеша" яшчэ да 1434 г., імаверна (як лічаць даследнікі), адразу па Гарадзельскай уніі 1413 г. [222].

Правы праваслаўнае царквы ВКЛ зацвярджалі вялікакняскія прывілеі. Гэтак, у земскім прывілеі Наваградскай зямлі 1440 г. вялікі князь Казімір пісаў: "А также уся надаванья и записы вызволенья церквей стольных, зборных, монастырских и иных у Новегородче, у земли Новгородской хочем без порушенья держати сполна и боронити подле нашое моцы" [223]. Агульназемскі прывілей вялікага князя Казіміра 1447 году таксама пацвярджаў правы як каталіцкае, так і праваслаўнае царквы Літвы: "А напервей, вся даровання, прывилеи, твердости церквей головных, зборных и кляшторных в землях нашых Великого Князьства Литовского и Руского, Жемоитского и иных, поставленых и заложеных, а и потом которыи будуть заложены, хочем без порушенья и без обид ховати, боронити и щытити, подлуг всее нашее моцы" [224]. Да таго ж, рознасць між католікамі і праваслаўнымі ВКЛ увогуле мусіла счэзнуць у выніку абвешчанае ў 1439 г. Флярэнтыйскае уніі каталіцкае і праваслаўнае цэркваў. Напрыклад, у 1443 г. ваўкавыскі праваслаўны прэзбітар Сямён Чаплееўскі ў сваім тэстаменце менаваў караля Казіміра і паноў-радных (пераважна католікаў) "православные хрыстианы" (гл. ніжэй).

У грамаце вялікага князя Казіміра мітрапаліту Кіеўскаму 1451 г. пацвярджаліся старыя правы мітраполіі [225] (гл. дад. №57): "...дали есмо ему столец митрополичь Киевский и всеа Руси, как первее бывало, по уставленью и по обычаю Русскаго хрыстианьства. А он имает свою честь и своего митропольства уставность по старому правити, как

Митрополиты первобывшыи предком нашым и хрыстианьству, по своему доброму обычаю, правили".

Разлеглае пацверджанне правоў праваслаўнае царквы ВКЛ (з зацверджаннем "подлуг давного обычая" Яраслававага скрутку, які пры аднаўленні Літоўска-Кіеўскае мітраполіі зацвярджаў яшчэ вялікі князь Вітаўт) месціцца ў прывілеі вялікага князя Аляксандра 1499 году [226].

**9. Нацыянальная ідэнтычнасць "літвы" па Крэўскай уніі.**

Вышпісаныя матэрыялы ўжо досыць выявілі нацыянальны характар літоўскага народу па Крэўскай уніі. Патлумачым у гэтым раздзеле, якім чынам стасаваліся міжсобку ідэнтычнасці "літвы" і "русі" ў Вялікім княстве Літоўскім па Крэўскай уніі.

Да Крэўскай уніі назоў "літвіны" меў чыста канфесійны сэнс: германская з паходжання шляхта Літвы не мела этнічнага самаазначэння, але мела адно канфесійную ідэнтычнасць "літвінаў", адчыненую таксама для славянаў (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). У той жа час у выніку славянізацыі гэтае шляхты і кансалідацыі жыхарства ВКЛ яшчэ да Крэўскай уніі назоў "літва" пакрысе пачаў ужывацца ў сэнсе блізкім да нацыянальнага, у сэнсе адзінства жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага – незалежна ад "літоўскае" або "рускае" веры. Па Крэўскай рэлігійнай рэформе, падчас якой многія літвіны па ўсім Вялікім княстве перайшлі на праваслаўе, сталася магчымым пашырэнне назову "літвіны" на ўсё жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага незалежна ад канфесіі, то бо пабудова нацыянальнага сэнсу назову "літвіны". Наколькі гэта было немагчымым да Крэўскай уніі (калі назоў "літвіны" быў чыста канфесіёнімам), настолькі магчымым гэта сталася па Крэўскай уніі, калі назоў "літвіны" пазбыўся чыста канфесійнага сэнсу, а літоўскі народ стаўся падзеленым на католікаў і праваслаўных. Пабудова новага – нацыянальнага – сэнсу назову "літвіны" адбывалася на грунце адзінства тэрыторыі, мовы і самасвядомасці ўсяго жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага. Гэта тлумачыць адно з падставовых пытанняў гісторыі Літвы (якому не здолелі даць рады тыя даследнікі, якія адштурхоўваліся ад тэорыі "этнічна балцкага народу летувісаў") – пытанне аб тым, чаму нацыянальны назоў "літвіны" па Крэўскай уніі абыймаў праваслаўнае славянскае жыхарства ўсходніх зямель ВКЛ і не абыймаў жамойтаў. Ігнаруючы германскае этнічнае паходжанне шляхты ВКЛ і яе поўную славянізацыю ды будуючы сваю "балцкую" канцэпцыю, такія даследнікі бачылі стрыжань ідэнтычнасці літоўскага народу па Крэўскай уніі ў "балцкай этнічнасці" – што, аднак, не пацвярджаецца ніякім гістарычным матэрыялам і цалкам супярэчыць сапраўднай гісторыі Літвы.

Галоўнаю праблемаю сучаснае гістарыяграфіі ёсць неразуменне пытання аб тым, якім чынам на "русінаў" усходніх зямель ВКЛ (то бо на жыхарства, якое заўсёды вызнавала праваслаўе і, адпаведна, да Крэўскай уніі не вызнавала "літоўскую" веру і не называлася "літвінамі") пашырыўся назоў "літвіны" ў нацыянальным сэнсе. На гэтае пытанне лёгка адказаць, калі спаважна разглядаць сапраўдную рэлігійную гісторыю літоўскага народу і належным чынам рэканструяваць падзеі Крэўскае рэлігійнае рэформы. У часе Крэўскае рэформы пераважная лічба літвінаў па ўсім Вялікім княстве перайшла на праваслаўе (гл. вышэй) і, натуральна, засвоіла *канфесійную* ідэнтычнасць "русінаў". У той жа час гэтыя літвіны захавалі памяць пра сваю гістарычную адметнасць і свой стары назоў "літвы": аб гэтым кажуць чысленыя звесткі крыніц, якія азначаюць гэтых праваслаўных літвінаў як "литвины руское веры", "литвины кгреческого закону люди", "люди релеи греческой народу Литовского" і да т.п. [227]. Азначаючы сябе як "русь" ("русінаў") паводле канфесійнае прыналежнасці (праваслаўя), такое жыхарства называла сябе старым назовам "літвы", памятаючы, што да Крэўскай уніі яны былі наймя "літвінамі": гэты назоў, такім чынам, выступаў у новых умовах у ролі *нацыянальнага* і злучаў у нацыянальным сэнсе праваслаўных літвінаў з літвінамі-католікамі. Але, між тым, у праваслаўным асяроддзі такія "літвіны-русіны" (праваслаўныя з літвінаў) нічым не розніліся – ані моваю, ані культураю, ані ўжо і вераю – ад праваслаўных "русінаў" (не літвінаў); такім чынам, паводле чыста ўсіх прыкмет гэтыя дзве групы жыхарства ВКЛ станавілі сабой адзін народ. Відавочна, што наймя гэтая тоеснасць праваслаўных "літвінаў" з праваслаўнымі "русінамі" ВКЛ, разам з агульнымі чыннікамі адзінства мовы і гаспадарства, спрычыніла пашырэнне назову "літвіны" на праваслаўных ВКЛ (якія цяпер называлі сябе "литвины руского роду", "литвин руский по паходжаню", "наш народ хрыстианский русский литовский" і г.д.) – то бо на ўсё

жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага, у *нацыянальным* сэнсе. Гэта было спрычынена пераходам вялікае часткі літоўскага народу (і, у ладнай меры, пераходам многіх літоўскіх князёў) на праваслаўе ў часе Крэўскае рэформы, а таксама наогул адзіным характарам (ва ўсім, апрача веравызнання) жыхарства Вялікага княства Літоўскага яшчэ да Крэўскай уніі.

Бессэнсоўнымі і антыгістарычнымі ёсць спробы некаторых патлумачыць пашырэнне назову "літвіны" (у якасці "палітоніму") на ўсё жыхарства ВКЛ чыннікам адно адзінага гаспадарства (якое ў іхніх канструкцыях трэба разумець як "этнічна балцкае"). Само гаспадарства Вялікае княства Літоўскае ад сама пачатку было паводле свайго ўрадавага ладу чыста славянскім (гл. артыкул "Літоўскае права..."), а тэрыторыя ідэнтычнасці "літвы" як у 14-ым, так і ў 15-ым стагоддзі выразна адпавядае тэрыторыі Літоўскае мітраполіі 14 стагоддзя. Гэта тлумачыць, чаму "літоўская" ідэнтычнасць па Крэўскай уніі пашырылася на праваслаўных славянаў усходніх зямель ВКЛ і па-ранейшаму не пашыралася на жамойтаў, – бо працэс "літоўскага" нацыянальнага будавання грунтаваўся на старой (дакрэўскай) ідэнтычнасці літвы і на яе моўнай і культурнай спадчыне, якая чыста ўся была славянскаю (а не на нейкім "этнічна балцкім паганскім" падмурку, як у канструкцыях прапагандыстаў "балцкае" тэорыі). Жамойтам не дапамагло ані іхняе паганства да Крэўскай уніі, ані іхняя балцкасць апасля: яны так і не сталіся "літвінамі", на адрозненне ад праваслаўных славянаў усходніх зямель ВКЛ.

Каб праясніць працэсы будавання "літоўскае" нацыянальнае ідэнтычнасці па Крэўскай уніі, прыточым схему этнічна-канфесійнае структуры шляхты літоўскага народу (народу "літвінаў" паводле самаазначэння, то бо дакрэўскае "літоўскае" канфесійнае дэнамінацыі) на пачатак 15 стагоддзя, то бо па выніках Крэўскае рэформы. На гэтай схеме пададзены дзяльніцы "германскі" (элемент), "славянскі" (элемент), "каталікі", "праваслаўныя", а таксама дзяльніцы іхняга перацінання. Зацемім, што катэгорыю "германцы" трэба разглядаць досыць умоўна, бо самаазначэння паводле сваёй (германскай) этнічнасці літоўская шляхта не мела, а ўжывала адно канфесійную ідэнтычнасць "літвінаў" (гэтаксама як "руская" шляхта (этнічна германскага паходжання) 11–12 ст. ужывала назоў "русь" не ў якасці ранейшага этноніму, а ў якасці канфесіёніму, на грунце якога паступова будавалася нацыянальная ідэнтычнасць славянскага "рускага" народу); таму катэгорыя "германцы" на схеме азначае адно носьбітаў германскіх імёнаў. У некаторай меры ўмоўнаю ёсць і катэгорыя "славяне", якая не мае дачынення да ўласнай ідэнтычнасці, а адно азначае носьбітаў славянскіх імёнаў. У той жа час, такія гістарычныя азначэнні, як "каталікі", "праваслаўныя", а таксама ідэнтычнасці "літвінаў" і "русінаў" адлюстроўваюць сапраўдныя рэаліі разгляданых часоў. Такім чынам, на схеме пададзены як гістарычныя рэаліі, так і гістарыяграфічныя канструкцыі, што ўчынена дзеля іх размежавання і насвятлення праблемы.

Вялікім колам (якое абыймае дзяльніцы 1, 2, 3, 4 і 5) пазначаны ахоп усяго народу "літвінаў" (паводле самаазначэння – то бо былое богумільскае дэнамінацыі ВКЛ, падзеленае пасля Крэўскае уніі на каталікаў і праваслаўных). Ніжнім кольцам "германскі" (абыймае дзяльніцы 1 і 3) унутры яго пазначана доля жыхарства ўсходнегерманскага этнічнага паходжання і носьбітаў германскіх імёнаў, то бо, умоўна кажучы, "германцаў" з ліку літвінаў. Гэтае кольца абыймае і асяродак вялікага кола, пазначаны тоўстаю бодкаю, якая азначае вялікага князя і яго сям'ю.

Кольцам злева "каталікі" (абыймае дзяльніцы 1 і 2) пазначым долю літвінаў, якія падчас Крэўскае рэлігійнае рэформы перайшлі на каталіцтва. Адпаведна пазначанаму, у межах вялікага кола ("літвіны") застаецца дзяльніца 4 ("славяне"-праваслаўныя з ліку літвінаў), а ў межах кольца "каталікі" – дзяльніца 2 ("славяне"-каталікі з ліку літвінаў). Колькасная перавага праваслаўных літвінаў над каталікамі-літвінамі, выяўленая на схеме, адпавядае сапраўднаму стану рэчаў на пачатак 15 стагоддзя (як пацверджана вышпісанымі звесткамі крыніц). Шэрая дзяльніца 5 адпавядае той малой долі літвінаў, якія не прынялі ані каталіцтва, ані праваслаўя, заставаліся ў сваёй старой веры ды пазней былі вядомы пад назовам "старалітвы".

Дзяльніца 6 па-за колам "літвіны" азначае "русінаў" Вялікага княства Літоўскага да Крэўскай уніі (то бо праваслаўную частку жыхарства ўласна ВКЛ, якая ніколі не вызнавала "літоўскую" веру). Як можна даўнімаць з разнастайных звестак гістарычных крыніц, "літвіны" паводле самаазначэння (то бо богумілы) да Крэўскай уніі складалі бальшыню

жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага або, прынамсі, складалі лічбу прыраўнальную да лічбы “русінаў” (праваслаўных). Аб гэтым кажуць азначэнні літвы як “вельмі чысленага” народу ў 14 стагоддзі [228], а таксама бізантыйскія звесткі аб тым, што праваслаўных хрысціянаў у Літве ў сярэдзіне 14 стагоддзя было мала [229]. Гэтая перавага літвінаў над русінамі (разам з палітычнай першаснай роллю літвінаў у гаспадарстве) спрычынілася – па падзеле літвінаў на каталікаў і праваслаўных – да пашырэння назову “літвіны” ў якасці нацыянальнага на ўсё жыхарства ўласна Літоўскага княства.




*Этнічна-канфесійная структура шляхты*
*народу літвінаў на пачатак 15 стагоддзя*

Падамо прыклады з кожнае дзяльніцы, каб выявіць розныя шляхі выбару рознымі часткамі шляхты ВКЛ сваёй канфесійнае прыналежнасці і будавання сваёй ідэнтычнасці ў часе Крэўскае рэлігійнае рэформы:

1) “Германцы”-каталікі: вялікакняская дынастыя, князі Свірскія, Гедройці, паны Гастоўты, Радзівілы, Кязгайлы, Давойны і інш. – частка літоўскага народу ўсходнегерманскага этнічнага паходжання, якая, аднак, не мела ўласнае этнічнае ідэнтычнасці і ўжывала адно канфесійную ідэнтычнасць “літвінаў”.

2) “Славяне”-каталікі: паны Няміры, Кучукі, Кішкі і інш. – частка “літоўскае” дакрэўскае дэнамінацыі этнічна славянскага паходжання, якая падчас Крэўскае рэформы навярнулася на каталіцтва; некаторыя прадстаўнікі такіх родаў займалі высокія ўрадавыя пасады ўжо за часу вялікага князя Вітаўта. Да “славянаў”-каталікаў з ліку літвінаў трэба, відаочна, залічыць і баяраў з чыста славянскімі імёнамі з актаў Гарадзельскае уніі 1413 г., такіх як Качан Сукові (гл. вышэй). З “славянскае” літвы паходзілі роды Пліхтаў, Дзяжковічаў, Гасковічаў, Ласовічаў, Рачковічаў, Свіранковічаў, Кучыковічаў, Воўчкавічаў, Андрышэвічаў, Філіповічаў і інш. (з Вільні, Няменчына, Салечнікаў, Вавёркі і інш.), прадстаўнікі якіх на працягу 15 стагоддзя былі біскупамі і канонікамі віленскае капітулы (гл. вышэй).

Дзяльніцы 1 і 2 разам утвараюць дзяльніцу літвінаў-каталікаў, ідэнтычнасць якіх па Крэўскай уніі складалася ў азначэнні сябе проста як “літвінаў” (удакладненне канфесійнае ідэнтычнасці (як у выпадку “літвінаў рускае веры”) не патрабавалася, бо каталіцтва афіцыйна было галоўнаю рэлігіяй у ВКЛ).

3) “Германцы”-праваслаўныя: многія з Гедымінавічаў (Любартавічы-Сангушкі, Заслаўскія, Алелькавічы і інш.), князі Гальшанскія, Ямантавічы, Даўгоўды і інш.

4) “Славяне”-праваслаўныя: першы вядомы прыклад пераходу славянаў-літвінаў у праваслаўе даюць віленскія пакутнікі Кумец, Круглец і Няжыла; у часе Крэўскае рэформы сярод такіх праваслаўных літвінаў можна назваць баяраў Хадкевічаў, а таксама згаданых у гэтым артыкуле літвінаў у Вільні, на землях Тураўскага біскупства, у Віцебску. Да “славянскай” літвы належалі носьбіты народных (нехрысціянскіх) беларускіх імёнаў –

Некраш, Ходзька, Воўчка, Рачко, Неруш, Жук, Качан, Братоша, Радзім, Чапурна, Мілохна і інш. – якіх сустракаем сярод літвінаў у розных лістох канца 14 – першае паловы 15 ст. (частка гэтых літвінаў падчас Крэўскае рэформы перайшла, як відаць з крыніц, на праваслаўе).

Дзяльніцы 3 і 4 разам утвараюць дзяльніцу праваслаўных літвінаў, якія азначалі сябе як "литвины руское веры", "литвины кгреческого закону" і да т.п. (праваслаўная канфесійная прыналежнасць вымагала дадатковага самаазначэння (канфесіёнім "русіны" або "рускае веры"), дзеля адрознення ад літвінаў-католікаў). Дзеля пераходу гэтае вялікае часткі літоўскага народу па Крэўскай уніі на праваслаўе адбылося яе задзіночанне паводле канфесійнае ідэнтычнасці ("русіны") з дзяльніцаю 6 (праваслаўнымі русінамі ВКЛ).

Гэтая схема прыточана дзеля ілюстрацыі грунтоўнае аблуды сённяшняе гістарыяграфіі, якая прыпісуе ідэнтычнасць "літвы" гіпатэтычнаму "этнічна балцкаму народу", які нібыта да Крэўскай уніі быў "паганскім", а падчас Крэўскае рэлігійнае рэформы быццам цалкам перайшоў на каталіцтва. Гэтая канструкцыя складаецца спачатку з фантастычнае перакваліфікацыі германскага з паходжання элемента Літвы ў "балтаў", а потым з выпісання яго як тытульнага "балцкага" элемента ВКЛ, тоеснага з жамойтамі; пры гэтым упарта адмаўляюць як поўную славянізацыю літоўскага народу, так і пераход значнае яго часткі на праваслаўе. Гэтыя канструкцыі ёсць няслушнымі як з змястоўнага, так і з фармальнага гледзішча. Нават не зважаючы на фантастычную пераробку германскага элемента Літвы ў "балтаў", можна заўважыць, што па-за ўвагаю "балцкае" канцэпцыі застаецца большая частка гістарычнага літоўскага народу – тая частка, якая перайшла на праваслаўе (дзяльніцы 3 і 4), і тая частка католікаў-літвінаў, якая была несумнеўна славянскага паходжання (дзяльніца 2) (гл. численыя прыклады вышэй).

Як можна заўважыць, падчас Крэўскае рэформы этнічнае паходжанне нейкага роду не было знітавана з выбарам канфесіі: сярод літоўскае шляхты было многа родаў неславянскага (германскага) этнічнага паходжання, якія абралі каталіцкую канфесійную прыналежнасць, і нямала тых, хто абралі праваслаўе; адпаведна, і сярод літвінаў славянскага паходжання былі і тыя, хто абралі пераход у каталіцтва, і тыя, хто абралі праваслаўе. Гэтых назіранняў дастаткова, каб зняпраўдзіць тэзы сённяшняе гістарыяграфіі аб нібыта "этнічным" характару прыймання каталіцтва падчас Крэўскае рэформы, аб тым, што неславянскі з этнічнага паходжання элемент Літвы быццам цалкам перайшоў на каталіцтва, а славяне быццам усцяж трымаліся праваслаўя. Гістарычны матэрыял аб падзеях Крэўскае рэлігійнае рэформы яшчэ раз паказуе, што прадстаўнікі як германскага з паходжання, так і славянскага з паходжання элементаў Літвы на момант Крэўскае уніі не мелі адрознае этнічнае самасвядомасці і назоваў на этнічным роўні, а мелі адно канфесійную ідэнтычнасць на роўні канфесіёнімаў "літвіны" і "русіны", унутры кожнага з якіх мог існаваць як германскі, так і славянскі з паходжання этнічны элемент.

Разгледжанне прыточанае схемы і адпаведных матэрыялаў дазваляе зразумець, што "літоўская" нацыянальная ідэнтычнасць па Крэўскай уніі будавалася не праз апеляванне да неславянскага каталіцкага (былога нібыта "язычніцкага") складніку жыхарства ВКЛ (дзяльніца 1 – нават без уліку таго, ці лічыць яго германскім, ці балцкім) – а праз апеляванне *да ўсёй* дакрэўскай ідэнтычнасці "літвы" (усё вялікае кола з дзяльніцамі 1, 2, 3, 4 і 5 на схеме), якая адпавядала дакрэўскаму канфесіёніму "літвіны" ў межах старое Літоўскае мітраполіі. Гэты гістарычны *літоўскі народ* ("nacione Lithvanos", "gens Lithuanica" актаў Ягайлы і Вітаўта) абыймаў германскі і славянскі з этнічнага паходжання элементы, задзіночаныя канфесіёнімам "літвіны", і яшчэ да Крэўскай уніі быў хрысціянскім і славянамоўным (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Пераход невялікай яго часткі ў каталіцтва, а большай часткі ў праваслаўе падчас Крэўскае рэформы азначаў адно падзел яго на дзве канфесійныя часткі – католікаў і праваслаўных, якія былі аднолькавымі паводле мовы, культуры і самасвядомасці ды па-ранейшаму складалі адзін народ з адзінаю ідэнтычнасцю "літвы". Праваслаўная частка літоўскага народу (дзяльніцы 3 і 4 схемы) па Крэўскай рэформе была чыста аднолькаваю паводле сваіх нацыянальных рыс і нават паводле канфесійнае ідэнтычнасці ("русь") з праваслаўнымі "русінамі" ВКЛ (дзяльніца 6), дзеля чаго яна пашырыла на іх назоў "літвінаў" у нацыянальным сэнсе.

Складаючы адзін народ, каталіцкая і праваслаўная часткі жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага па Крэўскай уніі ўжывалі назовы "літва" і "русь" у вузкім (канфесійным) сэнсе адно дзеля канфесійнага адрознення дзвюх частак адзінага народу

уласна ВКЛ, літоўскага (то бо старабеларускага) народу – што адзначалі такія гісторыкі, як І. Чаквін і Ю. Гардзееў [230]. Падзел на "літву" і "русь" у магістратах і іншых установах гарадоў ВКЛ ды на "літоўскіх" і "рускіх" бурмістраў, радцаў і іншых ураднікаў меў, безумоўна, чыста канфесійны, а не этнічны сэнс, што выяўна відаць з імёнаў чальцоў мескае рады той жа Вільні (напрыклад, яшчэ ў 1410 г. наданне маршалка дворнага Станіслава Чупурны віленскаму францысканскаму касцёлу прысведчылі каталіцкія "месцічы і радцы віленскія" (civibus et consulibus Vilnensibus) Андрэй Мацеевіч, Лаўрын Андрэевіч, Лугіна Мычновіч ды іншыя, а сярод чальцоў віленскае мескае рады, што выдалі ў 1521 г. ліст аб утрыманні пры Свята-Янскім касцёле "літоўскага" казнадзея, не было ніводнага неславянскага імя – гл. вышэй).

Канфесіёнім "русь", ужываны ў вузкім сэнсе ў ВКЛ для азначэння праваслаўнае часткі яго народу, не меў сэнсу апрычонае ад літвы нацыянальнасці, а ўжываўся перадусім у сэнсе канфесійнае прыналежнасці праваслаўных літвінаў, або, як трапна заўважыў І. Чаквін, як "макраэтнонім з пэўным канфесійным сэнсам" [231]. Напрыклад, у 1390 г. пры двару караля Валадыслава-Ягайлы служыў Мікалай "русін або літвін" (Nicolao Rutheno seu Lythuano) [232] – гэты прыродны літвін, будучы праваслаўным, ужываў дадатковае азначэнне "русін" у якасці канфесіёніму. Як "*руские* [т.б. праваслаўныя] *князи литовского роду*" былі вядомы ўсе праваслаўныя князі Літвы – як Гедымінавічы і іншыя князі неславянскага этнічнага паходжання (Бельскія, Мсціслаўскія і інш.), так і князі славянскага паходжання (Глінскія, Масальскія) [233]. Аб ужыванні ідэнтычнасці "русі" адно ў якасці дадатковага канфесійнага азначэння праваслаўных літвінаў яскрава сведчаць такія вядомыя азначэнні, як "литвины руское веры", "наш народ хрыстианский русский литовский" і да т.п.

Пра прыўлашчэнне канфесійнае ідэнтычнасці "русі" тымі літвінамі, якія падчас Крэўскае рэформы перайшлі на праваслаўе, сведчыць, напрыклад, звестка літоўскага летапісу аб Соф'і Гальшанскай як аб княжне "з поколенья руского" [234]. Такім чынам, з пераходам у праваслаўе ("рускую" веру) князі Гальшанскія распачалі сваё новае, "рускае" пакаленне. Якія да гэтага былі пакаленні Гальшанскіх, няцяжка здагадацца: яны былі "літоўскія", то бо старое літоўскае веры. Падобны прыклад: літоўскія летапісы аб праваслаўным хросце вялікага князя Вітаўта ў 1384 г. кажуць, што Вітаўт "русином зостал" [235]. Адпаведная змена ідэнтычнасці – з "літвінаў" на "русінаў" – адбылася і з віленскімі пакутнікамі падчас іхняга пераходу на праваслаўе ў 1347 г. (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Такім парадкам, змену ідэнтычнасці на "рускую" спрычыньваў наймя пераход з літоўскае на рускую веру – што ясна сведчыць аб тым, што назовы "літвіны" і "русіны" да Крэўскай уніі былі чыста канфесіёнімамі.

Крэўская рэформа мела вынікам падзел літоўскага народу на дзве канфесійныя часткі – католікаў і праваслаўных, якія былі аднолькавымі паводле мовы і культуры ды паранейшаму складалі адзіны славянамоўны народ, – а не быццам "увязанне хрысціянства сярод этнічна балцкага язычніцкага народу", як у канструкцыях езуіцка-польскае шавіністычнае гістарыяграфіі 19 стагоддзя, якія насамрэч тычацца народу жамойтаў, а не літвінаў. Канструкцыі гэтае гістарыяграфіі аб "язычніцтве" літоўскага народу, як і аб яго "балцкім этнічным" характару, ёсць цалкам антыгістарычнымі і не пацвярджаюцца аніякімі гістарычнымі матэрыяламі (гл. артыкулы "Германскі суперстрат у старажытнай Літве" і "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Гэтыя дзве канструкцыі (аб "язычніцтве" літоўскага народу да Крэўскай уніі і аб яго "этнічна балцкім" характару) высоўваюцца адно для абгрунтавання саміх сябе, у адрыве ад гістарычнага матэрыялу, то бо ёсць звычайнымі сімулякрамі (штучнымі знакамі, якія не маюць рэферэнтаў, а спасылаюцца адно самі на сябе).

Прыточым колькі прыкладаў літоўскіх княскіх і баярскіх родаў (з розных вышпісаных умоўных груп літоўскага народу), каб выявіць тыя працэсы, якія адбываліся падчас Крэўскае рэлігійнае рэформы. Напрыклад, ні на чым апрача каталіцтва паноў Няміраў не збудаваны канструкцыі аб іхняй быццам неславянскай этнічнасці. Паны Няміры паходзілі з Усялюбу на Наваградчыне і аб іхнім славянскім паходжанні і роднай мове сведчаць уласна літоўскія летапісы, якія кажуць, што мянушку Няміра баярын-літвін Андрэй атрымаў ад вялікага князя Вітаўта, калі крыкнуў на перамовах, каб Вітаўт не мірыўся: "...але Андрей литвин крыкнул: "Не миры, Витолте, не миры, поневаж в самой речы мы з москвою еще не билися". И оттоль Немирою той Андрей названый есть, и розмножылся славный оттоля дом

Немиров” [236]. Такім чынам, летапіс, мянуючы гэтага баярына “літвінам”, сведчыць аб тым, што гэты славянскі род яшчэ да Крэўскай уніі належаў да народу літвінаў. Ян Няміра ў 1398 г. быў канюшым вялікага князя Вітаўта, а ў 1412 г. намеснікам полацкім; яго сын Андрэй Немiровіч выступаў сведкам у акце Гарадзенскае уніі 1434 г., а пазней займаў пасаду маршалка дворнага; яго брат Іван Немiровіч таксама належаў да паноў-рады. Пан Мікалай Іванавіч Немiровіч браў дзейную ўчасць ў паднясенні ў 1440 г. Казіміра Ягайлавіча на вялікакняскі сталец, а пазней быў намеснікам віцебскім і маршалкам дворным [237]. Крэўнымі паноў Неміровічаў былі паны Чыжы (або Чыжэвічы), таксама католікі.




*Неміровічы і іншыя баярскія роды Літвы*
*(з гербоўніка Папроцкага, 16 ст.)*




*“Кішкі – дом у Літве здаўна вялікае зацнасці”*
*(з гербоўніка Папроцкага, 16 ст.)*

Літоўскі род Кучукоў, калі і быў германскага паходжання (вядома аб яго сваяцтве з Бутрымамі і Монтаўтамі), усё ж увайшоў у гісторыю пад сваім славянскім прозвішчам. Яго пачынальнік Кучук у 1382 г. быў каморнікам вялікага князя Ягайлы і паходзіў, імаверна, з Жырмуноў на Лідчыне. Яго сын Конрад Кучук валодаў Дакудавым, Жырмунамі і Шчучынам. Сын Конрада Ян Кучук (або Кучуковіч) быў сярод “літвы” ў почце вялікага князя Казіміра падчас бітвы пад Хойніцамі 1454 г. (гл. ніжэй), у 1469–1478 гг. быў маршалкам гаспадарскім, у 1473 г. намеснікам лідскім [238]. Славянскім было паходжанне паноў Кішкаў з Падляшша (з Цеханаўца пад Бранскам): яны паходзілі ад баяраў Паўла (Пашкі) і Юрыя (Юшкі) Страмілаў, якія займалі прыдворныя пасады яшчэ за вялікага князя Вітаўта [239].

Паны Саковічы маглі мець як германскае, так і славянскае этнічнае паходжанне; апошняе імаверна з улікам іх вотчынных уладанняў (Груздава ля Крэва, Мядзел і Няменчын ля Вільні). Сын баярына Сака, згаданага ў Гарадзельскім акце 1413 г., Алёхна Саковіч быў намеснікам бельскім, а ад 1466 г. кухмістрам гаспадарскім; другі сын Сака Андрушка Саковіч быў у 1433–1440 гг. старастам троцкім, ад 1434 г. старастам дубінскім, у 1440 г.

намеснікам смаленскім, ад 1444 г. намеснікам полацкім, а ад 1458 г. ваяводам троцкім, належаў да паноў-рады; яго сын Багдан Андрэевіч Саковіч ад 1463 г. быў намеснікам браслаўскім і маршалкам гаспадарскім, ад 1477 г. намеснікам полацкім, ад 1480 г. маршалкам земскім, а ад 1484 г. ваяводам троцкім, таксама належаў да паноў-рады [240].

У той жа час, унутры групы літвінаў-католікаў германскага этнічнага паходжання (дзяльніца 1 вышпісанае схемы) адбываліся працэсы канчатковае славянізацыі германскага элемента. Вялікакняская дынастыя, паны-католікі Манівіды, Гастоўты, Радзівілы, Кязгайлы і іншыя, як мы бачылі з вышпісаных матэрыялаў, чыста славянізаваліся не толькі паводле мовы, але і паводле самасвядомасці (гл. вышэй раздзел пра Гарадзельскую унію) ды ў літоўскім каталіцкім асяроддзі існавалі разам з славянскімі з паходжання родамі, з якімі не існавала аніякіх ані нацыянальных, ані канфесійных меж. Як відаць з лістоў першае паловы і сярэдзіны 15 стагоддзя, сярод літоўскай шляхты (як каталіцкай, так і праваслаўнай) звычайнымі сталіся такія імёны, як Андрушка Відымінавіч, Алёхна Гердывідавіч, Івашка Судымонтавіч, Воўчка Эйдатавіч, Валодзька Таўтыгінавіч, Войнад Русіловіч, Багдан Бутрымавіч, Юшко Бутаўтавіч, Івашка Бутвідавіч, Юрка Сыргоўдавіч, Андрушка Маствілавіч, Івашка Давойнавіч, Яцко Вігайлавіч, Юшко Рымавідавіч, Сенька Саймонтавіч, Івашка Барвойнавіч, Пашко Вайшвілавіч, Барыс Гінтаўтавіч, Грынко Сурвілавіч, Андрушка Гагінавіч, Шпак Цвербутавіч. Баярын мог мець славянскае імя, а сыну зноў даць германскае: напрыклад, былі такія імёны, як Мантыгайла Жукевіч, Радзівіл Багданавіч, Даўмонт Воўкавіч, Юндыл Рачковіч. З Попісу войска ВКЛ 1528 г. відаць, што бальшыню шляхты Літоўскае зямлі (у вузкім сэнсе) складалі шляхцічы з такімі славяна-германскімі імёнамі, – з чаго відаць, што чыста ўся германская шляхта Літвы цалкам славянізавалася.





*Пячаткі князёў: Сямёна Гальшанскага (*“ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ СЕМЕНА ИВАНОВИЧА”*) (1431 г.), Рамана Свірскага (*“ПЕЧАТЬ РОМАНОВА”*) (1434 г.)*

Чыста славянізаваліся не толькі праваслаўныя, але і каталіцкія князі Літвы. Князі Гедройці часам пісаліся як Гедройцкія – напрыклад, Война Гедройцкі (Gedorotsky) у Хрыстмемельскай дамове 1432 г. (гл. таксама дад. №47). Як мы бачылі з вышменаванага дарчага ліста княгіні Дароты-Сонькі Свірскае віленскім францысканам з 1449 г., адзін сын князя Яна Свірскага зваўся Даўгерд, а іншыя – Васько, Некраш ды Юрый. Акты 1432–1434 гг. прысведчвалі князі Андрэй, Эрык і Раман Свірскія (князь Эрык меў пячатку з надпісам “ПЕЧАТЬ ІЕРИКОСОВА”, князь Раман – “ПЕЧАТЬ РОМАНОВА”); вядомы і іх брат Івашка [241].

Мовіць аб нейкай неславянскай этнічнасці або самасвядомасці праваслаўных літвінаў таксама не мае сэнсу. Усе праваслаўныя Гедымінавічы (князі Алелькавічы, Заслаўскія, Любартавічы-Сангушкі і інш.) ды іншыя праваслаўныя літоўскія княскія і баярскія роды, як і праваслаўныя літвіны з простага люду, безумоўна, былі славянамі паводле мовы, культуры і самасвядомасці (дзяльніцы 3 і 4 вышпісанае схемы). Напрыклад, баярскі род Хадкевічаў паходзіў ад гарадзенскага баярына часу вялікага князя Гедыміна Барэйкі па мянушцы Ходзька і яго сына Івана Барэйкавіча. Перайшоўшы на праваслаўе падчас Крэўскае рэформы, Хадкевічы захавалі сваю старую ідэнтычнасць “літвы” і адмяжоўваліся ад “русінаў”. Гэтак, М. Стрыйкоўскі пісаў: “Гэтак, чытач, даведайся пра Хадкевічаў, пра старадаўніх здаўна літоўскіх дзедзічаў. А не лічы іх з русі, паводле грэцкае веры”. Аб паходжанні Хадкевічаў ад Барэйкаў і прыналежнасці іх да Крэўскай уніі да літоўскай веры памяталі ў Літве яшчэ ў другой палове 16 ст.; гэтак, у 1568 г. у прывілеі Хадкевічам кароль і вялікі князь Жыгімонт-Аўгуст пісаў: “...з давных часов славне, годне а мужне Господаром своим за всих продков нашых Великих Князей Литовских ешче до прынятья веры

хрыстианское служыл и в том панстве Великом князстве Литовском Борейков дом давны и в справах своих почтивых од панов своих непоследне был поважан за продков нашых” [242].

Ёсць звесткі аб перавядзенні ў праваслаўе літвінаў у розных землях Вялікага княства. Напрыклад, у вялікакняскай грамаце 1503 г. былі згаданы “…также которыи будуть, Литвин або Лях, крещены были у Витебску в Рускую веру…” [243]. Вядома аб пераводзе на праваслаўе літвы ў Тураўскім біскупстве, у Вільні (гл. вышэй). Аб тым, што вялікі князь Вітаўт дазволіў літвінам “по всей моей державе” пераходзіць на праваслаўе і літвіны, відавочна, карысталіся гэтым правам, беспярэчна сведчыць грамата Вітаўта 1392 году (гл. вышэй).




*“Хадкевічаў дом старажытны”*
*(з гербоўніка Папроцкага, 16 ст.)*

Насуперак фармальным пастановам Гарадзельскае уніі 1413 г. (якія рэдка выконваліся на практыцы) праваслаўныя князі і баяры займалі высокія ўрадавыя пасады, месцы ў лавіцы гаспадарскае рады, дзейна бралі ўчасць у кіраванні гаспадарствам. Ад 1398 г. панам-радным вялікага князя Вітаўта быў праваслаўны Братоша Гайлютовіч з Слонімшчыны. Яго сын Зіновій Братошыч засведчыў разам з бацькам акт Віленска-Радамскае уніі 1401 г., а ў 1412 г. быў паслом Вітаўта ў Ноўгарадзе [244]. Праваслаўны Ходзька Юр’евіч у 1415 г. быў паслом вялікага князя Вітаўта да караля Ягайлы, у 1422 г. быў намеснікам полацкім, належаў да паноў-рады вялікага князя. Праваслаўны баярын Івашка Гойцавіч быў паднесены на дастойнасць намесніка наваградзкага ў 1433 г. вялікім князем Жыгімонтам, пазней быў намеснікам полацкім, намеснікам віцебскім, належаў да паноў-рады, выступаў ад імя вялікага князя Казіміра на перамовах з Тэўтонскім ордэнам. Баярын Юрша Іванавіч служыў яшчэ вялікаму князю Вітаўту, займаў пасаду старасты луцкага ў 1429 г., потым ваяводы кіеўскага, намесніка браслаўскага, належаў да паноў-рады. Князь Юрый Сямёнавіч Гальшанскі ў 1440 г. збіраў у сябе ў Гальшанах сойм літоўскіх паноў, быў сярод “рады нашей” вялікага князя Казіміра ў 1444 г., у тым жа годзе ездзіў з пасольствам вялікага князя да Тэўтонскага ордэну. Праваслаўны Івашка Вяжэвіч быў ад 1452 г. маршалкам гаспадарскім, ад 1459 г. намеснікам смаленскім, а пасля 1465 г. ваяводам троцкім, належаў да паноў-рады. Праваслаўны Івашка Хадкевіч быў ад 1459 г. намеснікам менскім, ад 1470 г. намеснікам лідскім і маршалкам гаспадарскім, пазней намеснікам віцебскім, ваяводам кіеўскім, належаў да паноў-рады; ён кіраваў літоўскім войскам у бітве пад Хойніцамі ў

1454 г. і ў часе вугорскае выправы 1474 г., быў адным з складальнікаў ліста да папежа аб царкоўных справах у Літве ў 1476 г. [245].

Аб нацыянальным характару тытульнага народу Вялікага княства Літоўскага па Крэўскай уніі сведчаць імёны паноў-радных і іншых літоўскіхураднікаў і баяраў часоў вялікіх князёў Свідрыгайлы, Жыгімонта і Казіміра. Дамову Літвы з Польшчаю з 8 верасня 1431 г. засведчылі князі Жыгімонт Кейстутавіч (Sigismundi Keystutowicz), Алелька Валадзімеравіч (Alexandri alias Olelconis Wlodimirowicz), Юрый Лангвінавіч (Georgi Langwinowicz), Сенька Іванавіч (Semconis Iwanowicz), Іван Сямёнавіч (Iwani Semenowicz), Іван Пуцята (Iwani Putiatae), баяры Остык, Гедыгоўд, Кязгайла, Яшко Манівідавіч (Yaschkonis Moniwidowicz), Ходзька Юр’евіч (Chodkonis Juriowicz), Пятраш Мантыгердавіч (Petrashi Montigerdowicz), Яўлашка Даўмонтавіч (Jewlaschkonis Dewmotowicz), Шадыбор Валімунтавіч (Schedebori Wolmuthowicz), Судымонт Доргевіч (Sudimundi Dorgewicz), Андрэй Неміровіч (Andreae Nieworowicz), Юрый Сальдовіч (Georgi Soldowicz), Ягайла Гедрашковіч (Jagelo Gedoroszkowicz), Тальят Вігайлавіч (Taliati Wygaylowicz), Андрэй Саковіч (Andreae Sakowicz), Начко Гінвілавіч (Noczkonis Giniwilowicz), Васько Давойнавіч (Waschkonis Dowonowicz), Яшко Корсакавіч (Jaschkonis Korsakowicz), Некраш Бутвідавіч (Nekraschii Butwidowicz) і іншыя [246].



*Адбіткі пячатак:*
*князя Войны Гедройцкага* (“ПЕЧАТЬ ВОІНЕВА”)*, 1433 г.*
*князя Ягайлы Гедройцкага* (“ЯКГАІЛОВА”)*, 1431 г.*
*князя Эрыка Свірскага* (“ПЕ(ЧА)ТЬ ІЕРИКОСОВА”)*, 1433 г.*
*Пятрашкі Мантыгердавіча, старасты навагрaдскага* (“П. ПЕТРАШОВА”)*, 1432 г.*
*Гінета Канчэвіча, старасты ковенскага* (“К(Г)ИНЕТОВА (КОН)ЧЕВИЧА”)*, 1433 г.*
*Даўгерда, старасты ашмянскага* (“ДАВГИРД (…) ЛЕВИЧ”)*, 1434 г.*
*Мантыгайлы Жукевіча, старасты стравініцкага, 1434 г.*
(“ПЕЧАТЬ МОНТИКГАЛА ЖЮКЕВИЧ”)
*Судымонта, старасты крэўскага, 1434 г.* (“ПЕЧ(А)ТЬ П(А)НА С(У)Д(ЫМОНТА)”)
*Яўлашкі Даўмонтавіча* (“ПЕЧАТЬ ЕВЛАШКА ДОМОНТОВА”)*, 1431 г.*
*Гайліміна Надобавіча, старасты вяленскага* (“КГОИЛИМИН НАДОБЕВЪ”)*, 1432 г.*

Дамову вялікага князя Свідрыгайлы з Тэўтонскім ордэнам з 15 траўня 1432 г. падпісалі ў якасці сведкаў літоўскія князі, баяры, а таксама прадстаўнікі гарадоў: Вільні, Трокаў, Віцебска, Полацка, Браслава, Коўні, Дарагічына і іншых. Сярод іх былі князі Іван Валадзімеравіч (Iwan Wlodimirowicz), Андрэй Валадзімеравіч (Andrey Wlodimirowicz), Іван Пуцята Сямёнавіч (Iwan Putata Semenowicz), Васіль Сямёнавіч (Wassily Semenowicz), Глеб Кіндыровіч (Hleb Kinderowicz), Федзька Нясвіжскі (Fedko Nyesweczkoi), Война Гедройцкі (Woynus Gedorotsky), Аляксандр Свірскі (Alexander Swirsky); баяры Івашка Манівідавіч (Iwaschko Moniwidowicz), Гудыгерд Валімунтавіч (Gudigort Wolnuntowicz), Шадыбор Валімунтавіч (Schedibor Wolnuntowicz), Судзівой Валімунтавіч (Sudzywoy Wolnuntiwicz), Юшко Рымавідавіч (Juschko Rymowidowicz), Даўгель Чыж (Dewgelis Czysis), Андрэй Саковіч (Andrey Sakowicz), Жыгімонт Доргевіч (Segmund Dorgewicz), Некраш Бутвідавіч (Nekrasch Butwidowicz), Даўмонт Воўкавіч (Dewmunt Wolkowicz), Міхайла Даўгердавіч

(Michalo Dewgerdowicz), Івашка Карэвіч (Iwaschko Korewicz), Міхайла Ясмановіч (Michal Jasmanowicz), Івашка Валатовіч (Iwaschko Wolothowicz), Ананья Вяжковіч (Ananya Wyaschkowicz), Мікалай Курэйшавіч (Micolay Kureyschowicz), Пац Гірдывідавіч (Pacz Gyrdywidowicz), Грыцко Ясмановіч (Hrycko Jasmanowicz), Воўчка Страчэвіч (Wolczko Stroczewicz), Васько Воўчкавіч (Waysko Wolczkowicz) і іншыя [247].

Акт Гарадзенскае уніі 1434 г. засведчылі: кашталян віленскі Остык, ваявода віленскі Даўгерд, ваявода троцкі Лелюш, князі Эрык і Раман Свірскія, Ходзька Юр'евіч, Пятрашка Мантыгердавіч, Івашка Гастоўт, маршалак земскі Радзівіл, маршалак дворны Пац, стараста берасцейскі Начко, стараста лідскі Алёхна, стараста гарадзенскі Івашка, стараста дубінскі Андрушка Сaковіч, стараста вількамірскі Мантыгайла, Некраш – дзяржаўца ў Васілішках, Неруш – дзяржаўца ў Медніках, Андрушка – дзяржаўца ў Вострыне, Рачко Табутовіч – дзяржаўца, баяры Андрэй Неміровіч, Зіновій Братошыч, Сенька Гедыгоўдавіч, Судзівой Валімунтавіч, Федзька Сунігайлавіч, Андрушка Давойнавіч, Рачко Страковіч, Рачко Земавітавіч і іншыя [248]. У граматах вялікага князя Жыгімонта 1434 г. згаданы падканюшы віленскі Янко, уладальнікі зямлі ў Медніцкай воласці Івашка і Федзька Карэвічы, жыхары Мерачы – Бутковіч, Воўчкавіч, Нарэйка Віцевіч, Васілец [249].

Сведкамі запісу вяна малжонцы князя Міхайлы Жыгімонтавіча ў 1435 г. былі паны-радныя: біскуп віленскі Мацей, кашталян віленскі Остык, ваявода віленскі Даўгерд, ваявода троцкі Пётр Лелюш, кашталян троцкі Пятраш Мантыгердавіч (Petrus Montigirdowicz), пан Івашка Гастоўтавіч (Iwaschko Gastoltowicz), стараста дубінскі Андрушка Саковіч (Andruschko Sakowicz), стараста лідскі Алёхна Давойнавіч (Olechno Dowoynowicz), ваявода наваградскі Івашка Гойцавіч (Iwaschko Gosschenicz) і іншыя [250].

У 1441 г. пры пацверджанні прывілея віленскім месцічам склад паноў-рады вялікага князя Казіміра быў такі: князі Глеб Даўгоўдавіч і Юрый Сямёнавіч Гальшанскі, ваявода віленскі Даўгерд, ваявода троцкі Івашка Гастоўт, маршалак земскі Пятраш Мантыгердавіч, намеснік ковенскі Судзівой Валімунтавіч, маршалак дворны Андрэй Неміровіч, намеснік смаленскі Андрэй Саковіч, намеснік наваградскі Івашка Гойцавіч і іншыя [251].

У 1451 г. прывілей вялікага князя Казіміра мітрапаліту Кіеўскаму засведчылі паны-радныя: "А при том воизбраньи были: стрыйко наш Князь Швитрыгайло, брат князь Александро Володимерович, князь Матей бискуп Виленский, воевода Виленский пан Кгаставт, воевода Троцкий пан Монивид, воевода Новогородский, маршалок земский пан Петраш Монтыкгирдович, пан Судивой наместник Ковенский, пан Виленский, наместник Смоленский пан Семен Кгедыкгольдович, пан Ондрей Немирович, пан Ондрей Сакович наместник Полотцкий, пан Юрша староста Бряславский, пан Михайло канцлер, и иных многих наших князей и панов" [252].

Калі ў 1432–1438 гг. у ВКЛ адбыўся шэраг закалотаў "літоўскае" і "рускае" палітычных груповак (прытым да апошняй належалі Свідрыгайла, князі Гальшанскія, Юрый Гедыгоўд і Ян Манівід) – то ў 1447 г. вялікі князь Казімір (які ўвасабляў сабой задзіночанне гэтых груповак) выдаў агульнагаспадарствавы прывілей, у якім не было ані нацыянальных, ані канфесійных адрознасцей народу Вялікага княства Літоўскага. Гэты прывілей, дэманстратыўна выдадзены ў народнай мове і перанасычаны матывамі літоўскага патрыятызму, устаўляў асноўныя правы ўсяго жыхарства ВКЛ, не змяшчаў аніякіх канфесійных абмежаванняў і загадваў даваць дзяржаўныя ўрады "*только родичам*" Вялікага княства Літоўскага (гл. дад. №56): гэтая фармулёўка прывілея 1447 году ёсць выяўнаю вяхою поўнае нацыянальнае кансалідацыі тытульнага літоўскага (старабеларускага) народу Вялікага княства Літоўскага. Варта адзначыць, што ў 1441 г. Казімір выдаў асобны земскі прывілей Жамойці, у якім яна выразна адрознівалася ад Літвы (гл. дад. №54).

У летапісным апавяданні аб бітве пад Хойніцамі 1454 г. вялікі князь Казімір менаваў "мои верныи слуги литва" паноў Алёхну Судымонтавіча, Багдана Андрушкавіча, Яна Кучука, Станька Касцевіча і Івана Ілініча [253]. У дамовах вялікага князя Казіміра з Псковам і Вялікім Ноўгарадам 1440 г. палачане і віцьбічы называюцца асобна ад літвінаў ("А што моих людей, или Литвин, или Витбленин, или Полочанин..." – бо Полацк і Віцебск мелі асобныя земскія прывілеі і карысталіся асобным ад уласна Літвы правам), але ў той жа час ёсць і ўжыванне назову "літвін" у якасці азначэння ўсяго жыхарства ВКЛ ("А мне великому князю Казимиру блюсти Псковитина как и своего Литвина; також и Псковичом блюсти Литвина, как и Псковитина") [254]. А ў пасланні вялікага князя Казіміра ў Пскоў

1480 г. назоў "літвін" ужо стала азначае ўвесь народ Вялікага княства Літоўскага: Казімір менаваў віленцаў і палачанаў разам "нашы купцы", "люди нашы", а таксама ўжываў да іх выраз "нашого Литвина" [255]. Аб тым, што ў 15 стагоддзі назоў "літвіны" быў азначэннем народу ўласна Вялікага княства Літоўскага (без "земель прыслухаючых" – Русі і Жамойці) сведчыць і земскі прывілей 1507 г. Кіеўскай зямлі, які абумоўліваў "...а Киянина, как и *Литвина*, во чти держати" ды згадваў, што "князи и панове и бояре *Литовские* держат именья в Киевской земли" [256] (падобных выразаў няма ў тагачасных прывілеях Віцебскай зямлі, Полацкай зямлі, Магілёўскай воласці, месцічам Пінска або Горадні). Напрыклад, маскоўскі летапіс пад 1445 г. пералічае літву: "Приходиша к Колузе Литва: пан Судивой, пан Родивил Остикович, Андрюшка Мостилович, Якуб Ралович, Андрей Исакович, Николай Немирович, Захарья Иванович Кошкин, а рати с ними 7000" [257].

Гэтыя звесткі – як і прыклады згадкі "Мікалая русіна або літвіна" (Rutheno seu Lythuano) пад 1390 г., пералічэння многіх праваслаўных "літоўскіх" князёў пад 1399 г., азначэння як "литвы" праваслаўнага атачэння князя Аляксандра Гальшанскага пад 1405 г. або азначэння як "литвина" праваслаўнага князя Міхайлы Бабы пад 1431 г. (гл. вышэй) – паказуюць, што старая ідэнтычнасць "літвы" па Крэўскай рэформе пашыралася як на літвінаў-католікаў, так і на праваслаўных літвінаў і ў новых умовах ператварылася ў нацыянальную, а ідэнтычнасць "русі" ў межах уласна ВКЛ працягвала мець перадусім канфесійны характар. Гэта выразна відаць, напрыклад, у вядомым пасланні да папежа "от княжат и панов *руских* з Вильни" 1476 г., якое прысведчылі, у тым ліку, князь Міхайла Алелькавіч, князь Фёдар Бельскі і гетман вялікі літоўскі Іван Хадкевіч [258], ды іншых падобных прыкладах, якія выяўна сведчаць аб тым, што, будучы "рускімі" паводле канфесійнае прыналежнасці, праваслаўныя літвіны не пераставалі быць "літвінамі" паводле нацыянальнае прыналежнасці. Літвіны – як католікі, так і праваслаўныя – працягвалі ў 15 стагоддзі называцца "літвінамі" ўжо не ў чыста канфесійным (як да Крэўскай уніі), а ў агульнанародным сэнсе, і літоўскі народ наўсцяж выступаў як славянскі, як у літоўскіх звестках, так і ў сведчаннях замежнікаў. Энэй Сільвій у 1440-х гадох пісаў, што літвіны ёсць славянскім народам, а літоўская мова – славянская (Sermo gentis Sclavonicus est). Падобныя звесткі падавалі іншыя заходнееўрапейскія і рускія дыпламаты ды навукоўцы [259]. І рускія, і заходнееўрапейскія пісьменнікі ў 15–16 ст. працягвалі лічыць Літву, Кіеў і Масковію часткамі адзінае Русі, як і да Крэўскай уніі (гл. артыкул "Літоўскі народ 14 стагоддзя"). Напрыклад, польскія пісьменнікі 15 і 16 стагоддзяў пісалі: "Люд літоўскі, рускі і маскоўскі – гэта адна і тая ж Русь, адно і тое ж племя" [260].

Факт поўнае асіміляцыі паноўнага германскага элемента ў славянскім народзе Вялікага княства Літоўскага відаць у неіснаванні якіх-кольвечы адміністрацыйных меж для вылучэння нейкага асобнага неславянскага этнічнага элемента ўнутры ўласна Літоўскага княства (затое Літоўскае княства заўсёды было адміністрацыйна апрычоным ад Жамойці) ды наогул ва ўсіх іншых гістарычных звестках аб нацыянальным жыцці ВКЛ. Аб нацыянальным аблічны літоўскага народу пачатку 16 стагоддзя выяўна сведчыць Попіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 году [261], які не пакідае ніякага месца гіпотэзам аб існаванні нейкага "летувіскага этнічна балцкага народу".

Тое, што тытульным "літоўскім народам" у Вялікім княстве 15–16 стагоддзяў называўся беларускі народ, відаць у элементарных фактах палітычнае гісторыі ВКЛ. Гэтак, на Парчаўскім сойме 1453 г. Літву прадстаўлялі князі Юрый Гальшанскі, Барыс Глінскі, кашталян троцкі Начко Гінвілавіч, намеснік полацкі Андрэй Саковіч і маршалак дворны Ян Неміровіч: ад імя ўсяго паспольства ВКЛ яны патрабавалі ўстаўлення мяжы з Польшчай як за часу Вітаўта [262]. У 1456 г. падчашы літоўскі Алёхна Судымонтавіч выправіў да караля Казіміра пасольства ў складзе баяраў Мікалая Няміры, Таўтвіла і Яўстаха, якія "ад імя ўсяго літоўскага народу" патрабавалі, каб Казімір вярнуўся ў Літву, у выпадку адмовы пагражаючы пасадзіць на вялікакняскі сталец князя Сямёна Алелькавіча (спраўцамі гэтае здрады былі ваявода віленскі Ян Гастоўт, князь Юрый Астрозскі і сам падчашы Алёхна Судымонтавіч) [263]. У 1492 г. падчас паднясення на вялікакняскі сталец Аляксандра маршалак дворны Івашка Багданавіч Храбтовіч ад імя ўсіх літоўскіх князёў і паноў (былі аблічныя князі Алелькавічы, Глінскія, Гальшанскія, Мсціслаўскія, Гедройцкія) выступіў з прамовай да гаспадара, у якой казаў: "памятай, што над літвой пануеш" і "просім цябе, каб ... праўдзівым літоўскім і Вітаўтавым прыкладам нас радзіў і судзіў" [264]. У 1499 г. умовы Кракаўска-Віленскае уніі ад імя паноў і "ўсіх прыродных зямянаў" (universitas terrigenarum)

Вялікага княства Літоўскага пацвярджалі канцлер і ваявода віленскі Мікалай Радзівілавіч (Rodvilovicz), кашталян віленскі Аляксандр Гальшанскі, маршалак земскі і ваявода троцкі Ян Забярэзінскі, кашталян троцкі Станіслаў Янавіч (Janovicz) Кясгайла, маршалак дворны Грыгор Остыкавіч (Osticovicz), харужы земскі і наместнік ковенскі Войтка Янавіч (Janovicz), наместнік полацкі Юрый Пацавіч (Paczovicz), стараста дарагічынскі Якуб Давойнавіч (Dovoynovicz), стараста лідскі Станіслаў Петрашовіч (Petraschovicz), стараста дубіцкі Мікалай Юндзілавіч (Jundzilovicz) і іншыя літвіны [265].

У 1569 г. Рэч Паспалітая, як вядома, была створана як дзяржава "абодвух народаў" – польскага і літоўскага; і ад імя "*літоўскага народу*" ў актах уніі выступалі: гетман вялікі літоўскі і кашталян віленскі Грыгор Хадкевіч, ваявода троцкі Стэфан Збаразскі, падканцлер і кашталян троцкі Астафей Валовіч, маршалак вялікі літоўскі і стараста ковенскі Ян Хадкевіч, біскуп віленскі Валяр'ян Пратасевіч, падскарбі земскі Мікалай Нарушэвіч, маршалак дворны Мікалай Крыштаф Радзівіл, крайчы літоўскі Ян Кішка, стольнік літоўскі Мікалай Дарагастайскі і іншыя літвіны (варта адзначыць, што Грыгор Хадкевіч быў праваслаўным, а Стэфан Збаразскі, Астафей Валовіч і Ян Хадкевіч былі евангелікамі). Усе гэтыя ўраднікі, а таксама прадстаўнікі ад усіх паветаў ВКЛ сведчылі аб "уставічнай павіннасці нашай проці айчыны сваёй Вялікага княства Літоўскага" і згадвалі аб "звязе абодвух народаў", "польскага і *літоўскага*", які "*мы маем* ад часу прадзеда яго каралеўскае міласці" (то бо ад часу Ягайлы – згадка аб Гарадзельскай уніі 1413 г.) [266]. Гэтыя афіцыйныя заявы не пакідаюць ніякіх сумневаў у тым, што шляхта ВКЛ яшчэ ад часоў Ягайлы лічыла тытульным "літоўскім" народам ВКЛ народ уласна Вялікага княства Літоўскага (без Жамойці). Сярод вышпісаных імёнаў няма жаднага балцкага імя – нават Жамойць падчас уніі 1569 г. прадстаўлялі стараста жамойцкі Ян Хадкевіч і біскуп жамойцкі Юрый Пяткевіч. Ян Хадкевіч у сваёй прамове на адным з соймаў 1569 г. мовіў аб "нашых продках літве" і "нашай славе, чэсці і пажытку літоўскага народу" [267]. Гэтыя і ўсе іншыя факты гісторыі Вялікага княства Літоўскага цалкам разбіваюць абсурдныя антыгістарычныя выдумкі аб існаванні ў ВКЛ нейкага "балцкага летувіскага народу".

Усе гэтыя і многія іншыя прыклады паказуюць, што ў 15 стагоддзі, па Крэўскай рэформе, літоўскі народ станавіў сабой такі ж славянскі (паводле мовы, культуры і самасвядомасці) народ, як і да Крэўскай уніі. У сувязі з гэтым трэба прызнаць, што ёсць няслушнымі тыя канструкцыі, якія спрабуюць выявіць пашырэнне назову "літвіны" па Крэўскай уніі на ўсё жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага як пашырэнне ў якасці "палітоніму". Такія канструкцыі падмяняюць паняткі, бо назоў "літвіны", як мы паказалі вышэй, пашырыўся пасля Крэўскай уніі на ўвесь народ *уласна Літоўскага княства* (без Жамойці і ўкраінскіх зямель) у якасці *нацыянальнага* назову, то бо ў якасці агульнага назову народу на грунце супольнасці тэрыторыі, мовы, культуры і самасвядомасці. Палітонім задзіночвае ўсіх жыхароў аднаго гаспадарства незалежна ад іх этнічнасці і мовы, а назоў "літвіны" быў акурат нацыянальным назовам і не пашыраўся на ўсё жыхарства ўсяго Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага – на жыхароў Русі (Украіны) ды на жамойтаў.

Жамойць канчаткова ўвайшла ў склад ВКЛ адно ў 1422 г. Апрычоны "жамойцкі народ" (gens Samagitarum) быў згаданы ў акце фундацыі Жамойцкага біскупства 1417 г. ды іншых тагачасных дакументах (прытым, паводле сведчанняў саміх Ягайлы і Вітаўта, касцёлы ў межах Віленскага біскупства былі заснаваны для "літоўскага народу" (gentem Lithuanicam) – гл. вышэй). Аб тым, што і ў канцы 15 стагоддзя не магло быць мовы аб разгледжанні Жамойці як натуральнае часткі Літвы, сведчыць земскі прывілей Жамойці вялікага князя Аляксандра 1492 г., першым артыкулам якога быў абумоўлены афіцыйны пункт гледжання на тое, што Жамойць не ёсць заваяваным краем, але "з доброю волею" далучылася да Вялікага княства Літоўскага: "Напервей, хочем, иж им жадны не мает мовити, альбо на очы истить, иж бы през меч, альбо через оныи валки были звалчоные, але з доброю волею прыстали" [268].

Ліст вялікага князя Вітаўта 1420 г. нямецкаму цэсару, на які почасту спасылаюцца прыхільнікі "балцкае" тэорыі як на быццам беспярэчнае сведчанне адзінства літвінаў і жамойтаў, ёсць насамрэч чарговым сведчаннем аб тым, што Вітаўт называў "літоўскаю" беларускую мову. Сам назоў Жамойці, транслітараваны ў гэтым лісце з вусновае мовы Вітаўта, быў запісаны ў чыста славянскай форме (Szomoyth), а словы аб "адным народзе" і "адной мове" Літвы і Жамойці азначалі, што ў Жамойці сапраўды жыло нямала літвінаў

(літвіны складалі амаль усю шляхту Жамойці) і супольнаю моваю Літвы і Жамойці была беларуская (тадышняя “літоўская”) мова; беспярэчным сведчаннем гэтага ёсць ужыты Вітаўтам у тым жа лісце выраз “ловы, у народнай мове менаваныя “гайны” (indagines, alias in vulgari *hayn*) [269]. Аб той жа літоўскай мове сведчыў у 1517 г. С. Герберштэйн, пішучы, што літвіны дасылаюць у Жамойць ураднікаў, якіх літвіны “ў сваёй мове” называюць “стараста” (Starosta) [270]. Гэтая “літоўская” (беларуская) мова сапраўды была адзінаю для Літвы і Жамойці – як і Літоўскае права, судзіць якім у Жамойці загадваў вялікакняскі прывілей 1492 году.

Як у 13 стагоддзі, так і пазней ёсць звесткі аб тым, што некаторыя літвіны жывуць у Жамойці [271], – але ў нацыянальным сэнсе жамойты заўсёды выступаюць чыста апрычонымі ад літвінаў. Напрыклад, на соймах у 1542 і 1554 гг. жамойцкія паслы прасілі гаспадара не прызначаць у Жамойць ураднікамі чужынцаў (не жамойтаў), у тым ліку “литву”. У гэтых жа зваротах разглядаліся пытанні “границы Литовское” з Жамойцю [272]. Дый Жамойць не магла быць часткаю Літвы ўжо дзеля таго, што Літва (як і Русь) – гэта “вялікае княства”, а Жамойць – толькі княства або староства, што ёсць зусім іншым урадавым роўнем і што адлюстравана ў гаспадарскім тытуле, напрыклад, у прывілеі 1447 г. Казіміра “великого князя его милости Литовского, Руского, и княжати Пруского, Жомойтского и иных”. У тытуле літоўскага гаспадара Жамойць почасту адлучалася ад Літвы адным або двума назовамі. Напрыклад, у тытуле гаспадара ў першым Літоўскім Статуце 1529 г.: “Жыкгимонт, з божее милости король Польский, великий князь Литовский, Руский, Пруский, Жомойтский, Мазовецкий и иных”. Ужо гэта мусіла б паказваць на тое, што Жамойць ніколі не мела ніякае грунтоўнае гістарычнае сувязі з Літвою. На Жамойць ніколі не пашыраўся літоўскі герб “Пагоня”, які быў афіцыйным гербам паветаў і ваяводстваў адно ўласна Вялікага княства Літоўскага (Віленскага, Троцкага, Наваградскага, Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага, Менскага, Берасцейскага ваяводстваў і Падляшша).




*Мапа Вялікага княства Літоўскага 1562 году:*
*Надпіс “MAGNUS DUCATUS LITVANIAE” размешчаны ля выяў Лагойска і Клецка,*
*а Жамойць пазначана колерам, адрозным ад колеру Літвы.*

Усе гэтыя факты яшчэ раз кажуць аб гістарычнай апрычонасці Жамойці ад Літвы і пацвярджаюць тое, што па Крэўскай уніі сапраўдная нацыянальная кансалідацыя *гістарычнага літоўскага народу* адбывалася ў межах Літвы (уласна ВКЛ, без Жамойці і ўкраінскіх зямель) на грунце мясцовае славянскае мовы і культуры. Лішне казаць, што да сапраўднай гісторыі Літвы не маюць ніякага дачынення фантастычныя канструкцыі сённяшніх летувіскіх даследнікаў аб тым, што па Крэўскай уніі быццам адбылася

канчатковая кансалідацыя нейкага “этнічна балцкага летувіскага народу”. Гістарычныя крыніцы паказуюць (і гэта прызнана даследнікамі), што не пазней ніж ад другой паловы 15 стагоддзя назоў “літвіны” быў супольным назовам усяго беларускага народу. Увесь беларускі народ, ад Вільні да Чарнігаўшчыны і ад Падляшша да Полаччыны, называўся “літвінамі”, а беларуская мова называлася “літоўскаю” аж да канца 19 стагоддзя, а часткова сярод вясковага жыхарства гэты саманазоў захаваўся да канца 20 стагоддзя [273] (у той час як яшчэ ў канцы 19 ст. жыхарства на поўнач ад Коўні называла сябе “жмогусамі” [274]). Назоў “беларусы” ніколі не ўжываўся ў нацыянальным сэнсе ў дзяржаўных дакументах і гістарычных помніках Вялікага княства Літоўскага і ніколі не азначаў нейкі народ аж да сярэдзіны 19 стагоддзя, калі расейскія ўлады дырэктыўна перайменавалі літвінаў у “беларусаў” [275].

Назоў “літвіны” ў ВКЛ мог часам выступаць у ролі палітоніму (то бо назову ўсяго жыхарства гаспадарства незалежна ад этнічнасці), але перадусім быў нацыянальным назовам таго народу, які ў 14 стагоддзі скансалідаваўся ў якасці апрычонае дэнамінацыі ў межах Літоўскае мітраполіі, а па Крэўскай уніі быў падзелены на католікаў і праваслаўных у межах той жа Літоўскае мітраполіі, то бо тэрыторыі ўласна ВКЛ. Зборнымі выразамі (палітонімамі) для азначэння ўсяго жыхарства Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага разам былі такія выразы, як “люди литовские”, “литва” ў маскоўскіх крыніцах, або азначэнне “de Lythwania” ў заходніх крыніцах. Нацыянальны ж назоў “літвінаў” – тытульнае нацыі ВКЛ – належаў у 15–18 ст. адно народу ўласна Літоўскага княства, то бо беларусам: жамойты або ўкраінцы ніколі не называліся “літвінамі” ў нацыянальным сэнсе.

Нацыянальны характар этнонімаў добра відаць ва ўласна ўрадавай тэрміналогіі ВКЛ, напрыклад, у Літоўскіх Статутах, якія знаюць на землях Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага тры народы: літвінаў, русінаў і жамойтаў. Для азначэння ўсяго жыхарства Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага разам (незалежна ад нацыянальнасці) Статуты ўжываюць такія выразы, як “все посполъство а тубыльцы Великого князства Литовского” або “вси станы и обыватели Великого князства Литовского”. Між тым, сярод гэтага “паспольства” розняцца тры народы: літвіны, русіны і жамойты. Дарэчы тут будзе сказаць, што да Берасцейскага сойму 1566 году “родичами старожытными и врожонцами” (то бо, мовячы сучаснаю моваю, тытульнымі нацыямі) Вялікага княства Літоўскага лічыліся толькі літвіны і русіны: жамойты не лічыліся “родичами старожытными и врожонцами” ВКЛ, а былі аднесены да ліку “обчых” (чужынскіх) народаў ажно да 1566 году. Літоўскі Статут 1566 году, “беручы то из статуту старого”, гэтак выкладае пастановы аб “врожонцах” ВКЛ у артыкуле “*Иж достоенств врядов в дедицтво чужоземцом давано быти не маеть*”: “...што ж в том панстве Великом Князстве Литовском и во всих землях ему прыслухаючых достойностей духовных и свецких, городов, дворов и кгрунтов, староств в держаньи и пожываньи и вечностей жадных чужоземцом и заграничником ани суседом таго панства давати не маем; але то все мы и потомки нашы Великие Князи Литовские давати будуть повинны только *Литве а Руси, родичом старожытным и врожонцам* Великаго Князства Литовского и иных земль тому Великому Князству належачых. <...> ...Але на достоенства и всякий вряд духовный и свецкий не маеть быти обиран, ани от нас Господаря ставлен, только здавна продков своих уроженец Великого Князства Литовского *Литвин и Русин*”.

У святле ўсяго вышпісанага зразумела, што не адлюстроўваюць рэальнасці тыя гістарыяграфічныя канструкцыі, якія кажуць, што ўласна Вялікае княства Літоўскае было нібыта “шматэтнічным” гаспадарствам (даўнімаючы пад літвінамі “балцкі этнас”, а пад русінамі “славянскі этнас”). Да Крэўскай уніі ВКЛ наогул не было нацыянальным, этнічным гаспадарствам у звычайным сэнсе: падзел ягонага жыхарства на ідэнтычнасці “літвінаў” і “русінаў” адбываўся паводле канфесійнага зместу, а не нацыянальнага (пры тым што, з улікам славянізацыі літвінаў, яны былі ў нацыянальным плане вельмі блізкімі, калі часам не тоеснымі з русінамі ВКЛ). Пасля ж Крэўскай уніі збудавалася нацыянальная супольнасць “літвінаў”, літоўскі народ у нацыянальным сэнсе, які па-ранейшаму заставаўся тытульным элементам ВКЛ, пры тым што канфесіёнімы “літвіны” і “русіны” працягвалі ў вузкім сэнсе ўжывацца для канфесійнага адрознення. Назоў “русіны”, “русь” у палітычным і нацыянальным сэнсе быў азначэннем народу сённяшняе Украіны, які меў у складзе гаспадарства сваё Вялікае княства Рускае з сталіцаю ў Кіеве. Такім парадкам, аб “шматэтнічнасці” ў ВКЛ 15 стагоддзя можна казаць адно ў межах усяго Вялікага княства

Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, калі прызнаць, што літвінамі ў нацыянальным сэнсе называліся сённяшнія беларусы, жамойтамі – сённяшнія летувісы, а русінамі – сённяшнія ўкраінцы (што досыць ясна адлюстравана ў палітычнай тэрміналогіі ВКЛ і ва ўласна яго тытулатуры). У межах жа *ўласна* Вялікага княства Літоўскага (уласна Літоўскага княства, без Жамойці і ўкраінскіх зямель) ніякае "шматэтнічнасці" не існавала, бо паноўны германскі элемент Літвы не меў уласнае этнічнае ідэнтычнасці, а даўно цалкам славянізаваўся і злучыўся ў плане нацыянальных рыс і ідэнтычнасці з славянскім народам ВКЛ, надаўшы яму свой назоў "літвінаў": тут існаваў адзін (не паводле спачатнага этнічнага паходжання, але паводле мовы, культуры і самасвядомасці) народ, які як да Крэўскай уніі, так і пасля быў славянамоўным і хрысціянскім. Адно што ён меў розную *канфесійную ідэнтычнасць*: да Крэўскай уніі "літвінамі" называлася богумільская канфесійная супольнасць, а "русінамі" праваслаўная; пасля ж Крэўскае уніі назоў "літвіны" стаўся нацыянальным назовам усяго народу ўласна Вялікага княства Літоўскага, пры тым што ў вузкім (не нацыянальным, а канфесійным) сэнсе назовы "літвіны" і "русіны" працягвалі быць канфесіёнімамі ("літвіны" цяпер – у якасці каталіцкага канфесіёніму, а "русіны" – паранейшаму ў якасці праваслаўнага).



*Літва*
*(выява з "Сусветнае хронікі" Гартмана Шэдэля, 1493 г.)*

Наўпростае пацверджанне гэтага маем у Гарадзенскім прывілеі караля і вялікага князя Жыгімонта-Аўгуста 1568 году. Гэты прывілей (як і папярэднія прывілеі – Віленскі 1563 году, Бельскі 1564 году і Віленскі 1565 году) быў выдадзены "шляхте *литовской*", "станом *литовским*", да "князей, панов, шляхты *литовское*, будь рымское або руское только хрестианское веры". Як у Віленскім прывілеі 1563 году было шмат мовы пра канчатковае касаванне абмежавальных пастаноў Гарадзельскага прывілея 1413 году, то магло скласціся ўражанне, што пры размове аб "літве" і "русі" сярод літоўскае шляхты мова ідзе пра розныя народы. Таму літоўская шляхта запатрабавала ад гаспадара выдаць дадатковы Гарадзенскі прывілей, "...абыхмо некоторые речы и члонки в оном прывилью поправившы и водлуг потребы объяснившы, достаточней ешче ниж первей и чого там недоставает казавшы, прыписать". У Гарадзенскім прывілеі было адзначана, што назовы "літва" і "русь" у вузкім сэнсе ёсць канфесіёнімамі: "…там в том прывильи описан паном-шляхте обоего закону и веры христианское *рымского закону Литве, а греческого Руси*...". Далей было наўпрост патлумачана, што хаця літоўскі народ можа быць "рымскае" або "рускае" веры, усё адно

гэта адзін народ: “...што вышей о народе том славном Великого Князства *ач двоего закону хрестианского* людей, але *одного и однакого народу* описано и поменено...”, “...ровно и однако яко и рымского и всякого хрестианского закону и веры людех у Великом Князстве Литовском и во всих землях ку нему прыслухаючых належыт, гдыж сполне межы собою и с собою в одном панстве Великом Князстве Литовском и землях ему прыслухаючых и в границах одных мешкают и *одным народом суть*” [276] (згадка ў гэтай фразе аб “землях ему прыслухаючых” ясна сведчыць, што мова была пра тытульны народ уласна Вялікага княства Літоўскага, без Жамойці і Русі).

**10. Рэлігійная літаратура і культура.**

Уся асветніцкая, адукацыйная, літаратурная дзейнасць літоўскага касцёла ад пачатку яго існавання адбывалася ў славянскім моўным і культурным асяроддзі. На беларускую мову за часу Ягайлы былі перакладзены з лаціны малітвы “Ойча наш”, “Радуйся, Марыя” і каталіцкі сымбаль веры [277]. Добра вядомая ў каталіцкай традыцыі звестка аб тым, што Ягайла ўласнаручна правіў катэхізм у “літоўскай” мове [278], – таксама, безумоўна, сведчыць аб тым, што гэтая “літоўская” мова была беларускаю. З дзейнасцю згаданых вышэй чэскіх бенедыктынаў славянскага абраду, якія былі запрошаны каралём Ягайлам у 1390 г. у Кракаў, а да 1400 г. у Трокі, знітавана паўстанне адметнага твору – запісу каталіцкае імшы Богародзіцы. Гэта кірылічная транслітэрацыя імшы бенедыктынаў з беларускімі ўстаўкамі, якія тлумачаць, што чыніць святар “напервей коли уже каплан убравшися приступив к алтарю” і калі “каплан встанеть а сложить руки и голову схилив говорить”. Твор быў укладзены для вяльможнага неафіта-літвіна (імаверна для Соф’і Гальшанскай у 1422 г.) [279].

З чэскім культурным уплывам – передусім гусіцкім – знітаваны літоўскія пераклады такіх адметных помнікаў, як “*Песнь песень*” і “*Люцыдар*”. “Песнь Песень” была перакладзена ў мяшаную царкоўнаславянска-беларускую мову ў першай палове 15 стагоддзя з гусіцкае Бібліі або з гусіцкага кампілятыўнага твору з дадаткамі [280]. Літоўскі пераклад “Люцыдару” з’явіўся таксама праз сувязі з гусітамі [281]. “Люцыдар”, як і іншыя апакрыфічныя кнігі, не належаў да афіцыйнай царкоўнай літаратуры, але быў надзвычай папулярны (гл. ч. II, раздзел 2). Відаць, таксама з гусіцкім уплывам знітавана паўстанне ў Польшчы і пераклад у 15 ст. у беларускую мову знакамітага верша пра сустрэчу майстра Палікарпа з Смерцю (“*Сказанье о Смерти некоего мистра великого*”) [282]. Выбітным помнікам уласнае літаратурнае творчасці, які задзіночыў каталіцкую літаратурную традыцыю і апакрыфічныя матывы, ёсць літоўскі твор сярэдзіны 15 ст. “*О умученьи Пана нашего Есус Крыста*” [283] (гл. ч. II, раздзел 3). Сярод тэкстаў апакрыфічнага роду, што існавалі ў літоўскім каталіцкім асяроддзі ў 15 ст., варта згадаць яшчэ “*Реч о трех ставех*” – апокрыф, які ўзыходзіць да тэкстаў святога Аўгустына [284].

Рэлігійная літаратура Літвы 15 стагоддзя, як каталіцкая, так і праваслаўная, была насычана старажытнымі апакрыфічнымі творамі і матывамі. Напрыклад, аб тым літаратурным асяроддзі, у якім мела абег вышменаванае “Сказанье о Смерти некоего мистра великого”, можна судзіць паводле таго, што ў адным спісе яно пададзена побач з такімі вядомымі апокрыфамі, як “Посланье от Авгаря царя”, “Хожденье Богородицы по мукам”, “Зерцало жывота чоловечого”, “Люцыдар”, ды іншымі тэкстамі апакрыфічнага характару [285]. Трэба прызнаць, што не маюць слушнасці тыя даследнікі, якія ў такім адметным характару літоўскае каталіцкае кніжнасці 15 стагоддзя бачаць ейны нізкі ровень, які быццам вынікае з нястачы помнікаў, звязаных з катэхізацыяй, найважнейшых царкоўных твораў і твораў айцоў царквы, а таксама з пашыранасці “нізавое” (каляапакрыфічнае) літаратуры, “паўчальнае белетрыстыкі”, уласцівае для народных мас [286]. Датычна пытання “катэхізацыі”, мы раней ужо досыць выяўна паказалі, што літвінам – здаўна хрысціянам – ніякае катэхізацыі і не патрабавалася. Нястача ж асноўных царкоўных твораў сярод першых літоўскіх каталіцкіх перакладаў ды насычанасць ранняе літоўскае каталіцкае літаратуры апакрыфічнымі і каляапакрыфічнымі творамі, вядома, мусіць казаць не аб прымітыўным характару тагачаснае літоўскае рэлігійнае культуры, а наадварот аб досыць высокім яе роўні, які дазваляў заміж знаёмства з элементарнай літаратурай перайсці адразу да глыбінных рэлігійных твораў. Наймя гэта дазваляла абменьвацца ідэямі з ідэолагамі гусіцкага руху (відавочна, меў месца не адно ўплыў гусітаў на Літву, але і адваротны ўплыў). Гэта ж дазваляла засяроджвацца не на агульнай

царкоўнай тэматыцы, а на глыбінных метафізычных пытаннях, якія ўздымаліся ў творах апакрыфічнага роду. Гэтая адметная апакрыфічная літаратурная традыцыя працягвала шырока існаваць у Літве пасля Крэўскай уніі і адыгрывала значную ролю ў літоўскай Рэфармацыі 16 стагоддзя (гл. ч. II, раздзел 1).



*Праваслаўная Мікольская царква ў Вільні (збудавана ў 1350 г. перабудавана ў 1514 г.)*

Відавочна літоўскае паходжанне мае шырока вядомы ў Літве і Польшчы ў 15–16 ст. гімн "*Богурадзіца*". Гэта відаць з яўна беларускага паходжання яго тэксту (ды з уласна назову) і з яго сувязі з дынастыяй Ягайлавічаў (некаторыя даследнікі лічаць, што "Богурадзіца" была каранацыйным гімнам Ягайлавічаў). Некаталіцкія матывы ў тэксце гімна таксама сведчаць аб літоўскім паходжанні "Богурадзіцы" – то бо аб улучэнні элементаў дакрэўскае літоўскае рэлігійнае культуры ў літоўскі касцёл. "Богурадзіцу" літвіны спявалі яшчэ на Грунвальцкім полі ў 1410 г. Гімн "Богурадзіца" выконваўся на афіцыйных цырымоніях і наогул быў шанаваны ў Літве – гэтак, поўны тэкст "Богурадзіцы" змешчаны ў пачатку першага Літоўскага Статуту 1529 году [287].

Помнікам рэлігійнае культуры Літвы 15 стагоддзя ёсць кірылічны надпіс у Святакрыжскай капліцы ў кракаўскім каралеўскім замку, выкананы на загад караля і вялікага князя Казіміра Ягайлавіча, які збудаваў гэтую капліцу як месца свайго пахавання. Фрэскі капліцы выкананы ў бізантыйска-праваслаўным стылю і выяўляюць святых грэцкае царквы з славянскімі надпісамі. На загад караля Казіміра ў 1471 г. у капліцы быў зроблены надпіс кірыліцаю [288]:

> Къ ухвале именя найвышшого Бога Ойца всемогушчого, побудована костелу сея каплица, повеленьем великого а преславного Короля, просветного Казимира з Боской милости Польского и Великого Князя Литовского, Троцкого и Жомойтского, и Княжатя Пруского, Пана и дедича тых и иных много земь Господара, и его королевей пронайяснейшей паней Елизабеты з поколенья Цесарского продка пренайяснейшаго Жыгимонта Пана земь Ракуской, Ческой, и Вгорской. По лету нароженья Божого первшого, седмдесятого тысячного, а докончали сея каплица Месяца Октоб. 12 дня.

Асяродкам рэлігійнага і культурнага жыцця праваслаўных літвінаў заставалася Літоўска-Кіеўская мітраполія, якая ад 1416 г. мела сядзібу ў Вільні ў збору Прачыстае. Протапапы віленскага збору Прачыстае нярэдка былі намеснікамі мітрапалітаў, чынілі суды і царкоўныя справы, старшынствавалі ў грамадзе віленскіх праваслаўных цэркваў [289]. Літоўска-Кіеўская мітраполія афіцыйна называлася "мітраполіяй Кіеўскай, Літоўскай, Галіцкай і ўсяе Русі".

У справаводстве мітраполіі ўжывалі народную мову, у ёй складалі афіцыйныя лісты. Напрыклад, у 1480 г. мітрапаліт Міхайла ўчыніў наданне наваградскай царкве Барыса і Глеба: "...прыкупил есми к тому святому престолу у Волчка мешчанина новгородского пашню его и сеножати <...>; а тую всю свою куплю прыдал есми к тому святому престолу

ку Благовешченью Пречыстое Богоматере, што у Святом Борыса и Глеба...” [290]. Мітрапаліт Іона ў 1493 г. склаў пасланне аб парадку пакуты цяжкіх злачынцаў: “...А коли тыи тры годы минутся, а он тое исполнит, ино ему два годы стояти унутры церкви, подле самых дверей, слухати божественныя службы и всего правила церковнаго. А вжо ему на тыи два леты не бити чолом пред кажным, ани прощенья просити. <...> А коли он усхочет больше того Богу послужыти, и мы ему не бороним...” [291].

Захаваўся тэстамент, складзены ў 1443 г. прэзбітарам царквы св. Крэста ў Ваўкавыску Сямёнам Чаплееўскім [292]:

Во имя Отца и Сына и Святого Духа и Святой Жывоначальной Троицы амин.

Се я раб Божы Семен Прохорович Чаплеевски богомолец и прочы всих православных хрыстиан настоятель храма Жывотворящого Креста, чыню явно и вызнаваю то сим тестаментом моим, кому потреба его видети, альбо чытаючы слышати, нынейшым людям и напотом будучым, што ж я Семен, будучы в летах зешлых, а в хворобе будучы на Божой воли, еще за доброй памяти, найпервей полецаю Пану Богу душу и тело мое грешное, также и каждые одправы по моей душы нехай сын мой Кипрыан одправует так, же теж одказую и сим тестаментом одписую сыну моему Кипрыану и его детем и их потомком церковь сию Чесно Кресткую, которую церковь я сам своим властным коштом и накладом, за позволеньем пани Михайловой Нацевичовой также и мужей господарских Волковыских и за благословеньем митрополиты Александра его милости поставил и сооружыл. До которой то церкви поставили есмы в презбитеры того сына нашого Кипрыана, к тому еще есмы купили землю нашу у людей господарских волости Волковыское пры той церкви лежачое над речкою Сточкою, понедалеко реки Зельвы и речки Зельдыны, на имя Микиты Зельчыца на петнаццать бочок ратушных и дали есмы петнаццать рублей грошы литовских <...>.

А сын мой и его потомки Кипрыан, держачы и служачы у престола Божого тое церкви, повинны будут за господара Короля также и Панов Радных и за вси православные хрыстианы и за мою душу Пана Бога милостивого просити, а не мает нихто з моих близких, ани обчы чоловек того сына моего Кипрыана ани их потомков од оной церкви одлучыти <...>.

Праваслаўныя літвіны запісвалі наданні цэрквам у народнай мове. Напрыклад, у 1431 г. падскарбі літоўскі Аляксей Судымонтавіч Кмыта выдаў ліст на заснаванне праваслаўнае царквы св. Тройцы ў Сямятычах (у Дарагічынскім павеце) [293]:

Лета Божого тысеча четыреста трыдесять первого, индыкта девятого, месеца Апреля двадцать пятого дня, на Святого Апостола и Евангелиста Марка. Во славу и честь Всесвятыя и Нераздельныя Троицы.
А се я Алексей Кмыта Судымонтович з Хожова, подскарбий Литовский, из женою моею Феодорою умыслили себе на чолобитье земян и подданых моих в селе Семятычах, в повете Дорогицком лежачом, велели постановити церковь в Семятычах, на горе, над рекою Мухавцем, между дорогами Четыговскою и Цехановецкою, храма Святой и Жывоначальной Троицы, с пределами Святых Апостол Петра и Павла и Преподобной Параскевии, нарыцаемой Пяток. <...>

Которое то писмо даемы до церкви вышереченой и в книги земские Дорогицкии писати казали и абы вечными часы заставало и не от кого не порушенно было, и кто бы тое писмо наше смел ломити, таков маеть з нами розсудитися в Страшное Второе прышествие Господне. Которое то писмо подписую властною рукою моею и печатью ствержаю. Дан в Семятычах году и дня выше реченных.

У 1486 г. княгіні Мар’яна Трабская і Соф’я Зубравіцкая (унучкі князя Сямёна Гальшанскага) упасажылі віленскі мітрапалічы збор Прачыстае: “...даем и записуем именье

свое отчыну у Турцы, опроч тых людей, што ж записал князь Семен, дед наш, из данью Пречыстой Печерской, <...> на Пречыстое Дом к Вильни, отцу нашому митрополиту Семиону Киевскому и всея Руси” [294].

У культурных асяродках мітраполіі складалі і перакладалі літаратурныя творы, у тым ліку апакрыфічныя, напрыклад, апакрыфічнае апавяданне аб Успенні Багародзіцы, запісанае ў змяшанай царкоўнаславянска-беларускай мове ў Чэцці 1489 г.: “Списана бысть книга сия нарицаемая Четья в граде у Камянцы при великом короли Андреи [праваслаўнае малітоўнае імя караля Казіміра]. В лето 6997, индыкта в 7. А тогды держал от короля Камянец пан Третина кухмистр. А писал сию книгу нехтось Березка, з Новагородка с Литовского, попович, попа Литовоцкого сын Семионов Долбнича, иж в митрополии” [295].

З пачаткам кнігадрукавання ў Літве выдавалі апакрыфічныя і каляапакрыфічныя творы ў народнай мове. Напрыклад, вядома, што ў 1533 г. у Вільні была друкавана кніга пад назовам “Выправа душ на той свет, па-польску, лаціне, літоўску і нямецку” [296]. Гэты прыклад паказуе як тое, якая мова тады называлася літоўскаю, так і тое, творы якога зместу былі пашыраны ў тагачаснай літоўскай рэлігійнай літаратуры.

* * *

Усе разгледжаныя намі ў сувязі з пытаннем Крэўскае рэлігійнае рэформы матэрыялы дазваляюць учыніць наступныя высновы:

1) Звесткі і матэрыялы гістарычных крыніц аб падзеях Крэўскае рэлігійнае рэформы яшчэ раз пацвярджаюць, што назоў “літвіны” да Крэўскай уніі быў канфесіёнімам – азначэннем мясцовае багумільскае дэнамінацыі, якая была задзіночана ў межах Літоўскае мітраполіі (гл. артыкул “Літоўскі народ 14 стагоддзя”). Гістарычныя сведчанні аб пераводзе літвінаў на каталіцтва падчас Крэўскае рэформы паказуюць, што пераводзілі на каталіцтва хрысціянаў іншае (прызнанае каталіцкаю царквою ў якасці герэтычнае) дэнамінацыі. Канфесійная супольнасць літвінаў абыймала як паноўны германскі элемент (амаль чыста славянізаваны), так і славянскі з этнічнага паходжання элемент Літвы; дзеля гэтага народ літвінаў наконадні Крэўскае уніі станавіў сабой чыста славянскі паводле мовы, культуры і самасвядомасці народ, што відаць з усіх сведчанняў тагачасных крыніц.
2) Пастанова літоўскага ўраду аб устаўленні ў Літве каталіцкага касцёла не была вымушаным крокам (спрычыненым толькі ваенным ціскам каталіцкіх краёў), яна была ў ладнай меры свабодным і свядомым змеркаваннем, выкліканым праблемамі з адаптацыяй Літвы ў бізантыйска-праваслаўнай царкоўнай арганізацыі (у новых умовах) і жаданнем браць учасць у жыцці заходнеславянскага свету.
3) Устаўленая ў Літве каталіцкая арганізацыя мела ў ладнай меры асаблівы характар. Найперш гэта праяўлялася ў панаванні ў літоўскім касцёле народнае мовы, якую шырока ўжывалі ў набажэнстве, для стварэння рэлігійных літаратурных помнікаў (што было чыста немагчымым, напрыклад, у тагачаснай Польшчы). Пытанні канкрэтных умоў устаўлення каталіцтва ў Літве і захавання ў літоўскім касцёле элементаў старое літоўскае рэлігійнае культуры (а таксама ролі францысканаў у гэтым працэсе) вымагаюць дадатковага даследвання.
4) У межах Вялікага княства Літоўскага “літвіны” (дакрэўская багумільская дэнамінацыя ВКЛ) пражывалі ўперамешку з “русінамі” (праваслаўнымі). У цэлым, наконадні Крэўскай уніі літвіны (то бо багумілы) складалі ладную частку ўсяго жыхарства ўласна Вялікага княства Літоўскага, да паловы, а імаверна і больш. Па Крэўскай рэформе, па пераходзе большае часткі літвінаў на праваслаўе, назоў “літвіны” пашырыўся на ўсё жыхарства Літоўскага княства (уласна ВКЛ) у якасці нацыянальнага назову ўсяго яго народу. Пры гэтым, у вузкім (канфесійным) сэнсе назоў “літва” (“літвіны”) стаў адыгрываць ролю каталіцкага канфесіёніму, а “русь” (“русіны”) – праваслаўнага канфесіёніму.
5) Далучэнне Літвы да каталіцкага свету дазволіла Літве чыніць рэлігійна-палітычны ўплыў у Еўропе, перадусім падтрымаць рух чэскіх гусітаў. У святле ўчыненых намі высноў аб рэлігійнай гісторыі Літвы, падтрымку Літвою гусітаў і рэлігійны ўплыў Літвы на гусітаў трэба прызнаць адным з найважнейшых чыннікаў еўрапейскае гісторыі першае паловы 15 стагоддзя, што вымагае апрычонага даследвання.

6) У плане палітычных наступстваў Крэўскае уніі і злучанае з ёю рэлігійнае рэформы, важна адзначыць, што паказнікам самастойнасці палітыкі літоўскага ўраду ў гэтых падзеях ёсць факт захавання палітычнага звязу ВКЛ з Ордаю, на якім у ладнай меры была збудавана вонкавая палітыка ВКЛ як да, так і пасля Крэўскай уніі (гл. артыкул "Літва і Орда..."). Захаванне звязу Літвы з Ордаю і прызнанне Ордаю новага палітычнага курсу Літвы паказуе, што Літва ў гэтых падзеях не была пасіўным успрымальнікам "цывілізацыйных уплываў Захаду" (як у канструкцыях мадэрнавае гістарыяграфіі), а была актыўным дзейнікам, які праводзіў уласную далёкасяжную палітыку.

* * *

Спасылкі:

1. О. Лицкевич. Православное крещение Ягайло и проект Литовско-Московского династического союза 1376-1377 гг. // Інтэграцыйныя працэсы ў гісторыі краін Усходняй Еўропы: Матэрыялы міжнародн. навук. канф., Мінск, 19-20 ліст. 2008 г. / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. Мн., 2008.
2. И. Мейендорф. Византия и Московская Русь: Очерк по истории церковных и культурных связей в XIV в. – Paris: YMCA-Пресс, 1990. – гл. IX: Митрополит Киприан и московский сепаратизм (1376–1381).
3. там жа, с. 253-254.
4. *гл.:* J. Cañellas. Gregorio Akindínos / La théologie byzantine et sa tradition. T. II. Turnhout, 2002. p. 228-253; Антология восточно-христианской богословской мысли. Ортодоксия и гетеродоксия. Москва – Санкт-Петербург, 2009. с. 493-504, 552-566; А.Г. Дунаев. Православное учение о Евхаристии в контексте паламитских споров // Мир Православия: Сб-к статей. Волгоград, 2008.
5. И.И. Шевченко. Некоторые замечания о политике Константинопольского патриархата по отношению к Восточной Европе в XIV в. // Славяне и их соседи. вып. 6: Греческий и славянский мир в средневековье и раннее Новое время. Москва, 1996. с. 135; А.В. Карташев. Очерки по истории Русской церкви. т. 1. Москва, 1997. с. 317.
6. J. Fijałek. Średniowieczne biskupstwa kościoła wschodniego na Rusi i Litwie. // Kwartalnik Historyczny. R. 10, 1896. s. 505; А.И. Клибанов. К истории русской реформационной мысли (Тверская "распря о рае" в середине XIV в.). // Вопросы истории религии и атеизма. т. V. Москва, 1958. с. 258.
7. Nicephori Gregorae Historiae Byzantinae. Vol. III. Bonnae, 1855. p. 517-518; J. Fijałek. Średniowieczne biskupstwa... s. 518.
8. И. Мейендорф. Три литовских мученика: Византия и Литва в XIV столетии // Свидетель истины: памяти протопресвитера Иоанна Мейендорфа. Екатеринбург, 2003. с. 66; Д.П. Огицкий. К истории виленских мучеников. // Богословские труды. 1984, сб. 25. с. 241.
9. Памятники древнерусского канонического права / Русская историческая библиотека, т. 6. Санкт-Петербург, 1880. прил., №20.
10. М.Н. Сперанский. Сербское житие литовских мучеников. Москва, 1909. с. 17, 24.
11. Памятники древнерусского канонического права, прил., №30, стб. 172; №33, стб. 202.
12. N. Borowska. Wpływy słowiańskie na litewską terminologię kościelną na podstawie Dictionarum Szyrwida. // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. t. II. Warszawa, 1957. s. 364-365.
13. З. Зинкявичус. К истории литовских личных имён восточнославянского происхождения. // Балто-славянские этноязыковые контакты. Москва, 1980. с. 152.
14. там жа, с. 151-152.
15. ПСРЛ, т. 35. Москва, 1980. с. 64, 135, 157.
16. ПСРЛ, т. 32. Москва, 1975. с. 144-145.
17. там жа, с. 144-145.
18. там жа, с. 79, 151.
19. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. V. Wilno, 1839. Dod. V, s. 19.
20. Акт Крэўскай уніі 1385 г. / Пер. з лац. А. Ліцкевіч // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Т. 3: Дадатак. Мн., 2010. с. 424-425.
21. Прывілей 1387 г. / Пер. з лац. А. Ліцкевіч // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. – т. 3. с. 426-427.
22. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. I, zesz. 1. / wyd. ks. J. Fijałek, W. Semkowicz. Kraków, 1932 *(KDKW)*. №6; Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska. Cz. II. (żródła historyczne) / oprac. x. J. Kurczewski. Wilno, 1910. s. 10.
23. x. J. Kurczewski. Opowiadania o dziejach chrześcijaństwa na Litwie i Rusi. Cz. I. Wilno, 1914. s. 16.
24. KDKW, №8.
25. там жа, №9.
26. Kościół zamkowy, Cz. II. s. 12.

27. Н.Н. Улащик. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. Москва: Наука, 1985. с. 98-99; M. Stryjkowski. Kronika polska, litewska, żmodzka i wszystkiej Rusi. t. I. Warszawa, 1846. s. 288.
28. А. Жлутка. Міндаў, кароль Літовіі. Менск, 2005. ч. III, №2.
29. Monumenta Poloniae Vaticana. t. III. Cracoviae, 1914. №139; Wł. Abraham. Powstanie organizacyi kościoła łacińskiego na Rusi. t. I. Lwów, 1904. Dod. III.
30. Liv-, Est-, und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten. / ed. F.G. Bunge. – Bd. II. Reval, 1855. №707, p. 181; Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae, gentiumque finitimarum historiam illustrantia. / ed. A. Theiner. – t. I. Romae, 1860. №290.
31. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae... t. I. №691, 693.
32. Wł. Abraham. Polska a chrzest Litwy. // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. – Wł. Abraham, J. Fijałek, J. Rozwadowski et al. – Kraków, 1914. s. 11; *прыр.:* Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae... t. I. №746, 747, 748.
33. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae... t. I. №934.
34. KDKW, №30.
35. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę. // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. – Wł. Abraham, J. Fijałek, J. Rozwadowski et al. – Kraków, 1914. s. 122-126.
36. Akta unji Polski z Litwą 1385–1791. / S. Kutrzeba, W. Semkowicz. Kraków, 1932. №51.
37. KDKW, №78.
38. Scriptores rerum Prussicarum. / her. von Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. – Bd. IV. Leipzig, 1870. S. 239; x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 47.
39. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856. s. 95.
40. О.В. Лицкевич. Православное крещение Ягайло... с. 133.
41. Опись архива Посольского приказа 1626 года. / подг. В.И. Гальцов; под ред. С.О. Шмидта. ч. 1. Москва, 1977. с. 34.
42. ПСРЛ, т. 6, вып. 1. Москва, 2000. стб. 489; ПСРЛ, т. 4, ч. 1. Москва, 2000, с. 347.
43. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne... s. 94-95.
44. Z. Zinkėvičius. Krikščionybės ištakos Lietuvoje: Rytų krikščionybė vardyno duomenimis. – Vilna, 2005. с. 76-77, 85-86.
45. Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936. с. 72.
46. О. Щербицкий. Русский язык и православная вера в бывшем Литовском государстве. Вильна, 1906. с. 5; ПСРЛ, т. 17. СПб., 1907. стб. 416.
47. И.П. Боричевский. Православие и русская народность в Литве. СПб., 1851. с. 21.
48. T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne... s. 99-100.
49. ПСРЛ, т. 17. СПб., 1907. стб. 416.
50. Грамоти XIV ст., №40.
51. KDKW, №15, 16; Kościół zamkowy, Cz. II. s. 15-16.
52. А. Ліцкевіч. Дагаворы паміж князямі ВКЛ, нобілямі Жамойці і прадстаўнікамі Тэўтонскага ордэна ў Прусіі і Лівоніі (1367–1398 гг.). // Arche. 2010, №10. с. 89; Акт Крэўскай уніі 1385 г., с. 424-425.
53. Skarbiec diplomatów... / zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz. – T. I. Wilno, 1860. №513; А. Ліцкевіч. Крэва: саюз і разрыў цывілізацый // Беларуская думка. 2008, №4. с. 91.
54. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 3. Kraków, 1868. s. 432-433.
55. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 55.
56. K. Biedrowska-Ochmańska, J. Ochmański. Władysław Jagiełło w opiniach swoich współczesnych. Poznań, 1987. s. 30; J. Krzyżaniakowa, J. Ochmański. Władysław II Jagiełło. Wrocław, 1990. s. 13.
57. M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. t. IV. Warszawa, 1935. s. 35.
58. А.І. Груша. "Чалавек, народжаны ў варварскай краіне": Ягайла – яго тыпізаваныя паводзіны. // Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV ст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі. (2-е выд.). Мінск, 2014. с. 166-169; S.M. Kuczyński. Król Jagełło. Warszawa, 1987. s. 70.
59. J. Jaroszewicz. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Cz. I. Wilno, 1844. s. 27, 175.
60. K. Biedrowska-Ochmańska, J. Ochmański. Władysław Jagiełło... s. 36-37.
61. S.M. Kuczyński. Król Jagełło... s. 21, 69-70.
62. З. Сасноўскі. Музычная культура рыцарскага саслоўя Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Мінск, 2010. с. 78-79.
63. А. Ліцкевіч. Да пытання пра рутэнізацыю балтаў ВКЛ у XIV – пачатку XV ст. // Arche. №11-12, 2009. с. 34.
64. А.И. Рогов. Русь и Польша в их культурном общении в XIV – начале XV в. // Польша и Русь. Москва, 1974. с. 277.
65. A. Różycka-Bryzek. Bizantyńsko-ruskie malowidła w kaplicy zamku lubelskiego. Warszawa, 1983. s. 165.
66. T. Narbutt. Pomniejsze pisma... s. 95.

67. W.A. Maciejowski. Pamiętniki o dziejach piśmiennictwa i prawa Słowian. T. I. w Peterzburgu i w Lipsku, 1839. s. 349; В.Ю. Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі. [рэпрынт. выд. 1910 г.]. Мн., 1993. с. 106.
68. А. Ліцкевіч. Некалькі заўваг пра мову Ягайлы і геаграфічныя асаблівасці Гарадзенскай зямлі ў 1379 г. // Arche, №1–2, 2010. с. 692-693.
69. В.Ю. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. с. 150.
70. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. I. СПб., 1863. №9.
71. А. Кузьмин. Титулованная знать Великого княжества Литовского в "Великой войне" 1409–1411 гг. против Тевтонского ордена // Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV стст. Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Мінск, 2011. с. 46-47.
72. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 12; В. Пануцэвіч. Польская мова ў XIV–XVIII стст. і каталіцкі касьцёл у Вялікім княстве Літоўскім. // Наша вера. 1998, № 2(5). с. 75.
73. J. Krzyżaniakowa, J. Ochmański. Władysław II Jagiełło... s. 267.
74. T. Narbutt. Pomniejsze pisma... s. 98-99.
75. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. I. Wilno, 1835. s. 387, 391, 393.
76. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 3, s. 438; M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. t. II. Warszawa, 1846. s. 78-79.
77. x. W. Staich. Chrzciciele Litwy (udział polskich Franciszkanów w nawracaniu ludu litewskiego). Wilno, 1935. s. 35.
78. KDKW, №6; Kościół zamkowy, Cz. II. s. 10.
79. В. Пануцэвіч. Польская мова... // Наша вера. 1999, №1(7). с. 91 *(каментары А. Жлуткі)*.
80. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 58.
81. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 3, s. 438-439.
82. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 56.
83. M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska... t. II, s. 78-79.
84. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 57-58.
85. там жа, s. 58.
86. И. Мейендорф. Византия и Московская Русь... с. 86.
87. А.Г. Берман. Проблемы генезиса русского мистического сектантства. // Учёные записки Межнационального гуманитарно-технического института Поволжья. – т. 7. – Чебоксары, 2004.
88. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. V, s. 411; Э. Гудавичус. История Литвы. Москва: Baltrus, 2005. с. 172.
89. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 58-60.
90. там жа, s. 46.
91. Y. Voigt. Geschichte Preußens. Bd. VI. Königsberg, 1834. S. 244.
92. A. Prochaska. Na soborze w Konstancyi. Kraków, 1897. s. 35; S. Kwiatkowski. Der Deutsche Orden im Streit mit Polen-Litauen. Köln, 2000. S. 11, 14-15.
93. T. Narbutt. Dzieje starożytne... T. I. s. 394.
94. И. Первольф. Славяне, их взаимные отношения и связи. т. III, ч. I. Варшава, 1890. с. 40.
95. А. Будилович. Не был ли православным человеком Иероним Пражский? // Христианское чтение. 1870, ч. I. с. 690-697.
96. T. Narbutt. Dzieje starożytne... t. I. s. 397-398.
97. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 3, s. 441; J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustroj i uposażenie. Poznań, 1972. s. 56-60.
98. J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie... s. 63; x. J. Kurczewski. Opowiadania... Cz. I. s. 11; x. J. Kurczewski. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. s. 22.
99. KDKW, №1, 6.
100. там жа, №17.
101. там жа, №19, 46.
102. там жа, №22.
103. там жа, №51.
104. там жа, №54.
105. там жа, №55.
106. там жа, №56.
107. там жа, №82.
108. там жа, №82a, p. 743; №86, p. 745.
109. там жа, №91.
110. там жа, №129.
111. там жа, №132.
112. там жа, №135.
113. там жа, №148.
114. там жа, №149.
115. там жа, №153.
116. там жа, №176.
117. там жа, №167.

118. там жа, №165.
119. там жа, №169.
120. там жа, №177.
121. там жа, №182.
122. там жа, №193.
123. там жа, №195.
124. там жа, №203.
125. там жа, №212.
126. там жа, №227.
127. там жа, №296, 297.
128. Грамоти XIV ст., №78.
129. А. Ліцкевіч. Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum głównego akt dawnych у Варшаве. // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. вып. 11. Мінск, 2009. №1.
130. KDKW, №246.
131. T. Narbutt. Pomniejsze pisma... s. 142-143.
132. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 3, s. 438-439. Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік. / С. Санько [і інш.]; склад. І. Клімковіч. – Мн., 2006. с. 191.
133. S.C. Rowell. Lithuania Ascending: a pagan empire within east-central Europe. Cambridge University Press, 1994. p. 135-137.
134. Э.М. Зайкоўскі/ Язычніцтва на землях Беларусі ў сярэднявеччы. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Вып. 12. Мн., 1997. с. 81.
135. KDKW, №40, 42; И. Козловский. Судьбы русского языка в Литве и на Жмуди. // Вестник Западной России. 1869, т. IV. кн. 11, отд. II, с. 57.
136. В.Ю. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. с. 170.
137. KDKW, №15.
138. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. / изд. П.Н. Батюшковым. СПб., 1890. с. 106.
139. KDKW, №25, 36.
140. S.C. Rowell, p. 277.
141. T. Narbutt. Pomniejsze pisma... s. 166-167.
142. x. W. Staich. Chrzciciele Litwy... s. 33-36, 47; x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 64-66.
143. Wł. Abraham. Polska a chrzest Litwy... s. 27.
144. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska. Cz. I. / oprac. x. J. Kurczewski. Wilno, 1908. s. 8.
145. A. Mączka (OFMConv.). Najstarsze klasztory franciszkańskie na Litwie (XV w.). // Pirmieji pranciškonų žingsniai Lietuvoje: XIII–XVII a. / sudarytojas D. Baronas. – Studia Franciscana Lithuanica. – Vilna, 2006. s. 86-87; І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII стст.). Магілёў, 2003. с. 35.
146. Е. Тураева-Церетели. Черты из церковной жизни Западной Руси XVI в. по Запискам минорита о. Иоанна Коморовского. // Новый сборник статей по славяноведению. СПб., 1905. с. 264, 267.
147. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 18-20.
148. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 50-52; А. Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Беласток, 2008. с. 90.
149. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 55.
150. Wł. Abraham. Polska a chrzest Litwy... s. 18-19.
151. KDKW, №33.
152. Wł. Abraham. Polska a chrzest Litwy... s. 26; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 27, 95.
153. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 152-161.
154. KDKW, №73; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 26, 94.
155. В. Пануцэвіч. Польская мова... // Наша вера. 1998, №2(5).
156. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 201.
157. I. Sawicki. Synody diecezji Wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948. s. 126; В. Пануцэвіч. Польская мова... // Наша вера. 1998, №3(6). с. 68, 71.
158. N. Borowska. Wpływy słowiańskie... s. 364.
159. I. Sawicki. Synody diecezji Wileńskiej... s. 130; В. Пануцэвіч. Польская мова... // Наша вера. 1998, №3(6). с. 68, 71.
160. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 32-33, 118-119.
161. x. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 316-318.
162. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. II. СПб., 1865. №71; KDKW, №204.
163. KDKW, №270.
164. там жа, №281.
165. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. II, №75; KDKW, №287.
166. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 42.
167. Wł. Abraham. Polska a chrzest Litwy... s. 23; J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie... s. 30-31.
168. J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie... s. 31-37.

169. S.C. Rowell. Pranciškonų (konventualų) ordino įsitvirtinimas Lietuvoje XV a.: Vilniaus pavyzdys. // Pirmieji pranciškonų žingsniai Lietuvoje... s. 47-53.
170. П.А. Котаў. Студэнты з ВКЛ у Пражскім універсітэце ў канцы XIV – пачатку XV ст. // Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV ст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі. Мінск, 2011. с. 188-192; J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie... s. 13-14.
171. А. Латышонак. Нацыянальнасьць – Беларус. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2009. с. 73.
172. х. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 136-186; J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie... s. 32-36; Р. Пятраўскас. Літоўская знаць у канцы XIV – XV ст. Склад – структура – улада. Смаленск, 2014. с. 282, 310; А. Латышонак, с. 76.
173. х. J. Fijałek. Uchrześcijanienie Litwy... s. 172-173.
174. KDKW, №209.
175. И. Козловский, т. IV, кн. 11, отд. II, с. 48.
176. Akty Horodelskie z 1413 roku. Kraków, 2013. s. 29; Помнікі права Беларусі XIV–XVI стст. Мінск, 2015. с. 27; W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413. // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia historica. t. III. Poznań, 1989. s. 14-139.
177. W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich... s. 21-23, 28, 32-33, 40, 42, 44, 56, 60, 62, 79, 88, 96, 99, 101, 103-104, 114, 117, 130-131 і інш.; Р. Пятраўскас. Літоўская знаць... с. 104, 224-225, 229, 241-242, 245, 252, 266, 304-306.
178. Т. Доўнар. Гарадзельская унія 1413 года і яе наступствы // Юстыцыя Беларусі. 2013, №8. с. 74.
179. А. Ліцкевіч. Да пытання пра рутэнізацыю балтаў... с. 47-48.
180. T. Narbutt. Pomniejsze pisma... s. 147.
181. Wł. Abraham. Polska a chrzest Litwy... s. 27.
182. Scriptores rerum Prussicarum. Bd. I. Leipzig, 1861. S. 601; Bd. III. Leipzig, 1866. S. 66; Preußisches Urkundenbuch. Bd. II, Lief. I. Königsberg, 1932. №528.
183. ПСРЛ, т. 35. с. 46; ПСРЛ, т. 10. Москва, 2000. с. 219.
184. Послания Гедимина. / подг. В.Т. Пашуто, И.В. Шталь. – Вильна, 1966. №18.
185. Акты, относящиеся к истории Западной России. т. I. СПб., 1846. №1.
186. ПСРЛ, т. 43. Москва, 2004. с. 123-124.
187. ПСРЛ, т. 35. с. 139; ПСРЛ, т. 11. Москва, 2000. с. 174.
188. J. Ochmański. Biskupstwo Wileńskie... s. 11.
189. И. Мейендорф. Византия и Московская Русь... с. 269, 292-293, 300, 302.
190. KDKW, №23; Kościół zamkowy, Cz. II. s. 23.
191. В. Пануцэвіч. Польская мова... // Наша вера. 1999, №1(7). с. 91; W. Staich, s. 46.
192. J. Jaroszewicz. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Cz. II. Wilno, 1844. s. 19; И.П. Боричевский, с. 40.
193. В.Н. Татищев. История Российская. Книга IV. СПб., 1784. с. 419-420; T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. VI. Wilno, 1839. s. 87; ПСРЛ, т. 11. с. 192; *прыр.:* Троицкая летопись. Реконструкция текста. Изд. М.Д. Присёлков. М.-Л., 1950. с. 459.
194. Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. – т. 3. с. 409.
195. ПСРЛ, т. 40. Санкт-Петербург, 2003. с. 133.
196. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I, №24.
197. Белоруссия и Литва, с. 112-113.
198. Белоруссия и Литва, с. 110; Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana. / przez M. Balińskiego i T. Lipińskiego. T. 3. Wielkie księstwo Litewskie. Warszawa, 1846. s. 287, 304-305.
199. Ю. Микульский. Литовский князь Витовт как православный ктитор (1392–1430 гг.) // Беларуская даўніна. вып. 2. Мінск, 2015. с. 33-34.
200. там жа, с. 35-37.
201. Литовские епархиальные ведомости. 1873, №33. с. 297.
202. В.Ю. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі... с. 151.
203. Прывілеі польска-літоўскіх манархаў з Евангелляў Лаўрышаўскага манастыра (XIV–XVI ст.) // Беларуская даўніна. вып. 1, 2014. с. 128.
204. Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковна, Трок. ч. II. Вильно, 1843. №51.
205. T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. V, s. 591; Skarbiec diplomatów, t. I. №688.
206. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 81, 100.
207. П. Урбан. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін “Літва”. // Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Кн. 3. Мюнхэн, 1964. с. 46-47.
208. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 2. Мн.: БелЭН, 2006. с. 779.
209. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I, №20.
210. М. Любавский. Литовско-Русский сейм. Москва, 1900. с. 327.
211. Українські грамоти. Т. 1. / укл. проф. В. Розов. Київ, 1928. №58.
212. Белоруссия и Литва, с. 110.
213. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I, №43.
214. там жа, №72.
215. там жа, №28.

216. там жа, №56.
217. ПСРЛ, т. 25. Москва, 2004. с. 234.
218. ПСРЛ, т. 32. с. 82.
219. І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі… с. 45; А. Ліцкевіч. Да пытання пра рутэнізацыю балтаў... с. 46.
220. І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі… с. 45.
221. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 1. Мн.: БелЭН, 2006. с. 496-497; Я. Юхо. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мінск, 1991. с. 37.
222. G. Kirkiene. Korzenie rodu Chodkiewiczów. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2002, №17. s. 55.
223. Привилей Новогрудской земле 1440 г. // Рукописные памятники: Публикации и исследования / сост. Г.П. Енин. Санкт-Петербург, 1997. Вып. 4. с. 221-225.
224. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 3. с. 427-428.
225. Акты исторические, собранные и изданные Археографическою коммиссиею. Т. I. СПб., 1841. №42.
226. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I, №166.
227. Этнаграфія беларусаў. Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. / рэд. кал. В.К. Бандарчык і інш. Мінск, 1985. с. 81; І.У. Чаквін. Формы этнічнага і нацыянальнага самавызначэння беларускага насельніцтва XIV–XVIII ст. (да праблемы станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў). // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Мінск, 3–5 лютага 1993 года. Ч. І. Мн., 1993. с. 48; И. Чаквин, П. Терешкович. Из истории становления национального самосознания белорусов (XIV – начало XX вв.). // Советская этнография. 1990, №6. с. 44; І.А. Марзалюк. Людзі даўняй Беларусі… с. 35.
228. Памятники древнерусского канонического права, прил., №15. стб. 94; Nicephori Gregorae Historiae Byzantinae. Vol. III. Bonnae, 1855. p. 517.
229. А.В. Карташев. Очерки по истории Русской церкви... с. 314.
230. І.У. Чаквін. Да пытання аб этнічнай самасвядомасці беларусаў у часы Скарыны. // Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў першых скарынаўскіх чытанняў (1986). Мінск, 1989. с. 47; J. Hardziejeŭ. W kwestii stratygrafii społecznej Grodna w pierwszej połowie XVI w. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2001, №16. s. 29.
231. І.У. Чаквін. Формы этнічнага і нацыянальнага самавызначэння… с. 48.
232. А. Ліцкевіч. Да пытання пра рутэнізацыю балтаў... с. 34.
233. І.У. Чаквін. Формы этнічнага і нацыянальнага самавызначэння… с. 46.
234. ПСРЛ, т. 32. с. 149.
235. там жа, с. 141.
236. ПСРЛ, т. 32. с. 77-78.
237. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 2. с. 355; W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich… s. 48-57.
238. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 2. с. 174.
239. В.Л. Насевіч. Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12–18 стагоддзяў. – Мн.: БелЭн, 1993. с. 33.
240. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 2. с. 536-537; W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich... s. 114-116.
241. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 2. с. 557; W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich... s. 46.
242. G. Kirkiene. Korzenie rodu Chodkiewiczów… s. 53-55.
243. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. №204, с. 353.
244. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. – т. 1. с. 660; И. Малиновский. Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой Древней России. ч. II. Рада Великого Княжества Литовского. вып. I. Томск, 1904. с. 44.
245. В.Л. Насевіч. Генеалагічныя табліцы... с. 45; W. Semkowicz. O litewskich rodach bojarskich... s. 24; L. Korczak. Litewska rada... s. 80-81, 84-86, 101-102; Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. / ułożył i wydał Adam Boniecki. Warszawa, 1883. s. 365.
246. Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. СПб., 1848. №118.
247. Русско-ливонские акты. / собр. К.Е. Напьерским. – Санкт-Петербург, 1868. №231.
248. П. Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў. Мюнхэн, Нью-Ёрк. БІНІМ, 1972. с. 51.
249. KDKW, №135; Литовская метрика. Отдел первый. Ч. I: Книги записей. Т. I. СПб., 1910. №1.
250. И. Малиновский. Рада Великого Княжества Литовского... с. 98.
251. М.К. Любавский. Литовско-русский сейм, с. 327.
252. Акты исторические, собранные и изданные Археографическою коммиссиею. Т. 1. СПб., 1841. №42.
253. ПСРЛ, т. 32. с. 161.
254. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. №38, 39.
255. там жа, №73.
256. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. II. СПб., 1848. №30, с. 34.
257. И. Малиновский. Рада Великого Княжества Литовского... с. 42.

258. Архив Юго-Западной России. ч. 1, т. 7. Киев, 1887. с. 199-200.
259. П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 15; С. Дубавец, Г. Сагановіч. Старажытная Літва і сучасная Летува. // З гісторыяй на "Вы". вып. 2. Мн., 1994. с. 233-234.
260. И. Чаквин, П. Терешкович. Из истории становления... с. 44.
261. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Мінск: "Беларуская навука", 2003.
262. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. / przekład K. Mecherzyńskiego. T. 5. Kraków, 1870. s. 126-127; T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. VIII. Wilno, 1839. s. 126.
263. J. Długosz. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. 5, s. 211; T. Narbutt. Dzieje starożytne... T. VIII. s. 143.
264. M. Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska... t. II, s. 293-294.
265. Akta unji Polski z Litwą, №71, 76.
266. там жа, №149, s. 355-357.
267. Дневник Люблинского сейма 1569 года / пер. и подг. М.О. Кояловичем. СПб., 1869. с. 79-81.
268. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. №103.
269. Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. Cracoviae, 1882. №861; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 22-25.
270. Сигизмунд Герберштейн. Записки о Московии. Москва: МГУ, 1988. с. 195.
271. ПСРЛ, т. 2. СПб., 1908. стб. 735-736; В.Т. Пашуто. О возникновении Литовского государства. // Известия Академии наук СССР, серия истории и философии. 1952 г., т. IX, №1. с. 44; Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem. t. I. Varsaviae, 1930. №693, 848.
272. Акты, относящиеся к истории Западной России. т. III. СПб., 1848. №13.II.12, с. 62; П. Урбан. Старажытныя ліцьвіны... с. 87-88.
273. І. Чаквін. Этнаграфія беларусаў эпохі Скарыны: сямейны і грамадскі побыт, матэрыяльная і духоўная культура. // Скарына і яго эпоха. Мінск, 1990. с. 72-73; И. Чаквин, П. Терешкович. Из истории становления... с. 44; І.У. Чаквін. Формы этнічнага і нацыянальнага самавызначэння...; А.С. Котлярчук. Самосознание белорусов в литературных памятниках XVI–XVIII в. // Русь – Литва – Беларусь. Проблемы национального самосознания в историографии и культурологии. Москва, 1997. с. 86-89; Я. Станкевіч. Язык і языкаведа. Вільня, 2007. с. 853-854, 866; Я. Станкевіч. Час узьнікненьня беларускай і ўкраінскай нацыяў. // За родную мову й праўдзівы назоў. Смаленск, 2013. с. 101-102; В. Тумаш. Выбраныя працы. Мінск, 2002. с. 116-118; А. Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага, с. 114; Н. Янчук. По Минской губернии: заметки из поездки в 1886 г. Москва, 1889. с. 25-26; Ф. Климчук. Восточнославянский этноним "литвины" // Международная конференция балтистов 9–12 октября 1985 г. Тезисы докладов. Вильна, 1985; С. Дубавец, Г. Сагановіч. Старажытная Літва і сучасная Летува...
274. Акты, издаваемые Виленскою археографическою коммиссиею. т. 26. – Акты Упитского гродского суда. Вильна, 1899. с. XXIX.
275. П. Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў, с. 64-69.
276. Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Zbiór pomników Reformacji kościoła polskiego i litewskiego. Zabytki z wieku XVIgo. Wilno, 1925. s. 24, 27.
277. Е.Ф. Карский. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. Москва, 1962. с. 268, прим. 2; А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков, выполненные украинско-белорусскими книжниками (XV – начало XVI в.) // Б.Н. Флоря. Исследования по истории Церкви. Древнерусское и славянское средневековье. Москва, 2007. с. 471-472.
278. Domowe wiadomosci o Wielkim Xięstwie Litewskim z przyłączeniem historyj tegoż narodu. W Wilnie, 1763. s. 27.
279. А. Соболевский. Старшие переводы русских католиков. // Сборник отделения русского языка и словесности. т. 88, кн. 3, 1910. с. 199-202; А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков... с. 472.
280. А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков... с. 471; А. Соболевский. Старшие переводы русских католиков... с. 197-198; П.В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. СПб., 1888. с. 238-239.
281. А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков... с. 471.
282. Р.П. Дмитриева. Русский перевод XVI в. польского сочинения XV в. «Разговор магистра Поликарпа со смертью». // Труды отдела древнерусской литературы. т. 19, 1963; Jan Janów. "Polikarp" na Rusi. // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. t. 3. Warszawa, 1958; А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков... с. 471.
283. А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков... с. 470.
284. В.Ю. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі... с. 493; Е.Ф. Карский. Труды по белорусскому и другим славянским языкам, с. 219.
285. Jan Janów. "Polikarp" na Rusi... s. 193.
286. А.А. Турилов. Переводы с латинского и западнославянских языков... с. 472-473.
287. З. Сасноўскі. Гісторыя беларускіх музычных уплываў. Мінск, 2009. с. 29-33; З. Сасноўскі. Музычная культура рыцарскага саслоўя Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Мінск, 2010. с. 33-37, 41-42; З. Сасноўскі. Гісторыя беларускай музычнай культуры (ад

старажытнасці да канца XVIII ст.). Мінск, 2010. с. 323-342; *прыр.:* История Польши. / в 3 тт. – т. I. – Москва: Изд-во АН СССР, 1954. с. 91.
288. Н.П. Дашкевич. Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885. с. 108; А. Соболевский. Старшие переводы русских католиков... с. 193.
289. Г. Киприанович. Исторический очерк православия, католичества и унии... с. 48.
290. Ю. Мікульскі. Беларускія граматы 1460–1544 гг. са сховішчаў Вільні і Варшавы // Беларуская даўніна. вып. 3. Мінск, 2016. с. 176-177.
291. А.А. Турилов. “Правило и наказание о душегубстве” и послание митрополита Ионы Глезны вяземскому попу Давиду // От Древней Руси к России Нового времени. – сб. статей. Москва, 2003. с. 106-107.
292. Акты, издаваемые Виленскою археографическою коммиссиею. т. XXXIII. Акты, относящиеся к истории Западно-Русской церкви. Вильна, 1908. №1.
293. Акты, издаваемые Виленскою археографическою коммиссиею. т. II. Акты Брестского земского суда. Вильна, 1867. №1.
294. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северно-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. т. 6. Вильна, 1869. №1.
295. А.И. Кирпичников. Успение Богородицы в легенде и в искусстве. // Труды VI археологического съезда в Одессе (1884 г.). т. II. Одесса, 1888. с. 236-243.
296. Bibliografia polska XV – XVI stólecia / K. Estreicher. Kraków, 1875. s. 21.

# Помнікі сярэднявечнае літоўскае (беларускае) евангеліцкае літаратуры

Ніжэй пададзены некаторыя творы сярэднявечнае літоўскае (беларускае) рэлігійнае і калярэлігійнае літаратуры, якія выяўляюць евангеліцкія (богумільскія і калябогумільскія) матывы нашае літаратурнае традыцыі сярэднявечча. Багата адметна евангеліцкіх матываў захаваў наш фальклёр, які ўсправіўся ў ладнай меры на грунце пашыраных у нас у сярэднявеччы богумільскіх апокрыфаў і каляапакрыфічных твораў, некаторыя з якіх (праўда, у позніх спісах) мы падаем урыўкамі. Часткова з апакрыфічнай традыцыяй зніταваны і творы нашае літаратуры 15 стагоддзя – кампіляцыя "*О умученьи Пана нашего Есус Крыста*" і перакладныя творы з чэскіх (гусіцкіх) крыніц, такія як "*Люцыдар*".

Падаем творы ў адаптаваным правапісе.

## 1. Богумільскія апокрыфы.

У сярэднявеччы апокрыфы (падрабязныя апавяданні аб падзеях Святое гісторыі) у хрысціянскай традыцыі былі вельмі пашыранымі. Богумільскія апакрыфічныя матывы глыбока ўкаранёны ў старажытную літаратуру і фальклёр многіх славянскіх народаў, у тым ліку літвінаў-беларусаў. Як і ў народаў, сярод якіх шырока існавала богумільства – баўгараў, баснякоў, чэхаў – галоўныя касмаганічныя і метафізічныя матывы нашага фальклёру ёсць выразліва богумільскімі [1]. Аб пашыранасці богумільскіх апокрыфаў у Літве сведчыў мітрапаліт Кіпрыян (мітрапаліт Літоўскі ў 1375–1381 гг., потым мітрапаліт Маскоўскі): ён пісаў, што сярод простага люду пашыраны апакрыфічныя апавяданні, такія як сказанні аб Адаме, аб дрэве крэста, пытанні Івана Багаслова [2].

Гнастычна-богумільскімі з паходжання ёсць пашыраныя апокрыфы аб спадзе ангелаў, якія тлумачаць стварэнне зямнога свету бунтам аднаго з ангельскіх начальнікаў – Люцыпара – і спаданнем спакушаных ім ангелаў. Вядомы ў нашай літаратуры апокрыф на гэтую тэму [3] амаль цалкам супадае з пачаткам баснійскага богумільскага апокрыфу “Почетие света” [4]. Ён распавядае, як ангельскі начальнік Люцыпар (або Сатанаіл) задумаў быць падобным Богу: “поднесло сердце его у большую пыху и гордость”, і ён памысліў: “сяду на облакох небесных ко северу и буду подобен небесному и буду яко Бог”. Тады “Бог небесный затряс небом и ударыв громом великим” і “полетев Люцыфер из неба зо всим полком своим во преисподнюю”, “скрозь землю летел Сотонаил до преисподней, за свою гордость и пыху стал дьяволом и слуги его”.

Іншы варыянт [5] падае падобнае апавяданне: Бог “сотворыл девять чынов на хвалу свою, а десятый чын огненный”, “Сатанаил был слуга божый першый и найстаршый был воевода”. Калі “Сатанаил помыслил: аз поставлю престол себе на горах высоких на воздусе под небом и буду подобен Богу вышнему”, “тогда Бог творец розгневался на Сатанаила”, “в той час злякал ся Сатанаил, стал темен и упал з небес зо всим хором своим”.

Выразныя паралелі да сюжэтаў гэтых апокрыфаў мае касмаганічнае апавяданне “Палеі” – разлеглага хрысціянскага каментара да Старога Запавету. Руская “Палея Толковая” была створана ў 11 або 12 стагоддзі, імаверна, на Полаччыне або Смаленшчыне. Апавяданне Палеі аб спадзе ангелаў да дробязей супадае з вышменаванымі апокрыфамі і іншымі богумільскімі касмаганічнымі творамі [6]. Гэтыя матывы таксама шырока вядомы ў нашым фальклёру [7].

Богумільскім з паходжання ёсць пашыраны сярод усіх славянскіх народаў апокрыф аб Адамавым запісе або дамове Адама з д’яблам. Паводле старэйшага варыянту, д’ябал узяў з Адама запіс за права араць зямлю. Адам пагадзіўся, мовіўшы “чыя зямля – таго і я”, і падчас уцелаўлення Хрыста і зямля, і род людскі былі адкуплены ад улады д’ябла, бо Хрыстос адняў ад д’ябла ўладу над зямлёю. Паводле іншага варыянту Адам даў д’яблу запіс на свой род за тое, што д’ябал пазбавіў Адамава сына Каіна ад пачварных змяіных галоў. Д’ябал “тоты записы залял их у оловяную скрыню и рад был барзо тому, иж то мает собе людей до своего царства” і “прышовшы там на реку Ердан меже тесные горы до единой глубины, до виру барзо глубокого, где был камень барзо великий, там у той глубине под тот камень спрятав”. Падчас хросту ў Ярдане “почал Хрыстос Сын Божый купати огень божества у воде, и спалив там головы змиевы, а тоты записы дьявольские з водою ся ростекли и погинули вечне” [8].

“*Слово о древе крестном*” было вялікай апакрыфічнай кампіляцыяй, якая распавядала аб гісторыі дрэва, на якім распялі Хрыста. Яе аўтарам лічыўся баўгарскі прэзбітар Ерамія (меркаваны пачынальнік богумільскага руху ў Баўгарыі ў 10 стагоддзі) [9]. “Слово” было пашырана ў Літве, як цалкам, так і ў апрычоных аповесцях з яго [10]. У 16 стагоддзі апокрыфы прэзбітара Ераміі былі ў шырокім абегу ў Літве: князь Курбскі каля 1564 г. пісаў, што літоўскія евангелікі для абароны сваёй веры ўжывалі апокрыфы папа Ераміі ў надпісанні святых айцоў царквы [11].



Архангел Міхайла перамагае спалых ангелаў: Люцыпар у пекле
(мініятура з смаленскага ірмалоя 17 ст.)

Пашыранымі ў богумільскай літаратуры былі апокрыфы на тэму змагання Хрыста з д'яблам, перамогі Сына Божага над князем свету гэтага. У апокрыфах д'ябал асабіста процістаіць Хрысту і імкнецца справіць забойства Сына Божага [12]:

> <...> Дъявол збоял ся вельми, пошол борзо до Жыдов вооружыти их на Господа. Там пребывал злый враг не отходячы от Жыдов, наущав их на Хрыста, абы то Хрыста забили. А того окаянный дъявол не знает, иж то Хрыстова смерть жывот есть всему миру и воскресенье; кобы Хрыстос был не умер, то бы людей с пекла не вывел.

Д'ябал спакушаў і апосталаў [13]:

> Коли Жыдове хотели Хрыста имати и убити <...>, и выслухал то проклятый дьявол, и пошол из великим пищаньем межы апостолы. И прышол найперво ик верховному апостолу Петру и глядал на нем, ци не продал бы Хрыста? Але на Петре того не найшол. И к каждому апостолови так же прыходив, але видив их огороженых страхом божым, и не мог ни в едином гнездо свое увити, ани злое насеня у их сердце усеяти.
>
> А коли прышов ик Юде, изпознал у нем фальч. <...> Про то, чом был лакомый и был пьяница <...>. То ему дьявол у его сердцы гнездо увил и до того его прывел, що Хрыста пана своего продал.

Пашыраным у сярэднявеччы быў апокрыф аб спіранні Хрыста з д’яблам падчас спакусы ў пустэльні, які быў запісаны ў 12 або 13 стагоддзі на Балканах у богумільскім асяроддзі [14]. Варыянт гэтага апокрыфу ў змяшанай царкоўнаславянска-беларускай мове пад назовам “*Слово о победе дьявола, како беседоваху Исус Христос со дьяволом на горе*” вядомы паводле спісу 16–17 ст. [15]. Гэты апокрыф апавядае, як Хрыстос і апосталы распачалі пост “в оный час, гды пришол Господь наш Исус Христос на гору Елеонскую”. Д’ябал паспяшаўся ім пераказіць, “учувши тое дьявол, иж Исус Христос хощет пост приняти”. Д’ябал імкнецца захаваць уладу над зямлёю, мовячы Хрысту: “Иди на небеса и седи на престоле своем, бо твоя суть небеса, а моя есть земля”. Хрыстос адказуе: “Я для тебе прийшол на землю и для аггелов твоих, иж хощу их и тебе погубити и сожещи вечным огнем”. Д’ябал тлумачыць сваім служкам, што Хрыстос ёсць ягоным ворагам, “бо гды я хотев собе престол будовати и равен ему быти, тогды он мене зопхнул з высокости небесной, що я его не слухал, и слуги мои”. Але “в той час повеле Исус Христос облаком ухватити дьявола и обесити его стремглав под облаками”. Д’ябал моліць аб міласці, абяцаючы Хрысту: “Если кто будет от человек верити в тебе, не буду прельщати их до конца, але все людие обратят ся к тебе”. На замкненне апокрыф апавядае, як, сыйшоўшы ў пекла, Хрыстос “поймал дьявола и звязал моцно ужом зелезным, которого нихто не может розвязати до суднаго дня”.

Спушчэнне Хрыста ў пекла і перамога над д’яблам падрабязна выпісаны ў апакрыфічнай Евангеліі ад Нікадыма (літоўскую пераробку Нікадымавае Евангеліі гл. у раздзеле 3). Апакрыфічная традыцыя злучае спушчэнне Хрыста ў пекла з знішчэннем Адамава рукапісання і вызваленнем роду людскога [16]:

> А потом Христос дал ся на муку за нас грешных и пойшовшы до пекла, пекло поламал, ланцы пекельные порвал, дьяволов розпорошыл и записы погубил, и Адама и весь народ людский, который сидел полшести тысяче лет, тых вызволил и до раю розкошного из неволь дъявольских прывел.

Прыклады многіх апокрыфаў, якія нярэдка пашыраліся ў складзе афіцыйных зборнікаў [17], сведчаць аб тым, што апакрыфічная (калябогумільская) літаратурная традыцыя існавала ў Літве доўгі час пасля Крэўскае уніі. Гнастычна-богумільскія матывы аб стварэнні Адама, аб жаночым семені выкладаў у сваіх творах Сымон Будны [18]. Богумільскімі з паходжання лічыліся таксама замовы і апокрыфы аб “трасцах” і “нежыцях” [19], аб пашыранасці якіх у кнігах вясковых папоў сведчыў яшчэ мітрапаліт Кіпрыян (1375–1381 гг.) [20]. Малітвы і замовы проці трасцаў, нежыцяў ды падобныя існавалі ў літоўскіх уніяцкіх трэбніках яшчэ ў 17–18 стагоддзях [21].

## 2. “Разумнік” (“Люцыдар”) (14–15 ст.).

“***Разумнікам***” у сярэднявечных славянскіх літаратурах называлася сціслая багаслоўска-філасофская энцыклапедыя – зборнік пытанняў і адказаў на галоўныя рэлігійна-філасофскія тэмы, прыпісаны тром святым: Васілю Вялікаму, Грыгору Багаслову і Івану Златавустаму. Розныя варыянты зборніка гэтага тыпу называліся “Беседа трёх святителей”, “Пытанья и отповеди”, “Вопросы при посеженью”, “Протолкованье”, “Указ Господа нашего”, “Вопросы о смысле разума” і інакш. Гэты зборнік існаваў у чысленых разнастайных варыянтах ды быў адным з найбольш папулярных твораў апакрыфічнае літаратуры. Разнастайны матэрыял з Святога Пісьма, Палеі, апокрыфаў даваў адказы на пытанні аб стварэнні свету і чалавека, ратавальнай справе Богачалавека, гісторыі хрысціянства, адгадкі на дасціпныя загадкі. Зборнік такога тыпу ўпершыню быў створаны ў раннім сярэднявеччы ў Бізантыі, пазнейшыя падобныя заходнееўрапейскія зборнікі паўсталі пад грэцкім уплывам [22]. У Заходняй Еўропе яны называліся “Ioca monachorum” (“Гульні манахаў”), а ў пачатку 12 стагоддзя Ганорый Аўгустадунскі ўклаў вялікую энцыклапедыю такога роду пад назовам “Elucidarius” (“Светач” – у славянскіх літаратурах яе пераклад быў вядомы як “Люцыдар”) [23].

Калі на хрысціянскім Захадзе “Люцыдару” была наканавана вялікая папулярнасць і адметная роля ў пашырэнні скрайніх аўгустынісцкіх поглядаў, то на Русі лёс “Разумніка” быў загадкавым. Спачатна “Разумнік”, несумнеўна, належаў да дазволеных кніг. Але недзе ў 13 стагоддзі “Разумнік” быў залічаны да забароненых кніг, прынамсі, у паўночна-ўсходняй Русі [24]. У некаторых індэксах “Разумнік” быў прыпісаны баўгарскаму папу Ераміі, як і іншыя богумільскія апокрыфы. “Разумнік” сапраўды змяшчаў старажытныя гнастычна-богумільскія матывы: аб спаданні ангелаў з неба, аб дуалізме духу і плоці, аб поўным выкананні жыдоўскага закону Хрыстом. У такіх умовах “Разумнік” пачалі разглядаць як пераважна богумільскі твор [25]. Дарма што, “Разумнік” па-ранейшаму быў вельмі папулярны. Ад 15 стагоддзя існаванне традыцыі “Разумніка” ў Літве знітавана з перакладам з чэскае і нямецкае моў заходнееўрапейскага “Люцыдара”, які ў 15–17 стагоддзях часткова злучыўся з ранейшаю традыцыяй “Разумніка” на ўсходнеславянскіх землях.



Кніжнікі
(мініятура з Радзівілаўскага летапісу, 15 ст.)

Падамо некаторыя ўрыўкі з розных рэдакцый “Разумніка” паводле спісаў 16–18 стагоддзяў [26]. “Разумнік” дае адказы на пытанні па многіх тэмах: ад стварэння свету і чалавека да тлумачэння дробязей царкоўнага побыту і кароткіх прыповесцей на розныя тэмы.

## Пытанья и Отповеди

- Что первое было?
- Слово первое было.

- Слово что есть?
- Бог был слово.

- Когда Люцифер с неба спал?
- Свет создан в понеделок, Сатанаил спаде во второк.

- Кто первее Бога Богом назвал?
- Сатанаил рекл “Ты еси Бог Богом”, егда с небес зверженный был.

- Колько Адам лежал мертв, гды его Господ злепил з глины?
- 30 лет лежал.

- Кто сядет вышше Господа на престоле?
- Адам, егда ему дал Бог душу.

- Кто ест вышшый неба и ширшый?
- Вышша в Христа Предитечева рука, егда крестил Христа, а ширша неба утроба Пречистой Богородицы.

- Кая два супостата борета ся?
- Тело с душею: душа на спасение, а тело на мирския похоти.



Князь наведвае царкву
(мініятура з Радзівілаўскага летапісу, 15 ст.)

Падзеі Святое гісторыі “Разумнік” тлумачыць у евангельскіх вобразах:

- Жена некая имея 10 драхм и погуби едину от них, въжегше светилник обрете ю.
- Жена ест церковь, а светилник крест, а драхм 10 ест 10 чинов аггелских, а едина от них погибшая ест Адам; воста бо Христос и обрете Адама.

- Человек некий сохождаше от Иерусалима во Иерихон и во разбойники вопаде.
- Человек ест Адам, а Иерусалим рай, а разбойники диавол, а язвы грехи, а иерей Мойсей, а Левит Иван, а Самарянин Христос, а гостиница церковь, а гостинник Павел, а последний контракт пришествие Христово, а масло милостыня, а вино кровь Христова.

- Посла Господь два ученика своя глаголюще: “Идете во преднюю весь, и обрящете осла привязана и жребя с ним”.
- Весь ест мир, а осля Жидове, а жребя с ним хрестиане, а привязанье закон, а отрешивший Христос.

Старажытнае паходжанне “Разумніка” відаць у некаторых пытаннях, у якіх адлюстравана вельмі старажытная абраднасць, напрыклад, у наступным пытанні аб звычаі хрысціць (або пасвячаць на біскупства) рукою першага біскупа вобласці (гэты звычай узыходзіў да першых часоў хрысціянства і выходзіў з ужытку ўжо ў сярэднявеччы):

– Кто мертвый живаго крещает?
– Рука мертва душу живу крещает.

“Разумнік” нярэдка змяшчае досыць хітрыя загадкі, часам з крыху гумарыстычным адценнем:

– Который святый без души?
– Святый крест.

– Который святый з двома озадками?
– Святый стан малженский.

Ацалелы літоўскі асобнік “Разумніка” 16 стагоддзя пад назовам “*Початок вопросом о смыслу разума*” быў перапісаны ў віленскім Святадухаўскім манастыру [27]. Гэты зборнік змяшчае такія ж пытанні, як у іншых “Разумніках”:

– Хто первей нарече Бога на земли ис початку света?
– Сотона, коли изврънжен с неба; той нарече Бога на земли.

– Как пред Адамом Сотона скинюн с неба?
– Четырма днема пред Адамовым сътвореньем.

– Што ся разумеет высота небесная а широта земная и глубина морская?
– Высота небесная – Отец, а широта земная – Сын, а морская глубина – Дух Святый то есть.

– Кому напрьвей Бог послал на землю грамоту с небеса?
– Сифу, сыну Адамову.

– А што написано в ней?
– Десять слов Божьих, а тыи слова написано: “Сконе бе Слово, Слово было от Бога и Бог бысть Слово…”

* * *

“***Люцыдар***” трапіў у Літву праз сувязі з гусітамі: ён быў перакладзены з чэскае мовы ў 15 стагоддзі (вядомы ў зборніку 1481 г.) [28]. Нашыя перакладнікі, як і чэскія, дадавалі або змешвалі з тэкстам “Люцыдара” элементы “Разумніка” ды апокрыфаў кола “Слова аб дрэве крэста”, такім чынам працягваючы праз новыя пераклады старую апакрыфічную традыцыю [29]. Выразна гнастычна-богумільскія рысы мае апавяданне “Люцыдара” аб стварэнні свету [30]:

## Люцыдар ознаймуючый о речах сотворенных на небеси и на земли

Ученик: Що напервей Бог сотворыл?

Майстер: Небо, а потом землю, ангела и иная вся, а на остаток чоловека.

Учень: Як первого ангела звано?

Майстер: Люцыфер, того Бог красного сотворыл, а он распышал ся вельми пыхою, помыслив Богу ся ровнати, и для того зверженъ ест з неба аж до горячого пекла под землею, а был тылько пол години в небе.

Учень: Для чого его сотворыл Бог, поневаж его скинул с неба?

Майстер: Про то, абы выбраныи аггелове божыи были потвержены его упадком, бо гды Люцыфер спал з неба, тогда аггелове были моцю божьею потвержены, же юж дале з ласки божей выпасти не могут.

Ученик: Як пекло сотворено?

Майстер: В тую годину, як Люцыфер помыслил Богу ровнати ся, тогда ест пекло сотворено чудом божьим.

Ученик: Яково ест пекло?

Майстер: Пекло ест яма на сем свете, а над нею мгла точыт ся, же жаден жывый дойти там не может.

Учень: Чы мает дно пекло?

Майстер: Пекло зверху узко, а з исподу шыроко, которое шыроты нихто не может дойти окром единого Бога, а так ест глубоко, же многие душы завжды летят, а николи дна не долетают.

“Люцыдар” распавядае аб замагільным жыцці [31]:

Учень: Юж есми поведил як кождая реч мает початок. Повеж ми як еще конец будет.

Майстер: Люди суть с уставиченства, прото нигды не возмуть конца, душы пойдут ко Богу отколь прышли. А тела обернутся в землю, в день судны, засъ навернутся душы до своих тел, през божье повеленье, яко Иоан Богослов пишет в зачале 16: Егда мертвыи услышат глас Сына Божья, и услышавшы ожывут. А иншы изыдут сотворше благая, во воскресенье жывота, а сотворшы злая во воскресенье суда. Тот дух, що в быдлята, ни з уставичной речы есть, про тое дух ис телом умрет, так добуток мусит узяти тяжкую смерть нижли чоловек.

Учень: Як будет чоловечая реч, час то есть судны день.

Майстер: Так есть, хто як у Бога заслужыт собе. Бо нам Письмо сведчыт и ознаймует и поведает, иж кажды чоловек мает своего Аггела, и злого духа, которые его стерегут душы, гды ж чоловек умрет, тогды аггел пред ним зберет вси товарышы свои, и отженет диявола от душы праведной а душу понесут в рай.

Учень: Хто мучыт тыи душы, которыи выкуплены и спасены мают быти.

Майстер: Тое чынят дияволы.

Учень: Як грешную душу мучат?

Майстер: Гды грешная душа изыйдет с того света, тогды диявол прыйде з великою грозьбою ко ней, а вжды аггел пры ней, поки осуждена будет в оболоках. А гды осуждена до пекла, тогда аггел ей оставить з великою жалостью, а тая душа зтомнена будет пред Богом. А Письмо нам так поведает, поки есть душа во муках, тогды тыи святыи которым она служыла на сем свете, тыи оной душы стокроть потешенье от Бога прыносят. Гды она в горачости будет, то они ей прыносят охолоду, а гды она в темности то светлость ей прыносят. А за тое ей тыи святыи тое чынят, то есть за ей службы, що тая душа бывшы в тели на сем свете оным служыла.

* * *

### 3. “О умученьи Пана нашего Есус Крыста” (сярэдзіна 15 ст.).

*Бо Хрыстос устал и мы устанемы,*
*он устал моцею а мы устанемы во имя его,*
*как молвит Евангелия Никодемова.*

Кампіляцыя “***О умученьи Пана нашего Есус Крыста***” ёсць выбітным помнікам літоўскае літаратуры 15 стагоддзя, які выяўляе засваенне старажытных апакрыфічных матываў у літаратуры літоўскага касцёла. Кампіляцыя ёсць пераробкаю заходнееўрапейскіх “пасій” – разлеглых апавяданняў аб пакутах і з мёртвых устанні Хрыста – з улучэннем у яе знакамітае Нікадымавае Евангеліі (апокрыфе аб спушчэнні Хрыста ў пекла), папулярнае сярод богумілаў і францысканаў-спірытуалаў.

Кампіляцыя была створана ў сярэдзіне 15 стагоддзя (да 1460-х гадоў) [32]. Характар твору і матывы, запазычаныя з “Залатое легенды” Якуба Варагінскага [33], кажуць аб імавернасці яго складання ў асяроддзі віленскае капітулы (вядома, што да 1399 г. кусташ віленскі Мартын атрымаў ад караля Валадыслава-Ягайлы асобнік “Залатое легенды” для бібліятэкі віленскае капітулы [34]).

Далучаныя рэдактарам апакрыфічныя ўрыўкі дый сам факт паўстання такога разлеглага твору ў народнай мове (аналагаў чаму чыста няма, напрыклад, у тагачаснай Польшчы) сведчаць аб тым, што культурная спадчына дакрэўскае Літвы працягвала існаваць і развівалася на былой народнай аснове ў літоўскім касцёле.

Мова твору – выдатная кніжная беларуская мова 15 стагоддзя з невялікімі ўкрапінамі царкоўнаславянізмаў. Аўтар нават улучаў у твор простамоўныя выразы (“*тамока* вечерял”, “был еси *усеньким усегды* милостив”, “*матухна*”). Гэта сведчыць аб мясцовым паходжанні аўтара. Пашыраная рэдакцыя “пасій”, створаная гэтым літоўскім кніжнікам, была адным з першых перакладаў ладнае часткі зместу Новага Запавету на народную мову.

Падаем твор урыўкамі [35].

##  умученьи Пана нашего Есус Крыста

Мука Господа нашого Исуса Хрыста от преворотных жыдов таким обычаем сталасе есть.
Коли ж немилостивые а окрутные жыдова гадали о смерти Господа, како бы его льстиве зымали да убили, але коли были вельми таемное рады, Июдаш убачыл тое да на тых мест прытекл до них, смеле без всякое боязни и рекл: "Я ведаю горазд, што вы чыните а которые суть рады вашы. О Исусе говорыте а радите как бы могли есте зымати и убити его. Про то ж, што ми хочете дати, я без всякое працы вашее выдам Его в руки ваше".

Тогды попы жыдовские и книжницы услышавшы тую реч од Юдаша радовалисе вельми и уставили ему дати трыдцать пенязей сребреных. И рекл Юдаш: "Хочу од вас вельми рад прыняти". И ждал там докуль пенязи прынесены.

Которые то пенязи колько тысячей лет у скарбех их лежали замкнутые, заню ж тые от братов Езопа черес отцев старого закону, исходяче от одного до другого, дивно неразлучоны прешли до Соломона, коли церковь божью будовал. Да черес того ж Соломона у скарб были уложоны и схованы так долго аж до преклятого Июды прышли, коли милостивого Бога за них продал. А тако за которые пенязи продан Хрыстос был.

* * *

Да выправившы оных двух учьнов до Ерусолима, возвавшы свою милостивую Матку ись семидесятью учеников меншыми, прыказал им, штобы не шли до Ерусалима, але штобы у Ветании, альбо у Вифии пожывали баранка великоденного.

И прыступила к нему Марыя Макделена, молячысе ему пильне, рекучы:

– Боже найласкавшый, любо буди святости твоей, штобы тут с нами у Бетании баранка великоденного пожывал. Заню ж держу уставичне послы, которые прыходять ись Ерузалема, поведаючы мне, иже жыдове мыслять забити тебе, да тут с нами лепшей премешкаеш.

И отповедел милостивый Бог, рекл ей:

– В Ерузалеме мушу я быти. Да тамо вечеря и с ученики своими чынити. Да старого закону доконати, а новый уставити. Заню ж на то народлъсе есми, а на то на свет прышол есми, што бых волю Отца моего учынил. Да Отец мой того хочеть, штобы черес смерть Сына, тые которые верыти будуть вечный жывот бы осегнули и удержали.

Коли тое смутливая Матка его Марья услышала, вельми се злякнула, а с прегоркими слезами прыступившы до Сына своего одвела его от всего люду. И почала окрутне и горко плакати. Так иже изь ее тяжкого матерынского плаканья, ку сильное смутливости милостивый Бог был ся порушыл. Да доконавшы того плачу, воротившыся сама к собе милостивая панна Марья, рекла ку Сыну своему:

– Сыну наймилейшый мой! Возры на тую зраненую душу мою аж до смерти! Возры на мое роскрываденое сердце и мое прегоркие слезы! Возры, Сыну мой наймилейшый, как мое нужное тело, сердце и душа моя дрыжыт во мне пред обличьем твоим. Для преокрутного смутку и трухливости смилуйсе наде мною а выслухай последнее просьбы моее. Не ходи до Ерусолима, але еж тут с нами баранка великоденного.

Тогды милостивый Бог Матухне своей пресмутным сердцем отповедал:

– О, наймилейша Матухно, как жо бы се наполнили письма, которые суть о мне писаны.

И она опять рекла:

– О, Сыну мой наймилейшый, коли ужо до Ерузалемъ пойти хочеш на смерть, учынь так, бых я перво умерла. Штобы око мое твоее прегоркое смерти не видило. Заню ж коли ж беззаконные и немилостивые жыдова забьють тебе – забьють и тело мое. А любо хотя, Сыну милый, не упережай мене у том утисненьи, еж с нами у Бетании баранка великоденного. Занюж у Законе писано есть, кде ты еси говорыл черес Духа Святаго: “Чти Отца и Матку твою”. Але пак вижу, моя молитва ничого не важыт у тебе.

Тогды опять милостивый Бог Матухне своей, претрухливою душею, отповедал:

– О, наймилшая Матухно моя. Горазд есми перенял, иже твоя слова выходят с пресласное милости матерынское, а с правом мел бых тебе выслухати. Але воля Бога Отца и пророчства святых пророков о мне зменены не могут быти. Протож тое, наймилша Матухно, так мусить быти. Занюж инак рожай человечей откуплен быти не может. Да теж, коли бы я перво не терпел и твоя святая душа мусила бы до отцев старых, до замков пекельных ступити. Да ты еси без усякого греху нарожена и жывеш. Занюж не можеть никто войти у вечный жывот, оли ж перво небо окрутною смертью моею будеть отворено. Претож потребно есть, абых я перво умерл. Да по смерти моей прыйду тя и с коры ангелскими, коли ж уже небо отворено будет, прыду по тебе а возму тя ославне. Заню ж инак вельми дивно было. И было бы против мене – Сына твоего, бых я тебе до мук темностий, Матку свою наймилейшую, войти препустил, коли святая народилася еси, а на свете без греху жыла еси. Прото ж, премилая Матко, мусиш увидети муку мою терновую и вплеванье мое и вся удрученья моя, и невинную смерть мою у сердцы своем носити. Але потом будеш се радовати и веселитисе са мною на веки.

Услышавшы то милостивая Матухна, которая была краснейша над слонца, отмениласе у бледность и почала говорыти до своего милого Сына:

– О милый Сыну, ты еси мудрость Бога Отца, не створенья. Зрозумела есми, иже вежды терпети хочеш. Учынь так, штобы одное кропли крыви твоей досыть было за откупленье всего света.

Которей ж милостивый Бог отповедал:

– О наймилейша Матухно, как тое можеть быти. Ото один пророк молвил о мне: “От пяты ножное, аж до верху головы не было у нем местце здорове”. Иный пророк молвит: “И чему черлено есть рохо твое, как бы топчущых у прасе”. Да я сам о собе говорыл есми черес уста Давыдовы: “Преличы собе вси кости мои”. Да прото ж, милостивая Матухно, вси кости мое перечтут у мученьи моем. А кожная кость свою кровь выпустит. Занюж, милостивая Матухно, тые уси речы мусят се во мне наполнити, а Богу Отцу мушу послушен быти, што бы ся наполнило, што писано есть о мне.

Хрыстос учынился послушен Отцу аж до смерти а смерти крыжевое.

* * *

Потом милостивый Бог пошол на гору Оливную, где был огород за рекою кедром. У тот огород ушол сам и учнове его. А почал дрыжати а трухлен быти. И рекл учном своим:

– Седите тут аж я пойду а молитисе буду.

А отшодшы от них маленько, как бы каменем закинул, пал на землю, молячысе, рекучы:

– Отче мой, может ли тое быти, иж бы отшол тот келих, альбо чаша тая, от мене. Але вежды не моя воля, але твоя буди. Дух тый вежды готов похоплив есть, тело трухлено есть.

Да доконавшы тое молитвы прышол до апостолов, да нашол их спячых, иже были очы их утяжены. И рекл им:

– Чуйте а молитисе, штобы есте не вошли у покушенье.

Да оставившы их, пошел на тое ж местце. И молилсе до Бога Отца тою молитвою, да опять прышол до апостолов. И нашол их спячых, иже были очы их утяжоны. Смутку деля, рекл Петрови:

– Сымоне, спиш. Не могл еси ни одное годины чути со мною, альбо Июды не видиш, как он не спит, але спешыт выдати мене жыдом.

Рекл далей апостолом:

– Спите уже, отпочывайте.

А опять пошол, третий раз молилсе.

Да коли ся он молил, указалсе ему ангел з неба, потвержаючы его и рекучы ему:

– О, Сыну Божый, Сыну Девичый. Уставично буди твое муцы. Занюж черес твою муку маеш откупити рожай человечый.

То есть против нетерпливости нашое. Занюж коли Сын Божый оли ж у третей молитве есть выслухан, како же мы, небожатка, хочемы, штобы есмо выслуханы были за того на одну молитву от Бога. И перво нас, коли нас Бог не выслухаеть, роспачуемы. А и некгды на Бога гневаемыся.

А узявшы милостивый Бог Петра, Иоана, Иякова, рекл им:

– Смутна ми есть душа моя аж до смерти.

С которого ж смутку падшы на землю, почал премышляти свою прегоркую муку, уплеванье, за шыи кованье, посмеванье и на кресте завешанье. А с того премышляньья своее святое муки, упало на него тако великое дрыжанье, иже уси члонки, зубы и очы задрыжали. Так о дво слово могл проговорыти, занюж он ведал гораздо, како великие муки мел терпети. Да з оного рушенья тела его из него пот крывавый капал на землю. Теж и пресветая голова его так з оного поту крывавого змочыласе была, как бы у воде была измочона, альбо понорена.

Да коли ж милый Хрыстос премышлял о своей святой муце, прышол Июда, а с ним толпа людей великая, с походнями и з мечами, и з бронями посланы от попов жыдовских, книжников и старцов людских. Да ушол с ними Июда перво в оный дом, у котором вечерял милостивый Бог ис апостолми своими, надеваючысе Господина ещо тамо быти. Да не нашодшы, пошол до огорода, кде милостивый Бог часто тамо прыходил ис апостолми своими.

Коли милостивый Бог здалека увидел их, здалека к собе прыходящых, с походнями и со лучницами многими, пребудил апостолы свое. Которыи, доколь спали, милостиве стерег и ходил около них, как курыца обходит курята свои. Занюж милостивый Бог аж до конца миловал их и рекл им:

– Устаньте, пойдем, ото прыближается, который мене выдасть.

И зляклися вельми апостолове на тыи слова, устали. Коли ж милостивый Бог против пошол их, а ужо тогды ни одное силы не имел у своем пресвятом теле. Так стомился был на молитве, аж на нагах стояти не могл. А певно ославное лицо его так се было изменило, как было уже наполы был умерл и рек до жыдов:

– Кого ищете?

И они отповедали:

– Исуса Назаренского.

Отповедал милостивый Бог, рекл им:

– Я есми.

И они се вступили назад вси и пали взнак на землю.

Да коли тое пытанье и тое паденье было до третьего разу, тогды преневерный Июда ис толпы выхватился, как бы ни о чом не ведал, але как бы тепер из места прышол, а прыступившы до Исуса рекл:

– Витай мистру!

Альбо:

– Здоров буди, мистру!

И поцеловал его своими нечыстыми и прешередными устами у его пресвятые уста.

Занюж Хрыстос милый тот обычай мел ис ученики своими, отколь только прышли, милостиве их лица целовал. Прото ж Июда обычай ведал. Прото ж его так, как бы не ведаючы, как не непрыятель милостивого Бога, целовати спешыл, как бы так рекл, не с тыми я есми жыды прышол, которые тебе имати прышли, але есми я с торгу прышол, иже искал есми купити што, бы есмо заутра мели ести.

Але милостивый Бог рекл к нему:

– Прыятелю, на што прышол еси поцелованьем Сына человека выдаваеш.

Как бы тако рекл милостивый Бог:

– О, Июда, ты творыш, што бых я не ведал. Што ты чыниш? Ведаю я твой лихий умысл. Заню ж мне усе на небе и на земли явно есть. Прото ж и што чыниш – чынь! Борздей наполни волю свою!

Тогды немилостивые а окрутные жыдове свои грешные руки у него улепили. И зымали его. Тогды Петр вынел меч свой и утял ухо правое Малхушови.

Рече же Исус Петрови:

– Вложы меч свой у ножница, занюж, кто мечем воюеть – от меча погибають.

Иные его за волосы тягнули, иные за платье, иные за руки, иные за ноги, иные за бока, иные за его святую бороду. Иные его вяжуть, а иные за шыю бьють. Иные, вывернувшы руку у железных рукавицах, у его лице бьють. Иные его пхають, иные ногами топчуть, иные его проклинають и лають, иные за шыю пальцами бьют. Да с такою горкостью и навальностью найпервое до Аннаша прыведен есть.

Его ж Аннаш о многих блюзненах пытал, против которым милостивый Бог, как препокорный баранек, молчал. Потом Аннаш посеред дому своего велел его к столпу прывязати. А прывязавшы его, розмаитыми нагабаньми дражнили и мучели его. Один его тягнет у круг, против ины – назад. Да так до полночы лихо нагабали и зачепали.

<...>

Потом немилостивые акрутные жыдова, отвязавшы милостивого Пана Бога от столпа, на лавицы его посадили. Иже вельми утомилсе и трохлен на ногах стояти не могл. Да узявше велике дерева, по его пресвятой голове били так, аж оплавите кров плыла. А прыклекаючы на колена своя, посмевали его. Некоторые по пресветых очью его били, иные по его святой шыи, рекучы:

– Есть ли еси Сын Божый? Кажы, кто есть? Кто тебе ударыл?

Да так черес оную усю ноч над лихо его держали, душу пресвятую нечыстыми а сромотными словы, а тело треокрутным битьем сромотяче.

* * *

Потом, коли уже день почал быти, отворывшы место до Каипы бискупа оного лета, веден есть милостивый Бог. Да увидевшы его, Каипа против его нагле задрыжал, рекучы:

– Чыею моцею у моем месте казал еси без старшых отпущенья? И што еси королем против цесаря менил? И которая есть наука твоя, которою поганство научал еси?

Которому милостивый Бог отповедел:

– Я явно говорыл есми свету у церкви, альбо у божницах, где уси жыдове сходятся. А потай, альбо таемно, не говорыл есми ничого. Што мене слухали, ото тые ведають, што говорыл есми им.

Тогды один ис слуг стоячых, дал рукою за шыю Езусови, рекучы:

– Чы так отповедаеш бискупови?

Аж милостивый Бог на землю пал и рекл ему:

– Лихо ли говорыл есми? Сведечство выдай о лихом. Але гораздо ли есми говорыл, чему мене бьеш?

Тогды два светки, прыступившы, рекли:

– Тот молвил: "Сказите костел тот, руками деланый, а я ве тры дни узбудую его".

Каипа рекл:

– Чуеш ли, как великие против тебе кажут сведечства. Кажы ми, ты ли еси Хрыстос – Сын Бога жывого?

Исус отповедел:

– Ты мовиш, так то и есть.

Да Каифа седрал рухо свое, рекучы:

– Блюзнил. Што еще потребуем светков. Чули есте блюзненье, заню ж ото тот человек лгучый Сыном Божьим чынитсе.

Да на тых мест Каипа со всими оными вадцами пошол со Исусом до Пилата. Очы его закрывшы, на шыю ленцух узложывшы, как бы был каки лиходей.

Да Пилат увидевшы Езоса, так соромотне прыведенного, пытал жыдов:

– И што лихого учынил тот человек?

Которые отповедевшы рекли:

– Бы тот не был злодей, не подали бы есмо его тобе.

И рекл им Пилат:

– Возмите его вы а подлуг закону вашего судите его.

Отповедали жыдове, рекучы:

– Мы закон держымы, а подлуг закону мусит умерети, иже ся Сыном Божьим чынил. Але нам того деля не слушает забити никого.

И ушол того деля на ратуш Пилат, а прызвал к собе Езуса, рекл ему:

– Ты еси король жыдовский.

Отповедел Исус:

– От тебе ли самого тое говорыш, али иные казали тобе о мне?

Отповедел Пилат и рекл:

– Да чы я жыд есми? Люд твой и бискупове твои выдали тебе мне. Што еси учынил?

Отповедел милостивый Бог:

– Царство мое не есть с того света. Коли бы царство мое было с того света, вежды слуги мои воевали за мене, а не был бых выдан жыдом. Да ныне царство мое не есть тут.

И рекл далей ему Пилат:

– Но король ты еси?

Отповедел Езос:




Пілат (мініятура з Лаўрышаўскае Евангеліі 13 ст.)

– Иже король, есми я, у том народилсе есмь. И на то прышол есми на свет, што бых сведечство выдал о правде. Занюж всякий, который с правды есть, слушает голосу моего.

Рекл Пилат:

– А што есть правда?

Але Исус молчал.

Да потом Пилат пошол до жыдов. Занюж жыдом вельми нелюбо было, иже так долго со Исусом говорыл. А боялисе, штобы его не выпустил.

Прото ж рекл Пилат до жыдов:

– Ни одное прычыны смертное знайти не могу у том человеце. У чом вы его вадите и што я с ним учыню?

Отповедели жыдове и рекли:

– Укрыжуй и!

Рекл Пилат:

– Я царя вашого укрыжую?

Отповедели жыдове:

– Мы царя не держымы, только цесаря. Да тот есть лиходей, занюж порушыл люд, фальшывою наукою научаючы, почоншы от Кгалелии аж дотоля.

Услышавшы Пилат, иж они менят Кгалелию, отослал его до Герода. Прото иж из его бы волости, альбо моцы. Был занюж тогды Герод царем у Кгалилеи.

Да Герод, увидевшы его, зрадовался вельми, занюж з давного часу жадал был видети его, хотячы от него который див увидити. Про то ж пытал его у многих речах, на которые ж уси милостивый Бог не отповедел ничого. Занюж сознал умысл Геродов. Коли бы был который див перед Геродом учынил, альбо бы был с ним ласково говорыл, на тых мест бы его вольного пустил, а рожай человечый у збавеньи был бы окламан.

Увидевшы то Герод, иже милостивый Бог ни в которых речах ему отповеданья не дал, взгордел им и посмеял его как бы шаленого. А оболок его у белое рухо содраное, как бы одного маньяка, а слуги его били и белую рызу раздраную рвали и посмевали его. Да так у тых бедах отослал назад до Пилата ужо как наполы умерлого, у котором же уже как бы тела не было.

Увидевшы Пилат милостивого Бога рекл до жыдов:

– Дали есте ми того то человека, как бы отвращавшаго люд ваш. Да што я ни одное прычыны смерти не найду в нем. Ани теж и тако ж Ирод, занюж прыслал его до мене ни одное смерти загубленья у нем не нашодшы.

Закликали уси жыдове, рекучы:

– Коли того пустиш – не еси прыятель цесареви.

И пытал Езуса Пилат, рекучы:

– Чы ты царь жыдовский еси?

Да Исус ничого не отповедал.

И рекл ему Пилат:

– Мне не говорыш! Не ведаеш, иж я держу моц укрыжовати тебе.

Исус ему отповедал:

– Не мел бы еси наде мною ни одное моцы, коли бы з верху не дана. Прото ж, который выдал мене тобе, большый грех мает.

Услышавшы Пилат тую реч, больше се побоял, да выведшы Исуса вон перед всим людом, рекл до жыдов:

– Да што лихого учынил человек тот?

Закликали уси, рекучы:

– Укрыжуй, альбо распни и!

Рекл Пилат:

– Есть обычай ваш усегда одного нятца к святку выпустити. Хочете ли выпущу вам того, али Вараву?

Закликали вси, рекучы:

– Не того, але Вораву! Выпусти нам, который за мужобойство у месте учыноне, впущон был у темницю!

На то молвить Аньсемус: "О шалености люда того! Неправедного мужобойцу выпустити просили, да праведного Хрыста укрыжовати, который греху не учынил. А ни знайдена есть лесть у устех его".

Святый Бернат молвит: "Такий сильный кгвалт, сильная крывда милостивому Пану Богу сталася, какая от почтатку света ни одному человеку не стала се и не бывала: невинного Господа смертью загубити, а неправедного мужобойцу вольного пустити".

Тая великая крывда могла милостивей Матухне сердце ее россадити, занюж ведала горазд, иже ее милый Сын, жывучы на том свете, ничого иного не чынил, только правду да добротливость. Да свое великое милосердие выливал на всех грешных слепиц и немоцных. А не был ни один на том свете, кому бы своего милосердиа заборонил, занюж тую цноту имел от своего пресвятого прыроженья. Да ото ныне ганебные жыдова так доброго и милостивого на муки прыправляють.

* * *

Да узявшы Пилат воду умыл руки свое перед усим людом своим рекучы: "Не винен есмь я от крови праведного, то вы увидите". Отповедели жыдове рекучы: "Кровь его на нас и на сыны наше". <...>

Тогды Пилат велел прывести Исуса перед столец свой, где сам седел. <...> Потом велел его подняти на крыжу, на том местцы кде звано Калвария, а два лотры с ним которых же имена суть так: Дисмас а Язмас. И вышол Исус из ратуша, несучы ис собою крыж и иная два злостники с ним, да прышли с ним на местцо тое. <...>

Да один ис тых лотров которые завешены были ис ним Есмас рекл: "Естли ты Крыстус, избав себе и нас". Отповедел ему Дисмас и лаял его рекучы: "А ни ты боишся Бога? Иже на том суде мы достойне и праведне то што терпимы приняли есмо. Але тот што учынил? Ничого лихого не учынил". Да злаявшы Дисмас Есмуса друга своего, оборотил лице свое ко Исусу и рекл ему: "Господи, помяни на мене, коли прыдеш у царство твое". И рекл ему Исус: "Заправду мовлю тобе, ныне со мною будеш у раю".

Да была как бы шостая година а затименье сталося по всей земли аж до девятой годины. А коли ся солнце затемнело ова заслона церковная расселася на полы, на две части, от верху аж и нижей, аж до земли. И закликал Исус голосом великим рекучы "абвиадедиафикдетаи", да тое се так толкует: отче, в руки твои полецаю духа моего. Да везрявшы Лонкгин рытерь, рогатиною отворыл бок его, а на тых мест вышла кровь и вода. Увидевшы центурие, который против стоял, што ся деяло, хвалил Бога рекучы: "Верне чоловек тот Сын Божый был". Да уси люди около стоячы мужове и жоны замутилисе, для того диву бачаче што се исталo, биюче груди свои вернулисе в домы свое.

* * *



**з мертвых устанью.**

З мертвых устанье Хрыстово третьего дня од его умученья исталося есть. Да по том з мертвых устанью седмера реч мусит быти бачена. Наперво как бы то правда была, иж бы тры дни и тры ночы у гробе лежал, а третего дня з мертвых устал. Иже он устал моцне, бо питом моцью своею а не чужею,

яко пишет святый Иоан: “Моц держу положыти душу мою за люд, а опять отняти ее”. А Матфей святый пишеть: “Коли я устану, найду вас у Кгалелии”. Устал, устал ужытечне, бо отнявшы люд. Молвить святый Еннаш: “Выступил из ложница своего, а разбойца, поганский людский поднялся”.

Теж устал дивно, не отворывшы гробу и как и затвореного жывота Панны Марьи, через замкнутые дверы, до апостолов ушол. А то усе его божество учынило, теж устал верне у верном теле. Святый Павел пишеть: “Хрыстос уставшы из мертвых, уже не умреть, а смерть ему далей пановати не будет, але будет королевати на веки”. Бо Хрыстос устал и мы устанемы, он устал моцею а мы устанемы во имя его, как молвит Евангелия Никодемова.

Бо коли жыдове услышали, што Езоп тело Исусово выпросил у Пилата, а его у своем гробе положыл, разгневались нань и няли его, а в некоторую скарбную комору гораздо замкненую и запечатаную его усадили, по святех его забити хотяче. А ова Исус тое ночы з мертвых устанья своего, поднявшы дом через четыры аньелы, до него ушол а его лице утерл и поцеловал и, а оттоль не зломившы печатей его выведшы, до Араматеи до дому его прывел и, иже мовит святый Аукгустын, на тых мест Хрыстос душу выпустил.

Снявшыся душа из божством его, до пекельное глубокости исступила. Коли ж ку темным границам, как бы какий розбойца а витяжца ясный а грозный, прыступал, возревшы на него немилостиве пекельне тьмы, злякшесе начали пытати рекуче: “И отколь есть тот так моцный а так грозный, так ясный, так светлый? Оный свет который нам долго поддан был, николи нам такого умерлого не прысылал. Который есть тот, который так смеле у границе наше уходит, а не только иж се нашых мук не боит, але теж нам и грозить и иные з нашых оков росковываеть? Ото тые которые под нашыми дыхали муками, радуются о прынятю избавенья, а не только иже ся нас не боять, але теж нам и грозять. Николи тут умерлыи так пышно се не поставляли, а ни теж коли могли быти так веселы нятцы нашы. И чему есте его тут прывели, о княже наш? Згинула вся радость наша, коли ты Хрыста узвесил еси на кресте, не ведаем, какие шкоды у пекле терпети будеш”.

По тых голосех окрутных пекельником на прыказанье Господня вси железные ретези поламалися, а ова бесчысленые люди святые перед колены его падше плачливым голосом рекли: “Прышол еси к нам откупителю света, прышол еси которого жадаючы ждали есмо, и ступил еси за нас до пекла, не полишы нас идучы до неба”.

То Абкгустынус да в Еванелии Никодемове, иже Карынус и Ленцыюс, сынове Семионовы старца, Исус Хрыстом з мертвых устали да Аннашови, Каипе, Никодему, Езопу а Кгамалейлови указалися, а од них попрысяжены што нь коли Хрыстос чынил у пекле <...>.

**То писали на листех Карынус да и Ленцыюс.**

Исус Хрыстос Господи Боже, наш жывот, з мертвых устанье умерлых, прошу тебе препусти ми таемнице альбо святости выповедети крыжа, которые у пекле чынил еси.

Бо коли есмо были зе всими отцы нашыми в глубокости пекельной положены и у хмурных темностях, а на тых мест задрыжал пекел и ворота смертная, а нагле а любо за того отец наш Адам изо всими святыми патрыархи и пророки радовалися вельми у радости у великой, рекучы: “Светлость тая розмножца есть светлости вечное, который нам прышол переслати вечную светлость свою”.

И закликал Исайя: “Та светлость есть Сына Божьего, как есми усим проповедовал на земли, коли у теле жыв есми был, рекучы земле Заулоня и земле Непталимова за Ерданом утреним: “люд который седел у темностях, видел светлость великую”.

И которыи суть у темностях седячы, да коли ж есмо уси посполу радовалисе, некоторый у светлости прышол к нам, прышол отец Симеон, который радуючысе рекл: “Хвалите Пана Бога нашого Исуса Сына Божьего, которого есми я дитятком нароженого руками своими носил есмь, ныне отпусти слуги твоего владыко”.

То услышавше, вся великость святых больше се зрадовали. Да потом прышол некий пустынничок, и пытан ото всех, кто бы был. Отповедевшы рекл: “Я есмь Иоан Креститель, голос и пророк навышшого, я перетекл есми перед лицом прыйтья его, чынити дорогу на пустыни ку датью науки спасенья люду его на отпущенье грехов их. Я боранка и Сына Божьяго люду жыдовскому пальцем указал есми его, в реце Иордане, а видел есми Духа Святого исступуючого на него, а дух был в образе голубичыном, и слышал есми голос Отцев из неба звинячы и рекучы: “То есть Сын Мой милый, у котором жо есми собе узлюбовал”. Я есмь от Него отповеденье узял, иже Сам имел иступити до нас до пекла, иже борзо навестит нас. Народился Сын Божый з высокости прыходячый к нам седячым у темностях и ве тьмах смертных”.

Да коли то услышал первый отец наш Адам, иже во Иордане реце Хрыстос хрыщон был, закликал на сына своего Сита рекучы: “Поведай, сыну мой, усим патрыархом и пророком всим, што от Михала архангела слышал еси, коли слал есми тебе до ворот райских абы еси просил Господа штобы послал аньела своего штобы дал тобе з олея милосердья штобы ми помазал тело мое, коли есми немоцен был”.

Тогды Сит прыступившы ку святым патрыархом и пророком рекл: “Коли слал еси мене перед ворота райская, просил есми Бога со слезами штобы послал аньела своего иж бы ми дал з олея милосердья. А ова Михаел арханьел который есть воевода райский прышол до мене и рекл ми: “Тобе кажу, Сите, не роби слезами, молячыся и просячы Бога про олей дерева милосердья, штобы помазал отца твоего Адама, про болесть тела его. Никак не можеш из него взяти, оли ж в онь день коли сполнятсе пять тысячей лет и сто лет и осмь десят лет и девять лет. Тогды прыдет на землю наймилейшый Сын Божый Исус Хрыстос збавити его и звати усе поганство ку вере своей. Да он у реце Ердане хрыщон будет, а коли выйдеть з воды Иордановое, тогды олеем помажеть милосердья верующых у себе, а будеть олей тот на отновленье у котором се отродити и одновити мают из воды и з Духа Святого на вечный жывот. Тогды исступившы до пекла наймилейшый Сын Божый Исус Хрыстос уведеть отца твоего Адама у рай, отколь выкинут есть”.

А услышавшы то от Сита, уси патрыярхове и пророкове веселилися у великой радости.

Да коли уси святыи веселилисе, ова Сотона князь смерти рекл до Пекла: “Прыправляйся прыняти Исуса, который хвалится Богом быти, и Сыном Божьим, а есть чоловек боячся смерти и рекучы “смутна есть душа моя, аж до смерти”, а много ми се противил мне лихо чынячы, а многие умерле которые я тобе прывел от тебе жывых отнял, без молитвы ку Богу”.

Отповедевшы Пекел рекл до князя смерти: “И который есть тот так моцен будеть чоловек, боясе смерти, бо вси моцы и поднесенья моя панова独ю моему подданы суть. Про то ж, моцен ли есть чоловек тот Исус, который боитсе смерти а моцы вежды нашей противитсе может ли только у человеченстве? Верне кажу тобе, всехмоцнейшый есть у божстве, а моцы его противитисе никто не можеть. А кажет ли се смерти бояти, иже бы чюл смерти боячся, няти тебе хочет а горе тобе будеть, на веки веком”.

А отповедевшы Сотона князь темности рекл: “И чего утпиш? Чы боюсе узяти Исуса противника моего и твоего, бо я кусил есми его, и люд жыдовский побудил есми у зависти и у великом гневе против его, и проданье

черес его ж учня и рядил есмь, золчь из оцтом смешал есмь ему пити дати, и дерево учынил есми на крыжованье. Уже близко есть смерть его, а прыведу его к тобе поддано мне и тобе”.



Хрыстос уваскрашае Лазара, вырываючы яго з лап Пекла
(сярэднявечная бізантыйская мініятура)

Рекл Пекел до князя смерти Сотоны: “Ты еси мне казал иже тот есть который умерле от мене отнял, без молитов, бо много таких тут которые наде мною пановали, коли жывы были на земли, от мене умерливых выбирали, не своими моцами але черес их великие молитвы всехмоцный Бог взял их от мене. Да тот пак Исус который черес слово свое умерлые отнял от мене без молитвы любо тать то есть который Лазоря чотыры дни умерлого смердячого и гнилого воскресил которого я держал есми, черес слово прыказанье его мусил есми отдати?”

Да отповедел Сотона князь умерливых и рекл: “Тот есть который Лазоря воскресил”.

Услышавшы то Пекел рекл до него: “Попрысягую тя Сотона черес силы твое и мое, абы еси не водил его до мене, знать альбо певно хотячо зымати его, зыманы будем от него, бо я только есми учул голос его, за того задрыжал есми и злякл есми се боязнью великою, и вся панства моя посполу замутилисе, того то Лазоря удержати не могли есмо, але вырвашысь как орел наде всю прудкость вышодшы побегл от нас, да так земля которая держала тело Лазорево, на тых мест на голос его отдала жывого. Теж теперь ведаю, иж чоловек тот который то чынити могл, есть Бог моцный и сильный, чоловек есть у чоловеченстве, але Бог у маистате, избавитель рода чоловечого. А прыведеш его до мене, всех которые суть под моцыю нашою прыведет у вечный жывот, амен”.

 **скаженьи пекла так писано.**

Коли ж так говорыли межы себе один к другому, Сотона князь смерти а Пекел, прышол голос как бы гром великий рекучы: “Возмите княжата ворота ваша, а вздоймитесе улице вечные, а войдет царь славы”.

Тогды как бы Пекел не ведаючы рекл: “Который то есть царь славы?”

Отповедано ему голосом Господня: “Пан моцный и могучый, пан моцный на валцех”.

Да на тых мест указал до немилостивых урядов своих: “Затворыте ворота окрутная меденая, а ретези железные подкладайте, моцне противтесе абы есмы не изыманы нятьство държачо”.

То услышавше вся великость святых голосом лаючым рекли до Пекла: “Отворы пренечыстыи ворота твоя, а войдеть царь славы”.

Тогды закликал святый Давыд: “Чы не поведал я вам будучы жыв на земли, рекучы: “Исповедайтеся Господу милосердья Его и дивы Его, иже стерл ворота меденая и ретези железные изламал?”

Да также и святый Исайа пророк, иные уси святые услышавше то рекли до Пекла: “Отворы перевоняющыи ворота твоя, бо ныне превитежон еси, а немоцна есть сила твоя”.

Да опять прышол голос как гром великий рекучы: “Возмите княжата ворота ваша, а войдеть царь славы”.

То услышавшы Пекел иже двойчы закликано, рекл: “Который есть тот царь славы?”

Отповедано ему дивным голосом: “Пан сил то есть царь славы”.

Рекл Давыд до Пекла: “Тые слова голосу того я знаю, бо я черес Духа Святого пророковал есми, а верне милый Пан Бог из неба посмотрел, абы услышал плачей спутаных а розвял бы сыны нятых. А ныне пренечыстыи отворы ворота твоя, а войдеть царь славы”.

А на тых мест задрыжал пекел и ворота смертная, замки и ретези железные упали и зламалисе, у покой учынене уси замки пекельны. А князь Сотона зостал посеред пекла и стоял зесромочон и выкинен.

Тогды прышол царь славы Пан Исус Хрыстос, во образе чоловечом, а вечные темности осветил, и зламал нерозвязные перековы резорвал помоцю непереможнее моцы, наведил нас у темностях грехов, и во тьме смерти.

То увидевшы Пекел, Сотона князь и немилостивыи уряды з окрутными слугами, зляклисе у своих питомых королевствах, узнавше такое светлости ясность, коли Хрыста нагле на своих стольцах видели, и закликали рекучы: “Преможены есмо от Тебе”.

Тогды Избавитель света, Царь Славы, ретезь у руце своей держа, Сотоне около шыи обвязал, а розвязавшы ему руце из заду, ретезь обернул а навзнак его у глубокость пекельную вопхнул и рекл: “Ты набывал еси злости, а никак не отпочывал еси, ныне тя подаю огню вечному”.

И рекл до Пекла: “Прыказую тобе штобы еси узял того злодея, штобы под твоею сторожою был, олиж до оного дня, коли реку тобе “пусти его”.

Тогды Пекел прынявшы Сотону князя своего, связаного под ногами Господня, ис сильною лайбою рекл: “О княже затраченья! О княже согрешенья Бельзебубе! Ангелов Божьих посмеванье и поклеванье праведных, што еси учынити хотел, иже короля славы укрыжовал еси, а не ведал еси што шалене чынил еси. О княже Сотона, гвоздью пекельный! О княже Сотона, розмножца и передек пыхи, как еси смел без вины укрыжовати Исуса короля славы, а до нашого панства Его невиннаго а праведного прывел еси!”

Да коли то говорыл Пекел а Сотона, на тых мест Пекел с прыказанья Божьего упустил его у глубокость пекельную.

## год 1264

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Потым пачалі думаць конюхі Міндоўгавы, чатыры парабкі, як бы ім забіць Трайняту. А ён ішоў да лазні мыцца, і яны, угледзеўшы сабе падобны час, забілі Трайняту, і такое было забойства Трайняты. Гэта пачуў Войшалк, пайшоў з пінянамі да Наваградка, а адтуль, узяўшы з сабой наваградцаў, пайшоў у Літву княжыць. Літва ж уся прыняла з радасцю свайго гаспадара.

Войшалк пачаў княжыць на ўсёй зямлі Літоўскай і пачаў сваіх ворагаў збіваць, збіў іх незлічонае мноства, а іншыя паўцякалі хто куды, і таго Астафея забіў <...>. Потым пайшоў Шварна ў помач Войшалку, а Васілька князь ад сябе паслаў яму помач, усю сваю рацць. Войшалк жа назваў Васільку сваім айцом і гаспадаром. І прыйшоў Шварна з помаччу ў Літву да Войшалка, і бачыў Войшалк помач Шварна і Васількі айца свайго і рады быў вельмі, і пачаў выпраўляцца, і пайшоў у цяжкай моцы, і пачаў гарады захапляць у Дзяволтве і Нальшанах. Гарады захапіў і ворагаў сваіх пабіў, і так вярнуўся да сваёй сядзібы.

*Вартберг:*

У той час гаспадар літвінаў Міндоўг [rex Letwinorum Mindowe] быў забіты адным вяльможным літвінам [Letwino], які жадаў авалодаць княствам. Але сын князя, які быў русінам [cum esset Rutenus], калі пачуў аб забойстве бацькі, вярнуўся ў Літву, каб адпомсціць за забойства бацькі. Усіх хрысціянаў*, якіх ён знайшоў палоннымі ў сваім гаспадарстве, ён міласціва вярнуў назад у Рыгу да майстра. Але потым ён зрадзіўся з літвінамі [Letwinis], уклаў з імі змову і даслаў у тым жа годзе войска ў Вік і Пернаў** і спустошыў гэтыя воласці на Грамніцы. А за тыдзень была дадзена ім бітва ля Дунамюндэ. <...>

* крыжацкія крыніцы мянуюць “хрысціянамі” толькі католікаў
** воласці на захадзе Эстоніі

*Густынскі летапіс:*
(ПСРЛ, т. 40. с. 123)

<...> Войшалк Міндоўгавіч <...> пайшоў і перамог Трайняту (які забіў яго айца) і самаго яго забіў, таксама вынішчыў усіх непрыяцеляў айца свайго і сваіх, і сам сеў на княстве Літоўскім, і пачаў ваяваць вакол сябе дзяржавы Лядскія, і Мазоўскія, і Крыжацкія і іншыя, а Шварна ва ўсім памагаў яму.

*Ліст папежа Урбана IV да караля Багеміі:*
(VMPL, №149)

<...> Паведамляюць, што рускія схізматыкі і літвіны [Rutheni scismatici et Lituani], як і іншыя суседнія ім жыхары, не сцяць Бога, але ганьбяць імя ягонае і разам з іхнімі супольнікамі татарамі [Tartaris], з якімі яны задзіночаны праклятым злучам, пачасту варожа нападаюць на Польшчу <...>. Даручаем табе, у абарону веры, <...> рушыць проці тых схізматыкаў і іншых вышменаваных <...> і перадаем землі русінаў і літвінаў, дзе ўвязана будзе хрысціянская вера, <...> табе і нашчадкам тваім у валоданне <...>.

## год 1265

*Пскоўскія летапісы:*

Узяў Войшалк усю зямлю Літоўскую, а князь Даўмонт з дружынаю сваёю і з усім домам сваім пакінуў айчызну сваю, зямлю Літоўскую, і прыбег у Пскоў і хрысціўся і далі яму імя ў святым хросце Тымафей. І была ўцеха вялікая ў Пскове і пасадзілі яго на княжанні ў горадзе Пскове.

## год 1266

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Княжыў Войшалк у Літве і Шварна. Пайшла літва на ляхаў ваяваць, на Баляслава* князя, ішла ля Дарагічына, а слугі Шварнавы пайшлі з імі, і ваявала каля Скарышава, і ля Візлежу, і Таржку, і ўзяла палону многа. Тады быў князь Баляслаў вельмі хворы. Потым князь Баляслаў ачуняў, паслаў паслоў сваіх да Шварны (тады Шварна быў у Навагрудку), мовячы так: “Чаму на мяне ваяваў без маёй віны, зямлю маю ўзяў?” Шварна ж пачаў выпірацца, мовіў так: “Я не ваяваў на цябе, гэта літва на цябе ваявала”. Пасол жа так мовіў Шварну: “Так табе кажа князь Баляслаў: я на літву не скаржуся, бо то нямірнікі мае, а ваявалі мяне раней і гэтак, і горш, але на цябе скаржуся; а Бог рассудзіць паводле справядлівасці між намі”. І адсюль распачалася вайна, і пачалі ваяваць ляхі ля Холму <...>.

* Баляслаў Сарамлівы, князь кракаўскі ў 1243–1279 гг.

*Густынскі летапіс:*
(ПСРЛ, т. 40. с. 123)

Баляслаў Сарамлівы, кароль Польскі, рушыў на Шварну Данілавіча і паланіў дзяржавы яго ля Бэлзу і Чэрвеня і сёлы папаліў. Шварна ж, пачуўшы тое, пайшоў на яго з мноствам татараў і паразіў іх і многіх паланіў. <...> У той год Войшалк, князь Літоўскі, адпомсціўшы смерці Міндоўга, айца свайго, зноў прыняў чарнецкі або мніскі вобраз і плакаўся грахоў сваіх; а княства Літоўскае даў Шварну Данілавічу зяцю свайму, бо вельмі любіў яго і Васільку як айца сціў.

*Длугаш:*

Літвіны і прусы <...> зноў уваліліся ў Мазоўшу і тую частку Мазоўша, якая яшчэ не была разрабавана, злупілі і знішчылі пажарамі. <...> Захапіўшы вялікія лупы і наведаўшы яшчэ места Плоцк, вярнуліся да сваіх краёў.

*Пскоўскія летапісы:*

І неўзабаве ўзяў (Даўмонт) з сабой псковічаў ратных мужоў, тры па дзевяноста, і пайшоў у зямлю Літоўскую, і айчызну сваю павяваў, і княгіню Гердзеневую* паланіў, цётку сваю Аўпраксію, і дзяцей яе, і ўсе добры іхнія, і вярнуўся з мноствам палону. І перайшоўшы ўброд раку Дзвіну, ад’ехаў за 5 вёрст і паставіў станы ля чыстага бору, а старожу паставіў на рацэ Дзвіне, Давыда Якуновіча з Лукою Літвінам. Два загоны па дзевяноста мужоў адпусціў з палонам, а адзін загон у дзевяноста вояў пакінуў пры сабе, чакаючы пагоні.

Гердзеня ж і ягоных князёў тады ўдома не было, а калі прыехалі дамоў, убачылі, што дамы іхнія і зямлю разрабавалі. І ўзброіліся Гердзень, і Гойтарт, і Любім, і Люгайла, і іншыя князі ў семсот ваяроў і пагналі ўтропы Даўмонту, жадаючы яго рукамі паланіць і люта страціць, а мужоў ягоных псковічаў мечамі пасцінаць. І перайшоўшы ўброд раку Дзвіну, сталі на беразе. Старожа ж убачыла вялікую рать, прыгнала і паведаміла Даўмонту, што рать перайшла ўброд Дзвіну. Даўмонт жа мовіў да Давыда і Лукі: “Няхай паможа вам Бог Святая Тройца на старожы вашай”. <...> І мовіўшы так, рушылі і гэтак праз божую помач адным загонам у дзевяноста ваяроў перамаглі 700 ратных. Тады забілі князя вялікага літоўскага Гойтарта** і іншых князёў многіх забілі, а іншая літва ў Дзвіне патанула, а іншых 70 Дзвіна выкінула на выспу Гойдаў, а іншых на іншыя выспы, а іншыя адплылі далоў па Дзвіне. <...>

* Гердзень – стрыечны брат вялікага князя Міндоўга, князь на Крэве
** паводле іншых крыніц такі князь невядомы

## год 1268

*Вартберг:*

У 1268 годзе Дзмітрый*, рускі князь, скупіў вялізнае войска і смела рушыў на Вірлянд**, пустошачы гэтую зямлю рабаваннямі і агнём. Адважна рушыў процi яго вялебны Аляксандр, біскуп дэрпцкі, з падданымі сваёй царквы, братамі Ордэну з Фэліну, Вітэнштэену і Леалю і іхнімі людзьмі і падданымі, а таксама з падданымі караля данскага, у той час як майстар Атон*** біўся ля Дзвіны з літвінамі [Letwinos].

* Дзмітрый Аляксандравіч, князь навагародскі між 1259 і 1292 гг.
** Вірлянд, Віронія – паўночна-ўсходняя частка Эстоніі
*** Атон фон Лаўтэнберг – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфлянтах у 1267–1270 гг.

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Потым Войшалк даў княжанне сваё зяцю свайму Шварну, а сам зноў пажадаў прыняць мніскі чын. Шварна ж маліў яго вельмі, каб яшчэ княжыў з ім у Літве, але Войшалк не жадаў, мовячы гэтак: “Зграшыў я шмат перад Богам і людзьмі; ты няхай княжыш, а зямля табе будзе бяспечнаю”. Шварна не здолеў упрасіць яго і так пачаў княжыць у Літве, а Войшалк пайшоў да Вугроўска ў манастыр да святога Данілы, і апрануў на сябе мніскае адзенне, і пачаў жыць у манастыру. <...>

У той час прыслаў Леў* да Васількі, мовячы так: “Жадаю сустрэцца з табою, каб тут і Войшалк быў”. Васілька ж паслаў па Войшалка на перадвелікодным тыдні, мовячы так: “Прыслаў да мяне Леў, жадаючы сустрэцца, а ты не бойся нічога”. Войшалк жа баяўся Льва і не жадаў ехаць, але паехаў, бо Васілька паручыўся. І прыехаў на перадвелікодным тыдні ў Валадзімер і спыніўся ў манастыру святога Міхайлы Вялікага. Маркальт жа немец пазваў да сябе ўсіх князёў на учту, Васільку, Льва, Войшалка, і пачалі есці, піць і весяліцца. Васілька ж напіўшыся, паехаў дамоў спаць, а Войшалк паехаў да манастыра, дзе спыніўся. І потым Леў прыехаў да яго ў манастыр і пачаў мовіць Войшалку: “Куме, нап’емся”, і пачалі піць. Д’ябал жа, які ад пачатку не жадае дабра людскому роду, уклаў у сэрца Льву забіць Войшалка, праз зайздрасць, што той даў зямлю Літоўскую брату яго Шварну. І такое было забойства яго, і схавалі цела яго, паклалі ў царкве святога Міхайлы Вялікага.

* Леў Данілавіч, князь галіцкі ў 1264–1301 гг.

*Роджэр Бэкан, “Opus Majus”:*
(Английские средневековые источники IX–XIII вв. Москва, 1979. с. 212)

<...> Вялікая Русь пралягае з аднаго свайго боку ад Польшчы і аж да Дону; але большаю сваёю часткаю яна мяжуе на захадзе з Літвою, якая ёсць зямлёю такою ж вялікаю, як Нямеччына. Ля заходняе яе часткі ляжаць многія землі вакол нейкага мора, якое ўтворана ад сутокаў многіх пратокаў Акіяну, якія цякуць праз Данію. <...> І гэтыя землі, а наймя – Эстонію, Лівонію, Зямгалію, Куронію – абыймае згаданая Літва, а вакол яе з абодвух бакоў вышменаванага мора размешчана Вялікая Русь, а мяжуе яна ў паўднёвай частцы з Прусамі і Польшчаю. <...>

## год 1269

*Длугаш:*

Літвіны, пачуўшы, што між Земамыслам, князем Куяўскім, і яго шляхтаю паўсталі розні і сваркі, заклікалі яцвягаў і іншых барбараў і разам з імі ўваліліся ў зямлю Куяўскую другога дня верасня. Разрабаваўшы зямлю і захапіўшы вялікія лупы ў палонных і статках быдла, яны, як ніхто ім не чыніў пераказ, вывелі іх у Літву.

## год 1270

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Пачаў княжыць у Літве Тройдзень. <...> Былі ў яго браты Борза, Сірпуцій, Лесій і Свялкеній, яны жылі ў святым хросце, жылі ў міласці, ў рахманасці і ў ціхмянасці, трымалі правую веру хрысціянскую, больш за ўсё любілі веру і жабракоў; яны ўсе памерлі за жыцця Тройдзеня.

*Вартберг:*

Майстар Атон быў забіты літвінамі [Letwinis] на лёдзе разам з 52 братамі Ордэну і 600 вернымі ля Карузы ў Віку*, у дзень св. Юльяны.
У 1270 годзе пасля гэтае бітвы нейкі брат Андрэас** займаў пасаду майстра ў Ліфлянтах. Ён таксама загінуў разам з 20 братамі Ордэну ў тым жа годзе ў бітве з літвінамі.

* Вік – воласць на захадзе Эстоніі
** Андрэас фон Вэстфален

## год 1271

*Длугаш:*

Павал, біскуп Кракаўскі, дапускаючы надужыцці, нязгодныя з біскупскім станам і дастойнасцю, аддаўся перадусім сваволі і распусце <...>. Ён пачаў таемна пагаджацца не адно з панамі, непрыязнымі князю Польскаму (Баляславу)*, але і з літвінамі і іншымі няверными, якіх сцягнуў да сябе звязамі і прыслуханнем, каб смялей і бяспечней мог рушыць проці князя і права. <...> Два рыцары, Оля і Жэгота, гербу Тапор, невядома, ці па загадзе Баляслава Сарамлівага, ці без ведання, знайшлі яго і схапілі, і, падзяліўшы яго рэчы міжсобку, палоненага біскупа выправілі да замку Сярадзу <...>. Там, прыняты Лешкам Чорным**, князем Сярадзкім, і яго ўраднікамі, ён сядзеў пад старожай цэлы месяц.

* Баляслаў Сарамлівы, князь кракаўскі ў 1243–1279 гг.
** Лешка Чорны, князь сярадзкі ў 1261–1279 гг.



*Пячатка кракаўскага біскупа Паўла з Прэманкова, 1266–1292 гг.*

## год 1273

*Длугаш:*

<...> Знайшоў Баляслаў Сарамлівы, князь Кракаўскі і Судамірскі, распачаты некаторымі з шляхты бунт, які смылеў аддаўна, а цяпер выбухнуў пажарам. Спраўцам таго бунту меў быць, як паведамлялі, Павал, біскуп Кракаўскі. Ён цалкам аддаваўся сваволі, забыўся пра біскупскую дастойнасць, аддаваўся паляўнічым забавам, з ворагамі веры літвінамі ўкладаў яўныя звязы і ўгоды, каб бяспечней выступіць проці свайго князя і пана Баляслава Сарамлівага <...>. Потым бунтаўнікі, паводле парады Паўла, у вялікай моцы і ў збраях (бо лякаліся нападу Баляслава Сарамлівага, калі б даведаліся аб іхняй рэчы), рушылі і прасунуліся аж да манастырскага сяла Богушына, дзе іх сустрэла войска Баляслава Сарамлівага <...> і ўсчалася зацятая бітва. <...> Войска Баляслава зыскала перамогу, хаця не без значнага разліцця крыві.
<...>
Няверныя літвіны, з пасілкамі прусаў і жамойтаў, з магутным войскам увалiліся першага дня ліпеня ў Люблінскую зямлю, <...> большую частку згаданае зямлі Люблінскае разрабавалі, знішчылі бязлітасна забойствамі і падпаламі ды вывелі вялікі натоўп людзей, забраных у няволю, разам з іншымі лупамі і статкамі быдла. У той бядзе вінавацілі Паўла, біскупа Кракаўскага; хадзіла чутка, што ён справіў гэта проці князя Баляслава, свайго ворага, і проці зямлі Люблінскае, помсцячы за тых, якіх пабілі пад Богушынам, і што літвінаў, і так непрыязных веры хрысціянскай і палякам, а з ім збратаных і многімі звязамі злучаных, праз размаітыя пасольствы і лісты падбухторыў да ўчынення вайны проці князя Баляслава Сарамлівага і палякаў. <...>

## год 1274

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Тройдзень княжыў у Літоўскай зямлі, жыў з Львом* у вялікай міласці, яны слалі многія дары адзін аднаму. А з Валадзімерам** Тройдзень не жыў у міласці, дзеля таго што айцец Валадзімераў, князь Васілька, забіў на войнах трох братоў Тройдзеня. І вось дзеля таго не жыў з ім у міласці, але ваяваў з ім, але не вялікімі загонамі, а выпраўляў Тройдзень (ваяроў) пешкі, таемна ваюючы на Валадзімера, а Валадзімер гэтаксама ваяваў, і гэтак ваявалі цэлы год.

* Леў Данілавіч, князь галіцкі ў 1264–1301 гг.
** Валадзімер Васількавіч, князь валынскі ў 1269–1288 гг.

## год 1275

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Потым Тройдзень забыўся на міласць Льва, паслаў гараднянаў, загадаў узяць Дарагічын, і Трыд з імі быў, ён ведаў пра горад, як можна яго ўзяць, улезлі ўначы і так захапілі яго на самы Вялікдзень, збілі ўсіх ад мала да вяліка.

Гэта пачуў Леў і тужыў вельмі. І пачаў гадаць і паслаў да татараў да вялікага цэсара Менгу-Тымера*, просячы сабе помачы ў яго проці літвы. Менгу-Тымер жа даў яму рацы, і Ягурчына з імі ваяводу, і задняпроўскіх князёў усіх яму ў помач, Рамана Бранскага з сынам Алегам, і Глеба Смаленскага, і іншых князёў многа – бо тады былі ўсе князі ў волі татарскай. Прыйшла зіма і пачалі выпраўляцца князі рускія, і Леў, і Мсціслаў, і Валадзімер, і ішлі з імі князі Пінскія і Тураўскія, і ішлі яны міма Турава да Слуцка, тут злучыліся з татарамі ля Слуцка, і гэтак пайшлі ўборзе да Наваградка <...>. Мсціслаў жа не прыйшоў да іх, а ішоў ад Копыля, ваюючы па Палессі. <...> Думалі, узяўшы Наваградак, пайсці потым у зямлю Літоўскую, але сыйшлі дзеля гневу на Льва, і гэтак вярнуліся ад Наваградка ў свой край.

* Менгу-Тымер – цар Орды ў 1269–1282 гг.

## год 1276

*Дусбург:*

У той жа год, увосень, браты зноў з зброяй у руках уваліліся ў вышменаваную зямлю Пагезаніі* і зноў спустошылі яе агнём і мечам, узяўшы ў палон і забіўшы ўсіх, апрача нямногіх, якія сыйшлі з сваёю чэляддзю ў Літву, у воласць замку Горадні.
<...>
Скуманд, ваявода яцвягаў, з 4 тысячамі сваіх язычнікаў і вялікім войскам літвінаў моцна ўваліўся ў Кульмскую зямлю ў дзень 11 тысяч дзявіц і шматкроць адпомсціў за сваіх. <...> Яны таксама рушылі на гарады Граўдэнц, Марыенвэрдэр, Зантыр і Хрыстбург і ўсё, што б не траплялася на іхнім шляху, яны або забівалі, або паланілі, або спальвалі. Потым з вялізнаю лічбаю палонных яны сыйшлі. <...>

* Пагезанія – зямля на захадзе Прусаў з асяродкам у Эльбінгу

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Прыйшлі прусы да Тройдзеня з сваёй зямлі, няволяю перад немцамі. Ён жа прыняў іх да сябе і пасадзіў частку ў Горадні, а частку іх пасадзіў у Слоніме. <...>

*Ліст рызскага архібіскупа Яна, 1287 г.:*
(LECUB I, №507)

<...> Між вялебным айцом спадаром Янам*, папярэднікам нашым, тады архібіскупам Рыгі, братам Эрнэстам**, тады майстрам дому Тэўтонскага ў Ліфлянтах, і месцічамі Рыгі і ўсім хрысціянскім народам з аднаго боку, і гаспадаром Літвы на імя Тройдзень, ім самім і ягонымі падданымі, з другога боку была ўкладзена дамова аб міру***; і той князь да нашага добрае памяці папярэдніка, майстра і месцічаў Рыгі выправіў паслоў і пакорліва прасіў аб укладанні тое дамовы <...>. Але потым <...> той князь, здрадліва забыўшыся аб мірнай дамове, варожа ўваліўся ў нашыя землі і спустошыў іх пажарамі і рабаваннямі. <...>
Потым ад таго князя запатрабавалі, каб ён аправіў шкоду і гвалт, што ўчыніліся нашай зямлі на міру, і каб нашых палоненых паслоў ён бы адпусціў за тое, каб ягоных (простых) людзей, якіх паланілі, адпусцілі без адвалокі. Князь жа, абурыўшыся, прамовіў: “Хто такія тыя сяляне, псы? Калі раней меў мала бачання да іх, то і далей буду так чыніць”. І выправіў паслоў з такім адказам. <...>

* Ян фон Лунэ, архібіскуп Рыгі ў 1273–1284 гг.
** Эрнэст фон Ратцэнбург, ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфлянтах у 1273–1279 гг.
*** дамова была ўкладзена, відаць, у 1274 г.

## год 1277

*Дусбург:*

У гэты час моцнае войска літвінаў [Lethowinorum] увалілася ў Польшчу і, спустошыўшы агнём і мечам памежжы Брэсцкае*, Лянчыцкае і Добрыньскае, учыніла такое збіццё хрысціянаў, што ніхто не мог дакладна вызначыць іх лічбу. Неўзабаве 800 вершнікаў з Літвы разбурылі некаторую частку Польшчы <...>. Пабожны муж Лешка, князь кракаўскі, скупіўшы шмат тысяч людзей, падняўся на адну гару і мовіў: "Хто не з баязлівых, няхай падымецца да мяне, каб цяпер адпомсціць за знявагу Распятага". <...> Ён мужна напаў на ворагаў і па міласці Боскай <...> учыніў вялікае збіццё ворагаў веры [inimicos fidei] <...>.

* мова пра Брэст-Куяўскі

*Длугаш:*

<...> Няверныя літвіны многімі натоўпамі раптоўна і неспадзявана ў дзень св. Лукі Евангеліста наехалі на зямлю Лянчыцкую* <...> і, учыніўшы ў ёй разаніну, рабаванні і пажары, люта яе спустошылі. А як ім ніхто не чыніў адпору, яны, здаволіўшыся рабаваннямі, забіўшы многіх старцаў і дзяцей, а забраўшы ў палон мноства людзей, якіх лічба была да сарака тысяч, пагналі іх, разам з стадамі быдла і іншымі лупамі, у жахлівую няволю.

* Лянчыца – асяродак княства ў сярэдзіне Польшчы на паўднёвы захад ад Мазоўша

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Прыслаў Нагай* паслоў сваіх з граматамі, Тэгічага, Катлабугу і Ешымута, да Льва і Мсціслава і Валадзімера, мовячы гэтак: "Заўжды скардзіцеся на літву, вось жа даю вам рацць і ваяводу з імі Мамшэя, ідзеце ж з ім на ворагаў вашых". Прыйшла зіма і вось пайшлі князі рускія на Літву – Мсціслаў, Валадзімер, – а Леў не пайшоў, але паслаў свайго сына Юрыя, і гэтак пайшлі ўсе да Наваградка. <...>
І так, здумаўшы, рушылі да Горадні, прайшлі Ваўкавыск і сталі на ноч. <...> Тады ўцёк ад іх адзін уцякач да гораду і апаведаў гараджанам, што там людзі стаяць ля сяла, не зшыхтаваўшыся. Прусы ж і барты, выехаўшы з гораду, ударылі на іх уночы і пабілі іх усіх, а іншых паланілі і павялі ў горад <...>.
І пачалі сабе гадаць аб захопе гораду. І стаяла перад варотамі гораду вежа каменная высокая, а ў ёй замкнуліся прусы, і ніяк не было прайсці міма яе да гораду, бо пабівалі ўсіх з тое вежы. І гэтак прыступілі да яе, і захапілі яе, і вялікі страх і жах апанаваў горад, і былі быццам мёртвыя, стоячы на сценах гораду, дзеля захопу тое вежы, бо гэта была іхняя вялікая надзея. І пачалі думаць пра сваіх баяраў, як бы іх здабыць, але не здолелі ніяк. Мсціслаў жа і Валадзімер і Юрый уклалі з гараджанамі, што гораду ім не захапляць, а сваіх баяраў забраць. Баяраў сваіх забралі, а гораду нічога не ўчынілі, і гэтак вярнуліся ў свой край.

* Нагай – ордскі князь, валодаў землямі ў паўночна-заходнім Прычарнамор'і, у 1282–1291 гг. фактычны гаспадар Орды

## год 1278

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Тройдзень яшчэ княжыў у Літоўскай зямлі і паслаў раць вялікую на Ляхаў і брата свайго Сірпуція паслаў, былі з імі і яцвягі тады. І ваявалі каля Любліна тры дні, і ўзялі незлічонае мноства палону, і так прыйшлі з чэсцю вялікаю дамоў.

*Ліст ліфлянцкіх біскупаў:*
(LECUB I, №452)

<...> Калі нашыя купцы прыбываюць да русінаў дзеля таргоўлі, гэтыя русіны ля Дзвіны, пераступаючы цалаванне крэста і ўкладзеную дамову, захапляюць іх і перадаюць у рукі літвінаў, дзе іх могуць паланіць або зрабаваць <...>. Дзякуючы такім прыбыткам літвіны [Littwini] павялічваюць свае скарбы і яшчэ мацней нападаюць на нашу хрысціянскую веру <...>.

## год 1279

*Вартберг:*

У 1274 годзе майстрам быў брат Эрнэст*. Ён збудаваў замак Дынабург. <...> Ён учыніў вялікую выправу ў зямлю літвінаў да Кернава, і літвіны [Letwini], рушыўшы ў пагоню, забілі яго 5 сакавіка 1279 году разам з 71 братам ля Ашэрадэну; таксама забілі Эйларда з Обэргэну, старасту Рэвельскае** зямлі, разам з яго людзьмі, таксама рыцараў Тызэнгаўзэна і Генрыка Варангеля з многімі іншымі жыхарамі і пілігрымамі.

* Эрнэст фон Ратцэнбург – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфлянтах у 1273–1279 гг.
** Рэвель – сённяшні Таллін

*Рукапіс князя Чэрскага:*
(T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. IV. Wilno, 1838. s. 288-289)

У 1279 годзе Тройдзень, вялікі князь Літоўскі, захапіў у Мазоўшы замак на імя Бабін. Калі сам першы ўваліўся ў княскі палац, стала перад ім дзявіца цудоўнае прыгажосці з дагаю ў руцэ і забараніла ісці далей, бо ў далейшых пакоях ляжала хворая яе маці. Гэта была княжна Ганна Земавітаўна. Тая з'ява ператварыла лютага ваяра ў баранка. Тройдзень выбег да сваіх і заказаў чапаць непрыяцеляў: на той загад ваярскі гоман сціх і ва ўсім замку настала магільная цішыня, адно было чуваць, як тупалі мазуры, уцякаючы праз выламаную браму. Тройдзень вяртаецца ў дом, а ўзброеная княжна зноў заступае яму дарогу; тады Тройдзень просіць наведаць хворую княгіню, а княжна загадуе яму скласці зброю і зняць шалом з галавы. Тады і княжна была зачаравана, бо Тройдзень быў пярвейшы харашун сярод літвінаў. Ён уваходзіць у пакой, прыймае пададзеную яму руку княгіні і пачынае з ёю размаўляць. Тады адчыняюцца пабочныя дзверы і ўвальваецца князь Конрад, сын хворае княгіні, з мечам, жадаючы забіць Тройдзеня. Але маладая княжна вырывае меч з яго рук, баронячы жыццё свайго госця. Тое здарэнне сталася падставаю для яе жаніцьбы з Тройдзенем.

*Длугаш:*

Баляслаў*, князь Мазоўскі, сын Земавіта, паслюбіў дзявіцу Соф'ю, літвінку, дачку Літоўскага князя Тройдзеня, і адправіў годнае вяселле ў Плоцку.

* Баляслаў, князь мазоўскі ў 1262–1313 гг.

## год 1280

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Потым Леў пажадаў сабе часткі ў зямлі Лядскай, гарады на ўкраіне, ехаў да Нагая, помачы сабе просячы ў яго проці ляхаў. Ён жа даў яму помач Канчака, і Казея, і Кубатана. Прыйшла зіма і гэтак пайшоў Леў з татарамі і з сынам сваім Юр'ем, і Мсціслаў, і Валадзімер, і сын Мсціславаў Даніла пайшлі няволяю татарскаю.
І гэтак пайшлі ўсе да Судаміра, і прыйшлі да Судаміра, і пайшлі на іншы бок ракі Віслы, тут жа перайшлі раку па лёдзе ля самага гораду, спачатку перайшоў Леў з сваім палком і сынам сваім Юр'ем, пасля Мсціслаў і сын яго Даніла, таксама пасля іх татары, і гэтак перайшоўшы, сталі ля гораду, пастаялі мала часу, не біўшыся, потым пайшоў Леў з сваімі палкамі з моцаю вялікаю да Крапіўніцы, з пыхаю вялікаю жадаючы ісці да Кракава. <...> І Бог учыніў над ім волю сваю, бо забілі ляхі ад палка яго многіх баяраў і слуг добрых, і татараў частку забілі. І гэтак вярнуўся Леў назад з вялікім сорамам.

*Длугаш:*

Леў, князь Рускі, сын караля Русі Данілы, які між рускімі князямі ў той час як збройнаю моцаю, так і прасторнасцю сваіх валоданняў быў першым, заможны ў людзях і добрах, умысліў апанаваць зямлю Кракаўскую, Судамірскую і Люблінскую. Скупіўшы з татараў, літвінаў, яцвягаў і іншых народаў войска, як наймітаў, так і дабрахотных, ён трыма вялікімі загонамі з вялікаю лічбаю конных і драбаў уваліўся ў зямлю Люблінскую і ў неспрыяльны зімовы час (гэтак ужо прагнуў вайны) увесь гэты край пачаў рабаваць. Разрабаваўшы Люблінскую зямлю, уваліўся да Судамірскай зямлі, бо Вісла, у той час сцятая марозам, спрыяла яго пераходу. Рабуючы і забіраючы лупы, падыйшоў ён пад замак і места Судамір. <...> Дайшоўшы да сяла Госліцы за дзве мілі ад Судаміра, ён спаткаў польскае войска, якое Варш, кашталян кракаўскі, і ваяводы Пётр, сын Альберта, кракаўскі і Януш судамірскі прывялі ў малой і недастатковай лічбе <...>, і трэцяга дня лютага, у пятніцу, яны сыйшліся ў бітве. <...> Па крывавай бойцы, калі водцы першых рускіх загонаў палеглі пад мечамі палякаў, праз міласць божую такі страх напаў на гэтых барбараў, што яны пачалі, як шалёныя, уцякаць на ўсе бакі. Татары, толькі хвіліну чыніўшы адпор, таксама пусціліся ўцекі. <...> Князь Леў, водца той выправы, з малою горсткаю рыцараў, якія не ведалі дарогі, ратаваўся ганебнымі ўцёкамі.

## год 1281

*Справа між Рызскім архібіскупствам і Тэўтонскім ордэнам, 1312 г.:*
(LECUB II, №638)

<...> Архібіскуп Рыгі выправіў паслоў да гаспадара літвінаў [regem Latvinorum]. І гаспадар адказаў тым паслом, што не жадае перайсці ў іхнюю веру, бо яму хапіла прыкладу земгалаў, каб убачыць, што браты (Тэўтонскага ордэну) могуць учыніць з імі, як яны ўчынілі з земгаламі. І паслы вярнуліся і паведамілі аб гэтым архібіскупу. <...>

## год 1282

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Прыйшоў Нагай і Тэлябуга з ім на Вугры ў моцы цяжкай ў незлічоным мностве, і загадалі з сабой пайсці рускім князём, Льву, Мсціславу, Валадзімеру, Юрыю Львовічу <...>, бо тады былі князі рускія ў волі татарскай.

<...>

Баляслаў* жа яшчэ пышыўся сваім шалам, угледзеўшы такі час, прыйшоў у дзвюх сотнях, і ваяваў ля Шчакарова, і ўзяў дзесяць сёлаў, і гэтак пайшоў назад з вялікаю пыхаю, быццам усю землю захапіў. Потым Леў <...> пачаў шкадаваць, што Баляслаў ваяваў яго зямлю, і паслаў да брата свайго Валадзімера, мовячы яму гэтак: “Браце, складзем з сябе гэты сорам, пашлі ды нашлі літву на Баляслава”. Баляслаў жа паслаў Дуная насылаць літву, літва ж абяцалася яму гэтак учыніць і мовіла: “Валадзімеру, добры княжа, сапраўды можам за цябе галовы нашыя пакласці, калі табе патрэбна, то мы гатовы”. Леў жа і Валадзімер скупілі сваю рацъ і прыйшлі да Бярэсця, чакаючы літву, літва ж не паспела на рок. Леў жа і Валадзімер <...> пачалі ваяваць ля Вышгараду і захапілі чэлядзі незлічонае мноства, і быдла, і коні. Потым прыйшла літва да Бярэсця і пачала мовіць князю Валадзімеру: “Ты нас заклікаў, ты нас і вядзі куды трэба, а мы гатовы, на тое і прыйшлі”. Князь жа пачаў думаць, куды іх павесці, бо свая рацъ была ўжо сыйшла далёка на Баляслава, а рэкі ўжо разліваліся. І прыгадаў Валадзімер, што раней Лешка** насылаў люблінцаў і ўзяў пад ім сяло на памежжы на імя Воін, і нагадваў яму Валадзімер аб тым многа, каб яму вярнуў чэлядзь, а ён не вяртаў яму ягонае чэлядзі, і дзеля гэтага наслаў на яго літву, і ваявалі ля Любліна, і захапілі чэлядзі мноства і палону ўзялі, і гэтак пайшлі назад з чэсцю.

<...>

Валадзімер жа і Юрый пачалі рацъ сваю гатаваць на Баляслава. Валадзімер жа паслаў і літву заклікаў, і гэтак пайшлі ўсе, і Юрый князь з імі пайшоў на Баляслава. І быў ён у Мельніку, і прыслаў да яго айцец яго Леў, мовіў яму гэтак: “Сыну мой Юрый, не хадзі адзін з літвою, забіў я князя іхняга Войшалка, мабыць, пажадаюць помсту ўчыніць”. Юрый жа не пайшоў паводле слова айца, але паслаў рацъ сваю, і гэтак, ідучы, захапілі горад Сахачоў <...>.

* Баляслаў, князь мазоўскі ў 1262–1313 гг.
** Лешка Чорны, князь кракаўскі ў 1279–1288 гг.

**год 1283**

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Пажадаў пайсці Тэлябуга на Ляхаў і скупіў войска вялікае, <...> паслаў да задняпроўскіх князёў, і да валынскіх, да Льва, і да Мсціслава, і да Валадзімера, загадуючы ім ісці з сабой на вайну, бо тады былі ўсе князі ў няволі татарскай.
І так пайшоў Тэлябуга на Ляхаў, скупіўшы моц вялікую, і прыйшоў да Горына і сустрэў яго Мсціслаў з пітвом і з дарамі, і пайшоў адтуль ля Крэмянца да Перамышля, тут сустрэў яго Валадзімер князь з пітвом і з дарамі <...>.
Пайшоў Тэлябуга на Ляхаў, а з ім пайшлі ўсе князі няволю татарскаю, Леў князь з сынам сваім Юрыем, і Мсціслаў з сваёю раццю, і Валадзімер з сваёю раццю, і так пайшлі да Завіхоста, і прыйшлі да ракі да Віслы, <...> і перайшлі Віслу па лёдзе вышэй Судаміра, і прыступілі да гораду з усіх бакоў, але не даканалі нічога.
І пачалі ваяваць зямлю Лядскую і стаялі на ёй 10 дзён. Тэлябуга ж жадаў ісці да Кракава і, не дайшоўшы, вярнуўся да Таржку, вестка прыйшла да яго, што Нагай выперадзіў яго да Кракава прыйсці. І дзеля гэтага была між імі вялікая сварка.
І гэтак, не злучыўшыся з Нагаем, пайшоў назад у зямлю Льва <...>

*Длугаш:*

<...> Літвіны <...> скупілі большую моц, ніж раней, каб ім палякі не здолелі паставіць адпору, і чацвёртага дня кастрычніка, уваліўшыся раптоўна і неспадзявана праз Лукаўскі павет і тамтэйшыя лясы да Судамірскай зямлі, пазабівалі многа людзей па дарозе і расцекліся па сёлах і мястэчках.
А пазабіваўшы старцаў і дзяцей, моладзь, мужоў і дзявіц, захапілі многія статкі быдла і каля шасці тысяч палякаў, як шляхты, так і мяшчанаў і сялянаў, з якіх многа палегла пад іхнім мечам, і пагналі іх у сваю няволю.
<...>
Павал, біскуп Кракаўскі, якога многія вінавацілі, што ён быў спраўцам леташняга нападу літвінаў, па загадзе Лешка Чорнага, князя Кракаўскага і Судамірскага, калі ён быў у мястэчку Лагаве, быў схоплены пасланымі жаўнерамі і зноў пасаджаны ў вязніцу замку Сярадзу. Седзячы там некаторы час, зазнаў людзкага і прыстойнага абхаджэння.

*Ніканаўскі летапіс:*

У той год літва ваявала на немцаў і з вялікім палонам вярнулася.

*Дусбург:*

Скончана Пруская вайна, пачынаецца Літоўская вайна.
У год ад нараджэння Хрыстова 1283, у той час, калі ад пачатку вайны з народам прусаў мінулася ўжо 53 гады і ўсе народы ў той зямлі былі пераможаны і знішчаны, так што не засталося жаднага, хто б пакорна не схіліў сваю шыю перад святою Рымскаю царквою, вышменаваныя браты дому Тэўтонскага распачалі вайну з тым народам, магутным і ўпорлівым і загартаваным у бітвах, які быў найбліжшы да зямлі Прускай і жыў за ракою Неманам у зямлі Літоўскай <...>.

## год 1284

*Дусбург:*

У год ад Нараджэння Хрыстова 1284 гэты майстар (Конрад фон Тырберг), яшчэ не здаволіўшыся вайной з няверными [infidelium], сабраў вялікае войска і з водцам Скумандам улетку рушыў на замак Горадню, і падчас пераправы праз Неман паставіў у належных месцах стральцоў, і, калі яны прысунулі лесвіцы да сцен, між імі ўсчалася так вялікая бойка, што баязлівыя не пасмелі б глядзець на такое. Ім, якія мужна штурмавалі, абложаныя моцна выпіраліся і з кожнага боку было многа параненых. Наастатку, па волі божай, браты ўваліліся моцным націскам і, усіх забіўшы або паланіўшы, запалілі замак. Пасля 1800 чалавек увайшлі ў воласць памянёнага замку, пустошачы ўсё навакол агнём і мечам, і, узяўшы ў палон і забіўшы многіх, яны сыйшлі з вялікімі лупамі. У гэтай воласці быў забіты адзін барт*, які ўцёк з Пагезаніі, а падчас апошняга вераадступніцтва** паланіў комтураў Хрыстбурга і Эльбінга з іхнімі дружынамі.

* барт – жыхар прускае зямлі Бартыі
** “вераадступніцтвамі” крыжакі менавалі паўстанні прусаў проці Тэўтонскага ордэну

*Густынскі летапіс:*
(ПСРЛ, т. 40. с. 126)

У той год шмат ваявала Русь з Мазоўшам і брала сабе ў помач Літву.

## год 1285

*Ніканаўскі летапіс:*

У той год літва ваявала Цверскага біскупа царкоўную воласць Алешку і іншыя. І скупіліся цверычы, і масквічы, і валачане, і новаторжцы, і дзмітраўцы, і зубчане, і ржэвічы і, наганіўшы іх, білі, і палон аднялі, і князя іхняга Даўмонта захапілі.

*Дусбург:*

У год ад Нараджэння Хрыстова 1285 адзін скалоў* на імя Гірдыла, які некалі, да свайго хросту, быў вельмі паважаны сярод сваіх, выхваляўся, што мог бы справіць вялікія ўчынкі проці літвінаў, калі б меў сто ўзброеных людзей. Калі браты далі яму іх, ён рушыў з імі на замак Закаймы**, і, як гэты здраднік загадзя справіў, людзі з гэтага замку, скупіўшыся, нечакана напалі на іх і забілі ўсіх, апрача нямногіх, што ўцяклі.

* скалоў – жыхар прускае зямлі Скаловіі
** Закаймы – замак у Жамойці ля мяжы з Куроніяй

## год 1286

*Длугаш:*

Конрад*, князь Мазоўскі і Чэрскі, дужа ўзлаваны тым, што замак Гастынін з ваколіцай аднялі ад яго дзяльніцы і княства і далучылі да валоданняў Валадыслава Лакатка**, яго стрыечнага брата, князя Брэсцкага і Куяўскага, жадаючы вярнуць гэты замак, намовіў і заклікаў дзеля таго русінаў і літвінаў. <...> Калі ж літвіны і русіны ў азначаны дзень пакрыёму і ціха падыйшлі, а віжы Конрада ўсё даканалі, быў узяты і апанаваны замак Гастынін, хутчэй зрадаю князя Конрада і яго прыхільнікаў, ніж моцай і зброяй. А тады, здабыўшы замак, літвіны і русіны такую страшэнную разаніну ўчынілі люду ў замку, што большая яго частка пала пад іхнімі мечамі, а астачы былі палонены гэтымі барбарамі. <...> Але нядоўга цешыўся Конрад Мазоўскі з сваім рыцарствам: тыя самыя літвіны і русіны, якія яму далі помач дзеля апанавання замку Гастыніну, у тым жа годзе, наехаўшы на Мазоўша, занялі замак Сахачоў, а замак Плоцкі, нядбайна сцеражоны, спалілі, прытым пазабівалі многа людзей абодвае плоці, а частку вывелі ў няволю.

* Конрад Чэрскі, князь мазоўскі ў 1264–1294 гг.
** Валадыслаў Лакаток, князь брэст-куяўскі ў 1275–1300 гг., у 1320–1333 гг. кароль Польшчы

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Хадзіла Літва ўся і Жамойць уся на немцаў да Рыгі. Немцам падалі вестку і яны паўцякалі ўсе ў гарады. Літва ж прыйшла да гораду і не ўчыніла нічога. І адтуль пайшла на Латыголу і дайшла да гораду Мядзвежая Галава* і не даканала ля яго нічога, і гэтак вярнулася ў свой край, забраўшы мала палону. <...>

* Мядзвежая Галава (Адэнпе) – цвержа на поўдні Эстоніі



*Бітва крыжакоў з літвінамі*
*(барэльеф 14 ст. з крыжацкага замку ў Мальбарку)*

## год 1287

*Вартберг:*

У 1282 годзе майстрам стаўся брат Вілікін фон Ніндорф*. <...> Калі Вілікін у адной выправе проці земгалаў дайшоў да аднаго месца, што завецца Грозэ, то быў забіты з 34 братамі і іншымі ў 1287 годзе, на другі дзень па Звеставанні.

* Вілікін фон Ніндорф – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфляндах у 1282–1287 гг.

*Дунамюнцкія рочнікі:*
(Regesta Lithuaniae. t. I. Varsaviae, 1930. №654)

Майстар з 35 братамі ордэну быў забіты літвінамі.

*Длугаш:*

Літвіны, прусы, жамойты <...> уваліліся ў Добрыньскую зямлю <...>, найперш сталечнае места Добрынь* у дзень нядзельны, калі жыхары ніякага нападу непрыяцеляў не чакалі і слухалі набажэнства, гвалтам захапілі. Потым разрабаваўшы і падпаліўшы места, забіўшы старцаў і дзяцей, астачы люду ў месце і па сёлах схапілі і звялі ў страшэнную няволю. Паведамлялі, што лічба забітых і параненых даходзіла да трох тысяч абодвае плоці.
<...>
Татары <...> вялізнаю ордаю рушылі да Польшчы пад даводствам Нагая і Тэлябугі. Наведаўшы па дарозе землі Русі, якія ім тады плацілі даніну, набралі стравы і спярша ўваліліся ў землі Люблінскую і Мазоўскую, а потым у ваколіцы Судаміра, Сярадза і Кракава <...>. Кляштар святога Крыжа на Лысай гары, за радай русінаў, якія ім спадарожнічалі ў той выправе, яны занядбалі <...>. Проці Калядаў яны прыбылі пад Кракаў і пачалі яго здабываць, але, страціўшы колькі знакамітых ваяводаў, з вялікім енкам ад яго сыйшлі і пачалі рабаваць прадмесці і сёлы <...>. Апанаваны надзвычайным страхам і не маючы надзеі на свае войскі, князь Лешка Чорны разам з жонкаю Грыфінаю і найвышшымі панамі ўцёк у Вугоршчыну. Татары ж, даведаўшыся аб уцёках князя Лешка ў Вугры, разрабавалі ўсю зямлю Кракаўскую і Судамірскую пад самы Сач і аж да Татраў.

* Добрынь – асяродак польскага княства на захад ад Мазоўшы

*Дусбург:*

У год ад нараджэння Хрыста 1285 Конрад, святар з Нямеччыны, пайшоў у зямлю Літвы, каб навараціць тамтэйшы народ. Па двох гадох яго мешкання там літвіны [Lethowini] забілі яго.

## год 1288

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

<...> Кандрат* <...> паехаў уборзе да Любліна, і ляхі зачынілі горад, а Кандрата не пусцілі да сябе. І спыніўся Кандрат на гары ў мніхаў <...>. Потым паведамілі Кандрату, што раць ідзе да гораду, і думалі, што гэта літоўская раць, і злякаліся, і ўцёк Кандрат у вежу манастырскую з баярамі сваімі і слугамі, і Дунай Валадзімераў з ім. Раць жа падыйшла да гораду, і ўбачылі, што гэта руская раць <...>.

* Конрад Чэрскі, князь мазоўскі ў 1264–1294 гг.; у 1262 г. быў у палоне ў Літве

## год 1289

*Галіцка-Валынскі летапіс:*

Тады князь літоўскі Будыкід і брат яго Будывід далі князю Мсціславу* горад свой Ваўкавыск, каб з імі мір трымаў <...>.

* Мсціслаў Данілавіч, князь луцкі ў 1264–1292 гг.

*Траецкі летапіс, Ніканаўскі летапіс:*

У той жа год князь вялікі Міхайла Яраславіч Цверскі <...> паслаў Андрэя, ігумена манастыра Прачыстае, у Кіеў да Максіма, мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі, і паставілі яго біскупам у Цвер. Гэты Андрэй быў родам літвін [Литвинъ], сын Гердзеня, князя Літоўскага.

## год 1290

*Дусбург:*

У той жа год, проці Ўшэсця Гасподняга, брат Эрнекон, комтур Рагнеты*, па загадзе майстра выправіўся па вадзе на Літву, жадаючы выведаць некаторыя навіны, і былі з ім брат Яган з Вены і 25 драбаў. Калі яны праходзілі міма вышменаванага замку Калайны**, Сурмін, тамтэйшы стараста, прызваў да сябе жыхароў замку і абмеркаваў з імі, як бы падмануць братоў. І пасля таго, як прапанавалі многія спосабы падману, спыніліся ўрэшце на тым, каб адзін з іх, які ведаў польскую мову, апрануўшы жаночую вопратку, устаў бы, калі яны будуць праходзіць міма, на беразе Немана і прасіў, каб яго ўзялі на карабель і вызвалілі з палону язычнікаў. Вось чаму адзін літвін на імя Нода, адважны муж (які аднак пасля, навярнуўшыся ў веру Хрыста, шчасна спачыў у ёй), узяўшы з сабой для выканання згаданае справы 60 чалавек, прыйшоў у патрэбнае месца і загадаў, каб той, апрануты ў жаночую вопратку, сеў на беразе, а іншыя чакалі непадалёк. Неўзабаве, калі комтур, спаўняючы сваю справу, наблізіўся, гэты здраднік пачаў жаласлівым голасам клікаць і маліць, каб яго ўзялі на карабель і душу яго, уратаваную крывёю Хрыста, вызвалілі ад службы д'яблу. Калі, пачуўшы гэта, брат Эрнекон зліытаваўся над ім і падыйшоў да берага, ён, зараз ухапіўшы за карабель, моцна трымаў яго і, калі прызваў сваіх супольнікаў, яны напалі на іх і ўсіх забілі.

* Рагнета – крыжацкі замак на ніжнім Немане
** Калайна – літоўскі замак на ніжнім Немане

*Ліст ліфлянцкага ляндмайстра Бальтазара Хольтэ да прускага ляндмайстра:*
(LECUB I, №538)

<...> Вы будзеце мець магчымасць гэтай зімой справіць паход проці варожых літвінаў [Lettowinos], тых, якія жывуць у Жамойці, мы ж з свайго боку, як раней пісалі вам, будзем здольны ў той час цягнуць у зямлю князя Бутыгіда [Butegeyde]. <...>
Наастатку мы скупіліся ў дзень св. Катарыны ўсе разам, як біскупы, так і капітаны, ваяры і слугі, і на працягу трох дзён малілі рыжанаў з нязмернымі выдаткамі і вялікаю працаю і накладамі, але не мелі ніякага спору, бо яны адзінадушна адмовілі нам у помачы нашаму паходу проці літвінаў [Lettowinos] за Дзвіну, апрача аднаго архібіскупа Рыгі, улада якога вельмі малая і занядбаная <...>.

## год 1291

*Дусбург:*

Лютавер*, гаспадар Літвы, таксама ў тым годзе сына свайго Віценя з вялікім войскам наслаў на Польшчу ў зямлю Брэсцкую**, і ён учыніў там шмат шкоды праз забойствы і паланенне людзей, агнём і мечам. Казімір і Лакаток, князі Польшчы, якія дбалі аб ратаванні сваіх людзей, звярнуліся да брата Мейнікe***, майстра Прусаў, па помач. Калі ён, прыйшоўшы з вялікім войскам, пачаў біцца з згаданымі няверньмі [infideles], згаданыя князі з усімі сваімі палякамі ўцяклі. Убачыўшы гэта, браты, злякаўшыся, што ў іх не стане моцаў процістаяць такой плойме, таксама адступілі, але не без вялікае шкоды для сваіх людзей, бо многія браты і іншыя хрысціяне, перш чым здолелі з чэсцю выйсці з гэтае бітвы, былі цяжка паранены.

* Лютавер (Lutuwerus) – Раўданскі рукапіс кажа, што бацькам Віценя быў Лютавор, вялікакняскі намеснік у Полацку

** мова пра Брэст-Куяўскі

*** Мейнікe фон Квэрфурт – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Прусах у 1287–1299 гг.

## год 1293

*Длугаш:*

<...> Віцень, князь Літоўскі, з вялікім войскам русінаў і літвінаў уваліўся ў Прускую зямлю і на працягу 80 дзён цэлы край спустошыў. Потым на яго напалі крыжакі і перамаглі, і ён, страціўшы вялікую лічбу сваіх, ледзьве сыйшоў.

## год 1294

*Длугаш:*

<...> Віцень, князь Літоўскі з 1800 вершнікамі, сабранымі з Літвы, Русі і Жамойці, уваліўся ў Лянчыцкую зямлю. <...> Літвіны, прайшоўшы праз лясы і боры ў такой таемнасці, што іх ніхто не бачыў, ў чацвер па Тройцы напалі на Лянчыцкі калегіяцкі касцёл, дзе люд абодвае плоці, што скупіўся там на набажэнства, часткова пазабівалі, часткова захапілі ў няволю. Пралатаў, канонікаў і святароў, слуг божых, нялітасціва паймалі ў лыкі, шаты касцёльныя, святыя начынні і клейноты парвалі ў лупы. Іншых жыхароў, якія схаваліся ў Лянчыцкім касцёле і ў ім мужна бараніліся, забілі і спалілі, падпаліўшы прылеглыя дамы вакол касцёла, з якіх полымя перайшло і на сам касцёл. Потым яны расцекліся па сёлах і валасцях і, забраўшы вялікія лупы ў людзях і статках быдла, хутка павярнулі ў свой край.

Казімір*, князь Лянчыцкі, <...> рушыў у пагоню за гэтымі барбарамі. Дагнаўшы іх у сяле Жукаве недалёка ад мястэчка Сахачова над ракою Бзураю, а паводле іншых, ля сяла Траянава, дарма што меў меншае войска за сваіх непрыяцеляў, ударыў на літву. Усчалася крывавая бітва, у якой <...> Казімір, пабіты і пераможаны вялікім натоўпам барбараў, адважна б'ючыся сярод мацнейшых загонаў літвы, загінуў слаўнаю смерцю. <...> Літвіны зыскалі перамогу і вялікія лупы: захапілі такую лічбу палоненых палякаў, што, як паведамлялі, кожны літвін атрымаў дваццаць хрысціянаў.

* Казімір, князь лянчыцкі ў 1288–1294 гг.

*Князі Мазоўшы: Баляслаў II, Тройдзень, Казімір, Земавіт III, Януш і Баляслаў IV (малюнак 15 ст.)*



*Дусбург:*

У тым жа годзе Баляслаў*, князь Мазоўшы, адрынуўшы страх перад Богам, на знак пагарды да Бога і ў шкоду і цяжкасць хрысціянам не раз даваў прытулак ворагам веры літвінам [hostes fidei Lethowinos] у сваім замку Візне, дазваляючы ім разбураць землі Прусаў і Польшчу. І ён не жадаў адмовіцца ад гэтага, хаця многія разважна напаміналі яго. Вось чаму брат Мейнікe, майстар – даўнімаючы, што аблуда, якой няма выпірання, пагаршаецца і што цнатлівым ёсць той, хто шчыра выступае процi зладзейства, – ён, скупіўшы многіх вояў, захапіў згаданы замак і ўшчэнт спаліў яго.

У той час брат Людвік фон Лібенцэль быў комтурам Рагнеты. З сваімі братамі і драбамі ён учыніў шмат слаўных бітв з літвінамі. <...> Немагчыма напоўніцу выпісаць, колькі бітв ён учыніў процi іх. Але ў колькіх словах скажу, што ён быў так варожы процi іх, што за шэсць гадоў, калі ён стаяў на чале згаданага замку, ён прымусіў усіх літвінаў, што жылі на беразе Немана, ад ракі Нары аж да зямлі Ламоціны, укласці мір з хрысціянамі пад умоваю, каб яны давалі яму штогод нейкую даніну. І вось цуд, колькі ліха ён учыніў ім, усё ж яны так мілавалі яго, што і баяры, якія мелі тады ўладу ў Жамойці, узнімалі просты люд процi гаспадара літвінаў [regem Lethowinorum], так што шматкроць яны схадзіліся ў бітвах з гэтым гаспадаром, дзе часам у адной бітве было забіта 100, або 200, або мноства з кожнага боку. І ніколі падчас свайго княжання гаспадар Літвы не мог дамовіцца з жамойтамі, каб разам рушыць на вайну процi братоў.

* Баляслаў, князь мазоўскі ў 1262–1313 гг.

*Густынскі летапіс:*
(ПСРЛ, т. 40. с. 125)

Віцень пачаў княжыць над Літвою. Умысліў сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячатку: рыцар збройны на кані з мечам, што цяпер называецца Пагоня.

**год 1295**

*Дусбург:*

У той год Баляслаў, князь Мазоўшы, пра якога ўжо была мова, шкадуючы аб разбурэнні свайго замку Візны, далучыў да сябе літвінаў [Lethowinorum] і з іхняй помаччу адбудаваў яго. Калі аб гэтым даведаўся майстар, то, дужа раззлаваўшыся (бо лякаўся, што для яго і ягоных людзей, для веры і верных зноў паўстануць прыкрасці), загадаў усім сваім людзям, ад старога да малога, гатавацца да вайны, каб усімі моцамі выпірацца гэтаму будаванню. <...>

## год 1296

*Длугаш:*

Віцень, князь Літоўскі, з вялікім войскам уваліўся ў Кульмскую зямлю і, не спаткаўшы адпору ад Прускага майстра, які ўнікаў бітвы, спустошыў яе зброяй, рабаваннямі і пажарамі <...>. Потым ён павёў войска на Ліфлянты. Даведаўшыся аб тым, комтур Балгі Зігфрыд і другі комтур з Кёнігсбергу сваім парадкам уваліліся да Літвы і абклалі замак Горадню. Але не здабыўшы яго, а толькі ўчыніўшы забойствы, рабаванні і пажары, калі даведаліся, што Літоўскі князь не рабуе Ліфлянты, а вяртаецца ў свой край, спешна цягнулі назад, забраўшы з сабой тысячу душ палону.

## год 1298

*Дусбург:*

У год ад Нараджэння Хрыстова 1298 Віцень, гаспадар літвінаў [rex Lethowinorum], на просьбу месцічаў Рыгі захапіў замак Каркус*, паланіўшы чатырох братоў і іхнюю дружыну, і, калі, спустошыўшы межы згаданага замку агнём і мечам, ён жадаў вяртацца ў сваю зямлю, брат Бруно, майстар Ліфлянтаў, з невялікім войскам ідучы ўтропы за ім, напаў на яго ў календы чэрвеня на беразе мора ля ракі Трэйдэры, і, хаця з рук ворагаў былі вызвалены амаль тры тысячы хрысціянаў, а з боку няверных [infidelium] было забіта 800, князь усё ж зыскаў перамогу і забіў майстра з 22 братамі і 1500 вернымі. <...>

* Каркус – крыжацкі замак у паўднёвай Эстоніі

*Вартберг:*

У 1298 годзе, за тыдзень па Тройцы, тыя ж (рызскія) месцічы, скупіўшыся з літвінамі [Letwinis], забілі майстра Бруно разам з 60 братамі і незлічоным мноствам народу, калі ён ганіў іх ля ракі Трэйдэры. Пасля гэтага збіцця больш за трох тысяч чалавек літвіны раздзялілі з рыжанамі лупы і вярнуліся ў свой край. Потым тыя ж месцічы збудавалі ля ўваходу ў свой горад замак для тых няверных [infidelibus], які і дагэтуль завецца “замкам літвінаў” [Castrum Letwinorum]. У тым жа годзе яны разам з літвінамі аблягалі Неенмюлен, дзе ў дзень апосталаў Пятра і Паўла іх пабілі і скінулі ў ваду. <...>

*Пасланне ліфлянцкіх купцоў у Любек, 1311 г.:*
(LECUB VI, №2770)

<...> У год Гасподні 1298 тэўтонаў зрабавалі ў Пскове <...>. І навагародцы і псковічы цалавалі крэст на тым, што ўсе добры вярнуць, за выняткам 17 марак срэбра <...>; гэтыя добры аддалі літвінам [Lethowinis] <...>.

## год 1299

*Длугаш:*

Шасцьсот літвінаў-рыцараў, уваліўшыся ў Прускую зямлю, спустошылі яе. Выйшаў проці іх комтур Брандэнбургскі з вялікаю моцаю коннага і пешага рыцарства і стаяў у зямлі Натангскай* таемна некаторы час у засадах, спадзеючыся, што пераможа літвінаў неспадзяваным нападам. Але як літвіны доўга не падыходзілі, крыжацкае войска разышлося. Тым часам падыйшлі літвіны і зямлю Натангскую разрабавалі дашчэнту, прытым дзвесце пяцьдзясят хрысціянаў часткаю забілі, часткаю забралі ў няволю.

* Натангія – зямля на ўсходзе Прусаў

## год 1300

*Роспіс епархій Канстантынопальскага патрыярхату:*
(Zeitschrift für Kirchengeschichte, XIII, 1892. S. 266)

Літва, дыяцэзія, якая існуе ў Вялікай Русі, сталася мітраполіяй за гаспадара цара Андроніка*.

* Андронік II Палеалог – бізантыйскі цэсар у 1282–1328 гг.

*Густынскі летапіс:*
(ПСРЛ, т. 40. с. 128)

У той год русь скупілася з ваяводам сваім Пятром Галкаю і з татарамі і з літвою ўвалілася ў Судамірскую зямлю, ушыркі і ўдоўжкі яе агнём і мечам разрабавала, у Корчыне замак спаліла і з вялікаю карысцю вярнулася.

## год 1301

*Длугаш:*

У тым жа годзе літоўскае войска ў лічбе шасці тысяч чалавек люта разрабавала Добрыньскую зямлю і забойствамі і рабаваннямі спустошыла яе. Польскае рыцарства рушыла ў пагоню за літвінамі, але не здолела адбіць у іх лупы, пакінутыя ў сховах у лясох. Тым часам літвіны, прагнучы яшчэ большых лупаў, уваліліся ў Кульмскую зямлю і пачалі шырыць у ёй забойствы і рабаванні. Але крыжакі, рушыўшы ў зброях, паразілі іх дашчэнту, семдзесят чалавек паклалі забітымі, засталых прымусілі да ўцёкаў, а захопленых у няволю добрыньскіх дзявіц адбілі і вызвалілі з палону.

## год 1302

*Длугаш:*

<...> Паны і шляхта зямлі Кракаўскае і Судамірскае, уважаючы тое за вялікую для народу ганьбу, што русіны, у часе дамовых закалотаў і войн у Польшчы замак і зямлю Люблінскую гвалтам апанаваўшы, колькі гадоў яе дзяржалі і, адарваўшы ад Польшчы, загарнулі пад сваю ўладу, дзеля згладжання тое ганьбы наважыліся рушыць проці іх у зброях. Скупіўшы войска адно з зямлі Кракаўскае і Судамірскае, рушылі з ім пад Люблін. Рускія князі <...>, як толькі даведаліся аб той выправе і відавочна ў ёй пераканаліся, заклікалі ў помач, як просьбамі, так і падарункамі, літвінаў, татараў і іншых барбараў і гэтак стварылі з сваіх і з дапаможных загонаў войска, дужэйшае за польскае.
Калі палякі наблізіліся да Любліна, русіны выйшлі проці іх і, справіўшы свае гуфы да бою, учынілі бітву. <...> Усё войска русінаў, літвінаў і іншых барбараў было пераможана і разбіта. Многія былі забіты або захоплены ў палон. Некаторыя, уцёкшы з пагрому, схаваліся ў Люблінскім замку, дзе іх палякі абклалі і сціснулі голадам. Убачыўшы сябе ў цяжкім становішчы і не маючы спадзявання на атрыманне якое-кольвечы помачы <...>, паддаліся яны разам з замкам палякам, якія ўцешаныя перамогаю і здабычаю, вяртаннем як замку, так і зямлі Люблінскае, з славаю вярнуліся дадому. Гэтак Люблінская зямля праз міласць Божую была зыскана з рук квапнае русі.

### год 1304

*Дусбург:*

У той жа год, узімку, брат Эбергард фон Бірнебург, комтур Кёнігсбергу, з дзвюма тысячамі вершнікаў рушыў на Літву. Але трэба сказаць і аб тым, што брат Конрад фон Ліхтэнгайн, комтур Брандэнбургу, з вялікім войскам рушыў раней за яго, ідучы на воласць замку Горадні, якую разрабаваў агнём і мечам, хаця не многа ўчыніў там, калі вершнікі Літоўскае зямлі сабраліся ў гэтай воласці. <...>

*Длугаш:*

У свята Пяцідзясятніцы літоўскае войска, уваліўшыся таемна і без весткі да Лянчыцкай зямлі, спустошыла яе забойствамі і рабаваннямі. Увалілася яно і да самаго места Лянчыцы і, апанаваўшы яго без адпору, знішчыла пажарамі. <...>
У той жа час, калі літвіны рушылі на Польшчу, падбіў майстар Прускі свайго брата Альберта фон Гайна напасці і апанаваць замак Горадню, а калі тая выправа не ўдалася, прыбыў сам асабіста, але знайшоўшы ў замку моцную залогу, неўзабаве сыйшоў з усім войскам. Тады літвіны, напаўшы на яго, білі і гналі прусакоў аж да палудня. У той бойцы было многа забітых і параненых з аднаго і другога боку.

### год 1305

*Дусбург:*

У год ад Нараджэння Хрыстова 1305, проці свята Прачыстае, брат Філіп фон Болант, фогт біскупа самбійскага, і 11 братоў з 200 ваярамі спалілі тры вёскі гаспадара літвінаў [regis Lethowinorum], паланіўшы і забіўшы людзей. У той час гэты князь быў сярод амаль усіх найвышшых людзей свайго княства, якія скупіліся на нейкую раду або сойм, і калі ён даведаўся аб гэтым, то пагнаўся за імі, а з ім 1500 чалавек. А браты ўжо прыйшлі ў такое месца, дзе пачуваліся цалкам у бяспечнасці, і, як наперадзе ішлі 200 чалавек з адным братам, яны, склаўшы зброю, з жменькаю людзей ішлі ўтропы за тымі. І тут раптам на іх напаў князь з сваімі людзьмі і ў першай бойцы брата Боланта-малодшага, пляменніка згаданага фогта, працяў дзідаю адзін русін. Калі фогт убачыў гэта, узрушылася ў ім міласць і, адкінуўшы назад свой шчыт і схапіўшы меч, ён абедзвюма рукамі адцяў галаву забойцы свайго пляменніка. <...>

*Румбарцкі рочнік:*

Была бітва з літвою ля Дубны, дзе пан Ганус Штовэн комтур Ашэрадэну забіты.

### год 1306

*Дусбург:*

<...> Пасля вяртання таго войска брат Эбергард, комтур Кёнігсбергу, даведаўшыся, што яно ўчыніла, і спадзеючыся, што, як пасад разбураны, будзе снадна захапіць замак, з сотняю братоў і шасцю тысячамі конных напаў на згаданы замак Горадню. Але гаспадар Літвы, пачуўшы аб разбурэнні пасаду таго замку, выправіў найлепшых мужоў і многіх, загартаваных у бітвах, для абароны. Вось чаму здарылася, што, калі браты напалі на замак, жыхары замку з свайго боку моцна выпіраліся і выйшлі на бітву, якая доўга трывала між імі. Наастатку браты павярнулі іх на бег. Тады, вярнуўшыся ў замак, праз нейкі час яны намагліся і зноў рушылі ў бітву, і так здаралася шматкроць ад усходу сонца да палудня. І часам гэтыя ціснулі тых, часам наадварот. У гэтай бітве многія з няверных [infidelibus] былі смяротна паранены і многія палеглі. З нашых было паранена 12 братоў і 300 чалавек, а брат Герман фон Эльстэрберг, працяты стралой у шыю, пасля памёр.

<...>
У той час, калі адзін літвін [Lethowinus] з Эйраголы, вязень свайго князя, даў з рады аднаго русіна, з якім разам сядзеў у вязніцы, аброк Богу прынесці нейкую меру воска за сваё вызваленне, то зараз ланцугі, якімі ён быў скаваны, разбіліся, а дзверы вязніцы адчыніліся і ён уцёк.

*Адказ пракуратара Тэўтонскага ордэну на апеляцыю рызскага архібіскупа:*
(LECUB II, Reg. 714, p. 17)

<...> У зямлі князя Ноўгарада, дзе ўжо 50 гадоў і больш жывуць чысленыя хрысціяне дзеля гандлю, купцы з Рыгі і заморскіх гарадоў, паводле іхняга паведамлення, былі зрабаваны літвінамі. Таму далейшы гандаль быў пад страхам пакарання горлам забаронены, каб прымусіць таго князя вярнуць захопленыя тавары. Аднак гандаль як і раней працягваўся і наастатку ўсякія забароны былі скасаваны. <...>

## год 1307

*Длугаш:*

Літвіны <...> таемнаю выправаю праз лясы і пустэчы ўваліліся ў Вялікую Польшчу і месты Каліш і Ставішын, а таксама сёлы ў іхняй ваколіцы, разрабавалі. <...> Князі Польскія і Мазоўскія, праз землі якіх рушылі літвіны, забіраючы лупы, ані спяшаліся вызваліць сваіх жыхароў, ані ўздымалі зброю проці ворагаў, бо тыя былі занадта страшныя.
Але майстар Прускі Генрык фон Плоцке*, якраз у той час паднесены на пасаду майстра, родам сакс, даведаўшыся, што літвіны ўваліліся ў Польшчу дзеля яе рабавання, а Літва засталася без абароны, выправіў сваім парадкам войска на рабаванне Літвы. Яно, карыстаючы з цёмнае імжы, падступіла пад замак Горадню, у якім была моцная залога літвінаў, і, знайшоўшы браму адчыненай, раптоўна напала і ўсю залогу, няздольную ставіць адпор, забіла або забрала ў няволю. Разрабаваўшы і падпаліўшы замак, гэтае войска вярнулася ў свой край. Комтур Кёнігсбергу, незадаволены, што ваяры пакінулі замак Горадню, гэтак важны дзеля свайго размешчання, і не пакінулі ў ім залогі, навaратам рушыў да яго з тым жа войскам. Але ён знайшоў замак ужо апанаваны літвінамі і, разважыўшы, што дарэмна будзе спрабаваць яго здабыць, адно разрабаваў ваколіцы і вярнуўся ў свой край. <...>

* Генрык фон Плоцке – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Прусах у 1307–1309 гг.

*Вартберг:*

У 1307 годзе ў свята св. Пракеса і Мартыніяна была бітва з літвінамі [Letwinis] ля Рыгі.

## год 1308

*Длугаш:*

<...> Князь Літоўскі <...> скупіў вялікае войска літвінаў і русінаў і, уваліўшыся ў зброях у Прусы, разрабаваў іх мечам і пажарамі. Забраўшы вялікія лупы, ён з вялікаю лічбаю палонных і захопленага быдла вяртаўся ў Літву. Але Генрык, маршалак Прускі, дагнаўшы яго 14-га дня жніўня пад лесам, менаваным Галенбоке, распачаў бітву, хаця і бачыў перавагу непрыяцеля. У той бітве абодва бакі біліся так зацята і з такім разліццём крыві, што абодва бакі здаваліся і пабітымі, і пераможцамі. <...>

## год 1310

*Румбарцкі рочнік:*

Гвазэлют, сын гаспадара Літоўскага, ваяваў Ліфлянцкую зямлю. На наступны год сам гаспадар аблягаў замак Ропу.

*Васкрасенскі летапіс:*

<...> Гердзенеў сын хрысціўся і быў уладыкам у Цверы, ён на Пятра* цудатворцу ўчыніў закалот; звалі яго Андрэем, пісаў на цудатворцу хлуслівыя словы <...>.

* Пётр, мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1305–1326 гг.



*Біскуп Андрэй вянчае цверскага князя Міхайлу з малжонкаю (урывак мініятуры з Аблічнага зводу, 16 ст.)*

*"Напісанне" мніха Акіндына* да вялікага князя цверскага Міхайлы Яраславіча:*
(ПДКП, №16)

<...> Ты бачыш, як герэзія расце і множыцца, бессаромна нетаемнымі вуснамі абвяшчаецца, пачалася звычаем, агідным Богу, ад старэйшых святароў нашых і да меншых: міласць Святога Духу, што не для продажу, узводзяць у куплю і бяруць ад высвячэння мітрапаліту ад біскупа, і ад папа, і ад д'якана, і ад іншых прычэтнікаў; таксама і біскупу ад усяго прычту, што пад ім, ад першых і да апошніх <...>. Яны не саромеюцца духарацця і ганебным звычаем узводзяць сабе ў работу, купляюць і прадаюць. <...> Тых, хто чыніць такое, сусветныя зборы святых айцоў з іншымі мясцовымі зборамі паўсюль выклялі і адкінулі гэты звычай жыдоўскі. Бо жыды, памыліўшыся ў плоцевым бачанні, Сына Божага, зганіўшы, ускazалі на смерць; а гэтыя Параклета, жыватворчага да ўсяго, адзінае чэсці і адзінае славы з Айцом і Сынам, ганяць, пакладаючы ніжэй за стваронае. <...> Тое бачыў я на ўласныя вочы і аб тых рэчах выпраўлены быў сваім біскупам да сусветнага патрыярха Канстантынграду і да ўсяго святога збору на чале з патрыярхам Ніфантам і Афанасіем Ерусалемскім і іншымі мітрапалітамі 36; і судом і адказам усіх адпавёў мне патрыярх: калі і менш за палову гіперпера або што меншае – называцца будзе рэччу крыві і таргоўляю, будуць тыя роўныя Юдзе і не будуць мець учасці з Хрыстом ані тут, ані ў прышлым веку. <...> Гаспадар ты ёсць у сваёй зямлі, княжа; будуць цябе катаваць на страшным і некрывадушным судзе Хрыстовым, калі будзеш маўчаць мітрапаліту. <...>

* "Напісанне" Акіндына, складзенае каля 1312 г., агулам выкладае пазіцыю цверскага біскупа Андрэя Гердзеневіча на Пераяслаўскім збору 1310 г., на якім біскуп Андрэй вінаваціў мітрапаліта Пятра ў герэзіі святакупства

## год 1311

*Дусбург:*
(таксама: Y. Voigt. Geschichte Preußens. Bd. IV. Königsberg, 1830. S. 280)

У той жа год, проці Вербнай Нядзелі, Віцень, гаспадар Літвы, мяркуючы, што ўсё паводле яго волі мусіць належыць яму як раней, з 4 тысячамі лепшых людзей цягнуў у Прускую зямлю і так злупежыў Вармійскае біскупства, што не пакінуў анічога за межамі замку і ўмацаванняў, што не было б спалена, захоплена або забіта. У гэтай і папярэдняй вайне ён учыніў вялікую шкоду цэрквам, царкоўным шатам і начынню, святаром і святыням царкоўным, і апрача іншага дабытку, які быў вельмі вялікім, ён звёў з сабой больш за 1200 палонных хрысціянаў.

І вось, калі гэты князь, зневажальнік імя Ісуса Хрыста [blasphemus nominis Jesu Cristi], прыйшоў у пушчу ў зямлі Бартыі, на поле, што завецца Ваплаўкі, ён, запышыўшыся, хваліўся, які ён моцны моцаю войска свайго, і, угледзеўшы сярод лупаў касцёльнае начынне з сакрамантам, узяў яго ў рукі і мовіў палонным хрысціянам, што стаялі перад ім звязаныя:

“Ці гэта ёсць ваш бог? Чаму ж ён вам не памагае, як нам наш бог? Бачыце, што ён ёсць немачны, кажу вам”.

І зараз кінуў яго на зямлю, плюнуў на яго і, прыцісну́ўшы ступнёй, мовіў:

“Не дбайце аб тым богу вашым! Што гэта, тое, што абагаўляеце? хлеб? хлеб не можа быць богам, гэта пустая забабона; гляньце на маю моц, якую мне даў наш бог, прыймеце нашу веру, бо бог ваш ані вас, ані сам сябе абараніць не можа; наш жа бог учыніў так, што вы ў маёй няволі”.

<...>

У той час адзін літвін [Lethowinus], які быў каморнікам гаспадара літвінаў, быў у палоне ў замку Балга*. Ён пад страхам страты абяцаў перадаць замак Горадню ў рукі братоў, калі яго вызваляць з кайданоў. Даўшы яму веры, браты, умовіўшыся, як і калі гэта ўчыніць, дазволілі яму вольна сыйсці. Але калі ён прыйшоў да свайго князя, то пра ўсё наказаў яму. Брат Генрык фон Плоцке, вялікі комтур, не ведаючы аб яго здрадзе, рушыў з многімі братамі і 5 тысячамі ваяроў і, калі яны набліжаліся да замку Горадні, то схапілі аднаго старога з віжоў князя; ён, каб уратаваць сабе жыццё, перасцярог братоў аб тым, што князь з вялікім моцным войскам стаў станам ля Горадні і так загадаў, што, калі браты з паловаю войска свайго перайдуць праз раку Неман, ён з сваімі людзьмі мусіць напасці на іх і забіць, а пасля гнаць другую частку. Пачуўшы гэта, браты, аддаўшы падзяку Богу, які міласціва ўратаваў іх ад гэткае небяспекі, цэлыя вярнуліся назад.

* Балга – крыжацкі замак у Варміі, сярэдняй частцы Прусаў

## год 1312

*Віганд:*

Мінула нямнога часу і было ўкладзена замірэнне, падчас чаго князь (літоўскі) мовіў да прэцэптараў (Ордэну): “Адзін з вас, які меў жалеза на чале, пакрыўдзіў мяне і я жадаю новае сустрэчы з ім”. Майстар паказаў яго князю. Звалі яго Тузэмер*. Князь мовіў да яго: “Тваім вострым мечам ты мала не забіў мяне”, а той мовіў у адказ: “Так бы і здарылася, калі б я ведаў, хто мне трапіўся”.

* Tusemer – імаверна, пазнейшы вялікі майстар Тэўтонскага ордэну Генрык Дузэмер (1345–1351).

## год 1313

*Длугаш:*

25-га дня красавіка <...> Баляслаў, князь Мазоўскі, <...> памёр у Вышгарадзе і быў пахаваны ў Плоцкім касцёле. Тры яго сыны і наступцы, Земавіт, Тройдзень і Ванько, атрымалі па ім княства Мазоўскае. Ён меў дзве жонкі, адну літвінку*, вельмі высакародную дзяўчыну, якая нарадзіла яму двох сыноў, Земавіта і Тройдзеня**, і адну дачку; а другую з Чэхіі <...>.

* Соф'я-Гаўдымунда, дачка вялікага князя Тройдзеня; аб ёй гл. пад 1279 г.
** Тройдзеня назвалі на чэсць дзеда, вялікага князя літоўскага

*Ліст эстонскіх біскупаў і бюргераў да ўлад Рыгі:*
(LECUB II, №645)

<...> Вы сталіся асаблівымі сябрамі няверных літвінаў [infidelium Lethowinorum], дзеля даўняга гандлю, які ідзе між вамі і імі, і з тымі літвінамі вы гандаль прыязна захоўваеце <...>. Вы ведаеце, што браты (Ордэну) тым літвінам, якія ёсць у вашым горадзе або каля яго, дазваляюць з усёй бяспекай вяртацца да свайго краю, і калі тыя літвіны [Lethowini] жадаюць з мірам вярнуцца, браты (Ордэну) дый іншыя хрысціяне не чыняць ім ніякае шкоды або пераказ. <...>

*Вартберг:*

У 1309 годзе майстрам стаўся Гергард Ёрк*. Ён зноў адбудаваў у 1313 годзе замак Дынабург, які браты разбурылі, каб вызваліць з паганскага палону рыцара Яна Ікскуля, захопленага літвінамі [Letwinis] у замку Герцыке.

* Гергард фон Ёрк – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфлянтах у 1309–1322 гг.

## год 1314

*Дусбург:*

У той жа год, у верасні, той жа брат Генрык*, маршалак, з усёю моцаю войска свайго рушыў да зямлі крывічоў [terram Criwicie] і той горад, які завецца малым Ноўгарадам** [parva Nogardia], захапіў і ўвесь разбурыў; а зямлю навакол дужа разбурыў агнём і мечам і, стаўшы там станам, заначаваў ля замку згаданага гораду. На другі дзень ён з сваім войскам наблізіўся да замку і моцна штурмаваў яго, так што з абодвух бакоў некаторыя былі забіты, а многія смяротна паранены. Але як гэты штурм быў марным, яны адступілі, і калі прыйшлі да месца, дзе пакінулі старожу сваёй прыправы, то знайшлі, што 30 чалавек забіты Давыдам***, намеснікам Горадні, а 1500 коней, хлеб, а таксама частка напояў і іншага, што яны там пакінулі, зніклі. Такім чынам, калі ўзлаваныя браты пайшлі да другога стану і там таксама не знайшлі зусім ані хлебу, ані іншага, што яны пакінулі, яны рушылі ў дарогу і многія дні былі без хлебу. Адных голад прымусіў есці свае коні, другіх – зёлкі і карэнні, трэція памерлі з голаду, многія, знясілеўшы з голаду, памерлі пасля вяртання, а засталыя пад канец шостага тыдня з дня выправы вярнуліся.

* Генрык фон Плоцке, маршалак Тэўтонскага ордэну
** Наваградак
*** Давыд Даўмонтавіч, князь гарадзенскі

## год 1315

*Длугаш:*

<...> Віцень, князь Літоўскі, з вялікім войскам літвінаў, жамойтаў і іншых народаў уваліўся ў Прусы і абклаў замак Хрыстмемель*, які жадаў захапіць, і сямнаццаць дзён штурмаваў яго з вялікаю ўпартасцю, кідаючы кулі з вялікіх ручніц. А калі дзвесце рыцараў, выпраўленыя майстрам Прускім Генрыкам**, спрабавалі патрапіць у замак да абложаных, яны ўсе палеглі, забітыя літвінамі. Калі майстар Генрык аб тым даведаўся, ён скупіў шэсць тысяч збройных, як конных, так і драбаў, і рушыў на ворагаў. Але Літоўскі князь, якому віжы паведамілі аб набліжэнні Прускага майстра, пакінуў аблогу і рушыў да свайго краю. Майстар Генрык, як не здолеў нагнаць князя, які сыходзіў, рушыў да зямлі непрыязнае літвы і многіх літвінаў часткова забіў, а часткова забраў у няволю. <...>

* Хрыстмемель – крыжацкі замак на Немане на мяжы Прусаў з Жамойцю
** Генрык фон Плоцке, былы ляндмайстар, у 1312–1320 гг. маршалак Тэўтонскага ордэну

## год 1316

*Длугаш:*

Маршалак Прускі Генрык Плоцке, родам сакс, узяўшы з сабой адно почт уласнага рыцарства, рушыў да Літвы і знішчыў павет Пастаў агнём і рабаваннем <...>. Потым майстар Прускі Генрык з яшчэ большым войскам рушыў на Літву і, захапіўшы і знішчыўшы агнём ніжнюю частку замку Гедыміна* (бо вышняя была добра абаронена) і ўбачыўшы, што не здолее вывабіць абаронцаў да бітвы, падзяліў войска на чатыры часткі і загадаў на ўсе бакі шырыць рабаванні і пажары. Тады многія літоўскія паветы, раней некранутыя, зазналі рабаванні і пажары і вялікую лічбу людзей звялі ў няволю. <...>
Помсцячы тое крыўды, Давыд, стараста літоўскага замку Горадні, з васьмю сотнямі збройных людзей уваліўся ў Прусы і спустошыў забойствамі і пажарамі павет Вунсторф, таксама захапіўшы вялікую лічбу палонных. Але калі ён вяртаўся, за ім у пагоню рушыў комтур Тапявы і, учыніўшы бітву, адбіў у яго ўсіх палонных, паклаў на пляцу пяцьдзясят пяць літвінаў, а засталых прымусіў да ўцёкаў.

* мова пра айчызны замак Гедыміна ў Эйраголе

## год 1317

*Ліст папежа Яна XXII да вялікага князя Гедыміна:*
(Monumenta Poloniae Vaticana. t. III. Cracoviae, 1914. №139)

<...> Праз аднаго чалавека ўвайшоў грэх і ўвайшла смерць у зямны свет, і гэтак смерць пераходзіць да ўсіх людзей, бо ніхто не здольны ўнікнуць панавання д'ябла, ніхто не здольны ўнікнуць вечнага палону кайданоў, ніхто не можа выйсці на дарогу жыцця без Сына Божага, які адзін мілуе і карае <...>.
Зычым, каб у тваім сэрцы заўсёды захоўваліся ратавальныя таемствы ісціны каталіцкае веры [catholice fidei], якою першыя апосталы падтрымвалі верных Хрысту, без якой ніхто ніколі не ўбачыць Бога, якую захоўвае святая рымская царква, яе кажа і ёй навучае, – каб у ейным святле і дастойнасці з народам, табе падпарадкаваным, адкінуўшы ранейшыя грахі і цемру аблуд [cecitatis errore], прыняўшы таемствы хросту, веру тую вы моцна захоўвалі, каб вы і народ ваш, збавёныя Боскаю міласцю, па дачасным жыцці былі далучаны да выбраных Божых <...>.
Калі ты пажадаеш, дзеля нашых просьб і наказанняў, схіліць свой розум да наварачэння да Бога, будзе вельмі цешыцца нашае сэрца ў Госпадзе і вялікая маці нашая царква <...>.

## год 1319

*Длугаш:*

<...> Прылучаем тут гэтыя лісты папежа, на сведчанне таго, аб чым апавядаем: "Ян* біскуп, слуга слуг божых. Вялебным братом, архібіскупу Гнезненскаму і яго суфраганам, здароўванне і апостальскае дабраслаўленне. <...> Цяпер Польскае каралеўства, якое некалі квітнела багаццямі, трапіла пад частыя наезды татараў, літвінаў, русі і іншых няверных, якія польскі народ, нібыта нованавярачоны да веры, шматкроць заганяючы ў няволю, намаўляюць на ганебныя ланцугі і прымушаюць праз хлусню на Збаўцу пакінуць святло праўдзівае веры і служыць балвахвальству <...>".

* Ян XXII, папеж у 1316–1334 гг.

## год 1320

*Длугаш:*

Маршалак Прускі Генрык фон Плоцке, жадаючы справіць доўга адвалаканую выправу проці літвінаў, урадзіў войска конных і драбаў і з сарака братамі Ордэну, водцамі рыцарства, уваліўся ў Літву і Медніцкі* павет як толькі мог забойствамі і пажарамі спустошыў. У той час літвіны і жамойты, не зляканыя тым няшчасцем, узялі зброю і ўчынілі засаду ў логах аднаго лесу, праз які мелі вяртацца крыжакі. І пасцінаўшы навакол усе вялікія дрэвы, падгатавалі здраду проці Прускага маршалка і яго войска. Калі ж маршалак, не ведаючы аб такім подступе, увайшоў з сваім войскам да лесу, хутка абкружылі яго літвіны, нібыта ў нерат схапіўшы, і спярша ён сам з пярвейшымі рыцарамі палег пад мечамі, а потым усе іншыя часткаю былі выцяты, часткаю трапілі ў няволю. <...>

* мова пра Меднікі ў Жамойці



*Вяселле князя Міхайлы Цверскага і Марыі Гедымінаўны (мініятура з Аблічнага зводу, 16 ст.):*

"У той год [1320] ажаніўся князь Дзмітрый Міхайлавіч Цверскі <...>, прывёў за сябе з Літвы дачку Гедыміна князя".

## год 1322

*Длугаш:*

<...> У той час сам князь Літоўскі выправіўся ў зброях да Ліфлянтаў, біскупства Дорпацкае і іншыя паветы рабаваў і агнём нішчыў і пяць тысяч хрысціянаў, палоненых у Ліфлянтах, з вялікім мноствам лупаў вывеў у Літву. Жадаючы помсціць за такое няшчасце, хрысціянскае войска, дарма што ўжо пачыналася зіма, учыніла другую выправу на літвінаў і жамойтаў, але дзеля неспрыяльнае пары, нічога не ўчыніўшы, вярнулася ў Прусы.

Тады Давыд, староста літоўскага замку Горадні, дарма што была халодная пара, уваліўся з вялікім войскам у Прусы і спустошыў Рэвельскі павет у Ліфлянтах. Забіўшы вялікую лічбу хрысціянаў, папаліўшы касцёлы, захапіўшы святыя судзіны, часткаю пазабіваў, а часткаю захапіў у няволю святароў і з пяццю тысячамі палоных і многімі лупамі вярнуўся ў свой край.

Тое ж зімы літвіны і жамойты захапілі і апанавалі места Мемель*, а таксама тры суседнія замкі. Пазабіваўшы многа хрысціянаў і захапіўшы многа палонных, забралі з сабой шмат лупаў, а места і замкі знішчылі агнём. Неўзабаве потым наехалі на павет Вілаў, учынілі ў ім забойствы і пажары, забілі комтура Тапявы**, чыста пабіўшы яго войска, і з вялікім натоўпам палонных і многімі лупамі вярнуліся да Літвы.

Таксама Давыд, староста літоўскага замку Горадні, рабаваў Мазоўша і, спустошыўшы і спаліўшы сёлы, касцёлы і мястэчкі і дзе-нідзе пазабіваўшы людзей, вялікі натоўп сялянаў вывеў у Літву.

* Мемель (цяпер Клайпеда) – крыжацкі замак у Куроніі
** Тапява – крыжацкі замак у Прусах на рацэ Прэгель недалёка ад Кёнігсбергу

*Румбарцкі рочнік:*

Літва замкі Дэрпт і Кірумпу аж да Рэвеля дашчэнту разбурыла і забіла тры тысячы людзей.

## год 1323

*Пскоўскія летапісы:*

<...> І паслалі псковічы да Давыда князя ў Літву, і прыехаў Давыд князь на сырапусным тыдні ў чацвер, а князь Юрый* яшчэ быў у Пскове. І гэтак князь Давыд з псковічамі паехаў за Нарову і паланіў зямлю Нямецкую да Калываня**. А князь вялікі Юрый паехаў з Пскова да Ноўгарада. <...>
Потым прайшло 8 тыдняў, месяца траўня ў 11-ы дзень прыйшлі немцы да Пскова з пыхаю, у вялікай моцы <...>. Потым праз божую помач прыспеў князь Давыд з Літвы з людзьмі сваімі. І праз помач Святое Тройцы і малітваю князя Ўсевалада і князя Тымафея***, скупіў войскі з мужамі псковічамі і прагнаў іх за Вялікую раку, і парокі іхнія адняў, і грады і іншыя іхнія добры спаліў; і ўцяклі немцы з вялікім сорамам. <...>

* Юрый Данілавіч, князь маскоўскі ў 1303–1325 гг., навагародскі ў 1322–1325 гг.
** Калывань – рускі назоў Рэвеля (Талліну)
*** князя Даўмонта-Тымафея шанавалі ў Пскове як мясцовага святога

*Румбарцкі рочнік:*

Псковічы, узяўшы літву ў помач, зямлю караля данскага* паваявалі і вывелі ў палон пяць тысяч людзей. У той жа год літва Мемель спаліла. У той жа год вялікі князь Літвы быў абвешчаны.

* то бо Эстонію

*Дусбург:*

У той час Давыд, наместнік у Горадні, з войскам літвінаў [Lethowinorum] уваліўся ў Рэвель, зямлю караля Даніі, і, апрача бязмернае шкоды, учыненае ім гэтай зямлі агнём і мечам, паланіў і забіў больш за пяць тысяч шляхетных хрысціянаў, жанчын, дзявіц і другіх людзей абодвае плоці. Забіў ён таксама многіх святароў, прыходскіх і манастырскіх. Святыні, цэрквы, шаты, святое начынне і ўсё, зніταванае з набажэнствам, ён не па-людску апаганьваў і рабаваў. <...>

Аб разбурэнні княства і гораду Добрыньскага і забойстве і палоне 9 тысяч хрысціянаў.

У дзень Узвіжання Святога Крэста ў тым жа годзе літвіны [Lethowini], бачачы, што ўсё ідзе паводле іхняе волі, зноў скупіўшы моцнае войска, пайшлі на княства шляхетнае матроны, княгіні Добрыня, і захапілі шэсць тысяч чалавек абодвае плоці, адных забіўшы, а іншым учынілі прыкрую страту, звёўшы ў няволю і службу свайму язычніцтву [gentilitatis]. Апрача таго, сем парафіяльных святароў і двох братоў ордэну святога Бенедыкта і з імі 600 клерыкаў, як з ордэну так і не з яго, што знайшлі ўнутры тое школы і па-за ёю, забілі. <...> Вось якое зло веры хрысціянскай і верным адбывалася на працягу палутара гадоў, бо амаль 20 тысяч хрысціянаў было забіта няверными [infidelibus] і зведзена ў вечную няволю, і многія гарады і замкі былі дашчэнту разбураны.

*Ліст мескае рады Рыгі ў Любек:*
(Послания Гедимина, №15)

<...> Потым, яшчэ да таго як праз згаданых паслоў быў укладзены згаданы агульны мір с князем (Літвы) і яго людзьмі, слаўны гаспадар, каталік, князь Мазоўша, які надовечы злучыўся паводле хрысціянскага абраду слюбам з дачкою князя Літвы*, у гэтага князя праз заложныя просьбы атрымаў у помач сабе войска літвінаў [lethowinorum], каб павесці іх процi сваіх ворагаў, то бо ў зямлю цёткі сваёй з боку маці, княгіні Добрыня. Перад самым укладаннем згаданага міру гэтае войска спешна вярнулася ў сваю зямлю. <...>

* мазоўскі князь Вацлаў каля 1318 г. ажаніўся з дачкою вялікага князя Гедыміна Данмілаю-Альжбэтаю

*Ліст мескае рады Рыгі да вялікага князя Гедыміна:*
(Послания Гедимина, №7)

Слаўнаму спадару Гедыміну, божаю міласцю гаспадару літвінаў і русінаў, радцы гораду Рыгі зычаць здароўя ў Госпадзе.

Чынім вам ведама, што мы атрымалі вашае пасланне, адпраўленае нам надовечы, з якога даведаліся, што вы гатовы ўкласці з намі мір, падобна таму, як мы ўкладалі з вашым братам і папярэднікам, добрае памяці Віценем, і, апрача таго, каб мы без боязі выправілі да вас паслоў. Таму ведайце, што мы дзеля гэтага ахвотна выправілі б да вас нашых паслоў, але не можам учыніць гэтага дзеля братоў (Ордэну). <...> Таму мы пільна і ўставічна молім вашую міласць, каб ніякага апрычонага міру з тымі братамі вы не ўкладалі, апрача як з згоды трох бакоў <...>

Потым, вы прасілі пісьмовага адказу аб справах нашага архібіскупа. Таму ведайце, што спадар наш архібіскуп у рымскай курыі датычна вышменаваных братоў, як нам верагодна вядома, уісціў жаданага, і мы спадзяемся, што сам ён праз Боскую міласць неўзабаве прыбудзе з добраю весткаю. <...>

Чынім ведама вашай княскай міласці, што браты (Ордэну) у розныя спосабы чыняць нам вялікія клопаты тым, што яны, дарма што ўкладзены мір, не страшацца бязлітасна забіваць нашых гараджанаў, як у самім горадзе, так і за яго межамі. Так што мы не ведаем, ці не пажадаюць яны калісьці захапіць нас і наш горад. Таму мы пільна молім вашую міласць, каб вы, калі згаданыя браты пажадаюць напасці на нас, у любым выпадку прыйшлі б нам у помач, як абяцалі нам у вашым пасланні <...>.

Таксама даведаліся мы, што спадар Давыд* зараз сеў на княжанне ў Пскове. А як вы з ім асабліва блізкія прыяцелі, то мы пільна просім вашую міласць рачыць учыніць так, каб праз вашае важкае заступаванне ён стаўся бы прыяцелем нашага гораду і заступнікам нашых гараджанаў, бо яны почасту ездзяць праз яго землі. А мы гатовы ўзычаць паслугі.

* князь Давыд Гарадзенскі

## год 1324

*Ліст папежа Яна XXII да вялікага князя Гедыміна:*
(Послания Гедимина, №12)

<...> У пачатку таго ж ліста напісана, што ты прызнаеш, згодна з Боскімі наказаннямі, адзінага Бога Айца, Сына і Святога Духа [te asseris unum esse Deum Patrem et Filium et Spiritum Sanctum] і ў гэта шчыра верыш і гэта дзержыш, лічачы нас ад самаго Госпада Бога, праўдзівага і жывога, пастырам і настаўнікам усіх, хто шукае збавення <...>.

Таму мы з айцоўскай любасцю жадаем, каб ты, не адвалакаючы ў сваім збавенні, заслужыў далучыцца да грамады выбраных і ўспрыняў міласць сапраўднага наварачэння і даспанавання, ува што верыць і што захоўвае маці рымская царква, ва ўсім адхіляючыся ад аблуд схізматыкаў [derelictis omnino schismaticorum erroribus], наказанні якіх зводзяць з дарогі святла і пракладаюць пуць у цемру.

Вось чаму мы з рады нашых братоў (кардыналаў) рачылі выправіць да цябе і да краін, што прыслухаюць тваёй уладзе, асаблівых нунцыяў <...>, каб яны ў гаспадарстве тваім абвясцілі Евангелію і казалі Бога і Госпада нашага Ісуса Хрыста, і разумна настаўлялі і выхоўвалі вас у ісціне артадаксальнае веры, то бо веры святое каталіцкае і апостальскае рымскае царквы, каб успрыняўшы, дзякуючы іхнім ратавальным наказанням аб хросце, самаго Ісуса Хрыста Сына Божага, ты і народ твой, якія, мабыць, яшчэ не адрадзіліся ў хросце, мелі ласку ўмацавацца святым таемствам і ўпрыгожылі яго слаўнае імя захаваннем хрысціянскае веры. <...>



*Вялікі князь Гедымін на стальцу*
*(урывак мініятуры з Аблічнага зводу, 16 ст.)*

*Апаведанне папскіх паслоў аб сустрэчы з вялікім князем Гедымінам:*
(Послания Гедимина, №14)

<...> Князь паслаў за намі, але калі мы прыйшлі, мы знайшлі яго ў княскіх палатах разам з яго радцамі, прыблізна дваццацю, што нам было вельмі непрыемна, бо мы спадзяваліся знайсці яго аднаго. <...> Пасля мы нагадалі князю, як ён выправіў свой ліст да спадароў радцаў Рыгі <...>: і папеж з вялізнаю радасцю прыняў той ліст <...>; і папеж выправіў, згодна з жаданнем, аб якім вы пісалі спадару апостальскаму намесніку і архібіскупу, пасцівых у Хрысце айцоў і спадароў, маючых вялікую ўладу, <...> якія выпраўлены дзеля вашага наварачэння, якога доўга прагнулі вы і вашыя продкі, і з вялікаю нецярплівасцю жадаюць яны бачыць вас, бо яны выпраўлены сюды дзеля вашага збавення і ўзвышэння вашага княства.

Тады князь спытаў, ці ведаем мы, што было ў лісце, які ён даслаў да спадара апостальскага намесніка (папежа), і да архібіскупа, і да ўсяго свету. Мы адказалі, які быў змест граматы: што дзей князь жадаў прыняць веру Хрыста і хрысціцца.

Тады ў адказ ён пачаў казаць, што не загадваў пісаць гэтага, а калі брат Бертольд напісаў, то няхай гэта падзе на яго галаву. (І сказаў):

“Калі ў мяне калісьці было такое жаданне, то няхай д’ябал мяне пахрысціць. <...> Няхай хрысціяне моляцца Богу паводле звычаю іхняе веры, русіны паводле іхняга абраду, палякі паводле іхняга звычаю; самі ж мы будзем маліцца Богу паводле нашага абраду – дыкжэ ўсе мы сцім аднаго Бога [et nos colimus Deum secundum ritum nostrum, et omnes habemus unum Deum]”.

## год 1325

*Ліст папежа Яна XXII да польскага караля Валадыслава:*
(VMPL, №338)

<...> У абароне веры проці няверных народаў, якія адхіляюць Бога, <...> вы і верныя рымскае царквы з іншых зямель вакол Польскага каралеўства зазналі напады, рабаванні і паланенні схізматыкаў, татараў і язычнікаў, і іншых народаў, змяшаных з няверными. <...> І мы даем дараванне грахоў усім верным, хто ў абарону каталіцкае веры ў згаданым каралеўстве <...> рушыць проці схізматыкаў, татараў, язычнікаў або іншых няверных <...>. І ты, мілы нам сыну, <...> адхіляючы нязбожнасць згаданых няверных народаў, ззяеш святлом правае веры, а вы, іншыя верныя Хрысту, у той абароне веры проці згаданых схізматыкаў, язычнікаў, татараў і іншых няверных, атрымваеце плод, варты вашае працы <...>.

*Длугаш:*

Валадыслаў, кароль Польскі, <...> выслаўшы да Гедыміна, у той час гаспадара Літвы, сватаў, прасіў дачку свайму сыну Казіміру* ў малжонства, якое мела прынесці ў пасагу не золата і не срэбра, невядомае тады літвінам, але ўсіх палонных палякаў, зняволеных у мінулыя гады і вывезеных у Літву. Князь Літоўскі Гедымін удзячна і з радасцю прыняў тое пасольства і згадзіўся, пад узаемна пагоджанымі ўмовамі, на звяз і прыязнь, ды, аддаўшы сваю дачку каралеўскім паслом, вызваліў усіх палонных палякаў, усякага стану, плоці і веку, і выправіў іх да Польшчы, айчыннага іхняга краю, здаровымі і без шкоды.
Калі нявеста, упасажаная зваротам тых палонных, прыбыла да Кракава, была абвешчана ў веры Нанкерам, біскупам кракаўскім, і, адкінуўшы аблуды народнае веры і былое народнае імя, прыняла хрост у кракаўскім касцёле проці свята Пятра і Паўла і была названа Ганнаю. Потым Казімір, каралевіч Польскі, які тады меў ужо каля шаснаццаці гадоў, пры аблічнасці сваіх бацькоў, а таксама польскіх пралатаў і паноў, у тым жа касцёле кракаўскім падчас набажэнства, якое ўрачыста адпраўляў Нанкер, біскуп кракаўскі, паслюбіў тую Ганну. Вяселле адбывалася ў Кракаве з каралеўскаю пышнасцю і паўсюднаю радасцю. Па ўкладанні такога звязу між Польшчаю і Літвою <...> сціхлі войны, якімі раней мардавалі адна адну Польшча і Літва, пачалі абодва краі жыць спакойна, у вялікай міжсобку згодзе і міласці.

* Казімір III, кароль Польшчы ў 1333–1370 гг.

## год 1326

*Заява літоўскага пасла Лесія ў Рызе:*
(Послания Гедимина, №17)

<...> Я абвяшчаю і моўлю ад імя гаспадара майго Гедыміна, вялікага князя літвінаў <...>, і жадаю, каб вы добра ведалі, што згаданы князь, гаспадар мой, разам з усімі сваімі падданымі і тымі, хто жадае далучыцца да яго, жадае строга трымаць мір, укладзены надовечы між хрысціянскімі народамі і намі, літвінамі [nos lethowinos] <...>.
Дыкжэ калі згаданы мір быў укладзены і змацаваны, а я быў, як і цяпер, выпраўлены, як вам усім вядома, у гэтыя землі паслом ад гаспадара майго вялікага князя, мяне ў Ашэрадэне, разам з маімі падарожнымі і почтам захапілі ў палон браты Тэўтонскага ордэну, зрабавалі, перавозілі з замку ў замак, паддавалі часам турботам і трымалі ў цяжкім палоне, пакуль паслы гаспадара папежа сваімі пратэстамі, заявамі і праз свае мандаты не вызвалілі нас, вольных і пасцівых людзей, з палону і кайданоў, разам з забранаю ў нас маёмасцю. Няхай заплаціць ім за нас наш Госпад Бог. Спадарожнікаў жа маіх, русінаў, выпраўленых разам са мной, тыя ж браты зноў зрабавалі ў сваім замку Дынабург, калі тыя, вярнуўшы сваю маёмасць, пасля палону вярталіся дамоў. <...>

*Дусбург:*

У год ад Нараджэння Хрыстова 1326 Лакаток*, кароль Польшчы, прасіў Гедыміна, гаспадара літвінаў, чыю дачку яго сын надовечы паслюбіў, каб ён даслаў яму вояў з народу свайго. Ён, уісціўшы яго просьбу, выправіў да яго 1200 коннікаў. Яны на загад вышменаванага Лакатка разам з яго народам у зброях уваліліся ў зямлю маркграфа Брандэнбургу каля гораду Франкфурту** і ўсё, што да яго цягне, а гэта больш за 140 вёсак, столькі ж парафіяльных касцёлаў, тры брацтвы мніхаў цыстэрцыянскага ордэну і два жаночых манастыра і шмат манастыроў чорных і белых мніхаў, злупежылі агнём і мечам <...>.
Яны забівалі мужчын, але жанчын і многіх шляхетных жонак з дзяўчатамі і дзецьмі зводзілі ў палон. Сярод гэтых дзяўчат была адна шляхетная, якой не было роўнай па хараству; дзеля авалодання ёю ўсчалася гарачая пярэчка між літвінамі, але, каб яна не перайшла ў бойку, адзін чалавек падыйшоў і рассек яе мечам супал, мовіўшы: “Яна падзелена на дзве часткі. Няхай кожны возьме сваю долю”.
І вось, калі зямля гэтая была разрабавана і былі забіты ды ўзяты ў палон больш за шэсць тысяч чалавек, яны сыйшлі. <...>

* Валадыслаў Лакаток, кароль Польшчы ў 1320–1333 гг.
** Франкфурт-на-Одэру

*Навагародскія летапісы:*

У той жа год прыехалі паслы з Літвы – брат Літоўскага князя Гедыміна Война Полацкі князь, Васіль Менскі князь, Фёдар Святаславіч – і ўклалі мір з навагародцамі і з немцамі.

## год 1327

*Длугаш:*

Дзявятага дня сакавіка князі Літоўскія, скупіўшы з уласных і памежных народаў вялікае войска, таемнымі дарогамі і ярамі ўваліліся ў Саксонію і, расклаўшы абозы свае ля Франкфурту-на-Одэру, увесь край Саскі, ужо ў мінулым годзе разрабаваны Валадыславам каралём Польскім, дарэшты сваім мечам панішчылі і саксаў частку пазабівалі, а частку вывелі ў няволю. А як ніхто не чыніў ім адпору, яны спешным паходам вярнуліся да Літвы.

*Пскоўскія летапісы:*

<...> І бачыў князь Іван*, што не дастаць князя Аляксандра**, ані выгнаць раццю, і намовіў мітрапаліта Феагноста***, і наслаў мітрапаліт праклён і адлучэнне на князя Аляксандра і на ўвесь Пскоў. <...> І князь Аляксандр, склаўшы цалаванне крэста, ад’ехаў у Літву, а княгіню сваю тут пакінуў. Тады была ў Пскове туга, і смутак, і розгалас вялікі сярод людзей дзеля богалюбнага князя Аляксандра, бо дзеля сваёй дабрыні і міласці быў ён па сэрцы псковічам. І паслалі псковічы да князя Івана Салогу пасадніка <...>. І пасаднік Салога князю вялікаму Івану ад Пскова біў чалом і апаведаў аб князю Аляксандру, што ён ад’ехаў у Літву. І князь вялікі аддаў псковічам віну, а мітрапаліт Феагност і ўладыка Майсей дабраславілі пасадніка Салогу і ўвесь Пскоў. <...>

* Іван Данілавіч, князь маскоўскі ў 1325–1340 гг.
** Аляксандр Міхайлавіч, князь цверскі ў 1326–1327 гг., пскоўскі ў 1329–1337 гг.
*** Феагност, мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1328–1353 гг.

## год 1328

*Вартберг:*

Увосень таго ж году падчас посту Quatember месцічы Рыгі, здумаўшы выгнаць братоў (Ордэну), выправілі двох радцаў магістрату, наймя Генрыка Тралава і Бернгарда Дарзава, і двох ад грамады, наймя Герлаха Флісэнбарта і Эртмара Рэдпеніга, паслам да гаспадара літвінаў [regem Letwinorum], якія яму паведамілі, што дзеля выгнання Ордэну і хрысціянства з тых краін для яго, князя, будуць спустошаны ўсе замкі і цвержы рызскае дыяцэзіі. Калі браты даведаліся аб гэтым, яны аднялі ад месцічаў гвалтам пяць замкаў, што месціліся побач з землямі Літвы. Калі князь прыйшоў з сваім войскам да Дзвіны, ён даведаўся, што замкі ў руках братоў. Дужа раззлаваўшыся, ён накінуўся на згаданых паслоў з словамі пагрозы. Але тыя адказалі, каб яго суцешыць, што павядуць яго туды, дзе ён здолее ўчыніць вялікую шкоду Ордэну. І яны сапраўды павялі яго з усім яго войскам ажно на сорак міль праз рызскую акругу, даючы яму павадыроў і задавальняючы іншыя патрэбы. Літвіны спустошылі ваколіцы Каркусу ў дзень Узвіжання і заставаліся там да наступнай серады. <...>

*Румбарцкі рочнік:*

Літвіны, закліканыя мяшчанамі Рыгі, разбурылі Каркус з паветам.

## год 1329

*Пскоўскія летапісы:*

<...> І потым князь Аляксандр*, быўшы ў Літве паўтары гады, прыехаў у Пскоў, і псковічы прынялі яго з чэсцю і пасадзілі яго на княжанне.

* Аляксандр Міхайлавіч, князь цверскі ў 1326–1327 гг., пскоўскі ў 1329–1337 гг.



*Пячатка князя Аляксандра Міхайлавіча, 1329–1337 гг.*



*Князь Аляксандр Міхайлавіч у Ордзе (урывак мініятуры з Аблічнага зводу, 16 ст.)*

## год 1330

*Віганд:*

У год 1330, у дзень Нараджэння Прачыстае, кароль польскі Лакаток распаліўся жаданнем помсты праз помач Гедыміна, гаспадара літвінаў. Зрадзіліся яны, што ў азначаны дзень будуць гатовы. Тым часам князь Гедымін цягне з слабым войскам язычнікаў у зямлю Астроды і рабуе яе агнём.

<...>

Проці Калядаў таго ж году язычнікі [heiden] з князем Гедымінам ўваліліся да зямлі Курніч, якую разрабавалі і спалілі. У той жа час той жа князь перайшоў раку Дрэвенц у воласці Міхалова, дзе такім жа чынам ганебна наганіў хрысціянаў за паўмілі ад Штрайсбергу*.

<...>

Потым кароль Лакаток прасіў Гедыміна, каб пайшоў з ім у Прусы. Але той адказаў: “Я аднойчы ўжо дамовіўся з табой, каб мы ў дзень Нараджэння Прачыстае там скупіліся, і я прыйшоў, а ты не. Дзеля гэтага, калі б Бог мяне не захаваў, я мог бы праз здраду трапіць у палон, але я ведаў здраднікаў”.

Герцык (вугорскі) Вільгельм, бачачы, што кароль Лакаток жадае вясці язычнікаў проці хрысціянаў, мовіў: “Калі ты з язычнікамі жадаеш ваяваць на хрысціянаў, дазволь, каб мы вярнуліся ў Вугоршчыну. А калі мы павінны ісці з табой, то выправі язычнікаў у іх край, і тады мы разам з табой будзем ахвотна біцца”. Князь жа язычнікаў сыйшоў з сваімі запрошанымі людзьмі, але ніякае заплаты яны не атрымалі. Будучы пакрыўджаны, яны прымусілі польскага караля, каб даў ім заплату ў золаце, срэбры, сукнях і конях, кожнаму паводле заслугі, і так яны вярнуліся ў свой край. <...>

* Штрайсберг – крыжацкі замак у Кульмскай зямлі

*Вартберг:*

У 1330 годзе гаспадар літвінаў па запрашэнні рыжанаў цягнуў з вялікім войскам пад біскупскі замак Пільтэн, на які напаў з разнастайнымі снасткамі для аблогі. Падчас пажару гэтага замку і па-за замкам былі забіты адзін брат Ордэну і два служкі. Пасля рабавання краіны ён зноў сыйшоў у сваю зямлю.

*Румбарцкі рочнік:*

Літвіны з русінамі разбурылі Курлянцкую зямлю.

*Длугаш:*

Валадыслаў, кароль Польскі, праз дасланых да папежа Яна XXII (які ў той час меў сядзібу ў Авіньёне) знакамітых паслоў паведаміўшы, якія войны, напасці і спусташэнні яго каралеўства цярпела ад няверных татараў і літвінаў, – якія часам у злучэнні, часам апрычонымі загонамі, здрадліва наязджаючы на Польшчу, пустошылі край, а забраўшы лупы, забіўшы старцаў і дзяцей, а моладзь звёўшы ў гаротную няволю, спешна вярталіся да свайго краю, – прасіў, каб яму папеж Ян стаў у помачы праз абвяшчэнне крыжовае вайны проці татараў і літвінаў і праз залічэнне колькіх тысяч чырвоных залатых, каб ён мог снадней ставіць чало гэтым няверным. Але папеж, вымавіўшыся нейкімі прычынамі, адмовіў на абедзьве просьбы. Але, каб не адсылаць каралеўскіх паслоў без усякага супакою, дазволіў у кракаўскім катэдральным касцёле адпраўляваць юбілей на ўрачыстасць св. Станіслава ў траўні тры дні і ўвосень на перанясенне св. Станіслава таксама тры дні, пад тою ўмоваю каб кожны, хто жадае дастаць адпусты, склаў да скарбонкі па два чырвоных залатых, і каб гэты скарб кароль Польскі Валадыслаў ужыў на абарону проці татараў, літвінаў і іншых няверных. <...>

## год 1331

*Навагародскія летапісы:*

У той жа год, у чэрвені месяцы, на Нараджэнне Івана Прадцечы, паехаў Васіль* чарнец на высвячэнне на архібіскупства да мітрапаліта ў Валынскую зямлю, а з ім баяры <...>, і ехалі праз Літоўскую зямлю. І князь Гедымін захапіў іх на міру, і дзеля такое цяжкасці далі правае слова сыну яго Нарымонту на прыгарады Навагародскія: Ладагу, Арэшак, Карэльскі, і Карэльскую зямлю, і палову Капор'я, у вотчыну і ў дзедзіну і яго дзецям. І так адтуль прыехалі ў Валадзімер Валынскі, і паставіў Васіля ўладыкаю <...> Феагност мітрапаліт. <...>

У той жа час прыехалі паслы з Пскова ад князя Аляксандра**, і ад Гедыміна, і ад усіх князёў літоўскіх да мітрапаліта і прывялі з сабой Арсенія, жадаючы яго паставіць на біскупства ў Пскоў, <...> бо тады псковічы выракліся цалавання крэста Ноўгараду, пасадзілі сабе Аляксандра на стол з літоўскае рукі. Арсеній жа з псковічамі быў пасарамочаны ад мітрапаліта і паехаў з Валынскае зямлі да Кіева верасня 1-га.

А ўладыка Васіль, едучы з высвячэння, між Літвы і Кіевам ўцёкамі сыходзіў, а сам мітрапаліт з сваім чалавекам грамату прыслаў да яго і да яго баяраў: "пусціў князь захапіць вас 300 літвы", і нашыя ўцякалі ад таго і прыехалі пад Чарнігаў горад. І тут прыгнаў да іх Кіеўскі князь Фёдар з баскаком татарскім у 50 чалавек разбоем, і нашыя асцерагаліся і сталі процi іх, і мала разліццё крыві не ўчынілася між імі, але нашыя далі адкуп з сябе, а тыя схапілі Рацслава, протад'якана мітрапаліта, і ў Кіеў павялі, а праз цалаванне крэста. <...> А ў Ноўгарадзе людзі тужылі, бо не было весткі, але былі чуткі, што ўладыку літва схапіла, а дзяцей яго пабіла. І прыехаў уладыка ў Ноўгарад з баярамі 8 снежня <...>, і радаваліся навагародцы свайму ўладыку.

* Васіль Калека, архібіскуп Вялікага Ноўгарада ў 1331–1352 гг.
** Аляксандр Міхайлавіч, князь цверскі ў 1326–1327 гг., пскоўскі ў 1329–1337 гг.

*Ліст вялікага майстра Тэўтонскага ордэну Лютэра фон Броншвік да папежа Яна XXII:* (PU II, №747)

<...> Усю справу між каралём Польшчы і намі мы вашай святасці шчыра выклалі, напісаўшы. Між ім і намі, на жаль, зацвердзілася непапраўная варожасць, якую ўспадкаваў і яго сын, які рачыў узяць у жонкі дачку* гаспадара літвінаў [regis Litwinorum]. Ён разам з сынам і з тымі ворагамі крыжа Хрыстова [crucis Christi inimicis] нястомна чыніць усё для нашага выгнання, да шкоды ўсіх хрысціянаў, з імі ж ён чыніў і чыніць штодня незлічоныя ганебныя ўчынкі, маючы ўлегцы сваё хрысціянскае імя. Ён прывёў незлічоную лічбу літвінаў у сваю зямлю, з якімі наважыўся пайсці на нас, але не здолеў гэтага ўчыніць, бо яго і іх спыніла разводдзе.

Вось чаму тыя літвіны [Litwini], што знаходзяцца ў яго зямлі, не жадаючы сыходзіць, разбурылі месты навакол на дваццаць міль, зганьбілі пасцівых матрон, апаганілі дзявіц, разбурылі тры пабожныя манастыры і чыняць штодня такія брыдкасці, аб якіх немагчыма пісаць.

<...> Не схавалася ад ведання вашае святасці і тое, як у пазамінулым годзе ён уклаў угоду і лістамі з абодвух бакоў пацвердзіў нам, што рушыць у выправу проці літвінаў разам з гаспадаром каралём Багеміі**, а сам з тылу ўваліўся ў нашу Кульмскую зямлю і ўсю яе разбурыў. Не схавалася ад вашай святой міласці і тое, як той жа кароль у мінулым годзе ўклаў угоду з каралём Багеміі, супольнікам у нашай вайне, і з вуграмі, літвінамі, русінамі і куманамі зноў уваліўся ў нашу зямлю і астачу яе жорстка і хціва разбурыў. <...>

* Альдона-Ганна Гедымінаўна, караліца Польшчы ў 1333–1339 гг.
** мова пра крыжовы паход на Літву Яна Багемскага 1329 г.

## год 1333

*Цверскія летапісы:*

У тую ж зіму прывялі князю Сямёну Іванавічу* княжну з Літвы імем літоўскім Айгуста, і хрысцілі яе, і назвалі ў святым хросце Настася. І было вяселле ў Маскве вялікае, слюб князю Сямёну, а князю Сямёну тады было сямнаццаць гадоў.

* Сямён Іванавіч – вялікі князь маскоўскі ў 1340–1353 гг.

*Вяселле Сямёна Іванавіча і Айгусты (мініятура з Аблічнага зводу, 16 ст.)*



*Навагародскія летапісы:*

Князь Нарымонт Гедымінавіч, названы ў хросце Глеб, прыехаў у Ноўгарад на прыгарады, што яму прыраклі ў Літве, і цалаваў крэст у месяцу кастрычніку.

*Вартберг:*

У 1333 годзе той жа майстар* быў пад Вількамірам. У тым жа годзе ён з вялікім войскам на ладдзях быў ля Полацка.

* Эбэргард фон Монгайм, ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфляндах у 1328–1340 гг.

## год 1334

*Вартберг:*

У 1334 годзе той жа майстар павёў войска ў воласці Дубінкі і Шашола, дзе было забіта 1200 літвінаў [Letwinis] абодвае плоці. І тады ён быў з сваімі людзьмі адно за чатыры мілі ад Вільні. Потым ён павёў сваё вялікае войска да Полацка, у гэтым паходзе быў таксама граф Арэнсберг.

## год 1335

*Навагародскія летапісы:*

У той жа год літва ваявала на міру наваторжскія воласці. І пайшоў князь вялікі ў Таржок і паслаў ваяводаў сваіх Радывона Несцеравіча і з ім Аляксандра Зерча з Таржка і з імі раць сваю ў зямлю Літоўскую і папалілі гарадкі літоўскія Асечан і Расну* і іншыя гарадкі.

* Асечан, Расна – гарады на Ржэўшчыне ля мяжы з Цверскім княствам

*Пасланне ліфлянцкіх купцоў у Любек:*
(LECUB VI, №2804)

<...> Вось шкоды, учыненыя тэўтонам псковічамі. Першае, у гэтым годзе псковічы з літвінамі [Letwinis] пад клятвай узялі 25 марак, літвіны сваю долю вярнулі, псковічы ж не. <...>

## год 1336

*Длугаш:*

16-га дня кастрычніка Альгерд, Кейстут, Карыбут, Патрыкей, Любарт, Сурвіла, Бутаўт, князі Літоўскія, сыны Гедыміна, і Патрыкей Данілавіч, князь Рускі, з загонамі літвы і русі таемна і здрадаю наехалі на княства Мазоўскае, хаця з мазоўскімі князямі былі злучаны звязамі вечнае прыязні, і разрабавалі, спалілі і знішчылі край і тысячу дзвесце палонных хрысціянаў разам з захопленым быдлам вывелі ў Літву.

## год 1337

*Длугаш:*

У дзень св. Ядзвігі літвіны, наехаўшы таемнымі дарогамі на Мазоўскую зямлю, спустошылі месты Пултуск і Цяханаў з прылеглымі ваколіцамі і многа людзей абодвае плоці пагналі ў няволю ў свой край. Але мазоўскае рыцарства, пайшоўшы за імі ў пагоню, адбіла палонных і забраныя лупы. А як літвіны не жадалі прыняць бітвы, яны звыклым звычаем ратаваліся ўцёкамі, аж на рацэ Нарве, дзе мелі пераправу, спешна таўкліся адзін на аднаго і многія, асабліва тыя, што не жадалі пакінуць свае торбы, патанулі.

## год 1338

*Навагародскія летапісы:*

Князь Нарымонт сына свайго Аляксандра вывеў з Арэшку, з’ехаў у Літву, адно намеснікаў сваіх пакінуў.

## год 1339

*Ліст папежа Бенедыкта XII да польскага караля Казіміра:*
(Skarbiec diplomatów, №358)

<...> Даведаліся мы з дасланага надовечы нам ліста аб умыслах нявернага народу татараў аб нападах і знішчэнні твайго каралеўства, якое месціцца на межах хрысціянства <...>. Тыя паганцы яўна выяўляюць намер неўзабаве напасці <...>. Уважаючы, што па апанаванні твайго каралеўства гразіла б небяспека як бліжэйшым, так і далейшым хрысціянскім гаспадарствам, схіляемся да тваіх просьб аб абвяшчэнні крыжовага паходу. Таму мы даручылі сваімі лістамі да архібіскупа Гнезненскага і біскупаў Кракаўскага і Вароцлаўскага, каб яны <...> абвяшчалі крыжовы паход проці татараў і іншых няверных у Польскім, Вугорскім і Багемскім каралеўствах, аздобілі крыжом рыцараў на выправу і далі адпусту некаторым выступкам <...>.

## год 1340

*Віганд:*

У год 1340 майстар* на карысць Прускай зямлі праклаў тры шырокіх дарогі ў зямлю Літоўскую з капаніцамі, якімі абараніў сваіх ад лёгкага прыступу ворагаў і іхняга адступлення. Але, як муж празорлівы, наважыўся ён выправіць паслоў у Нямеччыну і прызваць адтуль наймітаў, шляхетных людзей і іншых проці літвінаў і русінаў, на іхнюю гібель, каб прусаў не займалі. На гэта напіраў майстар на працягу 6 тыдняў, але майстар быў заняты так цяжкімі справамі, што не здолеў гэтую справу даканаць.

* Дытрык фон Альтэнбург, вялікі майстар Тэўтонскага ордэну ў 1335–1341 гг.

*Ліст прускіх біскупаў да калегіі кардыналаў:*
(LECUB II, №793)

<...> Капасці няверных [infidelium], як паганцаў, так і схізматыкаў і татараў, пагражаюць новаму хрысціянству <...> і выдатнаму пабожнаму мужу Дытрыку фон Альтэнбург, майстру ордэну Прачыстае Марыі дому Тэўтонскага <...>. Уваліўся (у Прусы) цэсар татарскі з сваімі князямі, а таксама з князямі літвінаў і русінаў [cum regibus Litwinorum et Ruthenorum], сваімі галдоўнікамі, <...> проці якіх рушыў майстар з сваімі братамі ордэну дому Тэўтонскага ў абарону новага хрысціянства <...>. Некаторыя вышменаваныя няверныя [infideles] наважыліся ўсё нашае хрысціянства ў землях Прусаў, Куроніі і Ліфлянтаў, дзе згаданыя браты маюць свае ўладанні, вайною апанаваць і вынішчыць. <...> Майстар і ордэн высільваюцца, каб тыя язычнікі [paganis] не мелі магчымасці чыста разбурыць Прусы, Куронію і Ліфлянты і ўсё хрысціянства зруйнаваць <...>.

## год 1341

*Ніканаўскі летапіс:*

У той жа год памёр князь вялікі Літоўскі Гедымін. Яго сыны: Нарымонт, Альгерд, Яўнут, Кейстут, Карыят, Любарт, Монтвід. І па ім сеў на вялікім княжанні Літоўскім другі сын яго Альгерд. Гэты Альгерд быў вельмі мудры і размаўляў на многіх мовах, і быў уладаю і дастойнасцю вышэй за ўсіх, і меў вялікае ўстрыманне, брыдзіўся ўсіх забаў і не займаўся гульнямі і пацехамі, але дбаў аб сваёй дзяржаве дзень і ноч, і брыдзіўся п’янства, і віна, і мёду, і піва, і ўсякага хмяльнога пітва не піў; чыста брыдзіўся п’янства і меў вялікае ўстрыманне ва ўсім: і дзеля гэтага вялікі розум і досціп займеў, і крэпкую думу займеў, і такім падступствам многія краі і землі паваяваў, і гарады і княжанні займеў, і займеў вялікую ўладу, і пашырылася княжанне яго больш за ўсіх, за айца і за дзеда яго. <...>
Тое ж восені, на Пакровы Прачыстае прыйшоў Альгерд, князь вялікі Літоўскі, з вялікаю раццю да гораду Мажайску, і воласці і сёлы паланіў, і пасад папаліў; і пад горадам стаяў і, гораду не ўзяўшы, вярнуўся ў свой край. У той жа год узяла літва Цішынаў і з многімі лупамі вярнулася ў свой край.

*Пскоўскія летапісы, Ніканаўскі летапіс:*

<...> А немцы тое зімы прыехалі з усёю моцаю і паставілі Новы гарадок на рацэ на Піўжы, на Пскоўскай зямлі. <...> І потым псковічы пагадалі і паслалі паслоў у Віцебск да князя Альгерда помачы прасіць і мовілі так: “Браты нашыя навагародцы нас пакінулі, не памагаюць нам; а ты, гаспадзіне, князь вялікі Альгердзе, памажы нам у гэты час”. Князь жа Альгерд, паслухаў пскоўскіх паслоў, не адрынуў слова пскоўскага, паслаў ваяводу свайго князя Юрыя Вітаўтавіча; а сам Альгерд узяў брата свайго Кейстута і мужоў сваіх літвінаў і мужоў віцьбічаў і прыехаў у помач псковічам, месяца ліпеня ў 20-ы дзень, на памяць святога прарокі Іллі, і прывёў з сабой сына свайго Андрэя, такое было імя яму малітоўнае, яшчэ не быў ён хрышчаны.

І Альгерд паслаў да Новага гарадка языка шукаць Юрыя Вітаўтавіча. Ён жа ўзяў псковічаў і ізборскіх ахвотных людзей і паехаў да памежжа языка шукаць. І спаткаў вялікую рацць нямецкую на Мікужыцкім полі ля ракі Мікужычы, яны ж ішлі на стаянне да Ізборску; і забілі ў князя Юрыя ізборскіх і псковічаў 60 мужоў месяца жніўня ў другі дзень, а сам Юрый прыбег у Ізборск з малою дружынаю. Назаўтры ж немцы прыйшлі да Ізборску з парокамі і з градамі і з многімі снасткамі, і абступілі горад, жадаючы паланіць дом святога Міколы. А Альгерд князь і Кейстут князь загадалі сваім літвінам, і віцьбічам, і псковічам ісці ўброд праз Вялікую раку, і не ведалі, што пад Ізборскам рацць; і яны перайшлі ўброд і сталі станамі ля Камня. А князь Альгерд выправіў сваіх людзей у старожу перад палком; яны ж, едучы, захапілі языка пад Халахолнам і прывялі яго да Альгерда; і ён паведаміў, што пад Ізборскам стаіць нямецкая рацць вялікае моцы. Альгерд жа і Кейстут загадалі свайму войску, літве і віцьбічам, перайсці ўброд за Вялікую раку ў Пскоў; таксама і псковічы перайшлі ўброд з імі і сцераглі свае хаты, жонак і дзяцей ад літвы. А князь Альгерд і Кейстут засталіся ззаду з сваімі літвінамі і з псковічамі ў малой дружыне і паехалі ў Грамскую багну і пачалі перапытваць нямецкае раці. А князь Любка, сын Война, Полацкага князя, адзін ад’ехаў ад Альгерда і ўехаў у старожавы полк нямецкі, не ведаў ён, і так яго забілі аднаго. І была Альгерду князю і Кейстуту і іншым князём туга і смутак вялікі па Любку князю. <...>

Тады псковічы многа прасілі вялікага князя Альгерда Гедымінавіча, жадаючы яго хрысціць і на княжанні пасадзіць у Пскове. Ён жа мовіў ім: “Я ўжо хрышчаны і хрысціянін, і навaратам хрысціцца не жадаю, і на княжанні ў вас сесці не жадаю”. Псковічы ж пахрысцілі сына яго Андрэя ў святой Тройцы зборнай царкве, і пасадзілі яго на княжанні, спадзеючыся на помач ад Альгерда. А князь Альгерд і брат яго Кейстут паехалі прэч з сваімі людзьмі і не ўчынілі ніякае помачы, адно хлеб і сена ля Пскова паглумілі.

## год 1342

*Ніканаўскі летапіс:*

У той жа год князь вялікі Літоўскі Альгерд Гедымінавіч з братам сваім Кейстутам Гедымінавічам прыйшлі без весткі ізгонам на старэйшага свайго брата Нарымонта Гедымінавіча і на брата свайго Яўнута Гедымінавіча да гораду Вільні. І злякаліся людзі ў горадзе і ўцёк з гораду князь Нарымонт Гедымінавіч у Орду да цара Чанібека, сына Азбяка, а другі брат яго Яўнут Гедымінавіч уцёк да Пскова, а адтуль да Ноўгарада, а адтуль да Масквы да вялікага князя Сямёна Іванавіча; і тут у Маскве быў хрышчаны і названы ў святым хросце Іван.

## год 1343

*Длугаш:*

Людвік*, кароль Вугорскі, Ян Люксембургскі**, кароль Чэскі, Караль, маркграф Мараўскі, граф Галліс і многа іншых знакамітых мужоў рушылі ў выправу проці літвінаў, у той час няверных, і з сваімі загонамі ўвайшлі ў Прусы. Майстар Прускі Людольф Кёніг***, бачачы так грознае войска, паведаміў майстру Ліфлянцкаму, каб бяспечна ўдарыў на жамойтаў <...>. А калі майстар Ліфлянцкі ўвайшоў у тую зямлю, рушыў таксама майстар Прускі з згаданымі каралямі на Літву, каб яе рабаваць. Тым часам літвіны, калі на іх зямлю напалі, уваліліся з усёю сваёю моцаю ў зямлю Самбійскую**** і разрабавалі яе. Дзеля таго майстар Людэр або Людольф з згаданымі каралямі, кінуўшы свае загоны ў Літве, паспяшаўся проці няверных, каб іх перамагчы зброяй. Але літвіны, спустошыўшы Самбійскую зямлю і забраўшы лупы, уваліліся ў Ліфлянты і, застаўшы край без абароны, разрабавалі яго і з лупамі бяспечна вярнуліся ў свой край. Гэтая хітрасць гэтак ткнула каралёў, што яны горача вінавацілі майстра за яго недарэчныя намовы, якія прынеслі такія наступствы і далі ім такую няславу. Дужа зачэплены тым, Людэр упаў у вар'яцтва, з якога не мог выйсці колькі гадоў, і наастатку быў вымушаны пакінуць сваю пасаду. На яго месца быў прызначаны брат Генрык Дузэмер.

* Людвік, кароль вугорскі ў 1342–1382 гг.
** Ян Люксембургскі, кароль чэскі ў 1310–1346 гг.
*** Людольф Кёніг, вялікі майстар Тэўтонскага ордэну ў 1342–1345 гг.
**** Самбія – паўночная частка Прусаў з Кёнігсбергам

*Ліст папежа Клімента VI да архібіскупа Гнезненскага:*
(VMPL, №604)

<...> Казімір, кароль Польшчы <...> абараняе свае каралеўства ад язычнікаў і няверных <...>, а згаданыя язычнікі і няверныя, то бо татары, русіны і літвіны, ворагі хрысціянскай веры [Tartari, Rutheni et Litfani, hostes fidei christiane], пачасту на яго каралеўства і падданых нападаюць, чынячы цяжкія гвалты і крыўды <...>. Мы маем бачанне на тое, што справа тычыцца абароны хрысціянскае веры і чэсці рымскае царквы <...>.

*Румбарцкі рочнік:*

Была бітва з літвою ля выспы Эзэля*.

* Эзэль – выспа ля ўзбярэжжа Эстоніі

*Ліст маркграфа Брандэнбургскага Людвіка да ўлад Тэўтонскага ордэну:*
(Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. СПб., 1848. №107)

<...> Таксама, як не схавалася ад вас, у землі згаданага караля* варожа, жорстка і люта ўваліліся ворагі крэста Госпада нашага Ісуса Хрыста, праліваючы кроў многіх хрысціянаў, бо тыя няверныя, то бо сарацыны і русіны [infideles, Sarracenes videlicet et Rutheni], штодня ў сваёй жорсткасці працягваюць як мага больш крышыць, мучыць і разбураць хрысціянскую веру <...>. Таму заклікаем вас цягнуць у паход і рушыць проці згаданых няверных крэсту [infideles Crucifixi], каб моцнаю рукою праз Боскую помач скрышыць іхнюю жорсткасць <...>.

* мова пра польскага караля Казіміра

## год 1345

*Ліст папежа Клімента VI да польскага караля Казіміра:*
(VMPL, №628)

<...> Ты злучыўся звязам і дружбаю з схізматыкамі-літвінамі [Latwinis scismaticis], памагаючы ім проці хрысціянаў, а таксама з Людвікам Баварскім*, выклятым царквою <...>. Ты напісаў, што дзеля вайны, якую павёў проці цябе і зямель і падданых тваіх любы ў Хрысце сын наш Ян, кароль Багеміі** <...>, ты ўклаў дамовы з вышменаванымі схізматыкамі [scismaticis]***. <...> Разам з іншымі нявернымі [infideli] і бунтаўнікамі ты цяпер ідзеш проці царквы, а злучаючыся з вышменаванымі схізматыкамі ты ідзеш проці хрысціянства <...>. Каб спыніць варажнечу з каралём Багеміі, ты мусіў бы <...> гатавацца да выправы проці згаданых схізматыкаў <...>. ...Згаданы Людвік Баварскі прабуджае і ўвязвае варожыя герэзіі і расколы [heresibus et scismatibus], якія ўсяму хрысціянству і ўсім верным чыняць найгоршую ганьбу і знявагу <...>.

* Людвік Баварскі, цэсар Святога Рымскага цэсарства, прыхільнік францысканаў-спірытуалаў, ад 1324 г. быў у закалоце з папскай курыяй
** Ян Люксембургскі, кароль чэскі; у 1343 г. браў учасць у крыжовай выправе на Літву
*** мова, відаць, пра мірную дамову між Літвой і Польшчай 1344 году

*Вартберг:*

У гэты час, калі майстар* дзеля гэтых падзей быў на Эзэлю**, у 1345 годзе гаспадар літвінаў скупіў моцнае войска і прайшоў праз землі братоў, і праз здраду нейкага чалавека на імя Пале ён захапіў спачатку замак Тэрвэтэн, збудаваны братам Эбэргардам з Монгайму, калі ён быў майстрам, і знішчыў гэты замак агнём дашчэнту, прытым былі забіты восем братоў з іхнімі людзьмі, не лічачы простага народу. Потым той князь рушыў да замку Мітавы, воласць якога ён перад тым паваяваў, але як замак быў складзены з плітак, то ён не здолеў разбурыць яго. Аднак ён звёў з сабой святароў разам з 8 братамі і каля 600 чалавек з простага народу.

Потым гаспадар літвінаў рушыў да Рыгі і праз Неермюлен у воласць Зэгэвольд, дзе яго сустрэў адзін ліў*** з ліку старэйшых і запэўніў, што ён надовечы хрышчаны, і што ён быў абраны князем над усім народам ліваў, і што калі гаспадар літвінаў пажадае паслухаць яго рады, то падпарадкуе сабе ўвесь край. Князь жа літвінаў запытаў яго, што трэба ўчыніць з майстрам ліфлянцкім. Тады ліў адказаў, што яны прагоняць яго разам з усімі немцамі. Але князь адказаў: “Мужык, табе не быць тут князем!”, і загадаў сцяць яму галаву на полі перад замкам Зэгэвольд. Потым ён рушыў да валасцей Тарэйды і Крэмун, дзе ён разбурыў усе цэрквы, забіў каля дзвюх тысяч чалавек і многіх звёў у палон.

<...>

За часу гэтага майстра адзін літвін [Letwinus] з ліхім умыслам прыкінуўся, быццам ён жадае прыняць хрысціянства з усім сваім домам. Ён павёў гэтую справу таемна з комтурам Ашэрадэну. Потым гэты здраднік сам пайшоў да гаспадара літвінаў і распавёў яму, аб чым ён дамовіўся, і наказаў яму аб часе і

гадзіне збору. Князь з войскам пакрыёму цягнуў наўпрост да азначанага месца і напаў з сваімі на нашых, якія былі неперасцеражоны і неўзброены, прытым загінула пятнаццаць братоў Ордэну. Ён забіў і люта страціў таксама вяльможных людзей у валасцях Зэгэвольду, Вэндэну і Ашэрадэну і многіх іншых з валасцей ля Дзвіны. Потым ён усцешана вярнуўся ў свой край.

* Бургард фон Дрэйлебен, ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфлянтах у 1340–1345 гг.
** у 1343–1345 гг. у Эстоніі і на выспе Эзэлю адбываліся паўстанні эстаў проці Тэўтонскага ордэну
*** лівы – фінскі народ, які жыў ля вусця Дзвіны

## год 1346

*Навагародскія летапісы:*

Альгердаўшчына.
У той жа год прыехаў князь вялікі Альгерд Літоўскі з сваёю браццю, усёю моцаю літоўскаю, і стаў на Шалоні, на вусці Пшагі ракі, клічучы навагародцаў: “Жадаю вас бачыць; лаяў мяне пасаднік ваш Астафей Дваранінцаў, назваў мяне псом”.
І ўзяў Шалону да Голін і Лугу да Сабля на шчыт, а з Порхаўскага гарадка ўзяў адкупу 300 рублёў. А навагародцы выехалі проці яго на Лугу і вярнуліся навагародцы, і сабралі веча на Яраслававым двару ля святога Міколы, і забілі пасадніка Астафея Дваранінца на вечы, а мовілі, што “дзеля цябе воласці нашыя захоплены літвою”.

## год 1347

*Ліст бізантыйскага цэсара Івана Кантакузэна да валынскага князя Дзмітрыя-Любарта:* (ПДКП, приложения, №6)

Найяснейшы князь Валадзімеру і сваяк маёй царскай вялікасці, спадар Дзмітрый-Любарт*. Ведаеш ты, што ад таго часу, як народ Русі атрымаў пазнанне Бога і быў прасветлены святым хростам, устаўлена было там звычаем і законам, каб па ўсёй Русі, Вялікай і Малой, быў адзін мітрапаліт – Кіеўскі, які высвячаў бы біскупаў на ўсе святыя біскупствы. <...> І па загадзе маёй царскай вялікасці і паводле зборнага выраку ўстаўлена, каб тамтэйшыя святыя біскупствы, Галіцкае і іншыя, зноў былі пад свяцейшай мітраполіяй Кіеўскай, як было і раней <...>. Аб гэтым наказуе табе мая царская вялікасць дзеля таго, каб ты спрыяў выдаленню таго галіцкага архіерэя і загадаў яму прыбыць сюды; а асвячонага мітрапаліта Кіеўскага**, вялебнага экзарха ўсяе Русі, прымеце адгэтуль як сапраўднага і законнага мітрапаліта <...>.

* Дзмітрый-Любарт Гедымінавіч, князь валынскі ў 1322–1366, 1370–1383 гг.
** Феагност, мітрапаліт Кіеўскі з сядзібай у Маскве

*Віганд:*

<...> У год 1347 у чацвер па тыдні invocavit у пост абодва згаданых князя (Альгерд і Кейстут) з натхання д’ябла зноў цягнулі да Растэнбургу* і з сваім д’ябальскім родам [semine suo dyabolico] учынілі шмат ліха хрысціянам, забіваючы і іншае чынячы. У той час рушылі яны да зямлі Бартыі і сталі проці замку Гірдавы, дзе чатыры багатых вёскі знішчылі дашчэнту, потым пайшлі аблягаць замак Люнэнборг, які загадзя быў так умацаваны братамі, што нічога яны там не ўчынілі, адно пасады і царкву спалілі і многіх палонных, нават жанчын, забралі. Рушылі потым да вёсак, якія таксама спалілі, і, вяртаючыся да Растэнбургу, па дарозе ўваліліся ў Вармінскую дыяцэзію ля места Рэзэль і ўсё, што там знайшлі, знішчылі гэтаксама, як у іншых местах.

* Растэнбург – крыжацкі замак у Бартыі (сярэдняй частцы Прусаў)

## год 1348

*Віганд:*

У год 1348 той майстар Дуззмер скупіў вялікае войска з комтурамі Кульмскае і Паморскае зямель, з некаторымі пілігрымамі англійцамі і французамі проці літвінаў і меў у гэтым войску 40 тысяч добра ўзброеных людзей, з якімі рушыў проці язычнікаў. Сам майстар у той паход не рушыў, але паводле выраку сваіх братоў застаўся ў Інстэрбургу. Брат Зігфрыд дэ Данвельд маршалак і брат Вінрык Кніпродэ вялікі комтур сутыкнуліся з ворагам над ракой Стрэвай, дзе адважна біліся. Уваліліся яны ў зямлю язычнікаў проці дня наварачэння апостала Паўла, дзе па загадзе маршалка пасціналі язычнікаў абодвае плоці, старых і малых, а зямлю знішчылі агнём. Князь жа (літоўскі) склікаў вялікае войска, у якім былі русіны з Валадзімера, Бярэсця, Віцебска, Смаленска, зямяне з Пскова, якія рушылі ў пагоню за маршалкам, калі той сыходзіў. І здарылася ў дзень Ачышчэння Прачыстае, што сыйшліся яны ў небывалай бітве. <...>

*Навагародскія летапісы:*

Быў бой немцам з літвою на Страве рацэ і пабілі літвы 40.000.

*Пскоўскія летапісы:*

На наступны год, месяца красавіка ў 13-ы дзень, у панядзелак Святого тыдня, князь Юрый Вітаўтавіч узяў з сабой папоў святое Тройцы і д'якана і паехаў у Ізборск асвяшчаць царкву святога Спаса, ля святога Міколы на палатках; і асвяцілі царкву. У сераду ў 15-ы дзень на памяць святога пакутніка Савы Стына раптам прыгналі немцы да Ізборску рацццю апоўдні, а князь Юрый яшчэ быў у Ізборску, і выехаў князь Юрый проці іх, таксама псковічы і ізбаране выйшлі пешкі проці немцаў. І ў першай бойцы забілі князя Юрыя, і іншага Юрыя Амачына брата, і іншых многіх людзей ізборскіх; тады была ў Пскове туга і смутак вялікі; і правялі князя ўсе папы, паклалі яго ў (царкве) святой Тройцы. <...>

У той жа год княгіня Юр'ева Вітаўтавіча з дзецьмі сваімі паехала з Пскова ў Літву. Пасля гэтага адмовілі псковічы Андрэю князю, мовілі яму так: "Табе трэба было, княжа, самому сядзець на княжанні ў Пскове, а намеснікаў табе ў Пскове не дзяржаць; а табе ў нас не быць, у іншым месцы будзеш княжыць, а псковічы намеснікаў тваіх не жадаюць". Дзеля гэтага Андрэй і айцец яго Альгерд загневаліся на псковічаў. А ўжо раней гэтага пачаў Альгерд няміласць мець на псковічаў, калі ваяваў Навагародскую зямлю і Лугу і зноў пайшоў па Пскоўскай воласці ў сваю зямлю. "Многа, – казаў, – маіх людзей загінула і коней у вашай воласці". І дзеля таго многа ў гневе варагаваў. Потым, што быў купец пскоўскі ў Полацку або ў Літве, тых хапаў Альгерд і сын яго Андрэй, тавар адыймалі і коні, а на саміх адкуп бралі і адпускалі прэч. Потым Андрэй з палачанамі, з сваёй краіны прыгнаўшы без весткі, паваявалі колькі сёлаў Варонацкай воласці; яны першыя пачалі вайну.

## год 1349

*Траецкі летапіс:*

У той жа год умысліў Альгерд, князь літоўскі, паслаў у Орду да цара Чанібека брата свайго Карыята і прасіў раці ў цара сабе ў помач. І тое пачуў князь вялікі Сямён*, пагадаў з сваімі братамі і з баярамі і паслаў у Орду Фёдара Глебавіча ды Аміня ды Фёдара Шубачэева да цара скардзіцца на Альгерда. І пачуў цар скаргу, што Альгерд з сваёю браццю улус цара, князя вялікага вотчыну спустошыў, і выдаў цар Карыята, Міхайлу, і Сямёна Свіслацкага, і Айкшу, кілічэям князя вялікага, і даў пасла свайго Татуя, і загадаў выдаць Карыята і яго дружыну літву князю вялікаму. І прыйшоў пасол Татуй і выдаў Карыята і яго дружыну літву князю вялікаму Сямёну Іванавічу. <...> Альгерд, князь літоўскі, прыслаў паслоў сваіх да князя вялікага Сямёна Іванавіча, за свайго брата Карыята, і за баяраў, і за яго дружыну, за літву, з многімі дарамі, просячы міру і жывата ўсёй брацці, і многа срэбра паклаў. Князь вялікі Сямён прыняў міласць, і мір узяў, і пусціў Карыята і яго дружыну літву ў іх край.

* Сямён Іванавіч, вялікі князь маскоўскі ў 1340–1353 гг.

*Ліст папежа Клімента VI да польскага караля Казіміра:*
(VMPL, №691)

<...> Святло, якое асвячае кожнага чалавека, што прыходзіць у свет, заззяла ў сэрцы высакароднага мужа Кейстута і братоў яго, князёў літвінаў, дзякуючы твайму супрацоўніцтву <...>; пажадалі яны, ачысціўшыся ад аблуд язычніцтва і выгнаўшы цемру, прыйсці да ісціны каталіцкае веры з паддадзеным ім народам <...>. Пасля ачышчэння і прыймання імі нашае веры [nostre fidei] важымся мы <...> таму Кейстуту, а таксама братом і нашчадкам ягоным, надаць каралеўскі тытул і ўпрыгожыць адпаведнымі рэгаліямі. <...> Мы даручылі архібіскупу Гнезненскаму нашымі лістамі, каб ён падгатаваў святароў, мужоў, абазнаных у Боскім законе, каб выправіць да таго князя і яго народу, каб <...> настаўляць у веры тых, хто раней пад уплывам д'ябла былі сынамі цемры і аблуды, а цяпер, праз Боскае натхненне, прыняўшы купель адраджэння, жадаюць стацца сынамі святла і ўчаснікамі Боскае спадчыны. <...>

*Ліст папежа Клімента VI да князя Кейстута:*
(VMPL, №693)

Клімент біскуп і інш.
Высакароднаму мужу Кейстуту і яго братом князём літвінаў [Litwanorum], зычым спазнаць сапраўдную веру і яе захоўваць. Цешымся ў Госпадзе, што <...>, як паведамляе любы ў Хрысце сын наш Казімір, кароль Польшчы, вы пажадалі, ачысціўшыся ад слепаты аблуд язычніцтва [cece paganitatis expurgatis erroribus] і выгнаўшы цемру, перайсці да ісціны каталіцкае веры [catholice fidei] разам з паддадзеным вам народам <...>. Важымся мы <...> пасля вашага ачышчэння праз хрост і прыймання нашае веры <...> надаць вам і нашчадкам вашым каралеўскі тытул і ўпрыгожыць адпаведнымі рэгаліямі <...>. Мы даручылі архібіскупу Гнезненскаму нашымі лістамі, каб ён неўзабаве выправіў да вас святароў, мужоў, абазнаных у Боскім законе, якія вас адродзяць у купелі хросту і будуць настаўляць у веры <...>, каб тыя, хто раней былі сынамі цемры, цяпер, прыняўшы купель адраджэння, сталіся сынамі святла і ўчаснікамі Боскае спадчыны. <...>

## год 1350

*Навагародскія летапісы, Траецкі летапіс:*

У той год князь вялікі Альгерд прыслаў сваіх паслоў біць чалом князю вялікаму Сямёну Іванавічу, просячы за сябе сваячку князя Сямёна, княжну Ульянію, дачку князя Аляксандра Міхайлавіча Цверскага. І князь вялікі Сямён Іванавіч параіўся з Феагностам мітрапалітам і па дабраслаўленні айца свайго Феагноста мітрапаліта ўсяе Русі выдаў сваю сваячку вялікую княжну Ульянію за князя Альгерда.



*Сватанне княгіні Юльяніі за Альгерда (мініятура з Аблічнага зводу, 16 ст.)*

*Длугаш:*

У той год, таксама і ў зімовую пору, літвіны шматкроць увальваліся ў Польскае каралеўства. Спачатку зямлю Лукаўскую, потым Радамскую, а наастатку Судамірскую знянацку шыбкімі загонамі наязджалі і, учыніўшы многія бязбожныя забойствы, гвалты і рабаванні, зводзілі палоненых абодвае плоці і захопленае быдла ў Літву. Такімі наездамі, якія адбываліся почасту і раптоўна, яны дужа спустошылі Польскае каралеўства, палохаючы паспаліты люд не так сваёю лютасцю, як уставічнаю страшлівасцю і раптоўнасцю нападаў. Шляхта і рыцары польскія <...> выступалі проці іх і схадзіліся ў адзінкавых бітвах <...>; але ў тых бітвах з дапушчэння божага палякі звычайна ўцякалі, а літвіны перамагалі, хаця не раз коштам сваёй крыві.

## год 1351

*Длугаш:*

Князі літоўскія <...>, скупіўшы вялікае войска з літвінаў, русі, татараў і іншых народаў, што ім прыслухалі, рушылі пад Львоў <...> і ўсе ваколічныя сёлы і мястэчкі разрабавалі, пазабівалі жыхароў, частку забралі ў няволю, а навакол пусцілі пажары. З Львоўскае зямлі рушылі пад Бэлз, а захапіўшы замак Бэлзу, рушылі з войскам пад замкі Валадзімерскі і Берасцейскі, <...> і захапілі Бэлзскі, Валадзімерскі, Холмскі і Берасцейскі паветы*. <...>

* у гэты час ішла вайна за Валынь з палякамі, якія захапілі частку валынскіх зямель

*Ліст папежа Клімента VI да польскіх біскупаў:*
(VMPL, №702)

<...> Любы ў Хрысце сын наш Казімір, кароль Польшчы, з вялікімі цяжкасцямі і выдаткамі падпарадкаваў сваёй волі зямлю або княства няверных русінаў [infidelium Ruthenorum] <...>; а татары, ворагі хрысціянскага імя, якія панавалі над тымі русінамі, уклалі звяз з літвінамі, таксама ворагамі нашай веры [Lithwanis eiusdem fidei inimicis], якія мяжуюць з тымі русінамі, і пасля захопу тое зямлі працягваюць варожа нападаць на згаданую зямлю <...>. Не адно згаданая зямля, але і ўся Польшча дзеля моцных нападаў згаданых татараў і літвінаў можа быць цалкам знішчана і разрабавана <...>, таму той кароль пакорліва падаў нам просьбу аб помачы яму <...> у вайне з тымі няверными. <...>

*Дубніцкая хроніка*
(Chronicon Dubnicense / rec. M. Florianus. Quinque-Ecclesiis, 1884. p. 160-161)

У год Гасподні 1351 <...> цягнуў кароль (вугорскі) з Буды проці літвінаў <...>; прыйшоў у Судамір у свята св. Маргарыты; потым прыйшоў да Любліна, горада ля мяжы з літвінамі [in confinibus Lithwanorum] <...>; і гаспадар Кейстут, князь літвінаў, наказаў каралю <...>, што жадае ўчыніць мір.
<...> Кейстут загадаў прывесці быка чырвонага колеру, прывязаў да дзвюх шулаў, схапіўшы, усадзіў у быка літоўскі нож, ударыў яго ў сярэднюю вену, адкуль пайшла струмянём крывя; і гэтаю крывёю ён сам і ўсе літвіны рукі і твары шмаравалі і гукалі па-літоўску [lithwanice]: *rogachina roznenachy gospanany**, што перакладаецца: “Госпадзе, на нас і на рагатую жывёлу паглядзі, клятву між намі абяцаем цяпер развязаць”.

* то бо “Рагаціна – розні нашы, Госпад на ны”

## год 1352

*Хроніка Альберта з Страсбургу:*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. II. Leipzig, 1863. S. 737)

У год 1352 гаспадар Літвы з незлічонымі пасілкамі татараў праз Русь, якую амаль цалкам разбурыў, цягнуў на разбурэнне Кракава; брат яго быў палонены Людвікам*; разбурыўшы зямлю і ўнікнуўшы бойкі, ён вярнуўся ў свой край, зацінаючыся ў ранейшым вераадступніцтве [in pristina perfidia perseverans].

* падчас гэтага паходу вугорскім каралём Людвікам быў палонены князь Любарт: гл. дад. №15

*Хроніка Генрыка фон Рэбдарфа:*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. II. Leipzig, 1863. S. 742)

У сакавіку татары і паганскія русіны [Tartari et Ruteni pagani] з многімі загонамі ваяроў увaліліся ў Польшчу і рушылі проці караля Кракава; яны захапілі адзін горад і разрабавалі зямлю і жыхарства. Наастатку многія з тых ваяроў былі забіты і яны вярнуліся ў сваю зямлю.

*Длугаш:*

Татары, скупіўшыся ў вялікую орду і атрымаўшы ад Літоўскага князя Альгерда дары і размаітыя абяцанні, мечам і рабаваннямі спустошылі Падольскую зямлю, што належала Польшчы. Бо вельмі Літоўскага князя Альгерда клапаціла тое, што кароль Польскі Казімір па смерці Баляслава, сына Тройдзеня, князя Мазоўскага, цалкам загарнуў Львоўскую зямлю пад сваю моц і права.

*Ніканаўскі летапіс:*

У той год інак Феадарыт* высвячаны быў на мітрапаліта патрыярхам Тырнаўскім і прыйшоў у Кіеў.

* Феадарыт, баўгарскі манах, кандыдат Альгерда на Кіеўска-Літоўскую мітраполію

*Цверскія летапісы:*

У год 1352 князь вялікі Сямён Іванавіч* скупіў многіх вояў і пайшоў раццю да Смаленска ў вялікай і цяжкай моцы, а з ім брацця ягоная князь Іван ды князь Андрэй і ўсе князі з імі. І дайшлі да Вышгараду на Паротве, тут сустрэлі яго паслы ад князя літоўскага Альгерда з многімі дарамі, дзеля міру. Князь жа вялікі Сямён Іванавіч не адрынуў Альгердава слова, узяў мір, а паслоў адпусціў з мірам. <...>

* Сямён Іванавіч – вялікі князь маскоўскі ў 1340–1353 гг.

**год 1353**

*Длугаш:*

Князі Літоўскія Альгерд, Кейстут і Патрыкей*, скупіўшы войска з літвы і русі, рушылі на Прусы, каб помсціць за паразу ля Лабава і смерць князя Смаленскага. Калі ўваліліся да воласці Рэзэль, люта разрабавалі яе, выліўшы сваю лютасць нават на старых і дзецях. Пашырыўшы рабаванні, забіўшы шмат палякаў і забраўшы вялікую лічбу палонных (між якіх, апрача халопаў і паспалітага люду, было пяцьсот шляхты), нідзе не зазнаўшы адпору, яны вярнуліся да Літвы.

* Патрыкей Кейстутавіч, князь гарадзенскі (каля 1348–1365 гг.)

*Ліст папежа Інацэнта VI да князя Мазоўскага:*
(VMPL, №727)

<...> Прыйшла да нас цяжкая скарга ад любых нам братоў шпіталя Прачыстае Марыі дому Тэўтонскага Ерусалемскага, што калі яны рушаць у выправы проці няверных літвінаў [infideles Litwanos] і некаторых русінаў-схізматыкаў, іхніх падданых, якія нападаюць на згаданых братоў і іншых хрысціянаў, не спыняючы войны, то некаторыя твае падданыя, почасту даведваючыся з бліжніх местаў аб падгатове і рушэнні згаданага майстра і братоў, паведамляюць аб гэтым тым літвінам, дзеля чаго яны могуць абараніцца і выступіць проці згаданых братоў <...>. І наадварот, калі літвіны варожа рушаць проці згаданых братоў і іх зямель, тыя (твае падданыя) іх прыязна вітаюць і выпраўляюць, паказуючы ім пераправу і дарогу ў глухіх і непраходных месцах, на вялікую шкоду згаданаму майстру і братом ды наогул хрысціянскай веры <...>. Расказуем табе загадаць сваім падданым, каб старaніліся згаданых няверных [infidelibus] і не чынілі ім ніякае помачы <...>.

## год 1354

*Ніканаўскі летапіс:*

У той год закалот сярод клеру здарыўся, чаго не бывала раней на Русі: у Царградзе патрыярх высвяціў двох мітрапалітаў на ўсю Рускую зямлю, Алексія і Рамана, і была між імі вялікая непрыязнь. І тады ад іх абодвух з Царграду прыйшлі паслы ў Цвер да Фёдара, уладыкі Цверскага, і была святарскаму чыну цяжкасць вялікая паўсюль. У той жа год прыйшоў вялебны Алексій мітрапаліт з Царграду на Маскву; таксама і Раман мітрапаліт пайшоў з Царграду на Русь.

*Нікіфар Грыгара:*
(Nicephori Gregorae Historiae Byzantinae. Vol. III. Bonnae, 1855. p. 517-519)

<…> Апрача трох князёў, якія пануюць над усёй Руссю, ёсць яшчэ чацвёрты, які перавышае ўладаю і ваеннаю моцаю іншых <…>. Яго народ чыслены і непераможны. Хаця гэты князь чужога нам выхавання і справуе службу і шанаванне сонцу, але ён надовечы паабяцаў, што будзе трымацца адзінаслаўнае [ομοδοξος] з намі рэлігіі, калі мы ўрадзім дасланаму ад яго кандыдату Раману біскупства і мітраполію ўсяе Русі ў якасці наступніка па Феагносце, які надовечы сканаў. Князь асабліва мілаваў яго, бо той (Раман) быў яго сваяком праз малжонку. Так што яны былі ў адной думцы і князь быў пабожны і схільны да нашых Боскіх дагматаў, і дзеля таго і таму Раману быў прыяцелем і шмат і доўга слухаў яго, калі той прыходзіў да яго і павучаў яго аб пабожнасці, а таксама навучаў словам прарокаў і апосталаў, так што і ён пачаў насіць іх на вуснах. Бо і князь палюбіў Рамана – часткова за гэта, а часткова за тое, што атрымаў падгатову ў дагматах пабожнасці* праз многія яго навукі і павучэнні і быў блізкі да атрымання святога хросту.

Той Раман быў з пабожных людзей, выхаваны належнымі ведамі, ён стаўся святаром і атрымаў навукі з святых кніг. Яму было пяцьдзясят пяць гадоў, твар у яго быў жывы, характар пасцівы і пабожны. Ён працаваў дзеля таго, каб скончыць з прымхамі таго люду, калі б тое было дазволена воляю князя. Але дзеля гневу божага не паспеў Раман даканаць добрую справу, бо надовечы была ўвязана ў нашай царкве проці ўсіх законаў герэзія многабоства**.

Дыкжэ выступіў проці таго Рамана нехта на імя Алексій, які хутка прыбыў у Бізантыю. Нізкага паходжання і выхавання, дарма што яго нізкая дастойнасць, ён быў высвячаны на дастаенства біскупа і, падобна тым спартам і гігантам***, нагабаў на мітрапалічы сталец. Чалавек нізкі, недасціпны, лукавы, далёкі ад усякіх навук і пабожнасці, вінаваты ў многіх выступках, як пазней паказалі лісты тамтэйшых людзей. Але ён даў шмат грошай Кантакузэну****, які тады гаспадарыў, і Філафею патрыярху на іх карысць, каб тое, аб чым належыць мовіць паспаліта, мовілі з зачыненымі вуснамі. Пачаткі разумнасці і высокія законы былі адкінуты, і ўся Русь падзялілася на дзве часткі – Раманаву і Алексіеву. <…>

* то бо, відаць, быў абвешчаны ў веры
** то бо навука Паламы
*** спарты і гіганты – міфічныя пачварныя народы, якія жадалі захапіць неба
**** Іван Кантакузэн, рэгент і фактычны гаспадар Бізантыйскага цэсарства ў 1347–1354 гг.

*Грамата патрыярха Канстантынопальскага Філафея, 1364 г.:*
(ПДКП, приложения, №15)

Свяцейшае біскупства Літоўскае спачатна падпарадкавана было вялебнаму мітрапаліту Кіеўскаму і ўсяе Русі; яно знаходзілася пад яго ўладай і складала нямалую частку яго епархіі; яно прыймала біскупаў, якіх ён туды высвячаў, і было кіравана ім, нароўні з іншымі біскупствамі <...>. Але як магутны князь Літоўскае зямлі, непрыязны да вялебнага мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі спадара Алексія, гатовы быў учыніць усё, каб не мець яго мітрапалітам і не мець сваё гаспадарства і край у духовым падпарадкаванні яму, і жадаў, каб яго край быў самастойным і быў паднесены на ровень мітраполіі, кіраванае ўласным мітрапалітам, аб чым і прасіў свяшчэнны і высокі збор, – то гэты збор, занепакоены магчымымі турботамі, якія маглі б паддаць той шматлюдны народ духоўнай небяспецы і зусім адрынуць яго ад святога цела царквы, паставіў пасланага адтуль і прызнанага дастойным кандыдата на мітрапаліта таго краю, згодна з жаданнем яго народу, з мясцовымі патрэбамі і жаданнем згаданага князя. <...>

*Ліст папежа Інацэнта VI да польскіх біскупаў:*
(Skarbiec diplomatów, №403)

<...> Даведаліся мы з надовечы дасланых лістоў і ад пасольства караля Польскага Казіміра, што вераадступныя і няверныя люды татараў і літвінаў, распаленыя тым, што Польскае каралеўства, месцячыся на ўскраіне хрысціянства, лёгкі ім адчыняе прыступ да іншых хрысціянскіх гаспадарстваў, няспынна на працягу трох гадоў люта нападалі на яго злучанымі моцамі, дзеля вынішчэння прававерннага люду. Таксама, што кароль таго гаспадарства праз тры мінулыя гады выдаткаваў свае скарбы, а таксама ў мінулым годзе зазнаў вялікія страты ў людзях, якіх забілі або звялі ў палон, і таму не здольны ставіць чало той навале. <...> Дзеля таго даем згоду на ўзычэнне помачы проці тых ворагаў і на абвяшчэнне крыжовае выправы <...>.

## год 1355

*Ліст папежа Інацэнта VI да польскіх пралатаў:*
(VMPL, №742)

<...> Паведаміў нам Казімір, кароль Польшчы, праз сваіх паслоў <...>, што няверныя народы татараў і літвінаў, ворагі хрысціянскага імя [infidelium Tartarorum et Lutwanorum gentes, christiani nominis inimici], ужо шмат гадоў варожа нападаюць на Польскае каралеўства і чыняць шмат шкоды жыхарству і добрам <...>. Гатовы стаць у помачы майстар і браты ордэну св. Яна Ерусалемскага, якія заўсёды гатовы рушыць проці ворагаў хрысціянскай веры [hostes fidei christiane]. <...>

*Ліст папежа Інацэнта VI да князя Мазоўскага:*
(VMPL, №748)

<...> Пачулі мы, што ты, распалены гарлівасцю да артадаксальнай веры, усім сэрцам жадаеш яе пашырэння, а асабліва наварачэння няверных літвінаў [infidelium Lituanorum], суседніх да твайго княства. <...> Чынім ведама тваёй міласці, што мы напісалі князём літвінаў аб тым наварачэнні іхняга народу <...>.

*З крыжацкіх крыніц:*
(J.R. Becker. Versuch einer Geschichte der Hochmeister in Preußen seit Winrichs von Kniprode bis auf die Gründung des Erbherzogtums. Berlin, 1798. S. 25-26)

Кніпродэ* наважыўся зладзіць выправу. Дзесяць тысяч чалавек выправіліся ў зямлю ворага. На чале быў Зігфрыд фон Танэнфельд. Пяць дзён рушыла гэтае войска за мяжой Літвы з вялікім поспехам. Тады Кейстут пасварыўся з Альгердам. Танэнфельд паабяцаў яму (Кейстуту) помач і падтрымку, калі той пажадае прыняць хрост і задзіночыцца з ім проці Альгерда. Але пачэсны літвін не пажадаў ператвараць свой гнеў проці аднаго чалавека ў няшчасце для сваёй Айчыны. Раззлаваны гэтаю прапановаю, ён загадаў абрэзаць насы і вушы паслом і перадаць Танэнфельду адказ: калі яшчэ паслы прынясуць яму падобную прапанову, то ён іх укрыжуе.

* Вінрык фон Кніпродэ, вялікі майстар Тэўтонскага ордэну ў 1351–1382 гг.

## год 1356

*Ніканаўскі летапіс, цверскія летапісы:*

У той год Алексій мітрапаліт пайшоў другім разам да Царграду; а Раман мітрапаліт раней за яго пайшоў да Царграду і ў той год была там між імі пярэчка вялікая. <...> У той жа год прыйшоў з Царграду вялебны Алексій мітрапаліт з вялікаю чэсцю і з дабраславеннем на ўсю Рускую зямлю. Таксама і Раман мітрапаліт прыйшоў з Царграду ад патрыярха на Літоўскую зямлю і на Валынскую.

*Нікіфар Грыгара:*
(Nicephori Gregorae Historiae Byzantinae. Vol. III. Bonnae, 1855. p. 519-520)

<...> Пачаткі разумнасці і высокія законы былі адкінуты, і ўся Русь падзялілася на дзве часткі – Раманаву і Алексіеву. О, калі б захаваўся той падзел як раней. Але ад Рамана часткова забралі вызначанае яму і далі большую ўладу Алексію, а на Рамана ўчынілі звінавачванні. Таму поўны надзей Раман прыбыў у Бізантыю, прымушаны загадам сваёй галавы, да цэсара Палеалога* і патрыяршага стальца на паслуханне да патрыярха Каліста**. Ён, вядома, несправядліва ставіўся да загадаў патрыярха і складаў лісты і звінавачванні. Але, перш чым справа была развязана, зноў прыбыў Алексій, прапануючы вялікія грошы. Іх патрыярх прыняў, поўны прагі да зямных скарбаў, у несправядлівай развазе. Таксама звяртаўся ён і да іншых, далучаючы да сябе. І так, сказіўшы яго сваімі грошамі і перацягнуўшы на сваю волю, атрымаў грамату ад патрыярха Каліста. Той, хто кляўся абараняць святыя законы, цяпер прадае міласць Святога Духу, нібыта танны тавар на рынку, як тыя прыхільнікі сэкты Сымона Мага. Потым гэты брыдкі звычай пачаў існаваць адкрыта і прыцягнуў да сябе іншых. <...>

* Іван Палеалог, бізантыйскі цэсар у 1341–1376 гг.
** Каліст, патрыярх Канстантынопальскі ў 1350–1354 і 1355–1363 гг.

*Зборны вырак патрыярха Канстантынопальскага Каліста аб Кіеўскім і Літоўскім мітрапалітах, 1361 г.:*
(ПДКП, приложения, №13)

<...> Потым прыйшоў ясна асвячоны мітрапаліт Літоўскі спадар Раман, улюбёны ў Госпадзе брат і супольнік нашае мернасці, і таксама быў высвячаны на мітрапаліта Літоўскага. Потым, вярнуўшыся ў дадзеную яму епархію, ён выказаў нагабанні на большае, учыніў праз гэта розныя клопаты ясна асвячонаму мітрапаліту Кіеўскаму і ўсяе Русі спадару Алексію, і парушыў дадзеныя яму правы. Адсюль паўсталі спіранні між імі, дзеля чаго ён зноў прыходзіў сюды да ўзвышанага Богам і святога майго самадзержцы [цэсара], да нашай мернасці і стаячага пры нас Боскага і свяшчэннага збору, патрабуючы тое, чаго жадаў і на што нагабаў, дзеля чаго адбыўся між імі закалот. <...> Ясна асвячоны мітрапаліт спадар Раман не толькі не пажадаў, сыходзячы адсюль, узяць грамату нашае мернасці аб умацаванні таго выраку і не выявіў патрэбнае паслухмянасці нашай мернасці, але таемна сыйшоў у свой край і, прыбыўшы туды, многае ўчыніў (як нам наказалі) насуперак канонам: гэтак, прыйшоўшы ў Кіеў, ён проці права адпраўляў літургію, і чыніў высвячэнні, і зухвальна менаваў сябе адзіным мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі, што выклікала калатню і замяшанне ў краі ясна асвячонага мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі* і схіліла літоўскага гаспадара пайсці проці хрысціянаў і ўчыніць ім нямала бед і разліцця крыві**.

Усё гэта дакладна выклалі тут паслы ясна асвячонага мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі спадара Алексія, згадуючы многае іншае, а асабліва прынесеную сюды грамату ясна асвячонага мітрапаліта спадара Рамана, наконт якой паслы ясна асвячонага мітрапаліта Літоўскага (якія раней прыехалі сюды) разгалашалі, нібыта пахваляючыся: "Відаць, ясна асвячоны мітрапаліт спадар Раман ёсць моцным і здольны авалодаць ўсёю вобласцю Рускае мітраполіі, калі ён, прыйшоўшы ў Кіеў, адпраўляў літургію, захапіў многія біскупствы і схіліў літоўскага гаспадара проці спадара Алексія; маючы такую моц у літоўскага гаспадара, ён можа смела чыніць усё". <...>

* то бо Алексія Маскоўскага
** мова, відаць, пра паходы Альгерда на Бранск і Смаленск у 1356 г. і на Мсціслаў, Смаленск і Ржэву ў 1359 г.

*Зборны вырак патрыярха Канстантынопальскага Ніла, 1380 г.:*
(ПДКП, приложения, №30)

<...> Літоўскі князь, які кланяўся агню, заўжды гатовы ўчыніць спусташальны паход на чужы край і захапіць усякі горад, не маючы, аднак, ніякага прыступу ў Вялікую Русь*, не пажадаў заставацца ў спакоі, але задыхаў агнём варажнечы на мітрапаліта**, імкнучыся ўчыніць яму найбольш цяжкія крыўды. Гэтак, аднойчы, паланіўшы яго падманам, калі ён аглядаў Малую Русь*** і падпарадкаваных яму хрысціянаў, адняў у яго каштоўнае начынне, паланіў яго спадарожных і мабыць забіў бы яго, калі б ён, праз помач некаторых, не сыйшоў бы таемна і такім чынам не ўнікнуў небяспекі. Будучы непрыязным да мітрапаліта і жадаючы помсціць яму праз усё жыццё за тое, што той не даваў яму ўлады ў Вялікай Русі, але ўчыніў яе зусім зачыненай для яго, Альгерд справіў, каб высвячаны быў на мітрапаліта Раман, за якога дужа ўчыняўся тут, дзеля таго што быццам яго народ не жадаў мець мітрапалітам спадара Алексія, а насамрэч – каб, праз помач Рамана, прыязнага да яго, набыць сабе ўладу і ў Вялікай Русі. Дзеля таго паўстала шмат закалотаў і забурэнняў <...>.

* Вялікая Русь – звычайны ў грэцкіх крыніцах ад сярэдзіны 14 ст. назоў усходняе (Маскоўскае) Русі
** Алексія Маскоўскага
*** Малая Русь – звычайны ў грэцкіх крыніцах ад сярэдзіны 14 ст. назоў Валыні і Галіччыны

## год 1357

*Ліст папежа Інацэнта VI да польскага караля Казіміра:*
(VMPL, №776)

<...> Майстар і браты ордэну шпіталя Прачыстае Марыі дому Тэўтонскага Ерусалемскага паклалі нам скаргу аб тым, што ты без усялякае разумнае прычыны ў шкоду ім і іхнім землям уклаў мір і ўгоду* з няверными літвінамі [infidelibus Letwinis], галоўнымі ворагамі каталіцкай веры [catholice fidei capitalibus inimicis]. Таксама тым братом і майстру сталася вядома, што ты ўклаў дамову і звяз з татарамі, таксама ворагамі нашай веры [Tartaris eiusdem fidei hostibus], якія, як паведамляюць, вялікім войскам разрабавалі большую частку Вугоршчыны, і таксама што за тую частку зямлі русінаў-схізматыкаў, якую ты здабыў з вялікім разліццём крыві хрысціянаў, ты таму цэсару татараў колькі гадоў плаціш даніну, а праз лютасць згаданых няверных не адно тым братом і майстру, але і ўсім часткам хрысціянства ўчыніўся вялікі пострах шкоды і цяжкасцей, якія могуць дзеля гэтага ўчыніцца. <...> Пільна просім цябе <...> адмовіцца ад усіх звязаў або ўгод, калі яны ўкладзены між табой і тымі нявернымі і схізматыкамі, а таксама ад абяцання сплаты даніны <...>.

* паводле мірнае дамовы 1356 г. Літва і Польшча падзялілі галіцка-валынскія землі

*Супліка польскага караля Казіміра да папежа Інацэнта VI:*
(Monumenta Poloniae Vaticana. t. III. Cracoviae, 1914. №375)

Паведамляе вашай святасці адданы сын ваш і Святой Маці Царквы Казімір кароль Польскі, што літвіны, ворагі хрысціянскай веры [Lethwani, hostes fidei christiane], суседнія да каралеўства Польшчы, процi якіх той кароль як каталіцкі гаспадар і адданы сын царквы ваюе, як дзеяннямі, так і пасцівымі напамінамі і просьбамі імкнучыся вярнуць іх да шляху ісціны, каб яны спазналі адзінага Бога <...>, не жадаюць або не могуць быць прыведзены да спазнання гэтай ісціны. <...> Але каб снадней прывесці згаданых няверных [infideles] да вызнання артадаксальнае веры [ad fidei orthodoxe cultum] <...>, просіць згаданы кароль выправіць лісты да найяснейшага гаспадара Караля, цэсара Рымскага, і найсвятлейшага Людвіка, караля Вугорскага, патрабуючы ад іх абодвух, каб яны памаглі бараніць неафітаў ад няверных разам з каралём Польшчы <...>. Таксама просіць той кароль Польшчы, каб архібіскуп Гнезненскі <...> меў уладу над усімі цэрквамі, катэдрамі, манастырамі і царкоўнымі месцамі, якія будуць збудаваны і пастаўлены ў землях тых няверных пасля іх наварачэння, і каб усе тамтэйшыя пралаты, рэктары, міністры і іншыя (царкоўныя) асобы заўсёды прыслухалі Гнезненскай правінцыі і яе архібіскупу <...>.

## год 1358

*Вартберг:*

Тады таксама здарылася, што адзін няпраўдзівы сваяк цэсара, чалавек, які здрадзіў Ордэну, на імя Плавэ, пашырыў (дзеля апаганьвання Ордэну) між набліжанымі да цэсара чуткі аб тым, што літвіны [Letwini] жадаюць хрысціцца ў каталіцкай веры. Цэсар, які лёгка даў яму веры, даслаў дзеля разбору справы архібіскупа Прагі, герцыка Апаўскага і прэцэптара Нямеччыны. Вялікі майстар, даўшы надзейных павадыроў, выправіў іх з вялікім накладам да літвінаў, дзе яны растлумачылі мэты свайго пасольства. Але літвіны запатрабавалі такую памежную лінію: спачатку пачынаючы ад Мазоўшы да верху ракі Алле, потым уздоўж Алле долу да ўтоку Алле ў раку Прэгель, потым ракою Прэгелем да Фрышгафу, потым да мора, і адтуль уздоўж мора да таго месца, дзе Дзвіна ўцякае ў мора, потым па Дзвіне ўгару, да таго месца, дзе ў Дзвіну ўцякае рака, што выцякае з возера Любань, і ад гэтае ракі ўздоўж таго возера наўпрост у Русь. Таксама яны запатрабавалі, каб Ордэн быў перамешчаны ў землі між татарамі і русінамі, дзеля абароны іх ад татараў, і каб Ордэн не меў ніякіх правоў на русінаў, але каб цэлая Русь прыслухала літвінам [omnis Russia ad Letwinos deberet simpliciter pertinere], і мовілі: “Калі ўісцім нашыя патрабаванні, то выканаем волю цэсара”. Дзеля гэтага паслы, нічога не даканаўшы, вярнуліся назад, бо палічылі патрабаванні літвінаў занадта вялікімі.

*Цверскія летапісы:*

Князь Усевалад* пайшоў у Орду з Літвы. У той жа год Волацкая раць ды Мажайская ўзялі Ржэву, а літву выслалі прэч.

* Усевалад Аляксандравіч, князь холмскі, брат Міхайлы Цверскага і Юльяніі, малжонкі Альгерда

## год 1359

*Длугаш:*

<...> Землі Люблінская, Сецяхоўская і Лукаўская, у мінулыя гады разрабаваныя і панішчаныя наездамі татараў і літвінаў, на просьбу караля Казіміра былі звольнены Бадзантам, біскупам Кракаўскім, на трыццаць гадоў ад снаповай дзесяціны, каб снадней іх асадзіць. Гэты вырак, каб ён у сваёй істасці трываў у патомныя часы, быў укладзены як прывілей на пісьме і зацверджаны пячаткаю біскупа Бадзанты і кракаўскае капітулы. <...> У грамаце той было напісана: “<...> Мы, Бадзанта, з Боскае і сталіцы апостальскае міласці біскуп Кракаўскі, убачыўшы, што землі Люблінская, Сецяхоўская і Лукаўская, што належаць да нашай дыяцэзіі, разбураны наездамі няверных татараў і літвінаў у слушнай кары за нашыя грахі, жадаючы іх асадзіць <...>, усіх, хто жадае асесці ў тых землях, або ўжо асеў, звальняем цалкам ад сплаты дзесяцін <...>”.

*Ніканаўскі летапіс, цверскія летапісы:*

У той год князь Усевалад Аляксандравіч Холмскі, унук Міхайлаў, праўнук Яраслава, пайшоў у Літву. <...> У той жа год князь вялікі Літоўскі Альгерд Гедымінавіч прыходзіў з раццю да Смаленска і горад Мсціслаў узяў і намеснікаў сваіх у ім пасадзіў. У той жа год князь вялікі Альгерд Гедымінавіч выправіў сына свайго Андрэя з вялікаю моцаю да Ржэвы і горад узяў і намеснікаў сваіх у ім пасадзіў.

## год 1360

*Ніканаўскі летапіс:*

Вялебны мітрапаліт Алексій прыйшоў з Кіева ў Валадзімер і на Маскву. А Раман мітрапаліт прыйшоў у Цвер дарэмна і бессаромна, не паслаў лістоў прыязных да вялебнага мітрапаліта Алексія, і не было яму нічога па яго волі і думцы, і не бачыўся з ім Фёдар біскуп Цверскі, і ніякае чэсці яму не даў. Ён пабыў малы час у валасцях цверскіх, прыняў патрэбнае ад князёў і ад баяраў цверскіх і вярнуўся ў Літву.

У той жа год князь Усевалад Аляксандравіч Холмскі прыйшоў з Літвы і ўзяў мір і прыязнь з браццю сваёю <...>. Князь жа Ўсевалад Аляксандравіч Холмскі ўчыніў вялікую чэсць і даў дары Раману мітрапаліту і загадаў правесці яго ў Літву з чэсцю. У той жа год князь вялікі Літоўскі Альгерд Гедымінавіч прыязджаў Ржэву глядзець.

*Зборны вырак Канстантынопальскага патрыярха Антонія, 1389 г.:*
(ПДКП, приложения, №33)

<...> Колькі гадоў таму высвячаны быў на мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі свяцейшым добрае памяці патрыярхам спадаром Філафеем, за часу яго першага патрыяршаства, дасланы адтуль біскуп валадзімерскі спадар Алексій. Вярнуўшыся туды і маючы такую ўладу, ён пачаў не аднолькава ставіцца да ўсіх князёў і не аб усіх мець роўны клопат (як бы мусіў чыніць той, хто мае даць слова аб усіх у дзень суду), але да адных выяўляў агіду, а да іншых прыхільнасць. Калі ж вялікі князь маскоўскі Іван*, паміраючы, даручыў яму апеку і клопат аб сваім сыне Дзмітрыю, то ён увесь аддаўся гэтай справе і занядбаў Боскія законы і прыказанні, прыняўшы на сябе, замест клопату і настаўлення хрысціянаў, свецкую ўладу, дзеля чаго (закліканы спачатна навучаць міру і згодзе) захапіўся войнамі, сваркамі і разладамі. Прытым ён пакінуў усю зямлю Літвы (якой валодаў вялікі князь, які кланяўся агню) без пастырскага нагляду, а саму мітраполію ўсяе Русі, то бо Кіеў, – без біскупа. Адсюль распачаліся разлады, сваркі і крывавыя войны ўсіх князёў міжсобку, якія накінуліся адзін на аднаго і на самаго свайго пастыра, вінавайцу ўсіх гэтых разладаў. <...>

* Іван Іванавіч Красны, вялікі князь маскоўскі ў 1353–1359 гг.

## год 1361

*Ліст патрыярха Каліста да мітрапаліта Літоўскага Рамана:*
(ПДКП, приложения, №14)

<...> Судом цэсарскім і зборным нашае мернасці пастаноўлена, каб твая святасць мела, поруч з дзвюма літоўскімі [των Λιτβων] епархіямі, Полацкаю і Тураўскаю, разам з Наваградкам, яшчэ біскупствы Малое Русі, а вялебны мітрапаліт спадар Алексій дзяржаў Кіеў і ўсе рускія біскупствы, на якія ён прызначаны падчас высвячэння. І ён, як гэта відаць з ягоных грамат і з самое справы, няўхільна выконвае той вырак і знаходзіцца ў вызначаных яму межах.

А твая святасць, як шматкроць наказвалі нашай мернасці, ўлегцы маючы тадышні пісьмовы вырак, пацверджаны, як адзначана вышэй, і царскім судом, заняў Кіеў і пачаў там адпраўляваць Боскую службу і чыніў некаторыя іншыя справы, годныя для сапраўднага архіерэя, і не адно там, але і ў Бранску, біскупстве таго ж спадара Алексія. Папросту мовячы, ты заўжды чыніш яму клопаты, урываючыся ва ўсе ягоныя царкоўныя правы і чынячы насуперак дакладнаму сэнсу Боскіх і свяшчэнных канонаў, якія ты на пісьме забавязаўся непарушна захоўваць. <...>

І вось зноў нашая мернасць даведалася ад людзей, што прыходзілі сюды, што ты не адно чыніш вышменаваныя неканонныя справы, на ўласную шкоду, але і падбухторыў літоўскага гаспадара рушыць проці так менаванага гораду Алексія і разрабаваць тамтэйшых хрысціянаў: гэта ўчыніў ты найганебнейшую справу, калі толькі было ўсё так, як наказалі нам.

<...> Чыні так, як зборам наказуе табе нашая мернасць. Міласць Боская няхай будзе з тваёю святасцю.

*Віганд:*

У год 1361 Генрык Храніхфэльд, Генрык Белер, Альберт Герцык – слаўныя і мужныя браты Ордэну – з 250 людзьмі рушылі на Русь ў воласць Бельску. Але яны не здолелі перайсці ўброд раку Нараў і тады вярнуліся да аблогі замку Эке́нсберг. Брат жа Генрык Белер перайшоў раку ўброд і знайшоў язычнікаў, якіх было пяцьсот, а між іх Кейстут, Патрыкей і Альгерд. <...> Потым браты пайшлі ўтропы за непрыяцелем, пакуль не спаткаліся, і пачалася тут з абодвух бакоў бойка на смерць. У той бойцы 130 язычнікаў загінула, хрысціянаў жа загінула 14. Злякаўшыся, язычнікі павярнуліся на бег. <...> Ганкэ з Экенсбергу затрымаў Кейстута, стараста ж Экенсбергу, бачачы, што Кейстута скінулі з каня, злітаваўся над ім, памог падняцца і аддаў пад ахову Мікалая Віндэкайма гэтага князя і гаспадара літвінаў, які быў рады пакінуць месца бітвы. Прыбыў спешна саксонскі князь Альбрэхт і князя (Кейстута) за моцнаю старожаю прывез у Мальбарк*. <...>

І яго замкнулі ў адной вежы, якую ахоўвалі два браты адно ўдзень, але не ўначы. Знайшоўшы ў сцяне дзірку, Кейстут пачаў яе пашыраць і развярнуў сцяну, а тое, што выймаў, служку загадаў выносіць. І тое, аб чым доўга гадаў, а наймя свае ўцёкі, ён уісціў. Уначы ён пралез праз дзіру і спусціўся ў капаніцу з рады свайго служкі на імя Альф, які, хаця і быў хрысціянінам, але паходзіў з язычнікаў. Той памагаў князю і прынес яму белы насоў з чорным крыжом**. У гэтай вопратцы брата Ордэну на конях вялікага комтура паехаў Кейстут дарогаю, якую яму паказалі, і ў такой сукні і на такім кані без перaказ сыйшоў. Спаткаў яго адзін брат Ордэну і ўзаемна па-братэрску прывіталі яны адзін аднаго, не пазнаў крыжак Кейстута, але пазней прыгадаў, якім быў той уцеклы. Спешна ўехаў Кейстут у лес Лібштат, дзе схаваўся ў нейкай багне, адпусціўшы тых добрых коней, і заставаўся ў багне да сама ночы.

Потым, ідучы ў цемры, прышоў да ракі Дрэвенц, якую пераплыў. Пасля спешна прыбыў у Мазоўшу да сястры***, дзе бавіўся нейкі час, потым выправіўся ў Літву, дзе знаходзіліся яго паслы, якія былі ў яго ў Мальбарку. Тыя паслы чакалі яго ў пушчы, калі ён прыбыў да іх пешкі, стомлены дарогаю і знясілены. Не марнуючы часу, яны пасадзілі князя на каня і паспяшаліся дадому, і ўсе літвіны цешыліся з таго.

* Мальбарк – замак на захадзе Прусаў, галоўная сядзіба Тэўтонскага ордэну
** белы насоў з чорным крыжом – вопратка братоў-чальцоў Тэўтонскага ордэну
*** Данміла-Альжбэта, дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна, ад 1318 г. замужам за мазоўскім князем Вацлавам

*З крыжацкае крыніцы 14 ст.:*
(A. Kotzebue. Preussens ältere Geschichte. Bd. II. Riga, 1808. S. 204-205)

<...> Кейстута прывезлі ў Мальбарк. Ён быў высокі, худы, палкія вочы гарэлі на бледым твару. На галаве ў яго мала валасоў, сівая барада спадае на грудзь. Скупыя былі яго вусны, але кожнае слова было вельмі важкім. Калі ён пагражаў, у яго на ілбе ўзнімаліся вены. Усё яго аблічча выклікала страх, а яго адвага і сумленнасць выклікалі павагу. Таму вялікі майстар*, сам чалавек вялікае душы, узычаў гэтаму чалавеку вялікую чэсць. Ён абыходзіўся з ім вялікадушна і, каб не чыніць яму ніякае знявагі, толькі аднойчы наведаў яго. У пакоях замку, сцеражоны рыцарамі, Кейстут як і раней насіў знак чэсці ваяра – меч, бо Вінрык* забараніў аднімаць у яго меч. Ён цярпеў свой палон змрочна і маўкліва, а калі рыцары прыходзілі з ім пагутарыць, ён горда станавіўся да іх спіною. Ён прыймаў мала стравы і сон рэдка заплюшчваў яго вочы. <...>

* Вінрык фон Кніпродэ, вялікі майстар Тэўтонскага ордэну ў 1351–1382 гг.

*З крыжацкага рукапісу 14 ст.:*
(T. Narbutt. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. V. Wilno, 1839. s. 236-237)

Альгерд мае мажную постаць, колер твару барвяны, твар крыху даўгаваты, нос выдатны, вочы блакітныя, поўныя выразлівасці, бровы густыя, светлыя, барада доўгая, светла-русая, крыху сівая, такія ж валасы на галаве, спераду крыху выпалыя, чало высокае. Стану большага за сярэдні, ані сухі, ані тучны. Мовіць гучна, выразна, прыемным вуху голасам. Сядзіць на кані мажна, але калі ходзіць, кульгае на правую нагу. Дзеля таго звычайна ўспіраецца на кій або на пахолка. Добра разумее нашу мову і можа на ёй размаўляць, але ў размовах з нашымі заўжды трымае пры сабе тлумача. Тых тлумачоў мы бачылі трох, адзін немец, невядома адкуль родам, сказаў, што з Віцебска, – але, напэўна, то адзін з нашых уцекачоў з Эльбінга*.

Вялікі князь, калі не ідзе разам з войскам, якое кожную вясну рушыць у ваенныя выправы, улетку жыве ў замку, які месціцца на ўсход ад Вільні, на імя Меднікі. А вялікая княгіня вельмі рэдка выязджае з гораду, бо заўсёды занятая выхаваннем сваіх дзяцей, прыгожых, як вясеннія кветкі. Пры іх знаходзяцца настаўнікі і настаўніцы розных навук. Пры яе двару знаходзіцца грамада паненак, якія памагаюць ёй у работах і набажэнствах. Работы, што выходзяць з іхніх рук, ёсць рэдкае дасканаласці: майстрыхамі ў тых мастацтвах ёсць тры ахрышчаныя азіяткі. Мы былі ў надворнай царкве падчас вялікага набажэнства. У ёй усе жанчыны знаходзіліся на вялікім балконе, ахінутым зялёнаю сеткаю, за якой было відаць толькі іхнія цені. <...>

* Эльбінг – крыжацкі замак у Прусах, асяродак комтурства

## год 1362

*Цверскія летапісы:*

У тым жа годзе князь Міхайла Аляксандравіч* ездзіў у Літву аб міру і ўзяў мір з Альгердам. А немцы тады прыйшоўшы, узялі горад літоўскі, а сына Кейстутава захапіўшы, павялі ў сваю зямлю.

* Міхайла Аляксандравіч, князь цверскі ў 1368–1399 гг.

*Віганд:*

У тым годзе Люпус дэ Балдэргайм, вялікі комтур, і Генінг Шындэкопф, вялікі маршалак, умыслілі рушыць на Коўню. Майстар і названыя браты <...>, як і ўмыслілі, рушылі ў паход на Коўню з войскамі, як набранымі ў сваім краі, так і з гасцямі з Англіі, Італіі і Нямеччыны. На караблі з падарожным ветрам яны пераплылі Неман. Праплыўшы ў цішыні ля Вялены і Бісэны, яны спыніліся ніжэй Коўні, дзе стаялі да трэцяга дня, будуючы масты, і выйшлі на сушу на трэці дзень каля замку. Кейстут таксама з вялікім войскам прыбыў дзеля абароны замку. Але хрысціяне прымусілі яго з войскам адыйсці, і майстар з сваімі людзьмі абкружыў замак <...>. Пастанавілі хутчэй загінуць, ніж адступіць ад замку, не захапіўшы яго. <...> Князь Кейстут, вельмі занепакоены іхнім умыслам, з вельмі вялікім натоўпам сваіх стаяў ля Немана. Быў там і Альгерд з сваімі баярамі і смердамі [bayoribus et smyrdens] ля Віліі. <...>

Потым язычнікі ўбачылі, што ніхто не прыйшоў ім у помач. <...> У такіх небяспечных абставінах захоплены быў замак. <...> Брат Бургард дэ Мансфельд біўся з тымі, якія ўцякалі з сцен. Ён забіваў усіх, каго сустракаў, апрача Войдата, сына Кейстута, які з 36 язычнікамі быў узяты ў палон. <...>

Падчас гэтага штурму абодва гаспадары літоўскія былі наверсе пагорку і ў смутку ўсё назіралі, а заказіць не маглі, але малілі майстра, каб рачыў пакласці ім імёны палоненых на паперы <...>.

## год 1363

*Ліст папежа Урбана V да хрысціянаў каралеўства Польскага:*
(VMPL, №833)

<...> Даведаліся мы, што каралеўства Польшчы, суседняе да скажоных народаў няверных [infidelium], мае патрэбу ў помачы дзеля абароны верных. <...> Даем поўнае адпушчэнне грахоў усім, хто загіне або будзе паранены ў бітвах за караля проці літвінаў, татараў і іншых няверных і схізматыкаў [Litwanos, Tartaros et alios infideles ac scismaticos] <...>.

*Длугаш:*

Неўзабаве Прускі маршалак Генрык Шындэкопф учыніў новую выправу проці Літвы і Жамойці і сціснуў аблогаю замак Горадню. Але быў адкінуты зброяй Патрыкея, князя Літоўскага, які годна бараніў замак; маршалак разбурыў адно павет Горадні і з забранымі палоннымі вярнуўся да Прусаў.

*Цверскія летапісы:*

У тым жа годзе Алексій мітрапаліт паставіў Алексія ўладыку ў Суздаль ды паехаў у Літву, а з Цверы паехала княгіня Настася* ў Літву ж. У тым жа годзе мітрапаліт Алексій прыехаў з Літвы ды паставіў Парфенія ўладыкам у Бранск. <...>
У тым жа годзе Літва ўзяла Коршаў і стварыліся закалоты і цяжкасці людзям па ўсёй зямлі. У тую ж восень Альгерд паваяваў Сінюю ваду і Белабярэжжа.

* Настася Юр'еўна, княгіня цверская, маці Юльяніі, малжонкі Альгерда

## год 1364

*Цверскія летапісы:*

Тады ж княгіня Настася прыехала з Літвы з унучкаю сваёю, нехрышчонаю, дачкою Альгерда, і пахрысцілі яе ў Цверы, дзеля таго хросту мітрапаліт Алексій ездзіў у Цвер.

*Длугаш:*

Князі Літоўскія Альгерд, Кейстут і Патрыкей, пастанавіўшы направіць замак Коўні, раней захоплены і разбураны майстрам Прускім Вінрыкам, прыбылі да яго і за колькі дзён адбудавалі <...>. Тую будову крыжакі задумалі знішчыць і рушылі туды з вялікім загонам, якім даводзіў комтур Рагнеты. Спярша спалілі мост на Немане, а калі літвіны, што працавалі ля замку Коўні, паўцякалі, крыжацкае войска панішчыла агнём ўсе новыя будовы і замак зруйнавала. <...> Адтуль загон цягнуў да замку Вялены <...>.
Ужо крыжацкае войска вярталася да свайго краю, калі Літоўскі князь Кейстут таемнымі дарогамі ўваліўся да Прусаў і ўсю ваколіцу Юргенбургу разрабаваў, знішчыў і агнём спустошыў і з вялікімі лупамі вярнуўся да Літвы. <...> А калі потым маршалак Прускі рабаваў Жамойцкую зямлю, заступіў яму дарогу Літоўскі князь Кейстут, войска ягонае дашчэнту пабіў, а забраўшы лупы і вялікую паразу задаўшы прусаком, маршалка і астачы недабіткаў павярнуў на ўцёкі.

## год 1365

*Длугаш:*

Князь Літоўскі Кейстут, скупіўшы як з літвінаў, так і з жамойтаў коннае і пешае войска, уваліўся ў Прусы праз лясы і схаваныя пустэльні; не заўважаны шпегамі крыжакоў, ён захапіў замак Андэрборг. Па рабаванні бліжніх ваколіц ён забраў нямалыя лупы і рушыў да свайго краю. Тады рушыў за ім у пагоню фогт самбійскі і некаторыя з комтураў. Яны не здолелі адбіць забраных лупаў, але разрабавалі павет Эйраголы і забралі лупы ў Прусы.
Потым чатыры князі – Альгерд, Кейстут, Патрыкей і Аляксандр – з магутным войскам з літвінаў і русінаў чатырма загонамі рушылі да Прусаў і пашырылі па краі забойствы і гвалты, захапілі замак Рагнету і іншыя цвержы і папалілі многа вёсак <...>. Майстар Прускі Вінрык, помсцячы за паразу ад зброі няверных, з уласным толькі войскам уваліўся ў Літву і пачаў край у многіх месцах рабаваць і нішчыць; перайшоўшы раку Неман, загадаў пашыраць паўсюль забойствы і падпалы <...>. Наастатку, учыніўшы літвінам вялікія шкоды, з вялікаю лічбаю захопленых палонных ён вярнуўся ў Прусы.

*Вартберг:*

У тым жа годзе майстар Вільгельм* быў на працягу шасці дзён у Літве і разбураў усё рабаваннямі і пажарамі.

* Вільгельм фон Фрымерсгайм – ляндмайстар Тэўтонскага ордэну ў Ліфлянтах у 1364–1385 гг.

## год 1366

*Вартберг:*

У 1366 годзе той жа майстар у сярэдзіне паста павёў войска процi русiнаў на Полацк.

*Вiганд:*

Генiнгу Шындэкопфу* паведамiлi яго людзi, што князь Кейстут з вялiкаю прыязню прыбыў у Iнстэрбург**, i ён наважыўся сустрэцца з Кейстутам. Гэты маршалак з малой лiчбай сваiх прэцэптараў i з старастам Iнстэрбургу прыбыў да Рагнеты i пачуў, што вiжы старасты Iнстэрбургу бачылi лiтвiнаў. I калi лiтвiны былi ў полi, iхнiя вiжы забiлi куляю вялiзнага тура, якi быў кiмсьцi раз'юшаны i iмчаўся на войска. Убачыўшы яго, Кейстут мовiў да сваiх баяраў [bayoribus]: "У полi ёсць узброеныя людзi". I ён быў занепакоены i нецярплiвы i ўзброiўся разам з сваiмi людзьмi i, не спыняючыся анi днём, анi ўначы, цягнуў да Тамава, адкуль, не даўшы аб сабе весткi, паспяшаўся да Iнстэрбургу. Браты, якiя яшчэ сядзелi за вячэраю, убачылi князя i ледзьве паспелi падняць мост. Князь жа, заўважыўшы iхнiя конi, забраў iх, частку звёў да свайго краю, а частку забiў i захапiў пяцьдзясят палонных, а пасля паспяшаўся на ўмоўленую сустрэчу з маршалкам. Падчас яе князь i яго людзi сядзелi на конях, забраных у старасты замку, i староста сказаў яму, што ён не чакаў такога. А князь у адказ: "Такiя цяпер часы!"

* Генiнг Шындэкопф – найвышшы маршалак Тэўтонскага ордэну ў 1360–1370 гг.
** Iнстэрбург – крыжацкi замак у Прусах на рацэ Прэгель

## год 1367

*Цверскiя летапiсы:*

У той жа год у Маскве пачалi ставiць дзядзiнец каменны, спадзеючыся на сваю вялiкую моц, i князёў рускiх пачалi прыводзiць у сваю волю, а якiя не прыслухалi iхняй волi, на тых пачалi пасягаць злобаю. Гэтак пасягнулi яны на князя на вялiкага на Мiхайлу Аляксандравiча*, i князь Мiхайла дзеля гэтага з'ехаў у Лiтву. <...>
У той жа год увосень назаўтры па Дзмiтрыевым днi князь вялiкi Мiхайла Аляксандравiч прыехаў з Лiтвы ў Цвер з сваёю дружынаю, княгiню Ерамееву ды Сямёна Яму, iншых баяраў i служак дзядзькi свайго захапiў, ды потым пайшоў з лiтоўскаю рацццю да Кашыну. I сустрэлi яго ад яго дзядзькi i ад уладыкi Васiлiя паслы ў Андрэеўскiм сяле, уклаў яму Бог на сэрца дабрыню, помсту сваю на Бога паклаcцi, i ў тым месцы павярнуў ён рацць i адпусцiў iх з чэсцю. <...>

* Мiхайла Аляксандравiч, князь цверскi ў 1368–1399 гг.

## год 1368

*Цверскія летапісы:*

У той жа год князь вялікі Дзмітрый Іванавіч* ды Алексій мітрапаліт прызвалі князя вялікага Міхайлу Аляксандравіча на Маскву па цалаванні (крэста) міласцю, але здумалі проці яго раду злую. Князь жа вялікі Міхайла, спадзеючыся на Бога і на цалаванне крэста, прыехаў да іх на Маскву, а яны праз цалаванне схапілі яго і трымалі ў палоне <...>, і ўсіх баяраў, што былі пры ім, паланілі і трымалі ў палоне. <...> У той час прыйшоў да іх Чарык з Орды і дзеля таго ўратаваў Бог князя Міхайлу, <...> адпусцілі яго ў Цвер. <...> Князь жа вялікі Міхайла шкадаваў аб тым вельмі і гневаўся, <...> больш за ўсё на мітрапаліта скардзіўся, бо меў да яго веру больш за ўсіх як да сапраўднага святара. <...>

Аб першай Літоўшчыне.

У той жа год князь вялікі Дзмітрый Іванавіч сабраў многіх вояў сваіх і паслаў рацць на князя вялікага Міхайлу Аляксандравіча Цверскага, князь жа Міхайла ўцёк у Літву да князя Альгерда, зяця свайго, і там многія дакоры апавёў і скаргі паклаў, просячы помачы сабе і абароны, каб хутчэй адпомсціў за яго, і яшчэ вабячы і клічучы яго ісці рацццю на Маскву. Тады ж тое ж восені князь Літоўскі Альгерд Гедымінавіч сабраў вояў многіх і рушыў у моцы цяжкай і пайшоў да Масквы рацццю на князя вялікага Дзмітрыя Іванавіча, а з ім брат яго Кейстут і сын Кейстутаў Вітаўт, тады яшчэ ён быў малады, і сыны Альгердавы і ўсе князі літоўскія, і князь Цверскі Міхайла і смаленскае войска. І павёў войска таемна, бо быў такі звычай у Альгерда, калі куды ішоў на вайну, тады ніхто не ведаў з вяроў ягоных, куды ён жадае ісці рацццю, ані іншым або староннім людзям, або чужаземцам, або купцом не даваў ведаць, на каго ён ідзе, каб не пачута была дума яго ў вушы замежнікам, каб не дайшла вестка да той зямлі, у якую ён войска вёў. І гэтак, ваюючы хітрасцю і падцікаючыся, Альгерд многія землі захапіў і многія месты, і гарады, і краі паланіў: не столькі моцаю, колькі ўменнем ваяваў.



*Маскоўскі князь Дзмітрый збірае войскі, даведаўшыся аб выправе Альгерда (мініятура з Аблічнага зводу, 16 ст.)*

Так здарылася ў той час князю вялікаму: таго не ведаў ён, і пра тое яму весткі не было, што Альгерд ідзе на яго з войскам вялікім, бо той падвёў раць таемна, аж пакуль не наблізіўся да памежжа Літоўскага. Калі ж прыйшла да яго вестка і пачуў князь вялікі, што Альгерд ідзе і набліжаецца, загадаў уборзе слаць граматы па ўсіх гарадох і па сваім княстве вялікім пачаў збіраць ваяроў, але нічога не паспеў, бо не паспелі ніякія загоны з далёкіх местаў прыйсці. Але колькі вояў знайшлі тады ў горадзе, тых скупіў князь вялікі і даслаў у заставу процi Альгерда, то бо старожавы полк, а ваяводства наказаў Дзмітрыю Мініну, а ад князя ад Валадзімера ад Андрэевіча ваявода Акінф Фёдаравіч па мянушцы Шуба, а з імі рать маскоўская, каломенская, дзмітраўская. Альгерд жа, уваходзячы ў межы маскоўскія, пачаў перадусім ваяваць памежныя месты, паліць, сцінаць, рабаваць, паланіць і потым, сустрэўшы, забіў князя Сямёна Дзмітрыевіча Старадубскага па мянушцы Крапіва, у воласці на імя Хвоўхла, а потым у Абаленску забіў князя Канстантына Юр’евіча Абаленскага. І дайшоў да ракі Тросны і тут пабіў старожавы полк князя вялікага, заставу маскоўскую, і князёў, і ваяводаў, і баяраў усіх пабіў. Гэта адбылося тады ўвосень на Філіпава гавенне, месяца лістапада ў 21-ы дзень, на Ўводзіны Прачыстае, у аўторак.

Альгерд жа многіх палонных, якіх лупцавалі і катавалі, пытаў: “Дзе ёсць князь вялікі, ці ёсць з ім войска?” Яны ж адзін па адным, нібыта аднымі вуснамі, адказвалі, мовячы: “Князь вялікі ў горадзе сваім Маскве, а войскі ўсе не паспелі скупіцца да яго”. Адтуль Альгерд пачаў прыспешваць, зшыхтаваў войска сваё і, вялікае зухвальства займеўшы, рушыў да Масквы і, прыйшоўшы, стаў ля гораду.

Князь жа вялікі загадаў каля дзядзінцу крамля пасад спаліць дзеля бяспекі, а сам замкнуўся ў дзядзінцы і брат яго князь Валадзімер Андрэевіч, а з імі Алексій мітрапаліт, і іншыя князі, і баяры, і ўсе хрысціяне. Альгерд жа стаяў ля гораду тры дні і тры ночы, астачы сцен усе спаліў, многія цэрквы і многія манастыры папаліў і адступіў ад гораду, а дзядзінца крамля не ўзяў, і сыйшоў прэч, вярнуўся ў свой край, воласці павояваў, сёлы і двары агнём папаліў, многіх хрысціян пасцінаў, а іншых у палон звёў, а добры іхнія разрабаваў і быдла звёў, і так сыйшоў, і шмат ліха ўчыніў хрысціянам. Вось такое ліха ўчынілася за нашыя грахі, а раней таго так вялікага ліха Маскве ад літвы не бывала на Русі, больш ніж ад татараў бывала.

* Дзмітрый Іванавіч, вялікі князь маскоўскі ў 1359–1389 гг.

## год 1369

*Вартберг:*

У тым жа годзе па св. Протыя і Гіяцынта гаспадары літвінаў захапілі надовечы адбудаваны замак Готэсвэрдэр*. Дзеля яго захопу яны збудавалі, апрача баявых снастак, 18 бамбард і аблягалі замак на працягу пяці тыдняў. Яны, аднак, не разбурылі яго, але збудавалі побач на той жа выспе яшчэ іншы замак. Братоў і іншых, што былі там, яны звялі ў палон. <...>

* Готэсвэрдэр – крыжацкі замак ля ўпаду Нявяжы ў Неман

*Ліст папежа Урбана V да архібіскупа Гнезненскага:*
(Skarbiec diplomatów, №441)

<...> Даведаліся мы ад Людвіка, караля Вугорскага, і Казіміра, караля Польскага, што ў часе замірэння [treuga] між каралеўствам Польшчы і некаторымі адшчапенцамі і вераадступнымі няверным [schismaticos ac perfidos infideles] тыя няверныя, дзеля прыроднае іх злосці і здрадлівасці, неспадзявана і здрадліва напалі на землі Польшчы, рабавалі зямлю і захапілі палонных, учынілі шкоду людзям абодвае плоці і касцёлам і захапілі моцныя замкі ў Кракаўскай дыяцэзіі <...>

## год 1370

*Вартберг:*

Тое ж зімы пашырыліся чуткі аб звязе літвінаў і русінаў з іншымі прыязнымі ім народамі, і вялікі майстар выправіў найвышшага маршалка на выведы. Той сустрэў іх на Грамніцы неасцярожных і дашчэнту разбіў, прытым паланіўшы 220 чалавек. Але палонныя паведамілі яму верную звестку аб збору вялікага літоўскага войска. Толькі адну ноч мешкаў ён там і адразу вярнуўся да вялікага майстра, які дзеля гэтага скупіў зараз у Кёнігсбергу земскае рушэнне з братоў і тамтэйшых людзей, але не цалкам, бо не ведаў, дзе і калі літвіны ўваляцца ў яго край. Яны ж прыйшлі з усёю моцаю з многімі тысячамі ў нядзелю Exurge Domine, якое было 17 лютага, зранку, у зямлю самбійскую да замку Рудавы. Апоўдзень проці іх рушыў вялікі майстар і найвышшы маршалак, і адбылася бітва, у якой загінула 5500 адважных мужоў, збольшага русінаў, не лічачы тых, якія, цягнуўшы ў пустэльню, загінулі ад холаду. Гэтак, Войшвілт, вяльможны баярын, загінуў ад марозу. З нашых загінулі найвышшы маршалак, комтур і намеснік комтура Брандэнбургу, комтур Рэдэну з дваццацю іншымі братамі Ордэну і колькі іншых вяльможных людзей з Прусаў, з замежнікаў загінулі тры адважныя мужы, наймя Арнольд з Ларэты з двума іншымі рыцарамі. <...>

*Віганд:*

<...> І прызначылі дзень спаткання для выкупу палонных, і прыбылі палонныя з Вільні і Трокаў для абмену, і, учыніўшы абмен, кожны выправіў палонных у сваё войска. Князь Кейстут гразіў маршалку (Шындэкопфу), што наступнае зімы наведае яго, а той адказаў: “Ордэн управіцца з гэтым і знішчыць цябе”, і пасля гэтага маршалак сыйшоў. <...>

У год 1370 у нядзелю Exurge абодва князі (Альгерд і Кейстут) з незлічонымі войскамі прыйшлі на бяду хрысціянам. Адзін віж першым пачуў гоман, калі тыя язычнікі набліжаліся, і спешна ўцёк конна, перабраўшыся праз возера, што ляжыць проці зямлі Самбійскай. І, учыніўшы раду, тыя князі падзялілі сваё войска на часткі. Баяры [bayores] і іхнія ваяры пачалі знішчаць край агнём. У нейкі дзень ім давялося затрымацца ў вёсцы Рудаве, каб захапіць замак, які мужна абараняўся. Майстар Вінрык*, убачыўшы, як язычнікі чыняць такую шкоду жыхаром, мужна стаў проці іхняга войска, хоць гэтае войска і было вялікім. Варты павагі брат Люпус, вялікі комтур, і маршалак Шындэкопф з ваярамі, пілігрымамі і мясцовым рушэннем і сялянамі былі з майстрам і напалі на язычнікаў, мечамі іх сцінаючы, а язычнікі тым жа ім адказвалі. У гэтай бітве палегла 26 братоў і сто мужоў, а наймя маршалак Шындэкопф, Куно дэ Гатэнштэйн, комтур Генрык дэ Стохэм і віцэ-комтур брат Рэцальт дэ Корвіц і шмат іншых, па якіх потым доўга плакалі. Да тысячы было забітых у той бітве.

Убачыўшы тое, Кейстут пачаў спешна сыходзіць, і падчас тых уцёкаў шмат язычнікаў было забіта. Кейстут уцякаў, пакуль не вярнуўся ў свой край. Альгерд жа ўчыніў з зрубаных дрэваў шмат засек. Але хрысціяне падыйшлі з тылу, дзеля чаго князь пасьпяшаўся сыйсці з лесу, уцякаючы з сваімі людзьмі, бо лякаўся, што будзе забіты. Брат Генінг** гнаўся за ім і ў той пагоні за князем працяты быў дзідаю ў твар і, паўшы на зямлю, заўчасна дастаў вечнага пакою.

* Вінрык фон Кніпродэ, вялікі майстар Тэўтонскага ордэну ў 1351–1382 гг.
** Генінг Шындэкопф – найвышшы маршалак Тэўтонскага ордэну ў 1360–1370 гг.

*Цверскія летапісы:*

<...> Князь вялікі Міхайла Аляксандравіч паехаў у Літву. І ад таго дня так і пачалі масквічы і валачане ваяваць цверскія воласці. <...> Князь вялікі Міхайла Аляксандравіч, пачуўшы пра такую згубу сваёй вотчыны, да Філіпава гавення за два тыдні пайшоў з Літвы ў Орду, прыйшоў да Мамая з смуткам і скаргамі і там многія скаргі паклаў і многія звінавачванні выклаў, больш за ўсё жадаў ён сам княжання вялікага і многія дары раздаў і абяцанні абяцаў князём Ордскім і радцам. <...> І ўзяўшы ярлык, выйшаў на вялікае княжанне, называючыся сам князь вялікі. Яны ж не прынялі яго; і не толькі не прынялі, але і пераймалі яго па заставах і па многіх пуцях ганяліся за ім, шукаючы яго, і не дагналі яго. І ён ледзьве ўцёк з малою дружынаю і прыехаў зноў у Літву. <...>

Аб другой Літоўшчыне.

На тую зіму ў Філіпава гавенне месяца лістапада ў 26-ы дзень, на Юр’еў дзень, прыйшоў другім разам Альгерд Гедымінавіч, князь Літоўскі, скупіўшы вояў многіх, у цяжкай моцы на вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча, а з ім брацця яго, і сыны ягоныя, і іншыя князі літоўскія, і князь вялікі Міхайла Цверскі, і князь Смаленскі Святаслаў з войскам смаленскім. Спачатку рушыў да Волаку і гораду Волаку не ўзяў, стаяў два дні ля Волаку, б’ючыся, і воласць папаліў. Гэтак і пайшоў да Масквы, ваюючы.

Тады паранены быў князь Васіль Іванавіч Беразуйскі: ля гораду ля Волаку стаяў ён на мосце, і раптам з-пад моста праз мост літвін працяў яго суліцаю. І ад той раны захварэў, знясілеў і памёр у манаскім чыне <...>.

Потым Альгерд ад Волаку на Міколін дзень прыйшоў да Масквы і, стоячы ля гораду 8 дзён, сцены спаліў і пасад, але не ўвесь, а дзядзінца крамля не ўзяў, і воласці паваяваў і папаліў, і многіх людзей пасцінаў, а іншых паланіў. Князь жа вялікі Дзмітрый Іванавіч замкнуўся ў дзядзінцу, а Алексій мітрапаліт тады быў у Ноўгарадзе ў Ніжнім, а князь Валадзімер Андрэевіч скупіў войска і стаяў ля Перамышля, пашыхтаваўшыся. Яшчэ да яго прыспеў князь Валадзімер Дзмітрыевіч Пронскі, а з ім раць разанская. Тое пачуў Альгерд, і злякаўся, і пачаў міру прасіць, князь жа вялікі Дзмітрый узяў з ім мір да Пятрова дня. А Альгерд пажадаў вечнага міру і жадаў даць дачку сваю за князя Валадзімера Андрэевіча, і так і сталася. І так, памірыўшыся, пайшоў ад Масквы і вярнуўся ў свой край. <...>

*Ліст патрыярха Філафея аб адлучэнні рускіх князёў, якія злучыліся з Альгердам:*
(ПДКП, приложения, №20)

Як высакародныя князі рускія ўсе згадзіліся і дамовіліся з вялікім князем Русі спадаром Дзмітрыем*, забавязаўшыся страшнымі клятвамі і цалаваннем крэста, каб усім разам ісці вайною проці чужых нашай веры, ворагаў крэста, тых, хто не верацьу Госпада нашага Ісуса Хрыста, але нязбожна і бязбожна кланяюцца агню, і вялікі князь <...> чакаў іх, а яны, не баючыся Бога і не пільнуючы сваіх клятв, пераступілі іх і цалаванне крэста, так што не толькі не выканалі ўзаемнае дамовы і абяцання, але наадварот злучыліся з нязбожным Альгердам, які рушыў проці вялікага князя, страціў і зрабаваў многіх хрысціянаў, – то князі гэтыя, як ганьбавальнікі і парушальнікі Боскіх прыказанняў і сваіх клятв і абяцанняў, адлучаны ад царквы асвячоным мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі, у Святым Духу ўлюбёным братам і супольнікам нашае мернасці. <...> Яны толькі тады атрымаюць ад нас дараванне, калі выканаюць свае абяцанні і клятвы, рушыўшы разам з вялікім князем проці ворагаў крэста <...>.

* Дзмітрый Іванавіч, вялікі князь маскоўскі ў 1359–1389 гг.

*Ліст патрыярха Філафея аб адлучэнні смаленскага князя Святаслава:*
(ПДКП, приложения, №21)

Высакародны вялікі князь смаленскі, спадар Святаслаў*. Мернасць нашая даведалася, што ты пагадзіўся і ўклаў дамову з вялікім князем Русі, спадаром Дзмітрыем, забавязаўшыся страшнымі клятвамі і цалаваннем чэснага і жыватворнага крэста, каб табе ў зброях рушыць проці ворагаў нашае веры і крэста, якія кланяюцца агню і верацъ у яго. І вялікі князь, як умовіўся з табой, быў гатовы і чакаў цябе. Але ты не толькі не ўчыніў, як абяцаў і кляўся, але, пераступіўшы клятву, дамову, абяцанні і цалаванне крэста, рушыў у зброях разам з Альгердам проці хрысціянаў, і многія з іх былі забіты і зрабаваны, за што асвячоны мітрапаліт** Кіеўскі і ўсяе Русі, у Святым Духу ўлюбёны брат і супольнік нашае мернасці, адлучыў цябе – і ўчыніў добра і слушна, бо тых, хто гэтак чыніць, то бо пераступае свае клятвы, абяцанні і цалаванне крэста, нібыта няма Бога, які судзіць у праўду і карае злачынцаў, трэба паддаваць такому пакаранню. Такім чынам, добра ўчыніў мітрапаліт, што адлучыў цябе: бо ты ўчыніў цяжкі грэх проці сваёй веры і свайго хрысціянства <...>.

* Святаслаў Іванавіч, князь смаленскі ў 1359–1386 гг.
** мітрапаліт Алексій Маскоўскі

## год 1371

*Ліст патрыярха Філафея да мітрапаліта Маскоўскага Алексія:*
(ПДКП, приложения, №28)

<...> Твая святасць добра ведае, што калі мы высвячалі цябе, то высвячалі на мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі – не адное нейкае часткі, але ўсёй Русі. Цяпер жа чую, што ты не наведваеш ані Кіеў, ані Літву, але толькі адзін край, а іншыя пакінуў без пастырскага правадніцтва, без айцоўскага нагляду і настаўлення. Гэта – цяжкая хіба, і гэта проці свяшчэнных канонаў. Ты павінен даглядаць усю зямлю Русі і мець айцоўскую міласць і прыхільнасць да ўсіх князёў <...>.

Ведай таксама, што я напісаў і да вялікага князя Літвы, каб ён, паводле старога звычаю, мілаваў і сціў цябе, як і іншыя князі Русі, і, калі ты выправішся ў яго зямлю, узычаў табе вялікую чэсць, чуйнасць і міласць, каб ты мог з дастаткам вандраваць па яго зямлі. І ты з твайго боку імкніся, наколькі магчыма, мець да яго такую ж міласць і прыхільнасць, як і да іншых князёў, бо пад яго ўладай знаходзіцца хрыстаіменны народ Госпада, якому патрэбны твой нагляд і настаўленне, і табе вельмі патрэбна мець з ім міласць, каб бачыць і настаўляць як яго, так і народ Божы. <...>

*Цверскія летапісы:*

Тое ж зімы князь Валадзімер Андрэевіч* Маскоўскі ажаніўся ў князя ў вялікага ў Альгерда Гедымінавіча Літоўскага і ўзяў дачку яго, названую ў святым хросце Аленаю.

* Валадзімер Андрэевіч, князь серпухаўскі ў 1358–1410 гг.

*Ліст папежа Грыгора XI да князя Мазоўскага:*
(Codex diplomaticus Lithuaniae / ed. E. Raczyński. Vratislaviae, 1845. Cap. III, №7)

Грыгор біскуп <...>. Працягваюць даходзіць да нас цяжкія скаргі любых нашых сыноў – майстра і братоў шпіталя Марыі Тэўтонскага Ерусалемскага, што дазваляеш ты, калі няверныя літвіны і некаторыя русіны-схізматыкі, іх падданыя, якія працягваюць вайну проці тых братоў і іншых хрысціянаў, увальваюцца ў землі згаданага майстра і братоў <...>, паведамляць літвінам аб прасоўваннях таго майстра і братоў, і літвіны маюць магчымасць абараняцца <...>. І калі літвіны варожа выступаюць проці згаданага майстра і братоў, іх прыязна сустракаюць і праводзяць па глухіх і бязлюдных месцах княства на вялікую шкоду згаданаму майстру і братом дый самой хрысціянскай веры <...>.

## год 1372

*Пскоўскія летапісы:*

Па Вялікдні ў Фаміну нядзелю князь Міхайла Цверскі падвёў рать літоўскую таемна, князя Кейстута, і князя Андрэя Полацкага, князя Дзмітрыя Друцкага, ды Вітаўта, і іншых многіх князёў, а з імі літва, жамойць, ляхі. А сам князь Міхайла Цверскі прыйшоў і ўзяў горад Дзмітраў, а пасад і сёлы спаліў, і баяраў вялікае мноства і людзей з жонкамі і з дзецьмі звёў у Цвер. А літоўская рать у той час, у сераду, прыйдзе назаўтры па Радаўніцы, калі абедню пяюць, прыйшла рать ізгонам да Пераяслаўля*, пасад ля гораду, і цэрквы, і сёлы папалілі, а гораду не ўзялі, а людзей многіх паланілі, а іншых пабілі, а добры іх і ўсякі тавар паграбілі, а быдла іх пасеклі, а жыта паглумілі і сыйшлі з перамогаю і з вялікаю карысцю.

І адтуль злучыліся ў адным месцы ўсе палкі літоўскія і цверскія, і скупіліся ўсе князі разам, і прыйшлі да Кашына, і ўзялі адкуп, і ўчынілі Кашыну тое ж, што і Дзмітраву і Пераяслаўлю. І прымусіў князь Міхайла Цверскі брата свайго князя Міхайлу Васільевіча Кашынскага і ўзяў у сваю волю. І адтуль разыйшліся князі па сваіх краёх, князь Кейстут з літвою ад Кашыну пайшоў па Новаторжскіх валасцях міма Таржку, а князь Андрэй Полацкі з князем Друцкім міма Цверы пайшлі назад, шмат ліха ўчыніўшы хрысціянам. А князь Міхайла Цверскі ў горадзе Таржку пасадзіў сваіх намеснікаў.

<...>

І потым зноў князь вялікі літоўскі Альгерд сабраў многіх вояў і ў цяжкай моцы наважыўся, а ў думцы і па слове разам з князем цверскім з Міхайлам, што жадаюць ісці раццю да Масквы. Таксама ў той час месяца ліпеня ў 16-ы дзень князь Міхайла пайшоў з цверычамі раццю і злучыўся з літоўскаю раццю ў адным месцы пад Любуцкам. Пачуў тое князь вялікі Дзмітрый**, пайшоў з Масквы раццю проці іх, і спаткаліся проці гораду Любуцку: адразу масквічы прагналі старожавы полк, а Альгердаў сыйшоў.

І сталі адна проці адной абедзьве раці, маскоўская і літоўская, усе ў зброях, а паміж імі быў яр круты і вельмі глыбокі, і немагчыма было палком хутка распачаць бой, і быў той яр ім на ратаванне. І так стаялі колькі дзён адна проці адной, і ўмацаваліся хрысціяне вераю і моцаю крэста, і ўзычылі малітву Богу ад чыстага сэрца аб міру, каб не было крыві разліцця ў тым месцы: госпад Бог наш пачуў іхнюю малітву і даў ім мір, уратаванне ад марнае смерці. І Альгерд узяў мір з князем Дзмітрыем*** і пайшоў у свой край, а князь вялікі Міхайла пайшоў у Цвер, у тым жа міру ўсе ваяры яго былі захаваны праз божую міласць.

* Пераяслаўль-Залескі на поўнач ад Суздаля
** Дзмітрый Іванавіч, вялікі князь маскоўскі ў 1359–1389 гг.
*** гл. дад. №22

*Вартберг:*

У тым жа годзе вялікі майстар Вінрык фон Кніпродэ ў дзень Усіх Святых вёў перамовы з гаспадарамі літвінаў, наймя з Альгердам і Кейстутам, і вызвалілі ўсіх палонных, якія былі ў Літве, замест якіх выдалі літвінаў.

## год 1373

*Зборны вырак Канстантынопальскага патрыярха Антонія, 1389 г.:*
(ПДКП, приложения, №33)

<...> Распачаліся разлады, сваркі і крывавыя войны ўсіх князёў міжсобку, якія накінуліся адзін на аднаго і на самаго свайго пастыра*, вінавайцу ўсіх гэтых разладаў. Даведаўшыся аб гэтым, святы той патрыярх** спярша сваімі граматамі настаўляў князёў, наказуючы ім стараніцца вайны і звярнуцца да міру, даражэй якога няма нічога; пісаў таксама і да мітрапаліта, па-настаўніцку наказуючы яму словамі і пагрозамі не чыніць нічога, не падобнага яго дастаенству <...>. Што тычыцца князёў***, то яны, атрымаўшы пасланні патрыярха і пасціва прыслухаючы іхнім наказам і настаўленням, выказалі гатоўнасць прыняць мітрапаліта, калі ён пажадае прыйсці да іх, спыніць ранейшыя спакусы і ўчыніць мір, разумеючы, што гэта дасць пажытак іхнім душам і целам. Але мітрапаліт (які мусіў бы сам найбольш схіляць да таго іншых як настаўнік міру і міласці) не адно чыста не паслухаў патрыяршых наказаў, што павінен быў учыніць дзеля свайго дастаенства і пасады архіерэя, але, насупраць, выявіў сябе ў гэтым ладна горшым за свецкіх князёў: ён зусім адмовіўся ад замірэння, занядбаўшы патрыяршыя граматы і адрынуўшы прапанаваны ў іх пажытак.

Калі патрыярх убачыў, што граматы анічога не памагаюць, ён паслаў туды свайго манаха, цяпер асвячонага мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі спадара Кіпрыяна, чалавека, вядомага пасцівасцю і цнотаю, здольнага разумна ўрадзіць справы, каб ён перадусім замірыў князёў міжсобку і з мітрапалітам ды схіліў апошняга выправіцца з ім і наведаць сваю мітрапалічую сядзібу, у якой ён не быў 19 гадоў, наведаць таксама і іншы чыслены народ, які столькі гадоў быў пазбыты яго настаўлення і нагляду. Князі*** і гэтым разам выказалі поўную паслухмянасць патрыярху, ахвотна прынялі яго парады і зараз выправілі ягоных паслоў да мітрапаліта, абяцаючы спыніць ранейшыя спакусы і ўсе разлады і сваркі, што раней былі між імі, і трымацца яго як свайго мітрапаліта <...>. А той пачаў чыніць усё насупраць: патрыяршыя граматы і наказанні і вышменаванага пасла вызнаў варожымі сабе і зусім адмовіўся выправіцца да іх, ганебна выракаючыся міласці да сваіх духоўных дзяцей, якіх з добрай надзеяй усынавіла яму Вялікая Хрыстова царква праз Евангелію. Гэта яшчэ больш узрушыла проці яго князёў і выклікала іхні гнеў, бо яны палічылі яго ўчынак асабістаю для сябе абразаю. Дзеля таго яны пастанавілі міжсобку – ужо ў ніякім разе не прыймаць яго, хаця б ён пажадаў выправіцца да іх, а да патрыярха напісалі, просячы сабе іншага архіерэя. Патрыярх і гэтым разам не знайшоў магчымым прыняць іх просьбу, не напісаўшы спярша мітрапаліту яшчэ раз <...>. Але той застаўся аспідам, які затыкаў свае вушы ад голасу тых, што зычылі яму пажытачнае і патрэбнае: бо ён гэтак паставіўся да справы, што нават не рачыў адказаць на той ліст і выявіў поўную непавагу да свайго старшыні. <...>

* то бо мітрапаліта Алексія Маскоўскага
** Філафей, патрыярх Канстантынопальскі ў 1353–1354, 1364–1376 гг.
*** мова, відаць, найперш пра кіеўскага князя Валадзімера Альгердавіча і князёў іншых рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага і Рускага

*Зборны вырак патрыярха Канстантынопальскага Ніла, 1380 г.:*
(ПДКП, приложения, №30)

<...> Альгерд, дарма што яго краем кіравалі многія біскупы, усё ж не пажадаў заставацца ў спакоі, але звярнуўся да мітрапаліта з падступнаю просьбаю – прыбыць у Кіеў, мовячы, што той (Алексій) даўно ўжо пакінуў сваю мітраполію без біскупскага нагляду: цяпер жа няхай або спыніцца ў ёй, або дасць згоду на абранне для яе, заміж сябе, іншага пастыра. Мітрапаліт жа <...> не рачыў пакінуць сваю вялікую паству і вялікую царкву ды пайсці да малой астачы кіеўскае паствы <...>. Дзеля таго былі складзены розныя звінавачванні проці мітрапаліта, і святы добрае памяці патрыярх Філафей, не даўнімаючы ліхога ўмыслу і падману, выправіў цяперашняга мітрапаліта Літвы і Малое Русі Кіпрыяна, каб рассудзіць тамтэйшыя справы <...>. Але ён <...> зблізіўся з князем Літвы і з усімі яго радцамі і ўклаў з імі шчыльны звяз, так што яны пачалі глядзець на яго як на другога Рамана*. <...>

* Раман, мітрапаліт Літоўскі ў 1354–1361 гг.

*Вартберг:*

У той час Скіргайла, сын гаспадара Літвы Альгерда, быў з 600 узброенымі людзьмі перад замкам Дынабургам, дзе яны, аднак, спалілі адно колькі дамоў перад горадам. <...>
У тым жа годзе, у суботу перад днём Quasi modo geniti, Андрэй, князь Полацка, быў з сваімі людзьмі перад замкам Дынабургам, дзе ён захапіў колькіх з нашых і звёў іх з сабой.

*Ліст папежа Грыгора XI да Альгерда, Кейстута і Любарта:*
(VMPL, №934)

Грыгор біскуп і інш.
Высакародным мужом Альгерду Вялікаму, Кейстуту і Любарту братом князём літвінаў, зычым пуць ісціны спазнаць і захоўваць.
<...> Ведаем, што між вамі і любымі нам сынамі, братамі дому Прачыстае Марыі Тэўтонскага, і іхнімі падданымі, а таксама іншымі хрысціянамі доўгі час адбываліся і працягваюць адбывацца жорсткія войны. Таму прапануем у шчырым зычэнні нашага сэрца, каб вы і ваш народ далучыліся да каталіцкай веры [fidem catholicam], без якой ніхто не можа быць збавёны, праз помач казнадзеяў тое веры <...>.
Гэта патрэбна, каб душы вашыя і ўсіх літвінаў, праз Боскую міласць і ісціну веры, вызыскаць з-пад улады шатана, які праз аблуды нявер’я [infidelitatis errorem] трымае іх у гаротным палоне, даць ім вечнае збавенне, спыніць войны, разліццё крыві, забойствы, скончыць з палонам нязбожнасці <...>.
<...> Адныя маюць салодкасць даспанавання і адзінства з Хрыстом <...>, засталыя ж няверныя падмануты хлуснёю д’ябла; прыклад чаго нам паказуе, якую радасць і міласць, якую ўцеху і шчасце, якую бяспеку і мір будуць мець літвіны па наварачэнні <...>.

## год 1374

*Длугаш:*

Кейстут, князь Літоўскі, пастанавіўшы ваяваць з прускімі крыжакамі больш падманам, ніж зброяй, выправіў свае войскі праз Мазоўша (што Мазоўскія князі Земавіт і Ян дазволілі або, прынамсі, мелі ўлегцы) і ўвесь край ля Дзялдава і Нідбаргу ў 29-ы дзень верасня мечам і агнём спустошыў, забраўшы ў няволю шмат людзей абодвае плоці, бо яго напад быў раптоўны і неспадзяваны. Потым з многімі лупамі і палоннымі ён тою ж дарогаю, якою прыйшоў, то бо праз Мазоўша, без жаднае пераказы вярнуўся і падзяліўся забранымі лупамі з князямі, якія засталіся ў Літве.
Каля дня св. Якуба сын Кейстута, адважны і чынны маладзік Вітаўт учыніў першую сваю выправу на Прусы. Пашырыўшы ля Тамава і Інстэрбургу пажары і рабаванні, з лупамі і палоннымі ён без шкоды вярнуўся да айца. <...>

*Вартберг:*

У той час у Ліфлянтах уцяклі ў зямлю літвінаў, стаўшыся вераадступнікамі [apostate], два браты, наймя Ян Ланцберг і Фрыдрык Місэнскі, адважныя мужы, з павадыром на імя Біленэ, а таксама з сваёй зброяй і прыправай, з якіх нічога не пакінулі ўдома, і з многімі коньмі, не толькі сваімі, але і скрадзенымі ў майстра і фогта Кандава.

## год 1375

*Віганд:*

У той жа год, па свяце Св. Тройцы, давялося братом убачыць князёў Альгерда і Кейстута, а з імі Свірдэйку. Бачылі, як імкліва цягнулі яны да сяла, па-просту менаванага Нервікітэн, пустошачы зямлю Надрову*, а Свірдэйка цягнуў да Інстэрбургу, дзе жыхароў не перасцераглі. Вяртаючыся, яны захапілі Таплаўкі, а калі забралі коні з пашы, выслалі язычнікаў наперад, каб учынілі ў замку пажар, пасля якога надыйшла гадзіна бітвы. Брат Ян з сваімі людзьмі быў гатовы да абароны, але калі ў яго не стала вады, каб утушыць полымя, то, вытаргаваўшы сабе і сваім людзям жыццё, ён здаўся разам з замкам і быў схоплены разам з сваімі людзьмі. Свірдэйка, забраўшы коні ля Інстэрбургу, выпаліў там усё так, каб ніхто не ўратаваўся, і пайшоў далей. І калі спаліў пасад ля Тамава, павярнуў у Фалькенаў і злучыў дзве дарогі, з зрубанага галля зрабіўшы кладку, па якой князь перайшоў. <...> Яшчэ і трэцім разам бакі сыйшліся. Падгатавалі язычнікі засаду хрысціянам, і тыя вымушаны былі ўцякаць за багну, кінуўшы коні, якіх язычнікі забралі. Таксама стараста там забіты быў, душа яго няхай у Госпада цешыцца. Апрача тых, што задыхнуліся ў полымі, 900 чалавек язычнікі ў палон забралі і так вярнуліся з вялікім набыткам.

* Надрова – усходняя частка Прусаў

*Вартберг:*

У тым жа годзе, па вяртанні прусаў, Кейстут, гаспадар літвінаў, з трыма сынамі свайго брата гаспадара Альгерда, таксама з сынам князя Смаленска, а таксама Андрэй, князь Полацка, з сваімі людзьмі ўваліліся ў пятніцу проці Estomihi у землі ля Дзвіны. Яны падзялілі сваё войска па прыкладзе прусаў на тры загоны і пустошылі двары вялебнага архібіскупа рызскага і асабліва двары Тызэнгаўзэна <...>. Ордэну, аднак, яны не ўчынілі шкоды дзеля цяжкасці дарогі і дзеля глыбокага снегу, але яны заставаліся тыдзень у землях архібіскупа, хаця і самі зазналі вялікіх страт. <...> Таксама палеглі забітымі на дарозе, ля замку Дынабургу, два русіны – адзін на імя Андрэй, сын аднаго вяльможнага баярына з Віцебска, які трымаўся як гаспадар, а другі – вяльможны баярын з Полацка на імя Радзько, з почту вялікага князя.

*Зборны вырак Канстантынопальскага патрыярха Антонія, 1389 г.:*
(ПДКП, приложения, №33)

<...> Незадаволеныя князі*, якім дадзела гэтая справа, выправілі да таго святога патрыярха і да Боскага і свяшчэннага збору вялікае пасольства з граматаю, просячы і молячы, каб ім далі іншага архіерэя, які ўмеў бы іх духоўна даглядаць і настаўляць аб пажытачным і выратавальным для душы. “Гэта, – мовілі яны, – мы чынім апошнюю спробу, і калі не ўісцім жаданага, то гатовы перайсці да іншай царквы, якая даўно ўжо выступіла за слушныя дагматы і ўчынілася чужою праваслаўнай хрысціянскай царкве”.
У такіх умовах <...> патрыярх ужыў скрайні спосаб спагаднасці да просьбітаў – высвяціў згаданага спадара Кіпрыяна на мітрапаліта Кіеўскага, Рускага і Літоўскага, то бо тых месцаў, якія на працягу многіх гадоў мітрапаліт спадар Алексій пакінуў без нагляду; а каб старажытны лад Русі захоўваўся на будучы час, то бо каб яна зноў была пад уладаю аднаго мітрапаліта, зборным выракам узаконіў, каб па смерці спадара Алексія спадар Кіпрыян атрымаў усю Русь і быў адным мітрапалітам усяе Русі. <...>

* князі Вялікага княства Літоўскага і Рускага

*Зборны вырак патрыярха Канстантынопальскага Ніла, 1380 г.:*
(ПДКП, приложения, №30)

<...> Кіпрыян зблізіўся з князем Літвы і з усімі яго радцамі і ўклаў з імі шчыльны звяз, так што яны пачалі глядзець на яго як на другога Рамана. І вось яны паслалі грамату з просьбаю паставіць яго мітрапалітам і з пагрозаю, што калі яго не высвяцяць, то яны возьмуць сабе іншага ад лацінскае царквы – грамату, якую ён сам не адно склаў, але і паклаў. <...> Кіпрыян склаў на таго (Алексія) паклёп, поўны многіх звінавачванняў, і задумаў так або інакш скінуць яго з стальца. Пасля ўсіх гэтых непадобных учынкаў яго таемна высвяцілі на мітрапаліта Кіеўскага і Літоўскага, і такім чынам ён уісціў жаданае – аваладаў адною часткае царквы, яшчэ за жыцця мітрапаліта, свайго сябра, а звыш таго атрымаў такі зборны вырак, які надаваў яму і другую частку; ён дасягнуў нават поўнага скідання таго састарэлага мітрапаліта, бо ўсе далі веры яго звінавачванням <...>.

## год 1376

*З маскоўскага попісу грамат вялікага князя Альгерда:*
(Опись архива Посольского приказа 1626 года. ч. 1. Москва, 1977. с. 34)

Прыходзілі паслы ад вялікага князя Альгерда і ад вялікага князя Кейстута да вялікага князя Дзмітрыя*, і даканчалі вялікі князь Дзмітрый Іванавіч і вялікая княгіня Ульяна Альгердавая** аб жаніцьбе вялікага князя Ягайлы Альгердавіча, жаніцца яму ў вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча з дачкою, а вялікаму князю Дзмітрыю Іванавічу дачку сваю за яго даць, а яму, вялікаму князю Ягайлу, быць у іх волі, і хрысціцца ў праваслаўную веру, і хрысціянства сваё абвясціць ва ўсе людзі.

** Дзмітрый Іванавіч, вялікі князь маскоўскі ў 1359–1389 гг.
** Юльянія Аляксандраўна, вялікая княгіня літоўская ў 1350–1377 гг.

*Віганд:*

У год Гасподні 1376, у дзень пакутнікаў Казьмы і Дзям'яна, прыйшлі смутак і бяда. У шалёным гневе на хрысціянаў, гонячы і катуючы іх, Кейстут уваліўся ў Прусы ля Солдава. Без адпору прайшоў ён удоўжкі і ўшыркі Мазоўшу, як шалёныя ходзяць па брудзе, як псы ходзяць, увокавідзі спустошыўшы неперасцеражоны край. І падзяліліся яны на тры часткі, забіваючы і катуючы ўсіх навакол. Адна частка па сёлах удоўжкі і ўшыркі прайшла да сама мястэчка Солдава. Ніколі большага, ніж тады, не бачылі гора, якім ворагі Хрыста [inimici Christi] паразілі жанчын, дзяцей і ўсіх іншых. Тых, хто ўцякаў, хапалі з лесу і хмызняку, дзявіц крыўдзілі і гвалтавалі. Кейстут з сваімі людзьмі спустошыў край да сама Нідэнбургу, дзе ўбачыў добра падгатаваны да абароны замак, і павярнуў назад з вялікімі лупамі. Звялі язычнікі гвалтам васямсот чалавек, старых і маладых, якія ў вялікім смутку прагнулі сабе смерці, многія таксама згарэлі ў полымі. І вярнуліся праз Мазоўшу да свайго краю і падзялілі лупы між сабой паводле заслуг кожнага, жанчын і дзяцей узялі ў цяжкую няволю, некаторых нават замкнулі, як і мужчын.
<...>
Брат Тэадор дэ Эльнер, комтур Балгі, злучыўшыся з іншымі братамі, у дзень Усіх Святых з вялікім войскам прыйшоў у Русь і аблёг замак Бельск, дзе 500 братоў стаялі ноч. <...> Увайшлі ў зямлю Калайны, якую знішчылі рабаваннем, агнём, забойствамі мужчын і жанчын. А дзяцей, якіх немагчыма злічыць, звялі разам з вялікімі лупамі. Язычнікі, убачыўшы тое, паспяшаліся да лесу, да таго ручая, праз які браты чынілі пераправу. Густа кідалі на іх з хмызняку язычнікі кулі, камні і стрэлы, нявечачы іх, дарма што іхнія даспехі і шаломы. Браты спешыліся з коней і ўсчалася жорсткая бойка, у якой 21 брат палег, апрача многіх вяльможных. <...>

*Вартберг:*

Вугорскі кароль надаў князю апольскаму* некаторыя землі, якія належалі братом гаспадароў літвінаў, а наймя Юрыю** Бэлзскаму і Любарту Луцкаму. Дзеля гэтага той князь пачаў варагаваць і нападаць на землі тых князёў.
Гэтыя князі, узлаваныя гэтым, заклікалі свайго брата Кейстута, які з усім сваім войскам прыйшоў ім у помач. Злучыўшся, яны варожа ўваліліся ў польскую зямлю ў чацвер проці дня Ўсіх Святых і, пустошачы, рабуючы і забіваючы, прайшлі ўгару па Вісле на чатыры з паловай мілі ад Кракава. Прытым яны ўчынілі такую паразу і шкоду між рыцарамі, шляхтаю, дзявіцамі і пасцівымі жанчынамі, аб якіх не чувалі ў мінулыя часы.

* Валадыслаў, князь апольскі ў 1356–1401 гг.
** Юрый Нарымунтавіч, князь бэлзскі ў 1348–1377 гг.

## год 1377

*Навагародскія летапісы:*

<...> Потым мінулася колькі часу і захварэў Альгерд цяжка і пачаў сваім сыном рад чыніці. Якава ж, сына свайго, мілаваў больш за ўсіх і яму даў вялікае княжанне і горад Вільню, а іншых сыноў сваіх па ўдзелах пасадзіў.
Вялебная ж вялікая княгіня Ульянія, бачачы свайго мужа Альгерда апошняе дыханне, вельмі клапацілася аб яго збавенні. І прызвала сыноў сваіх і айца свайго духоўнага прызвала Давыда архімандрыта Пячэрскага, і параіла свайму мужу добраю радаю, і праз міласць божую атрымаў ён святы хрост; і названы быў Альгерд у святым хросце імем Аляксандр. Потым жа вялебная вялікая княгіня Ульянія з айцом сваім духоўным Давыдам архімандрытам святым ангельскім вялікім чынам, вобразам манаства і схімаю яго ўпрыгожылі, і замест Аляксандра быў названы ён інак Алексій. І неўзабаве ён памёр. І паклалі цела яго ў царкве святое Багародзіцы ў Вільні, якую ён сам збудаваў. Потым малжонка яго вялебная княгіня Ульянія, нямнога пажыўшы, памерла, і ў той жа царкве пахавалі цела яе.

*Пахаванне вялікага князя Альгерда (мініятура з Аблічнага зводу, 16 ст.)*



*Пскоўскія летапісы:*

Прыбег князь Андрэй Альгердавіч у Пскоў, і пасадзілі яго псковічы на княжанні.

## год 1378

*Зборны вырак патрыярха Канстантынопальскага Ніла, 1380 г.:*
(ПДКП, приложения, №30)

<...> Выправілі (з Масквы) граматы да нашай святой Вялікай Царквы Божай, з скаргаю на скруху, якая апанавала іх дзеля высвячэння мітрапаліта Кіпрыяна, і з просьбаю да святога Боскага збору аб спагадзе, спачуванні і досыцьучыненні проці абразы, што напаткала іх. Тое самае наказалі збору і нашыя царкоўныя паслы, што вярнуліся адтуль, і іхняе апаведанне было пацверджана словамі многіх іншых, што прыйшлі адтуль. Між тым, мітрапаліт Кіпрыян не супакоіўся, але чыніў усё, каб увайсці ў Вялікую Русь і авалодаць ёю, асабліва калі мітрапаліт Алексій у глыбокай старасці сканаў. Але як ён, дарма што яго высілкі, не ўісціў жаданага і не быў там прыняты, то ён выправіўся да нас і прыйшоў да святога збору за часу патрыярха, што быў да нас, просячы помачы, каб заняць мітраполію Вялікае Русі. Але тут ён знайшоў непрыязныя для сябе акалічнасці і заставаўся ў чаканні <...>.

*Длугаш:*

Віганд фон Балдэрсгайм, комтур Тапявы, з загонам адных прусакоў уваліўся ў Літву, увесь край над ракой Неманам рабаваннямі і пажарамі спустошыў і, забраўшы многа палонных і лупаў, вярнуўся да сваіх сядзіб. Па яго вяртанні Годфрыд фон Ліндэн, маршалак Прускі, з іншым войскам уваліўся ў воласці Літвы над ракой Нарвай і таксама знішчыў іх мечам, агнём і рабаваннямі. <...> Потым, калі літвіны абляглі рускі горад Пскоў, майстар ліфлянцкі паспяшаўся з сваімі воямі на водсеч і прымусіў літвінаў адцягнуць. <...>
У часе мясапусту комтур Астроды Бургард фон Мансфэльд, уваліўшыся з войскам да Камянца ля Бярэсця, спаліў горад і з многімі лупамі і палоннымі вярнуўся ў Прусы. Па святе Прачыстае комтур Балгі Тэадорык Эльнер, падзяліўшы сваё войска на тры загоны, рабаваў рускія паветы Дарагічын, Мельнік і Бярэсце, а потым аблёг замак Бярэсця. Але, вымушаны ад яго адцягнуць, спустошыў усю ваколіцу і, забраўшы лупы і палонных, вярнуўся ў свой край. <...>

## год 1379

*Віганд:*

<...> Потым у першую нядзелю па дні св. Пятра і Паўла князь Скіргайла, сын Альгерда, з трыццацю слугамі прыбыў у Прусы. Ён наведаў караля Вугоршчыны, потым папежа Урбана, і калі б той даравў яму грахі, то прыняў бы ён каталіцкую веру і іншыя ўмовы.
<...>
Па святе Тройцы хітры Кейстут прыкінуўся хворым, а сам неўзабаве з 500 людзьмі цягнуў да Экерсбургу і аблёг той неперасцеражоны замак. І калі расклаў там агонь, тады жыхары здалі замак князю. Стараста на імя Ян Сурбах здаўся ў палон, язычнікі ж жадалі яго прынесці ў ахвяру, бо ён пачасту шкодзіў ім. Але князь гэтага не пажадаў, чым узычыў хвалу яго ўчынкам. Пасля гэтага ворагі Хрыста [inimici Christi] вярнуліся ў свой край.

## год 1380

*Сказанне аб бітве з Мамаем:*
(Поле Куликово. Сказания о битве на Дону. / сост. Л. Дмитриев. Москва, 1980. с. 110-112)

<...> Алег Разанскі* другога пасла свайго выправіў з такім лістом: "Да вялікага князя Альгерда Літоўскага – радуйся вялікаю радасцю! Ведаю, што здаўна ты мысліў ісці на вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча Маскоўскага, каб выгнаць яго з Масквы і самому валодаць Масквою. Цяпер жа, княжа, прыспеў наш час, бо вялікі цар Мамай** ідзе на яго і на зямлю ягоную. Цяпер жа, княжа, далучымся мы абодва да цара Мамая, бо ведаю, што цар дасць табе Маскву ды іншыя гарады, якія ля твайго княжання, а мне дасць горад Каломну ды Валадзімер ды Мурам, якія ля майго княжання стаяць. Я паслаў свайго пасла да цара Мамая з вялікаю чэсцю і з многімі дарамі. І ты таксама пашлі свайго пасла і якія маеш дары таксама дашлі яму, і граматы свае напішы, як сам ведаеш, бо лепш за мяне разумееш".

Князь Альгерд Літоўскі, пачуўшы тое, быў вельмі рады дзеля пахвалы сябра свайго князя Алега Разанскага. І выправіў неўзабаве паслоў да цара Мамая з вялікімі дарамі і вялікаю чэсцю царскаю. І піша ў сваіх граматах так:

"Усходняму вялікаму цару Мамаю! Князь Альгерд Літоўскі, прысяжнік твой, многа цябе моліць! Пачуў я, гаспадзіне, што жадаеш караць свой улус, свайго служэбніка, маскоўскага князя Дзмітрыя. І дзеля таго малю цябе, вольны цару, слуга твой, што вялікую крыўду чыніць князь Дзмітрый Маскоўскі ўлусніку твайму князю Алегу Разанскаму дый мне таксама вялікую шкоду чыніць. Гаспадзіне цару вольны Мамай! Няхай прыйдзе дзяржава твайго царства цяпер і да нашых месцаў і няхай прыйдзе, цару, твой рассудак нашае шкоды ад маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча". <...>

Прыйшлі паслы да цара Мамая ад Альгерда Літоўскага і ад Алега Разанскага і прынеслі яму многія дары і напісаныя кнігі. Цар жа прыняў з міласцю і кнігі, і паслухаў граматы, і паслоў, аддаўшы ім чэсць, адпусціў <...>.

* Алег Іванавіч, князь разанскі ў 1350–1402 гг., цесць Дзмітрыя-Карыбута Альгердавіча
** Мамай – ордскі ваявода, у 1361–1380 гг. фактычны гаспадар Орды



*Мамай прыймае пасланне Альгерда*
*(мініятура 15 ст.)*

*Навагародскія летапісы:*

Тое ж восені прыйшоў ордскі князь Мамай з аднадумцамі сваімі і з усімі іншымі князямі ордскімі, і з усёю моцаю татарскаю <...>; таксама з Мамаем разам у задзіночанні і ў адной думе і Літоўскі князь Ягайла, з усёю моцаю Літоўскаю і Лядскаю, а з імі ж у задзіночанні Алег Іванавіч, князь Разанскі; з усімі гэтымі дарадцамі пайшоў Мамай на вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча і на брата яго Валадзімера Андрэевіча. Але Бог міласцівы пажадаў збавіць і вызваліць род хрысціянскі малітвамі Прачыстае Яго Маці ад работы ізмаільцянам, ад паганага Мамая, і ад моцы нязбожнага Ягайлы, і ад велямоўнага і ліхога Алега Разанскага, які не дбаў аб сваім хрысціянстве <...>.

І тады рушылі ўсе загоны татарскія і пачалі пасылаць да Літвы, да паганага Ягайлы і да ліслівага д'яблавага дарадцы <...> Алега Разанскага <...>. І стары злодзей Мамай учыніў сабе раду з паганаю літвою і з душагубцам Алегам, каб стаць ім ля ракі Акі на Сямёнаў дзень <...>. Алег жа <...> паслаў да князя Дзмітрыя вестку падманную, што "Мамай ідзе з усім сваім царствам на маю зямлю Разанскую, на мяне і на цябе, а ведай таксама, што і Літоўскі князь Ягайла ідзе на цябе з усёю моцаю сваёю". <...>

Князь жа Дзмітрый <...> скупіў вояў сваіх 150.000 <...>. Яшчэ да таго паспелі ў той час здалёк вялікія князі Альгердавічы пакланіціся і паслужыць: князь Андрэй Полацкі з псковічамі і брат яго Дзмітрый Бранскі з сваімі мужамі. <...>

Прыйшла да князя Дзмітрыя другая вестка, што Мамай за Донам скупіўся і ў полі стаіць, чакаючы сабе ў помач Ягайлу з літвою, каб, калі скупяцца разам, з аднаго перамогі зыскаць. <...> Князь не жадаў разліцця крыві і жадаў яму выхад даць па-хрысціянску і паводле свайго даканчання, як з ім уклаў дамову; а Мамай не пажадаў, але распышыўся, чакаючы свайго нязбожнага дарадцу літоўскага. <...> Мамай пачуў, што князь прыйшоў да Дону <...> і мовіў: "Пойдзем <...> і станем ля Дону, процi князя Дзмітрыя, пакуль не прыспее да нас дарадца наш Ягайла з сваёю моцаю". <...>

Ад краю Літоўскага Ягайла князь Літоўскі прыйшоў з усёю сваёю моцаю Літоўскаю Мамаю памагаць, татарам паганым у помач, а хрысціянам на ліха. Але ад іх збавіў Бог: не паспелі за малым часам, за адзін дзень або меней. І толькі пачуў Ягайла Альгердавіч і ўсё войска яго, што ў князя вялікага быў бой з Мамаем і князь вялікі перамог, а Мамай пераможаны ўцёк, і не чакаючы нічога, літва з Ягайлам ўцяклі назад вельмі хутка: не бачылі тады князя вялікага, ані войска яго, ані зброі, адно імені яго літва лякалася і страшылася – не як у цяперашнія часы, калі літва з нас здзекваецца і нас лаіць. <...>

*Ян Пасільге:*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. III. Leipzig, 1866. S. 114-115)

У той год была вялікая бітва ля Сіняй Вады між русінамі і татарамі, і з абодвух бакоў было забіта каля 40 тысяч чалавек, але русіны перамаглі. І калі яны з лупамі вярталіся з бою, яны спаткалі літвінаў, якіх прызвалі туды татары ў помач, і яны забілі вельмі многа русінаў і аднялі ў іх лупы, якія тыя забралі ў татараў.

## год 1382

*Скарга Вітаўта:*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. II. Leipzig, 1863. S. 712-714)

<...> І наш айцец пра гэта пэўна даведаўся, і ўбачыў для сябе пагрозу, і цягнуў да Вільні, і Вільню засеў, і самаго князя Ягайлу ўзяў у палон, і яго братоў, і яго маці, і ўсе яго воласці і яго добры, гэта ўзяў ён у свае рукі, і яго грошы, і яго скарбы, і яго статкі, гэта ўсё ўзяў ён. Наш айцец не жадаў мець проці яго ніякага ліхога слова, і не жадаў яго роду нічога чыніць, і даў яму ўвесь удзел яго айца, Віцебск і іншае, што яго айцец дзяржаў, і грошы, і скарбы, і статкі. І князь Ягайла прысягнуў нашаму айцу з сваёю маці і з сваімі братамі, і даў яму праўду, і сваімі лістамі забавязаўся, што ён ніколі не будзе патрабаваць Вільню і што ён будзе прыслухаць нашаму айцу і сядзець ва ўдзеле свайго айца ў Віцебску. І потым ён праз праўду пераступіў і засеў Вільню пад нашым айцом, а ў той час наш айцец быў у выправе, і наш айцец прыехаў з выправы, а князь Ягайла без яго ведання таксама і Трокі засеў <...>.

*Пскоўскія летапісы:*

У той год Кейстута і сына яго Вітаўта пасадзілі ў цямніцу; у той жа цямніцы закатавалі Кейстута.

## год 1383

*Віганд:*

<...> Потым выправіў Вітаўт паслоў да майстра Конрада Валенрода*, просячы яго аб прыязні і міласці. У Інстэрбургу падаў ён майстру руку з словамі: "Калі пажадаеш міласціва памагчы мне, буду служыць Ордэну і прыслухаць яму".
А майстар адказаў: "Чаму ж ты раней не прыйшоў, калі меў замак Вільні? Цяпер не маеш ані людзей, ані зямлі". У міласці сваёй усё ж прыняў яго майстар, дабрынёй падаваючы яму надзею.
<...> Разам з маршалкам рушылі яны з Мемеля проці язычнікаў і, падыйшоўшы да ракі Віліі, без цяжкасцей учынілі пераправу. Харугва майстра рушыла наперад, а іншыя за ім, і абодва войскі цягнулі пад Трокі. Майстар з сваімі рушыў па адным баку, а Вітаўт – па іншым. <...> Назаўтры па Ўшэсці распачалі штурм.
<...> На другі дзень, учыніўшы раду і абумовіўшы сабе волю і жыццё, абложаныя аддалі замак у рукі майстра. У выніку майстар аддаў замак Вітаўту, які падзякаваў майстру за чэсць і міласць і прасіў яго даць яму новых людзей, бо ён без іх помачы не быў здольны датрымаць сваю комтурскую пасаду. І майстар даў яму 60 чалавек, а таксама брата Яна Равэ і брата Генрыка фон Клюэ, герцыка. І Вітаўт быў задаволены гэтым. <...>

* Конрад Валенрод, вялікі майстар Тэўтонскага ордэну ў 1391–1393 гг., у часе выпісаных падзей найвышшы маршалак ордэну

## год 1384

*“Сумарыум Ягайлы і Вітаўта”:*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. V. Leipzig, 1874. S. 223-227)

<...> Пасля гэтае прапановы паслуг і абяцання, а асабліва дзеля прыймання святога хросту, майстар передаў Вітаўту замак Марыенбург* з многімі прыправамі і спіжаю, каб ужываць яго проці вялікага князя Літвы Ягайлы. У гэты час збудаваў Ордэн замак Марыенвэрдэр** вышэй Віліі, ля Коўні, вельмі добра аснашчаны, з 40 братамі і з іншымі людзьмі, і гэты замак стаяў заўсёды адчынены для ўсіх загадаў Вітаўта. Таксама майстар вылучыў яму ў помач проці князя Ягайлы моцны загон, які да яго на некаторы час прывёў комтур Рагнеты пан Вігант. Вітаўт з сваім шваграм Судымонтам падмануў гэты загон і комтура, і ўсе яны былі па-здрадніцку забіты.

Потым Вітаўт вельмі таемна наладзіў сяброўскія зносіны з вялікім князем Літвы Ягайлам, і Ягайла паабяцаў яму вярнуць яго вотчыну, каб ён прыехаў з Ордэну назад і прытым рушыў таемна, каб мець магчымасць выдаць нашыя замкі Марыенвэрдэр, Марыенбург, Юргенбург, Мемель і Рагнету – адчыніць іх усе да аднаго ў пэўны дзень. Але ў той час ён спаліў толькі Марыенвэрдэр і ўласнымі рукамі паланіў комтура замку.

Каб выканаць задуманую здраду, ён прыбыў у Юргенбург, а там стаялі 30 братоў. Калі комтур замку пачуў аб яго прыездзе, ён выйшаў яму насустрач з братамі і прасіў Вітаўта быць госцем. У той замак з’ехаліся таксама святары і вандроўныя браты і жадалі яму ўзычыць добрую волю. А Вітаўт зноў ударыў у спіну: святароў седлавымі сякерамі і дзідамі ззаду жорстка забілі і разам з імі страцілі частку братоў, а другую частку павялі яны ў якасці палонных з сабой і спалілі замак.

Потым князь Ягайла разам з Вітаўтам абляглі згаданы замак Марыенвэрдэр на Віліі, і стаялі перад ім цэлых 14 тыдняў, і захапілі яго і ўзялі ў палон дзвесце пяцьдзясят братоў і лепшых людзей. <...>

* Марыенбург – крыжацкі замак на Немане, недалёка ад вусця Дубісы
** Марыенвэрдэр – крыжацкі замак на Немане, побач з Коўняй

*Віганд:*

Уведаў князь Вітаўт, што тое, што ён задумваў, сталася вядомым (а калі б не здарылася тое, што здарылася, ён умысліў бы яшчэ горшую здраду). Наважыўся ён запрасіць прэцэптараў на палудзень і падманам захапіць іх усіх у няволю. Таксама там павінен быў быць і князь Ягайла, і была гэта яго першая, таемна агаданая, здрада.

Майстар, паставіўшы замак*, вярнуўся да сваёй сядзібы. Вітаўт жа, задумаўшы нягодны падман, наказваў у лістох маршалку, што Скіргайла пачаў схіляцца проці хрысціянаў і што цалкам схіліўся да здрады, што ўзбройваецца ён, каб захапіць Інстэрбург. Калі Вітаўт прыбыў у замак, браты яго прынялі, дыкжэ ён меў дазвол ад майстра ўваходзіць, калі пажадае, што ён і ўжыў на ліха. Брат Ян фон Альдэнгорф, які яго прыняў, быў паранены ў галаву стралою, пушчанаю Судымонтам**, і да смерці працяты дзідаю. Таксама многа стральцоў было перабіта, а віцэ-комтур з дзевяццю братамі і Тэадорыкам фон Крустэ быў палонены. Разрабаваўшы замак, спалілі яго ўпрах. Здраднік Вітаўт з палоннымі і лупамі спешна вярнуўся ў Марыенбург, дзе паланіў хрысціянаў і ўсё разрабаваў, ды, спаліўшы замак, паехаў у Літву. Але, перш ніж учыніць усе гэтыя здрады, жадаючы заслужыць большага даверу ў хрысціянаў, ён хрысціўся ў Тапяве. Бо не давяралі яму да таго часу вышменаваны майстар Віганд*** і фогты Тапявы.

Учыніўшы гэтую здраду, Вітаўт з палоннымі цягнуў у Вільню і падмовіў князя Ягайлу таксама. Калі той запытаў, ці здолее ён захапіць Марыенвэрдэр, Вітаўт адказаў: “Ты, маючы людзей і землі, падай па іх бамбарду і таму падобныя рэчы, і мы раптоўна возьмем яго нашаю моцаю”. Князь мовіў: “А што будзе, калі майстар нападзе на нас?” Вітаўт адказаў: “Нават за месяц не паспее ён, а мы тым часам усё даканаем”. <...>

У сераду ў дзень св. Матфея літвіны падпалілі замак. <...> Па чатырохтыднёвай аблозе, падчас якой мноства ваенных хітрасцей і клопатаў прычынілі майстру Герману, у адной з адтулін замку паставілі проці язычнікаў машыну для кідання куляў. Тыя таксама проці яе паставілі такую ж сваю машыну і кінутым камнем забілі ў замку вышменаванага майстра****. <...>

У наступную нядзелю на світанні яны распаліліся гукамі труб для бітвы і нападалі да сама палудня. Дзеля гэтага была туга ў замку. Брат Стобус быў забіты, брату Тэгевіцу камень адцяў галаву і многія іншыя ў замку таксама загінулі. Віцэ-комтура кінулі ў капаніцу. Захапілі пасад, хрысціяне ж схаваліся ў вежы, бо шанцы ўсюль былі разбураны, а ніжнія часткі замку ўжо ніхто не быў здольны бараніць. І тады мовілі абложаныя, што гатовы здаць замак пад умовай, што ім абяцаюць захаваць жыццё. Віцэ-комтур, які знядужаў у ставах і хрыбце, падняўся на верх замку, разглядаючыся на бакі. Убачыўшы яго, князь мовіў: "Здай замак, або мы спалім яго разам з табой". А ён адказаў: "Калі абяцаеце нам жыццё, тады мы без выпірання станемся вашымі палоннымі". Князь мовіў: "Згодны". А калі падыйшлі да брамы, князь падаў руку віцэ-комтуру і іншым. <...> Але тое абяцанне было дрэнна выканана. Быццам нават сам князь выступіў у ролі ката, адцяўшы галаву брату Тэгарту. Былі таксама люта забіты некаторыя з братоў. Гэтаксама па-здрадніцку ўчынілі ў замках Байерн і Марыенвэрдэр. Захапілі комтура Рагнеты. Праз здраду разам з ім 55 братоў з ліку вяльможных братоў Ордэну захапілі ў палон. <...>

* мова пра будаванне Марыенвэрдэру вялікім майстрам Конрадам Цольнерам
** князь Судымонт з Эйшышак, швагер Вітаўта, спадарожнічаў Вітаўту падчас яго побыту ў Ордэне
*** відаць, мова пра Віганда фон Балдэргайма, комтура Рагнеты, хроснага айца Вітаўта
**** насамрэч комтура

*Скарга Вітаўта:*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. II. Leipzig, 1863. S. 712-714)

<...> Праз праўду схапілі яны нашага айца і забілі яго, і маю маці таксама забілі, а мяне самаго ўзялі ў палон. Але ўратаваў мяне Бог і я ўцёк ад іх і прыбег да пасцівых людзей, да вялікага майстра Прусаў, і прыняў святую веру хрысціянскую і паслухмянасць святому айцу папежу. І я пакінуў там у яго майго брата, і маю сястру, і маю жонку, і маіх дзяцей, усіх іх я пакінуў у яго палоне. І пачаў князь Ягайла пачасту слаць да нас сваіх баяраў [baiorn] і свае лісты, і пачаў зваць мяне на ўсю маю вотчыну, і даў мне сваю праўду, і я паверыў яго праўдзе, і паверыў яму, і зноў паехаў да яго. Апрача таго, адзін наш няверны радца нас туды завабіў. І князь Ягайла сваю праўду не споўніў, і пераступіў праз сваю праўду, і не даў мне маёй вотчыны, і маю вотчыну даў сваму брату князю Скіргайлу, а Скіргайла не нашае хрысціянскае веры, ён рускае веры, і яе трымае дагэтуль. І яны намовілі мяне самаго, каб я прыняў рускую веру, каб усе людзі мне прыслухалі. І я без маёй волі, але іх волю чынячы, мовіў: "Я прыняў рускую веру", і абвясціў аб гэтым людзям. Але таемна я трымаў маю веру, бо я раней прыняў хрысціянскую веру. І тады князь Ягайла засеў Кракаў і ўзяў каралеўства Кракава <...>.

*Траецкі летапіс:*

У год 1384 прыйшоў з Царграду ў Кіеў архібіскуп Дыянісій*, яго ж паставілі ў Царградзе мітрапалітам на Русь, і ён мысліў з Кіева ісці да Масквы, жадаючы быць мітрапалітам на Русі. І схапіў яго кіеўскі князь Валадзімер Альгердавіч, мовячы яму: "Ты пайшоў на пастаўленне на мітраполію ў Царград без нашага загаду". І так ён быў у палоне ў вязні аж да смерці.

* Дыянісій, біскуп суздальскі, у 1383 г. маскоўскі кандыдат на пасаду мітрапаліта ўсяе Русі

## год 1385

*Длугаш:*

Ягайла, вялікі князь Літоўскі, даведаўшыся, што караліцу Ядзвігу, дачку караля Людвіка, прывезлі з Вугоршчыны да Польшчы і аздобілі каралеўскаю каронаю, і яна прыняла ўрад і ўладу ў Польскім каралеўстве <...>, выправіў да Кракава двох князёў, сваіх братоў Скіргайлу і Барыса, а таксама Ганулля, старасту Віленскага, пасольствам да караліцы Ядзвігі, а таксама да польскіх прелатаў і паноў, з просьбай аб яе руцэ. Тыя паслы сталі ў вялікім збору радцаў караліцы Ядзвігі, склалі спярша ад князя Ягайлы вялікае цаны падарункі, а потым ад яго імя князь Скіргайла мовіў такімі словамі:

"Здаўна вялікія і можныя князі і каралі патрабавалі ад Ягайлы, магутнага нашага князя і гаспадара Літвы, каб ён, адмовіўшыся ад сваёй і айцоўскай веры, прыняў хрысціянскую веру, але ніколі не здолелі яго схіліць да таго, ані намовамі, ані войнамі прускіх крыжакоў, бо адно табе, вялебная і дастойная караліца, і Польскаму каралеўству належала тая чэсць. Калі твая вяльможнасць рачыць паслюбіць за малжонка таго згаданага гаспадара нашага, вялікага князя Літвы, то ён абяцае не адно тыя даброты, якіх жадалі іншыя каралі і князі праз прыйманне хрысціянскае веры, але і большыя. Бо ён абяцае прыняць каталіцкую рымскую веру, якую ты і тваё Польскае каралеўства вызнаюць <...>. Абяцае таксама ўсіх палонных хрысціянаў, а асабліва выведзеных з Польскага каралеўства, вызваліць. Абяцае ўсе свае дзедзічныя краі Літвы і Жамойці, а таксама падпарадкаваныя землі Русі, далучыць да Польскага каралеўства. Абяцае землі Паморскую, Кульмскую, Слёскую, Добрыньскую, Вялюньскую і іншыя, ад Польскага каралеўства адарваныя, прададзеныя, абмененыя або зброяй падбітыя, адзыскаць і вярнуць да Польскага каралеўства <...>".

Так мовіў той літвін. І тое пасольства, хаця не дужа спадабалася караліцы Ядзвідзе, аднак надта запала да сэрца польскім пралатам і паном. <...> Ткнула літоўскае пасольства многіх палякаў, а асабліва паноў Кракаўскае зямлі, якім спадабалася так значнае павелічэнне моцы Польскага каралеўства праз набытак новых краін, і пажадалі яны прыслухаць староннім, ніж уласным каралём. І так, адмовіўшы Земавіту, князю Мазоўскаму, і Валадыславу, князю Апольскаму, якія не мелі прынесці краю жаднага пажытку, а таксама Вільгельму, князю Аўстрыйскаму, ад якога помач мелася быць позняй і надта далёкай, усе ў сваёй радзе звярнулі вочы і зычэнні да вялікага князя Літоўскага Ягайлы. <...>

Польскія паны пачалі мысліць аб паднясенні Ягайлы, князя Літоўскага, на каралеўскі сталец. <...> Прыкрым і крыўдным здавалася некаторым з паноў-радных тое, каб, апусціўшы ўласных хрысціянскіх князёў, чужога нявернага пасадзіць на каралеўскі сталец; і тое ж думкі былі ўсе, што блізка атачалі Ядзвігу, якая адмаўлялася ад слюбу з Ягайлам з агідаю. Але большая частка разумных і дасціпных вяльможаў, якія рупіліся аб пашырэнні хрысціянскае веры і бяспецы Польскага каралеўства, а таксама іншых пажытках, што абяцаў літвін, раілі заклікаць на каралеўскі сталец Ягайлу, адхіляючы супраціўныя меркаванні і неахвоту караліцы Ядзвігі <...>. Выбраўшы паслоў <...>, выправілі іх да Літвы з даручэннем, каб князя Літоўскага Ягайлу, узяўшы ад яго новую прысягу што да складзеных палякам абяцанняў, прывезлі да Кракава, каб ён прыняў Польскае каралеўства і паслюбіў караліцу Ядзвігу. <...>

## год 1386

*Навагародскія летапісы:*

У той жа год Альгердаў сын Ягайла, князь Літоўскі, паехаў жаніцца ў Вугорскую зямлю да караля, і там пажаніўся, і хрысціўся ў нямецкую веру. А Скіргайла, брат Ягайлаў, хадзіў раццю з літоўскай сілай і з нямецкай пад Полацк і ўзяў горад; і Андрэева сына забілі, а самаго Андрэя*, брата свайго, захапіў і ў Літву звёў. А Ягайла прыйшоў з Вугорскае зямлі ў сваю вотчыну, у Літоўскую зямлю, і хрысціў літву ў нямецкую веру, палову свайго гораду Вільні; а два вяльможныя літвіны Ягайлавы былі хрышчаны ў хрысціянскую веру, і яны не хрысціліся ў яго веру, і Ягайла страціў іх.

* Андрэй Альгердавіч, князь полацкі

*Энэй Сільвій, "Аб мужох вечнага добрага набытку":*
(Scriptores rerum Prussicarum. Bd. IV. Leipzig, 1870. S. 239-240)

Пра Валадыслава караля Польскага.
Валадыслаў, кароль Польскі, быў нацыі татарскае, няверны [natione Tartarus infidelis] – дыкжэ ён быў нам іншаверцам. Ён меў сваё гаспадарства паблізу (Польшчы) і, распусціўшы сваю сэкту [secta sua dimissa], стаўся хрысціянінам. Бо хто ж мае гаспадарства, не маючы людзей? Тады гаспадарыў Вільгельм*, герцык Аўстрыйскі, які ўзяў у жонкі караліцу, дачку Людвіка, караля Вугорскага, і атрымаў у пасаг каралеўства Польшчы. Але палякі, пажадаўшы лепей мець язычніцкага караля, ніж нямецкага, прызвалі да сябе Валадыслава, а Вільгельма прагналі, караліцу ж, якую ўжо былі паслюбілі таму каралю, прывялі да новага караля. <...>

* Вільгельм, герцык Аўстрыйскі, нарачоны Ядзвігі




*Літва ў шэрагу каталіцкіх краёў*
*(фрэска пач. 15 ст., Страсбург, Францыя)*

*Длугаш:*

Ягайла, вялікі князь Літоўскі, выправіўшыся дзеля займання стальца Польскага каралеўства і слюбу з караліцаю Ядзвігаю, разам з братамі сваімі і вялікім почтам двара, везучы з сабой возы з размаітымі скарбамі і аздобамі, прыехаў да Польшчы. Польскія паслы спачатку правялі яго праз Люблін, дзе ён адмыслова бавіўся колькі дзён, каб вестка аб яго прыбыцці пашырылася між панамі. З Любліна павольнаю яздою паехаў ён да Кракава. Нямнога польскіх паноў выехала яго сустракаць, але між іх быў Спытко з Мельштына, ваявода Кракаўскі, прыезд якога вельмі ўрадаваў Ягайлу. <...> Выехаўшы з Судаміра, 12-га лютага ў аўторак прыбыў ён у Кракаў і ў вялікім почце ўжо не так літоўскіх і рускіх, а больш польскіх паноў з вялікаю пышнасцю ўехаў у горад, а калі яго выправілі да замку, пайшоў проста да караліцы Ядзвігі, якая яго ў сваіх каралеўскіх пакоях разам з многімі дворскімі паннамі прыняла і павітала. Ягайла, дужа падзівіўшыся яе прыгажосці (бо, як казалі, не было ў той час прыгажэйшае дзявіцы ў цэлым свеце), назаўтры выправіў ёй праз князёў Вітаўта, Барыса і Свідрыгайлу вельмі каштоўныя падарункі ў золаце, срэбры, клейнотах і шатах. <...>

У чацвер 14-га дня лютага, у свята св. Валянтына, спачатку Ягайла, вялікі князь Літоўскі, потым браты яго князі Літоўскія, якіх ужо навучылі падставам і правілам каталіцкае веры, адкінулі народныя аблуды і прынялі святую артадаксальную веру [fidem Sanctam orthodoxam gentili errore obiecto profitentar et suscipiunt], у кракаўскім касцёле прынялі яны хрост з рук Бадзанты, архібіскупа Гнезненскага, і Яна, біскупа Кракаўскага, з вялікаю радасцю ўсіх. Заміж былых народных імёнаў надалі ім тады новыя: вялікага князя Ягайлу назвалі на ўзор даўніх каралёў Валадыславам, Вігунта Аляксандрам, Карыгайлу Казімірам, а Свідрыгайлу Баляславам. Іншыя літоўскія князі, якія раней ужо былі прынялі хрост паводле грэцкага абраду, да абновы або, хутчэй, дапаўнення хросту не далі сябе схіліць.

І гэтак князь Валадыслаў або Ягайла, прыняўшы першае і галоўнае таемства, у той жа дзень прыступіў да другога і ў тым жа кракаўскім касцёле злучыўся ўрачыстым малжонскім слюбам з дастойнаю і высакароднаю дзявіцаю Ядзвігаю, караліцаю Польшчы <...>. Вось за гэты несправядлівы ўчынак, злучаны з абразаю хрысціянскае рэлігіі, паноў польскіх, якія вызнаўцу каталіцкае веры Вільгельма Аўстрыйскага адсунулі ад яго законнае малжонкі <...>, а злучылі яе з Ягайлам, чалавекам грубым і выхаваным у нявер'і, потым Бог караў палякаў (як яны самі заўважалі) хібамі ва ўладзе і каралямі, якія спрыялі больш Літве, ніж Польшчы.

* * *

**Жывот віленскіх пакутнікаў, 15 ст. (урыўкі ў перакладзе).**

(Кніга жыццій і хаджэнняў / уклад. А.А. Мельнікаў. Мінск, 1994. с. 135-139;
D. Baronas. Trys Vilniaus kankiniai: gyvenimas ir istorija. Vilna, 2000. s. 268-293)

*год 1347*

**Пакута святых новаяўленых пакутнікаў родам літвы Івана, Антонія, Яўстахія, літоўскія ж ім імёны Круглец, Кумец, Няжыла.**

Яны былі ад места літоўскага, служылі агню, як і племя іхняе. Антоній і Іван былі браты і палюбілі ад душы хрысціянства і ад нас[1] пабожнасць. Прыйшлі да нейкага святара на імя Нестар і ад яго атрымалі святы хрост. <...>

І паказвалі жыццё, належнае хрысціянам, і служылі князю літоўскаму, але хавалі, што ёсць хрысціянамі[2]. Але немагчыма было схаваць, што яны розняцца ад іншых сваімі паводзінамі і ядзеннем, бо іншыя стрыглі бараду і галаву. І іх князь запытаў, а яны адважна абвясцілі сябе хрысціянамі. І іх прымушалі адмовіцца ад пабожнасці і есці мяса. А тады быў постны дзень і яны не пажадалі. Іх замкнулі ў цямніцы, яны ж усцешыліся і весяліліся, бо пакутвалі за Хрыстова імя. <...>

Мінуў год і Іван выявіў маладушнасць і злякаўся пакут, даслаў да князя, просячы, каб яго вызвалілі з цямніцы, мовячы, што гатовы рупліва выконваць усе загады князя. І так і чыніў. Звонку быў нібыта адзінаслаўны тым [літвінам] і вераю падобны, а ў сабе меў хрысціянства, але не хацеў абвясціць, бо лякаўся пакут. Тады ж і Антонія вызвалілі з цямніцы. <...>

І некалі яны стаялі перад князем, як звычайна, і Іван з'еў мяса з стала. І Антонію загадалі з'есці. Ён не пажадаў і яўна паказаў сябе хрысціянінам. Дзеля гэтага яго пасадзілі ў цямніцу. Івана ж нязбожныя дапякалі, але ён не трымаў першую веру і пайшоў да згаданага прэзбітара Нестара і маліў, каб той учыніўся перад братам, каб брат дараваў яму. Але Антоній не пажадаў ні аб чым пра брата размаўляць з прэзбітарам, калі той яўна не пакажа сваю пабожнасць. <...>

І некалі Іван стаяў перад князем і як звычайна служыў яму ў лазні, а князь не выяўляў ніякага гневу на яго. І Іван абвясціў сябе хрысціянінам, і зараз білі яго людзі, што былі там, і рукамі, і кіюгамі, і кінулі ў цямніцу. <...> Мінула колькі гадоў і Антонія ўсказалі на смерць горлам. <...> І праз смерць горлам аддаў Богу душу Антоній у 14-ы дзень красавіка. Таксама Іван праз колькі дзён таксама горлам караны быў у 24-ы дзень красавіка. <...>

Яўстах жа быў юны векам <...>. Ад душы палюбіў хрысціянства і хрысціўся ў таго ж святара Нестара <...>. Некалі быў ён разам з князем на ловах, і князь убачыў, што ў яго вырасла барада і валасы на галаве, бо ён іх не пастрыгаў. А ў іх быў звычай <...> пастрыгаць валасы на галаве і галіць бараду. <...> І гэта князь бачыўшы, запытаў, ці хрысціянін Яўстах. І той адважна абвясціў сябе хрысціянінам і гэтым выклікаў шалёную лютасць князя. <...> І князь мучыў яго многімі пакутамі. <...> І павесілі яго на дубе, і гэтак душу Богу аддаў 13 дня снежня. <...> Хрысціяне скупіліся і прасілі ў князя паслухаць іх просьбы і даць ім месца, каб яны там збудавалі святую царкву. І ён даў ім месца, і там збудавалі царкву[3]. <...>

* * *

[1] "ад нас" – то бо ад праваслаўнае (грэцкае) царквы

[2] у тэксце "хрысціяне" азначае вернікаў праваслаўнае (грэцкае) царквы

[3] паводле падання, на месцы смерці віленскіх пакутнікаў была збудавана віленская Свята-Траецкая царква, дзе спярша захоўвалі іх мошчы

**Лісты мітрапаліта Кіпрыяна, 1378 г. (урыўкі ў перакладзе).**

(И. Мейендорф. Византия и Московская Русь: Очерк по истории церковных и культурных связей в XIV в. Paris, 1990. прил. №7, 8)

Першы ліст мітрапаліта Кіпрыяна Сергію Раданежскаму, 3 чэрвеня 1378 г.:

> <...> Няхай вам будзе ведама: прыехаў у Любуцк у чацвер, месяца чэрвеня 3-і дзень. А еду да сына свайго, да князя вялікага[1] на Маскву. Еду, як некалі Іосіф ад айца пасланы быў да сваіх братоў, мір і дабраславенне несучы. А што некаторыя пра мяне іншае гаворацъ, то я святар, а не ваяр. З дабраславеннем іду, як жа і Госпад, дасылаючы сваіх вучняў на казанні, вучыў іх: "Хто вас прыймае, мяне прыймае". Вы ж будзьце гатовы ўбачыць нас, дзе самі пагадаеце. Вельмі жадаю бачыць вас і ўцешыцца духоўнаю ўцехаю. <...>

Другі ліст мітрапаліта Кіпрыяна Сергію Раданежскаму, 23 чэрвеня 1378 г.:

> <...> Не схавалася ад вас і ад усяго роду хрысціянскага, што стварылася нада мною, як не стварылся над жадным святаром, як Руская зямля стала. Я Божым наказам і абраннем вялікага і святога збору і дабраславеннем і пастаўленнем сусветнага патрыярха пастаўлены мітрапалітам на ўсю Рускую зямлю, і аб тым увесь сусвет ведае. І цяпер паехаў з усім чыстым сэрцам і з добрай воляй да князя вялікага[1]. А ён паслоў сваіх выправіў, каб мяне не пусціць, ды яшчэ паставіў заставы, раці выправіў ды над імі ваяводаў паставіў ды навучыў іх і наказаў ім столькі ліха мне ўчыніць – ды яшчэ неміласціва нас на смерць усказаць. <...> Нада мною ж паставіў ката, праклятага Нікіфара. Якое ж ліха ён учыніў нада мною! Абразы, здзекі, рабаванне, голад! <...> Слуг жа маіх – пасля ўсяго ліхога, што з імі ўчынілі – адпусцілі на клячах без сёдлаў у аброцях лычных, з гораду вывелі зрабаваных да кашуляў і да нагавіц, і ботаў і чапак не пакінулі на іх! Няўжо ў Маскве не знойдзецца ніводны, хто пажадае дабра душы князя вялікага і ўсёй айчыне яго? <...>
>
> Як гэта ў вас стаіць на мітрапалічым месцы чарнец у мантыі святарскай і ў клабуку, і пераманатка святарская на ім, і посах у руках? Дзе такі нелад і злосць чувалі? Ні ў якіх кнігах. Калі брат мой сканаў, то я святар на яго месца. Мая ёсць мітраполія. Нельга было яму спадкаемцу пакідаць пры сваёй смерці. Дзе гэта чувалі, каб да пастаўлення ўскладаць на кагосьці святарскія шаты, якія нікому нельга насіць, толькі адным святаром? Як ён важыцца стаяць на месцы святарскім? <...>
>
> Не выйшла з маіх вуснаў ніякае слова на князя на вялікага Дзмітрыя, ані да яго пастаўлення, ані па пастаўленні, ані на яго княгіню, ані на яго баяраў. Не дамаўляўся ні з кім, каб каму іншаму дабра зычыць больш за яго – ані справаю, ані словам, ані ўмыслам. Няма маёй віны перад ім. Дыкжэ я маліў Бога за яго, і за яго княгіню, і за яго дзяцей, і любіў з усяго сэрца, і дабра зычыў яму і ўсёй айчыне яго. <...>
>
> Калі каго ў палоне знаходзіў з яго айчыны, колькі было маёй моцы, выймаючы ад паганых, адпускаў. Кашынцаў знайшоў у Літве, якія два гады ў склепе сядзелі, і княгіні дзеля вялікае выняў іх як мог, клячы ім падаў ды адпусціў іх да зяця яе, князя кашынскага.
>
> Якую віну знайшоў на мне князь вялікі? Чым я вінаваты яму або айчыне яго? Я да яго ехаў дабраславіць яго, і княгіню яго, і дзяцей яго, і баяраў яго, і ўсю айчыну яго, і жыць з імі ў сваёй мітраполіі, як і браты мае з айцом яго і з дзедам з князямі вялікімі. А яшчэ дарамі чэснымі хацеў абдарыць яго. Ён кладзе мне ў віну, што я спярша быў у Літве. А якое ліха я ўчыніў, там быўшы? Няхай не закажаюць мне сказаць, што маю гаварыць.

Калі быў у Літве, многіх хрысціянаў з прыкрага палону вызваліў. Многія з ненавідзячых Бога спазналі сапраўднага Бога і да праваслаўнай веры праз святы хрост прыйшлі. Цэрквы святыя ставіў. Хрысціянства зацвярджаў. Месты царкоўныя, што спустошаны былі, аправіў і прыклаў да мітраполіі ўсяе Русі. Наваградак Літоўскі даўно адпаў[2], а я яго аправіў і дзесяціну даспеў да мітраполіі і сёлы. У Валынскай зямлі гэтаксама: колькі гадоў стаяла Валадзімерская біскупія без уладыкі, спустошылася – а я ўладыку паставіў і месты аправіў. <...>

Няхай вам будзе вядома, што брат наш Алексій мітрапаліт[3] не вольны быў слаць ані ў Валынскую зямлю, ані ў Літоўскую ўладыку якога, або разглядаць якую справу царкоўную, або наўчаць, або пасварыць на каго, або караць вінаватага – або ўладыку, або архімандрыта, або ігумена, або князя наўчаць, або баярына. Праз нядбанне [мітрапаліта] кожны ўладыка па сваёй волі хадзіў, як жадаў. А папы, і чарнцы, і ўсе хрысціяне – як быдла без пастуха.

Цяпер жа, праз Божую помач, нашаю працаю аправілася царкоўная справа. І трэба было князю вялікаму нас з уцехаю прыняць, бо ў тым яму вялікая чэсць. Я працую, каб адпалыя месты прылучыць да мітраполіі і жадаю ўмацаваць, каб да веку так стаяла на чэсць і на вялікасць мітраполіі. Князь жа вялікі гадае дваіць мітраполію. Якая вялікасць яму будзе ад такога ўмыслу? Хто яму гэтак гадае?

Якая мая віна ёсць перад князем вялікім? Спадзяюся на Бога: не знойдзе ён на мне жаднае віны. А нават калі б была мая віна якая, то не годна князём караць святароў – ёсць у мяне патрыярх, большы над намі, ёсць вялікі збор, і няхай бы ён туды паслаў віны мае, а яны б няправа мяне не каралі. А ён без віны мяне зганьбіў, зрабаваў, замкнуў, трымаў галоднага і нагога, а чарнцоў маіх у іншым месцы. <...>

Слухайце, што мовіць збор святы, менаваны Першы-другі, калі скупіліся ў храме Божым Слова Прамудрасці, то бо ў Святой Сафіі. Мовіць таго збору святога правіла 3-е так: "Калі хто з мірскіх, мыслячы сябе гаспадаром і занядбаўшы Боскія і царскія загады, занядбаўшы і страшныя царкоўныя звычаі і законы, адважыцца якога святара біць або замкнуць – або праз віну, або ўмысліўшы віну – такі няхай будзе пракляты".

Вось так я цяпер пакутваў. Святы збор такіх праклінае, нават калі віну якую закінуць святару. А мне якую віну знайшлі, што замкнулі мяне аднаго ў клеці за старожаю? <...> А што стварылі патрыяршым паслом, бэсціўшы патрыярха, і цара, і збор вялікі! Патрыярха літвінам назвалі, цара гэтаксама, і ўсячэсны збор сусветны. А я, колькі было моцаў, жадаў, каб злоба сцішылася. Тое Бог ведае, што любіў з чыстага сэрца князя вялікага Дзмітрыя і дабра зычыў яму да свайго жывата. <...>

Еду да Царграду, каб абараніцца Богам, і святым патрыярхам, і вялікім зборам. А тыя на куны спадзяюцца і на фрагаў[4], а я на Бога і на сваю праўду. <...>

* * *

[1] Дзмітрый Іванавіч, вялікі князь маскоўскі ў 1359–1389 гг.
[2] т.б., відаць, застаўся без біскупа
[3] Алексій, мітрапаліт Маскоўскі ў 1354–1378 гг.
[4] то бо, спадзяюцца на грошы і на генуэзскіх купцоў, якія былі пасярэднікамі між Канстантынопалем і Масквой

**З дзённіка Конрада Кібурга аб наведванні Вільні ў 1397 г. (урыўкі ў перакладзе).**

(T. Narbutt. Pomniejsze pisma historyczne szczególnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856. s. 133-162)

Граф Конрад Кібург займаў пасаду найвышшага шпітальніка (Oberst-Spittler) у Тэўтонскім ордэне. У чэрвеню 1397 году ён з дыпламатычнай місіяй наведаў Вільню, дзе сустракаўся з вялікім князем Вітаўтам, што выпісаў у сваім дзённіку.

*год 1397*

Мы прыбылі ў Коўню на караблёх, пад ветразямі, на восьмы дзень па адʼездзе з Рагнеты. Кашталян ковенскага замку пан Іван Фёдаравіч, русін, сустрэў нас прыязна і зараз выслаў ганца з весткаю вялікаму князю аб нашым прыездзе. <...>

На трэці дзень нашага побыту ў Коўні пад вечар прыбыў нейкі дворны ўраднік <...>. Назоў яго дастаенства адпавядае лацінскаму pincerna [чашнік]. Зваць яго Атакар Остыкавіч, яму мабыць блізу 30 гадоў, шпарка гутарыць па-нямецку. <...> Мы адразу пазналі ў ім прабеглага двараніна <...>.

Такім чынам, на пятнаццаты дзень па выплыцці нашым з Рагнеты мы пакінулі Коўню, а на васямнаццаты дзень, т.б. году Гасподняга 1397, месяца чэрвеня 22 дня, мы прыбылі ў Вільню, за дзве гадзіны да захаду сонца.

Сустракалі нас ля мескае брамы: ваявода тамтэйшы Альберт Манівід і маршалак Ямант, з грамадою рыцарства і мескімі ўраднікамі. <...> Даводзілася нам бываць у пасольствах у многіх замежных гаспадароў, але мушу прызнацца, што анідзе не знаходзілі мы такое выгоды, такога гасціннага прыйма і такога парадку ва ўсім, як цяпер у Літве. <...> Нашыя тутэйшыя слугі ўсе разумелі па-нямецку, так што мы былі як удому і не мелі патрэбы ў нашым перакладніку. Ён захварэў зараз па прыездзе, і нашыя слугі заклікалі лекара: гэта быў з аблічча просты селянін; ён, агледзеўшы хворага і нічога не пытаўшы, не прамовіўшы ані слоўца, дастаў з сваёй вялізнай торбы, што вісела ў яго праз плячо на шырокім пасе, нейкія зёлкі, завязаныя ў палатняным клунку, казаў падаць вады, потым дастаўшы крыху з той жа торбы, моцна ўзварыў, выціснуў, змяшаў з пітным мёдам і даў гарачую шклянку выпіць. Назаўтры наш хворы ўстаў здаровы, пазбыўшыся гарачкі, і як звычайна ахвотна еў і піў. <...>

Вярнуўшыся да гасподы, мы сустрэлі ўрадніка, прысланага ад пана Яманта. <...> Зараз з гэтымураднікам паехалі мы конна праз ніжнюю браму да прадмесця, менаванага Лукішкі [Luscisci], дзе ўлетку была сядзіба пана Манівіда. Там мы знайшлі многіх мясцовых рыцараў; усе падавалі нам руку – гэта знак гасціннасці і ветласці, як у іх заўсёды ў звычаю <...>.

Мы ўсе селі за вялізным акруглым сталом, у прасторным пакоі, асветленым чысленымі васковымі свечкамі; кожны сеў, дзе пажадаў, бо ў гэтай грамадзе ўсе роўныя. Няхай пахвалёны будуць літвіны, што яны захоўваюць гэтую хрысціянска-рыцарскую роўнасць (ад часу вяртання да сваіх вялікага князя Вітаўта), моʼ з лепшаю пільнасцю, ніж мы. <...>

Калі наш павадыр пан pincerna, за папалудзенным келіхам пачаў распавядаць аб сваім жыцці, даведаліся мы аб наступных драбніцах: маці яго родам з Жамойці, сваячка маці вялікага князя, а ейны родны брат, вуй пана Атакара, жыў у Рызе, дзе служыў на дастойнасці пасла, дзеля спрыяння літоўскім купцом і іхняму гандлю; ён выхоўваўся пры гэтым вую і дзеля гэтага сам стаўся нібыта немцам.

Але ж цікавая рэч, што Атакараў бацька, Грыгор Остык, які займаў высокія дастаенствы, быў праўнукам найвышшага святара або найвышшага вяшчуна, які параіў Гедыміну разбудаваць Вільню праз перанясенне ў яе сталечнага места гаспадарства, а схіліў ён да таго князя, патлумачыўшы яму сон аб жалезным воўку або льве. Гэты найвышшы святар паходзіў з княскага дому, яго знайшлі ў арліным гняздзе, ён быў жанаты з княжною, якая таксама паходзіла з дому вялікіх князёў; потым ён заўдавеў, зрабіўся найвышшым святаром і вялікім чарнакніжнікам. Нібыта ёсць надзвычайная чэсць быць нашчадкам чарадзея! Але кожны народ мае свае дрэнныя і добрыя бакі. <...>

Увечары прыйшоў да нас пан Атакар з некаторымі сваімі прыяцелямі; мы знайшлі добрых возных і выправіліся на месца народных забаў. Дыкжэ ў дзень св. Івана літвіны з даўніх часоў святкуюць разам з русінамі свята, менаванае сярод першых "Раса" [Rossa], а сярод другіх "Купала" [Kupala]. На ўсходнім баку горада ляжыць руская сладаба, менаваная Юр'еўскаю, або Святаюр'еўскаю. За ёю цягнецца лес на ўзгорках, між якімі расхінаюцца вясёлыя даліны, усланыя стрыкатым дыванам красак. За гэтым лесам, за пакручастымі ўзгоркамі і далінамі, убачылі мы безліч буданоў, станаў і вогнішчаў. Натоўп народу, спевы, танцы, гукі музычных інструментаў, лілося віно, паўсюль весялосць.

Далей між узгоркамі нашлі мы на далінку незвычайнага хараства, пасярод якой гарэў вялізны стос дрэваў, а вакол туляліся груды людзей вышэйшага стану, мужчыны апрычона ад жанчын: адныя споўдаліся, другія сядзелі на траве, засланай дыванамі, адныя сілкаваліся за нізкімі сталамі, другія слухалі нейкія спеўныя апавяданні старцаў і баб, а слугі свяцілі васковымі паходнямі. Якое асаблівае, надзвычайнае відовішча! Да нашай асалоды, з узгоркаў, падобных да стажкоў, з долу зарослых густою травою, чуваць было гучную музыку, якая часам спынялася, а на іншым узгорку пачыналася новая. Іншыя ж узгоркі выглядалі як горы, што выбухалі агнём: гарэлі смаляныя бочкі і смалістыя дровы, выкідаючы іскры, досыць высока. Уражанне хоць было нязвыклае, але від прыемны. У нас у Прусах былі ў звычаю падобныя святы, але яны злучаліся з паганскімі абрадамі, таму іх строга забаранілі. Тут жа трывае адно забава, без забабонных абрадаў – нам сказалі, што цяпер нічога непрыстойнага не адбываецца. Але ж гульні і спевы народу язычніцкія; ахоўваючы сваю народнасць, ён не так лёгка пакідае старажытныя звычаі. <...>

...Хрысціянскія святары дужа ўплываюць на навукі народу, адно што яны не паспяваюць паўсюль, пакуль не прыбудуць святары, якія прамаўляюць да народу зразумелаю для яго народнаю моваю. Як нам паведамілі, у многіх месцах адчыняюць хрысціянскія школы, на ўзор адчыненае пры катэдры, у якой выкладаюць браты мінарыты-канвентуалы. Моладзь, якую высылаюць у гарады літоўскае Русі, дзе пры рускіх манастырох ёсць школы, нічога больш не вучыць, ніж чытаць і пісаць па-руску. Такія атрымваюць пасады пісараў, бо тут здаўна ва ўжытку толькі рускае пісьменства, лаціна ўжываецца адно для духоўных навук, а нямецкай мове вучацца, здаецца, у Рызе для дыпламатычных мэт. <...>

Пабожнасць літоўскага люду ёсць чыста ўзорнаю, хаця цяперашняе пакаленне не паўсюль прыняло хрост і ледзьве цень хрысціянскіх паняткаў увайшоў у свядомасць простага люду. Зрэшты, паводле свайго характару, яны дужа адданыя рэлігійным пачуццям <...>, і дзеля гэтага балвахвальства, без нутранага ўзрушэння, знікла з прастораў Літвы або сталася патаемнаю справаю людзей у найцямнейшых закутках. Чаму русіны, падпарадкаваныя Літве, не ёсць сапраўднымі хрысціянамі? Чаму не могуць або не жадаюць

схіліць іх да злучу з рымскаю царквою? <...> Іхняя вера – гэта маніхейства, старое кацэрства. <...>

У аўторак (26 чэрвеня) перад палуднем паведамілі нам аб прыбыцці вялікага князя: ён казаў вітаць нас ад свайго імя і паведаміць, што неўзабаве мы будзем дапушчаны да яго асобы. І за тры гадзіны да захаду сонца мы выправіліся разам з пышна ўбранымі дворнымі ўраднікамі і рыцарамі, пад гукі вайсковае музыкі, усе на конях.

Ля ўваходу ў палац нас сустрэў вялікі маршалак з грамадою пакаёвых дваранаў; служба, багата ўбраная, стаяла ў два рады па баках, на двару і ў вялізным прысенку. Калі мы наблізіліся блізу пяці крокаў да залі паслуханняў, расчыніліся дзверы. Каля іх стаялі брамнікі – волаты, па чатыры ўнутры і звонку. У руках яны мелі бердышы, срэбныя або з глянсаванае сталі. Чапкі на іхніх галовах былі хутраныя чорныя, высокія, у добры локаць, абвінутыя пакручастымі залатымі ланцужкамі, краі якіх, упрыгожаныя кутасамі, падалі ім на плечы; падбародкі чапак былі пазлацістыя як бы залацістаю рыбінаю лузгаю; вусы ў іх былі велічэзныя, а бароды гладка паголены.

У глыбіні залі на багата ўбраным крэсле сядзеў вялікі князь Вітаўт, па баках ад яго стаялі юнакі-дзецкія, па два, убраныя ўсе ў белі. Трохі далей стаялі два сталы, акрытыя багатымі перскімі дыванамі, за імі сядзелі на крэслах без поручаў міністры, радцы, сакратары і іншыя.

Калі мы дайшлі да паловы залі, вялікі князь і ўсе іншыя падняліся, мы нізка скланіліся яму, а потым направа і налева, на што атрымалі паклоны ў адказ. Тут пачаў мовіць адзін з маршалкаў, голасна паведамляючы аб акалічнасцях нашага прыбыцця і нашыя імёны. Вялікі князь, ужо седзячы, схіліў галаву. Потым іншы маршалак запрасіў нас падыйсці да падножжа трону.

Мы падыйшлі, вялікі князь падняўся, падаў нам руку і прыняў ліст вялікага майстра, які ён спачатку прыклаў да сэрца, а потым казаў пакласці на стале. Я прамовіў кароткую, этыкетную прамову, на якую вялікі князь у нямногіх словах, таксама этыкетна, сам адказаў. Потым ён ветліва запытаў аб здароўі пана майстра і некаторых знаёмых яму ўраднікаў ордэну.



*Паслуханне ў князя*
*(мініятура з Радзівілаўскага летапісу, 15 ст.)*

Па яшчэ адной кароткай цырымоніі, калі таемны сакратар Мікалай прачытаў ліст нашага пасольства і ціха, у нямногіх выразах распавёў пра яго змест, мы атрымалі запрашэнне прайсці ў залю маршалкаў і на гэтым скончылася публічнае паслуханне.

Прыватныя паслуханні пачаліся з серады, нас выклікалі па колькі разоў на дзень. Яго дыпламатычны пакой або хутчэй працоўны кабінет – гэта прасторны пакой, з трох бакоў асветлены вокнамі; сцены акрыты ўсходнімі дыванамі, самага вытанчанага густу. Перад галоўнай сцяной – вялікі парадны стол, акрыты дываном, выгафтаваным золатам і срэбрам; на ім высокае пазлацістае распяцце, на тры чвэрці локця, перад ім ляжала княская мітра, меч і залаты посах або нейкага роду бэрла, бо не даўжэйшае за два локці, побач яшчэ нешта каштоўна аздобленае, няпушч маленькага гаршчка. <...> Праваруч другі стол, прыгожа акрыты нейкаю пурпуроваю тканінаю з галунамі і кутасамі; на ім нямала папер, каламараў, пер’яў, тут жа сядзіць яго пісар. Пры ўваходных дзверах стаяў дзецкі, які пільнаваў клепсідру і за кожным ейным паваротам біў кіёчкам у шкляны званочак.

Калі мы ўвайшлі, вялікі князь падняўся з-за сакратарскага стала, ветліва нас прывітаў, пасадзіў на ўтульных крэслах з поручамі і ласкава размаўляў з намі. Кожны раз як ён вымаўляў імя св. айца папежа Бенедыкта XIII, ён крыху падымаўся з крэсла і здымаў чапку; калі вымаўляў імя караля рымскага або польскага, здымаў чапку не падымаючыся, а калі вымаўляў імя пана майстра нашага, адно схіляў галаву. <...>

У абхаджэнні з людзьмі ён заўжды трымаецца прыстойнасці, яго двор таксама захоўвае прыхільнасць звычаям і сціпласць. Ён не п’е звыш меры моцных напояў і захоўвае мернасць нават у ядзенні.

Вялікі князь надзвычай чынны: у кіраванні краем займаецца ўсім, аб усім мусіць ведаць. Будучы на прыватных паслуханнях, мы самі бачылі ягоную надзвычайную чыннасць: ён размаўляў з намі аб рэчах, што патрабавалі надзвычайнае ўвагі, а між тым слухаў, як яму чыталі нейкія лічбы, і даваў разнастайныя загады. Народ мае вольны прыступ да яго, але кожны, хто жадае сустрэцца з вялікім князем, спярша будзе апытаны адмыслова прызначаным дзеля гэтага дваранінам і тады атрымае пісьмовы скарочаны выклад сваёй просьбы, каб перадаць яе гаспадару, або разам з адмысловымураднікам сам ідзе на вусновае паслуханне. Штодня мы бачылі плоймы людзей, якія прыходзілі з просьбамі або нейкімі даручэннямі з далёкіх краін. Цяжка зразумець, як яму хапае часу на ўсе гэтыя справы. <...> Грозны ён адно на вайне, а звычайна поўны дабрыні, умее дарэчна мілаваць і караць. <...>

* * *

**З дзённікаў Гільбера дэ Ланyа аб вандроўках у Літву ў 1412 і 1421 гг. (урыўкі ў перакладзе).**

(Путешествие Гилльбера де-Ланноа в восточные земли Европы в 1413–14 и 1421 годах. // Университетские известия. Киев, 1873, №8, отд. 2)

Бургунцкі рыцар і дыпламат Гільбер дэ Ланyа наведваў Літву двойчы: узімку 1412–1413 гг. і ў 1421 г. У сваіх дзённіках ён пакінуў нататкі аб адметнасцях літоўскага краю, аб сустрэчах з вялікім князем Вітаўтам і іншымі асобамі.

## Пасольствы і вандроўкі ў 1412 годзе

У 1412 годзе, у месяцу сакавіку, я паехаў з Эклюзу, каб выправіцца ў Прусы, процi няверных, каб далучыцца да войска, якое збіралі проці няверных[1] прускія гаспадары. <...> Згаданая Пруская зямля належыць рыцарам белых насоваў ордэну Маткі Боскае. Яны маюць вялікага майстра, які ёсць іхнім гаспадаром. Гэты край быў заваяваны ў былыя часы мечам у войнах проці няверных літвінаў і жамойтаў. <...> З Кёнігсбергу я вярнуўся ў Гданьск. У гэты час прыйшлі першыя звесткі, што прускія гаспадары важацца ўчыніць улетку выправу проці караля польскага і герцыка памеранскага, якія спрыялі сарацынам[2]. <...>

Праехаўшы Бераг, уступаюць у край жамойтаў. Але можна праехаць добрых 12 льё[3] пустэчы, не знаходзячы ані прыкметы людскога жытла, увесь час маючы мора праваруч. Гэтую пустэчу мянуюць Літоўскім берагам, не зважаючы на тое, што насамрэч гэтае месца – у Жамойці. <...>

З Куканосу[4] я паехаў з усімі маімі санямі па рацэ Ліве[5] і прыехаў у адзін замак ліфлянцкіх рыцараў на імя Дынабург[6], які ёсць іхняю апошняю цвержаю, якую яны маюць на мяжы з Літвою. Ад Куканосу дасюль мо' блізу 15 льё.

Выехаўшы з Дынабургу ў Ліфлянтах, я ўехаў у адзін вялікі, незалюднены лес у гаспадарстве Літоўскім, праехаў 2 дні і 2 ночы, не спаткаўшы жаднага жытла, па лёдзе 7 або 8 вялікіх замерзлых азёраў і, такім парадкам, прыбыў у адзін з двароў Вітаўта, менаваны Гаспадарскім дваром[7] [Court-le-roy]. Ад Дынабургу ў Ліфлянтах дасюль – 15 льё.

З Гаспадарскага двара я праехаў праз многія сялібы, вялікія азёры і лясы і прыбыў у галоўны горад Літвы, на імя Вільня, у якім ёсць замак, размешчаны вельмі высока на пясчанай гары, з агароджаю з камня, зямлі і цэглы, знутры ж увесь выбудаваны з дрэва. Цвержа гэтага замку спускаецца долу ў два бакі і абкружана сценамі да сама долу, а ўнутры гэтае цвержы шмат дамоў.
У гэтым замку мае сваё звычайнае месца побыту згаданы Вітаўт, гаспадар Літоўскі, і тут ён трымае свой двор і сваю гасподу. Каля гэтага замку цячэ рака, якая цягне свае воды праз ніжні горад. Гэтая рака называецца Вільняю. Гэты горад зусім не агароджаны; ён доўгі і вузкі згары долу, вельмі рэдка забудаваны драўлянымі дамамі. У ім няма жаднае царквы з цэглы, а згаданы замак на гары абгароджаны адно драўлянымі бальверкамі, зробленымі накшталт сцен.

Ад Гаспадарскага двара да Вільні – 12 льё. Людзі гэтага гаспадарства – хрысціяне, якія былі наварачоны моцаю рыцарамі Прускага і Ліфлянцкага ордэнаў[8]. Яны збудавалі ў вялікіх гарадох цэрквы і прымушаюць штодня будаваць іх і ў сёлах. У згаданай Літоўскай краіне 12 біскупстваў. Яны маюць сваю асаблівую мову. Мужчыны маюць доўгія валасы, якія распускаюць на плечы, а жанчыны ўбіраюцца проста, быццам паводле звычаю Пікардыі.

Літва збольшага бязлюдная, поўная азёраў і вялікіх рэк. Я знайшоў у згаданым горадзе Вільні дзвюх сясцёр згаданага князя Вітаўта. Я наведваў іх.

Я выехаў з Вільні, каб вярнуцца ў Прусы, і ехаў усё па гаспадарству Літоўскаму такою дарогаю: спачатку прыехаў у горад Трокі, горад бедна забудаваны дамамі і зусім не абгароджаны. Там ёсць два замкі, з якіх адзін вельмі дрэнны, зроблены з дрэва і дзірвана. Гэты дрэнны замак размешчаны на адзін бок возера, але другая яго частка ляжыць на роўнядзі. Другі замак ляжыць пасярод другога возера на гарматны стрэл ад старога; ён увесь новы і збудаваны з цэглы па французскім звычаю.

У згаданых Троках і па-за горадам у многіх сёлах жыве вялікая лічба татараў, яны жывуць там каленамі. Яны – сапраўдныя сарацыны, не маюць нічога хрысціянскага і размаўляюць асобнаю моваю, якая завецца татарскаю. Таксама ў згаданым горадзе жывуць немцы, літвіны, русіны і вялікая лічба жыдоў[9] і ўсе яны размаўляюць сваёй асобнай мовай. Горад гэты належыць вялікаму князю Вітаўту. Ад Вільні дасюль – 7 льё.

Згаданы Вітаўт, князь Літоўскі, трымаецца ў сваёй зямлі таго пасцівага звычаю, згодна з якім замежнікі, што прыбываюць і праязджаюць па яго краі, нічога не выдаткоўваюць, бо князь загадуе даваць ім страву і дбайна праводзіць іх паўсюль, куды яны пажадаюць выправіцца, – без усялякае адплаты або выдаткаў. Згаданы Вітаўт вельмі магутны князь: ён перамог 12 або 13 гаспадарстваў і зямель і мае (як мяркуюць) 10 тысяч коней свайго сядла, прызначаных для яго асобы.

У згаданым горадзе Троках ёсць агароджаны садок, у якім ёсць размаітыя дзікія жывёлы і звяры, якіх толькі можна знайсці ў лясох і на мясцовых ловах. Некаторыя звяры, быццам быкі, завуцца зубрамі; другія падобны да вялікіх коней і завуцца асламі, а іншыя завуцца ласямі; ёсць таксама дзікія коні, мядзведзі, свінні, алені і размаітыя птахі.

З Трокаў я прыехаў у адно сяло і замак, што завецца Позур [Posur][10], які ляжыць на Немане, гэта вельмі вялікая рака. Гэты замак вельмі вялікі, увесь з дрэва і ўмацаваны самім сваім размешчаннем; адным бокам на вельмі крутой гары, другім бокам на роўнай зямлі. І там у гэтым замку я знайшоў князя Вітаўта, гаспадара Літвы, яго малжонку і дачку, малжонку вялікага князя Маскоўскага, і дачку яго дачкі[11]. Згаданы князь прыбыў у гэтае месца паводле свайго звычаю – на ловы раз у год узімку ў гэтых лясох. І тут мешкае ён тры тыдні або месяц на ловах, не заязджаючы ў жадны дом або горад. Ад Трокаў да згаданага Позура – 5 льё.

Пакінуўшы Позур, я прыбыў у адзін вялікі ўмацаваны горад, што завецца Коўня. У ім ёсць вялікі замак, што ляжыць на ўтоку ракі Неман. Ён месціцца ў 12 льё ад Позуру.

Я выехаў з Коўні, што ў Літве, ехаў усё на санях па рацэ Немане і праехаў праз два замкі гаспадарства Літоўскага. А з ракі Немана я выехаў на другую, што завецца Memmelin і потым, праязджаючы ўсё па населеных землях, па вялікіх лясох і рэках, выехаў за межы Літоўскага гаспадарства і такім чынам вярнуўся ў Прусы. <...>

## Пасольствы і вандроўкі ў 1421 годзе

<...>

Я праехаў праз ніжнюю Русь і прыбыў да князя Вітаўта, вялікага князя і гаспадара Літоўскага, якога я знайшоў у Камянцы на Русі, разам з малжонкаю і пры аблічнасці аднаго татарскага князя і многіх іншых князей, княгінь і рыцараў. Я выканаў сваё мірнае пасольства да князя Вітаўта ад двох каралёў і ўручыў яму шляхетныя каменні караля Англіі. Гэты гаспадар таксама ўчыніў мне вялікую чэсць, выдатна частаваў мяне – даў мне тры учты, падчас якіх пасадзіў мяне за сваім сталом, дзе сядзела вялікая княгіня, яго малжонка, і сарацынскі князь Татарыі, дзеля чаго я бачыў, што за сталом елі мяса і рыбу ў пятніцу. Таксама там быў адзін татарын, які меў доўгую бараду, ніжэй кален, якая была акрыта похвамі.

Яшчэ я быў на адной урачыстай учце, якую ён даў для двох пасольстваў – аднаго з Ноўгарада, а другога з Пскова, – якія тады прыбылі і, цалуючы зямлю[12], прапаноўвалі шмат дзіўных падарункаў, а наймя: невырабленыя куны, ядвабныя адзежы, шубы, хутраныя чапкі, ядвабныя тканіны, зубы куракаў – такое рыбы, золата і срэбра, усяго да 60 родаў падарункаў. Вялікі князь сказаў прыняць падарункі ад Ноўгарада, а ад Пскова не. Нават у гневе казаў прыбраць іх прэч з сваіх вачэй[13].

Князь уручыў мне такія лісты, якія былі мне патрэбны, каб праехаць за яго ўчыненнем ў Турэччыну. Яны былі пісаны ў татарскай, рускай і лацінскай мовах. Князь даў мне ў павадыры двох татараў і 16 чалавек русінаў і валахаў. Зрэшты, ён таксама сказаў мне, што не варта пераязджаць праз Дунай, бо па ўсёй Турэччыне была вайна па смерці іхняга цэсара[14]. Ён быў у звязе з гаспадарамі польскім і татарскім проці вугорскага караля[15]. І даў мне пры ад'ездзе дзве ядвабныя сукні, падбітыя сабалінаю хутраю, якія завуцца шубамі [soubes], 4 ядвабныя тканіны, 4 коні, 4 шышакі, яго прыдворныя адзежы і 10 вышытых чапак, 4 пары рускіх кубкаў, лук, стрэлы, татарскі калчан, тры тканіны для броні, падзеленыя на 4 часткі і вышытыя, 100 залатых дукатаў і 25 срэбных ізрояў, якія каштавалі 100 дукатаў. Ад золата і срэбра я адмовіўся і вярнуў яму, бо ў той час ён быў у звязе з гусітамі, ворагамі нашае веры. А вялікая княгіня, малжонка ягоная, даслала мне залаты матузок і вялікі татарскі фларын, каб я насіў на шыі як знак яе двара. Майму герольду вялікі князь даў каня, шубу, падбітую кунамі, і новую чапку свайго двара, 2 срэбных ізроя і 6 залатых дукатаў, а майму служку Ламбіну, якога я выправіў назад да англійскага караля, даў шубу, то бо ядвабную сукню, падбітую куніцамі, і чапку свайго двара, а пяці шляхцічам, што былі са мною, даў па ядвабнай сукні кожнаму.

Адзін рускі князь і руская княгіня з ліку ягоных падданых далі мне учту, пару рускіх вышытых рукавіц і адзін ...[16], а яго рыцары далі мне іншыя падарункі – чапкі і рукавіцы, падбітыя куняю хутраю, і татарскія нажы, асабліва Гедыгоўд, намеснік Падолля. Я быў у Вітаўта 9 дзён і паехаў адтуль.

З Крамянца я вярнуўся ў Львоў, да якога 50 льё, і вось якое кола я даў па-за маёю дарогаю, каб знайсці вялікага князя Вітаўта. А з Львову, праехаўшы Вышнюю Русь, я прыбыў на Падолле і прыехаў у другі Камянец, дзіўна размешчаны горад, які належыць згаданаму князю. Тут знайшоў я аднаго рыцара, намесніка Падолля, Гедыгоўда, якы пышна прыняў мяне, даў цудоўныя падарункі, страву і выдатныя учты. Адтуль я выправіўся па Малой Валахіі па вялізных пустэльнях і знайшоў ваяводу Аляксандра, гаспадара Валахіі і Малдовы, у адным яго сяле на імя Козел. <...>

З Монкастры я выправіў частку маіх людзей і майго шляхетнага каменя морам у Кафу, а сам з другімі паехаў сушаю з Валахіі, каб ехаць у згаданае места – Кафу – па прасторнай татарскай пустэльні, якую я праехаў толькі праз 18 дзён. Я пераехаў праз Днестр, Дняпро, на якім я знайшоў аднаго татарскага князя, сябра і слугу вялікага князя Вітаўта, а таксама вялікае сяло, населенае татарамі, падданымі Вітаўта. <...>

Па ад’ездзе адтуль здарылася са мной неўзабаве другая прыгода. Едучы сваёю дарогаю да аднаго цэсара Татарыі, які жыве на адлегласці ў дзень дарогі адтуль, у Кафскай пустэльні, і які завецца цэсарам Салкату[17], сябра Вітаўта, да якога я ехаў, каб убачыць, у якасці пасла, ягонае гаспадарства, і вез яму багатыя падарункі ад Вітаўта, – я сустрэў у двох днёх дарогі адтуль засаду з 60 або 80 конных татараў: яны кінуліся на мяне з-за кустоў і хацелі паланіць. Іхні цэсар толькі што памёр і паміж татарамі гэтае Татарыі і Татарыяй вялікага цэсара Орды паўстала пытанне, найважнейшае ў свеце для татараў, аб тым, каго ўчыніць цэсарам, бо кожны жадаў свайго, і дзеля гэтага ўсе хваляваліся і былі ўзброены ў гэтым краі, дзеля чаго я быў у вялікай небяспецы. Але, па шчасным выпадку, я і мае людзі якраз у гэты дзень апранулі чапкі і прыдворныя строі Вітаўта, а татары, што ўчынілі засаду, былі людзі старога змерлага цэсара Салкату, які быў вялікім сябрам згаданага Вітаўта. Такім чынам, яны мяне пусцілі, узяўшы адно падарункі з золата і срэбра, віна і кун, якія я аддаў. Яны мяне правялі і вывелі на пабочную дарогу, так што я ўнікнуў усіх узброеных людзей і прыбыў уночы ў Саміету. <...>

* * *

[1] “Нявернымі” Лануа мянуе разам літвінаў і войскі Орды, як відаць з далейшага апавядання.
[2] “Сарацынамі” Лануа мянуе войскі Орды.
[3] 1 льё = 4,445 км.
[4] Куканос – былая полацкая цвержа на Дзвіне; пад крыжакамі – Кокэнгаўзэн.
[5] Ліва – ліўскі назоў Дзвіны.
[6] Дынабург – у ВКЛ Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс.
[7] Лануа прыняў азначэнне “гаспадарскі двор” за назоў места.
[8] Лануа, у адпаведнасці з крыжацкай прапагандай, лічыць, што Літва была наварачона на каталіцтва Тэўтонскім ордэнам. Імаверна таксама, што Лануа зблытаў з звесткамі аб Літве звесткі аб Ліфлянтах.
[9] Гэта былі крымскія караімы, якіх Вітаўт сяліў ля Трокаў.
[10] Места з такім назовам невядомае. Калі Лануа дакладна апавядае пра свой маршрут, яно мусіла размяшчацца на рацэ Стрэве, а не на Немане.
[11] Малжонка Вітаўта – вялікая княгіня Ганна Святаслаўна. Дачка – Соф’я, з 1390 г. замужам за маскоўскім князем Васіліем Дзмітрыевічам. Дачка Соф’і, унучка Вітаўта, звалася Ганнаю.
[12] Паслы, відаць, білі чалом паводле рускага звычаю.
[13] Прычынаю няласкі Вітаўта да пскоўскіх паслоў, відаць, было нежаданне псковічаў разарваць дамову з Ліфлянцкім ордэнам, чаго ад іх вымагаў Вітаўт.
[14] Салтан Магамет І.
[15] Жыгімонт І, цэсар нямецкі.
[16] Адно слова не адчытана.
[17] Салкат (Стары Крым) – сталіца Крымскае (Перакопскае) Орды. Гаспадаром Салкату ў той час, імаверна, быў Эдыгей.

**Энэй Сільвій Пікаламіні, “De Lituania” (1440-я гг.) (урыўкі ў перакладзе).**

(Aeneas Sylvius. De Lituania. // Scriptores rerum Prussicarum. Bd. IV. Leipzig, 1870. S. 237-239)

Энэй Сільвій Пікаламіні, пісьменнік-гуманісты, ад 1458 г. быў папежам рымскім пад імем Пія ІІ. Сваю працу “Аб Літве” (“De Lituania”) ён напісаў між 1445 і 1458 гг. Сільвій карыстаўся, у тым ліку, звесткамі пра Літву, атрыманымі ад Яна Ераніма Празскага, які ад 1394 г. быў спавядальнікам караля Валадыслава-Ягайлы і наведваў Літву дзеля казання веры літоўскаму люду.

## De Lituania

### Аб Літве

Літва з сваімі прасторамі мяжуе з Польшчаю з усходу. Паўсюль у ёй багата балотаў і лясоў.

Вітаўт быў братам таго Валадыслава, які пакінуў сваю рэлігію і разам з каралеўствам Польшчы прыняў хрысціянскія таемствы. У той час Вітаўт ужо меў свой тытул Вялікі. І так баяліся патрапіць да яго ў залежнасць, што ахвотней падпарадкоўваліся загадам або лезлі ў пятлю, абы не выклікаць гнеў князя. Таго, хто адмаўляўся выконваць загад, зашывалі ў мядзвежую скуру і кідалі да жывога мядзведзя, якога адмыслова гадавалі для такіх мэт, і ён раздзіраў ахвяру. <...>

Да літвінаў вельмі цяжка прыехаць улетку, бо амаль усюды багна або твань. Узімку мароз зацягвае балоты тоўстым лёдам. Купцы па лёдзе і снезе едуць у падарожжа. <...> У літвінаў няшмат гарадоў, таксама не частыя ў іх вёскі. Асноўнае багацце люду – скуры звяроў, менаваных у нас сабалямі і гарнастаямі. <...>

Багата ў іх мёду і воску, што даюць дзікія пчолы ў лясох. Віно ўжываюць рэдка, а хлеб у іх чорны. Жывяцца гадоўляй свойскае жывёлы, таму ўжываюць шмат малака.

Мова народу славянская [Sermo gentis Schlavonicus est]. Гэтая мова вельмі пашыраная і яе носьбіты належаць да розных вызнанняў. Некаторыя з славянаў, а наймя далматы, харваты, карнійцы і палякі, трымаюцца рымскай царквы. Другія трымаюцца веры грэкаў, як баўгары, русіны і многія з літвінаў. Іншыя навыдумлялі ўласныя герэзіі, як чэхі, маравы і басьнякі, з якіх вялікая частка пераняла забабоны маніхеяў.

<...>

* * *

**Вялікае княства Літоўскае ў 1264 г.**




*Надрова, палова Дайновы:* адпісаны на карысць Тэўтонскага ордэну вялікім князем Міндоўгам у 1253 г.; у 1260–1261 гг. вернуты ў склад ВКЛ.

*Жамойць:* адпісана на карысць Тэўтонскага ордэну вялікім князем Міндоўгам у 1253–1254 гг.; у 1260–1261 гг. вернута ў склад ВКЛ.

*Латыгола:* да 1264 г. у складзе ВКЛ; 28.12.1264 г. адпісана князем Гердзенем на карысць Ліфлянцкае філіі Тэўтонскага ордэну.

*Берасцейскае княства з паўднёвым Падляшшам:* у 1254–1270 гг. пад уладай Шварны Данілавіча (да 1263 г. як галдоўніка Міндоўга, у 1267–1270 гг. як вялікага князя літоўскага); Дарагічын улучаны ў склад ВКЛ у 1275 г., Берасцейскае княства канчаткова – каля 1320 г.

## Вялікае княства Літоўскае і Рускае ў 1384 г.




*Жамойць:* да 1382 г. у складзе ВКЛ; у 1382 г. адпісана Тэўтонскаму ордэну вялікім князем Ягайлам; у 1384, 1390, 1398, 1404 гг. адпісана Тэўтонскаму ордэну вялікім князем Вітаўтам; канчаткова ў ВКЛ ад 1422 г.

*Смаленскае княства:* ад 1404 г. у складзе ВКЛ.

*Адоеўскае княства:* ад 1407 г. у складзе ВКЛ.

## Храналогія галоўных падзей

у Вялікім княстве Літоўскім ад часу вялікага князя Міндоўга да часу вялікага князя Вітаўта (1236–1430 гг.)

| | |
|---|---|
| 22 верасня 1236 г. | Бітва пад Шаўлямі. Войска літвінаў (Letvinis) дазвання разбівае войска ліфлянцкіх крыжакоў: забіты майстар Ордэну Мечаносцаў Вольквін і больш за пяцьдзясят братоў ордэну. |
| 1237 г. | Паход князя Міндоўга разам з князем Наваградка Ізяславам на Мазоўшу. |

### Княжанне вялікага князя літоўскага Міндоўга (1238–1263 гг.)

| | |
|---|---|
| 1239 г. | Літоўскі князь княжыць у Смаленску. |
| вясна – лета 1241 г. | Конрад Мазоўскі разам з паморскімі і літоўскімі пасілкамі апаноўвае Кракаў. |
| лета 1242 г. | Пачынаецца паўстанне прусаў проці Тэўтонскага ордэну, падтрыманае Літвою і паморскім князем Святаполкам Гданьскім. |
| 25 траўня 1243 г. | Літоўскія войскі падтрымваюць Конрада Мазоўскага ў бітве пад Сухадолам. |
| чэрвень 1243 г. | Паход паморскіх і літоўскіх войскаў на прускіх крыжакоў. Параза крыжакоў у бітве пад Рэнзэнам. |
| зіма 1244–1245 гг. | Паход вялікага князя Міндоўга з 30-тысячным войскам на Ліфлянты, бітва пад Амботэнам. |
| 1246 г. | Конрад Мазоўскі з загонамі літвы разбівае кракаўскага князя Баляслава ў бітве пад Зарышавам. |
| 1247 г. | Паход літвы на Пскоўскую зямлю. |
| канец 1248 г. | Князі Таўтвіл і Гедывід распачынаюць закалот з вялікім князем Міндоўгам і ўцякаюць у Валадзімер-Валынскі да Данілы і Васількі Раманавічаў. |
| 1249 г. | Галіцка-валынскія князі, Таўтвіл і ліфлянцкія крыжакі ваююць на Вялікае княства Літоўскае. |
| 1251 г. | Вялікі князь Міндоўг дамаўляецца з ліфлянцкім ляндмайстрам Андрыхам Стырляндам аб спыненні вайны крыжакоў на Літву пад умоваю пераходу Міндоўга на каталіцтва. |
| восень 1252 г. | Міндоўг прыймае каталіцкі хрост і каранується на караля Літвы. |
| 1253 г. | У Любчы ля Наваградка створана каталіцкае Літоўскае біскупства на чале з біскупам Вітам. |
| 1254 г. | Міндоўг укладае звяз з Данілам Галіцкім, выдае сваю дачку замуж за Шварна Данілавіча. Другі сын Данілы – Раман – па вяртанні з Аўстрыі займае княскі сталец у Наваградку. |
| лета 1255 г. | Войскі Міндоўга і Данілы Галіцкага нападаюць на Люблін. |
| 7 жніўня 1255 г. | Папеж Аляксандр IV абвяшчае крыжовы паход проці Літвы. |
| 1255–1258 гг. | Выправа князя Войшалка ў Грэцыю. |
| зіма 1256–1257 г. | Літоўска-рускія войскі нападаюць на Мазоўшу і спальваюць Плоцк. |
| студзень 1257 г. | Папеж Аляксандр IV абвяшчае крыжовы паход проці Літвы. |

| | |
|---|---|
| восень 1258 г. | Паход літвы і палачанаў на Смаленск і Таржок. |
| зіма 1259–1260 гг. | Злучаныя ордскія, галіцка-валынскія і літоўскія войскі рушаць у выправу на Польшчу. 30-тысячнае войска вялікага князя Міндоўга рабуе Прусы. |
| 13 ліпеня 1260 г. | Бітва ля Дурбы (у Куроніі). Літоўскае войска дазвання разбівае злучанае крыжацкае войска Прускага і Ліфлянцкага ордэнаў: забіты 150 рыцараў-братоў Ордэну, майстар, маршалак і некалькі комтураў. |
| чэрвень 1262 г. | Літоўскія войскі на чале з князем Шварнам Данілавічам захапляюць мазоўскую княскую сядзібу Яздава. |
| восень 1262 г. | Супольны паход літоўскага войска вялікага князя Міндоўга, полацкага войска князя Таўтвіла і войска Вялікага Ноўгарада на Ліфлянты. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Трайняты (1263–1264 гг.)

| | |
|---|---|
| канец 1263 г. | Вялікі князь Трайната забівае полацкага князя Таўтвіла і авалодвае Полацкам. |
| 1264 г. | Паход вялікага князя Трайняты з 30-тысячным войскам на Прусы і Мазоўшу. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Васіля-Войшалка (1264–1267 гг.)

| | |
|---|---|
| 1264 г. | Сойм баяраў Вялікага княства Літоўскага выправуе пасольства ў Пінск да князя Войшалка з патрабаваннем, каб ён заняў вялікакняскі сталец. Войшалк з загонамі пінчукоў і наваградцаў карае варожых яму баяраў у Дзяволтве і Нальшчанах. |
| 28 снежня 1264 г. | Полацкі князь Гердзень укладае мірную дамову з Рыгаю. (**дад. №1**) |
| 1265 г. | Полацкі князь Ізяслаў укладае дамову з Рыгаю, пацвярджаючы, што Полацк і Віцебск ёсць “в воли Войшелгове”. (**дад. №2**) |
| 1267 г. | Войшалк саступае вялікакняскі сталец князю Шварну Данілавічу. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Івана-Шварны (1267–1270 гг.)

| | |
|---|---|
| 1267 г. | Чэскі кароль Пржэмысл II дамаўляецца з Тэўтонскім ордэнам аб супольнай вайне на Вялікае княства Літоўскае. |
| люты 1268 г. | Руска-літоўскі паход на Ліфлянты. |
| 1269 г. | Паход літоўскага войска на Куяўскую зямлю Польшчы. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Тройдзеня (1270–1282 гг.)

| | |
|---|---|
| 1270 г. | Бітва пад Карузаю. Перамога літоўскага войска над ліфлянцкімі крыжакамі, загінулі 52 рыцары-браты Ордэну і ляндмайстар. |
| 1273 г. | Польскія ўлады вінавацяць кракаўскага біскупа Паўла ў звязе з літвінамі. |
| вясна 1275 г. | Літоўскае войска (пераважна з гарадзенцаў), дасланае вялікім князем Тройдзенем, захапляе Дарагічын на Падляшшы. |
| 1277 г. | Літоўскі паход да памежжаў Лянчыцкае, Брэсцкае і Добрыньскае зямель Польшчы. |
| 1278 г. | Літоўскія летапісы згадуюць аб “Пагоні” як гербе вялікіх князёў літоўскіх. |
| 5 сак. 1279 г. | Бітва пад Ашэрадэнам. Перамога літоўскага войска над ліфлянцкімі крыжакамі, загінулі 71 рыцар Ордэну і ляндмайстар. |

| | |
|---|---|
| 1279 г. | Вялікі князь Тройдзень укладае звяз з мазоўскім князем Баляславам. |
| зіма 1279–1280 гг. | Паход ордскіх, галіцка-валынскіх і літоўскіх войскаў на Люблін і Судамір. |
| 1281 г. | Вялікі князь Тройдзень захапляе цвержу Гарадзішча ў Ліфлянтах і мяняе яе ліфлянцкім крыжаком на Дынабург (Дзвінск). |

**1282–1294 гг.**

*Хто займаў вялікакняскі сталец у гэтыя гады, дакладна невядома. Гістарычныя крыніцы згадуюць у гэты час вялікага князя літоўскага Лаўра-Рымунта (сына вялікага князя Тройдзеня) і вялікага князя літоўскага Лютавора (бацьку вялікага князя Віценя), аднак дакладны час іх княжання невядомы.*

| | |
|---|---|
| каля 1282 г. | Князь Лаўр-Рымунт (сын вялікага князя Тройдзеня) адбівае паход пскоўскага князя Даўмонта на Полацк і Віцебск. (**дад. №3**) |
| кастрычнік 1283 г. | Літоўскія войскі бяруць учасць у аблозе ордскім войскам Судаміра. |
| лета 1284 г. | Паход прускіх крыжакоў на чале з ляндмайстрам Конрадам фон Тырбергам на “няверных літвінаў” Горадні. |
| 1285 г. | Паход літвы на валоданні цверскага біскупа. |
| 1286 г. | Літоўскія і рускія пасілкі памагаюць мазоўскаму князю Конраду авалодаць замкам Гастынін. |
| | Князь Пелюш (сын вялікага князя Трайняты) уцякае да крыжакоў у Кёнігсберг, прыймае каталіцтва і абвяшчае сябе спадкаемцам тытулу вялікага князя літоўскага. |
| пачатак 1287 г. | Папеж Ганорый IV загадуе кракаўскаму князю Лешку Чорнаму рушыць у крыжовую выправу на Літву. |
| 1287 г. | Бітва пад Грозэ. Перамога літоўскага войска над ліфлянцкімі крыжакамі, загінула 35 рыцараў і ляндмайстар. |
| снежань 1287 г. | Паход ордскага цара Тэлябугі разам з рускімі і літоўскімі войскамі на Польшчу. |
| 1291 г. | Паход князя Віценя на Куяўскую зямлю Польшчы. |
| 1293 г. | Паход злучаных рускіх, літоўскіх і ордскіх войскаў на Прусы. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Віценя (1294–1315 гг.)

| | |
|---|---|
| 1294 г. | Мазоўскі князь Баляслаў размяшчае ў сваім замку Візне літоўскі загон. |
| 1295 г. | Князь Гедымін жэніцца з смаленскай княжной Вольгай Усеваладаўнай (маці Альгерда і Кейстута). |
| 1297 г. | Бітва на Трэйдэры. Перамога літоўскага войска над ліфлянцкімі крыжакамі, загінула 22 рыцары-браты Ордэну і ляндмайстар. |
| 1298 г. | Бітва на Гаўі. Перамога літоўскага войска над ліфлянцкімі крыжакамі, загінула 60 рыцараў-братоў Ордэну і ляндмайстар. |
| | Князь Гедымін жэніцца з полацкай княжной Еўнай Іванаўнай (маці Любарта, Яўнута і Карыята). |
| між 1298 і 1307 гг. | У пасланні рыжанам полацкі біскуп Якаў мянуе вялікага князя Віценя сваім сынам. (**дад. №6**) |
| 1299 або 1300 г. | За пачаткам бізантыйскага цэсара Андроніка II і паводле выраку Канстантынопальскага патрыярха Івана XII створана Літоўская мітраполія. |
| 1302 г. | Захоп ордскімі, літоўскімі і рускімі войскамі Любліна. |

| | |
|---|---|
| 1304 г. | У землі Тэўтонскага ордэну прыбывае шмат крыжакоў з нямецкіх зямель. Тэўтонскі ордэн укладае дамову з біскупамі і капітуламі Ліфляндтаў і Эстоніі для змагання проці “русінаў, літвінаў ды іншых ворагаў хрысціянскае веры”. |
| 1306 г. | Паход літоўскіх войскаў на вялікапольскія землі да Каліша і Ставішына. |
| 1307 г. | Літоўскі паход на Рыгу. |
| 1308 г. | Кракаўскі князь Валадыслаў з пасілкамі літвінаў і русінаў спрабуе адбіць ад крыжакоў Гданьск. |
| 1312 г. | Вялікі князь Віцень засноўвае царкву для францысканскай місіі ў Навагрудку. |
| 1314 г. | Давыд Гарадзенскі адбівае вялікі паход прускіх крыжакоў на Навагрудак. |
| восень 1315 г. | Паход вялікага князя Віценя на Прусы. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Гедыміна (1316–1341 гг.)

| | |
|---|---|
| жнівень 1317 г. | Мітрапаліт Літвы бярэ ўчасць у паседзінах патрыяршага сіноду ў Канстантынопалю. |
| 1317 або 1318 г. | Вялікі князь Гедымін выдае сваю дачку Данмілу (на хросце Альжбэта) за мазоўскага князя Вацлава. |
| 1318 г. | Паход князя Давыда Гарадзенскага на Прусы. |
| | Князь Альгерд жэніцца з віцебскай княжной Марыяй Яраслаўнай. |
| 1319 г. | Бітва на рацэ Зяміле войска вялікага князя Гедыміна з войскам вялікага майстра Тэўтонскага ордэну Караля фон Трыра. (**дад. №7**) |
| зіма 1319–1320 гг. | Вялікі князь Гедымін выдае сваю дачку Марыю замуж за цверскага князя Дзмітрыя Міхайлавіча. |
| 1320 г. | Вялікі князь Гедымін засноўвае мураваны замак у Вільні і пераносіць у Вільню сталец ВКЛ. |
| | Князь Альгерд займае княскі сталец у Віцебску. |
| | Бітва пад Меднікамі. Перамога літоўскага войска над прускімі крыжакамі, загінула 29 рыцараў-братоў Ордэну і маршалак Прусаў. |
| 1322 г. | Вялікі князь Гедымін апаноўвае Кіеў (**дад. №8**). Кіеўскі сталец займае праваслаўны князь Фёдар, брат Гедыміна. Княскі сталец у Луцку займае сын Гедыміна Дзмітрый-Любарт (**дад. №9**). |
| канец 1322 г. | Тэўтонскі ордэн абвяшчае штогадовыя крыжовыя выправы на Літву на Грамніцы і Ўшэсце. Вялікі князь Гедымін піша ліст папежу Яну XXII з скаргаю на Тэўтонскі ордэн. |
| люты 1323 г. | У Пскоў прыбывае літоўскае войска Давыда Гарадзенскага, якое разам з псковічамі разбівае ліфлянцкіх крыжакоў і даходзіць да Рэвеля. |
| травень 1323 г. | Вялікі князь Гедымін піша пасланні да ганзейскіх гарадоў, да ордэнаў дамініканаў і францысканаў, запрашаючы да прыязні з Вялікім княствам Літоўскім. (**дад. №10**) |
| 1325 г. | Вялікі князь Гедымін разам з войскамі ордскага цара Азбяка ваюе проці польска-вугорскіх войскаў. |
| 16 кастр. 1325 г. | Дачка вялікага князя Гедыміна Альдона (на хросце Ганна) выходзіць замуж за польскага каралевіча Казіміра. |
| люты – сакавік 1326 г. | Літоўскае войска на чале з князем Давыдам Гарадзенскім разам з войскам польскага караля чыніць паход на Брандэнбургскую марку. |

| | |
|---|---|
| снежань 1327 г. | Літоўскі мітрапаліт бярэ ўчасць у паседзінах патрыяршага сіноду ў Канстантынопалю. |
| 1328 г. | Вялікі князь Гедымін падтрымвае мяшчанаў Рыгі ў іхнім закалоце з Ліфлянцкім ордэнам. |
| люты 1329 г. | Чэскі кароль Ян Люксембургскі разам з войскам Тэўтонскага ордэну рушыць у крыжовую выправу на ВКЛ. |
| красавік 1329 г. | Літоўскі мітрапаліт Феафіл бярэ ўчасць у паседзінах патрыяршага сіноду ў Канстантынопалю. |
| 1329 г. | Вялікі князь Гедымін садзіць на княжанне ў Пскове свайго галдоўніка князя Аляксандра Міхайлавіча. |
| 1330 г. | Польскі кароль Валадыслаў скардзіцца папежу Яну XXII на ўставічныя супольныя напады Орды і Літвы. Папеж загадуе ўставіць два новыя штогадовыя святы ў Кракаве, падаткі з якіх мусяць ісці на абарону Польшчы ад татараў і літвінаў. |
| 1331 г. | Вялікі князь Гедымін выдае сваю дачку Яўхімію за галіцка-валынскага князя Баляслава-Юрыя. |
| 27 верасня 1331 г. | Бітва пад Плоўцамі. Войскі польскага караля Валадыслава разам з літоўскімі пасілкамі разбіваюць войска прускіх крыжакоў. |
| 1333 г. | Князь Нарымонт, сын вялікага князя Гедыміна, прыймае праваслаўе з імем Глеба і атрымвае ў дзяржанне цвержы ля Вялікага Ноўгарада. |
| | Вялікі князь Гедымін выдае за маскоўскага княжыча Сямёна Іванавіча сваю дачку Айгусту (на хросце Анастасія). |
| 1335 г. | Князь Глеб-Нарымонт з’язджае з Ноўгарада і займае княскі сталец у Полацку. |
| пачатак лета 1337 г. | Вялікі крыжовы паход чэскага караля Яна, герцыка бургунцкага, герцыка баварскага і іншых крыжацкіх войскаў на ВКЛ. |
| 1 лістапада 1338 г. | Вялікі князь Гедымін, полацкі князь Глеб-Нарымонт і віцебскі князь Альгерд укладаюць мірную дамову з ліфлянцкім ляндмайстрам і месцічамі Рыгі. |
| лістапад 1338 г. | Полацкі князь Глеб-Нарымонт укладае гандлёвую дамову з месцічамі Рыгі. **(дад. №12)** |
| лета 1340 г. | Паход ордскага войска цара Азбяка разам з войскамі рускіх князёў і вялікага князя Гедыміна на Прусы і Ліфлянты. |
| каля 1340 г. | Вялікі князь Гедымін падзяляе ўдзелы Вялікага княства Літоўскага між сынамі. **(дад. №13)** |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Альгерда (1342–1377 гг.)

| | |
|---|---|
| 1342 г. | Князі Альгерд і Кейстут выганяюць князя Яўнута з Вільні. Яўнут з’язджае ў Пскоў і прыймае праваслаўе з імем Івана, потым вяртаецца ў Літву і атрымвае ў валоданне Заслаўе. |
| снежань 1343 г. | Папеж Клімент VI заклікае польскага караля Казіміра змагацца проці “няверных: татараў, русінаў і літвінаў, ворагаў хрысціянскай веры”. |
| 1344 г. | Укладзена мірная дамова між Літвою і Польшчаю, згодна з якой палякі прызналі ўладу Літвы над Валынню і большаю часткаю Галіччыны. |
| 1345 г. | Няўдалы паход вялікага майстра Тэўтонскага ордэну Людольфа Кёніга, вугорскага караля Людвіка, чэскага каралевіча Карла, нямецкіх і французскіх рыцараў на Літву, пасля паразы якога Людольф Кёніг абвешчаны вар’ятам і змешчаны ў вязніцу. |
| 1346 г. | Вялікі князь Альгерд засноўвае ў Вільні збор Прачыстае, які пазней робіцца катэдральным зборам Літоўскае мітраполіі. |

| | |
|---|---|
| 2 лютага 1348 г. | У бітве з прускімі крыжакамі на рацэ Стрэве забіты князь Глеб-Нарымонт. |
| 1349 г. | Вялікі князь Альгерд выправуе пасольства да ордскага цара Чанібека. Літоўскія войскі разам з ордскімі пасілкамі нападаюць на польскія землі. |
| 1350 г. | Вялікі князь Альгерд жэніцца з цверскаю княжною Юльяніяй Аляксандраўнай. |
| 1351 г. | Злучаныя літоўскія, рускія і ордскія войскі адбіваюць ад палякаў Валадзімер, Бэлз, Холм і Бярэсце. Папеж Клімент VI абвяшчае ў Польшчы, Чэхіі і Вуграх крыжовы паход проці татараў. |
| 1352 г. | Паход войска ВКЛ на Кракаў. Літоўскія князі ўкладаюць мірную дамову з польскім каралём Казімірам. (**дад. №15**) |
| | Кандыдат вялікага князя Альгерда Феадарыт высвячаны на мітрапаліта Літоўскага і Кіеўскага патрыярхам Тырнаўскім. |
| 1354 г. | Папеж Інацэнт VI даручае польскім біскупам абвясціць крыжовы паход проці літвінаў і татараў. |
| | Кандыдат вялікага князя Альгерда Раман высвячаны ў Канстантынопалю на дастаенства мітрапаліта Літоўскага. |
| 1355 г. | Князь Кейстут і князь Любарт выдаюць купцом Торуні (у Прусах) грамату на вольны гандаль у Дарагічыне, Мельніку, Бярэсці і Луцку. (**дад. №16**) |
| 1356 г. | Падпісаны чарговы мір Літвы з Польшчаю, паводле якога Польшча атрымвае Галіччыну і Перамышль, а Літва – Валынь і Холм. |
| | Канстантынопальскі патрыярх пашырае ўладу мітрапаліта Літоўскага Рамана на пяць галіцка-валынскіх біскупстваў. |
| 1358 г. | Вялікага князя Альгерда наведвае чэскае пасольства на чале з архібіскупам Прагі дзеля абмеркавання магчымасці ўвязання каталіцтва ў Літве. |
| 1359 г. | Паход літоўска-ордскага войска на Кракаўскую зямлю. |
| 1360 г. | Выправа мітрапаліта Літоўскага Рамана ў Цвер. |
| ліпень 1361 г. | Канстантынопальскі патрыярх Каліст пацвярджае межы Літоўскае мітраполіі. (**дад. №18**) |
| 1362 г. | Вялікае войска крыжакоў, у складзе якога рыцары і з Англіі, захапляе Коўню. |
| 1363 г. | Папеж Урбан V патрабуе ад польскага караля Казіміра ваяваць “проці літвінаў, татараў і іншых няверных і схізматыкаў”. |
| каля 1364 г. | Віленскі стараста Пётр Гастоўт запрашае ў Вільню 14 манахаў-францысканаў з Мазоўша. |
| 1365 г. | Князь дарагічынскі Бутаўт, сын князя Кейстута, уцякае да крыжакоў у Кёнігсберг і прыймае каталіцтва. |
| 1366 г. | Вялікі князь Альгерд укладае мірную дамову з польскім каралём Казімірам. (**дад. №19**) |
| 1370 г. | 40-тысячнае літоўска-руска-ордскае войска на чале з Альгердам і Кейстутам рушыць на Кёнігсберг. Бітва пад Рудаваю. Забіты 26 рыцараў-братоў Тэўтонскага ордэну. |
| | Вялікі князь Альгерд рушыць у паход на Маскву, прымушаючы маскоўскага князя да замірэння на карысных для Літвы ўмовах. (**дад. №20**) |
| 1371 г. | У пасланні патрыярху Канстантынопальскаму Філафею Альгерд тытулуецца “царом Літвы” (βασιλεα Λητβων). (**дад. №21**) |
| ліпень 1372 г. | Вялікі князь Альгерд, князь Кейстут і смаленскі князь Святаслаў укладаюць мірную дамову з маскоўскім князем. (**дад. №22**) |

| | |
|---|---|
| 1373 г. | У Літву прыбывае баўгарскі манах Кіпрыян, якога вялікі князь Альгерд прапануе паставіць Літоўскім мітрапалітам. |
| 2 снежня 1375 г. | Кіпрыян высвячаны ў Канстантынопалю на мітрапаліта Кіеўскага, Рускага і Літоўскага. |
| 1376 г. | У часе вайны з Польшчаю літоўскія войскі выводзяць з Польшчы 23 тысячы палонных. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Ягайлы (1377–1392 гг.)

| | |
|---|---|
| люты 1378 г. | Мітрапаліт Літоўскі Кіпрыян атрымвае тытул мітрапаліта Літоўскага, Кіеўскага і ўсяе Русі. |
| канец 1379 г. | Князь Скіргайла выпраўляецца ў вандроўку па краёх Сярэдняе Еўропы, каб абмеркаваць узмацненне сувязей Літвы з каталіцкімі краямі. |
| 31 траўня 1380 г. | Князь Ягайла ўкладае Давыдзішкаўскую дамову – сепаратны мір з Тэўтонскім ордэнам. |
| верасень 1380 г. | Кулікоўская бітва: маскоўскія войскі разам з пасілкамі князёў Андрэя і Дзмітрыя Альгердавічаў разбіваюць ордскія войскі Мамая. |
| вясна 1381 г. | Мітрапаліт Кіпрыян пераязджае ў Маскву. |
| кастрычнік 1381 г. | Вялікі князь Ягайла вядзе перамовы з крыжакамі. Князь Кейстут захапляе Ягайлу, але адпускае яго на ўмовах прыязні. (**дад. №24**) |
| лета 1382 г. | Ягайла падманам захапляе Кейстута і Вітаўта. Падасланыя забойцы забіваюць Кейстута ў вязні. Князь Вітаўт уцякае да прускіх крыжакоў. (**дад. №24**) |
| верасень 1383 г. | Паход князя Вітаўта з крыжакамі на Трокі і Вільню. |
| лета 1384 г. | Князь Вітаўт вяртаецца ў Літву, прыймае праваслаўе з імем Аляксандра, упасажвае манастыр Ражства Прачыстае ў Троках. (**дад. №26**) |
| студзень 1385 г. | Літоўскія паслы ў Кракаве абмяркоўваюць умовы магчымае уніі Літвы з Польшчаю. |
| жнівень 1385 г. | У Крэве ўкладзена дамова аб уніі Польшчы і Літвы. |
| 4 сакавіка 1386 г. | Валадыслаў-Ягайла ў Кракаве каранаваны на польскага караля. Ягайла тытулуецца "каралём Польшчы, найвышшым князем Літвы і дзедзічам Русі". |
| 20 лютага 1387 г. | На сойме ў Вільні кароль Валадыслаў-Ягайла выдае прывілей літоўскім баярам, у якім згаданы старажытны літоўскі звычай паспалітага рушэння "пагоня" (pogonia). (**дад. №28**) |
| вясна-лета 1387 г. | Кароль Валадыслаў-Ягайла засноўвае першыя каталіцкія парафіі ў Літве. |
| лета 1387 г. | Мітрапаліт Кіпрыян прывозіць у Літву 15-гадовага маскоўскага княжыча Васіля: адбываюцца заручыны Васіля з княжною Соф'яй, дачкою Вітаўта. |
| сакавік 1388 г. | Створана Віленская архідыяцэзія (найбуйнейшае на той час каталіцкае біскупства ў Еўропе). Віленскае біскупства ачольвае францыскан Андрэй Васіла. |
| пач. 1389 г. | Князь Вітаўт з'язджае ў Прусы да крыжакоў. |
| зіма-вясна 1390 г. | Кароль Ягайла з палякамі захапляе Бярэсце, Камянец і Горадню. |
| верасень 1390 г. | Князь Вітаўт разам з крыжакамі няўдала спрабуе захапіць Вільню. |

| | |
|---|---|
| 9 студзеня 1391 г. | Маскоўскі вялікі князь Васіль Дзмітрыевіч жэніцца з княжною Соф'яй Вітаўтаўнай. |
| 4 жніўня 1392 г. | Паводле Востраўскага пагаднення кароль Валадыслаў-Ягайла прызнае Вітаўта гаспадаром Літвы на ўмовах падпарадкавання Ягайлу. |

## Княжанне вялікага князя літоўскага Аляксандра-Вітаўта (1392–1430 гг.)

| | |
|---|---|
| 1393 г. | Ордскі цар Тактамыш пацвярджае прыязныя зносіны з Літвою і каралём Валадыславам-Ягайлам. (**дад. №34**) |
| каля 1394 г. | У канцылярыі мітрапаліта Кіпрыяна створаны геаграфічны твор "Имена всем градом рускым", у якім пералічаны і літоўскія гарады. (**дад. №36**) |
| 1396 г. | Адбываюцца сустрэчы вялікага князя Вітаўта з каралём Ягайлам, маскоўскім князем Васіліем і мітрапалітам Кіпрыянам, дзе абмяркоўваюць магчымасць складання лігі проці туркаў. |
| 1397 г. | Вялікі князь Вітаўт, падтрымваючы ордскага цара Тактамыша, справуе паход літоўскіх войскаў да Азову і Волгі. |
| 1399 г. | Вялікі князь Вітаўт спрабуе пасадзіць свайго кандыдата Тактамыша на сталец Орды і церпіць буйную паразу ад эміра Эдыгея ў бітве на Ворскле. |
| 18 студзеня 1401 г. | Паводле ўмоў Віленска-Радамскае уніі кароль Валадыслаў-Ягайла прызнае Вітаўта вялікім князем літоўскім, а Вялікае княства Літоўскае – самастойным гаспадарствам у звязе з Польшчаю. |
| 1404 г. | Смаленскае княства ўваходзіць у склад ВКЛ. |
| 23 траўня 1404 г. | Рацёнжская дамова: ВКЛ і Польшча дамаўляюцца аб міру з Тэўтонскім ордэнам. Чарговым разам Ордэну адпісана Жамойць. |
| лета 1404 г. | Жамойты распачынаюць бунт проці крыжакоў. Вялікі князь Вітаўт дасылае маршалку Ордэна літоўскія пасілкі, каб задушыць паўстанне жамойтаў. |
| 1407 г. | Адоеўскае княства ўваходзіць у склад ВКЛ. |
| 1408 г. | Стаянне на Вугры. Літоўскія і маскоўскія войскі сыходзяцца на рацэ Вугры (на мяжы Літвы з Масковіяй між Смаленскам і Калугаю) і амаль паўмесяцы стаяць адно насупраць аднаго. У выніку ўкладзены "вечны мір" (трымаўся да 1492 г.). |
| 1409 г. | Пачынаецца Вялікая вайна Вялікага княства Літоўскага і Польшчы з Тэўтонскім ордэнам. |
| 15 ліпеня 1410 г. | У бітве пад Дуброўным (Грунвальдам) злучаныя войскі Вялікага княства Літоўскага і Рускага, Польшчы, Орды і чэскіх гусітаў дазвання разбіваюць Тэўтонскі ордэн. (**дад. №41**) |
| красавік 1413 г. | Вялікае княства (Полацк, Віцебск, Вільню і Горадню) наведвае паплечнік Яна Гуса – Еранім Празскі. |
| 2 кастр. 1413 г. | Паводле ўмоў Гарадзельскае уніі шэраг літоўскіх баяраў прыймае польскія шляхецкія гербы. |
| лістапад 1415 г. | У Наваградку на Літоўска-Кіеўскага мітрапаліта высвячаны баўгарскі манах Грыгор Цамблак. Устаўлена аўтакефалія Літоўска-Кіеўскае мітраполіі. (**дад. №42**) |
| канец 1415 г. | Вялікі князь Вітаўт дасылае на Канстанцкі збор каталіцкае царквы літоўскую дэлегацыю на чале з мітрапалітам Цамблакам. |
| 1420 г. | Паслы чэскіх гусітаў прапануюць каралю Валадыславу-Ягайлу карону Чэскага каралеўства. |
| 1421 г. | Чэскія гусіты выбіраюць сваім каралём вялікага князя Вітаўта. Вітаўт дасылае ў Чэхію князя Жыгімонта Карыбутавіча з 5-тысячным войскам, якое памагае гусітам змагацца проці крыжацкіх войскаў. |

| | |
|---|---|
| 1422 г. | У наваградскім фарным касцёле кароль Валадыслаў-Ягайла бярэцца слюбам з княжной Соф'яй Гальшанскай. (**дад. №44**) |
| 1423 г. | Кароль Валадыслаў-Ягайла выдае Варцка-Вісліцкі статут – зборнік законаў для Польшчы ў беларускай мове. (**дад. №45**) |
| лета 1426 г. | Паход вялікага князя Вітаўта на Пскоў. |
| лета 1427 г. | Паход вялікага князя Вітаўта да мяжы Маскоўскага княства. Вялікая княгіня маскоўская Соф'я Вітаўтаўна перадае Маскоўскае княства пад апеку Вітаўта. На службу да вялікага князя Вітаўта пераходзяць князі цверскі, разанскі, пронскі. |
| 1428 г. | Вялікі князь Вітаўт чыніць паход на Вялікі Ноўгарад і прымушае горад даголду ў 10.000 чырвоных залатых. |
| студзень 1429 г. | Вялікі князь Вітаўт справуе сойм у Луцку, які наведваюць гаспадары розных еўрапеўскіх гаспадарстваў. |
| каля 1431 г. | Пры вялікакняскім двару створаны панегірычны твор "Похвала о великом князи Витовте", у якім у яркіх барвах выпісана значэнне княжання Вітаўта для Вялікага княства Літоўскага. (**дад. №48**) |

*   *   *